**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# СЭРЦА МАРМУРОВАГА АНЁЛА

**АПОВЕСЦІ**
**РАМАН**

**МІНСК**
**“МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА”**
**2012**

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4БЕИ)-44**
**Р82**

**ISBN 978-985-02-1348-8**

У прозе Людмілы Рублеўскай удала спалучаюцца гістарычны, прыгодніцкі, дэтэктыўны жанры, рамантызм і тонкі гумар. Героям даводзіцца разгадваць таямніцы беларускай гісторыі, рабіць складаны выбар паміж здрадай і подзвігам, самаахвярнасцю і спакойным жыццём, шукаць скарбы, біцца на двубоях і змагаца за сваё каханне. У рамане “Золата забытых магіл” дзеянне адбываецца паралельна ў часы паўстання Кастуся Каліноўскага і ў наш час, лёс філосафа і інсургента Вінцэся Рашчынскага пераплятаецца з лёсам настаўніцы гісторыі адной з сучасных мінскіх гімназій. У аповесці “Сэрца мармуровага анёла” чорная жамчужына каралевы Боны апынаецца ў руках дзівакаватага вартаўніка правінцыйнага музея і сталічнай мастацтвазнаўцы Касі. А гераіня аповесці “Пярсцёнак апошняга імператара” маладая паэтка Магда спазнае трагічную і гераічную гісторыю свайго роду, які выяўляецца каралеўскім.

## СЭРЦА МАРМУРОВАГА АНЁЛА

### 1

Люблю вандраваць.

Часам гэтая схільнасць ублытвае мяне ў авантурныя падзеі, якія не да твару такой самавітай асобе, як я, з навуковай ступенню кніжкамі і працай у сталічным музеі... Ды не, гэта я перабольшваю наконт маёй самавітасці. Па-ранейшаму не паважаю сур'ёзных паседжанняў і павучальных размоў, увогуле цярпець не магу тое, што называецца «ўпарадкаванасцю». Акуратныя стосікі аркушаў і кніг на пісьмовым стале выклікаюць у мяне адно жаданне — зараз жа раскідаць іх. Утульна я адчуваю сябе толькі ў мастакоўскіх майстэрнях — там, дзе састаўленыя ўздоўж сцен кераміка і палотны, дзе на паліцах аскепкі невядомых пасудзін і дзівосныя букеты з сухіх кветак і птушыных пёраў... Дзе можна знайсці зусім нечаканыя прадметы — ад чалавечага чэрапа да ліхтара, з якім у мінулым стагоддзі абходчык чыгункі сустракаў цягнік... Дзе ў паветры, прапахлым алейнымі фарбамі, нібыта празрыстыя мятлушкі, лунаюць душы ненапісаных карцін. У антыкварныя філіжанкі нальецца кава, і пойдзе размова — пра Мастацтва...

Я — з тых, хто **пры** мастацтве... Як я хацела быць **у** ім! Але калі зразумела, што не магу быць сярод лепшых мастакоў, перавялася з мастацкага на мастацтвазнаўчае аддзяленне. Не ведаю, можа, і ўчыніла глупства... Але і на сваёй цяперашняй дзялянцы спрабую нешта зрабіць. «Жанчына з неўладкаваным лёсам» — так, здаецца, гавораць пра такіх, як я? Бліжэйшая сяброўка Нюта сцвярджае, што мой характар і вобраз жыцця проста не выцерпіць ніводзін нармальны мужчына. Цікава, хто, на яе думку, «нармальны мужчына»? Я — не ведаю.

Мае першае і самае моцнае каханне — Альберт Свянткоўскі, мастак. Пазнаёміліся мы з ім на першым курсе. Таленавіты быў вельмі. За талент яму ўсё прабачалі — і пропускі заняткаў, і дробныя хуліганскія ўчынкі кшталту намазанага фосфарам чэрапа ў лабаранцкай. Альберт і сказаў мне наконт маіх перспектыў у мастацтве. Гэта ў яго стылі — гаварыць, што думае, і рабіць, што хоча. Я не была настолькі амбіцыйнай, каб пакрыўдзіцца, тым больш ён зусім не хацеў мяне крыўдзіць. Каханне наша трывала да пятага курса. Да гэтага часу Свянткоўскі паспеў усвядоміць, што я абсалютна непрыдатная для таго, каб грэць яму пантофлі, падаваць каву ў ложак і прабачаць лёгкія флірты дзеля натхнення. Мая «незямная» прыгажосць засталася занатаваная на яго палотнах, а ў мяне застаўся ягоны стары эцюднік, якім я часам карыстаюся. Развіталіся па-сяброўску, ён нават зрэдку тэлефануе мне — па справах, зразумела. Адгадаваў бараду, дабіўся вядомасці, два разы развёўся і тры разы жаніўся... Але Бог з ім, з Альберцікам... Мы былі занадта маладыя, каб грунтоўна псаваць адно аднаму жыццё. А вось наступнае — і апошняе — каханне, Радаслаў Дудкоўскі, ледзь не пахіснуў маё аптымістычнае светаўспрыманне. Пасля таго як Свянткоўскі апошні раз выпіў у маім пакоі філіжанку кавы і дэманстратыўна памыў яе на развітанне — працэдура, якая ніколі дагэтуль не адбывалася без майго напамінку,— я падрыхтавалася да пажыццёвай самоты. Але Радаслаў, Радзік, быў поўнай супрацьлегласцю абцяжаранаму ўласнай геніяльнасцю Альберціку. Ён таксама мастак,

і нават някепскі. У адрозненне ад шматколернага Альбертавага буйства Радзік успрымаў свет ахраматычна. Яго гравюры па-свойму стыльныя — акадэмічна правільныя і ў той жа час з нейкай дзівінкай, няўлоўнай няправільнасцю, ад якой звычайныя відарысы ператвараюцца ў снабачанні. Радзік пераканаўча давёў мне, што я — ідэал жанчыны ўвогуле і ягоны ідэал у прыватнасці. Ён прыходзіў у маю аднапакаёвую «хрушчоўку», якая засталася мне ад бабулі, з букетамі ружаў.Варыў украінскі боршч на пліце, якую я ўключала толькі дзеля таго, каб згатаваць гарбату. Заварваў зёлкі, калі я хварэла... Ну і, зразумела, занатоўваў для вечнасці маё аблічча ў чорна-белым варыянце. Карацей, усе сяброўкі і сваякі адзінадушна вынеслі вердыкт, што дурная буду, калі такога мужыка адпрэчу. З Радзікам мы дайшлі нават да загса... І тут пачалося. Высветлілася, што акрамя гаспадарчых здольнасцей, у майго мужа хапае комплексаў і неўрозаў, і я мушу штодзень падтрымліваць яго ў бязлітаснай і няўдзячнай барацьбе — «Радзік — супраць усяго свету». Таму што навокал усе былі зайздроснікі, паклёпнікі, хітруны, ілгуны, спрытныя бездары і кар’ерысты. Над імі ўзвышаўся, кшталту антычнай статуі Немезіды, бездакорны Радзік. Кожны дзень я мусіла выслухоўваць скаргі і жахлівыя падрабязнасці гэтай барацьбы. Цэлы год я ўспрымала мужа ўсур’ёз, як магла, спачувала, падтрымлівала, падзяляла абурэнне... Пакуль аднойчы не паназірала за ім сярод ягоных калег. Пасля я паспрабавала тлумачыць бескампраміснаму змагару, што спадар Н., магчыма, зусім не хацеў яго пакрыўдзіць, а спадарыня К. не падбіраецца да яго пасады... У такія моманты я з адзінага саюзніка ператваралася ў аднаго з ворагаў. І Радзік бег у сваю майстэрню — яна была якраз непадалёк, зачыняўся там і маляваў. Потым з’яўляўся задаволены, млявы і паблажліва дараваў мне. Відаць, для творчага натхнення яму неабходны быў выплеск адмоўных эмоцый. Колькі я перажыла — усё маё... Ён ваяваў з маім «мастацкім вэрхалам» і ўдзелам у экспедыцыях, напачатку нават штовечар пералічваў грошы ў маім кашальку і высвятляў, куды я столькі патраціла. І гэта можна было б дараваць, але Радзік не хацеў мець дзяцей. Ён лічыў, што свет занадта недасканалы, каб ствараць на пакуты яшчэ адну нявінную істоту. Спатрэбілася два гады, каб я ўсвядоміла, што маю справу з неўротыкам і эгацэнтрыстам, нягледзячы на тое, што ён варыў украінскі боршч і падносіў мне пантофлі.

Радзік павёў сябе высакародна і пакінуў мне прас і радыёпрыёмнік «Гарызонт». Астатнюю бытавую тэхніку і частку мэблі перавёз да маці, якая была на сёмым небе ад таго, што любы сыночак нарэшце пакінуў «гэтую змяю і п’яўку ў адной асобе».

Забылася згадаць, што часам Дудкоўскі забягае да мяне, каб упэўніцца, што без яго я не магу даць рады гаспадарцы і ўвогуле прападаю.

Пачалося ўсе з Альбертавага званка, гадзін у сем раніцы. Ды яшчэ цёмнай зімовай парой, хрышчэнскімі маразамі, калі нават з-пад коўдры не хочацца вылазіць.

— Кася, справа важнецкая! Ну ды прачынайся ж ты хутчэй. Цудко памёр. Які, які... Нічыпар Цудко з Наўя. Учора зямляк паведаміў. Засталіся калекцыі, карціны... Клaндайк для навукоўца!

Я злосна намацала босай нагой пантофлю, якая схавалася пад скрыню з абуткам.

— Спачуваю, вядома, але... Памятаю я твайго Цудко. Думаю, калі ў ягонай калекцыі і было што вартае, даўно забраў якісьці музей. Куды ён толькі не звяртаўся са сваімі шэдэўрамі... Ведаеш, колькі такіх дзядзек з невыноснымі амбіцыямі па нашых вёсках ды мястэчках? Я іх бачыла досыць і без тваёй пратэкцыі...

Я ведала Альбертаву схільнасць да дзівакаватага дзядзечкі-земляка. Па-першае, таму, што зямляк, па-другое, Цудко ледзь не маліўся на знакамітага суродзіча і ладнае месца ў сваім музеі адвёў для матэрыялаў пра Альберта. Да таго ж рэгулярна друкаваў у раённай газеце водгукі на ўсе акалічнасці яго творчага шляху. Што ж, добрае слова і кату прыемна, і Свянткоўскі апекаваўся самадзейным калекцыянерам, які да таго ж,

што самае страшнае, быў і самадзейным мастаком. Запрашаў на выставы ў сталіцу, прыводзіў на кансультацыю да мастацтвазнаўцаў — гэта значыць, і да мяне. На жаль, «адкрыцці» правінцыйнага энтузіяста не вытрым-лівалі прафесійнай праверкі, а яго ўласны жывапіс увогуле псаваў рэпутацыю. Таму я хаця і разумела Альберцікаў клопат пра спачылага, але не збіралася падзяляць яго.

— Старая, ты не ўяўляеш сабе, ад чаго адмаўляешся! Ды я сам бы паехаў, але сёння вечарам адлятаю ў Швейцарыю. Згодзен з табой, дзед быў страшэнным дылетантам, надаваў значэнне многім не вартым таго рэчам. Але, з другога боку, таму сапраўды унікальныя творы ён мог не ацаніць. Ты ж не была ў ягоным музеі, а я быў. Гэта такія сутарэнні, такія завалы матэрыялу... Зараз усё парасцягваюць, круцяцца там розныя падазроныя асобы, а шкада. З’ездзі хоць на пару дзён, зірні прафесійным вокам, можа, нешта адбярэш для свайго музея.

— Ды пры чым тут я? Няхай Цудкоўскімі скарбамі раённы музей займецца, як і належыць.

— Разумееш, дзед марыў, каб ягоныя экспанаты трапілі ў сталічны музей. А з раённым меў адносіны, мякка сказаць, складаныя. І ён сто разоў мяне прасіў — калі што, каб я сам паклапаціўся пра ягоныя зборы.

— Па-першае, зіма, а зімой па правінцыі ездзіць задавальнення мала. Па-другое, у мяне толькі пачаўся адпачынак. І я ведаю, як правяду яго. У цяпле на ўласнай канапе.

— Ну паслухай... Мы табе ўсё кампенсуем. Зайдзі ў Міністэрства культуры. Табе камандзіроўку афармяць аж на два тыдні! Рэкамендацыі да мясцовага начальства дадуць. Ну прашу цябе! Калі ты пашкадуеш, што з’ездзіла, я гатовы перапісаць сваю «Князёўну» ў зялёных танах.

Гэта было значнае абяцанне. Партрэт «Князёўны» — наш з Альберцікам яблык разладу. Відаць, да просьбы земляка Альберт ставіўся сур’ёзна.

— Не магу нічога сказаць пэўна. У мяне зусім іншыя планы.

Вядома, я паехала ў забытае Богам Наўе, загубленае сярод лясоў і балот Заходняй Беларусі, страшэнна незадаволеная сабой і светам. Паехала, прыхапіўшы Альбертаў эцюднік (а раптам натхненне сыдзе?), не ведаючы, у якую гісторыю патраплю.

## 2

Наўе нічым не адрозніваецца ад мноства такіх жа маленькіх мястэчак Заходняй Беларусі. На цэнтральным пляцы па-ранейшаму па нядзелях і святах збіраецца кірмаш, вядома, не такі багаты, як некалі. Прадаецца цудоўная мясцовая кераміка, хаця сёння гэты промысел, якому не адна сотня гадоў, амаль знік. На керамічнай фабрыцы адключылі электрычнасць за даўгі, і рэшта майстроў абпальвае свае збаны і місы ў дзедаўскіх печках. Не шныраюць між кірмашнымі радамі шкаляры з мясцовай семінарыі, згаладалыя і гарэзныя... Даўно няма ні тае семінарыі, ні касцёла — толькі рэшткі сцен засталіся... Няма і царквы, што, як і належала, стаяла па другі бок пляца ад касцёла і гэтак сама была панішчаная на пачатку шасцідзесятых. На ўскраіне дзейнічае маленькая драўляная цэркаўка Святой Параскевы, а на другой ускраіне вернікі аднавілі касцёл Святога Станіслава. Затое цэнтр, вызвалены ад культавых будынкаў, прыўкрашае двухпавярховае збудаванне мясцовай адміністрацыі — прыемны афіцыйнаму воку прастакутнік з шэрай цэглы, са сцягам на даху і надпісам: «Слава трудовому народу» на фаса-дзе. Цікава, чым палічылі б гэты будынак былыя ўладары мястэчка, князі Палецкія? Стайняй? Памяшканнем для пры-слугі?

Але мой шлях быў менавіта ў гэты будынак, да цяперашніх уладароў Наўя. Старшыня сельсавета, мажны мужчына, падобны да Фальстафа, ацэньваючы агледзеў

маю постаць, захутаную па самы нос у футра. Да таго ж я абвязалася пуховай хусткай, а паўзверх нацягнула скураны капялюш з шырокімі брыламі... Плюс эцюднік ды сумка з выявамі пірамід і Неферціці, некалі прывезеная Радзікам з Егіпта. «Фальстаф» яшчэ раз зірнуў у мае паперы і, відаць, вызначыў мой ранг як досыць высокі для мясцовага маштаба — замітусіўся, запрапанаваў крэсла і гарбату і пачаў кудысьціназвоньваць, каб падрыхтаваліся да прыёму важнай госці.

Наўеўскі краязнаўчы музей, куды мяне адвезлі на старшынёвай белай «Волзе», месціўся ў былым панскім доме, сярод заснежанага поля наводшыбе ад Наўя. Бліжэйшы да яго будынак — царква Святой Параскевы. У Наўі ніколі не было ні палаца, ні замка, адзін гэты княжацкі паляўнічы домік, альбо летняя рэзідэнцыя,— не ведаю, як правільна называць. Лясы навокал багатыя, а трыста гадоў таму, мусіць, зубры ды сарны проста пад вокны падыходзілі. Наколькі я памятала па малюнку ў энцыклапедыі, дом невялікі, двухпавярховы, але жывапісны — мініяцюрная крэпасць са стылізаванымі абарончымі вежамі па кутах і вострым чарапічным дахам. Рэальнасць, вядома ж, аказалася куды больш сумнай. Княскі дом нагадваў арыстакрата, перавыхаванага рэвалюцыйным народам. Урачысты ганак з калонамі знік. Замест дахоўкі — звычайная бляха. Плінфа, з якой былі выкладзеныя сцены, хавалася пад слоем шэрай тынкоўкі. Вокны другога паверха забітыя дошкамі. Але была ў гэтым скалечаным доме і сумная ўрачыстасць даўніны, якую нельга знішчыць, як нельга высветліць да першапачатковай выразнасці фарбы на старой карціне.

Мы зайшлі ў будынак. Драўляная, даўно не фарбаваная падлога, зялёныя сцены ў цёмных рагах, лесвічны праём насупраць увахода таксама забіты дошкамі... Нядаўна тут была школка, дырэктарам якой і працаваў памерлы Нічыпар Цудко,— на дзвярах яшчэ захаваліся цьмяныя шыльдачкі: «4 клас», «Настаўніцкая»... Цяпер, як патлумачылі мае праважатыя, старшыня ды нейкая цётка, здаецца, культарганізатар местачковага маштабу, школу перавялі ў новы будынак, а гэты чакае рамонту — дах праваліўся.

Альберцік дарэмна турбаваўся — наплыву жадаючых прыўлашчыць прыхаваныя ў музеі багацці не назіралася. На дзвярах наўеўскай скарбніцы вісеў новенькі замок, ключа ад якога ні ў старшыні, ні ў цётачкі не аказалася.

— Зараз Вінцука знойдзем, вартаўніка, ён нам адчыніць... Вінцук, Вінцук!

Голас старшыні чамусьці гучаў няўпэўнена, а цётачка незадаволена зморшчылася. Каго можна клікаць у гэтым пустым, як разбіты збан, памяшканні? Успомніліся гісторыі наконт прывідаў у закінутых дамах... У паўцемры калідора нешта зашаргатала, дзверы з надпісам «Кабінет хіміі і біялогіі»раптоўна расчыніліся, і ў светлым праёме вымалявалася дзіўная постаць у ватніку і галёшах на вяровачках. Высокі нязграбны чалавек — ці прывід? — меў гадоў пад сорак. У цёмных доўгіх валасах і барадзе не заўважалася сівізны. Твар худы, а вочы ненатуральна светлыя і глядзяць спадылба, праз нерасчэсаныя пасмы... Проста ваўкалак нейкі, пярэварацень. Чалавек моўчкі, не павітаўшыся, глядзеў на нас.

Старшыня надаў голасу важнасці:

— Ну, Вінцук, адчыняй нам музей. Прадстаўнік з Міністэрства культуры прыехаў.

Барадаты Вінцук не выявіў энтузіязму.

Ён перавёў позірк на маю асобу, затрымаў яго на капелюшы і, гледзячы паўзверх маёй галавы, прагаварыў:

— Дазвол павінен быць... Спецыяльныя паперы. Без дакументаў не адчыню.

Цікава, які дазвол ён мае на ўвазе, санкцыю пракурора, ці што? Старшынёў твар пачаў налівацца чырванню, але я не стала спрачацца і працягнула пільнаму Вінцуку пасведчанне з працы і паперчыну з міністэрства. Вінцук вывучаў іх куды даўжэй, чым старшыня. Я толькі дзівілася, чаму начальства цярпіць выбрыкі гэтага тыпа.

Цётачка нахілілася да мяне і амаль нячутна прашаптала:

— Не звяртайце ўвагі... Ён — таго... Ненармальны. Сваяк былога дырэктара школы.

Вось яно што... Сапраўды, лепш не сварыцца. Тым больш Вінцук, хоць і неахвотна, дастаў ключ, які захоўваў не ў кішэні, а на шыі — разам з яшчэ некалькімі ключамі, і дзверы скарбніцы адчыніліся. Не тое каб я была расчараваная... Проста такіх мясцовых музеяў я бачыла мноства. Рушнікі і стэнды са здымкамі герояў Вялікай Айчыннай вайны, драўляныя ступы ды іншыя гаспадарчыя прылады і абавязкова ў куце падвешаная калыска. Дапаўнялі інтэр’ер шматлікія пейзажы самога Цудко — зялёная траўка, сіняе неба, белыя аблокі, партрэты ўдарнікаў працы, ветэраны ў атачэнні піянераў... Адметнасцю былі хіба дзве карціны Альберціка, падараваныя землякам,— зразумела, не лепшыя ягоныя карціны, але талент не можа стварыць зусім банальную рэч. На адной з карцін я нават пазнала ўласныя рысы. Праўда, пазнаць было цяжка,— Альберцік маляваў персаніфікаваную зімовую ноч. Таму я здзівілася, калі Вінцук, які стаяў убаку і змрочнаназіраў за нашымі перасоўваннямі па музеі, раптам хутка глянуў на Альберцікаву карціну, пасля — мне ў твар. І зноў утаропіўся ў прастору.

— Баюся, тут для мяне мала цікавага.

— Ды вы ў другую залу прайдзіце,— засяшалася цётачка, а «Фальстаф» прагуў:

— Вінцук, адчыні...

На гэты раз вартаўнік не стаў спрачацца і марудзіць. Маленькія дзверы, якія я адразу не заўважыла, расчыніліся, і я зразумела, што знаходжуся ў свяцілішчы Наўеўскага краязнаўства — сярод экспанатаў цудкоўскай калекцыі. Сапраўдны правінцыйны свецкі салон дзевятнаццатага стагоддзя! У цэнтры — ломберны столік з інкрустацыяй і два прысадзістыя крэслы. Камоду з ручкамі ў выглядзе грыфонаў упрыгожвалі дзве фарфоравыя вазы, нібыта кітайскія, але хутчэй за ўсё падробка. Над імі несамавітым госцем у панскім доме стракацеў распісны дыван з лебедзямі і несуцешнай прыгажуняй у высокім каптуры... На сценах віселі карціны. Некаторыя я пазнала — Цудко прывозіў іх у сталіцу з надзеяй уразіць экспертаў. З партрэтаў у абдзёртых пазалочаных рамках на мяне, бязродную чужаніцу, узіраліся наўеўскія шляхціцы і іх жонкі.

Вар’ят між тым прынёс цэлае бярэмя папер — рээстр экспанатаў музея з падрабязнымі каментарамі Нічыпара Цудко, і паклаў на ломберны столік. Да гэтага дадаліся яшчэ нейкія папкі з малюнкамі, гравюрамі, плакатамі. Нічога, да вечара ўпраўлюся. Я рашуча пачала расшпільваць футра. Здаецца, цёпла, вунь і грубка ў куце. Маленькія жалезныя дзверцы ўнізе зачыненыя няшчыльна, і відаць жывая палоска агню.

— Да бліжэйшай станцыі падкінеце? — запытала я на развітанне ў старшыні.

Аўтобус у гэтае блаславёнае мястэчка прыходзіў раз на дзень, і мне не хацелася сядзець тут да раніцы. «Фальстаф» запэўніў, што ён і ягоны самаход да маіх паслугаў, і засяшаўся па сваіх справах. Зазбіралася і кабета.

— Праз пару гадзінак зойдземся да вас, добра? А пакуль, калі што, Вінцук вам дапаможа. Чуеш, Вінцук?

«Ваўкалак» павольна хітнуў галавою і падыбаў з музея. Сапраўды, экземпляр... Ніколі не даводзілася заставацца сам-насам з вар’ятам.

— Ды вы не бойцеся, ён ціхі... Ніколі нікога не крыўдзіць. Жыве тут. Клічце яго смела, калі што спатрэбіцца.

Я засталася адна сярод старой мэблі і цёмных карцін. Было зусім ціха — аж у вушах звінела ад цішы. Мне нават прыйшло ў галаву, што Ваўкалак, як толькі выйшаў за дзверы, растварыўся ў паветры.

Я ўважліва перагледзела ўсё ў зале. Вядома, для раённага краязнаўчага музея многае было б каштоўным. Асабліва зацікавілі мяне дзве карціны, — абедзве я датавала

канцом дзевятнаццатага стагоддзя. На адной — жанравая сцэнка з жыцця засцянковай шляхты пад назвай «Вяселле пад прымусам». Нявеста тэатральным жэстам захінала твар, у той час як бацькі гэткімі ж тэатральнымі жэстамі паказвалі ёй на адчыненыя дзверы, за якімі віднелася ганарыстая постаць жаніха ў сурдуце і капелюшы. Другая карціна, «Партрэт студэнта», падалася мне адразу больш старой. Яе паверхня была спрэс у павуцінні дробных трэшчынак, наўскос праз усё палатно бачыўся след ад драпіны. Але карціны маляваў адзін аўтар, які начытаўся гатычных раманаў і перанёс іх атрыбутыку ў свае творы. Студэнт на партрэце завёў вочы пад аблокі і абапіраўся адной рукой на чэрап, а ў другой трымаў сведчанне свайго студэнцкага становішча — падручнік па латыні. Драпіна перакрэслівала яго разумны, трохі нервовы твар, як сапраўдны шнар. Не, наш музей гэта таксама не возьме. Хаця... нешта ў гэтых палотнах ёсць. Нездарма ж яны прывабілі маю ўвагу. Аўтар быў таленавіты, але яму не хапала элементарнай «школы». Яшчэ адзін правінцыйны непрызнаны геній. Шкада, вельмі шкада... Некалі гэтак жа, можа, будуць гаварыць пра мае карціны, калі яны ацалеюць, і гэтак жа спачувальна адстаўляць іх убок.

Мае думкі перарваў раўнадушны голас:

— Не хочаце паглядзець запасныя фонды?

Я ажно падскочыла. Гэты Вінцук — сапраўды прывід. Як ён мог падысці так бязгучна? Але, значыць, убачанае мною ў музеі — не ўсё? Падобна на кітайскі куфэрак, адчыніш шуфлядку — за ёй хаваецца наступная. Ну так, Альберт нешта казаў пра «завалы матэрыялу»...

— А куды ісці?

— У гэтым жа будынку, у сутарэнні.

Цяпер вар'ят павядзе мяне ў сутарэнні... Можа, пачакаць мясцовае начальства?

Вінцук глядзеў паўзверх маёй галавы светлымі вачыма. Я ўсвядоміла, што не чую паху перагару — самага роднага, звыклага паху вясковых вартаўнікоў. І адзежа акуратная, хоць і дзіўная, усе гузікі на месцы. Валасы доўгія, зблытаныя, але чыстыя. І рукі чыстыя, белыя, з доўгімі пальцамі, неяк ненармальна яны выглядалі на фоне старой ватоўкі... Ды ён ненашмат старэйшы за мяне. Яму ад сілы гадоў трыццаць пяць.

— Я туды, у скляпенні, звычайна не пускаю нікога. Нічыпар Хведаравіч усё, што лічыў вартым, вынес сюды, у гэтую залу. Але вы можаце паглядзець. Не бойцеся, я ўзімку неагрэсіўны.

Трэба было чуць, як ён вымавіў апошнюю фразу, з якім тонкім сарказмам. Зусім не просты гэты Вінцук...

— Ну, наважвайцеся,— і ўсміхнуўся — так адкрыта і шчыра, што падалося: з-за ваўкалацкага аблічча вызірнуў зусім іншы чалавек.

І я рашуча паднялася.

Уваход у сутарэнні пачынаўся пад лесвіцай, што вяла на другі паверх. Насуперак маім чаканням, за абабітымі бляхай дзвярыма не аказалася паўцёмнага вэрхалу з плесняй і мышыным віскам. За першымі дзвярыма хаваліся другія — жалезныя, з засаўкай і двума замкамі. Як у сейфе. Электрычная лямпачка асвятліла вялікае памяшканне, застаўленае і заваленае прадметамі мастацтва (ці якія на погляд збіральніка мелі дачыненне да мастацтва). Але ў гэтым завале быў парадак. Уздоўж сцен, на стэлажах — папкі, скульптуры, укручаныя ў мешкавіну. Першае, што прыцягнула маю ўвагу,— мармуровы анёл, з непрапарцыянальна вялікімі, складзенымі на сэрцы далонямі, крыламі, падобнымі на змятую прасціну, і мужыцкім спакутаваным тварам. Ён стаяў на каленях, нахіліўшыся над неіснуючай труною, і безнадзейна смуткаваў.

— Са зруйнаванага касцёла. Частка надмагілля,— патлумачыў Вінцук і пачаў здымаць грубую тканіну са шматлікіх бясформенных фігур...

І ў мяне перахапіла дыханне. Гэта была драўляная скульптура — менавіта наша, беларуская, непаўторная. Не пазней семнаццатага стагоддзя. Раскрыжаваныя Хрысты, каструбаватыя, нязграбныя. Святыя Дзевы са складзенымі на грудзях рукамі. Майсей з вялізнымі рагамі-прамянямі на галаве... Кожная з такіх скульптур была больш вартасная за ўвесь кіч, сабраны ў залах наверсе. «Вядома, нічога дзіўнага,— з горыччу думала я,— што «вялікі знаўца» Нічыпар Цудко не палічыў патрэбным выстаўляць такое «ламачча» наверх». Вырабы мясцовых геніяў былі непараўнальна далёкія ад вытанчаных статуэтак а-ля антычнасць. Шэрае дрэва, паедзенае шашалем, пашкоджанні, часам значныя, надавалі скульптурам зусім нехлямяжы выгляд. Колькі падобных шэдэўраў загінула ў калгасных грубках — страшна ўявіць. Я наблізілася і са здзіўленнем заўважыла, што не так даўно дрэва апрацоўвалі нейкім кансервантам. Можа, Альберцік паклапаціўся? А Вінцук працягваў адкрываць багацці скляпення. Многае, што захоўвалася тут, было, відаць, вынесена з тых жа касцёла ды царквы. Перада мной, як у сне, узнікалі надмагільныя барэльефы, драўляная разьба частак алтара з ранамі ад барбарскай сякеры, фрагменты каваных агароджаў, кераміка — не такая, як наверсе, а вялізарныя гаршкі, дымленыя збаны з паадбіванымі горламі... Скрыня, напоўненая чарапкамі са слядамі ручнога роспісу, кавалкамі кафлі... Якое багацце! Я схапіла са стэлажа папку. Стос жоўтых, махрыстых па краях лістоў... Ды гэта ж «Рэвізская сказка» за 1802 год Наўеўскага павета! А побач стаяла чарка, непрыгожая, зялёная чарка — менавіта такія рабілі на гуце ў суседнім павеце чатыры стагоддзі таму... Падобныя ёсць не ў кожным музеі!

І гэты, з дазволу вашага, калекцыянер выставіў наверх, як найвялікшую каштоўнасць, штампаваную парцэлянавую пастушку, якой прыкрашала свой камод якая-небудзь нэпманша!

Ад абурэння я пачала разважаць услых, і вартаўнік сярдзіта азваўся:

— Наракаеце на дурнога дылетанта — не ўмеў ацаніць багацці, якімі валодаў, і шанаваў кіч? А вы ведаеце, што толькі дзякуючы такім «дылетантам», як Цудко, і захоўваецца большасць скарбаў нашай культуры? Не вы ж, прафесіяналы-тэарэтыкі, выкопваеце з кучы друзу чарапкі, не вы з-пад каўша экскаватара выносіце кавалкі старажытнай скульптуры... Урэшце, усе гэтыя рэчы стаяць тут, яны не выкінутыя на сметніцу, дачакаліся вас, каб вы пра свае «адкрыцці» у дысертацыі напісалі. І ўсё — дзякуючы вясковаму дылетанту.

Мой апанент распрастаў спіну, вочы яго свяціліся непадробным інтэлектам...

— Хто вы такі? — вырвалася ў мяне.

Вінцук адразу змяніўся, нібыта надзеў выпадкова згубленую маску.

— Вартаўнік я.

І адвярнуўся, пачаў старанна ўхутваць скульптуры радном. Але позна — цяпер я была ўпэўненая, што парадак у гэтым скляпенні быў невыпадковы і дрэва было адрэстаўрыраванае менавіта ім. Але паколькі ён не жадаў заводзіць са мной размовы на гэтую тэму, я мудра замаўчала і ўзяла са стэлажоў яшчэ некалькі папак. Вінцук адышоўся ў цемру далёкага кута, паваждаўся там і прынёс мне яшчэ нейкія паперы.

— І гэта пачытайце, вам цікава будзе.

Я выйшла за Вінцуком наверх, яшчэ раз падзівіўшыся фундаментальным дзвярам і адмысловаму набору замкоў.

А наверсе нас ужо чакалі. Фальстафаўская фізіяномія старшыні яшчэ больш ільснілася і расплывалася ва ўсмешцы. Мусіць, таму, што на гэты раз усміхаўся не толькі мне, але і іншым важным гасцям — найперш прыгожай жанчыне ў пясцовым футры. Калі я была ў вёсцы экзотыкай, дык гэтая кабета мусіла здавацца прыхаднем з іншага свету — не таго, адкуль прывіды, а таго, дзе ездзяць у студзені загараць на Гаваі, а ў ліпені адпачываюць на горналыжных швейцарскіх курортах... Жанчына

нецярпліва пастуквала аб драўляную абдрапаную падлогу дасканалым боцікам з казачнай срэбнай скуры на высокім абцасе. Светлыя валасы гэтак жа дасканала закручваліся ў локаны, вялізныя шэрыя вочы раўнадушна-ўпэўнена пазіралі на свет. Твар з вытанчанымі рысамі здаваўся лялечным. Аднак угадвалася за гэтай лялечнай красою ўнутраная сіла, ці, хутчэй, уладарнасць. Таму я не адразу разгледзела двух спадарожнікаў прыгажуні, хаця яны таксама заслугоўвалі ўвагі,— бамбіза ў кажуху, не раўнуючы целаахоўнік, і дзядзечка ў доўгім чорным паліто з каракулевым каўняром і ў каракулевай шапцы. «Прынцэса» і яе світа...

Старшыня мітусіўся:

— Вінцук, Вінцук, адчыняй хутчэй скляпенне! Вера Сцяпанаўна жадае паглядзець. Ну, хутчэй жа! Давай ключ, я сам адчыню, а то цябе не дачакаешся.

Я паглядзела на свайго нядаўняга экскурсавода і здзівілася. Ён стаяў ля сценкі, засунуўшы рукі ў кішэні ватоўкі, і такі каменны зрабіўся ягоны твар, нібыта ён сам быў часткай нейкага надмагільнага барэльефа.

— Не адчыню.

Мне падалося, што «Фальстаф» зараз лопне ад гневу.

— Ды ты ведаеш, каму адмаўляеш?

— У тым і справа, што ведаю.

«Прынцэса» толькі холадна ўсміхнулася. Бамбіза, відаць, сапраўды целаахоўнік, няспешна падышоў да вартаўніка і працягнуў далонь.

— Давай ключы. Сам дай, а то...

Старшыня аж клекатаў:

— Цудко, няхай зямля яму пухам, нікога не пускаў... Цяпер гэты... Там жа адно ламачча, нікому не патрэбнае!

— Гэта не вам меркаваць.

Вінцук стаяў, як каменны рыцар. Бамбіза ўзяўся за яго ватоўку.

Не першы раз даводзілася назіраць такія сцэны... Праўда, звычайна «новыя беларусы» не сустракаюць супраціву — дый тут з боку мясцовых улад, відаць, не сустракаюць. Сунуць сто баксаў — і забіраюць бясцэнныя рэчы. А мы пасля разглядаем фотаздымкі ў каталогах замежных аўкцыёнаў, каб дапоўніць чарговы раздзел айчыннай гісторыі мастацтва. Ці яшчэ горш — забяруць старажытную скульптуру дзеля прыкрасы лецішча, скалечаць па сваім гусце, расфарбуюць, пагаблююць, не спадабаецца — знішчаць. У паціры, у якім прычасце выносілі, кактэйлі змешваюць. Спыніць іх не ў маёй уладзе, але на адкрыты скандал яны не пойдуць, дакладна. Я прадставілася, пералічыла ўсе свае рэгаліі і высокіх асоб, што мяне сюды накіравалі, і запэўніла, што пакуль не зраблю вопіс экспанатаў, якія ўяўляюць цікавасць для майго музея, пакуль не будзе складзены адпаведны акт аб перадачы азначаных рэчаў, ніякіх экскурсій не можа быць. Яшчэ што знікне, а мне пасля адказвай перад гісторыяй.

— Гісторыя перажыве,— прыгажуня працэджвала словы скрозь зубы. — Гісторыя не тое пераажывала.

— Вельмі рады пазнаёміцца з вамі, калега, — гэта вылез наперад дзядзечка ў паліто. — Я таксама мастацтвазнаўца, эксперт сталічнага антыкварнага салона. Так што, думаю, мне...

— Абяцаю, калі адбудзецца інвентарызацыя, запрашу вас на агледзіны. А пакуль, выбачайце, я прадстаўляю інтарэсы дзяржавы.

Бамбіза рваўся ў бойку, але «прынцэса», відаць, перадумала, павярнулася на сваіх высокіх абцасіках і пайшла. На развітанне яна кінула доўгі позірк на Вінцука, які, аднак, аніяк не адрэагаваў.

«Фальстаф» пабег услед за гасцямі, пасля вярнуўся. Паколькі з двух аўтарытэтаў засталася толькі я, усё жаданне дагадзіць было скіравана ў адзін бок.

— Выбачайце, Кацярына Аляксееўна, за інцыдэнт. Проста людзі вельмі цікавяцца мастацтвам. А гэты... аблом... не пускае. Ну што здарылася б дрэннага, калі б людзі паглядзелі?

— А хто гэтая аматарка мастацтва?

Старшыня трохі замяўся:

— Жонка Вячаслава Бутава.

— Знаёмае прозвішча, па тэлебачанні часам рэкламны ролік круцяць. Страхавая кампанія ў яго, ці што?

— Так. Але, ведаеце, такія цудоўныя яны людзі, ну такія чулыя... Два гады таму зусім нечакана іх фірма дала нашаму пасёлку грошы на новую школу. Пяць гадоў адзін падмурак стаяў... А цяпер за год выштукавалі — не горш чым у горадзе школка!

Вінцук пачаў мыць уквэцаную нагамі сённяшніх наведнікаў падлогу, няспешна шоргаючы шэрай мокрай анучай. Чамусьці ягоныя мерныя рухі нагадалі мне Харона ў чоўне мерцвякоў.

## 3

Я ішла за старшынёй па рыпучым снезе — бялюткім, якога ў горадзе не бывае — і гадала, чым выклікаены інтарэс жонкі айчыннага фінансавага бонзы да сціплага местачковага музея. Тым больш да сховішча, у якім не было нічога, што магло б зацікавіць «новых беларусаў». Хутчэй яны маглі б пакваліцца на паліраваны сакрэтнік ці фальшывую кітайскую вазу. Нашто ім пашчапаная драўляная скульптура, чарапкі, надмагільныя камяні ці ржавыя краты, а тым больш мясцовыя архівы векавой даўнасці? Гэта ўсё сапраўды цікава, але толькі для спецыялістаў. Можа быць, варта было б сапраўды пусціць гэтую кампанію ў скляпенне, няхай паглядзяць і супакояцца. Надта ўжо мне не спадабаўся «прынцэсін» бамбіза.

Але я чамусьці ўстрымалася ад таго, каб выказаць слушную прапанову старшыні. З сельсавета патэлефанавала ў Мінск, дамовілася, што заўтра да мяне ў дапамогу прышлюць кагосьці з музея. Паабяцалі нават выслаць «рафік»па экспанаты, якія «мая мастацтвазнаўчая вялікасць» палічыць вартымі для перавозу ў музей сталіцы. (Мармуровага анёла і некалькі драўляных скульптур дакладна трэба будзе забіраць.) Гэта была вялікая перамога, відаць, падрыхтаваная Альбертавымі намаганнямі. Часам я нават шкадую, што вырасла ў Мінску. Прынамсі, ёсць амаль стопрацэнтная верагоднасць, што калі ты нарадзіўся ў вёсцы ці мястэчку і дасягнуў хоць невялікіх, але поспехаў у навуцы, мастацтве ці літаратуры, тваё імя будзе шанавацца на «малой радзіме», згадвацца ў рознага кшталту краязнаўчых выданнях як гонар раёна, а твой фотаздымак упрыгожыць стэнд школьнага музея. А ў нашым доме жывуць два кандыдаты навук, не лічачы мяне, доктар эканомікі, былая балерына, нават стары паэт-песеннік. І суседзі звяртаюць на нас увагі куды менш, чым на ўладальніка «форда» з другога паверха, які завёў серабрыстага колі і зрабіў у кватэры еўрарамонт. Так што пра ягоную круглую ванну з падводным масажам ведаюць усе чатыры пад’езды, а маю кнігу пра магістральныя міфалагічныя матывы ў беларускім мастацтве ХУІ стагоддзя не ведае ў доме ніхто.

Прыступы маніі вялікасці мне хаця і ўласцівыя, як і пераважнай большасці маіх калег, але звычайна не зацягваюцца. Я пачала знаёміцца са змесцівам вынесеных са скляпення папак. У адной былі стосы нудных справаздач — і тады існавала бюракратыя! Колькасць пудоў збожжа і коп сена, сабраных па губерні. Судовыя паперы, падабраныя зусім выпадкова, ніякай храналогіі ці сэнсавай сувязі, нібыта іх выцягнулі навобмацак са смеццевай кучы, хаця, хутчэй за ўсё, так і было. Некалькі

«свецкіх альбомаў» павятовых паненак з бясконцымі ўклеенымі «голэмбямі,» анёлкамі і віньеткамі: «Анэля, мілая Анэля, цвіці, як ружа ў майскі дзень». На жаль, у кола знаёмстваў гэтых паненак відавочна не ўваходзілі ні паэты, ні мастакі нават сярэдняга ўзроўню. Нарэшце я ўзяла ў рукі невялікі стос жоўтых папер, перацягнуты выцвілай стужкай, які даў мне Вінцук. Калі на гэтых лістах замільгала прозвішча князёў Палецкіх, я зразумела, што натрапіла на цікавае. Гэта былі копіі афіцыйных папер і два асабістыя лісты, што тычыліся працэдуры разводу княгіні Палецкай, да шлюбу — Даратэі Вяржбіцкай, шляхцянкі, з князем Адольфам Палецкім. З запісу судовага паседжання, якое адбылося ў студзені 1910 года, вынікала, што княгіня Палецкая сама пачала справу аб разводзе. Муж здраджваў ёй з нейкай дзявіцай Ваўчок, зацята гуляў у карты, прамантэчыў усе сямейныя грошы. Так што і ў княгіні, і яе адзінаццацігадовага сына жыццё было не мёд. Да таго ж князь Палецкі ўладкаваў хлопчыка ў нейкую дабрачынную гімназію ў Вільні, і княгіня, у супярэчнасць мужу, лічыла, што дзіцяці там кепска і яго трэба неадкладна адтуль забіраць. Ну і яшчэ адзін довад — шлюб паненкі Вяржбіцкай і князя Палецкага адбыўся без згоды нявесты, але «пад нялітасцівым прымусам шляхціца Вяржбіцкага», бацькі нявесты, і самога жаніха. Паколькі няверны муж папракаў жонку-бунтаўшчыцу тым, што ўзяў яе за сябе «голую і босую», што азначала — без багатага пасагу, княгіня мусіла быць незвычайна прывабнай — інакш чаго б такі лавелас яе дамагаўся? Праўда, князь і сам даўно не меў таго багацця, якім валодаў некалі род Палецкіх,— мусіў жыць у Наўі, куды ранейшыя Палецкія выязджалі толькі на паляванне. Чым далей я чытала паперы, тым менш сімпатыі выклікаў у мяне князь Адольф. Ён паліваў жонку брудам. І кахалася яна да вяселля з мясцовым доктарам, чалавекам «нядобранадзейным», і кепска выхоўвала сына, і не дбала аб гаспадарцы, і чытала не тыя кніжкі, і ездзіла без дазволу мужа ў вандроўкі... Чым скончылася судовая справа, з папер я не даведалася. Быў яшчэ ліст пана Вяржбіцкага, бацькі княгіні Палецкай, з папрокамі на адрас няўдзячнай дачкі, перасыпаны памылкамі і выразамі «клянуся крыжом твайго дзеда», «хай цябе ратуе ад граху крыж твайго дзеда». На канверце значыўся адрас наўеўскай паненкі Анэлі Дубоўскай з пазнакай: — «для перадачы Даратэі Палецкай». Гэта было ўсё, калі не лічыць паловы аркуша, выдранага з нейкага прыватнага ліста. Магчыма, ліста княгіні Палецкай да сяброўкі, таму што там згадваўся «бессардэчны чалавек, які не дае разводу толькі з-за жадання памучыць», а таксама «бедны хлопчык», якога маці не можа забраць дадому без згоды бацькі. Аркуш абрываўся на загадкавай фразе: «Талісман, што прыносіць нашаму роду адны няшчасці, хаця ты і раіла мне яго прадаць і скарыстаць грошы для паляпшэння майго бядотнага становішча, я нарэшце наважылася аддаць спачылым. Ім ён не прынясе таго зла, якое прыносіў нам».

Бедная княгіня... Мусіць, у яе сапраўды быў раман з мясцовым «нядобранадзейным» доктарам. Уяўленне паслужліва намалявала сцэну таемнага спаткання пад старым дубам, няўдалае выкраданне нявесты, дуэльныя пісталеты ды іншае сентыментальна-рамантычнае шалупінне. Тут жа па асацыяцыі я ўспомніла карціну, якую бачыла ў цудкоўскім музеі , «Шлюб пад прымусам». Цікава, магчыма, гэтая карціна мела рэальны прататып?

Пра ўсё гэта я думала ўвечары на мансардзе драўлянага дома, які належаў новаму дырэктару Наўеўскай школы Анатолю Андрэевічу. Менавіта тут мяне пасяліла начальства. Вядома, «умовы» знаходзіліся на двары, унізе шумна гулялі дырэктаравы дзеткі, ва унісон гулі тэлевізар і радыё... А гаспадыня з чыста беларускай гасціннасцю кожныя пятнаццаць хвілін «забягалася», каб удакладніць, ці не трэба мне чаго, ці буду я есці яешню са шкваркамі, ці лепш дастаць для мяне з каморы алею. За бяскрыўднымі гаспадарчымі пытаннямі праглядалася цалкам зразумелае жаданне бліжэйшага знаёмства. Але гэта ўсё-ткі быў асобны пакойчык, з акна якога бачыўся сярод

заснежанага поля далёкі будынак былой школы. Я задуменна глядзела на цьмяны агеньчык у акне першага паверха, дзе, відаць, атабарыўся ваўкаваты Вінцук, і спрабавала ўявіць рэаліі мястэчковага жыцця стогадовай даўніны. Вось да ганка з калонамі пад’язджае экіпаж, падбягаюць слугі, з экіпажа грацыёзна выходзіць захутаная ў футра жанчына...

Тут мае мары перарваліся, таму што да панскага дома сапраўды пад’язджаў экіпаж, праўда, сучасны. Святло фараў выхапіла з цемры ўхутаныя ў прывідную шэрань постаці дрэў — ганаровую варту зачараванага замка... Хто і навошта ў такі час прыехаў у музей? Відаць, меў рацыю Альберт, калі казаў: — «Парасцягваюць...» Мільганула разумная думка:«Ну якая мая справа...»

...І я хуценька збегла ўніз. Не ведаю, якімі эпітэтамі ў думках узнагароджваў мяне гаспадар, дабрадушны аматар рыбалкі і Чэхава, але ўсё-ткі апрануўся і пайшоў са мною да былой школы.

Каля княскай рэзідэнцыі паблісквaў лакіраванымі бакамі шыкоўны джып. Мне падалося, што ў машыне сядзіць нехта ў серабрыстым футры. Праз адчыненыя дзверы школы чуліся галасы, дакладней, адзін злосны голас, і грукат. Я кінулася туды. Мой гаспадар сунуўся за мною, хоць я амаль фізічна адчувала ягоную неахвоту лезці не ў сваю справу. Сярод вестыбюля ўзвышаўся знаёмы бамбіза са світы шэравокай «прынцэсы». Ён, відаць, «крута» размаўляў з вартаўніком па тым жа пытанні, што і днём, таму што Вінцук, у раздзёртай на плячы сіняй кашулі, спрабаваў узняцца з падлогі, дзе, пэўна ж, апынуўся не па ўласным жаданні.

Пры нашым з’яўленні бамбіза неахвотна выціснуў усмешку:

— Трэба ж, зноў сустрэліся... А мы сюды па сумачку Веры Сцяпанаўны заехалі. Шукалі вось... Ну, добра, я пайшоў. Да сустрэчы, барадаты...

Мы не спрабавалі яго затрымаць. Аўтамабіль ад’ехаў. Дырэктар вылаяў гарадскіх бандзюг і пачаў нудна выгаворваць Вінцуку наконт дысцыпліны, відаць, спаганяючы злосць, што меў на мяне. Вінцук, не слухаючы начальніка, прамовіў мне абыякавае «дзякуй»і зноў зацяўся, як камень.

— Можа, у міліцыю паведаміць? Ці медыцынская дапамога вам патрэбна?

Вартаўнік моўчкі пахітаў галавой, а Андрэевіч ад маіх слоў усхваляваўся. Навошта шум падымаць? Вартаўнік сам вінаваты: пусціў чужых на аб’ект аховы.

Ну, не трэба дык не трэба... Сёння яны сюды наўрад ці вернуцца. Даме, напэўна, час ванну прымаць. Я не сумнявалася, што ў машыне сядзела «прынцэса».

Адыходзячы, я азірнулася на дом, які ў цемры набываў страчаную веліч. Скрозь дошкі, якія шчыльна закрывалі вокны другога паверха, у адным месцы прабіваўся праменьчык святла. Дзіўна... Можа, падалося? Не, свеціцца, праўда, толькі калі глядзець пад пэўным вуглом.

Дырэктару пра сваё адкрыццё я нічога не сказала. Па дарозе дахаты гаспадар, узрадаваны, што інцыдэнт вырашыўся, распавёў мне пра свайго папярэдніка на гэтай пасадзе. Цудко меў славу дзівака, хаця яго ў акрузе паважалі. Ён з няўрымснай энергіяй збіраў у свой музей старыя збаны і посцілкі, сямейныя архівы і рэшткі архіваў мясцовых устаноў. Калі руйнавалі царкву і касцёл з будынкам семінарыі, выцягнуў адтуль усё, што мог, дакладней, што там засталося. Драўляная скульптура, якую я бачыла, валялася ў сутарэннях касцёла, які з трыццаць дзевятага года і да свайго зруйнавання выкарыстоўваўся як склад. Андрэевіч быў яшчэ маленькім хлопчыкам, але памятаў, як бурылі касцёл, як Цудко ўгаварыў трактарыста і той перацягнуў адтуль да школы некалькі мармуровых скульптур і з дзесятак магільных пліт. З усяго захаваўся ў музеі толькі бачаны мной анёл ды тры надмагільныя пліты князёў Палецкіх. Астатнія, казалі, забрала раённае начальства. Я ведала, што гэта значыць — айчынныя нуварышы купляюць старыя каменныя надмагіллі, знішчаюць надпісы і выкарыстоўваюць для

ўшанавання памяці памерлых сваякоў. Добры мармур набыць цяжка. А тут яшчэ і з гатовымі малюначкамі трапляецца. Вартаўнік з'явіўся ў школе два гады таму, Цудко ўладкаваў яго перад самай сваёй пенсіяй. Адкуль той Вінцук узяўся — ніхто не ведае; Цудко сказаў, што гэта ягоны далёкі сваяк. Па Наўі адразу пайшлі чуткі, што сваяк выйшаў з псіхіятрычнай бальніцы. Дый гэта ад пачатку было відаць, што чалавек «з прыветам»,— з выгляду, як бадзяга, да сялянскай працы не змусіш, толькі дровы сячэ ды ўлетку траву пакосіць вакол школы. Ні з кім не гаворыць, ніхто да яго не прыязджае. Трэба будзе пераводзіць музей у новую школу, але там усё не змесціцца. Давядзецца аддаць большую частку экспанатаў у раённы музей. Рэчы ёсць прыгожыя, шафка, напрыклад, і вазы. Але без іх спакайней. А тады што з вартаўніком рабіць? І выгнаць шкада — прападзе чалавек, забамжуе.

Размова працягнулася за вячэрай, і гаспадыня, якая прадставілася мне як Мацвееўна, выказала сваю думку, што Вінцук той — блажэнны, бо кожны дзень у царкву ходзіць і нават бацюшку бясплатна дапамагае па царкоўнай гаспадарцы.

— Грашыў, відаць, шмат,— глыбакадумна заключыў Андрэевіч пасля трох чарак самагонкі, якую я адмовілася піць.— Калі чалавека нячысцік мучае, ён абавязкова ў царкву пацягнецца... Сабакам брахаць будзе, змяёй круціцца, але да царквы папаўзе...

Пасля такой эзатэрычнай скіраванасці я зразумела, што час укладвацца спаць.

Перад тым як улегчыся пад пуховую коўдру, таўшчыня якой была прапарцыянальная гасціннасці гаспадароў, я яшчэ раз зірнула на далёкі будынак школы і падумала пра святло на другім паверсе. Несумненна, там і схаваныя самыя каштоўныя экспанаты. Як бы толькі пераканаць вартаўніка пусціць мяне да іх?

## 4

Раніца выдалася сонечная, з марозам. Гаспадары даўно ўсталі і, відаць, паспелі зрабіць шмат патрэбных, спрадвечных гаспадарскіх спраў, пакуль я песцілася пад іхняй пярынай. Нават да маёй мансарды даносіўся пах аладак.

Андрэевіч падрыхтаваў мне сюрпрыз. Паколькі я ўчора так цікавілася асобай вартаўніка, ён схадзіў у новую школу і прынёс ягоную асабовую справу. І зараз сам вывучаў яе. Я ўзяла ў Андрэевіча шэрую папачку і ледзь не ўпусціла, прачытаўшы надпіс: «Віктар Іванавіч Палецкі, вартаўнік». Я зірнула на дырэктара, той толькі паціснуў плячыма.

— Я і сам не ведаў, што ў яго за прозвішча. Вінцук ды Вінцук. Хутчэй за ўсё, проста аднафамілец княжацкі. Апошнія Палецкія з'ехалі адсюль яшчэ ў трыццаць дзевятым, калі Саветы прыйшлі.

Пра жыццё Палецкіх да рэвалюцыі Андрэевіч ведаў мала. Чуў толькі пра старога князя, які надта любіў гуляць у карты, так што прайграў суседнюю з Наўем вёску нейкаму палкоўніку. Ды яшчэ той князь пад старасць звар'яцеў і пачаў «магілы выварочваць». Ці ён проста руйнаваў помнікі, ці захапляўся некрафіліяй, выкопваў трупы, аповеды не ўдакладнялі.

У асабовай справе аказался зусім няшмат звестак пра вартаўніка. Месца нараджэння — Мінск. У графе «адукацыя» — прочырк. Узрост — трыццаць пяць гадоў, значыць, усяго на пяць гадоў старэйшы за мяне. Спецыяльнасць і працоўны стаж — прочыркі, відаць, лічылася, што гэтага няма, як і хатняга адраса. Сямейнае становішча — халасты. Адзіная адметнасць — адзнака, што не прыдатны да вайсковай службы па стане здароўя.

Сёння пасля абеду мусіў прыехаць нехта з музея. Я спадзявалася на сваю сяброўку Нюту, якая пісала дысертацыю па кераміцы. А тут керамікі досыць.

Вінцук сустрэў мяне ветла. Ён нават змяніў прычоску, калі так можна сказаць пра ягоныя кудлы,— пасмы больш не навісалі над вачыма. Ад гэтага твар змяніўся — высокі лоб, вялікія светлыя вочы і просты нос... Можа, і князь... Ну, чакай, я цябе разгавару!

— Я ведаю, што вы з гэтых Палецкіх.

Вінцук адразу сцяўся, падобна смаўжу, які хаваецца ў ракавіну пры набліжэнні небяспекі. Ага, значыць, праўда!

— Няўжо вы думалі, што такі факт застанецца невядомым? Калі вам не хочацца «рассакрэчвацца», магу паабяцаць, што нікому больш не раскажу. Але я павінна ведаць — вы ж нездарма далі мне пачытаць сямейныя дакументы Палецкіх? Прызнаюся — мяне зацікавіла гісторыя княгіні. І я хачу ведаць працяг. А калі я чым цікаўлюся, не спыняюся ні перад якімі перашкодамі. Лепш, каб вы расказалі мне самі, чым я буду корпацца ў іншых, можа быць, неаб’ектыўных, крыніцах.

Вінцук зацягнуў паўзу на добрых пяць хвілін.

— Я мала што ведаю. Маці, праўда, часта расказвала пра сваю бабулю, якая развялася з мужам, князем Палецкім, і з’ехала ў Санкт-Пецярбург.

— Ну а далей што з ёй было? З яе сынам?

— Сына, майго дзеда, яна забрала з сабой, фактычна выкрала. Скончыла медыцынскія курсы. Усё жыццё працавала фельдчаркай. Замуж болей не выйшла. Князь другі раз ажаніўся, меў дзяцей. Здаецца, нехта з іх роду жыве ў Польшчы. Паколькі пасля разводу князь пазбавіў і былую жонку, і яе сына правоў на спадчыну, я ні на што тут прэтэндаваць не магу.

— Значыць, сюжэт карціны «Шлюб пад прымусам»— пра вашу прабабку?

— Яна сама яе малявала. І партрэт студэнта. Кахала гэтага чалавека яшчэ да замужжа.

— А пра які талісман згадвае ў лісце ваша бабуля?

— Крыж, фамільная каштоўнасць. Пераходзіў старэйшаму ў родзе. Лічылася, што ён прыносіць няшчасце. Прабабка пасля разводу яго выкінула.

Вінцук замаўчаў. Зноў адсутны позірк. Па рукаве княскае выцвілае ватоўкі поўз павучок.

— Цікава, а чаму вы даверылі мне свой сямейны архіў?

— Таму што добра вас ведаў.

— Як? Адкуль?! Альберт Свянткоўскі распавёў?

— Нейкім чынам так. Я партрэт ваш бачыў. А Свянткоўскі — таленавіты мастак, значыць, яго карціна расказвае больш, чым сам мастак мог бы расказаць пра сваю мадэль. Мне вельмі хацелася захаваць памяць прабабкі. Яна сапраўды была выбітным чалавекам. Цяпер, калі ведаеце яе гісторыю, і карціны вас зацікавяць. Упэўнены, недзе вы пра яе згадаеце.

Правільна думае. Шляхціцы з партрэтаў ухвальна глядзелі на Вінцука. Мне на хвілю здалося, што на ім гэткая ж старасвецкая вопратка, як і на іх, і ён таксама аддзелены ад мяне стагоддзямі... Таямнічы палац са схаванымі сямейнымі скарбамі і адданым вартаўніком...

— Што ў вас на другім паверсе? Філія музея?

Зноў напружыўся.

— Нічога там няма. Там дах правалены.

А маніць не ўмее. Ненатуральна атрымліваецца.

Вінцук адчыніў дзверы скляпення. На мяне пацягнула волкім паветрам. Анёл утаропіў на нешта жахлівае белыя вочы, рот драўлянага Хрыста зеўрае немым крыкам, дальнія куты патанаюць у цемры... Я папрасіла княскага нашчадка вынесці наверх, у залу, тыя папкі, якія не пераглядзела ўчора, і скрыню з чарапкамі . Рэестр экспанатаў,

складзены Цудко, ляжаў на стале. Вінцук дапамог зручна ўладкавацца... І тут зусім побач ударыў звон. Зараз з'явіцца прывід Чорнага Манаха ці якой-небудзь Белай Дамы... Але звон ударыў яшчэ раз, гэтак жа адсланёна-няўмольна, і сціх. Я ўспомніла, што побач — царква Святой Параскевы. Значыць, з'яўленне прывіду пакуль адмяняецца.

Вінцук, аднак, занепакоіўся:

— Я пакіну вас на гадзінку? Айцец Павал чакае. Няёмка. Абяцаў дапамагчы яму пасля службы...

— Нічога, нічога, ідзіце, я сама спраўлюся. Праўда, мне яшчэ пра многае хацелася вас распытаць...

Але мае словы яшчэ больш прыспешылі вартаўніка. Праз акно я ўбачыла ягоную высокую, трохі прыгорбленую постаць — ён ішоў хуткім крокам у бок царквы. Вось і добра... У прысутнасці Вінцука я адчувала сябе няпрошанай госцяй. Так, ён абараняў музей ад уладных рабаўнікоў, так, за ягонай ваўкаватай знешнасцю ўгадваўся інтэлігентны — дакладней, былы інтэлігентны чалавек, у прастамоўі — «біч». Але нешта ён хаваў і ад мяне, а я не люблю заставацца ў невядомасці.

Я агледзела дошкі, што перагароджвалі лесвіцу на другі паверх. Гэтым шляхам не падняцца. Але хіба тут толькі адна лесвіца? І ў школе, па правілах пажарнай бяспекі, мусіць быць запасны выхад. Ну а ўжо ў княжацкім доме не можа быць адна лесвіца і для паноў, і для прыслугі. Я рушыла ў другі канец калідора. Аказалася, ён там не канчаецца, а заварочвае. У тупіку я знайшла маленькія дзверы без шыльды. Тузанула ручку... Тэхнічнае памяшканне. Я праціснулася між паламанымі партамі... Дзверы з павольным рыпеннем прычыніліся. Добра, ліхтарык з сабою. Ля сценкі — школьная дошка. Можа быць, я выйшла б з гэтага няўтульнага памяшкання, каб не ануча. Звычайная сухая ануча, якой колісь выціралі крэйду, пасля паклалі на палічку ўнізе дошкі, і яна так і прысохла. Чамусьці махры гэтай анучы матляліся, як ад моцнага павеву. Я з цяжкасцю ссунула дошку ўбок. За ёй пачыналася вузкая, як ход шашаля, вінтавая лесвіца, ад яе цягнула холадам. Урэшце, гэта мне цяжка адсоўваць дошкі, а дужы мужчына зробіць такое адным рухам.

Доўгі калідор на другім паверсе наводзіў на сумныя думкі — мусіць, так выглядаюць будынкі пасля бамбёжак. Чорныя бэлькі столі там-сям абрушыліся, пахіліліся да падлогі, быццам штандары перад жалобным шэсцем. Аднекуль сыпаўся дробны снег. Я прыкінула, дзе вечарам бачыла святло: трэцяе акно справа, адчыніла дзверы ў цёмны пакой і скіравала ўнутр прамень ліхтара... І аслупянела. Я знаходзілася ў майстэрні мастака. Звычайнай майстэрні, з маім улюбёным вэрхалам, з пахам фарбаў і пукамі пэндзляў у збанках і гаршэчках. Але не гэта ўразіла мяне. На мальберце стаяла нясконачаная карціна. Я ніколі не бачыла нічога падобнага. Яе аўтар меў свой, адметны стыль — фантасмагарычны, з незвычайнымі спалучэннямі колераў, ясны і адначасова туманісты. На фоне начнога зімовага пейзажу, у якім угадваліся краявіды сучаснага Наўя, ляцела прывідная кавалькада паляўнічых — дамы ў сукенках з доўгімі вузкімі шлейфамі, у мехавых шапачках, вышытых перлінамі, з сокаламі на пальчатках, мужчыны ў чугах з пералівістых тканін, з павінымі пёрамі на шапках, узброеныя даўжэзнымі стрэльбамі з раструбамі на канцах. Гэта было захапляючае, вясёлае і трывожнае відовішча. Коні слізгалі па паветры, дамы смяяліся, а над соннай вёскай цягнуліся срэбныя ніткі правадоў электраліній, пакрытыя шэранню.

Ля сцен, павернутыя фарбаванай паверхняй ад гледача, стаялі іншыя карціны. Я пачала іх пераварочваць. Несумненна, яны належалі пэндзлю аднаго мастака, і гэта быў выбітны мастак. У святле ліхтарыка ўзнікалі новыя і новыя сюжэты. Якая фантазія! Якое майстэрства! Я так захапілася разглядваннем, што не зрэагавала ў час — дзверы раптоўна адчыніліся і святло ліхтарыка, ярчэйшага за мой, скіравалася проста мне ў

твар і на некалькі імгненняў асляпіла. Калі б у мяне яшчэ былі сумнівы наконт уладальніка падпольнай майстэрні, цяпер іх не мусіла заставацца. Вочы Вінцука з-пад насупленых броваў гарэлі праведным гневам.

— Вы...вы... як вы маглі! Шпіёніць... Паверыў вам... Артыкулам вашым, партрэту... Шчыра збіраўся дапамагчы... А вы...

У небаракі аж рукі трэсліся ад абурэння. Зусім перастаў маскіравацца пад бажаволака. Але я не збіралася адступаць.

— Вы чакаеце, што я зараз пачну прасіць прабачэння і сцвярджаць, што я тут выпадкова, што я не хацела і таму падобнае? Памыляецеся. І апусціце нарэшце ліхтар, а то свеціце мне ў вочы, як на допыце.

Вінцук сумеўся ад майго ваяўнічага тону і скіраваў святло ліхтарыка ўбок, памацаў рукою недзе ў куце, і на стале запалілася лямпа дзённага асвятлення. А я працягвала сваю «псіхатэрапію»:

— Калі вы чыталі мае артыкулы, дык не маглі не зразумець, што я з сябе ўяўляю. Цікаўнасць — неад’емная частка маёй прафесіі. Я ніколі не спынюся на паўдарозе. Неінтэлігентна з майго боку? Магчыма. Мне не раз даводзілася неінтэлігентна дабівацца ісціны, як бы патэтычна гэта ні гучала. Вы, дарэчы, таксама неінтэлігентна мне зманілі, калі я спытала пра другі паверх. І, калі хочаце ведаць, мне вас нікольку не шкада, і ніякай загадкі для мяне вы не ўяўляеце. Сярод маіх знаёмых дастаткова таленавітых няўдачнікаў-іпахондрыкаў. У мінулым годзе адзін паэт аб’явіў, што кідае пісаць вершы, купіў хутар і шукае там праўду жыцця. А ягоная жонка, мая каляжанка, акрамя дадатковых лекцый яшчэ і нешта рэдагуе па начах да страты прытомнасці, абы дзіцяці на лекі ад алергіі ды спецыяльную дыетычную ежу хапала. Хочаце, раскажу вашу жыццёвую гісторыю ў агульных рысах? Вы падавалі вялікія надзеі, вучыліся... не бяруся па вашай творчай манеры вызначыць, дзе, але ў вышэйшай творчай установе. Вас спасцігла вялікае расчараванне, мусіць, звычайная подласць з боку калег — такога хапае ў нашым блаславёным асяродку. Пасля гэтага вы не сталі зноў стукацца ў дзверы вялікага мастацтва, а вырашылі стварыць яго ўласную філію, гэткую рабінзанаду непрызнанага генія. Выяўляеце з сябе бясшкоднага вар’ята з пакалення «брамнікаў і вартаўнікоў», спажываеце разварыстую вясковую бульбачку і з горкай, але салодкай помстай у душы пішаце палотны, якія свет не заслужыў пабачыць. Вось вам «еще... минчук в Гарольдовом плаще».

Я нагаварыла шмат несправядлівасцей і чакала новага выплеску абурэння і абвінавачванняў у адрас недасканалага свету, персаніфікаванага ў маёй сціплай асобе, але я недаацаніла свайго знаёмца. Маю тыраду ён слухаў сапраўды трохі нервова, пакусваючы вусны, але пад канец супакоіўся і камічна развёў рукамі:

— Здаюся, здаюся. Меа culpa, меа массіма culpa.[1] Вы сапраўды менавіта такая, якой я сабе ўяўляў. І я... напэўна, у нечым такі, як вы гіпатэтычна апісалі. Але нечага вы пра мяне не ведаеце. Таму давайце зачынім маю падпольную... дакладней, паддашную майстэрню і пойдзем уніз, у больш спрыяльныя для гутаркі ўмовы.

— Так, узімку вы сапраўды ціхі,— «ушчыкнула» я інтэлектуальнага вартаўніка.

Ён рассмяяўся так шчыра, па-дзіцячы, што я не магла таксама стрымаць смех. Магчыма, да паранойі тут справа не дайшла.

## 5

На інкруставаным ломберным століку, пакрытым выцвілай цыратай, дыміліся кубачкі з гарбатай на зёлках, у грубцы (шкада, камін не захаваўся) патрэсквалі дровы, з партрэтаў паглядалі вусатыя шляхціцы і шляхцянкі ў карункавых каўнярах, а насупраць

мяне сядзеў у фамільным крэсле князёў Палецкіх прыроджаны Палецкі ў падранай ватоўцы. Што праўда, ягонае аблічча істотна змянілася. Зніклі ваўкаватасць і пустыя позіркі паўзверх субяседніка, змянілася і запаволеная гаворка. Вінцук з відавочным задавальненнем вяртаўся да манер выхаванага чалавека, элегантна адпіваючы гарбату з парцэлянавага кубачка з вензелем. Але што мяне найбольш падкупіла — ён працягваў размаўляць на беларускай мове, вельмі натуральна і прыгожа.

— Вядома, я «падаваў надзеі». Яшчэ б. Матуля з дзяцінства ўбівала мне ў галаву, што я незвычайнае дзіцё, што я мушу стаць вялікім чалавекам і гэтак далей. Акрамя мяне ў яе нікога на свеце не было, і ўсю энергію яна траціла на тое, каб «вывесці мяне ў людзі». Ізастудыя, спартыўная секцыя, музыка... Поўнае кола пакутаў юнага вундэркінда. Ад бацькі я нават прозвішча не ўспадчыніў — маці лічыла, што мне пасуе толькі княжацкае імя.

— Ну што вы, — рассмяяўся мой суразмоўца.— Усяго хапала. Я па натуры чалавек адкрыты... некалі быў. Да таго ж я ў дастатковай ступені валодаю самаіроніяй. Калі б не ўмеў час ад часу пасмяяцца над сабой, даўно б зламаўся. Карацей, рос такі мамчын сынок, удзельнічаў у выставах і конкурсах дзіцячага малюнка, пасля з лёгкасцю паступіў у акадэмію мастацтваў. Усё ў мяне было самае лепшае — верныя сябры, выбітныя перспектывы, і каханне было самае цудоўнае... Прыгажуня, якіх на свеце больш няма. Юная, пяшчотная, узвышаная... Як кветка. У кветкавай краме я яе і напаткаў. Яна стаяла за прылаўкам... Слова «прадаўшчыца» ці «гандлярка» занадта грубае. Багіня з ружамі. Я так і маляваў яе. Пажаніліся. У нас з маці была двухпакаёўка ў цэнтры, праўда, на першым паверсе, з відам на пункт прыёму шклатары. Віта мела толькі прыгажосць і цвёрды характар. Сапраўды цвёрды. Заўсёды ведала, чаго хоча, і ўмела гэтага дабіцца. Я верыў, што хутка пабудую для сваей багіні палац. На жаль, з маёй маці адносіны ў іх не склаліся ад самага пачатку.

— Чаму?

Вінцук уздыхнуў.

— Думаю, мама пагадзілася б толькі на нявестку з каралеўскага роду, і тое наўрад ці. Напэўна, і я быў вінаваты — па маладосці не надаваў значэння многім, як лічыў, дробязям. Віта вырашыла, што мы будзем здымаць кватэру. Тым часам я скончыў акадэмію, мне далі месца ў майстэрні, разам з двума крыху старэйшымі мастакамі. Будучыня мусіла быць цудоўнай. Але яе трэба было чакаць. А Віта чакаць не ўмела. Колькі трэба часу, каб мастаку дабіцца славы? Пяць гадоў? Дзесяць? Дваццаць? Я хацеў працаваць на мастацтва, Віта хацела, каб я працаваў на сямейны дабрабыт.

— Па-мойму, законнае жаданне ўсіх жонак,— не змоўчала я.

— Напэўна... Але тады я быў невыносным ідэалістам. І вось аднойчы прыходжу дадому, а мая багіня ляжыць, бледная, на ложку і плача. Абследаванне выявіла рэдкую смяротную хваробу. Тэрмінова патрэбна правесці курс ін’екцый. Лякарства такога ў нашых аптэках няма, толькі на чорным рынку можна купіць. Каштуе каля дзвюх тысяч долараў. Ні ў мяне, ні ў маіх сяброў такіх грошай пакуль не мелася. Ляжыць жонка, развітваецца са мною. Я пачаў меркаваць, у каго пазычыць, што прадаць. Ледзь не звар’яцеў. І тут якраз тэлефануюць. Прапаноўваюць выканаць адзін невялікі заказ для прыватнага калекцыянера, які заплаціць у валюце, і вельмі добра. Я расцаніў гэта як добры знак і заглынуў нажыўку разам з кручком. На шыкоўным лецішчы, пасля шампанскага з лёдам, прыветныя дзядзечкі ў гальштуках і белых кашулях паказалі мне абраз. Візантыйскі ўзор, чатырнаццатае стагоддзе. Цуд, а не работа! Пытаюцца: «Можаш копію зрабіць? Адзін дзівак замежнік хоча такі мець, а іх вывозіць нельга. Вось ён шукае, хто б напісаў падобны. Намалюеш — дзве тысячы баксаў твае».

— Божа мой, Віктар, і вы пагадзіліся?

— Не стану сцвярджаць, што быў настолькі наіўны, што не адчуў некаторую... падазронасць справы. Тым больш працаваць мяне папрасілі на тым жа лецішчы, ды яшчэ нікому пра сваю працу не расказваць,— замежнік, маўляў, ганарлівы, не хоча, каб ведалі, што ён копію дамоў вязе. Непрэстыжна гэта яму. Двое сутак не разгінаўся — зрабіў абраз, нахваліцца заказчыкі не маглі. Уручылі мне мае срэбранікі, і я палунаў да сваёй багіні... Было позна, я ўвайшоў ціха, каб не пабудзіць хворанькую маю, а яна па тэлефоне размаўляе...Я паслухаў і... Вядома ж, усё адбылося па сцэнарыі.

— Кантрабандысты?

— Так... І самага высокага палёту. Знайшлі да мяне верны ход. Віта толькі плячыма паціснула: чым, маўляў, кепска, грошы верныя, працы няшмат. Каб меў хоць крыху клёпак у галаве, каб можна было са мною па-дзелавому размаўляць,— не спатрэбілася б спектакль разыгрываць. Так што ўсё для маёй жа карысці. Цяпер увойдзем да дзялкоў у «долю». Я буду толькі маляваць, а ўсе «тэхнічныя падрабязнасці» — апрацоўка пад старажытнасць, кліентура, збыт, бяспека — справа «фірмы». А на мае перасцярогі ды ўшчуванні адно: «дах» гэтай «фірмы» так высока, што ніводзін міліцыянт у іх справы нос не суне. Будзем жыць прыпяваючы катэдж сабе пабудуем, машыну купім і гэтак далей. У маёй кветачніцы, аказваецца, быў распрацаваны падрабязны план на шмат гадоў наперад, калі мы што набудзем, калі народзім дзяцей, куды будзем ездзіць... І першы крок па яго выкананні ўжо зроблены. Я выслухаў і... пайшоў у міліцыю.

Я магла толькі развесці рукамі.

— Ваша мама сапраўды выхоўвала вас ідэалістам. Вас пасадзілі?

— Са мной ветліва пагаварылі, запісалі каардынаты лецішча, на якім я працаваў над абразом, прыкметы асоб, якія мяне наймалі... Вядома, пра ролю жонкі я не сказаў ні слова. Зманіў, што сам шукаў заробку і выпадкова натрапіў на гэтых людзей. Потым я доўга сядзеў у кабінеце следчага. Раптам заходзіць мая жонка з натуральным сумам на твары, за ёй некалькі жлабоў у белых халатах. Багіня са слязьмі ў голасе кажа ім, што я пакутую псіхічнымі адхіленнямі і апошнім часам знаходжуся ў дэпрэсіі. Перапрацаваўся, небарака, перахваляваўся... Мне ўшпільваюць супакойваючы ўкол, і... я апынаюся ў дурдоме.

Я мімаволі жахнулася:

— Божа мой, сапраўдны дэтэктыў.

Вінцук сумна ўсміхнуўся:

— Толькі без высакароднага сышчыка.

— Ну а потым, пасля лячэбніцы...

Твар майго субяседніка нібыта пацямнеў.

— Вы думаеце, гэтае «потым» настала так хутка? Для мяне гэта была вечнасць. Два гады. Што цікава, менавіта ва ўстанове для ідыётаў я нарэшце пачаў усведамляць, якім быў ідыётам да таго, як туды трапіў. Усведамляў, праўда, урыўкамі, у тыя моманты, калі маім мазгам было дазволена працаваць без транквілізатараў. Дарэчы, жонка некалькі разоў прыходзіла да мяне. Угаворвала далучыцца да «фірмы». Нават плакала. І я не ведаю, ці можна яе асуджаць. Ці можна асуджаць чалавека за тое, што ў яго іншыя погляды, чым у цябе, і ён перакананы ў сваёй праваце?

Жартуе, ці што?

— Ну, Вінцук... Віктар Іванавіч, з такой паблажлівасцю можна зайсці вельмі далёка. Злачынствы нельга апраўдваць тым, што злачынцы былі перакананы, што робяць правільна.

— Але ж Віта сапраўды нічога благога мне не хацела, — сур'ёзна патлумачыў Вінцук.— Яна шчыра верыла, што ўсяму віной — толькі мая упартасць. Думаю, я не быў ёй зусім абыякавы. Варта мне было пагадзіцца, і я выйшаў бы на волю і меў бы такое жыццё, якое Віта натхнёна абяцала мне. Але я сапраўды ўпарты. Ёсць межы, якія

я не магу пераступіць проста таму, што перастану паважаць сябе. А з усіх няшчасцяў гэта для мяне — самае страшнае. Можна часам ненавідзець сябе, можна сумнявацца ў сабе... Але страціць унутраную павагу — нельга, гэта смерць, пачатак духоўнай пустэчы.

Апошнія словы прагучалі так, як павінны гучаць словы выпакутаванай веры.

Вінцук памаўчаў, адкінуў з ілба пасмачку валасоў і працягваў спакойным голасам:

— Апошні год Віта не прыходзіла. Са мной пачалі абыходзіцца менш жорстка. Я лічыўся ціхапамешаным, маляваў насценгазеты для ўсяе бальніцы, нават зрабіў роспіс у сталовай. І вось выйшаў я на волю. За той час, што быў фактычна ізаляваны ад свету, памерла маці — інфаркт.

Кубачак у руках Вінцука здрыгануўся, і ён паставіў яго на стол. Прымружыўся, як ад стрыманага болю...

— Сябры расказвалі, што яна прыйшла ў бальніцу адведаць мяне, ну ёй і паказалі сыночка — прывязанага да ложка, з пенай на губах і вачыма, што глядзелі ў розныя бакі. Наўшпільвалі ў мяне, напэўна, багата ўсялякай поскудзі... Я пасля бальніцы тры месяцы не мог чытаць. Проста не ўспрымаў сэнсу літар.

Вінцук зноў замаўчаў і раптам спытаў неяк дзіўна абыякава, гледзячы ўбок:

— Вам не надакучыла выпадкам мая споведзь?

У мяне перахапіла голас ад усведамлення, што ён, магчыма, першы раз камусьці ўсё гэта расказвае. Але я разумела, што гэты чалавек не хоча, каб яго шкадавалі. Таму толькі моўчкі пахітала галавою — маўляў, не надакучыла...

— Ну, што ж... Тады давайце налью вам яшчэ гарбаты... Тым больш дэтэктыўная частка сюжэта тут заканчваецца. Калі ажаніўся, Віту прапісаў да сябе, і аказалася, што цяпер у мяне няма кватэры. Яе на законных падставах прадала па даверанасці клапатлівая жонка, і жылі там зусім іншыя людзі. Госць з дурдома зрабіў на іх тужлівае ўражанне. Людзі аказаліся някепскія, аддалі тое, што засталося з маіх асабістых рэчаў. Спакаваў я чамаданчык і пайшоў... Куды? Прыйшоў у сваю былую майстэрню. Сярод нашага брата хапае кліентаў псіхбальніцы, адзін Ван Гог чаго варты... Так што адхрышчвацца ад мяне не сталі, так я і пачаў жыць — у кутку. Нехта прыцягнуў старую канапу, нехта падзяліўся зімовым адзеннем... Кожны дзень прыходзіў хто-небудзь міласэрны з бутэлькай суцяшальнага рэчыва і, даведаўшыся, што я не п’ю, шматзначна ківаў галавою: ну так, «зашыўся» у бальніцы...

— А як жа карціны? — спытала я.— Чаму нідзе раней не бачыла вашых твораў? Іх немагчыма не запомніць, на любой выставе я іх вылучыла б...

— Карціны...— задумліва паўтарыў Вінцук.— Вядома, мне хацелася зноў пісаць, як хочацца выпрастаць доўга прывязаную ў сагнутым становішчы руку... Але я згубіў веданне — для чаго павінен гэта рабіць. Мусіць, я проста перарос самога сябе былога, як рак-пустэльнік перарастае сваю ракавіну... Тады ён выпаўзае з яе і, безабаронны, мяккацелы, паўзе і шукае новую, большую. Так зрабіў і я. Тым больш, пакуль я лячыўся ад наіўнасці, маё месца ў майстэрні было паабяцана аднаму графіку. Някепскі графік, дарэчы, толькі зануда. А тут я з’яўляюся... Графік палічыў, што гэта спецыяльна падстроена, каб яго пакрыўдзіць. Пачаў дабівацца справядлівасці. Палецкі, маўляў, хворы чалавек, нічога не піша, творча скончыўся, а яго выкарыстоўваюць, каб не даць развіцца магутнаму таленту графіка. П’янкі ўчыняюць кожны дзень, тлум... Пакрыўджаны нават прывёў цесляроў, каб яму адгарадзілі законную трэць майстэрні. Так што маю канапу не было ўжо дзе ставіць. Пасмяяўся я над гэтым змагаром і пайшоў у рэстаўрацыю.

— А як прозвішча графіка?

— Радаслаў Дудкоўскі.

Мне стала горача. Ну, Радзік, абаронца ісціны... Хаця... Хто абагаўляе мяшчаначку з кветкамі, хто захапляецца грамадзянскай пазіцыяй дробнага эгаіста...

Вінцук працягваў:

— Рэстаўрацыя — добрая школа. Я шмат ездзіў па краіне, па блізкім замежжы, працаваў у закінутых храмах, на вышыні, пад купаламі, калі, здаецца, за табой зблізку назіраюць вочы нябесных сіл. Стаў думаць пра Бога. І неяк па-новаму перааацаніў усё, што са мной адбылося. Я адчуў, што паступова набываю апірышча. Адчуў у сабе сілу пісаць... Але ніякага жадання вяртацца ў багемны асяродак у мяне не было. Знаёмая паэтка неяк казала мне: ёсць тры рэчы, якія нельга набыць стараннем. Мудрасць, мужнасць і пакора. Яны толькі даюцца нам звыш. У спрыяльны перыяд свайго жыцця я нічога з пералічанага не меў. Цяпер у мяне ёсць падставы чакаць, што мне нешта дасца. Прынамсі, пакора як абыякавасць да кар'еры ў любым выглядзе. Падчас працы ў адным з кляштараў Гродзеншчыны да мяне падышоў жвавы дзядзечка ў гадах. Пацікавіўся, ці я — Віктар Палецкі. У іх мястэчку быў княжацкі род з такім прозвішчам, можа, я маю адносіны да тых князёў... Гэта быў Нічыпар Хведаравіч Цудко. Нехта з мастакоў расказаў яму пра мяне, колішняга таленавітага юнака, які «загрымеў» у псіхушку, а цяпер зусім апусціўся. Слова за слова, і я пагадзіўся на месца вартаўніка школы і Наўеўскага краязнаўчага музея з правам мець майстэрню ў тэхнічных памяшканнях будынка. Нічыпар Хведаравіч быў душэўны чалавек, ён паабяцаў не афішыраваць, што я — з тых Палецкіх і што я — мастак, выдаў за сваяка, дапамог пазбегнуць некаторых фармальнасцей. Затое я не хацеў хаваць сваё мінулае. Цудко і сам лічыў мяне псіхам, ад якога няшмат толку. Напачатку я маляваў у сутарэннях. Потым, калі дах зусім абваліўся і школу перавялі ў новы будынак, абсталяваўся бліжэй да неба.

Я моўчкі глядзела на спакойны твар вартаўніка. Мне падалося, што дом Вінцуковых продкаў таксама задумліва маўчыць, нібыта ахоўваючы спакой свайго апошняга ўладара... На жаль, гэта была ненадзейная ахова. І прывідная ўлада.

— Слухайце, калі б вы пачалі прадаваць гэтыя свае карціны, вы б маглі купіць кватэру ў горадзе.

— А навошта?

— Тады дом у вёсцы, — раззлавалася я. Падумаеш, незразуметы Дыяген у бочцы з-пад мазуту.

Вінцук толькі ўздыхнуў:

— Справа ў тым, што мая эпапея яшчэ не скончаная. Але гэта доўгая гісторыя... А вам трэба працаваць. Ды і мне таксама.

Ну вось, зараз зноў замкнецца ў сваіх таямніцах... Я запэўніла вартаўніка, як магла, у сваёй шчырай зацікаўленасці. Або ён усвядоміў, што ад мяне не адмаўчыцца, або сапраўды яму трэба было выказацца, але зноў наліў у кубкі гарбаты і працягваў аповед.

— Цудко быў «завернуты» на адкрыцці мастацкіх шэдэўраў.

— Ведаю, нацярпелася ад яго энтузіязму.

— Ён натрапіў на след сапраўды каштоўнай, унікальнай рэчы. Ён жа збіраў сямейныя архівы, і сярод іх быў архіў павятовай паненкі Анэлі Дубовіч, сардэчнай сяброўкі маёй прабабкі Даратэі Вяржбіцкай.

— Гэта тыя паперы, што вы давалі мне чытаць?

— Так. Нічыпар Хведаравіч вычытаў у іх пра сямейны талісман Вяржбіцкіх — залаты крыж з вялікай чорнай перлінай.

— Пра перліну вы мне нічога не гаварылі, — пакрыўдзілася я.

— Зразумейце, чаму... Крыж падарыла аднаму з маіх продкаў, лоўчаму з-пад Наўя Грыню Вяржбіцкаму, сама каралева Бона. Нібыта за тое, што падчас палявання спыніў ашалелага каня, які ледзь не скінуў каралеву. Але была адна тагачасная плётка... Не ведаю, наколькі праўдзівая... Быццам на самай справе Грынь дагадзіў каралеве інакш.

Узяў у яе маленькую бутэлечку з бясколернай вадкасцю і прыхапіў з сабою на баль да пана старосты мсціботаўскага Рыгора Валовіча, які пра каралеву-італьянку дужа кепскія размовы вёў. Пасля таго балю пан Валовіч «смерцію хуткаю памрэ».

— Цалкам магчымая гісторыя,— пацвердзіла я.— Бона — з роду Сфорцаў, майстраў атручваць. І на нашыя землі прывезла італьянскія звычаі. Паатручвала ворагаў багата!

— Не ведаю, за забойства ці за выратаванне быў падораны крыж, але Грынь Вяржбіцкі загадаў пакласці каралеўскі падарунак сабе ў магілу. А ўдава была практычнай жанчынай... І крыж пачаў пераходзіць з пакалення ў пакаленне. Вось толькі шчасця не прыносіў. Род заняпаў, і ў дзевятнаццатым стагоддзі сапраўды дайшоў амаль да жабрацкага становішча. Крыж з перлінай быў фактычна адзіным пасагам прабабкі. Калі прадзед прайграўся ў карты дашчэнту, то прымушаў маладую жонку прадаць ейны крыж ці хаця б перліну з яго. Сума была б і на тыя часы досыць вялікая. Прабабка адмовілася. Яна была гордым чалавекам. Падобна на тое, што яна паклала крыж у магілу Грыня Вяржбіцкага, як той і наказаў.

— Вось адкуль ваша непрактычнасць! Успадчыненая ад прабабкі,— пажартавала я.

— Напэўна,— засмяяўся Вінцук.— Але... З мясцовых аповедаў вядома, што пасля ад’езду жонкі прадзед зацята шукаў магілу старога лоўчага.

— І не знайшоў?

— Мяркуючы па ўсім, не.

— Чаму? Хіба не захавалася помніка, архіваў?

— Дзіўна, але, відаць, так. Нібыта нехта паклапаціўся, каб і памяці пра майго продка не засталося. Нічыпар Хведаравіч «дастаў» мяне сваімі роспытамі. Корпаўся ў архівах, звяртаўся па парады да розных знаўцаў. Аднойчы трапіў да вядомага мінскага антыквара. У таго былі спісы каштоўнасцей, месцазнаходжанне якіх сёння невядомае, хаця яны недзе ёсць. Там значыўся крыж каралевы Боны з чорнай перлінай. Нават вага той перліны значылася.

— Чакайце, гэта ж колькі год таму крыжу? Не менш як чатырыста?

— Выходзіць, так.

— Хіба перліна не папсавалася за такі час?

Вінцук паціснуў плячыма.

— Я не спецыяліст па каштоўнасцях... Але гаворка пра асаблівы, дужа рэдкі гатунак перлін. Мусіць, і якасці ў яго асаблівыя. Прынамсі, антыквар дужа зацікавіўся. Цудко «расцвіў» ад таго, што прафесіянал нарэшце жадае паслухаць пра ягоныя вышукі. Расказаў усё, што ведаў. І тое, што ў іх школе працуе вартаўніком нашчадак Палецкіх і Вяржбіцкіх, які такія-сякія звесткі пра радавыя таямніцы можа распавесці... Небарака марыў пра шыльдачку з яго імем у сталічным музеі і артыкулы ў навуковых часопісах. І не падазраваў, што мае справу са звычайным мафіёзі.

— Ну вось, а вы казалі, што дэтэктыўная частка скончылася,— папракнула я Вінцука.

Той паморшчыўся:

— Які там дэтэктыў... Гэта хутчэй «мыльная опера». Антыквар меў неафіцыйную гаспадыню, пастаянную кліентку, якая вельмі цікавілася старажытнымі каштоўнасцямі і заўсёды ведала, чаго хоча. Так у Наўі пачала з’яўляцца прыгажуня Вера Сцяпанаўна, жонка мільянера Бутава. Якая ведала, што хоча займець каралеўскі крыж, і ведала нашчадка Палецкіх... Якога вельмі хацела нарэшце «паставіць на месца»... Каб зразумеў, што ісціна — на баку моцных, тых, хто мае ўладу і грошы. Каб убачыць, як ён локці сабе кусае, што страціў сваю «багіню» з-за ўласнага глупства, што не захацеў паслухацца яе... І каб нарэшце паслухаўся.

— Жонка Бутава — ваша Віта?!

Вінцук не адказаў, падняўся і пачаў прыбіраць кубкі са стала, за якім яго прадзед, магчыма, і прайграў суседнюю вёску.

— Адчуваю сябе Атосам, які распавёў д’Артаньяну страшную таямніцу Мілэдзі...

— Калі ёй патрэбны крыж, чаму яна імкнецца патрапіць у скляпенне?

— Перш за ўсё, каб пераламіць мой супрацiў. Шчасце яшчэ, што не ведае пра майстэрню, пра мае карціны. Па-другое, у скляпенні — архівы, фрагменты надмагілляў з касцёла. На месцы старых могілак нічога ж няма, бульдозерам раўнялі. Калі ўскрывалі труны, панаехала «людзей у цывільным». І як было каля касцей нешта каштоўнае — пярсцёнак ці крыжык — складалі ў спецыяльныя пакеты. Але антыквар, з якім гаварыў Цудко, сцвярджае, што калі б рэч такой каштоўнасці знаходзілася ў нечых руках, ён абавязкова ведаў бы.

— Гэта праўда. Мяне самую часам здзіўляе абазнанасць такіх дзялкоў, але магу пацвердзіць: у іх зарэгістраваныя ўсе вартыя ўвагі каштоўнасці і ў прыватных калекцыях, і ў самых патаемных сейфах дзяржавы, і ва ўладанні крымі-нальнікаў. І ўсе перасоўванні такіх прадметаў адсочваюцца. Так што паспрабуй збыць такому дзялку, скажам, сыгнет караля Жыгімонта Старога... Ён за камп’ютэр — і выдае табе, што такі сыкгнет належаў да сярэдзіны семнаццатага стагоддзя Сангушкам, пасля перайшоў як шлюбны падарунак у род Чартарыйскіх... А з верасня мінулага года належыць уладальніку валютнага стрыпціз-клуба бісексуалаў па мянушцы Рванае Вуха... Так што ў вас, даражэнькі, падробка!

Мы рассмяяліся, а пасля Вінцук неяк сур’ёзна сказаў:

— І самае паганае, што ўсё роўна яны прыйдуць і возьмуць, што хочуць. Але трэба, каб на іх шляху стаялі тыя, каго можна перамагчы, але нельга пераступіць. Цудко якраз такім і быў — з ім яны праличыліся. Ганьба не ў тым, што ты слабы. Ганьба, калі ты не заступаеш шлях злу.

— Я згодна з вамі...

Мы паглядзелі адно аднаму ў вочы. Гэтыя вернуцца. Але саступаць ім нельга. Яны перамогуць. Але мы не павінны здавацца.

**6**

На панадворку пачуўся вясёлы голас:

— Кася! Ты дзе там, вандроўніца?

Нюта! Прыехала! Мая сяброўка, аддыхваючыся ўсім сваім пышным целам, увалілася ў княскі дом разам з невычэрпным запасам весялосці.

— О, чарапкі! Ай, які цуд, маёліка! Геральдычная кафля! О!

Я з цяжкасцю адарвала сяброўку ад скарбаў у скрыні, вынесенай са скляпення.

— Ты яшчэ паглядзіш, якая скульптура! А хто з табой прыехаў?

— Ну ты летуценніца. Начальства нашага не ведаеш. Зіма, дзеўкі грыпуюць, хто сюды пацягнецца? Падзякуй, што я прыехала.

Вінцук злавіў мой позірк, я неўпрыкмет кіўнула — маўляў, усё ў парадку, поўная канспірацыя,— і ён выйшаў, шоргаючы галёшамі на вяровачках.

Нюта недаўменна паглядзела яму ўслед:

— Хто гэта? Нейкі... нетутэйшы з выгляду.

— Вартаўнік мясцовы. Будзе нам дапамагаць.

Я ўгаварыла Нюту пачаць не з чарапкоў, а са скульптур. Каб справа ішла хутчэй, паклікала зноў насцярожанага Вінцука — няма чаго выстаўляць сябе бажаволкам. Няхай дапамагае. Нічога з таго, што было ў скляпенні, Цудко ў рэестры не занёс. А трэба было занатаваць усе гэтыя багацці на паперы. Вінцук моўчкі цягаў фігуры,

дапамагаў Нюце з абмерамі, я запісвала і рабіла прамалёўкі. Мы вырашылі, што забяром алтарную разьбу, некалькі драўляных скульптур, мармуровага анёла і тое-сёе з керамікі і шкла. Астатняе — варта перадаць у раённы музей.

Мы агледзелі надмагіллі. Пад адным з іх, чорным, з выявай перакуленай паходні, некалі спачывалі Ганна Даратэя Палецкая з роду Кішак і Антоній Валенты Палецкі, яе муж. Абое жылі ў васемнаццатым стагоддзі. Яшчэ адна пліта, з прыгожага шэрага, з ружовымі жылкамі мармуру была з магілы іх дачкі, Агнесы Палецкай, памерлай у шаснаццацігадовым узросце. Пліта была трэснутая напалам, відаць, таму яе і не забралі сучасныя марадзёры. У цёмным куце ляжала яшчэ адно надмагілле, на якім некалі, па старым звычаі, быў высечаны барэльеф у выглядзе статуі нябожчыка. Каму перашкаджала выява памерлага — невядома, але ад статуі добра захаваліся толькі ступакі ног, па якіх было зразумела, што тут ляжаў рыцар у поўным узбраенні. Відовішча жудаснае, нібыта сапраўдны зганьбаваны труп.

— Ну, дасць Бог, сёння збольшага ўсё агледзім,— прагаварыла Нюта, падвязваючы шчыльней вакол галавы стракатую хустку ў кветкі.— Заўтра і дахаты.Табе добра, ты вольны птах, а ў мяне дома кіндэры. Пакінь іх надоўга — невядома, што вытвараць. І бацька не ўпільнуе.

Вінцук павесялеў — цудкоўская калекцыя набывала афіцыйны статус. Заставалася агледзець анёла. Ён быў вялікі, у рост чалавека. Здавалася, яго немагчыма скрануць з месца — анёл схіліў калені ў самым куце, упёршыся крыламі ў сцены, там, дзе пачыналіся стэлажы. Вінцук памармытаў у бараду, прынёс тоўстую вяроўку і абкруціў анёла, які ў жаху пазіраў на свайго катавальніка белымі вачыма.

— Ён што, адзін збіраецца яго зрушыць? — прашаптала мне Нюта.

Та-ак, відаць, з мазгамі ў майго Монтэ-Крыста сапраўды не таго... Між тым Вінцук нацягнуў вяроўку, напружыўся... і анёл скрануўся з месца. Нюта таксама ўхапілася за вяроўку, учапілася і я. Анёл пасоўваўся наперад рыўкамі, нібыта грэшнік поўз на каленях да месца пакарання. Нарэшце ён спыніўся, якраз пад лямпачкай пасярэдзіне скляпення. Нюта па-сяброўску пхнула Вінцука ў плячо:

— Ну ты, Геркулес, спецыяльна трэніраваўся, ці што?

— А гэта я, каб пацвердзіць прымаўку — сіла ёсць, розуму не трэба,— прабурчэў задыханы Вінцук.

— Як, ты яшчэ і гаварыць умееш? — не прапусціла «ўшчыкнуць» наўеўскага мізантропа мая сяброўка.

Вінцук зачырванеўся, закашляўся...

І мы ўтраіх пачалі абмяркоўваць скульптуру. Відаць па ўсім, шаснаццатае стагоддзе. Вінцук заўважыў, што хаця майстар і мясцовы, і адчуваецца адсутнасць школы, аднак за ўзор узятая італьянская скульптура. У Гародні ў касцёле ёсць анёл дакладна ў такой самай позе.

— На жаль,— замагільным голасам абвесціў Вінцук,— мы, беларусы, вельмі любім наследаваць чужым узорам, замест таго каб працаваць, як Бог паклаў на нашу, беларускую, душу. Таму й атрымліваецца ў нас усё наперакасяк.

— Глядзіце, тут нешта напісана! — падала голас Нюта.

Сапраўды, злева, там, дзе засталіся рэшткі ад п’едэстала, на якім некалі стаяў анёл, віднеліся літары... Верхняя частка надпісу. Мы пачалі разбіраць яго, і ў нас атрымалася нешта накшталт «Segitur Nemupodus ultor atergo deus». На жаль, знаўцаў латыні сярод нас не было, і мы пачалі гадаць.

— «Деus» — гэта зразумела, Бог, «ultop», здаецца, ці то «гнеў», ці «помста»...

Вінцук уздыхнуў і наважыўся прызнацца пры Нюце:

— У мяне тут лацінскі слоўнік ёсць... Праўда, маленькі...

Па Вінцуковым слоўніку мы вызначылі, што «ultop» сапраўды значыць «помста», «seqatur» — «перасследуе». Слова «tergo» мы вызначылі як форму ад «tergum» — «спіна». У спалучэнні з прыназоўнікам «а» гэта мусіла значыць прыблізна «за спінай». Значыць, гнеў Божы перасследуе нейкага «немвподуса». Нічога падобнага на таямнічага «немвподуса» ў слоўніку не было.

— Або гэта значыць «грэшнік» ці «злачынца», або гэта нейкае асабістае імя або мянушка...— стомлена сказала Нюта.

— Можа...— пагадзілася я.— Немвподус...А можа, мы нешта не так прачыталі?

Вінцук зноў нахіліўся з ліхтаром да анёла, пашкроб літары пазногцем.

— Па-мойму, тут не «р», тут «г». Цяжка прачытаць, кавалак адбіты.

— Значыць, «немвродус»...

— Ну і што нам гэта дае? — скептычна зазначыла Нюта.

— Немвродус... Немврод...— мяне асяніла.— Радуйцеся, што я такая інтэлектуальная! Так называлі Ісава, брата Іакава, з біблейскай прыпавесці. Таго самага, які прадаў брату права першародства за талерку супу! Нават цытату памятаю: «Немврод — моцны паляўнічы перад Госпадам Богам!» Паляўнічы! Паляўнічы... Лоўчы! І помста Божая за неадплачанае злачынства!

Я пераможна зірнула на Вінцука. Анёл некалі вартаваў магілу лоўчага Грыня Вяржбіцкага!

— Ну вось і сапраўды знайшлі ключ ад таямніцы. Цяпер пастараемся высветліць, дзе раней гэты анёл быў. Андрэевіч, на кватэры якога я жыву, кажа, што памятае, як яго трактарам сюды валаклі.

— Які ключ? Што ты зноў за таямніцы развяла? — накінулася на мяне Нюта. Але я моўчкі складала паперы.

Андрэевіч, якога я нахабна выцягнула з утульнага кабінета новай школы, доўга вадзіў нас па заснежанай пустцы між прадуктовай крамай і нарыхтоўчым пунктам, дзе некалі знаходзіўся касцёл. Правільней, вадзіў адну мяне — Вінцук, які змяніў галёшы-пантофлі на валёнкі, моўчкі цёгся за намі, нібыта ў якасці носьбіта майго мальберта, а здарожаная Нюта пажадала мне хутчэй угаманіцца і пайшла адпачываць.

Мы знайшлі месца, дзе некалі знаходзіўся анёл,— не ў самім касцёле, а звонку, у нішы. Там захаваліся рэшткі сцяны. Што ж, месца вядомае. І што цяпер рабіць? Раскопваць гурбы ?

## 7

У дырэктаравым доме Нюта пасябравала з гаспадыняй і дапамагала ёй чысціць бульбу. У такія моманты я заўсёды востра адчуваю сваю недасканаласць. Ну чаму я не здольная вось так нязмушана сыходзіцца з людзьмі, гэтак спрытна ўпраўляцца са спрадвечнымі жаночымі справамі... Ды яшчэ не ўмею схаваць, што ад гэтых спрадвечных... мяне нудзіць. На кухні накрылі стол. Нюта спявала народныя песні, на што яна вялікая майстрыха. Андрэевіч з жонкай на ўвесь голас падцягвалі. Дзеці смяяліся. Паласатая котка вуркатала і церлася аб ногі. Весела было... Як на хрэсьбінах у багатага суседа. Я ледзь выпрасілася да ложка, атрымаўшы ад Нюты абвінавачванне ў адарванасці ад народу.

Я стаяла ў цёмным пакоі і глядзела на будынак панскага дома. Снег блішчэў у блакітным святле месяца, як атлас. Я ўспомніла карціну Вінцука, і падалося, што над вёскай сапраўды ляціць прывідная кавалькада... Сэрца сціснула туга. Я ўявіла, як мой новы знаёмец сядзіць цяпер адзін у пустым доме сваіх продкаў, куды штохвілю могуць завітаць нягоднікі... Але, хутчэй за ўсё, ён — у сваёй майстэрні і працуе, адасоблены ад

свету, недасяжны для зямнога і жорсткага. Я машынальна круціла ў руках ліхтарык. Націснула кнопку... Уявіла, як прамень ляціць, паступова рассейваючыся ў цёмным паветры, бяссілы асвятліць тое, што аддзелена ноччу... Раптам у далёкім акне былой школы таксама загарэўся і згас агеньчык ліхтара. Як быццам стукнуўся ў маё сэрца... Значыць, мы цяпер глядзім адно на аднаго, самотныя ў гэтай начы, у гэтым холадзе, у гэтым свеце...

Знізу даносілася песня пра Касю, якая пайшла воду браці. Я раптам адчула такую тугу, такую адвержанасць ад гэтага месца — са мной бывае,— што апранула футра і кінулася ўніз. Нюта, занятая размовай з Андрэевічам, няўважна зірнула на мяне праз прыадчыненыя дзверы кухні.

На ўсялякі выпадак я прагаварыла:

— Я хутка...

Няхай думаюць, што пайшла ў прыбіральню.

Услед даносілася:

— Конь ваду п’е, п’е,
Ножкаю б’е, б’е.
Уцякай, Касенька,
Ён цябе заб’е.
Хай забівае,
Хай забівае.
Я нікуды не пайду,
Бо цябе кахаю.

Ціха... Толькі снег парыпвае пад нагамі, злятае срэбнымі мятлушкамі з чорнага неба. Зоры, знізаныя ў каралі сузор’яў, ажно сляпілі вока. Адчуванне дзіўнай волі пад гэтым цёмным небам, пад гэтымі вострымі зорамі, пах дыму, брэх сабак, светлыя адбіткі на снезе ад вокнаў зліваліся ў адну неверагодна жывую карціну, якую б я хацела — але ніколі не здолею напісаць.

За маімі плячыма не было магутнага дырэктара, таму я думала толькі асцярожна падысці да музея і паглядзець, ці няма слядоў новага нападу. Наблізілася да варотцаў і ціха стаяла, углядаючыся ў цёмныя вокны. Здаецца, усё нармальна. Снег замятаў ледзь бачную сцяжынку да дзвярэй. Раптам яны расчыніліся. На парозе стаяў Вінцук і моўчкі глядзеў на мяне. Я адчула сябе няёмка. Падумаеш, князь...

Пракрычала ад варотцаў:

— У вас усё ў парадку?

Ён падбег да мяне, заграбаючы снег галёшамі. Чамусьці выглядаў усхваляваным, нават голас дрыжэў.

— Я так часта доўгімі начамі стаяў перад акном, углядаўся ў цемру... Марыў, што да мяне вось-вось нехта прыйдзе. Нечая постаць выплыве з вераснёвага дажджу ці студзеньскай завірухі... І ведаў, што гэта толькі мары. І вось — вы...

Я не была падрыхтаваная да такіх рамантычных слоў і зусім разгубілася.

Вінцук, відаць, зразумеў, уздыхнуў і зноў загаварыў звыкла спакойна і крыху іранічна:

— Ведаеце, Кацярына Аляксееўна, я ціхі не толькі ўзімку. Абяцаю схаваць рамантычныя настроі ў кішэню ватоўкі. Князь Палецкі запрашае вас у свой палац, і можаце быць спакойныя за сваю рэпутацыю.

І раптам неяк па-дзіцячы пакрыўджана:

— Слухайце, я зараз змерзну.

Мы зноў сядзелі сярод карцін і старой мэблі. І... сварыліся. Я сцвярджала, што трэба найхутчэй абнародаваць інтрыгу з каралеўскім крыжам, магчыма, праз публікацыю ў прэсе. Арганізаваць раскопкі на месцы гіпатэтычнай магілы Грыня Вяржбіцкага. Карацей, зрабіць усё магчымае, каб каштоўнасць не трапіла ў мафіёзныя рукі. Вінцук, наадварот, прапаноўваў захаваць у таямніцы ўсё, пра што мы даведаліся, і пакінуць памерлым іх маёмасць разам з праклёнам.

— Грэх выцягваць з магілы на Божы свет тое, што вечна будзе несці з сабой спакусу сквапнасці і зайздрасці! Вы ўявіць сабе не можаце, які ланцуг злачынстваў можа за ім пацягнуцца! Нават калі, у лепшым выпадку, вы паспееце выкапаць крыж першай, наўрад ці вам удасца перадаць яго ў музей. У вас ёсць гарантыя, што не знойдзецца майстар, які заменіць яго падробкай? Вы ўпэўненыя, што нашы «органы аховы правапарадку» застрахаваныя ад элементарнай карупцыі ці шантажу, што вас жа не арыштуюць за зніклую таямнічым чынам каштоўнасць? У Льва Талстога ёсць прыпавесць пра двух святых манахаў, перад якімі зваліўся проста з неба мех з грашыма. Адзін манах кінуўся бегчы прэч. Другі падумаў, што хоць грошы і ад злой сілы, але могуць паслужыць дабру, і ўзяў іх. Пачаў будаваць лячэбніцы, раздаваць жабракам міласціну. Калі манахі сустрэліся зноў, выявілася, што той, што збег ад спакусы, захаваў сваю святасць, а другі, які ўзяў грошы, страціў яе!

— Вы проста іпахондрык! — крычала я.— Вы і з карцінамі сваімі так — нібыта талент дадзены вам для ўласнае ўцехі. Не вамі дадзена — не вам яго і хаваць ад людзей! І пра скульптуру — вы ж ведалі яе сапраўдную каштоўнасць, а дзеду не сказалі. Няхай бы стары пры жыцці парадаваўся.

— Чаму вы думаеце, што я не гаварыў? Ды хто ж вар’ята слухае. А карціны... Вы б хацелі, каб я зладзіў выставу, учыніў перформанс, уразіў артыстычны свет сваёй ватоўкай і галёшамі ў спалучэнні з вытанчанай каларыстыкай? Навошта? Для мяне нічога няма важней за ўнутраную волю. А сувязь з матэрыяльнымі рэчамі, прывязанасць да каштоўнасцей свету гэтую волю парушаюць. Як толькі чалавек перастае быць гатовым без жалю пакінуць усё, што мае, ён робіцца рабом гэтага!

— А хто вам даў права лічыць сябе вольным ад свету? — абуралася я.— Вы не змаглі стацца пустэльнікам, не падманвайцеся. Вас моцна трымаюць зямныя жарсці. А вы не думалі, што Гасподзь абраў вас сваім інструментам, каб праз вашы творы нешта дадалося да агульнай духоўнасці? Хіба можна адпрэчыць галоўны сэнс мастацтва — служыць камертонам прыгажосці, які настройвае душы на ўспрыняцце ісціны?!

Пан Палецкі толькі іранічна бліснуў вачыма.

— Сучаснае мастацтва ідзе хутчэй па шляху дэструкцыі, разбурэння прыгажосці, вам хіба не ведаць. І не трэба навязваць мне месіянства — цяпер гэта модна, але прэтэндаваць на званне «божага інструмента» — і грэх, і наіўнасць. Так што раю і вам адмовіцца ад гэтай ролі — бязгрэшнай статс-дамы, апякункі дабрадзейнасці пры каралеўскім двары. Вы праносіце сябе па жыцці, як чашу Грааль, вынайшлі для сябе высокі востраў. Быў у мяне сусед па псіхушцы, якому здавалася, што ўсё навокал бруднае, а ён адзін чысты. Так што небараку даводзілася сілком карміць і ўкладваць на ложак, бо ён баяўся запэцкацца. Як вы. Пакуль недасканалыя людзі, якія не могуць адрозніць Канта ад Конта, цягнуць на сабе жыццёвыя крыжы, кожны як можа, і ствараюць тое жыццё, без якога вы — проста мармуровы анёл без сэрца.

— Што?! Гэта я — без сэрца?

Мы злосна глядзелі адно на аднаго.

Вось вам рамантычнае спатканне.

Мяне разабраў смех. Вінцук няёмка кашлянуў... і таксама рассмяяўся. Злосць знікла бясследна. Сапраўды, што нам дзяліць у гэтым свеце? У словах кожнага была горкая

існіна. Але крытэрыі, па якіх мы спрабавалі намацаць шлях да адзінай Ісціны, былі ў нас адны. Ёсць крыж, няма, ці нам кідацца ў залатую ліхаманку?

Княскі нашчадак раптам спытаў таямнічым шэптам:

— Падарожжы ў часе любіце?

Я няпэўна паціснула плячыма... Што ён прыдумаў? Вінцук падышоў да бронзавага падсвечніка, які стаяў на камодзе, і запаліў свечкі. А тады выключыў лямпачку. Па пакоі шаргатнуліся цені. Столь згубілася недзе ў вышыні. Цьмяна засвяціліся металічныя аздобы мэблі і рамкі карцін. А вочы на партрэтах зрабіліся бяздоннымі і жывымі. Так, жывымі. Я забылася, што яшчэ нядаўна паблажліва называла гэтыя карціны дылетанцкімі. Мне нібыта адкрылася іншае, сапраўднае, аблічча гэтага дома. Вінцук паднёс падсвечнік да аднаго з партрэтаў. На мяне сярдзіта зірнуў самавіты вусач, лысы, як медаль.

— Дазвольце прадставіць вам пана Кабылянскага, палкоўніка ў адстаўцы, уладальніка суседняй вёскі і заўсёднага партнёра майго прадзеда па картах...

Вінцук цырымонна пакланіўся. А я што, горш за Папялушку? І прысела ў рэверансе.

Ніколі не забуду той вечар. Мы, як дзеці, размаўлялі з партрэтамі, з вазамі, з мэбляй, смяяліся, прыдумлялі страшныя «гатычныя» гісторыі... Баль ценяў... Якія ніколі не пакідалі гэты дом, проста хаваліся па кутах. І гэта можа быць знішчана! Я пачала марыць, каб узамен за знойдзены крыж дзяржава выдзеліла грошы на аднаўленне дома і ўтварэнне ў ім вялікага музея.

— А галоўным экспанатам будзе прамы княскі нашчадак!

Вінцук скептычна пахітаў галавой:

— Два гады таму ў суседнім мястэчку экскаватаршчыкі выкапалі скарб — спрэс золата, срэбра ды каштоўныя камяні. На некалькі сотняў тысяч долараў. Улады «пранюхалі», змусілі рабацяг здаць скарб і выплацілі на ўсіх... дзвесце долараў. На падставе афіцыйных актаў аўтарытэтнай эспертызы. І ў самых лепшых абставінах прабабчын крыж нават у музей не змесцяць — ён жа з-за каштоўнасці перліны трапіць ў дзяржаўны валютны фонд.

Мы ўселіся ў крэслы і чамусьці пачалі ўспамінаць свае жыцці. Я не заўважыла, як расказала Вінцуку пра Альберта, пра Радзіка... Пра свой няўдалы шлях у мастацтва... Чамусьці мне было лёгка расказваць яму ўсё.

Як ціха... Утульна... Толькі каміна ўсё-ткі не хапае. Пачуўшы пра маю настальгію па камінах, Вінцук адчыніў дзверцы грубкі, і агонь пачаў выконваць мне свой складаны рытуальны танец. Не хочацца зноў ісці на холад, але Нюта, напэўна, хутка заўважыць маю адсутнасць. Я прыўзнялася.

— Ну, мяне чакаюць...

Вінцук нейк дзіўна глядзеў на мяне. Як на кітайскую вазу. Раптам устаў, узяў са стала ліхтар.

— Пойдзем! Апранайцеся, там холадна...

Гэта яшчэ што за фокусы?

— Паўгадзіны вы можаце ахвяраваць... Я толькі накідаю эскіз.

О, Госпадзе, чаму Ты спасылаеш мне адных апантаных мастакоў?

Я пазіравала для карцін самых розных. Але мастака, які б працаваў так, як Вінцук, я не бачыла. Здавалася, над ягонай калматай галавою распаўсюджваецца нейкае ззянне, як ад свечкі. Праз хвілін дваццаць я не вытрымала, каб не зірнуць на палатно... Мяне ўразіла, колькі ён паспеў за гэты час зра-біць — ужо вымалёўвалася будучая карціна... І мне захацелася, каб яна была скончаная. Я ціхенька вярнулася на крэсла.

Вінцук пісаў, нібыта ў апошні раз, і мармытаў сабе ў бараду:

— Дзёрзкасць... І безабароннасць... Так і належыць... Так і добра... Чысціня і наіўнасць... Але з горыччу, з горкім адценнем. Лазурак і залацістыя адценні... Толькі

прасветы. Боязь жыцця — адкрытасць насустрач — і боязь... Канфлікт кармінавага і смарагдавага... Вар’яцкае спалучэнне...

— Слухайце, не магу ўсвядоміць, ці вы вар’ят, ці псіхатэрапеўт,— не вытрымала я.

Мастак ніяк не адрэагаваў на мае словы, час ад часу працінаючы мяне з-за мальберта позіркам.

Раптам унізе, на першым паверсе, нешта загрукала.

— Вінцук, чуеце?!

Не чуе. Я падбегла і патрэсла яго за рукаў.

— У доме нехта ёсць!

Вінцук апусціў пэндзаль і недаўменна паглядзеў на мяне. Дзесьці ўпала нешта металёвае. Вартаўнік кінуўся да выключальніка, патушыў святло і схапіў мяне за руку.

— Хадзем, толькі ціха!

— Можа, гэта Нюта мяне шукае? — няўпэўнена шапнула я, але зараз жа ўнізе пачуўся такі грукат, які неўзнарок нават Нюта не магла б утварыць. Мне зрабілася страшна.

Вінцук пацягнуў мяне за руку па цёмным калідоры, пасля па вузкай вінтавой лесвіцы... А ў доме чуўся пранізлівы жаночы голас:

— Я ведаю, што ты тут! Выходзь, пагаворым! Ты стаў баяцца мяне, Віктар? Не бойся. Мне ўсяго толькі трэба з табой пагаварыць! Я так больш не магу. Будзь разумны...

У канцы лесвіцы знаходзілася нізкае акно, забітае дошкамі. Вінцук адным рухам выламаў іх.

— Ну, усё, ідзіце... Тут невысока.

— А вы?

— Я вартаўнік. Як жа мне пакінуць даВераны аб’ект? Не хвалюйцеся, нічога яны мне не зробяць, а ад свайго лёсу не ўцячэш. Давайце падсаджу... Ну...

Але не паспела я ўскараскацца на падаконнік, як перада мной узнікла страшная чырвоная фізіяномія з аптымістычнай усмешкай.

— Банжур, мадам. Куды спяшаецеся?

І па сотавым тэлефоне:

— Гаспадыня, яны тут! Барадаты з нейкай бабай! Адкуль я ведаю, што за баба? Рудая, сімпотная. Добра, трымаю.

## 8

Шэравокая «прынцэса» глядзела на мяне з нянавісцю.

— Ты, даражэнькая, проста як прывід: калі ні з’явішся, тут як тут. Спадабалася, напэўна...

І прыгажуня некалькімі квяцістымі фразамі распісала, што канкрэтна мне спадабалася ў вартаўніку, а яму ўва мне, і хто я такая ёсць. Ад бруднай лаянкі я звычайна губляюся і адчуваю тужлівае неразуменне. Але тут мяне настолькі ўразіў кантраст між вытанчаным абліччам дамы і брудам, які ліўся з яе дасканалых вуснаў, што я проста з цікаўнасцю глядзела на яе, як на рэдкую жывёлу.

— Замаўчы,— жорстка сказаў Вінцук.— Не варта мераць іншых па сабе. Кацярына Аляксееўна займаецца тут сваёй навуковай працай. Ёй, дарэчы, час ісці. Яе чакаюць супрацоўнікі. Так што не рабі глупствы, няхай Кацярына Аляксееўна пойдзе, і абяцаю, што я пагавару з табой.

«Прынцэса» штучна засмяялася:

— Ну, па-першае, калі ўжо ты ўпершыню за два гады зрабіў мне такую ласку, што загаварыў са мною, то я падазраю, гэта не без уплыву тваёй навукоўкі. Па-другое, яна зараз пойдзе і падыме шухер, прывалачэ якога-небудзь ідыёта. І па-трэцяе, ёсць у нас меркаванне, што твая дамачка можа дапамагчы нам па адным цікавым пытанні. Так што няхай яна тут, у цёплым месцы, пасядзіць, пакуль мы паразмаўляем. І сядзіць ціхенька, а то мае хлопчыкі вельмі нервовыя...

На гэты раз з «прынцэсай» было трое «хлопчыкаў»-бамбізаў, не лічачы антыквара. Мяне ветліва правялі ў першую залу музея і пасадзілі на крэсла перад калыскай, так што я адчула сябе часткай экспазіцыі. На другім канцы залы антыквар, які час ад часу кідаў на мяне злыя позіркі, курыў і ціха перагаворваўся з чарнявым тыпам з баксёрскім прыплюснутым носам. Яшчэ адзін «хлопчык», прыгажунчык з каротка стрыжанымі светлымі валасамі, забаўляўся тым, што круціў у руках ножык-«матылёк». Ну а той чырванаморды, што злавіў нас ля акна, відаць, па-ранейшаму ахоўваў дом ад непажаданых сведак. З другой залы пачуўся голас «прынцэсы». Мусіць, дзверы няшчыльна зачыненыя. Я схавала твар у каўнер футра, каб не выдаць сябе эмоцыямі, і прыслухалася. «Прынцэса», мяркуючы па інтанацыі, хвалявалася — ніколі б не падумала, што такая лялька можа хвалявацца.

— Ты нават не спрабаваў мяне зразумець. Як быў казлом, так і застаўся... (Умеюць жа некаторыя гаварыць квяціста!) Пажыў бы, як я, з бацькамі-алкашамі, у кватэры, дзе нават коўдры прапілі... Я табе сказала, што я з дзетдома, жыву на кватэры... Баялася, што ты пабачыш той бруд, у якім я жыву. Я нават зрабіла ўсё, каб маці і бацька не даведаліся, што я выходжу замуж, каб не дай Бог не з'явіліся на вяселле. Каб твая мамачка ў капялюшыку не пабачыла маёй маці ў паркалёвай хустцы. Ты ж быў прынц, паніч, узвышаная натура. Для ўсіх я была — Верка, для цябе назвалася Вітай. Дзе табе здагадацца, што я сукенку ў сяброўкі пазычыла, што, каб купіць сабе французскія духі — табе ж спадабаўся іх пах! — цэлы месяц аблічвала пакупнікоў, ружы другога гатунку падстаўляла да першага гатунку. Што дырэктар крамы аднойчы гэта заўважыў, і, каб замяць справу, мне давялося аддацца яму проста ў кутку крамы, пасля працы... А ты чакаў мяне на вуліцы, каб павесці да чарговых геніяльных знаёмых. А ты ведаеш, чаго мне каштавалі тыя візіты да геніяльных знаёмых? «Ах, Кандзінскі! Ах, Драздовіч! А вы чыталі апошнія вершы Разанава?« Яны думалі, я сціплая і маўклівая... А я слова баялася вымавіць... І ты яшчэ вучыў мяне размаўляць на гэтай калхознай мове. Ды яна мне дома абрыдла, мацюкамі перасыпаная! Ты ж не прыняў бы мяне такой, якая я была, ці не так?

— Табе вельмі хочацца, каб я быў вінаваты? Што ж, прызнаю сваю віну. Сапраўды, глядзеў на свет праз ружовыя акуляры. Але ты дарэмна баялася — я вельмі цябе кахаў. Ты магла разлічваць на мяне.

— Казёл! — злосна выгукнула Вера.— Ты хацеў бачыць багіню. Але якая б мыла табе шкарпэткі. Ну, што ж, я мыла твае шкарпэткі... І, ведаеш, нават шчаслівая пры гэтым была.

— Дык чаму ж не хапіла табе гэтага шчасця? Не толькі ж мыццё бруднай бялізны ў цябе было... Нашто спатрэбілася прадаваць мяне крымінальнікам?

— Дурань! Гэта самы звычайны бізнес. Ды я табе колькі пра гэта ўжо... А ты, калі ў мянтоўку пайшоў, думаў, што са мной зробяць?

— Я нічога пра цябе не расказваў.

— Я не пра міліцыянтаў,— што яны могуць, а пра тых... крымінальнікаў. Маё шчасце, што Бог даў мне прывабны тварык. Выкруцілася. Нават, як бачыш, угару пайшла.

— Віншую.

— І не трэба намякаць, што я — сцерва, а ты — святы. Колькі разоў я да цябе ў бальніцу прыходзіла, колькі цябе прасіла? Ты ж як слуп на сваім стаяў... Нават не размаўляў са мною. І вось, бачыш, чаго дабіўся — сядзіш тут, як воўк, ні працы, ні хаты. Якая шалава на ноч прыбяжыць — дык і рады. Але цяпер хоць паслухай... Таму што я больш прапаноўваць не буду.

Вера загаварыла ціха і горача:

— У цябе зараз ёсць шанец. Я ведаю, вы знайшлі месца, дзе тая залатая штуковіна. А можа, і сама яна ў вас? Антыквар кажа, яна тысяч на трыста баксаў пацягне. Мы яе прададзім і з’едзем разам за мяжу. Я — не дурная, даўно валодаю паловай акцый свайго благавернага. Калі хочаш ведаць, у нашым свеце я маю больш уплыву, чым ён. У мяне зараз у адным банку два мільёны баксаў. Ну а крыж — будзе твой пасаг. Я ведаю, ты не мог на мяне забыцца. Няма такога мужыка ў свеце, які б мог на мяне забыцца. Ты скажы толькі месца, дзе, на тваю думку, закапана тая халера. І хай яны капаюць. Папраўдзе, крыж для мяне — толькі падстава. Я нават не надта веру, што ён існуе. Ты толькі згадзіся... І мы з табой з’едзем. Куплю табе майстэрню, дзе захочаш,— у Парыжы, у Венецыі, у Швейцарыі... Зноў будзеш маляваць, твае карціны трапяць у лепшыя галерэі свету. Усё табе дам, што пажадаеш. Дурненькі мой...

Голас «прынцэсы» загучаў упэўнена-ласкава... Але адразу ж змяніўся. Відаць, Вінцук не адрэагаваў на яе ласку.

— Грэбуеш? Ды хто ты такі? Ты хоць разумееш, што варта мне пальцам кіўнуць і цябе зараз на кавалачкі настругаюць. І цябе, і тваю... А я — з усёй душой...

— Бедная, бедная Віта,— Вінцук гаварыў спакойна-спачувальна.— Ты так і не зразумела, што не ўсё ў жыцці можна купіць.

— Усё! І цябе куплю з вантробамі, і гэта куплю, і гэта... — пачуўся гук разбітага посуду. «Прынцэса» відавочна вырашыла спагнаць раздражненне на цудкоўскай калекцыі.

— Асцярожней, Вера Сцяпанаўна, гэта ўсё музейныя экспанаты, за захаванасць якіх я адказваю.

Відаць, Вінцук затрымаў яе руку, таму што «прынцэса» зашыпела ад злосці:

— Чапаць мяне!.. Паскуда! Хопіць здзекавацца, душу маю даставаць. Зверху ўніз пазглядае, прынц! Ну, я цябе ўтаймую, як некалі сваю любімую аўчарку Бэтсі... Яна таксама некалі на мяне гыркала, а цяпер ногі мне ліжа. Дзімыч! Паша!

Целаахоўнікі кінуліся на вокліч гаспадыні. Пачуўся страшэнны грукат, і адзін з іх чамусьці адразу вылецеў праз дзверы назад, ударыўся аб старажытную ступу і з лаянкай зноў рынуўся ў бойку.

«Прынцэса» верашчала:

— За што я вам грошы плачу! Слабакі!

Антыквар непадалёку ад мяне спалохана прыціснуўся да сцяны. У залу прабег трэці «хлопчык», той, чырванаморды, відаць, выкліканы з вуліцы. Ну чаму гэты княскі дом стаіць наводшыбе! Каб хоць трохі бліжэй да жытла — такі вэрхал абавязкова б нехта пачуў... Зноў грукат, глухія ўдары, лаянка, вось быццам бы нехта ўпаў. Раптам пачуўся страшны хрыплы крык-стогн... Вінцук! Я ўскочыла — антыквар кінуўся да мяне з воклічам: «Сядзець!», але не паспеў: я ўварвалася ў залу... Вінцук ніцма ляжаў на падлозе. Чырванаморды ўпіраўся каленам у ягоную спіну і за валасы прыпадымаў яго твар ад падлогі, двое другіх выкручвалі вартаўніку рукі... А «прынцэса» стаяла перад ім і тыцкала ў твар вострым носам серабрыстага боціка:

— На мяне глядзі! На мяне! Яшчэ раз шокерам яго!

— Мадам захапляецца садамазахізмам? — я проста кіпела.— Магу падказаць адрасок аднаго мінскага клуба, дзе хапае вычварэнцаў, якія будуць лізаць вам боты. Яшчэ і грошыкі заробіце на калготы ў сетачку. А тут неяк непрыгожа выглядае...

Думаю, яна зрэагавала не столькі на сэнс маіх слоў, колькі на з’едлівы тон.

— Яшчэ адна «вумная»... Прыгод шукае на сваю... (тут была выдадзена чарговая порцыя лаянкі, якую не хочацца цытаваць). Зараз скажу Дзімычу, каб ён цябе задаволіў. Проста тут.

Прыгажунчык Дзімыч паглядзеў на мяне і расплыўся ва ўсмешцы:

— Як загадаеце, Вера Сцяпанаўна. Я гатовы.

Я зразумела, што гэта не жарты. Спадзяюся, мой твар захаваў выраз спакойнай грэблівасці.

— Крыж сапраўды існуе,— цвёрда сказаў Вінцук.— Ён у магіле Грыня Вяржбіцкага. Пад тым месцам, дзе стаяў мармуровы анёл. На плошчы, дзе рэшткі фундамента касцёла, прыблізна метр ад металічнага слупа...

— Той анёл, што ў скляпенні? — удакладніў антыквар.— Я так і думаў, што неабходна яго агледзець. На ім ці надпісы нейкія засталіся, ці таемныя схованкі... А то важдаліся, далікатнічалі...— апошнія словы гучалі мяккім дакорам на адрас гаспадыні.

— Вера Сцяпанаўна, я ведаю! Яны там сёння паўгадзіны тырчэлі, пальцам у тое месца тыцкалі. Я добра запомніў,— радасна азваўся чырванаморды.

— Адпусціце яго,— загадала «прынцэса».

Вінцук, хістаючыся, падняўся. Відаць, Вера Сцяпанаўна спадзявалася, што яго словы — першы крок да згоды... З якімі ж нікчэмнасцямі яна мела справу, калі верыла, што прыніжэнне спараджае сімпатыю да больш моцнага! Вінцук зноў з каменным тварам утаропіўся ўдалеч. Гэты выраз, які сапраўды мог давесці да шаленства, відаць, быў добра знаёмы «прынцэсе» — яна зласліва прыкусіла губу і адвярнулася.

— Гаспадыня, выкапваць трэба,— азваўся адзін з наёмнікаў.

Яго падтрымаў антыквар:

— У мяне ёсць план касцёла, дзе пазначаны надмагільны помнік у выглядзе анёла, так што заарыентуемся да сантыметра. Вера Сцяпанаўна, у нас жа самае сучаснае абсталяванне, найменшую металёвую рэч на адлегласці трох метраў вылічым. Зробім ціха і хутка. Паставім сцяжкі і шыльду: «Рамонт цепласеткі». Заўтра ж могуць набегчы розныя...

Антыквар ажно ўспацеў. «Хлопчыкі» таксама захваляваліся ад блізкасці грошай і цяпер на месцы не маглі ўстаяць, гатовыя бегчы і зубамі грызці мерзлую зямлю. Вера Сцяпанаўна паддалася неадольнаму прыцягненню дармовага багацця.

— Паехалі. Ягоная прабабка не магла ж капаць на тры метры. Недзе зверху на магілку, дурніца, кінула, каменьчыкам прыціснула, пясочкам прысыпала... А гэтых нельга выпускаць, пакуль не знойдзем. Дзе ключы ягоныя?

Чырванаморды паказаў гаспадыні звязак ключоў, якія звычайна віселі ў Вінцука на шыі.

— Падбярыце, які з іх ад скляпення...

## 9

За намі бязлітасна грымнулі дзверы. Я пачула, як Вінцук цяжка падымаецца, намацвае выключальнік. Запалілася святло. Я зноў пабачыла стэлажы, драўляныя фігуры, мармуровага анёла...

— Вы ўсё-ткі ім сказалі...

Вінцук памаўчаў, пасля прысеў на перакуленую драўляную святую Барбару.

— Там нічога няма.

Я са здзіўленнем глядзела на ягоны спакойны твар.

— Адкуль вы ведаеце?

Вінцук вытрымаў паўзу, павольна падняўся, узяў з падлогі жалезную штуковіну, відаць, таўкач ад старажытнай ступы, падышоў да мармуровага анёла і з сілай ударыў яго ў грудзі, у тое месца, што прыкрывалі складзеныя далоні. Я падышла і пабачыла, што там утварылася трэшчына. Але гэта ж немагчыма... Мармур не можа так трэскацца. Вінцук ударыў яшчэ некалькі разоў, пасыпаўся друз, і на грудзях анёла зазеўрала рана. Там нешта бліснула.

— Вось вам і крыж, і праклён роду Вяржбіцкіх разам з ім.

Я аж захлынулася ад абурэння і здзіўлення.

— І вы ўсё ведалі?

— Даўно. Я заўважыў у гэтым месцы трэшчынку. Прыгледзеўся — аказалася, раствор. Некалі тут было акенца для лампады. Уяўляеце — анёл з палаючым сэрцам над магілай грэшніка? Але акенца замазвалі некалькі разоў. Відаць, мясцовыя святары палічылі, што дзірка ў скульптуры — нейкая кашчунная трактоўка, і загадалі заляпіць яе. Я ніколі не думаў, што прабабка, вытанчаная паненка, магла раскопваць магілы. Яна проста адбіла тут стары раствор, ці, хутчэй за ўсё, у ім ужо была трэшчына. Паклала крыж і замазала зверху новым слоем. Нездарма ж спрабавала сябе і ў скульптуры. А апошні раз закрываў гэтае месца я, два гады таму. Закамуфляваў так, каб не было магчымасці адрозніць ад іншай паверхні. Тым больш камень стары, вышчарблены.

— І вы не сказалі мне раней?..

— А навошта? Я застаюся пры сваёй думцы: такія рэчы толькі спараджаюць спакусу. Ад іх належыць пазбаўляцца. Не дарую сабе, што пасентыментальнічаў і не знішчыў гэтую штуку.

Я засунула руку ў рану на грудзях анёла і дастала крыж. Ён не быў вялікі — можа сантыметраў пяць у даўжыню. Упрыгожаны дробнымі каменьчыкамі, здаецца, аквамарынам. І ў цэнтры, як мёртвае вока, цьмяна паблісквала перліна памерам з вішню. Часта жэмчуг траціць сваю каштоўнасць у неспрыяльных умовах. Але перліна, на якую я глядзела, нават на мой неспрактыкаваны позірк, была цудам. Здавалася, з яе срабрыста-чорнай сферы выпраменьваецца сама цемра.

Я працягнула крыж Вінцуку:

— Што ж з ім цяпер рабіць? Перахаваць?

— Паглядзім...

Вінцук сунуў крыж у кішэню нагавіцаў.

— Я вельмі шкадую, Кацярына Аляксееўна, што вы патрапілі ў такую гісторыю. Гэта ўсё з-за таго, што я затрымаў вас дзеля карціны. Сапраўды, мастакі — эгаісты.

— Сама вінаватая. Прыйшла ў госці без запрашэння. Дарэчы, завіце мяне Касяй, не тыя абставіны, каб цырымо-ніцца.

— Добра, Кася... Даруйце, дарэчы, за тое, што я вам та-ды нагаварыў, пра чашу Грааля. Можа быць, гэта проста ад усведамлення, што ў мяне няма ніякіх шанцаў.

— Па-мойму, у нас абаіх цяпер аніякіх шанцаў...— прабурчэла я, прысаджваючыся на перакуленую скульптуру. — Як там абяцала ваша Віта, на кавалачкі нас настругаюць? І чаго вы прыбядняецеся наконт шанцаў? Такая жанчына вас любіць, ад кахання шалее. Праўда, з элементамі садызму, але ў гэтым можна нават своеасаблівую прывабнасць знайсці.

Вінцука перасмыкнула.

— Не варта так жартаваць. Тым больш што... што я пакахаў іншую. Хаця апошнія восем гадоў не верыў, што гэта магчыма. Як у Булгакаўскага Майстра — каханне выскачыла з-за кута, як забойца, і ўдарыла нажом у сэрца... Не памятаю дакладна. Ну, нейкая такая рамантычная лухта. Ды не палохайцеся, Кася, я не збіраюся ўчыняць сцэну. І не хвалюйцеся, хутка ўсё скончыцца, вы вернецеся ў свой свет, напішаце

доктарскую дысертацыю і наўеўскі дзікун выпарыцца з вашай памяці. Толькі не ўздумайце шкадаваць мяне. Я абсалютна самадастатковы.

Я хацела аджартавацца, але даўкі камяк перасеў у горле. А са мной што адбываецца?! Госпадзе, я ведаю яго ўсяго два дні!

«Самадастатковы»ў парванай кашулі стаяў каля стэлажоў, разглядаючы пыл на іх. Ды яшчэ пасля бойкі ён застаўся ў адным галёшы... Рамантычны, пасінелы ад холаду герой з ліхтаром пад вокам.

— Вось што, шаноўны князь у адной галёшы, калі вы не хочаце ў дадатак да кухталёў атрымаць які плеўрыт, прысаджвайцеся сюды і не пагрэбуйце накрыцца паловай майго футра. А то мяне ваш прывід па начах замучае.

Ссінелы князь Палецкі нейкі час павагаўся, пасля прысеў побач, абхінуўся маім футрам. І абняў, прыціснуў да сябе... Я адчула, як шалёна калоціцца яго сэрца... А можа, гэта стукае маё? Ці мы зрабіліся нечым адным, і сэрца ў нас адно, і адзін боль, і адно жыццё?..

...Толькі б гэтае імгненне ніколі не канчалася!

Наверсе бразнуў засоў.

— Сядзяць, як галубочкі... Давай, барадаты, выходзь, магілка твайго прадзеда даўно да нас абшуканая. І без фокусаў, у мяне электрашокер.

Мы зноў апынуліся пад позіркамі музейных партрэтаў — відаць, «прынцэсе» імпанавала арыстакратычная абстаноўка. Але я ўжо была іншай. Гэты дом і гэтыя партрэты не былі мне чужымі. Я стаяла каля дзвярэй, за маёй спінай дыхаў «прынцэсін» «хлопчык». Было страшна, вядома, але страх чамусьці згасаў перад дзіўным адчуваннем таго, што ўва мне ёсць нешта такое, што непадуладна нікому, агеньчык, які нельга загасіць нічым, нават смерцю...

Вінцук, зноў каменна-абыякавы, прытуліўся да грубкі. Языкі полымя, здавалася, хацелі выскачыць з адчыненых дзверцаў.

«Прынцэса» злосна зірнула на Вінцука:

— Ты сказаў, што крыж ёсць. Некалі ты не ўмеў маніць. Навучыўся, ці што?

— Ды ўжо наўрад ці навучуся,— спакойна сказаў Вінцук, раптам рэзка дастаў з кішэні руку з заціснутым крыжам, на імгненне затрымаў — каб усе пабачылі, што гэта, і кінуў крыж у агонь.

«Прынцэса» ахнула, «хлопчыкі»з лаянкай кінуліся да грубкі, але Вінцук нейкі час «трымаў абарону», адкідваючы іх прэч. Нарэшце яны, загіпнатызаваныя відовішчам знішчэнна багацця, уцямілі, што найперш трэба нейтралізаваць абаронцу. Зноў паўтарылася брыдкая сцэна з крутых дэтэктываў. Чаму я ніколі не займалася ўсходнімі адзінаборствамі! Чарнявы падонак! Я паспрабавала адцягнуць яго ад Вінцука, але ён адшпурнуў мяне, як кацяня. Тым часам падаспеў антыквар з нейкім прэнтам, пашарыў у вуголлях, і на падлогу ўпаў пачарнелы, аплаўлены крыж, з вугальком пасярэдзіне...

— Позна...— выгукнуў антыквар, падбег да паваленага Вінцука і з усяе сілы даў яму нагой у бок.— Паскуда!

«Прынцэса» маўчала. У яе быў нейкі разгублены выгляд. Я раптам убачыла, што яна ўжо не такая маладая і не такая ўпэўненая ў сабе... Яна глядзела на агонь, не ў змозе ўсвядоміць, што адбылося, як гэта чалавек спаліў трыста тысяч баксаў. Глядзела з нейкай наіўнай крыўдай, як дзіця, на вачах якога лопнуў цудоўны паветраны шарык. Нават рот у яе адкрыўся...

Можа, ад нерваў, не ведаю, але я рассмяялася. Вінцук прыўзняў галаву ад падлогі, паглядзеў падбітымі вачыма вакол, на твары, перакрыўленыя бяссільнай злосцю, і таксама засмяяўся. Так мы і хіхікалі, як два ідыёты, і не ведаю, чым бы скончылася гэтая сцэна, але ў дзвярах пачуўся магутны вокліч:

— Кася! Ты тут? Зноў прыгод шукаеш на сваю галаву? О, а народу колькі!

Гэта была Нюта, мая дарагая Нюта. Як яна пасля мне распавяла, сядзелі яны з Андрэевічам і Мацвееўнай да гадзіны ночы, прычым Нюта добра-такі апрацавала новага дырэктара наконт каштоўнасці музея і прэстыжнасці яго для ўсяго раёна, школы і Андрэевіча ў прыватнасці. І толькі калі Нюта пайшла класціся спаць, убачыла, што мяне няма. Андрэевіч успомніў, як учора я пацягнула яго ў музей ганяць гарадскіх бандытаў. Нюта ўстрывожылася. Безумоўна, пайсці ў такі позні час і так надоўга я магла толькі ў княскі дом. Але тут між Нютай і гаспадарамі разгарэлася спрэчка, ці я там бандытаў ганяю, ці ў мяне рамантычная прыгода, і іх прысутнасць будзе, мякка кажучы, залішняй. Мацвееўна была перакананая, што з кудлатым бажаволкам рамантычных пачуццяў у гарадской прыгажуні быць не можа. Нюта, з аднаго боку, ведала, што я не схільная да флірту і бегаць па начах на спатканні да малавядомых мужчын не ў маім характары. А з другога боку, перад ёй жа Вінцук выявіў сябе як адукаваны, хаця дзіўны чалавек. Яна нават лічыла яго цікавым. Нарэшце Мацвееўна паглядзела ў акно і сказала, што ў бок княскага дома едзе машына. І Нюта з Андрэевічам рушылі на выручку. Прычым Андрэевіч, якому надта не спадабалася фізіяномія ўчарашняга бамбізы, прыхапіў з сабою заспанага кума-ўчастковага.

«Прынцэса» на развітанне паглядзела на збіты твар свайго колішняга прынца, неяк сумна, тужліва паглядзела, і сур’ёзна прамовіла:

— Нешта не атрымліваецца ў мяне з табою. Мусіць, характары не супадаюць.

Гумарыстка. І пайшла на сваіх высокіх абцасіках у атачэнні панылай світы.

Вінцук нясмела зірнуў мне ў вочы — шукаў адказу: ці тое, што раптоўна нарадзілася між намі, яшчэ мае для мяне значэнне?

Паглядзеў, супакоіўся, нават заўсміхаўся.

А Нюта тым часам шчыра лаяла мяне, бязмозгую, за тое, што ўсё ў мяне не па-людску, усё я нарываюся на нейкія здарэнні і ніколі мне не пачаць нармальнае жыццё...

Мы ўгаварылі Вінцука пераначаваць у Андрэевічавага кума.Тым больш кум вельмі ўсцешыўся, што мы не збіраемся судзіцца з гарадской магнаткай, і абяцаў «спісаць» пабітыя вазы на няшчасны выпадак. Я вельмі баялася, каб бандзюгі не вярнуліся ды чаго не ўтварылі. Кум-міліцыянт уласнаручна зачыніў музей, засведчыўшы, што рэчы на месцы, агонь у грубцы патушаны, электраправодка ў парадку. Мы нават забілі акно, ля якога нас зламіў чырванаморды.

## 10

Раніцай падаў лёгкі снег, свяціла зімовае сонейка. Мы — Нюта, я і Андрэевіч — кіраваліся да панскай сядзібы. Насустрач нам няспешна, здзекліва няспешна праехала машына з зацемненымі вокнамі. Раптам у доме нешта выбухнула. З разбітых шыбаў паплыў чорны дым, такі недарэчны на фоне бліскучага снегу і блакітнага неба.

Мы на нейкую хвілю аслупянелі, пасля кінуліся бегчы... Я чамусьці была ўпэўненая, што Вінцук — там... Як жудасны акорд бязлітаснасці, ударыў царкоўны звон. Ад царквы бегла, спатыкаючыся ў снезе, знаёмая постаць... Вінцук! Ён быў на ранішняй службе! Дзякуй Табе, Госпадзе! І яшчэ дзякуй, што на вачах стольскіх сведкаў — вартаўнік невінаваты! Ім не ўдасца «павесіць» на яго гэты пажар.

— Бензінам палівалі, сволачы,— безнадзейна заўважыў Андрэевіч.

Мы стаялі і глядзелі на полымя, якое высоўвала д’ябальскія языкі адначасова з усіх вокнаў. Вінцук паспрабаваў адчыніць дзверы і забегчы ў дом, але гэта было немагчыма. Заставалася стаяць побач і назіраць. Другі паверх, там, дзе знаходзілася майстэрня, ужо ўвесь выгарэў.

Я баялася глядзець на Вінцука. Яшчэ адзін удар пад дых... Ці вытрымае?.. Мне здавалася, ён зараз кінецца ў агонь. На ўсялякі выпадак я моцна ўхапіла яго за рукаў ватоўкі.

Вінцук адарваў позірк ад палаючага дома, абняў мяне за плечы.

— Скляпенне застанецца цэлым, там дзверы жалезныя. Забярэш і анёла, і скульптуру, і чарапкі.

Я зірнула яму ў вочы. Яны былі ясныя...

Ён нават паспрабаваў усміхнуцца:

— Я ўсё роўна цябе намалюю. І не трэба зноў глядзець на мяне, як на няшчасную ахвяру. Я нічога не страціў. Усё — ува мне, са мною. Калі, вядома, ты... Ведаеш, ты мела рацыю. Унутраная воля — гэта глупства. Я пазбавіўся яе — і не шкадую, цяпер у мяне ёсць тое, што я баюся страціць, вельмі баюся.

Ага, сумняваецца! Вось і добра, у мужчыне нельга знішчаць паляўнічы інстынкт, боязь згубіць тваю прыхільнасць. Асабліва калі спадзяешся пражыць з гэтым мужчынам доўга-доўга, да канца зямнога жыцця — і сустрэцца ў нябесным. Ды калі яшчэ маеш справу з выбітным талентам. Ох, нялёгка мне з ім давядзецца...

Так што Нюта мела рацыю.

Якое там нармальнае жыццё...

Радаслаў Дудкоўскі, калі даведаўся, за каго я выйшла замуж, цэлы год аплакваў маю легкадумнасць ва ўсіх кампаніях. Праўда, другая жонка ад яго паспела ўжо за гэты час збегчы, так што ён хутчэй плакаў па сабе, незразуметым.

Альберцік жа толькі канстатаваў:

— Я так і ведаў, што мне не давядзецца перапісваць сваю «Князёўну» ў зялёных колерах. Хаця, магчыма, і варта было б...

2000

# ПЯРСЦЁНАК АПОШНЯГА ІМПЕРАТАРА

*Аповесць*

## Пралог

На чалавека палююць часцей, чым на звера.

Іншыя гома сапіенсы, вядома.

Прынамсі, ягоны анёл-ахоўнік схаваўся, мусіць, вунь за тую аблачынку і роспачна захінае светлы твар лёгкімі рукамі, каб не бачыць перапэцканага гразёю і крывёю падахоўнага. Той ушчаміўся спіной у зарослую кісліцай яміну пад вывернутым карэннем сасны, і дрыжыць ад стомы і адчаю, і дыхае хрыпла і хутка, як і належыць зацкаванаму зверу. І ўжо, мабыць,

нічога чалавечага не засталося ў ягоных запалых вачах... Хіба той самы сіні колер, за які сябры называлі яго Валошкаю... Чалавек, нібыта спрабуючы пазнаць самога сябе навобмацак, праводзіць па зблажэлым твары рукой з тонкімі доўгімі пальцамі. Рагі гразі і крыві размазваюцца па скуры. Вось цяпер ён цалкам выклікаў бы ўхвалу ў сваіх улюбёных старагрэцкіх кінікаў. Зліўся з прыродай. Шкада, запозна... Ён нават усміхаецца куточкамі пакусаных вуснаў. Над галавой праляцеў авадзень. Чалавека скаланае — зумканне здаецца па-здрадніцку гучным. Нібыта на гэты гук прыйдзе пагоня... Заплюшчвае вочы і прыслухоўваецца. Ціха... Ніколі не думаў, што ягоная магіла будзе такой зялёнай, прагрэтай летнім сонцам... Што ж, родная зямля, дзякуй табе хоць за гэта. Ці я не змог даць табе волі, ці ты не схацела такога дарагога дарунку... Як у «Фрынасе» Сматрыцкага, «раззявілі на мяне свае пашчы, як варожыя пашчы, напоўненыя здрадлівымі і фальшывымі словамі. Узялі ў свае рукі сякеры і шукаюць душу маю для таго, каб яе загубіць... З усіх бакоў сеці, усюды ямы, з усіх бакоў ядавітыя джалы...»

Чаму яны з сябрамі заўсёды ўяўлялі радзіму ў аблічча Чароўнай Дамы, няшчаснай і адначасова жорсткай, за якую варта памерці і ад якой нельга чакаць удзячнасці?

Рамантыкі...

Ці то здаецца, ці сапраўды да птушынага аркестра далучаецца медзь далёкага сабачага брэху. Уся істота чалавека зусім па-жывёльнаму ўздрыгвае і намагаецца ўцякаць... Але цела ўжо зрабілася часткай зямлі. Пагоня спозніцца. Што ж, зацкаваны звер назаўсёды застанецца ў зялёнай яміне. Скрозь густыя шаты дрэваў сеюцца сляпучыя сонечныя промні, яны ўтвараюць лесвіцу, ніжняя пры-ступка — на самых грудзях чалавека, а верхнія губляюцца ў зялёна-блакітнай вышыні. Яшчэ адно, што трэба аддаць зямлі... Чалавек дастае з-пад лахманоў скрываўлены скрутак і апошнім намаганнем непаслухмяных цягліцаў хавае яго глыбей пад вывернутае карэнне сасны...

Сінія-сінія вочы чалавека на звярыным, у крыві і гразі, аблічча спыняюцца на краі маленькай аблачынкі, відочнай праз акенца ў зялёных шатах. З аблачынкі светла-светла ўсміхаецца анёл.

## Маскоўскія камуналкі

Выбар быў невялікі. Або невыносная нуда палітзаняткаў, або спартовая секцыя, або дабрачынная дапамога самотным старым.

Магдаліна выбрала апошняе.

— Ну ты неахайніца! — жахалася аднакурсніца, паўнаватая ружовашчокая Светка-сібірачка.— Побач з табою няёмка прызнавацца, што вучымся ў Літінстытуце. Хоць куртку на плячы зацыравала б...

— Клопаты пра знешнасць перашкодзяць майму ўнутранаму самавыяўленню! — рагатала невыносная Магдаліна, рассякаючы чарговую лужыну замшавымі чаравікамі, захляпанымі маскоўскай гразёю.— А пра Літінстытут я ўвогуле змаўчала б. Падумаеш, гонар — грамадскае даручэнне... Думала, хоць тут, у «элітарнай» установе, няма такога маразму. Будзем казаць старэчам, што мы з ЖЭСа, і кропка.

— Ну што ў табе жаноцкага,— абурылася Светка.— Я ўяўляла, што беларуская дзяўчына мусіць быць блакітнавокая, светлавалосая, лагодная...

— А я нетыповая! — Магда «прычасала» непаслухмяныя валасы рукой, ведаючы, як гэты жэст не падабаецца акуратнай сяброўцы.— І ўвогуле, я — шляхцянка па паходжанні, можа, ува мне генетычна закладзена, што без прыслугі нічога рабіць не ўмею...

Магдаліна Дарбут нагаворвала на сябе. І рукі ў яе былі ўмелыя, і сама яна, стройная, гнуткая, валасы цёмнай капой,— вабіла вока, нават у самай нязграбнай вопратцы. Прыгажосць, якая не ведае сама сябе... Бровы ўзлятаюць гарэзна і крыху здзіўлена. І ў тонкіх рысах твару — чаканне шчасця і палёту і неўсвядомленая трывога — як на карцінах Батычэлі. Вось толькі сустрэнецца з паглядам зялёных вачэй выпадковы залётнік — і свой пагляд адвядзе і пашыбуе далей, да лагодных і зразумелых.

А веснавыя сонечныя зайчыкі скакалі па лужынах, па мокрым каменні брукаванкі, зазіралі ў сляпыя вокны двухпавярховых прысадзістых дамоў, нібыта адтуль маглі вызірнуць шчаслівыя абліччы.

Але гэта быў раён камуналак. Некалі жылі тут шаноўныя купцы, ружавелі круглыя твары іхніх жонак, грэліся на вокнах таўсманыя коткі... Магчыма, што з цікавасцю паглядалі тыя жонкі, як вядуць па вузкай брукаванай вуліцы закаваных у кайданы ўдзельнікаў разгромленага ў Паўночна-Заходнім краі Расійскай імперыі паўстання...

Але Магда пра гэта думала роўна столькі, колькі вераб’і, што купаліся ў лужынках перад бруднымі пад’ездамі.

Задача дзяўчат была нескладаная. У дэканаце ім выдалі спіс адзінокіх старых. Належала наведацца па кожным адрасе і распытаць падапечнага пра надзённыя патрэбы. Вядома, гэта не азначала, што ўсе патрэбы будуць задаволеныя. Разумелі гэта і старыя... Галоўнае, што да іх нехта прыйшоў, пагаварыў пра набалелае, выслухаў...

— Гатовыя сюжэты для апавяданняў,— бурчэла Светка, калі яны прабіраліся доўгім цёмным калідорам да чарговага пакойчыка.

А там — прапахлы лекамі апошні прыпынак чалавечае дарогі, якая са скрыжавання юнацтва бачыцца бясконцай і прывабна-таямнічай, і нельга нават падумаць, што калісьці давядзецца апынуцца на такім сумным прыпынку.

Кожны візіт — паўгадзіны. Надта ўжо радаваліся гаспадары маладзенькім гасцям. І Магдаліна, да засмучэння сяброўкі, не магла не затрымацца. Ды і самой было цікава паслухаць, параспытвацца.

Азызлая нізкагалосая старая з іранічнай усмешкай на тонкіх вуснах распавядала пра Маскву трыццатых гадоў, паказвала выцвілыя афішкі і праграмкі канцэртаў. Нават дала пакруціць у руках чорны карункавы веер з ручкай са слановай косці і перламутравы тэатральны бінокль у футарале са змяінай скуры. Старэча, сухі і светлы, як букет мінулагодняга быльнягу, у незвычайна прасторным пакоі з паўкруглымі вокнамі, відаць, колішняй гасцёўні, натхнёна распавядаў пра выступ Маякоўскага ў клубе іхняга завода. Былі і не вельмі цікавыя візіты, са скаргамі на падступных суседзяў. У кватэры Сары Майсееўны Міхельсон, якая паводле жэсаўскіх спісаў лічылася адзінокай, выявілася цэлая куча сваякоў рознага ўзросту. Чарнавокія малечы ганялі па калідоры на самакаце і гарлалі:

— Бабця! Да цябе прыйшлі!

Кватэра нумар шэсць была гэткай жа вялікай і няўтульнай, з доўгім цёмным калідорам, як тунель у цаглянай скале. Іван Канстанцінавіч Хмель, самотны пенсіянер, жыў у самым далёкім ад увахода пакоі.

Добразычлівая суседка падвяла дзяўчат да дзвярэй, але папярэ-дзіла ціхім шэптам:

— Ён, наш Канстанцінавіч, дзівак... Добры чалавек, дворнікам працаваў... Але не любіць размоў. Так што не крыўдуйце, калі і з вамі размаўляць не захоча.

І знікла ў адным з пакояў.

Ціха. Недзе капае з крана вада. На жоўтай сцяне партрэт Гагарына ў авальнай рамцы.

Гагарын бадзёра падміргваў: «Паехалі!» Але Светка і Магда чамусьці нервова пасмейваліся і не наважваліся пастукацца да дзівакаватага брамніка. Нарэшце сібірачка выпхнула наперад, як заўсёды, сяброўку:

— Ты ў нас эмансіпіраваная... Ты і стукайся...

Асцярожныя крокі сціхлі па той бок дзвярэй. Нехта стаяў, аддзелены ад дзяўчат тонкай фанерай, і хрыпла дыхаў.

— Пайшлі адсюль...— мармытнула Светка, але з таго боку пачулася рыпучае:

— Хто там?

Пасля доўгіх тлумачэнняў і ўдакладненняў дзверы расчыніліся. Хударлявы стары з кульбачкай пазіраў на нечаканых гасцей сінімі, як веснавы лёд, вачыма. Нібыта рэнтгенам прасвечваў... Не, ніякіх скаргаў... Усяго яму хапае, таварышы юныя цімураўцы. Усяго яму адваліла жыццё з коптурам. І паветра, і прасторы, і волі. І добрых людзей.

Іранізуе яшчэ... Дзяўчаты ветліва развіталіся і рушылі прэч. Стары глядзеў ім услед сінімі вачыма.

— Вось табе і маеш... Быццам жывуць, як у Бога за плячыма, толькі смажанага лёду не стае,— ціха прагаварыла сама сабе трохі пакрыўджаная Магда.

Стары, відаць, меў надзвычай востры слых, таму што адразу пачуўся ягоны рэзкі, нават уладны вокліч:

— Паненкі, зайдзіце!

Вузкі, як саркафаг, пакойчык завешаны паліцамі і фотаздымкамі ў рамках. А кнігі! Магдаліна так і прыліпла да іх — старыя, у скураных парэпаных вокладках, на карэньчыках — назвы з яцем. Блок, Цютчаў, Лермантаў... Нейкія польскія кніжкі... Побач з мастацкай літаратурай — тамы па хіміі, фізіцы, біялогіі... Велізарны том у чорнай вокладцы — «Алхімія». На падлозе, на падшыўцы часопіса «Химия и жизнь», стаяла скрынка, у шчыліне між накрыўкай і кантам паблісквалі шкляныя прылады. Логвішча чарадзея...

Светка паказала вачыма на фотаздымак: стройны малады чалавек з іранічнымі вачыма ў нейкай дзіўнай вайсковай форме, відаць, афіцэр... Няўжо гэты старэча? Гаспадар цярпліва чакаў, пакуль госці задаволяць сваю цікаўнасць. І раптам з высачэзнай шафы пачуўся шоргат і страшны хрыплы крык... Чорная істота з вялізнымі крыламі скокнула ўніз, на падлогу, быццам ажыла каменная гаргулля.

Светка завішчэла, як злоўленая русалка. І Магда ледзь стрымала крык... А па паркеце тупатаў крумкач. Чорнае вочка ў колцы белаватых пёркаўвейкаў паглядала цалкам разумна і зусім не добразыч-ліва. Гаспадар пакоя пагладзіў птушку па прыгорбленай спіне.

— Ты што ж гэта, Карл Карлавіч, гасцей палохаеш? Сядайце, паненкі.

Светка і Магда паслухмяна селі на цвёрдую скураную канапу, не зводзячы вачэй з крумкача, які, здаецца, так і цэліў шэрай моцнай дзюбай у гасцей.

— Вы не служыце ў ЖЭСе.

Быццам вінаваціць у чым! Магда не дазволіла сабе раздражніцца — гэта ж самотны, хворы чалавек. Дастала з сумкі студэнцкі білет. Старэча нават акуляры на нос уздзеў, каб зверыць фотакартку з тварам госці.

І зноў — як у палонку. Упёрся вачыма ў Магду і:

— Вы не масквічка. І не руская. Мне падалося, што я чуў ад вас тую мову, якой ужо не спадзяваўся тут пачуць. Адкуль вы?

— З Беларусі...

Крумкач прагарлаў нешта, але не падобнае на бяскрыўднае «кар». Камяк хрыплых гукаў...

На Магду абрынуўся вадаспад пытанняў на беларускай мове, з нейкім дзіўным вымаўленнем — такога яна яшчэ не чула, гукі ліліся лагодна і спеўна. Адкуль род па бацьку, адкуль род па маці, на якой мове піша артыкулы, чаму не па-беларуску? Ці не ў сваяцтве яна са старавежскімі Дарбутамі?

— Ну што ж, юная прынцэса,—завяршыў допыт стары.— Відаць, гэта лёс. Я не самы лепшы чалавек у гэтым свеце і не самы моцны. Але дарунак мне сапраўды вялікі. Тое, што вы прыйшлі.

— Дык якія ў вас пажаданні? Скаргі?— Магда сумелася: так дзіўна глядзеў на яе суразмоўца, з нейкай незразумелай тугою. Відаць, блытае з кімсьці? — Можа, якія лекі вам трэба купіць? Ці прадуктаў? Мы збегаем...

Стары зноў падцяў вусны, сентыментальны агеньчык у вачах згас.

— Не, дзякуй, мілая прынцэса. А пажаданні свае скажу наступным разам... Прыходзьце праз тыдзень, зямлячка. У наступны аўторак, добра? У любы час.

Крумкач цяжка адштурхнуў крыламі паветра і ўзляцеў на шафу. Пасыпалася дробнае папяровае смецце.

Стары доўга не зачыняў дзвярэй. Магдаліна адчувала спіной ягоны пільны позірк...

Які дзіўны стары... Трымаецца, быццам апошні салдат разбітага войска.

— Ты як сабе хочаш, а я сюды больш не прыйду,— дрыготкім голасам прагаварыла Светка.

## Дым Айчыны...

Магдаліну Дарбут паклікалі да рэктара першы раз. І яна з цікавасцю разглядала загрувашчаны кніжнымі шафамі кабінет. Гіпсавы Максім Горкі пільна пазіраў на крышталёвую попельніцу, мусіць, прымерваючыся, каб распаліць там маленькае вогнішча, як любіў пры жыцці. Але сённяшні гаспадар кабінета быў прыхільнікам здаровага ладу жыцця, і не кранутая цыгарэтай попельніца блішчэла ўсімі гранямі.

— Вы ведаеце чалавека, якога завуць Іван Канстанцінавіч Хмель?

Пытанне прагучала не з вуснаў рэктара, які сядзеў за сталом, чытаючы нейкія паперы, а з левага кута. Магда аж сцепанулася. У крэсле сядзеў прыемны чалавек у бездакорным сінім у тонкую шэрую палоску касцюме. І аблічча ў яго было прыемнае, усмешлівае... Вось толькі Магдаліне ад гэтае белазубае ўсмешкі чамусьці зрабілася непамысна. Немагчыма было нават уявіць — адказаць усмешкай.

— Ну дык ведаеце вы Івана Канстанцінавіча Хмеля?

Магда разгубілася.

— Здаецца, не...

— Гэтага не можа быць. Падумайце. Іван Канстанцінавіч Хмель, тысяча дзевяцьсот трынаццатага года нараджэння, жыў па адрасе Крывакаленны завулак, дом чатырнаццаць, кватэра шэсць.

Стары з крумкачом! Ну трэба ж! Магда, блытаючыся, распавяла пра грамадскае даручэнне. Рэктар упарта маўчаў. А незнаёмец у сінім касцюме нахіліўся наперад, нібы рыбак, што назірае за кругамі вакол паплаўка.

— Значыць, выпадак... А як вы патлумачыце, што ваш падапечны, які памёр тры дні таму, зрабіў вас сваёй адзінай спадчынніцай?

Магдаліна агаломшана глядзела на суразмоўцу. Рэктар нарэшце прыўзняў сівую галаву і кінуў з-пад акуляраў на Магдаліну дзіўны востры погляд. Нібыта папярэджваў аб нечым.

— Вы камсамолка? — прагучала злева нібыта недарэчнае пытанне. А за ім — іншыя. Зусім як у таго старога... Пра сям'ю, пра бабуль і дзядуль, кім былі, дзе жылі... Ізноў — пра візіт да старога дзівака. Што гаварыў, няўжо нават не намякаў пра будучы запавет?

Нарэшце пытанні скончыліся, чалавек у сінім касцюме падняўся, кіўнуў на развітанне рэктару і выйшаў. Запанавала цішыня.

— Мне можна ісці?— знервавана запыталася Магда.

Рэктар сядзеў, не гледзячы на яе,— неблагі чалавек і неблагі пісьменнік, навучаны выжываць. Як ні старайся — ніякіх эмоцый нельга было прачытаць ні на ягоным твары, ні ў голасе.

— У вас ёсць здольнасці, Магдаліна... Вы ведаеце, які сур'ёзны конкурс у нашу ўстанову. Мы прынялі вас, і гэта адзнака і... вялікі аванс. Да нашых студэнтаў прад'яўляюцца вельмі сур'ёзныя патрабаванні, на іх ускладзеная вялікая адказнасць...

Магдаліна напружана ўслухоўвалася ў плынь гладкіх фраз, якія закалыхвалі свядомасць сваёй плаўнасцю, акругласцю, нявызначанасцю. Пакуль нарэшце да яе не дайшоў сэнс, які хаваўся пад гэтай плыткасцю і акругласцю,— ёй прапаноўвалася пайсці з інстытута! У які яна паступала тры гады запар! Дзеля паступлення «адтрубіла» два гады ў заводскай бібліятэцы, каб мець належны працоўны стаж! Чаму?!!

Рэктар гаварыў пра філалагічны факультэт у родным горадзе Магдаліны, варта толькі даздаць пару прадметаў, каб туды перавесці-ся... Зірнуў на твар сваёй студэнткі і змоўк. Цень чалавечага пачуцця мільгануў за акулярамі ў металёвай аправе. Рэктар чамусьці расчыніў акно — кабінет адразу напоўніўся гулам машын і вясёлымі галасамі, рукой паклікаў да сябе Магдаліну. Загаварыў ціха, так што яго голас амаль губляўся ў вулічным шуме.

— Не трэба так адчайвацца. Павер, дзяўчынка, тваё жыццё на гэтым не канчаецца. З іншымі бывала горш.

— Але...

Рэктар жэстам спыніў рэплікі Магдаліны.

— Я правяраў тыя спісы, што вам давалі з ЖЭСа... Там нічога не ведалі... Разумееш, тут такі шэраг супадзенняў, у які цяжка паверыць. Але я бачыў усякае. Веру, што ты ўблыталася выпадкова. Ён... вораг савецкай улады. Калісьці ўваходзіў у партыю беларускіх нацыянал-дэмакратаў. Так што з ягонай спадчынай... будзь асцярожная. Я б раіў адмовіцца ад яе. Тым больш там нічога каштоўнага. Кнігі, паперы.

Магдаліна прагаварыла:

— А калі я адмоўлюся... Мне можна будзе застацца ў інстытуце?

— Ну, баюся, нічога выправіць нельга... У любым іншым інстытуце абышлося б. А тут... Вядома, я б мог нічога не гаварыць, проста на сесіі ты б атрымала дрэнныя адзнакі. А нашто гэта табе, выдатніцы? А ад спадчыны адмоўся. У будучым будзе лягчэй. Цябе перастануць звязваць з гэтай небяспечнай асобай. Дзед што-небудзь абяцаў? Тлумачыў?

Востры пагляд з-пад акуляраў. Магдаліна моўчкі пакруціла галавой.

— Ну, ідзі... Падумай...

Крыўда праціла Магдаліну... Крыўда, якая знясільвае слабых. Магдаліна дасюль не ведала, слабая яна ці моцная. Самым лагічным было б для яе цяпер узненавідзець старога, які ні за што сапсаваў яе жыццё... Напісаць заяву, адмовіцца ад спадчыны. Але... Нездарма Магдалініна маці ўздыхала, што ў дачкі бацькаў характар. Бацька загінуў тры гады таму з-за, як лічыла маці, сваёй упартасці. Ведаў жа, што лёд тонкі... І добра, каб чалавека палез ратаваць,— а то нейкі дварняк, які і патрапіў у палонку, відаць, не без чалавечае дапамогі... А бацька і сабак не вельмі любіў... І вось цяпер Магдаліна таксама заўпарцілася. Усе максімалісцкія ідэалы патрабавалі ад яе — не здавацца. «Гэта дарога вельмі цяжкая.— Значыць, гэта мая дарога»... і ўсё такое падобнае. Сябра Марк быў бы ўражаны. Выхаваў дзяўчыну на рыцарскіх прынцыпах з невялікай памылачкай: замест Чароўнай Дамы — рыцар у спадніцы...

Наступныя дні прайшлі як у тумане. Вакол Магдаліны ўтварылася нібыта кола пустэчы. Большасць аднакурснікаў пачуваліся, як блізкія пры безнадзейна хворым. Светка вінавата адводзіла позірк. Магдаліна зразумела, што распытвалі і яе. Магду не пазнавалі — уся напятая, з падцятымі вуснамі, яна нагадвала стралу, ускладзеную на тугую цеціву. І кожны стараўся сысці з ейнага шляху. Толькі Сашка Тарасаў, вечна п’яны Сашка з разбойніцкай фізіяноміяй стэпавага хана, аўтар аповесці пра тэатр ліліпутаў, дырэктарам якога насамрэч неяк пабыў,— Сашкава біяграфія была надзвычай бурлівая — перастрэў апальную аднакурсніцу на калідоры.

— Ты, дзеванька, плюнь на іх. Яны тут толькі мазгі прамываюць. А пісаць калі сама не навучышся, добры дзядзька не навучыць. Я ж таксама адсюль сыходжу. На фіг мне гэта... У іх Андрэй Платонаў двор мёў, пакуль яны лекцыі чыталі. Хочаш вінца? Не? Ну, трымай хвост пісталетам.

Былі хаджэнні па нейкіх кабінетах, зноў празрыстыя намёкі на тое, што раіў рэктар...

Урэшце — зноў кватэра нумар шэсць. Пакойчык за шчыльнымі дзвярыма. Стосы кніжак, перавязаныя шпагатам. Фотаздымкі ў каробках з-пад абутку. Ашчадная кніжка — дзвесце шэсцьдзесят рублёў зберажэнняў. І — клетка з крумкачом.

Мажны дзядзечка з партфелем — напэўна, з жыллёвай службы, папярэдзіў Магдаліну, што ўсе рэчы належыць вывезці з дзяржаўнай

кватэры ў бліжэйшыя пару дзён. І то для яе робяць палёгку з увагі на жыццёвую нявопытнасць. І Магда засталася адна.

Дзяўчына апусцілася на цвёрдую скураную канапу і нарэшце паспрабавала асэнсаваць усё, што з ёй адбылося. Аж галаву абхапіла і застагнала — ад немагчымасці ўсё вытлумачыць. Нават уласныя ўчынкі. Адчайны запал, які падтрымліваў Магдаліну гэтыя дні, згас. І яна засталася сам-насам з такой пустэчай вакол, якую раней адчуваць не даводзілася. Нашто стары ўлез у яе жыццё?!! Навошта яна ўвязалася ў важданіну з непатрэбнымі паперамі і паламанай мэбляй? І яшчэ гэты крумкач...

Карл Карлавіч, нібыта адчуў ейны настрой, таксама захрыпеў-застагнаў, заварушыў крыламі... Магда схамянулася — ён жа, мабыць, галодны... І ў гэтай цеснай клетцы... Крумкач нязграбна ступіў на падлогу. Магда аддала яму палову булкі, наліла ў кубак свежай вады і зноў бяссіла апусцілася на канапу.

— Што ж нам з табой рабіць, Карл Карлавіч?

Карл Карлавіч яшчэ раз стукнуў моцнай дзюбай з наліплымі хлебнымі акрушынкамі ў падлогу і таксама натапырыўся, скурчыўся, нібы чорны мніх ад смяротнага грэху. Вяртацца дадому... Напэўна, каб бацька быў жывы, зразумеў бы... А цяпер трэба нешта тлумачыць маці, Марку...

Магдаліна зноў застагнала, згадаўшы свайго жаніха. Марк Ялецкі, станоўчы, надзейны, іранічны Марк, проста не паверыць у выпадак. Абавязкова вырашыць, што яна, горкае несвядомае дзіця, утварыла чарговае глупства.

Марк прыкмеціў Магду, калі яна неяк зайшла ў ягоную рэдакцыю. Правіў ейныя літаратурныя спробы. Забяспечваў кнігамі. Вадзіў на тусоўкі. І ў рэшце рэшт само па сабе вырашылася, што Магдаліна стане ягонай жонкай. Марк быў на дзесяць гадоў старэйшы, пяць гадоў таму развёўся. Былая жонка, вядомая артыст-ка, дамаглася «волі творчага самавыяўлення». І Ялецкі абвесціў, што сам «выхавае» сабе нявесту, бездакорную дзяўчыну. Магда аказалася для гэтага ўдзячным «матэрыялам» і шчыра імкнулася адпавядаць ідэалам Марка, прымаючы яго беражлівае апякунства. Ад часу недарэчнай гібелі бацькі дзяўчына ўпершыню адчувала такую абароненасць.

Марк доўга абдумваў мару Магдаліны пра Літінстытут. Урэшце вырашыў, што нядрэнна «навесці лоск» на будучую жонку. Ажаніцца са сціплай бібліятэкаркай і ажаніцца са студэнткай прэстыжнай ВНУ — розніца... Ён пераканаў Магду больш не пасылаць на творчы конкурс вершы, а сабраць артыкулы і падацца на літаратурную крытыку. Творчыя магчымасці Магды Марк ацэньваў досыць рэалістычна, таму адразу сказаў, што года ў Маскве з яе будзе досыць. Да таго ж, уздыхаў ён з затоенай скрухай, гэта будзе ім выпрабаваннем. Яны абое — вольныя творчыя людзі, і іх лучнасць мусіць быць добраахвотнай. У цноты нявесты ён верыць непахісна.

Небарака Марк сам не падазраваў, як глыбока зачапіла за ягонае сэрца юная бібліятэкарка з зялёнымі вачыма, з характарам свавольным, як веснавая ручаіна...

У дзверы пакоя нясмела пастукалі. Крумкач узляцеў на шафу. Знаёмая па першым наведванні кватэры суседка працягнула Магдзе невялікі скрутак.

— Вось... Іван Канстанцінавіч незадоўга да смерці прасіў мяне схаваць і калі што — перадаць вам. Асабіста ў рукі і без сведкаў.

Магда няўважна ўзяла пакунак. Але суседка не спяшалася сыходзіць. Абвяла позіркам пакой.

— Каго цяпер паселяць? Не дай Бог, якіх алкашоў... Прасілі ў начальства, каб каму з нас пакой адпісалі. Дык не, не выходзіць па плошчы. Бюракраты. Будуць падсяляць. З Іванам Канстанцінавічам добра было. Ціха. Часам які цвік забіць дапаможа. А куды ж вы гэтую мэблю падзенеце? Забераце?

Магда пацiснула плячыма.

— Навошта яна мне?

— Ну чаму, шафа вунь якая зручная... Змястоўная... У мяне б у пакоі якраз стала...

Магдаліна ўнутрана ўсміхнулася з гэткай наіўнай хітрасці.

— Ну дык забірайце яе сабе... І канапу таксама. І ўвогуле... Я толькі кнігі і дакументы забяру. А астатняе — самі глядзіце...

Суседка ўзрадавалася, пачала нешта шчабятаць пра тое, як любіла нябожчыка і якім ён добрым чалавекам быў. Таму і памёр так хутка, не мучыўся. Лёг і не прачнуўся.

З шафы пачуўся хрыплы роспачны крык. Магдаліна ажно пачырванела ад сораму — як яна магла забыцца пра птушку? Можа, раздобраная суседка і Карла Карлавіча прытуліць? Але кабета грэб-ліва скрывілася ў бок крумкача:

— Цьху... Сіла нячыстая... напалохала... І вось жыве ж такая поскудзь і чалавека перажыве!

І Магдаліна нічога не сказала ёй. І засталася ў чужым пакоі, з чужымі рэчамі і сам-насам са сваёй бядой...

Пераглядаць рэчы не было моцы. Ісці ў інтэрнат настолькі не хацелася, што Магда вырашыла заначаваць на гэтай чорнай цвёрдай канапе, у кампаніі крумкача. Скразняк варушыў на акне занавескі, і можна было ўявіць, што вось-вось з’явіцца прывід былога гаспадара.

Але пасля перажытага магчымае з’яўленне прывіду Магду не ўзрушвала.

### ...і пыл гісторыі

Сімвал святога Марка-евангеліста — леў. Звычайна на іконах гэты леў зусім не страшны — кучаравы, залацісты, з закручанымі ў кольцы вусамі і вялікімі рахманымі вачыма.

Як баранчык.

Марк Ялецкі нічым не нагадваў залацістага кучаравага льва. Хіба што таксама быў дужы, шыракаплечы. Ды яшчэ ў разважаннях меў ільвіную ўчэпістасць. Жалезная логіка і энцыклапедычная эрудыцыя — так паўжартоўна рэкамендаваў сам сябе Марк. Нездарма атрымаў незвычайнае імя па жаданні дзівакаватага дзеда-прафесара. І журналістам Марк быў добрым. З уласцівымі сапраўднаму журна-лісту цікавасцю і скептыцызмам. Таму цяпер Марк, які, як належала сапраўднаму рыцару, прыляцеў па першым жа званку зарумзанай Магды, сядзеў побач з ёю на падлозе пакоя кватэры нумар шэсць, перабіраў раскладзеныя лісты, фотаздымкі і кнігі. Ды касавурыўся час ад часу на крумкача, які зноў узляцеў на шафу і шаргатаў там, як патрывожаны дамавік.

— Так я і ведаў, што нельга цябе адпускаць... Цябе толькі лянівы не пакрыўдзіць. О, якое рэдкае выданне! — Марк узважваў на руцэ кнігу ў зялёнай вокладцы.— Я нават не ведаў, што такое ёсць,— «Старый литовский статут 1529 года». Тут, у Маскве выдадзены... 1854 год. Ты сама хоць чула пра літоўскі статут, канстытуцыю Вялікага княства Літоўскага? Ведаеш, што яна напісаная на стара-беларускай мове? Невук ты маленькі...

— І што, гэтая кніжка дарагая? — насцярожана спыталася Магда.

— Рублёў за пяцьдзесят і я б набыў. Але б не прадалі.

— Дык мы павінны адшукаць сваякоў старога! — захвалявалася дзяўчына.— Гэта павінна належаць ім!

— Дурненькая! — азваўся Марк.— Стары рэпрэсаваны быў, калі якія сваякі і ёсць — даўно ад яго адракліся.

— А што гэта за нацыянал-дэмакратычная партыя? Рэктар казаў, Іван Канстанцінавіч быў у ёй.

— Разумееш...— Марк абдумваў словы.— Тады шукалі ворагаў. Прыдумлялі розныя антысавецкія рухі, партыі. Каб было зразумела — за што арыштоўваюць, судзяць, расстрэльваюць. На Беларусі таксама знайшлі антысавецкую партыю — нацыянал-дэмакратычную. А ці была яна? Пастралялі і пассылалі тысячы. Навукоўцаў, творчую інтэлігенцыю. Дзеда майго, прафесара, таксама пацягалі. Але чалавек ён учэпісты, здольнасці да прыстасавання фенаменальныя. Таму і цяпер жыве. А ты думала, чаму ён, перш чым дзверы адчыніць, наведніка папараспытвае ледзь не пра сваякоў за мяжой. У дваццатыя гады ў літаратурных арганізацыях Беларусі было чатырыста чалавек. А перад Вялікай Айчыннай у Саюзе пісьменнікаў засталося дзевяць. З іх, здаецца, толькі чатыры беларусы. Гэты Хмель, напэўна, быў пісьменнікам. Таму цябе з інстытута і папрасілі.

Марк рассунуў па падлозе фотаздымкі.

— Гэта ён?

Магдаліна паглядзела на партрэт стройнага афіцэра.

— Ён, няйначай. А ў якой форме?

— Войска Польскага. Эх, тут бы спецыялісту паглядзець! Ёсць у мяне адзін знаёмы... Энтузіяст... Цікавіцца такімі дакументамі. Ну што, усё перагледзела?

— Усё нібыта. Нічога цікавага.

— Калі нешта цікавае было — не хвалюйся, табе не аддалі...

— Кр-рр! — пацвердзіў з шафы Карл Карлавіч, і Марк плюнуў з перапуду.

— Гэта, трэба сказаць, не найлепшая частка тваёй спадчыны.

А пасля яны гулялі па могілках Данскога манастыра, і першыя зялёныя дзюбкі травы паказваліся на чорнай глебе магіл, нібыта нябожчыкі імкнуліся павітаць новае жыццё, далучыцца да яго хоць травінкай, хоць пяшчотным дыханнем першацвету. І Марк сказаў Магдаліне:

— Ты малая і дурненькая. Але павер мне — усё будзе добра. Вернемся дадому, перавядзешся на філфак. Справім вяселле — у нашай улюбёнай кавярні, там, дзе падаюць дзічыну, запечаную ў фользе, пад галасы птушак. Народзіш дзіця... Працаваць пачнеш у маёй газеце. І ўсё будзе добра.

І чаму ў Магдаліны скрухай варухнулася сэрца? Мусіць, ад здрадлівай чалавечай натуры, якой аднаго добрага, вырашанага, самавітага мала, а хочацца яшчэ чагосьці...

Ну ды што ўзяць з дзіцяці (праўда, дзіцяці поўнагадовага), але якое ўсё яшчэ можа сарваць пралеску са старое магілы і зусім пра гэта не задумацца, не пацягнуць за кволым бледна-зялёным сцяблом ланцуг метафар, алюзій, сімвалаў і філасофскіх разважанняў, аж пакуль не абаўецца вакол сэрца.

Магда і пра скрутак, перададзены суседкай старога, успомніла толькі ў цягніку, калі Карлуша зашаргатаўся ў сваёй клетцы, засунутай на самы верх, на месца матрацаў.

Марк спаў насупраць, на верхняй паліцы. Магда ціхенька вый-шла з купэ. Не таму, што не давярала жаніху. А проста... Ён ужо забраў за яе дакументы з інстытута, пазваніў за яе маці, уладзіў справы са спадчынай... Колькі можна быць пад апекай!

У няроўным святле тамбура Магдаліна разгарнула таямнічы скрутак. Кніжка памерам з далонь, з цёмна-зялёнай выцертай во-кладкай без назвы. На польскай мове... Магда з цяжкасцю разбірала асобныя словы, здагадваючыся пра сэнс астатніх: «Зборнік паэзіі польскіх паэтаў з дадаткам заўваг, аб сутнасці быцця, духу і цела сапраўднай паэзіі з прадмовай Адама Пянкевіча. Першы выпуск. Вільна, друкарня Ёзэфа Завадскага, 1835 год».

Раней Магдаліна ніколі не трымала ў руках такіх старых кніжак. У бібліятэцы, дзе яна працавала, самай старой кніжкай было асобнае выданне паэмы Мікалая Асеева «Будзённы» 1922 года. Магда нават выставіла яе на стэндзе пад шклом, як надзвычайную рэдкасць. А тут... Чаго варты адзін змест — Адам Міцкевіч, палкоўнік Цыпрыян Гадэбскі, палкоўнік Антоні Гарэцкі (з чаго б гэта палкоўнікі цугам ішлі ў паэты?), Францішак Карпінскі, Алёйза Фелінскі... Ці дзед клапаціўся пра ейнае духоўнае выхаванне?

Дзяўчына перагарнула апошнюю старонку і ўбачыла некалькі незадрукаваных лістоў, як значылася, «Для зацемак». Лісты былі скарыстаныя па прызначэнні — спісаныя такім дробным почыркам, як макам нехта сыпануў.

«Мілая прынцэса!»

Так называў яе стары... У Магды закалацілася сэрца. Як добра, што яна не паказала скрутак Марку! Уся таямніца дарэшты дастанецца ёй.

«Мілая прынцэса!

Часу ў мяне мала. А старэчае шматмоўе перашкаджае лаканізму. Хаця што значаць час і прастора для Усявышняга, які знітоўвае і разрывае лёсы? Шлях, які прывёў вас да маіх дзвярэй, пачаўся пяцьсот гадоў таму... І вы, мілая, чыстая дзяўчынка, не ўяўляеце, колькі бруду, крыві і здрады было на гэтым шляху... Але і — высакародства, мужнасці, любові! Проста ўявіце, што я расказваю вам казку...»

**Два крыжы**

Святло араматычнай свечкі адбівалася на барвовым шоўку прасціны, быццам яны ляжалі ў агні. «У пякельным агні»,— з пакорлівым адчаем асуджанага падумала дзяўчына.

Насамрэч прасціна была ружовай. Але цьмянае святло ператварала цнатлівы ружовы колер у трывожную барву.

Запальваць святло было небяспечна. Магла заўважыць гарадская варта або прыслуга ў доме... Але ён хацеў наглядзецца на яе — апошні раз. На цёмны шоўк валасоў, белую скуру... Вочы — цёмна-зялёныя, вялізныя і такія праніклівыя — у яго спынялася сэрца кожны раз, калі ён зазіраў у іх глыбіні. Як на візантыйскіх абразах...

«Цікава, ці будзе ў мяне яшчэ калі-небудзь гэтак жа спыняцца сэрца пры поглядзе ў чыесьці вочы?» — падумаў ён і аж застагнаў ад нясцерпнай тугі. Гэтак не было балюча нават тады, калі яго параніў той турак, а дзіда патрапіла якраз пад рэбры, прабіўшы хвалёную венецыянскую карацэну. Тады бацька і адаслаў у Еўропу, далей ад бясконцых боек. Ён не павінен быў ісці ў бойку, як просты ваяр. Але ён заўсёды хацеў сам вырашаць свой лёс. Цяпер не атрымаецца... І так адцягваў свой ад’езд з гэтага мястэчка, як

мог. За незразумелае маруджанне бацька ўгневаны. Лёс краіны, якую з усіх бакоў раздзіраюць ворагі, залежыць ад ягонага шлюбу.

Кажуць, нявеста таксама маладая і прыгожая. Сапраўдная прынцэса. Але не ёй цараваць у ягоным сэрцы.

— Агнешка... Агна... Агонь, у якім я згараю...— шаптаў ён, цалуючы вочы дзяўчыны.

— Мы абое загубілі, спалілі свае душы.

Дзяўчына добра гаварыла па-грэчаску. Праўда, на латыні яна размаўляла яшчэ лепш. Але ён не любіў латынь.

Няўжо ўсе дзяўчаты ў гэтай краіне такія вучоныя?

Мусіць жа, не. Проста яму дасталася яна, дзіўная і непаўторная.

— Што мы нарабілі? Ты — чужы жаніх, я — чужая нявеста. Можа, нас хтось апаіў, як Трышчана і Іжоту?

— Я вазьму твой грэх на сябе,— шаптаў ён, цалуючы яе тонкія пальцы. Кожны пальчык... Калі б ён мог надзець на вось гэты кволы пальчык свой пярсцёнак... Цяжкі пярсцёнак з вядомым усяму свету гербам ягонага роду ўладароў...

— Ты будзеш памятаць мяне? — Дзяўчына глядзела амаль строга на яго мужнае аблічча, светлыя доўгія валасы, якія завіваліся ў локаны, блакітныя вочы, у куточках якіх ужо ляглі зморшчынкі — ад звычкі прыжмурвацца, углядаючыся ўдалеч ці наносячы смяротны ўдар...

Замест адказу ён пацягнуўся да крэсла, на якім ляжала яго вопратка, узяў стылет, дастаў з похваў. Клінок бліснуў, як месячная вада ў бяздонным віры. Хлопец прыставіў вастрыё стылета да сваіх аголеных грудзей, там, дзе сэрца. Па скуры павольна працягнулася глыбокая драпіна, яе перакрэсліла другая. На барвовы шоўк капнула барва.

— Бачыш? Гэты крыж заўсёды будзе са мной. Да самае смерці. Як памяць пра цябе.

Агна асцярожна дакранулася да раны на грудзях хлопца.

— Што ты скажаш той жанчыне, якая калісьці будзе лашчыць гэты шнар?

— Што пад гэтым крыжам пахаванае самае дарагое для мяне. Але нікому не патлумачу — там, у сэрцы, нашае каханне.

Дзяўчына ўзяла тонкай рукой стылет, пакладзены на барвовы шоўк, і хуткім рухам — хлопец не паспеў яе спыніць — двойчы правяла вастрыём па сваіх грудзях. Там, дзе сэрца.

— Я таксама буду помніць цябе.

Ён з невымоўным жалем абняў каханую. Іх раны прыціснуліся адна да адной.

— У нас цяпер адна кроў,— шаптала яна.— Помні гэта, калі раптам будзеш забіваць кагосьці з майго народу.

Ён схаваў твар у яе цёмных валасах.

— Абяцай, калі народзіцца сын, прышлеш яго да мяне. Я зраблю яго князем.

— Не, любы. Ён будзе служыць свайму народу. У тым званні, у якім будзе народжаны. Не крыўдуй.

За дзвярыма пачуліся хуткія крокі і лёгкі стук у дзверы — тры разы. Гэта было папярэджанне аб небяспецы. Дзяўчына дапамагла хлопцу зашнураваць камзол, надзець перавязь мяча. Падала плашч. Перад адчыненым акном яны абняліся апошні раз.

Перш чым сысці ў травеньскую бэзавую ноч, ён паклаў на падваконне просты жалезны пярсцёнак з выгравіраваным роўнаканцовым крыжам.

— Гэта не заручальны пярсцёнак...— горка сказаў хлопец.— Але, можа быць, яго калісьці будзе насіць мой нашчадак.

Што ён мог яшчэ? Сыпануць на развітанне грошай, каб спыніць непатрэбныя размовы, яшчэ раз злоўжыць той павагай, ледзь не пакланеннем, якія выклікаў ён, дакладней, ягонае званне, у гэтым мястэчку. Яшчэ раз не зважыць на тую нянавісць, якую сустракалі ён і ягонае званне ў гэтым жа мястэчку.

Старэйшы сын падкаморага Юрася Дарбута нарадзіўся праз сем месяцаў пасля ягонага вяселля з прыўкраснай паненкай Агнай Чагноўскай.

Вядома, людзі пляткарылі. Але пані Агна была ціхмянай, набожнай і такой гожай, што мала хто даваў веры плёткам.

Тым больш праз год па нараджэнні сына Канстанціна пані Агна памерла. Лекары сказалі — ад сардэчнай хваробы.

Праз трыццаць гадоў пасля гэтага, у спякотны травеньскі дзень, на самым парозе лета, апошні візантыйскі імператар загінуў на сценах сваёй сталіцы. Яна адна і заставалася ад былой магутнай імперыі. Але апошні з Палеалогаў быў варты сваіх продкаў. Ён не абавязаны быў біцца, як просты рыцар, наперадзе войска. Але ён заўсёды хацеў сам вырашаць свой лёс.

Яго забіў светлавалосы, блакітнавокі янычар.

Ворагі не былі ўпэўненыя, што гэты рыцар той, чыёй смерці яны чакалі доўгія гады. Да таго ж трэба было пераканацца, ці гэта чалавек, а не іфрыт, які з нечалавечай сілай і мужнасцю біўся супраць іх.

Калі з мёртвага цела сцягнулі латы, забойца з нянавісцю закрычаў:

— О Алах! Гэтаму нявернаму сабаку мала было насіць знак свайго паганага бога на ланцугу! Ён яшчэ выразаў яго на грудзях!

Светлавалосы янычар схапіў дзіду і з сілай усадзіў у грудзі забітага, у самую сярэдзіну крыжа, выразанага над сэрцам.

## Кальварыйскія вароны

На мінскіх Кальварыйскіх могілках заўсёды царавалі вароны. І тады, калі пасаджаныя тут дрэўцы былі зусім маладзенькімі. І тады, калі дрэвы падраслі, зашумелі густой лістотай — надзейным сховішчам ад людскіх вачэй.

Магчыма, гэта былі не толькі вароны, а і гракі. Але Антось не надта ўмеў іх адрозніваць. Лётаюць, гарлаюць, на фоне неба — аднолькава чорныя.

Вось крумкачы тут дакладна не сяліліся. Крумкач —- птушка гордая, самотная.

Антось азірнуўся на сябрукоў, што ішлі за ім па засыпанай жоўтай лістотай дарожцы між каменных помнікаў, быццам па асушаным марскім дне з рэшткамі разбітых караблёў. У чарнявага, худога, як бізун, Цыпрыяна адзін нос тырчыць з-пад расколатага напалам казырка дарэвалюцыйнай студэнцкай фуражкі; за ім, перавальваючыся, нячутнай хадой паляўнічага ступае каржакаваты Міхась у бравэрцы з паднятым каўняром. Міхась — самы паважны з іх, бо амаль скончыў універсітэт і нават там жа на першых курсах выкладае. Нізенькі шчуплы Рыгорка з вечнай рахманай усмешкай і iранічны прыгажун Янук, як і ён, паэты-пачаткоўцы, разжыліся аднолькавымі шарачковымі пінжакамі — у педтэхнікуме давалі дапамогу дзецям бедньты. Прычым Рыгоркавы рукі хаваюцца ў рукавах цалкам, а Януковы вызіраюць ледзь не да локцяў. Нарэшце ён сам у бацькавай куртачцы, зацыраванай на локцях... А які фантастычны абутак ва ўсіх! Адразу пазнаеш ваяроў, што замахваюцца мяняць лёс краіны. Але хіба фландрскія гёзы ці чэшскія гусіты апраналіся больш самавіта і былі меншымі рамантыкамі, паўстаючы супраць магутных імперый?

Адна Марыля Гудзевіч, зеленавокая прыгажуня Марылька, якая ўжо скончыла педтэхнікум, бо была на два гады ад яго, Антося, старэйшая, у сваім плюшавым пінжачку выглядае па-сапраўднаму элегантна. Вось толькі дарэмна яна ўвязалася за імі...

— Сядайма тут,— скамандаваў Цыпрыян і першы апусціўся на каменную лаўку пад маладой таполяй.

Ля яго сеў Міхал. Астатнія прымасціліся, хто як мог. Антось падумаў быў сагнаць Цыпрыяна, каб пасадзіць Марылю. Але ж яна пакрыўдзіцца — знайшоў карункавую паненку! Вунь калючая і прыўкрасная, як шыпшына, незалежна прысела на масіўны чорны ланцуг, што звісае між слупкамі па краях нечае магілы, і пагойдваецца, адштурхоўваючыся ножкамі ў старэнькіх чаравіках ад прэлай могілкавай зямлі... Каркаюць вароны... Пазвоньвае ланцуг... Развяваюцца русыя пасмачкі валасоў на скроні... Поўны дэкаданс! А злева з дзяўчыны не зводзіць сініх, напэўна, яшчэ сінейшых, чым у яго, Антося, вачэй прыгажун Янук. Куды ўжо Антосю з ягонай правінцыйнай нехлямяжасцю...

Лірычныя думкі перарваў Рыгорка:

— Чулі, што Дзям’ян Стасевіч больш не рэктар універсітэта?

— А яго за што?— недаўменна паціснуў плячыма Янук.— Крышталёва чысты перад Савецкай уладай чалавек. За палякамі сядзеў як рэвалюцынер.

— А цяпер — беларускі нацыяналіст,— зазначыў Рыгорка без заўсёднай усмешкі.— Як Шпадарук, як Антось Злыкун... Як Севачка...

— Як усе мы,— падрахаваў Антось.

— Я не нацыяналіст, я патрыёт! — ускочыў з месца Цыпрыян і смешна замахаў доўгімі рукамі.— Калі я каго пакрыўдзіў з іншага народа пагардай да чагось ягонага? Навучыліся паняцці падмяняць! Люблю рускае — патрыёт-інтэрнацыяналіст. А калі сваё — не даказваю, заўважце, што яно, маё, лепшае або адзіна вартае, не... Толькі ўважаю за не горшае, вартае любові і права на жыццё... Тады я — нацыяналіст! Вораг!

— Сядзь! — тузануў прамоўцу за крысо Міхась.— Пра гэта мы ўсе неаднойчы выказаліся. Таму і прыйшлі сюды.

Ён нетаропка дастаў з глыбокай кішэні паперы, акуратна загорнутыя ў хустачку. Павярнуўся да Антося, пільна паглядзеў у ягоныя сінія вочы, памаўчаў. Усе стаіліся. Нарэшце загаварыў — важка і цвёрда:

— Я праверыў. Да якіх крыніц толькі змог дабрацца. Нават з’ездзіў у твой Старавежск. Перагарнуў гару дакументаў. На жаль, я не так добра ведаю старажытнагрэчаскую, як латынь. Але асабліва складаныя мясціны мне дапамог перакласці сам Сахнут-Бічэўскі. Вядома, я не тлумачыў навошта. Да таго ж прафесар лічыць мяне як бы магчымым пераемнікам у навуцы. Так што я ў ягонай хатняй бібліятэцы — як у сваёй. Вось і скарыстаўся напоўніцу, да нахабства. І цяпер магу сказаць... Вельмі верагодна — заўважце, я не сцвярджаю адназначна,— але вельмі, вельмі верагодна, што ты, Антось, з’яўляешся нашчадкам візантыйскіх імператараў Палеалогаў, дакладней, апошняга з іх, Канстанціна XI Палеалога.

— Жыве Каралеўства Беларусь! — ускочыў Цыпрыян са сваёй лаўкі.

Астатнія падхапілі яго вокліч, і вароны з абураным карканнем паўзляталі з таполяў, абрынуўшы на магільныя камяні і сцяжынкі залаты дождж лістоты.

Антося кінула ў жар.

— Ты ўпэўнены? Няўжо сямейныя паданні — праўда?

— Глядзі! — Міхась сагнаў з лаўкі Цыпрыяна і на вольным месцы расклаў паперы. Усе згрувасціліся вакол — галава да галавы.— Вось... Гэта нават неспецыяліст зразумее. Малюнак твайго пярсцёнка. А тут — павялічаны фрагмент партрэта візантыйскага імператара другой паловы XIII стагоддзя Міхаіла VIII, заснавальніка дынастыі. Бачыце? Такі самы пярсцёнак! Роўнаканцовы крыж, па краях — грэчаскія літары... Ніякіх камянёў, просты метал. А гэта выпіска з тастаманта падкаморага Юрася Дарбута, складзенага ў 1453 годзе. Адразу пасля таго, як у Еўропу дайшлі весткі пра смерць апошняга візантыйскага імператара,— загінуў у бойцы з

туркамі, абараняючы свой горад. Падкаморы меў траіх дзяцей. Старэйшага сына, Канстанціна,— ад нядоўгага шлюбу з Агнай Чагноўскай, дачкой старавежскага ваяводы, і яшчэ дзвюх дачок — ад другога шлюбу. Вось ад гэтага Канстанціна (звярніце ўвагу на імя — радавое імя Палеалогаў!) і пачынаецца твой радавод. У пятнаццатым стагоддзі ў княстве Літоўскім пры падзеле спадчыны карысталіся правілам, замацаваным потым ва ўсіх статутах: пры наяўнасці сыноў дочкі не наследавалі нерухомых маёнткаў бацькі, а атрымлівалі толькі адну чацвёртую частку кошту маёмасці. Між тым Канстанцін не ўспадчыніў нічога з тае нерухомасці, усё дасталося сёстрам. Хоць я нідзе не знайшоў, каб бацька абвяшчаў яго незаконным сынам. Далей... Нарадзіўся праз сем месяцаў пасля шлюбу. За два месяцы перад вяселлем Дарбута і Чагноў-скай у Старавежску затрымаўся праездам візантыйскі каралевіч — адкрылася старая рана.

— Дзе — Старавежск, а дзе — Канстанцінопаль... Як сын візантыйскага імператара туды патрапіў? — не вытрымаў Рыгорка.

Міхась паблажліва зірнуў на сумніўцу.

— Вядома ж, выправіўся ён не для таго, каб у нашым мястэчку пагасцяваць. Тады ад Візантыйскай імперыі мала што засталося. Фактычна, адзін Канстанцінопаль. Туркі-сельджукі з аднаго боку, крыжакі — з другога... Стары імператар, бацька старавежскага госця, у адчаі спрабаваў дабіцца дапамогі ў Еўропе, гатовы быў нават на рэлігійныя кампрамісы. І сына адаслаў — і для таго, каб уберагчы ад небяспекі: надта баявіты быў. І дзеля наладжвання гэтых сувязяў... Папросту кажучы — высватаць прынцэсу з магутнай дзяржавы. Магчыма, у Швецыі. А праз нашу краіну, каб ты ведаў, здаўна праходзіў славуты шлях «з варагаў у Бізантыю», або, як яшчэ кажуць, «з варагаў — у грэкі».

— А прынц закахаўся ў нашу прыгажуню! — захоплена ўсклікнула Марылька.

— Наяўнасць пачуццяў я, як гісторык, засведчыць не магу,— з прыхаваным сарказмам сказаў Міхась.— А вось цікавы дакуменцік, складзены апошнім візантыйскім імператарам адразу па ўзыхо-джанні на прастол, знайшоў. Запрашэнне на службу ліцвінскаму шляхціцу Канстанціну Дарбуту, з наданнем княжацкае годнасці ды іншымі дабротамі.

Антось пахітаў галавой.

— Здаецца, у нашым родзе князёў не было...

— Таму, што Канстанцін Дарбут адмовіўся ад запрашэння. Паслаў імператару гарбуза. І, па сутнасці, правільна зрабіў — праз чатыры гады імперыі не стала. Ну і тут яшчэ цэлы стос дакументаў — выпіскі, даведкі ды іншая трасца. Твой продак, вядома, бастард, незаконнанароджаны. Але іншых нашчадкаў Канстанцін XI не меў. Дарэчы, яго пляменніца выйшла замуж за расійскага цара Івана III, так што маеш сваяцтва з расійскай каронай.

Міхась самазадаволена складаў паперы.

— Па-мойму, пераканаўча! — радаваўся Цыпрыян.— Гэта вам не рэспубліка, якую можна прыдушыць, і ніхто ў свеце не зварухнецца! Беларускі кароль з імператарскай крывёй у жылах! Такое нават цёмны вясковы дзед зразумее! І ў свеце прызнаюць як міленькія!

— А ці не дурні мы? Камсамольцы-манархісты...— спахмурнеў Міхась.— Ставіць сёння на манархію? У той час, як па ўсім свеце яны разбураюцца. Толькі што пазбавіліся ад «памазанніка», які беларушчыну жыўцом у зямлю закопваў, ствараючы «Северо-Западный край»...

— Пры чым тут сапраўдная манархія? — абурыўся Янук.— Беларускі кароль — проста сімвал, штандар, каб аб’яднаць народ. Да каранацыі і не дойдзе. Мы ж адразу — канстытуцыю... І роўныя правы ўсім...

Антось нарэшце адкінуў задуменнасць. Яго сінія вочы гарэзна бліснулі.

— Ну, дзякуй ад жывога штандара! Я не супраць быў бы застацца звычайным паэтам.

Змоўшчыкі загаманілі, у кожнага выявіліся бліскучыя стратэгічныя планы.

— Але, сябры, хоць можам цяпер смела брацца за справу, трэба памятаць пра непрыемную акалічнасць, звязаную з любой манар-хіяй,— сурова загаварыў Міхась.— Ідэя манархіі існуе, пакуль існуе манарх. Няма нікога хоць з кропляй крыві дынастыі — усё скончана. І калі Антось загіне... Яго няма кім замяніць.

Усе трывожна паглядзелі на Антося. Нібыта ўбачылі першы раз. Іх кароль, аказваецца, высокі, гожы, з наіўнымі сінімі вачыма і суровым ротам... Адна Марылька, сцямнеўшы тварам, глядзела на чорна-залатую зямлю.

Антось няёмка рассмяяўся:

— Світу да мяне прыстаўце... Целаахоўнікаў. Глупства гэта! Нікуды я не падзенуся. Яго каралеўская вялікасць умее цыраваць адзежу, секчы дровы і пастаяць за сябе.

Міхась зноў дастаў з кішэні паперы, задумліва паглядзеў на іх.

— Вось што... Я зраблю копіі, і мы іх дзесьці схаваем. Бо, калі даведаюцца... тыя, з іх станецца знішчыць нават самі крыніцы. І... беражы сябе, Антось. Залішне нагадваць, але... Да апошняга ніхто больш не павінен ведаць сапраўднае імя беларускага караля. Ты, Антось, не павінен раскрывацца нават нашым аднадумцам.

З таполяў зноў з карканнем узляцелі вароны.

— Кыця-кыця-кыця!

Воддаль, па дарожцы ад касцёла, рухалася цётка ў вялізным капелюшы. За ёй бегла з дзесятак бадзячых катоў.

— Статс-дама Пальміра Мрачкоўская з пажамі! — захіхікаў Рыгорка.

Яго смех падхапілі астатнія хлопцы, нехта дурасліва замяўкаў. Дзівакаватая жонка тутэйшага доктара была асобай вядомай.

— От разумнікі! — спыніла рогат Марылька.— Гэтая кабета не толькі сабак ды катоў прыкормлівае. Яна і суседскіх дзетак за так маляваць вучыць. І мае вучні-беспрытульнікі многія ў яе карміліся, пакуль у інтэрнат не трапілі. А карціны вы ейныя бачылі?

— Добра, добра, Марылька, пераканала.— Янук уладна пагладзіў дзяўчыну па плечуку, але сустрэў насмешны позірк і сумеўся.— Давайце па хатах, пакуль дабрадзейная Пальміра сюды сабак не прывяла.

Лісце з шоргатам ападала на зямлю, на помнікі, прыліпала да граніту, быццам безнадзейныя лісты да нябожчыкаў. Маладыя таполі ўмольна цягнуліся галінкамі да ўжо астылага сонца, нібы спадзяваліся дастаць яшчэ крыху летняга цяпла...

Ад брамы ўсе разыходзіліся ў розныя бакі. Янук памкнуўся быў пайсці з Марылькай, але яна подбегам дагнала Антося.

— Можна з табой?

Гэта было так неверагодна, што Антось не змог нічога адпаведнага сказаць. Яны моўчкі ішлі па ціхай Кальварыйскай вуліцы, і ён усё ніяк не мог прыдумаць, пра што пачаць размову,— у яго толькі замірала сэрца кожны раз, як лёгкая хустка Марылі, завязаная на шыі, па волі гарэзнага ветрыку датыкалася да яго рукава доўгімі кутасамі. Не куртуазны нашчадак у імператара...

— Я б таксама хацела, каб ты заставаўся звычайным паэтам,— раптам суха прамовіла Марылька, так пільна гледзячы наперад, быццам адтуль вось-вось мусіла з’явіцца варожае войска.— Ты мог бы быць вялікім паэтам, Антоська.

— «Мог бы»... Гаворыш, як хаваеш. Я ж яшчэ жывы!

— Вазьмі мяне замуж, Антось!

Ён аж спатыкнуўся. Пачулася, відаць? Марылька ішла, усё гэтак жа гледзячы перад сабой, са спакойным тварам, схаваўшы рукі ў кішэні пацёртага плюшавага пінжачка. Вядома, пачулася... Але ён раптам усвядоміў, якая дзяўчына ўся напятая — быццам струна...

— Ну дык як? Згодны?

— Паслухай... Я не разумею...

— А што тут не разумець?!— Яна рэзка спынілася, пазіраючы на яго злымі зялёнымі вачыма.

Якія ў яе вочы, калі яна злуецца! Напэўна, так ззяюць смарагды, калі глядзець праз іх на сонца. Ён усё яшчэ не ўцяміў. А яна гаварыла — аж перахоплівала голас:

— Няўжо трэба тлумачыць? Мы загінем! Праз тыдзень, заўтра, пазаўтраму! І першага пацягнуць цябе! І ты ніколі... Мы з табой ніколі... Гэта ж горай за смерць! Два гады знаёмыя. Няўжо ты такі сляпы?

Ён верыў і не верыў. Варухнулася страшнае, здрадлівае — хоча пабыць каралевай! Але Марылька, як пачуўшы ягоныя думкі, тупнула нагой:

— Ды не абыходзіць мне тваё каралеўскае паходжанне!

І раптам... заплакала. Закалаціліся худзенькія плечы. Ён ні разу не бачыў, каб незалежная Марылька, якая папросту спраўлялася са сваімі выхаванцамі — былымі беспрытульнікамі, плакала. Ён нясмела пагладзіў яе даланёй па мокрай шчацэ... І адчуў, як па яе целе прайшлі дрыжыкі... Такія ж, як у яго — ад дотыку да яе...

— Дурненькі...— прашаптала яна і так зірнула ў яго сінія вочы, што ўсе ягоныя сумневы расталі бясследна.

Іх узялі ўсё-ткі не праз тыдзень — праз тры месяцы.

Следчыя шчыра рагаталі над спробай пяці студэнтаў стварыць Каралеўства Беларусь. Справу, аднак, засакрэцілі да неверагоднага. Усе, хто меў да яе дачыненне, мусілі быць знішчанымі. Асабліва здзекаваліся з патэнцыйнага караля. Ён выявіўся надзіва ўпартым. Нават схітрыўся ўцячы падчас перасылкі. Ратуючыся ад пагоні, загінуў ад ран.

Пальміра Мрачкоўская ў бамбёжку 1941 года згарэла разам са сваім дамком ля Кальварыі — не хацела пакідаць карціны.

На папялішчы доўга збіраліся бадзяжныя сабакі і каты.

## Сібірскія крумкачы

Зэк № 1-756 у калоне гэткіх жа, як сам, дахадзягаў цягнуўся ў свой барак.

Адзінае, што вылучала гэтага зняволенага,— вялікая птушка, якая сядзела ў яго на плячы, як чорны анёл-ахоўнік.

Гэта, вядома, быў непарадак, і гады тры таму птушка зрабілася б мішэнню для канвойных, а зэк загрымеў бы ў БУР — страшную лагерную турму.

Але апошнія тры гады, пасля смерці «галоўнага кормчага», тут усё змянілася. Ахова ўжо не ведала, як трактаваць сваіх вязняў. Амаль кожны дзень кагосьці з іх даводзілася выпускаць на волю. А пры пераходзе з катэгорыі быдла ў катэгорыю чалавека былы зэк мог ператварыцца ў кагосьці вельмі ўплывовага і паважанага, напрыклад, у генерала і Героя Савецкага Саюза, як гэта адбылося ў мінулым месяцы. І ахоўнікі моўчкі цярпелі крумкача.

Вязень падабраў яго паўмёртвым птушанём. Тады найбольш абурыліся іншыя зняволеныя — дадаваўся яшчэ ядок. Але калі крумкач падрос, самі пачалі яго падкормліваць.

А ўладальніка крумкача ўсё не вызвалялі. Зэк №1-756 не скардзіў-ся. Яму і так пашанцавала. Ён пражыў ужо дваццаць пяць лішніх гадоў на гэтым свеце. Тады, пасля ягонага адчайнага ўчынку, пра які не хочацца ўспамінаць, яго на нейкі час вызвалілі. Потым — вайна. Войска Польскае. Ваяваў добра — бо ўжо не шкадаваў жыцця, купленага занадта дарагой

цаной. Потым — цэлыя два гады, калі здавалася, усё самае благое — за спіной і можна пачынаць нармальнае жыццё. Ён нават зноў пачаў пісаць вершы. І з горыччу разумеў, што ім ніколі не ўзляцець да вышыні вершаў таго, сінявокага, хто загінуў. І зноў — савецкі лагер...

У зоне яго паважалі. Ён ніколі не «шасцярыў». Калі здзекі перавышалі нармальную чалавечую трываласць і кожная клетачка спакутаванага цела маліла здацца — перад вязнем паўставалі сінія-сінія вочы... Сінейшыя, чым у яго самога... Яны глядзелі з маўклівым дакорам, і вязень выплёўваў разам з крывёй упартае «не...».

Цяпер у яго ёсць надзея падоўжыць свой зямны шлях. Хаця б дзеля гэтага крумкача — вось хто сапраўды адданы! А крумкачы жывуць, кажуць, гадоў па трыста... Ды яшчэ ёсць адна справа на зямлі... Той скрутачак папер, спісаных цвёрдым, круглым юначым почыркам, пра які ён адзін цяпер і ведае.

Марылька таксама ведала пра той скрутачак. Але Марылькі больш няма... Пережыла вайну — і памерла ад запалення лёгкіх. Застудзілася, цягаючы маразамі паламаныя шпалы на дровы ў дзіцячы дом. Калісьці ён, безнадзейна закаханы, выратаваў ёй жыццё. Тым адзіным спосабам, які быў яму даступны. За гэта яна пракляла яго.

Але не варта варушыць мінулае. А то зноў пачне балець сэрца і сінія вочы зірнуць проста вунь з тае аблачынкі.

Крумкач узляцеў — ён, напэўна, разумеў, што ягоны цяжар стамляе саслабелага чалавека, і кружляў невысока над калонай людзей у ватоўках.

— Кррум-кррум!

Вязню ж пачулася — «Кароль! Кароль!».

І з аблачынкі над высокімі сібірскімі соснамі зірнулі сінія-сінія вочы...

Яшчэ праз трыццаць гадоў, у хуткім цягніку Масква—Мінск, дзесьці на перагоне між Ярцавам і Смаленскам, на верхняй паліцы спальнага купэ плакала ў прапахлую хлоркай, злямцаваную казённую падушку няўдалая студэнтка Магдаліна Дарбут. Плакала, стараючыся, каб ніхто не пачуў ейнага плачу, сама не разумеючы, аб чым яе туга... Можа, па сваіх ніколі не бачаных дзеду і бабцы — раней ведала толькі іхнія імёны: Антоній і Марыя. Па хлопцу і дзяўчыне, што сустрэліся пяцьсот гадоў таму ў маленькім ліцвінскім мястэчку, каб спазнаць самае салодкае і самае горкае на зямлі — каханне... Плакала па сабе... Па бацьку... Па Марку... Па ўсім свеце — такім несправядлівым і такім прыўкрасным...

А ў галаве круціліся апошнія радкі пісьма, напісанага на старонках старой кніжкі:

«Для чаго я выжыў?

Я так даражыўся сабой. Але аднойчы зразумеў — з усіх сваіх сяброў я быў самы бяздарны. Цяпер ахвотна б аддаў сваё жыццё кожнаму з іх — якую карысць прынеслі б яны Беларусі! Як збяднеў без іх свет!

Але запозна. Цяпер я думаю, што пражыў гэтулькі для таго, каб сустрэць цябе. Я зноў раблю эгаістычна — перавальваю на твае худзенькія плечы свой цяжар. Я зразумею, калі ты адмовішся. Мая спадчына не прынясе табе ні грошай, ні славы. Тым больш, ведаючы ўсё — пра што я тут распавёў і пра што змаўчаў,— ты, можа, не пераступіла б парог маёй хаты. Але я ўсё-ткі прашу цябе — вельмі прашу: знайдзі той рукапіс... Дзеля аднаўлення справядлівасці. Цяпер можаш лічыць прачытанае страшнай казкай, загарнуць кніжку, і я шчыра жадаю табе шчасця. Калі ж табе мала непрыемнасцяў — прачытай наступныя радкі вельмі ўважліва, пятнаццаць, лепш дваццаць разоў запар. Гэта вельмі важна. Добра?

І не праклінай мяне, як даведаешся ўсё.

Мяжа між добрымі намерамі і паскуднымі справамі сцёрта мільярдамі крокаў...»

**Ліст застаецца ў сне**

Такія хлопцы ніколі не падабаліся Магдаліне. Ён глядзеў на яе ветліва, але неяк... суха, ці што? Без той «паляўнічай» іскрынкі, якая мімаволі запальваецца ў вачах у мужчыны пры поглядзе на прыгожую дзяўчыну і якую Магдаліна, хоць раздражнялася роллю «аб’екта палявання», прывыкла сустракаць у вачах суразмоўцаў.

На Марка, на яе самавітага, інтэлектуальнага Марка Ялецкага, хлопец пазіраў трохі з большай цікавасцю, але таксама без асаблівае павагі. А між тым зазвычай нават пры першым знаёмстве з Маркам размаўлялі неяк па-асабліваму. Японцы сказалі б: «У яго ёсць свой тыгр». Але гэты маладзён у заношанай джынсавай куртачцы, ды яшчэ з доўгімі валасамі, сцягнутымі на патыліцы ў куртаты хвосцік, як чамусьці раздражнёна вырашыла Магдаліна, занадта многа пра сябе думаў. А кабінет у яго — не большы за грузавы ліфт. Няйначай, былая кладоўка. Толькі і ўлез пісьмовы стол, завалены папкамі, ды шафа. І ўсё абклеенае кепскімі ксераксавымі копіямі сярэднявечных гравюр.

Няўжо так можа выглядаць «выдатны спецыяліст Канстанцін Сташынскі», як рэкамендаваў яго Марк?

Затое пры адным позірку на стосік старых кніг, лістоў і фота-здымкаў цёмныя вочы хлопца літаральна запалалі і ўвесь ён раптам змяніўся. Абыякавасць і іронія зляцелі з яго. Маладзён браўся за кожны аркушык так беражліва, быццам той мог рассыпацца.

— Вядома, я сустракаў гэтае прозвішча. Іван Канстанцінавіч Хмель... Янук Хмель... У трыццатых друкаваўся ў студэнцкай газеце універсітэта, у «Звяздзе»... І адразу пасля вайны, у сорак шостым, некалькі падборак. Вершы пафасныя, прымітыўныя. Але цікава другое — па ўсіх звестках, гэты чалавек памёр у сорак восьмым годзе. Пра Дарбутаў ведаю шмат —

але пра тых, што бралі ўдзел у паўстанні шэсцьдзесят трэцяга. Дваіх з гэтага роду тады расстралялі, і чацвёра ці пяцёра былі сасланыя. Вы, значыць, іх спадчынніца...

Маладзён упершыню з цікавасцю зірнуў на Магдаліну.

— Ты, Косця, у глыбіні гісторыі не залазь,— незадаволена спыніў знаёмца Марк.— Лепш патлумач, якім макарам Дарбуты, а дакладней, вось ейны дзед, Антон Дарбут, з тым Іванам Хмелем мог быць звязаны.

— Колькі разоў табе казаць,— цвёрда прамовіў спецыяліст у джынсоўцы.— Я не Косця, а Кастусь. І не трэба пасмейвацца. Калі б я быў Гіві ці Джордж, ты што, зваў бы мяне Грышам? А што тычыцца дзеда тваёй дамы, то я, прабач, не правідца. Мне трэба падняць дакументы, пашукаць у архівах. Пакуль нічога сказаць не магу.

— Затое я магу,— не вытрымала Магдаліна.— Калі Іван Хмель вучыўся ў педтэхнікуме, мой дзед быў студэнтам філалагічнага факультэта ва універсітэце. І ён таксама паэт. І, напэўна, добры. І яшчэ ён быў нашчадкам візантыйскіх імператараў!

— Ты адкуль гэта ўзяла? — уразіўся Марк.— Нічога раней не гаварыла!

— Я сама толькі два дні таму даведалася... Вось...— Магдаліна нейкі час павагалася, але ўсё-ткі дастала з сумачкі кніжку ў зялёнай пацёртай вокладцы. Зірнула на Сташынскага... Характар у таго, відавочна, кепскі, але... Чамусьці Магдаліна падумала, што стары Хмель знайшоў бы, пра што пагутарыць з гэтым фацэтам...

— На апошніх старонках Іван Канстанцінавіч напісаў ліст да мяне.

Марк пацягнуўся да кнігі адначасова з Кастусём, і яны пачалі гартаць яе ўдвух, перашкаджаючы адзін аднаму.

— Нешта я не бачу тут запісаў,— нарэшце незадаволена сказаў Марк.

Магда адарвалася ад сузірання гравюры з алегорыяй Меланхоліі і ўзяла кніжку.

— Вось тут, у самым канцы...

І аслупянела. Лісты былі на месцы. На месцы была назва «Для зацемак». Але пад ёй не было нічога! Ніводнага радка! Чыстыя пажоўклыя старонкі!

— Яно было напісана тут...— прамармытала Магдаліна, гладзячы дрыготкімі пальцамі паперу.

Марк раз’юшыўся.

— Ну, усё... Дайшла са сваімі дзядамі... «Нашчадак візантыйскіх імператараў»! Хутка будзеш на сценах касмічныя пасланні чытаць. Давай сюды...— Ён груба выхапіў з рук Магдаліны кнігу.— Пайшлі...

Дзяўчына бязвольна рушыла за жаніхом.

— Чакайце! — ірвануўся за імі Кастусь.— Дайце мне гэтую кнігу! Хоць на дзень! Я яшчэ пагляджу!

Марк злосна сунуў яму ў рукі зялёны томік.

— На, вывучай... Можа, якое пасланне праявіцца. І ўсе астатнія дакументы твайму інстытуту перадамо. Рабіце што хочаце. А мне трэба

гэтую дзеўчынёху да нармальнага стану прывесці. І крумкача гэтага паганага сплаўлю ў жывы куток.

Магдаліна выпадкова заўважыла, што фанабэрысты Сташынскі стаіць у дзвярах свайго кабінеціка і глядзіць ім услед, прыціскаючы злашчасную кнігу абедзвюма рукамі да грудзей.

Дзяўчыне аж закарцела на развітанне выкінуць нешта адпаведнае свайму вар'яцкаму статусу — гаўкнуць на гэтага цікаўніка, ці што...

Добра, стрымалася.

Назаўтра была субота, і Марк павёз яе за горад, на пікнік. Калісьці яны любілі падобныя вылазкі. Але з мінулай вясны, калі выбухнуў рэактар у Чарнобылі, на прыродзе Магда пачувалася няўтульна. Тады многія напалохаліся — пілі ёд, накапаны ў шклянку з вадою, не адчынялі фортак... Марк нават прынёс Магдзе дзве таблеткі ад радыяцыйнага апраменьвання. Такія таблеткі захоўваліся ў індывідуальных аптэчках грамадзянскай абароны — на выпадак, калі вораг скіне атамную бомбу. Але пасля першых звестак аб аварыі выратавальныя лекі былі апячатаныя. Каб панікі не было. Знаёмы Марка ў сваім даследчым інстытуце ўзначальваў сектар грамадзянскай абароны і ўласнаручна мусіў апячатваць сховішча з аптэчкамі. Вось яны з парторгам і ўхапілі сабе па дзесятку пігулак.

Магда заглынула таблетку адразу, як атрымала, не запіваючы вадой, і пасля гэтага доўга балеў страўнік.

Марк жартаваў над палахлівай дурнічкай. Пачалася кампанія супраць панікі, і сталася модным бравіраваць уласнай смеласцю і прагрэсіўнасцю. Людзі хваліліся тым, што загаралі, елі ягады, смяя-ліся з тых, хто працягваў змагацца з радыяцыйным пылам і спажываў замест свежых ягад леташнія кампоты.

Але Магда па-ранейшаму адчувала страх. У Маскве, праўда, страх адышоў. Яна чула размовы пра выступ беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча, які адзіны ўголас сказаў пра страшную бяду. Хадзілі чуткі пра зону... Але чалавек заўсёды ахвотней верыць у лепшае.

І Магда паехала, прыдушыўшы сваю радыефобію. Да кампаніі далучыліся дзве сямейныя пары — Маркавы сябры па клубу фантастыкі. Смажылі шашлыкі над выкапанай у яшчэ вільготнай веснавой зямлі ямінай. Спэцкаліся бульбай, печанай у вогнішчы. Гаварылі пра Брэдберы і Шэклі, братоў Стругацкіх і ўласныя творчыя задумы. Адзін з фантастаў, у побыце — інжынер-канструктар, асабліва хва-ліўся незавершанай «падпольнай» аповесцю, у якой дзейнічае двухгаловы монстр пад імем Карл Маас-Энгеляс. І ўсе дружна ўгаворвалі Магдаліну кідаць ейныя артыкулы і пачынаць пісаць фантастычныя аповеды. Потым кабеты рвалі пяшчотны кураслепнік — бухматы бела-зялёны дыван усцілаў зямлю. Але Магдаліне было шкада кволых кветак. Сабраныя ў бясформны жмут, яны хутка звешвалі белыя галоўкі і гублялі пялёсткі.

І Магдаліна не прыхапіла букеціка. Але насланнё нядаўніх дзён адышло, абляцела з яе, як тыя кволыя пялёсткі. Магда ўпэўнілася, што рамантычная гісторыя ейнага роду — толькі сон на верхняй паліцы ў цягніку Масква — Мінск. Нават цешыць самалюбства — мець такое багатае ўяўленне! Дарма Марк кажа, што з яе не выйдзе вялікай пісьменніцы. Яшчэ паглядзім!

Але дзяўчына ўсё-ткі не аддала Карла Карлавіча, якога Марк, правёўшы нявесту дахаты, імкнуўся занесці ў жывы куток суседняе школы, дзе ўжо ўсё было дамоўлена. Надта сумна паглядала птушка сваімі чорнымі вочкамі, надта трагічна сядзела на шафе, ухутаўшыся з галавой у крылы, як у плашч. Нават угаворы маці, якая цалкам была на баку будучага зяця, не дапамаглі.

— Ну, глядзі, калі сярод ночы твой крумкач загарлае «Nevermore», як у баладзе Эдгара По, не прыбягай скардзіцца,— зазлаваў Марк і сышоў, нават не пацалаваўшы Магду на развітанне.

**Гісторыя працягваецца**

Гэта было ў панядзелак, а дзесятай раніцы, калі кожны самавіты грамадзянін мусіў шчыраваць на працоўным месцы, дадаючы мёду ў грамадскія соты. І мала хто задумваўся пра хуткае прышэсце пчаляра з дымаром.

У гэты дзень Магдаліна ўпершыню запляла валасы ў дзве тоўстыя кароткія касы. Правую перацягнула жоўтай гумкай, а левую — фіялетавай.

Швэдар быў звычайны, доўгі, цёплы... Таму проста неабходна было надзець пад яго кароткую спадніцу ў краткі і вязаныя ў палоску гетры.

Але вязаныя ў палоску гетры — гэта ведае кожная інтэлектуальная кабета — валодаюць здольнасцю вяртаць легкадумны настрой.

І Магдаліна, замест таго каб пайсці ва універсітэцкі аддзел кадраў, дзе яе чакаў Марк, рушыла ад свайго пад’езда зусім у іншы бок. Аблачынкі над ёй штурхаліся, наплываючы на сонца, ветрык гладзіў па косах, мінакі касавурыліся на паласатыя гетры, і зусім не абавязкова было займацца справамі.

— Магдаліна! Пачакайце!

Ад аўтобуснага прыпынку з другога боку вуліцы бег хлопец у джынсавай куртцы. «Спецыяліст» Кастусь Сташынскі! У Магды не было ніякага жадання з ім сустракацца, але не ўцякаць жа...

— Ледзь знайшоў вас! Марку званіў — той мяне проста паслаў. Добра, наш агульны знаёмца ўспомніў, што ваш дом нібыта насупраць гэтай кнігарні...

Магда змрочна вывучала трэшчынку ў шэрым сухім асфальце, з якой паказваліся зялёныя дзюбкі травы, і нецярпліва пастуквала наском чаравіка. Няўжо ён не заўважае, што яна не хоча з ім размаўляць?!

— Я праверыў тыя старонкі! Ёсць стары спосаб выяўляць напісанае нябачным атрамантам — патрымаць паперу над парамі ёду. Тры бутэлечкі ёду звёў! Я ўпэўнены — на тых аркушах сапраўды нешта было напісана!

Магдаліна недаверліва зірнула на ўсхваляванага суразмоўцу, амаль жадаючы, каб ён жартаваў. Але цёмныя вочы Кастуся глядзелі сур'ёзна.

— Цяпер на лістах ясна відаць сляды пяра. Але разабраць, што там было напісана, ужо не зможа ніхто, хіба асобныя словы. Я спецыяльна кансультаваўся. Аўтар запісу націскаў на пяро ледзь-ледзь, а апошняя старонка ўвогуле не прачытваецца. Ёсць такі атрамант... У ім пачынаецца хімічная рэакцыя, калі трапляе на святло. Кнігу вам перадалі загорнутую ў нешта шчыльнае?

Магда няўпэўнена пацвердзіла:

— Так... Зверху былі газеты, а знутры такая чорная папера, відаць, пакет ад фотапрыналежнасцяў.

— Ну вось...

— Лухта нейкая! — не здавалася Магдаліна.— Які сэнс пісаць святлоадчувальным атрамантам, калі я ці нехта іншы маглі проста прагарнуць тыя старонкі, не чытаючы, і знішчыць тэкст.

— Вядома, рызыка была, як і незразумелая нам перасцярога,— заківаў Кастусь.— Але я сустракаўся з тымі, што прайшлі турмы і лагеры. Нешта ламаецца ў душы чалавека, і ён асцерагаецца нават тады, калі яму ўжо не варта баяцца. Ваш Іван Хмель ведаеце на якое аддзяленне спрабаваў пасля вайны паступіць? На хімічнае! Так што мог сам вырабіць такі атрамант. Часу ў яго хапала. Я думаю, каб рэакцыя пачалася, трэба, каб напісанае было на святле пэўны час. Почырк вельмі дробны, на кожную старонку вы патрацілі, мусіць, хвілінаў пяць, чытаючы? Так?

— Ну, напэўна...

— А выпадкова прагарталі б за секунды. Успомніце, у самім тэксце не было ніякіх дзіўных указанняў?

Магда задумалася.

— Ну, хіба што ён прасіў апошнія радкі прачытаць раз дваццаць...

— Каб вы іх запомнілі! — усхваляваўся Кастусь.— І... вы помніце, праўда?

У Магдаліны раптам закружылася галава. У пытанні Кастуся ёй падаўся той жа інтарэс, што і ў пытаннях чалавека ў сінім касцюме з кабінета рэктара. З яе досыць...

— Нічога я не памятаю! Адчапіцеся ад мяне! — і рушыла подбегам — зусім не заваёўваць шырокі свет, як збіралася з раніцы, а да аўтобуснага прыпынку, ехаць да надзейнага Марка, да ўсталяванага, абароненага жыцця.

Аўтобус толькі што паказаў жоўты зад у клубах дыму.

— Істэрыка ў вашым родзе перадаецца з пакалення ў пакаленне ці гэта ваш асабісты ўнёсак у айчынную гісторыю?..— Кастусь сярдзіта пазіраў на

Магду.— Мне што, бегаць за вамі да другога прышэсця? Добра, што я не эпілептык, а то мільганне вашых панчох у палосачку здольнае выклікаць прыступ.

Магдаліна злосна прыкусіла губу. А Кастусь працягваў вельмі сур’ёзна:

— Год таму я быў у камандзіроўцы ў раённым музеі. І там выпадкова даведаўся, што ў адной мясцовай сям’і захоўваецца рукапіс філосафа дзевятнаццатага стагоддзя Альгерда Андрыеўскага. У тысяча восемсот шэсцьдзесят трэцім ён, як і ваш прадзед, біўся на баку інсургентаў, быў паранены, схоплены і пасаджаны ў Бабруй-скую крэпасць. Там і памёр. Ягоны маёнтак перайшоў ва ўладанне таго, хто выдаў інсургентаў...— Цяпер Магда слухала, стаіўшы дыханне.— Пра Андрыеўскага забыліся. Рукапіс захоўваўся ў нашчадкаў здрадніка. Адзіны ацалелы рукапіс! Разумееш? Адзіны! І калі і ён знікне, мая Беларусь акажацца збяднелай яшчэ на адно імя. А іх столькі ў яе адабралі! І гэты чалавек... Ён сягаў думкай у будучыню чалавецтва, а ад яго на роднай зямлі, за якую аддаў жыццё, не застанецца нічога! Зусім нічога! Ты адчуваеш, як гэта несправядліва? — Кастусь гаварыў так горача, што на іх з Магдай пачалі азірацца. Хлопец суцішыў голас: — У сям’і паважаных, заможных людзей мяне сустрэлі, як быццам я абакраў мясцовую царкву. Як я зразумеў, у тым родзе з пакалення ў пакаленне перадавалася варожасць да былой ахвяры. Псіхалагічныя штучкі — пачуццё віны спараджае нянавісць да бязвінна пакрыўджанага. Карацей, я і грошы прапаноў-ваў, і страшыў Акадэміяй навук, і прасіў па-чалавечы. І зразумеў, што яны зараз жа, як я пайду, гэты рукапіс, якому раней не надавалі ніякага значэння, знішчаць. Проста цуд, што яны не зрабілі гэтага раней! Адзінае, што прыходзіць у галаву,— колішнія ўладары маёнтка захоўвалі «кампрамат» на законнага ўладальніка. І хоць маёнтка даўно не стала і сутнасць справы забылася, спадчыннікі па традыцыі рукапіс хавалі. І я яго... скраў.

— Нічога сабе! — не вытрымала Магдаліна.— Гэта ж... нядобра!

Кастусь злёгку пачырванеў.

— Я разумею, што нядобра... Але я паклаў у той куфэрак пяцьдзесят рублёў — усё, што меў. Дый злодзей з мяне аказаўся ніякі — дагналі, далі ў каршэнь... Добра, у міліцыю не пацягнулі. Але рукапіс я абараніў. І з дакладам пра Андрыеўскага мяне нават запрашалі на канферэнцыю ў Чэхію.

— Гэта ўсё азначае, што вы ад мяне не адчэпіцеся,— задумліва, але без варожасці прагаварыла Магдаліна.

Кастусь моўчкі хітнуў галавою.

Магдаліна тузанула сябе за касу.

— Мне трэба падумаць... Можа, што-небудзь і ўспомню...

У аўтобусе, які вёз яе да дабрадзейнага Марка, Магда чамусьці сцягнула з кос жоўтую і фіялетавую гумкі, і яе валасы ляглі звыклай неахайнай капой.

## Карл Карлавіч ідзе ў госці

— Забірай зараз жа гэтае паскудства і нясі ў школу!

Маці стаяла перад Магдай з мокрай анучай у руках.

— Усю хату твой крук загадзіў! У клетцы, бачыш, трымаць шкада! А ты ж у мяне пісьменніца, падлогу памыць — ручкі ўпэцкаеш. Паслухайся хоць разумнага чалавека — я пра Марка кажу, мяне ж ты за разумную не лічыш... Або забірай Карлу, або я яго зараз з балкона шугану!

Магдаліна прыгнечана маўчала. Маці, яшчэ не старая прыгожая жанчына, прыгорбіўшыся, пайшла на кухню. Адтуль зараз жа раздалося адчайнае стракатанне машынкі-друкаркі — чарговая матчына халтура. У Магды не хапала сумлення крыўдзіцца. Вядома, маці так ганарылася, што дачка паступіла ў маскоўскі інстытут, што выб’ецца ў людзі. А тут — ні вучобы, ні працы, адзін крумкач.

Так Магда апынулася перад пад’ездам свайго дома з цяжкай клеткай, захінутай пледам у чорна-чырвоныя краткі, у адной руцэ і парасонам у другой. Дожджык перакрэсліваў дарогу ва ўсіх напрамках, і ісці кудысьці відавочна не было сэнсу. Белыя анёлкі абселі каштаны і падскоквалі на пругкіх галінках, ловячы празрыстыя кроплі.

— Гэта ваша звычайная экіпіроўка для праменаду? — У пытанні чуўся вясёлы жах і нават павага.

Настырны Кастусь, засунуўшы рукі ў кішэні мокрай наскрозь джынсавай куртачкі, белазуба ўсміхаўся. Магдаліна рэзка завярнула ўбок і рушыла амаль бягом па лужынах, абы сысці.

— Хоць ад дамы ў вас няшмат, але рэшткі выхавання ўва мне так і змушаюць прапанаваць дапамогу...

Магда спынілася. Ну і нахабнік! Яна як мага пранізліва зірнула ў Кастусёвы вясёлыя вочы:

— Прабачце, я вельмі, вельмі спяшаюся!

І тут падаў адчайны голас Карл Карлавіч:

— Кар-р-равул!

І заварушыўся, аж Магда ледзь не выпусціла клетку.

— Што гэта ў вас там?!!

— Крумкач... Іван Хмель пакінуў...

— І куды ж вы яго несяце дажджом?

— У школу... У жывы куто-ок...— Магдаліна раптам пачала неяк па-дзіцячы ўсхліпваць, стараючыся схаваць ганебныя слёзы ад непрыемнага суразмоўцы.

Кастусь уважліва паглядзеў на дзяўчыну, нагнуўся, расхінуў посцілку на клетцы. Між прутоў паказалася моцная шэрая дзюба, зірнула чорнае вочка ў колцы белаватых пёркаў, з залатой іскрынкай у цэнтры.

— Ну, прывітанне! Як цябе завуць, дружа?

І раптам з клеткі прагучала хрыплае, але цалкам разборлівае:

— Кар-рл Кар-рлавіч... Пр-рафесар-р...

А пры ёй не гаварыў! Магда аж плакаць перастала.

Кастусь жа нібыта і не здзівіўся:

— Прыемна пазнаёміцца, калега. Малодшы навуковы супрацоўнік Кастусь Сташынскі... Кандыдат гістарычных навук... Можа, прафесар зойдзе да мяне на гарбату? Выключна ў навуковых мэтах... Мая бабуля вельмі любіць птушак, гасцей і выдатна пячэ піражкі.

Белыя анёлкі-суквецці гайдаліся на галінках каштанаў усё мацней, бо дождж ператварыўся ў залеву. І стаяць на месцы было глупствам.

...Прызнацца, пры поглядзе на Кастусёву бабулю не верылася, што яна ўмее нешта гатаваць. Бабуля была па-спартыўнаму падцягнутая, у нагавіцах і прасторнай сіняй блузцы. Сівыя валасы, калісьці, відаць, чорныя, коратка пастрыжаны. Бабуля абыходзілася без акуляраў, затое на шыі віселі каралі з вялізных, з каштан, кавалкаў неапрацаванага бурштыну.

— Ад шчытавідкі добра дапамагае! — нізкім голасам патлумачыла Яўгенія Іванаўна, заўважыўшы Магдаліціну цікавасць.— Я гэтыя кавалкі калісьці сама вылавіла ў Балтыцы! — У бабуліным голасе гучаў гонар.— У сакавіку лёд пайшоў у заліве, а ў ім — бурштынавы слой. А хвалі, а сівер! І ўвесь бурштын ад берага адганяе. Мужчыны стаяць з сачкамі, лаюцца. А я маладая была, адчайная — распранулася, і ў ваду! Муж, дзед Кастусёў, мяне пасля спіртам расціраў са свайго афіцэрскага пайка, і ўнутр — сто грамаў. І нічога, нават насмарку не схапіла! Не тое што цяперашняя хліпкая моладзь. Я ж уральская казачка! Нас у палонках хрысцілі! Ешце піражкі, маладыя людзі. Вось гэтыя — з капустай, а гэтыя, тоўсценькія,— з рысам і мясам. А гэтаму птушанятку я зараз таксама нешта смачненькае дам...

«Птушанятка», Карл Карлавіч, пачуваўся ў новай хаце някепска. І піражкі сапраўды былі смачнюткія, а гарбата пахла язмінам. Бабуля прымусіла Магду, «кволую гарадскую дзеўчынёху», абхінуцца махеравым пледам, бо «сучасныя рыцары, на жаль, не дадумаюцца да такіх простых рэчаў». Кастусь пакорліва ўздыхнуў на бабулін закід.

Яўгенія Іванаўна ўсміхнулася:

— Добра, добра, я супербабуля, я ўсё разумею. Іду ў свой пакой і пачынаю рыхтавацца да заўтрашняй лекцыі. Калі што, паклічаце.

Магду кінула ў чырвань ад адной думкі, што нехта мог падумаць, быццам яе з гэтым нахабным Кастусём звязваюць нейкія асаблівыя адносіны. Ён жа яе проста выкарыстоўвае — як цікавы дакумент. А параўнаць гэтага хлапчыску з Маркам... Смешна!

Але сыходзіць нікуды не хацелася. У старой кватэры з высокай столлю, без дываноў і абавязковага крышталю, затое з кніжнымі паліцамі і такімі зручнымі, хоць і цвёрдымі, фатэлямі было ўтульна і спакойна.

І Кастусь нічога не пытаўся і не кідаў дапытлівых позіркаў. Сядзеў у сваім фатэлі ды вёў свецкую гаворку пра норавы шляхты васемнаццатага стагоддзя.

— ... А на развітанне гаспадарская дачка мусіла «запіць» з кожным госцем страмянную — трохі пакаштаваць з чаркі, якая падавалася госцю. Вось прыблізна такая чарка была... Як на той паліцы, каля чорнага гаршчэчка.

Крумкач прагарлаў сваё «Nevermore», і Магда наважылася расказаць.

Кастусь слухаў яе не перабіваючы. Толькі ў адным месцы, калі гаворка ішла пра доказы візантыйскага паходжання, усхапіўся і некалькі разоў прабегся па пакоі, махаючы рукамі і нешта мармычучы сабе пад нос.

І вось засталося пераказаць апошнія радкі зніклага паслання. Магда змоўкла. Кастусь зразумеў яе хваляванні.

— Можаце мне не расказваць далей. Хто я такі? Мэнээс з хіповым хвосцікам. Але я магу звесці вас з аўтарытэтнымі вучонымі і, галоўнае,— сумленнымі. Ёсць прынамсі два чалавекі... Адзін, вядомы пісьменнік, таксама перажыў рэпрэсіі. Вы можаце распытацца пра яго ў каго заўгодна.

Але Магда рашуча страсянула валасамі, не заплеценымі сёння ў акуратныя коскі, і, заплюшчыўшы вочы, каб ясней прыпомніць напісанае, прагаварыла, як прачытала:

«Было зроблена тры копіі з рукапісу і з дакументаў.

Адну я перадаў Антосю. Ведаю, што ў час уцёкаў паперы былі з ім.

Другая копія ў архіве прафесара Сахнут-Бічэўскага, у папцы з надпісам «Копіі судовых актаў сельскагаспадарчага суда Мінскай губерні. Пачатак XIX ст.».

Трэцяя — на Кальварыйскіх могілках. Склеп злева ад касцёла, на фасадзе трохкутнік з блакітнай цэглы з вокам. Гільза закапаная ў правым дальнім куце, 50 см.

Твой дзед падпісваўся «Алесь Валошка». Мы з ім абодва былі сінявокія».

Пераказала — і жахнулася: цяпер назад не павернеш. А Марк строга загадаў выкінуць з галавы ўсе гэтыя справы! Як ён раз’юшыцца!

Твар Кастуся гарэў ад узрушэння.

— Мой сябра напісаў артыкул «Загадка Алеся Валошкі». Нідзе не надрукавалі — сказалі, бяздоказна. Сенсацыя, высмактаная з пальца. З паэтаў, што пачыналі напрыканцы дваццатых, Валошка быў найярчэйшы. Усё, што ўдалося знайсці,— чатыры вершы ў газеце. Прычым у тых нумарах, што захаваліся ў бібліятэках, публікацыя выразана! Але і гэтага дастаткова. Сапраўдны талент. Ні пафасу, ні сялянска-пралетарскай тэматыкі. Толькі роздум і пачуццё. Нібыта сцверджана, што пад псеўданімам Валошка друкаваў раннія вершы ці то Глебка, ці то Броўка. Але мой сябрук перакананы, што быў такі паэт, дасюль неадкрыты. Адкапаў нейкую кнігу выдання 1933 года, дзе на абачыне ў спісе будучых

выданняў ёсць зборнік вершаў Алеся Валошкі «Чырвоныя канваліі». Гэты зборнік не з’явіўся ніколі. І ніколі больш не друкаваўся паэт Алесь Валошка.

— Рукапіс, пра які гаворыць Іван Хмель, гэта рукапіс «Чырвоных канвалій»? — задумліва папыталася Магдаліна.

— Думаю, так. А дакументы — доказы каралеўскага паходжання і, можа, некаторыя планы змоўшчыкаў. Каралеўства Беларусь! Як гэта... прыгожа! — Кастусь не змог уседзець на месцы і ўзбуджана хадзіў па пакоі.

Карлу Карлавічу, напэўна, гэты рух спадабаўся, бо ён таксама закульгаў па падлозе, нібыта перадражніваючы хлапца. Магдаліна рассмяя-лася. Але Кастусь нават не звярнуў увагі, працягваючы разважаць:

— Сахнут-Бічэўскі! Знакаміты прафесар! Яшчэ дарэвалюцыйнай школы! Знаўца антычнасці і сярэднявечча! Расстраляны ў трыццаць сёмым. Напэўна, як шпіён Рымскай імперыі. У ягоны архіў рукапіс Валошкі схаваў няйначай любімы вучань... Як вы называлі? Міхась?

— Так... А прозвішча не памятаю. Нібыта Зарэйка...Ці Зварэйна...

— Ніколі не чуў. Хаця гісторык. І гэты знік бясследна. Але схаваць паперы ў прафесарскі архіў — выдатная ідэя!

— А мне здаецца, там адразу знайшлі б?

— Нічога падобнага! — запярэчыў Кастусь.— Папка падпісаная. А папак — тысячы. Нават калі нехта будзе звяраць і пабачыць неадпаведны матэрыял, наўрад ці пачне адразу разбірацца. Ведаеце, колькі такіх «неадпаведных» папак у нашых дзяржаўных архівах? Урэшце трэба будзе распытацца ў бабулі — перад вайной яна была студэнт-кай Ленінградскага універсітэта, у час блакады працавала кімсьці накшталт вартаўніка ці архіварыуса... А на пачатку вайны многія архівы з Беларусі вывезлі ў Піцер. Лукаш Бэндэ, напрыклад, амаль усю беларускую рэпрэсаваную літаратуру туды перапёр... Хоць наў-рад ці бабуля ведае. Яна ж у мяне біёлаг. Спецыяльнасць — арніталогія. Лекцый ёй цяпер мала даюць чытаць. Пенсіянерка. У сельгастэхнікуме былыя студэнты дапамаглі прыладкавацца, дзве лекцыі на тыдзень. У свой час доктарскую не абараніла — з-за нашага спадчыннага паскуднага характару.

Карлуша, якому абрыдла бессэнсоўнае хаджэнне, узляцеў на паліцу. Адтуль адразу ж зваліўся зялёны гліняны збаночак і раскалоўся напалам. Магда сцялася... Зараз будзе чарговае «выгнанне з раю»... Але Кастусь толькі задумліва паглядзеў наверх:

— Трэба будзе там яму седала прыбіць... Палку такую... Уздоўж усёй сценкі. Бацька ўвечары вернецца, зробім.

І зноў захадзіў па пакоі, разважаючы пра кальварыйскі склеп, які, магчыма, зруйнаваны, але наведацца туды трэба, пра архіў Сахнут-Бічэўскага, пра рукапісы і дакументы... І Магдаліне чамусьці стала сумнавата. Вось спецыяліст і задаволены... Даведаўся ўсё, што хацеў.

Дзяўчына разумела, што яна сама больш не ўяўляе для яго цікавасці. Узнялася з канапы.

— Што ж, дзякуй за піражкі, за Карла Карлавіча...

— Я вас чымсьці пакрыўдзіў? — Кастусь стаяў перад Магдалінай.

Дзяўчына адвяла вочы.

— Ну, вы цяпер справіцеся без мяне... Вы спецыяліст...

— Вось вы якога пра мяне меркавання...— Сташынскі глядзеў амаль што сумна.— Ну, што ж... Пераконваць не буду. Але ўсвядомце: усё, што я знайду, належыць вам. І рукапіс, і ўсё іншае... Я не змагу без вашае згоды гэта выкарыстаць.

— А калі я згоды не дам? — недаверліва папыталася Магдаліна.— Калі забараню друкаваць усё, што тычыцца майго роду?

Кастусь нават збялеў, на хвілю паверыўшы ў такую магчымасць.

— Гэта будзе... прыкра. Але я стрымаю дадзенае слова,— памаўчаў, дадаў больш спакойна: — І ўсё-ткі вы так не зробіце. Я ведаю пра ваш учынак у Маскве. Магчыма, гэта быў з вашага боку капрыз, дзіцячая ўпартасць. Але іначай было б... ганебна.

Калі Магдаліна апранала свой падсохлы плашч, у калідор вый-шла Кастусёва бабуля.

— Спадзяюся, мой унук здагадаўся наліць вам другі кубак гарбаты? Або ён зноў нудзіў адно пра сваю навуку?

Кастусь пачырванеў.

— Бабуля, пакінь гарэзаваць. Гэта нявеста Марка Ялецкага, ну, памятаеш, таго журналіста з кракадзілавым дыпламатам. Ён прыходзіў, калі пра дзеда артыкул пісаў да Дня Перамогі.

— Кракадзілавы дыпламат памятаю. Шкада, у нас партыі «зялёных» яшчэ не створана на такіх «аматараў дзікай прыроды». А нявеста — гэта прыгожа. Цяпер мужчыны гавораць або «мая дзяўчына», або «мая жонка». Ніякіх прамежкавых станаў. Заставайцеся, дарагая дзяўчынка, у сваім рамантычным статусе падаўжэй.

— Бабу-уля! — зусім збянтэжыўся Кастусь і хапануў са стэлажа вялізны парасон з касцяной ручкай.

Магдаліна яшчэ паспела ўбачыць, як Карлуша сеў на плячо Яўгеніі Іванаўне, і тая набыла незвычайнае падабенства з пракаветнай сівілай.

На вуліцы Магда адзначыла сама сабе, што хоць бабуля — арнітолаг, у кватэры ніводнага птушынага чучала. Не было і клетак. Птушкі лёталі на фотаздымках, ды букет з шыкоўных пер’яў красаваўся ў вазе.

Напэўна, Карлушу будзе там някепска.

На падыходзе да ейнага дома Кастусь папярэдзіў, што як толькі нейкія звесткі будуць, ён паведаміць.

А ля пад’езда Магдаліну чакаў Марк.

**Лёсы сплятаюцца**

Наступныя два тыдні праляцелі як у тумане. Марк дамовіўся, што Магду залічаць на журфак. Сесія пачалася, таму можна было або перанесці яе для Магды на восень, або здаць цяпер некалькі прадметаў — якія паспееццa падрыхтаваць.

Але Магдаліна заўпарцілася. Хопіць за вадой плысці.

І заявіла, што здасць усе іспыты.

Да прадметаў, якія яна вывучала ў Маскве, тут дадалося яшчэ пяць.

Марк дапамог з падручнікамі. Залік па творчасці таксама «арганізаваў» — «друкануў» некалькі Магдзіных імпрэсій наконт мастацкіх выстаў, павыкідаўшы занадта адвольныя месцы.

Магда амаль не спала. Да таго ж па начах яе часам нейкая сіла цягнула да пісьмовага стала, і на паперу кладліся радкі, чамусьці на беларускай мове:

Я ніколі не бачыла вас,
Мо́жа быць, толькі позіркам сэрца...
І над вамі сівее трава,
І ніхто вас не помніць на свеце...

І таму ў Магды нават не было сіл здзівіцца, калі напярэдадні іспыту па гісторыі Беларусі, у поўным адчаі ад уласнай недасведчанасці, адчыніла дзверы і ўбачыла Кастуся. Той трымаў стос кніг і канспектаў.

— Я ад прафесара Карла Карлавіча. Рэпетытары па гісторыі не патрабуюцца?

І прасядзеў з Магдай да поўначы, вытлумачыўшы ўвесь курс так цікава і проста, што Магдзе нічога не заставалася, акрамя як атрымаць назаўтра выдатна.

Тое ж паўтарылася перад іспытам па беларускай літаратуры.

Ва універсітэце на яе глядзелі як на дзівачку: пераводзіцца з Літінстытута ў іхні «універ», з Масквы ў Мінск? Такога яшчэ не было! На ўсе роспыты Магдаліна адказвала завучана:

— Па сямейных абставінах.

І чырванела ад вымушанай маны, тым больш што пры гэтым адказе ўсе паглядалі на яе жывот.

Белыя анёлкі зляцелі з каштанаў на чэрвеньскую, ужо не такую пяшчотную, траву бездапаможнымі пялёсткамі.

Магдаліна здала сесію на выдатна.

Два дні яна праляжала ў ложку. Пасля Марк вывез яе на выхадныя на дзедава лецішча. І там заявіў: вернуцца — пададуць заяву ў загс. Хопіць з яго жаніхоўства. Платанічнае каханне, вядома, добра. Але яны дарослыя

людзі, асабліва ён, і час жыць нармальным сямейным жыццём, падумаць пра дзяцей...

Магда адчувала, што было б натуральным з яе боку зараз жа тут, на лецішчы, пачаць тое сапраўднае жыццё... Яблыні ў садзе прасявалі сонца на падстрыжаную траву, і не думалася пра радыяцыйны фон. Бэз уздымаўся да вокнаў, быццам блакітная пена на цёмна-зялёнай хвалі лістоты,— адвечныя дэкарацыі кахання. Але... Марку было, відаць, няёмка пераступіць ім самім аднойчы, на самым пачатку знаёмства, аб'яўлены прынцып наконт шанавання цнатлівасці да шлюбу. Магда адчувала, што яму не ставала толькі найменшага адабрэння з яе боку — а яна не магла... Ён дакранаўся да яе, цалаваў, і гэта было добра... Але дзе тое ўзрушэнне, тое заміранне сэрца, пра якое пішуць у раманах? Мусіць, яна яшчэ не прачнулася як жанчына, як даводзіў ёй Марк? І яна была так удзячна яму, што ён не прыспешваў, што ён быў пяшчотны і далікатны... Хіба можна марыць пра лепшага мужа!

А ў панядзелак пазваніў Кастусь.

— Прывітанне ад Карла Карлавіча! Ну як мядовы уік-энд? Нова-спечаная журфакаўка ачуняла ў рыцарскіх абдоймах?

Цынік! Магдаліна ледзь стрымалася, каб зноў не зараўці: «Адча-піцеся ад мяне». А «спецыяліст» нязмушана працягваў блюзнерыць:

— Можа, ваша высокасць улучыць беднаму сялянскаму нашчадку якую хвілю для аўдыенцыі? Я падыду ў скверык за вашым домам праз паўгадзіны.

Магдзіны бліскучыя індыйскія пантофлікі пастуквалі на ўвесь сквер. Кастусь безуважна загараў на лаўцы, падставіўшы сонцу твар, безнадзейна сапсаваны інтэлектам. Валасы па-ранейшаму сабраныя ў хвосцік, на майцы хіпоўскае выслоўе на англійскай: «Рабі не вайну, а каханне». Ды яшчэ шорты, відаць, перарobленыя са старых джынсаў. Беспрацоўны з Манхатана...

А да грудзей пяшчотна прыціснутая шэрая кардонная папачка з надпісам «Дело №».

— Вітаю прынцэсу!— Кастусь неахвотна падставіў твар новаму «сонейку».— Прысаджвайцеся, ваша высокасць!

Магдаліна чапурыста села на лаўку, ад усяе душы спадзеючыся, што міма не пройдзе ніхто са знаёмых. А з Кастуся ўжо зляцела млявасць, цёмныя вочы зірнулі амаль трывожна.

— Я перачакаў, пакуль вы здадзіцё свае іспыты. Пасля, вядома, час на адпачынак. А цяпер мушу паведаміць... Ну, па-першае, схадзіў я на Кальварыю. Склепа з блакітным трохкутнікам няма і следу. Адны магілы, сметнікі ды яміны. Дзе капаць — невядома. Можа, пасля сходзім яшчэ разам, пашукаем. А вось гэта — замалёўка экспаната з раённага музея...

Кастусь паклаў Магдзе на калені аркушык з вучнёўскага сшытка ў клетачку, на якім быў старанна намаляваны шарыкавай ручкай пярсцёнак з роўнаканцовым крыжам.

— Той самы?!.

— Магчыма. Учора знаёмы даслаў. Дзеці знайшлі ў лесе гадоў дваццаць таму. Больш нічога. Але гэта трэба праверыць. Давядзецца ехаць. Яшчэ звестка... Архіў Сахнут-Бічэўскага быў у маёмасці Лукаша Бэндэ, таго самага, што Купалу да скроні пісталет прыстаўляў. Бэндэ падчас вайны жыў у Ленінградзе. Бабуля мая яго памятае. Той столькі дакументаў прыцягнуў — спадчыну загубленых ім жа пісьменнікаў, што мусіў здаць у іхні архіў на захаванне. Бэндэ забраў з Ленінграда не ўсё. У мяне ёсць прыкладны спіс ягоных скарбаў. Нічога з архіва Сахнут-Бічэўскага там не значыцца — Бэндэ цікавіла найперш літаратура, а Сахнут-Бічэўскі ў асноўным збіраў копіі гістарычных дакументаў, цікавыя толькі для знаўцаў. Пакінутае да-сталося бэндэўскаму пратэжэ, нейкаму дацэнту з Мінска. Я папрасіў бабулю напісаць у Піцер. Адказ прыйшоў тыдзень таму. Вось проз-вішча таго, хто, верагодна, забраў архіў Сахнут-Бічэўскага: Ілья Яфрэмавіч Ялецкі.

Магдаліна схаладнела.

— Гэта ж дзед Марка!

Кастусь змрочна завязваў тасёмкі на папачцы.

— Прабачце... Гісторыя цесна сплятае ніці чалавечых лёсаў... Марк, я ўпэўнены, нічога не ведае пра дзедавы запасы. Думаю, ён дапаможа...

Магда перасмыкнула плячыма. Заўтра яны меліся пайсці ў загс...

Да залацістых пантофлікаў Магдаліны падкаціўся ружовы мяч. Таўсценькае ўсмешлівае дзіцянятка тэпала па цацку, і Магда ўклала яе ў маленькія ручкі. Як мала трэба дзіцяці для шчасця! А ў дарослых усё так складана...

— У чалавека часта дзве праўды...— сумна прагаварыў Кастусь.— Нядаўна чытаў мемуары Троцкага. Ён сышоўся ў ссылцы з адной таварышкай па барацьбе. Нарадзілася дзіця, дзяўчынка. Дык вось Троцкі ні разу не назваў яе дачкой. Апісвае, як яны ўцякалі, як везлі дзіця па марозе... Як яно захварэла... І паўсюль — «дзяўчынка», «мая дзяўчынка». Затое пасля рэвалюцыі, па набыцці «сапраўднай» жонкі, у яго з’явіліся «сапраўдныя» дзеці — улюбёныя сыночкі. А дачка так і засталася для яго «дзяўчынкай». Хочаце марожанага, прынцэса? А я дык з’еў бы цэлы айсберг...

Ноччу да Магдаліны Дарбут прыйшлі вершы:

Праўда мая, быццам шкло, разбіваецца,
Рэжуць яе аскалёпкі душу.
І пачынаецца кожная раніца
Вершам, які я не напішу.

## Логвішча адмірала

Англійскі адмірал Фрэнсіс Дрэйк быў піратам.

Напачатку ён рабаваў няправільна — усіх, хто вёз багатыя тавары.

Пасля перайшоў на правільны рабунак — пачаў пераймаць толькі караблі паганых іспанцаў. А гэта, згадзіцеся, зусім іншая справа. Нават калі выпадкам трапляўся пад руку героя і разявака-суайчыннік.

Прафесар Ілья Яфрэмавіч Ялецкі быў аўтарытэтам па гісторыі марксізму-ленінізму.

Гэта ў недасведчаным юнацтве ён з алоўкам у руках чытаў агента імперыялізму Піцірыма Сарокіна.

Калі карабель з Піцірымам Сарокіным на борце і яшчэ з парай дзесяткаў буржуазных філосафаў ды пісакаў, выкрытых савецкай уладай, адплываў ад кранштацкіх берагоў, студэнт факультэта грамадскіх навук Беларускага універсітэта Ілья Ялецкі граміў падступную ідэалогію на падставе прац любімага настаўніка Льва Троцкага.

А праз нейкі час, з палубы надзейнага карабля марксізму-ленінізму, малады таленавіты навуковец вёў прыцэльны агонь па здрадным трацкізме.

Прафесару перавaліла за восемдзесят. Ён быў паважаны, мудры, непатапляльны чалавек.

Марк яшчэ раз націснуў на кнопку званка.

— Х-то там?

— Дзядуля, гэта я, Марк. Адчыні.

За дзвярыма памаўчалі.

— Марк, гэта ты?

— Ну я ж.

— А хто з табою?

Марк набраў у грудзі паветра, шумна выдыхнуў, каб стрымаць раздражненне, і ветліва працягваў дыялог праз дзверы.

— Са мной Магдаліна, мая нявеста. Дзядуля, ты яе памятаеш. Мы прыходзілі да цябе зімой. Адчыняй.

Але за дзвярыма, абабітымі чорнай скурай, зноў запанавала маўчанне.

— А хто з вамі яшчэ?

— Мой сябар, Канстанцін Сташынскі. Ён працуе ў Інстытуце гісторыі.

— Не ведаю ніякага Сташынскага.— Зноў паўза.— Гэта ты, Марк?

«Плённая» размова працягвалася яшчэ хвілін дзесяць. Нарэшце забразгалі замкі, пацягнула пахам лекаў. Між дзвярыма і сцяной паказаўся твар Оле-Лукойе, гэткага дабрэннага старэчы з наіўнымі блакітнымі вачыма і няўлоўнай хітрынкай. Так і здавалася, што ён зараз папытаецца: «Які парасон пакруціць над вамі, маладыя людзі? Чорны ці каляровы?»

Праз тры гадзіны кампанія сыходзіла па лесвіцы ў самым змрочным настроі. Вядома, іх досвед абагаціўся сентыментальнымі ўспамінамі пра вабнасці опернай спявачкі Ларысы Пампееўны Александроўскай, запуск першага мінскага трамвая і хітрасці рыбалкі на ляшча, якога раней вадзілася ў Лошыцы — хоць рукамі лаві.

Нельга сказаць, што прафесар ім у нечым адмаўляў. Марк нават перабраў з ягонай ласкі папяровыя завалы на антрэсолях. І цяпер Магда несла перад сабой, як партрэт нябожчыка, пустую папку.

— Высцебаў, як дзяцей...— з міжвольным захапленнем падсумаваў Кастусь.— Задаеш пытанне, атрымліваеш адказ... Усё лагічна, грунтоўна, цікава... І зусім пра іншае!

— Але ж папку знайшлі,— заўпарцілася Магда.— Значыць, і рукапіс павінен быць у Маркавага дзеда!

Яны стаялі перад пад’ездам са стылізаванымі калонамі, ружовымі ад промняў вечаровага сонца.

— Я ведаю, хто з ім можа плённа пагаварыць,— разважаў услых Кастусь.— Звярнуся да Івана Глебавіча... А можа, паспрабаваць праз інстытут?

— Кінь, чалавеча.— У сонечных акулярах Марка люстравалася вечаровае неба.— Магу сцвердзіць дакладна — змесціва гэтай папачкі знішчана.

— Адкуль ты ведаеш? — ускінулася Магда.

— Ды ўжо ж ведаю... Там, на антрэсолях, такіх пустых кардонак штук сорак. Дзед нізавошта не стаў бы захоўваць у сябе падазроныя паперы. Калі не мог выкарыстаць — на лецішча і ў печку.

— Не можа быць! — збялеў Кастусь.— Ён жа... навуковец! Не мог не ўсведамляць каштоўнасці...

Марк толькі нявесела ўсміхнуўся:

— Давайце канчаць з гэтымі доследамі. Рукапісу няма. Можна, вядома, прысвяціць рэштку жыцця пошукам. Але для чаго, сябры мае? Пачакайце абурацца, падумайце самі. Я не супраць, каб паперы былі знойдзеныя. Кастусь напіша новы артыкул, Магда ўзбагаціцца звесткамі пра свой радавод, і я буду хваліцца, што ажаніўся з наследніцай візантыйскіх імператараў. Але класціся плазам, нарывацца на непрыемнасці, марнаваць час, грошы, нервы — каб у якім філалагічным выданні з’явілася пару дзесяткаў каструбаватых вершаў?

Кастусёў твар мяняўся, як неба на захадзе.

— Вершы Валошкі не былі каструбаватымі.

Марк паціснуў плячыма.

— Прабачце за кашчуннасць, але гэта так — ні Ясеніна, ні Ахматавай, ні нават Маякоўскага ў беларускай паэзіі дваццатых не магло быць. Адны правінцыйныя варыянты Дзям’яна Беднага. Змяшай у кучу ўсе гэтыя іхнія вершаваныя руні ды палеткі ды паспрабуй адрозніць, якому Глебку-Жылку

належыць,— не адрозніш! Ды яшчэ мова — нераспрацаваная, з русізмамі. Я не думаю, што тыя вершы будзе перапісваць у сшытак дзяўчынка, каб перачытваць і плакаць над імі. Наўрад ці юнак стане вучыць іх на памяць і ў яго будуць палаць шчокі і шчымець сэрца ад прагі жыцця і подзвігу. Не працытуе іх філосаф у роздуме пра жыццё і смерць. Творчасць таго пакалення, пры ўсёй павазе да яе, толькі кокан, шалупінне, з якога магла вырасці нацыянальная літаратура, вартая суседскіх. Так што не трэба перабольшваць. Няма «Чырвоных канвалій» — вазьмі ў бібліятэцы які «Васільковы россып» ці «Цэхавыя будні» і атрымлівай тую ж насалоду.

— Нават калі вершы майго дзеда — не вершы генія, якое гэта мае значэнне? Паэт мае права на вяртанне.— Голас Магды тонка дрыжэў.

— А ты хочаш зноў вылецець са студэнтаў? — Марк быў амаль жорсткі.— На журфаку таксама патрэбныя ідэалагічна правераныя студэнты.

Кастусь, які дагэтуль упарта разглядаў асфальт пад нагамі, ускінуў галаву.

— «О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цвет! У ветры дзікім не загінеш, чарнобылем не зарасцеш...» Я чытаў гэты верш, і ў мяне палалі шчокі, і хацелася подзвігаў... А мая маці спявала мне, маленькаму: «Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы, падаюць, бялюткі, за маім акном... Расчасалі вішні шоўкавыя косы і ўранілі долу снегавы вянок...» І яшчэ пра тое, як «шэпчуцца явар з калінаю ў сумнай даліне над ярам»... І вочы ў яе вільгатнелі. Але Магда мае рацыю, што паэт — геній ці не — мае права на вяртанне. Больш за тое — калі народ не вяртае сваіх паэтаў, мастакоў, сваіх мудрацоў і сваіх герояў, ён захворвае. Гістарычнае малакроўе — вось як я гэта называю.

— Так-так... Народ — гэта глабальна. Такія дэкларацыі і мой дзядуля ацэніць.— Марк глядзеў проста ў неба, і па ягоных акулярах плылі ружовыя аблокі.

Кастусь пачырванеў.

— Можаш не верыць, казаць пра пафас, але... Калі я ўяўляю тых маладых людзей, іх наіўныя надзеі, і як яны спрачаліся, верылі, кахалі, я звязаны з імі наўпрост, нібыта мы ў карагодзе трымаемся за рукі. Яны бліжэй да мяне, чым ты, Марк. Пытаешся, дзеля чаго займацца пошукамі старых папер? А дзеля чаго яны, нашы равеснікі, аддалі свае жыцці, дзеля чаго маўчалі на допытах, апошнім намаганнем волі ратуючы не сябе — а тыя «паперы»? А нам страшна ці нецікава...— Кастусь пакутліва шукаў слоў.— Гэта... усё роўна як у буру не злавіць кінутую на бераг з чоўна вяроўку. І бура паглыне човен разам з тымі, хто на ім. Але яны — гэта і мы. Мне... проста балюча, калі нешта вартае патанае ў прорве часу. Як быццам адбіраецца асабіста ў мяне.

— Хлопчык над прорваю ў жыце...— Ялецкі гаварыў без насмешкі — гэтага б Магда яму не даравала,— але з паблажлівым жалем.— Але ці

паспрачаешся з Эклезіястам, гісторык? Род прыходзіць, род сыходзіць... І няма памяці аб ранейшым, як не будзе памяці пра нас. На целе гісторыі застаюцца не пацалункі, а шнары. Найдаўжэй памятаюць не вартых, а тых, хто найбольш уразіў чалавецтва. Як у Андэрсена — не мастак, які зрабіў цудоўны гадзіннік, а мацак, які яго разбіў, абвяшчаецца жаніхом прынцэсы.

— Але прынцэса ўсё роўна засталася з мастаком...— нягучна прагаварыла Магдаліна.

З пад’езда выйшла кабета з гаспадарчай сумкай, прайшла між маладых людзей, падазрона азірнулася. Асаблівы недавер у яе выклі-каў Кастусь са сваёй фрызурай-хвосцікам. Дзіўны хлопец ветліва пакланіўся, і кабета прыспешыла крок.

— Час разыходзіцца, а то прымуць за дамушнікаў. Дзякуй, Марк, за дапамогу. Не сумуйце, прынцэса. Усе астатнія росшукі зраблю сам. Дарэчы, наша дамова ў сіле — знойдзенае належыць вам!

Але прынцэса за гэты час прыняла рашэнне.

— Буду шукаць разам з вамі!

І Марк чарговы раз з горыччу пераканаўся, што ягоная жалезная логіка бяссілая супраць дзявочых капрызаў.

Дом з жоўтай цэглы са стылізаванымі калонамі адплываў у заходзячае сонца, як пірацкі карабель. Ноч уздымала над ім чорны сцяг пераможцы, а ў кватэры на трэцім паверсе стаяў ля акна стары адмірал і з-за ледзь рассунутых фіранак трывожна назіраў за трыма фігурамі, якія адыходзілі ад ягонага пад’езда ў цёплы чэрвеньскі прыцемак.

### У нетрах пушчанскіх...

Ад атрада інсургентаў засталося толькі пяцёра. Адзін цяжка паранены.

Жандары не ведалі таго, іначай даўно б рушылі прачэсваць гэтую частку пушчы, не баючыся адчайнага адпору.

Пачыналіся кастрычніцкія ночы. Зоры падымаліся вышэй, а яшчэ зялёная трава серабрылася, нібыта пушчу таксама кранула ранняя сівізна.

Вінцэсь Дарбут толькі нядаўна заўважыў, якія ў яго сівыя скроні,— калі галіўся, гледзячыся ў лязо сваёй шаблі.

Кожны рух адзываўся болем. І зусім неабавязкова было галіцца ў гэтай зарослай вольхай лагчавіне, ведаючы, што вакол — аблога і для яго, параненага, гэты адхон, хутчэй за ўсё, станецца берагам Леты. Кожная хмарка магла ператварыцца ў човен Харона — па ягоную душу.

Але ён заўсёды вучыў сваіх людзей захоўваць годнасць — да канца. Ворагам не ўдасца ператварыць яго ў скрываўленага, бруднага звера, у

якога застаўся адзіны інстынкт — самазахавання ці адзінае жаданне — скончыць пакуты.

Але трэба было прымаць рашэнне. Калі яны застануцца тут надалей — канец адзін: смерць. Затрымка — з-за яго.

І ён не мог нават прасіць, каб яго тут пакінулі, бо калісь сам настойваў на непарушным прынцыпе: таварышаў не кідаць нават мёртвымі.

Тры гады гэта рабіла іх атрад адным пагрозным клінком. Цяпер мусіла загубіць усіх.

А Пані ў белым усё не схілялася над ім з апошнім пацалункам. Калісьці ён не скардзіўся на няўвагу паняў і паненак. Што ж яна так марудзіць? Вінцэсь ніколі не думаў, што калісьці будзе наракаць на трываласць уласнага цела. Ён пераплываў Дняпро — і адразу вяртаўся назад. І смяяўся, выйшаўшы на бераг, быццам малады вадзянік. Халодныя струмені сцякалі па яго целе, як месячнае святло, і самая прыўкрасная ў свеце жанчына сціскала свае тонкія пальцы, каб мужчына не заўважыў, што яны дрыжаць — ад боязі за яго, і незалежна гаварыла: «Што вы так доўга? Я ўжо стамілася чакаць».

І на адным з яе пальцаў блішчэў просты жалезны пярсцёнак — ягоны падарунак.

— Мы сагрэлі крыху вады... Не хвалюйцеся, дыму амаль не было.

Альгерд схіляўся над ім з конаўкай, ад якой пахла чаборам. Таленавіты, разумны, такі малады Альгерд... І ён таксама загіне.

Вінцэсь з асалодай адпіў духмянай вады.

— Ноччу буду вартаваць я. Дастаткова добра чуюся для гэтага, і мне ўсё роўна не спіцца.

Зоры падняліся высока-высока. Але ён не мог чакаць, пакуль яны паніжэюць,— да раніцы на траву ляжа шэрань, і яго цела пакіне след. Ён пачаў адпаўзаць у глыб пушчы адразу, як упэўніўся, што таварышы спяць. Як мага далей... Схавацца, зашыцца вось сюды, у яміну пад карэннем гонкай маладой сасны. У яго два пісталеты з набоямі. Але гэта не для яго — для пагоні. Ды яшчэ шабля. Старая шабля з выгравіраваным на дзяржальне вершнікам з узнятым мячом.

Таварышы зразумеюць. Вядома, яго будуць шукаць. Але, здаецца, ён зрабіў усё, каб не знайшлі. І ў іх з'явіцца шанс на ратунак.

Вінцэсь паклаў пісталеты так, каб можна было адразу іх узяць. Цікава, хто прыйдзе хутчэй — Пані ў белым або жандары? У апошнім выпадку застаецца толькі спадзявацца, што ён не настолькі змерзне і знясілее, што не зможа выстраліць.

Праз галінкі сасны на яго і ягоную зямлю глядзяць зоры. Нібыта вастрыі залатых дзідаў. Няўжо ёсць такія землі, зоры над якімі нагадваюць залатыя яблыкі або лагодныя вочы анёлаў?

Вінцэсь звяртаецца да Таго, хто над гэтымі зорамі — і паўсюдна: «Госпадзе! Толькі б мой нашчадак ніколі не ляжаў вось так, як я, у

халоднай яміне, чакаючы Збавіцельку! Няхай нашы дзеці і дзеці нашых дзяцей паміраюць у сваіх ложках, абкружаныя ўнукамі і праўнукамі, гаворачы апошнія мудрыя словы, якія будуць перадавацца ў іхнім родзе з пакалення ў пакаленне.

І няхай гэтыя словы будуць гаварыцца на нашай спеўнай мове, якую даў нам Ты, Гасподзь, як даў гэтую зямлю, яе азёры і пушчы, дым яе папялішчаў і безыменныя магілы яе лепшых сыноў».

Жандары не давалі веры, што знішчылі ўвесь атрад Дарбута. Ім усё здавалася, што галоўныя сілы хаваюцца вось там, за тымі соснамі... Ці за той лагчавінай... Не можа быць, каб такі шалёны супраціў аказвалі чатыры знясіленыя юнакі.

Затое ўдалося схапіць першага палоннага з атрада — і апошняга. Як пасля высветлілася, гэта быў мясцовы дваранін Альгерд Андрыеўскі.

Пушчу пачалі называць Ваярскай. Потым гэтая назва перайшла на бліжэйшае паселішча.

Праз сто гадоў вёска ператварылася ў гарадскі пасёлак, пушча адступіла далёка ад яго. У пасёлку Ваярску, які паспеў нейкі час пабыць Кагановічаўскам, меліся такія адметнасці, як царква XIX ста-годдзя, прыстасаваная пад збожжасховішча, Дом культуры з ватэр-клазетам і краязнаўчы музей, у які прыязджалі экскурсанты нават са сталіцы.

Таму нікога з мястэчкоўцаў не здзівіла, калі да драўлянага дома з калонамі падышлі трое. Плячысты мужчына з прыгожым, нібыта высечаным з каменю тварам, у светлым летнім касцюме і сонечных акулярах. За ім хлопец у джынсах, усмешлівы і цемнавокі, з валасамі, сабранымі на патыліцы ў хвосцік. Вось каб апрануць беласкурую зеленавокую дзяўчыну, што была з імі, у шаўковую сукенку, ды абуць у туфлікі на высокіх абцасіках, ды навучыць глядзець ласкава, а хадзіць павольна, прыгажуня была б! Але блакітныя джынсы, не зусім чыстыя, мужчынская кашулька ў бела-зялёныя краткі ды стаптаныя красоўкі аніяк не могуць падкрэсліць дзявочую прыгажосць. Змізарнеў эмансіпаваны свет...

А з дома з калонамі ўжо выбягала менавіта такая паненка, якая мроіцца праўдзіваму мужчыне,— у светлай талістай сукенцы, у туфліках, з якіх на балях п’юць шампанскае, у кароне залатых валасоў. А блакітныя вочы ззяюць проста невыносна.

— Кастусь!

«Ды ён зараз аслепне ад яе блакітных пражэктараў»,— чамусьці з прыкрасцю падумала Магдаліна, і ёй упершыню зрабілася ніякавата за сваю вопратку. Нават Марк не хаваў цікавасці да блакітнавокай.

— Знаёмцеся,— неяк нязграбна сказаў Кастусь, павярнуўшыся да сяброў.— Ганна Іванаўна, дырэктар краязнаўчага музея... І аспірантка Інстытута гісторыі.

— Проста Ганна, былая аднакурсніца гэтага свяцілы на небасхіле гістарычнай навукі...— усміхнулася блакітнавокая.— Ну, хадземце, дарагія госці, у хату!

...Магдаліна, стаіўшыся, глядзела на просты металічны пярсцёнак. Ён пабліскваў у зашклёнай вітрыне на чорнай аксамітнай паперы.

— Дай ёй патрымаць у руках...— шэптам папрасіў Кастусь дырэктарку.

— Як скажаш...

Пярсцёнак з роўнаканцовым крыжам халадзіў палец, нібыта падарунак вадзяніка...

Чалавека, які калісь знайшоў рэдкі экспанат, дырэктарка прывяла, «выкраўшы» з працоўнага месца на элеватары.

— Мы там пячору ладзілі... У вайну гулялі...— Сівы дзядзька камячыў у спрацаваных руках шапку-кяпурку, быццам быў на допыце ў следчага.— Ну, дзеці, ведама... Гадкоў трыццаць прайшло, відаць. А там пясочак, яміна пад карэннямі сасны... Скрутак быў, як жа. Анучы гнілыя, паперкі. Не, нічога не расчыталі. Я ж кажу, гнілое ўсё было. Адзін пярсцёнак з сабой і ўзялі. Думалі, сярэбраны. Яго мая ўнучка нядаўна ў куфры знайшла. Прынесла ў школу. А настаўніца вось у музей перадала. Што з паперамі зрабілі? У вогнішча, мусіць, пакідалі. А скажыце, людцы, гэта шпіёнскія штучкі былі, мусіць?..

І гэта было так несправядліва і незваротна, што любыя бедаванні выглядалі б тэатральна. А Марк нібыта і задаволены, што ўсё скончылася цяпер — і назаўсёды.

...На развітанне прыгажуня Ганна прапанавала гасцям экскурсію на гарышча. Там чакалі лепшай долі экспанаты для будучай залы пра паўстанне 1863 года.

Марк заявіў, што ні ён, ні Магда наверх не палезуць, стаміліся. Пачакаюць на двары. Ганна асабліва не ўгаворвала. Але «новаспечаная журфакаўка» жадала паглядзець на старажытную зброю. І не магла ўцяміць, чаму Марк на яе заклікі пастукаў пальцам па лобе, а Ганна спахмурнела.

Першай па драбіне спрытна ўзнялася гаспадыня. За ёй — Кастусь. Магда апошняя нязграбна адольвала рэдкія прыступкі. Кастусь нахіліўся зверху, падаў руку. Магдаліна працягнула сваю...

— Што ў вас там здарылася? — пачуўся аднекуль зверху, нібыта вельмі здалёк, незадаволены дзявочы голас.

Магда раптам усвядоміла, што яны з Кастусём так і трымаюцца за рукі, гледзячы адно аднаму ў вочы. І яшчэ ў яе чамусьці нешта абрываецца ўнутры, нібыта яна стаіць на краі прорвы.

— Ну, давайце падымайцеся! Мусіць, двойка па фізкультуры была! — Кастусь нечакана моцна пацягнуў дзяўчыну ўверх, перахапіў за талію і акуратна паставіў на гулкі насціл. Як парцэлянавую лялька.

Ганна сакатала пра скарбы гарышча, Кастусь уважліва слухаў, час ад часу перапытваючы. А збянтэжаная Магдаліна адышлася ўбок, туды, дзе да сценаў былі прыхіленыя ржавыя стрэльбы. Што за раптоўны правал свядомасці? Нават крадма паглядзела на сваю далонь. Што гэта было? Такое... незвычайнае адчуванне. Зірнула на Кастуся... Той усміхаўся. У Магды зноў трывожна і соладка зашчыміла сэрца... Што з ёй адбываецца? Кастусь такі самы, як і быў, з тым жа смешным хвастом на патыліцы...

Але як дырэктарка глядзіць на былога аднакурсніка! Які ў яе дзіўны голас, як яна чырванее... Раптам Магда зразумела, чаму Марк стукаў па лобе. Ганна ж хацела застацца з Кастусём сам-насам! І шаўковая сукенка з туфлікамі была — для яго! І мала пра што ім трэба перамовіцца...

Магда, ледзь не плачучы ад сораму і незразумелай тугі, кінулася да драбіны.

Марк цярпліва сядзеў на зрубе калодзежа з жураўлём.

— Уяўляеш, Магдаленка, хацеў вады зачэрпнуць, а гэта муляж! Зруб проста на траву пастаўлены. Вось табе і аўтэнтыка...

Магда, без дай прычыны адчуваючы сябе вінаватай, прысела побач, прыхінулася... Усцешаны Марк пяшчотна-пяшчотна пацалаваў яе ў скронь...

Які ён добры! Яна проста не заслужыла такога мужчыны...

Чэрвеньскае сонца шчодра сыпала праменне на шыферныя дахі Ваярска, нібыта спадзявалася іх пазалаціць. Блакітнавокая Ганна праводзіла сталічных гасцей да аўтобуса.

— Прыедзеш на канферэнцыю — не праміні мой сціплы кабінет! — гаварыў Кастусь.

— Зайдуся хіба, парушу гордую самоту тваёй келлі, калі не пагрэбуеш візітам беднай правінцыялкі.

— Правялебная пані асвеціць сваёй прысутнасцю маё сціплае жытло,— і сур'ёзна дадаў: — Зойдзем разам да Янкі Гарэлага. Нядаўна з бальніцы выпісаўся.

— А што з Янachкам?

— Ды як паездзіў тады па зоне, па выселеных вёсках, пазбіраў радыеактыўныя ручнікі, так і хварэе... Ужо дзве аперацыі зрабілі. Але трымаецца, нават экспедыцыю на Століншчыну рыхтуе...

І аўтобус ад'ехаў. А дырэктарка яшчэ доўга стаяла ля дарогі — светлая і сумная.

На вакзале Кастусь, развітваючыся, пацiснуў руку Марку, павярнуўся да Магдаліны.

— Не сумуйце, прынцэса. Ваш крышталёвы туфлік абавязкова знойдзецца.

— Вы мяне з Папялушкай блытаеце,— холадна прамовіла Магда і, нечакана для самой сябе, працягнула руку — з нейкім выклікам ці Кастусю, ці ўласнай незразумелай трывозе.
— Да пабачэння...
Ёй падалося, ці Кастусь сапраўды, перад тым як паціснуць ёй руку, прамарудзіў, нібыта чагосьці баючыся?
Ды не, падалося. Толькі з ёю нешта нядобрае. Зноў гэтае адчуванне... Нібыта нешта абрываецца ўнутры. Як на арэлях.
Здаецца, «гістарычны самародак» нічога не заўважыў. Не варта больш так жартаваць з сабой.
Марк сказаў:
— Як ты расчырванелася... Гаварыў, надзявай капялюш, а то сонца напячэ...

## Апошні карнавал

— Крыўдзіш, пане-браце! — Шляхціц у кармазынавым кунтушы падкруціў няцвёрдай рукою руды вус, які зараз жа бяссіла апусціўся, быццам зноў макнуўся ў чашу з гаспадарскім віном. Шляхетныя госці за ягонай спіной загулі разварушаным вуллем. Слова госця — закон! Госць у дом — шчасце ў дом!
Гэта была кулага — «сармацкі» звычай нязванага гасцявання падчас каляднага карнавалу. Усё, што можна з’есці і выпіць у доме, знікала ў высакародных чэравах. Пасля чаго «аб’едзены» да мышынага галоднага віску гаспадар мусіў далучацца да кампаніі і пераязджаць у маёнтак наступнага небаракі.
Але гаспадар гэтага маёнтка парушыў звычай. Пан Гаштольд Дарбут стаяў на высокім ганку з драўлянымі калонамі і паглядаў на гасцей разумнымі цёмнымі вачыма з-пад крыху абвіслых павекаў, ад чаго пагляд рабіўся вострым, як дзіда. І ўбор у яго быў не святочны — чорны жупан, зверху кунтуш таго ж колеру, падперазаны простым юлёвым пасам, адзінае ўпрыгожанне — жалезны пярсцёнак.
— Пані-брацця, дзякую за шчаслівы візіт. Але, як бачыце, я ў жалобе — памерла дарагая мне сваячка...
— Няўжо пекная пані Дарбутова? — жахнуўся падобны да аблезлага ката шляхціц з велізарным дыяментавым гузам на шапцы.
Ганарлівыя вусны гаспадара з’едліва скрывіліся.
— Хоць памерлая была маёй найдаражэйшай сваячкай, панства наўрад ці яе ведае. Яна жыла далёка ад вас, паны-брацця...
— А ці не хоча пан Дарбут уяўнай сваёй жалобай унікнуць «шчаслівага візіту»?— пракрычаў нехта з-за чужых спінаў.

Гаспадар паклаў руку на дзяржальна шаблі — яна адзіная з усяго ягонага ўбрання была прыўкрашаная каштоўнымі камянямі.

— Хто лічыць мяне хлусам?

Пытанне прагучала амаль мякка. Але госці, сярод якіх хапала задзірак, змоўклі, потым п’яна загулі:

— Пане-браце не так зразумеў...

— Няхай вашамосць прабачыць гарачыя словы... Жалоба, вядома. Усе пад Богам ходзім.

Вазкі няпрошаных гасцей выехалі за вароты маёнтка. Гаштольд Дарбут змрочна назіраў за ад’ездам кулагі. З дома да гаспадара выйшаў светлавалосы хлопец, падобны да маладога Жытніка — залатыя, як калоссе, валасы, светлыя-светлыя вочы.

— Пра якую нябожчыцу казаў ім пан Гаштольд?

Гаспадар памаўчаў.

— Пра волю. Не ведалі яе і ведаць не хочуць... Затапталі ў бруд. І не заўважылі.

— Але сённяшні «абзэндэн» не прыбавіць вам папулярнасці ў акрузе,— дакорліва прагаварыў хлопец.— Кожны з тых нахабаў мае голас на сойміку. Нават Радзівілы не ганьбяцца ўлагоджваць гэты статак.

— Сам гаворыш — «статак»... Не, Андрусь, не да твару мне заігрываць з быдлам. Я не пастыр, я паляўнічы. Пойдзем, зоймемся зборамі на інакшае застолле.

Пан Гаштольд перакладваў паперы ў патаемных шуфлядках сакрэтніка з чырвонага дрэва. Па разной паверхні сакрэтніка плылі велічныя фрэгаты, парусы якіх надзімалі шчакастыя кудлатыя малойцы, апранутыя ніжэй пояса ў хмаркі. Адзін з іх, суровы паўночны вецер Барэй, меў няўлоўнае падабенства з гаспадаром.

У дзверы кабінета нясмела пастукаліся. Пекная пані Дарбутова была нашмат маладзейшая за суровага мужа. Але яе зялёныя вочы глядзелі засур’ёзна для маладой дзяўчыны. Пані, нібыта вясельны каравай, несла на выцягнутых руках шаблю.

— Вы маглі не рабіць гэта самі,— прамовіў мужчына, узяўшы зброю.

Доўгія веі жанчыны здрыгануліся.

— Мне хацелася ўбачыць вас перад ад’ездам.

Гаспадар, стараючыся не сустрэцца з паглядам зялёных вачэй, паклаў старую шаблю на стол так беражліва, нібыта яна была жывая.

— Вы ўпэўненыя, што Сапегі — тыя людзі, за якіх варта паміраць?

Гаспадар уздрыгнуў, нібыта пытанне выцяла яго, адказаў, як пераконваючы сам сябе:

— Яны абараняюць Літву ад Кароны.

— Яны здрайцы.— Жанчына плыла па пакоі ў сваёй смарагдавай сукні, быццам фея Мятлушка з казкі пра забітага каралевіча.— Вы гэта ведаеце. Дамогуцца прывілеяў і кінуць усіх, каго звабілі.

— Усё ведаю... Але не пайсці, калі клічуць памерці за айчыну, ганебна. На гэтай зямлі кожны павінен мець права маліцца ў той царкве, у якой маліліся продкі, і гаварыць на той мове, на якой яны гаварылі...— Гаспадар абарваў размову, усвядоміўшы, што пачаў разважаць, быццам мае справу з роўным.— Але гэтыя матэрыі занадта складаныя для вашай прыўкраснай галоўкі...

— Гэтую галоўку, магчыма, хутка пакрые ўдовін вэлюм... Ці пыл выгнання. Але... можаце не баяцца, я не буду спрабаваць затрымаць вас.

Жанчына гаварыла спакойна і горда, і толькі пільны назіральнік заўважыў бы, як сціснутыя яе тонкія пальцы — аж збялелі...

Гаштольд Дарбут упершыню дапытліва зірнуў на жонку. Тая смела сустрэла ягоны погляд.

— Што вы даручыце мне на выпадак, калі не вернецеся?

Гаспадар памаўчаў, пагладзіў шаблю, што ляжала на стале. Прос-тую шаблю, без упрыгожанняў, толькі з чаканным малюнкам на дзяржальне — вершнік на кані, з узнятым мячом.

— Выхавайце майго сына так, каб ён у падобным жа выпадку, як і я, не вагаўся, як належыць учыняць.

У дзверы зноў пастукаліся.

— Пане, атрад гатовы. Пан Сташынскі чакае на двары.

Пані Дарбутова спахмурнела.

— Нашто ты вязеш з сабой гэтага хлапчыску, Андруся Сташынскага?

— Ён мужчына. І ён ліцвін. Шкадаванне недарэчы.— Пан Гаштольд паклаў рукі на плечы жонцы, зазірнуў у яе зялёныя-зялёныя вочы. Суровасць на хвілю пакінула яго.— Напэўна, табе трэба было выйсці за аднаго з тых, хто зараз ладзіць балі...

— Я рада, што выйшла за цябе...

Голас пані мімаволі здрыгануўся...

— Настуся! Прабач... Я так і не ўпаляваў табе срэбную лісіцу, як калісь абяцаў...

Ён — у чорным, і яна — у смарагдавым... На хвілю яны засталіся зусім адны ў свеце — па-за жыццём і смерцю... Але на калідоры чуліся галасы. Тады мужчына зняў з пальца металёвы пярсцёнак і надзеў на палец жанчыне.

— Перадасі сыну, калі яго пастрыгуць у падлеткі.

Атрад быў невялікі — дваццаць узброеных вершнікаў. Пані Нас-тасся стаяла на высокім ганку з драўлянымі калонамі, накінуўшы паўзверх смарагдавай сукні ваўчуру, падбітую зялёным сукном. Андрусю Сташынскаму жанчына, захутаная ў пышны мех, падалася такой маленькай, бездапаможнай і прыўкраснай, што захацелася нечым суцешыць яе... Як у песні — «месячык з неба, зорку з палонкі — для пекнае пані, для чужое жонкі...».

Але пані глядзела на мужа. А той азірнуўся на яе толькі адзін раз — калі ўжо сеў на каня.

— Калі я не вярнуся, не марнуй сябе жалобай. Не пазбягай добрага шлюбу.

— Я буду чакаць сустрэчы... На гэтым свеце — ці на тым.

Снег ля дарогі блішчэў, быццам футра срэбнай лісіцы...

Сейм прагаласаваў вярнуць княству некаторыя прывілеі. Можна было больш не бунтавацца. Шкада, гэтага не зразумелі асобныя гарачыя галовы. Мала ім прывілей, а заманулася незалежнасці ад Кароны. Такія бунтаўшчыкі не былі патрэбныя ні Кароне, ні Літве.

Шляхціц Гаштольд Дарбут за «няіставыя ўчынкі» супраць польскіх войскаў быў асуджаны да зняволення ў вежу. Ад чаго ён памёр там, судовыя паперы не расказваюць. Занатавана — «па волі Божае».

Пані Дарбутова засталася ўдавой. Суседзі празвалі яе «чорная пані» — дзівачку бачылі толькі ў чорных «сармацкіх» строях.

Пра маладога Андруся Сташынскага ніякіх вестак гісторыя не захавала.

**Калі разбіваюцца крыжы...**

Першыя таполевыя сняжынкі плылі па скверы маленькімі прывідамі.

— Вось тут быў склеп... Тут і тут...

Кастусь вадзіў пальцам па аркушы з акуратна перамаляваным планам.

— Дарэчы, бабуля перадала табе піражкі... З капустай.— Ён дастаў з джынсавага заплечніка каробку ад вафельнага торта, загорнутую ў чорны пакет.— Ад Карла Карлавіча сардэчнае «кар».

— Яшчэ цёплыя...— Магдаліна не вытрымала, выхапіла прысмаку, як сто гадоў не еўшы, адкусіла: — Дзякую!

— Таму я збіраюся зараз на Кальварыю. Хмель пісаў пра гільзу... Калі паперы ў ёй, ёсць шанц, што захаваліся. Узяць шчуп, як у археолагаў... Можа, камяні ад падмуркаў знойдзем... А ў гонар чаго чырвоная сукенка? Нібыта першамайскія святы прамінулі.

Добра, што ў гэты момант Магда не паспела адкусіць наступнага кавалка — так раззлавалася. На сябе, бо няёмкасць і шчымленне не праходзілі, і на гэтага нахабу, якому так лёгка і проста.

Адказ гучаў выклікам:

— Мы з Маркам раніцай падалі заяву ў загс.

Цёмныя вочы Сташынскага толькі трохі прыжмурыліся — нібыта пільней у яе ўглядаўся.

— Віншую. Вы цудоўная пара. Нявесты калісь былі менавіта ў чырвоных сукенках. Мода на белыя пайшла ад Марыі Цюдор, калі яна выходзіла за французскага прынца.

— У мяне проста другой сукенкі няма,— скрозь зубы працадзіла Магдаліна.— Я сукенак і спадніц не люблю.

І ўсё... І ён далей разважае пра магілы ды скляпенні. А чаму Магдзе балюча? Дурніца! Заўсёды ж ведала, што гэты насмешнік зусім ёю не цікавіцца. Ды і яна ім. Гэта ейнае самалюбства вярэдзіць.

— Слухай, раз ты вучылася ў Літаратурным інстытуце, што ты пішаш?

Магда нават разгубілася.

— Артыкулы. Крытычныя.

— Які з цябе, прабач, крытык? Ні ведання, ні досціпу, ні «рытуальнай злосці». А што для душы?

І Магда нечакана сказала:

— Я вершы пішу.

— Прачытай.

У паэткі зашумела ў вушах. Марку яна не паказвала свае рыфмаваныя спробы ўжо даўно, з тых часоў, як ён сказаў, што паэта з яе не выйдзе. І нікому не паказвала... Можна ўявіць, як спляжыць іх гэты «спецыяліст»... Але радкі, як прызнанне злачынцы, чамусьці самі рваліся з вуснаў, чамусьці адчувалася: пры гэтым хлапцу — можна:

Толькі магілы ёсць у мяне.
Траву па-над імі вецер кране,
І адгукнуцца сурмы нябёс.
Як над магілаю дрэва — мой лёс.
Я паўтараю вашы сляды,
Я разбіраю почырк сляпы,
Кветкі сплятаю, словамі ўю.
Я вас не бачыла. Я вас люблю.

Яна чытала яшчэ і яшчэ. Кастусь не лгаў. Ён не захапляўся, не рабіў заўваг. Сядзеў і слухаў. Што тут такога? Птушка спявае. Тополя рассявае белы пух. Магдаліна чытае свае вершы.

— Запомні,— амаль жорстка сказаў Кастусь.— Цябе не павінна турбаваць, што скажу я ці хто іншы. Слухай сябе. Ты яшчэ дзіця. Але ў цябе пачалі расці крылы. А яны альбо ёсць — альбо іх няма. І ніколі не будзе. Імітацыя палёту, папяровыя самалёцікі, вышыня трыбуны відочныя гэтак жа, як відаць, што чалавек сляпы... Не бойся і не саромся сваіх вершаў. Яны крылатыя істоты.

— Але мне страшна,— прашаптала Магдаліна.— Чамусьці тое, што да мяне прыходзіць, такое сумнае... Можа, гэта ад таго, што я пачала пісаць на беларускай мове?

— У рускага паэта Георгія Адамовіча ёсць выказванне: «Грусть мира поручена стихам. Не будьте же изменниками». Так што не бойся. І... пачытай яшчэ.

А па скверы ішоў Марк Ялецкі. Нібы не заўважыўшы Сташынскага, загаварыў да Магды:

— Добра, што тваю сукенку відаць за квартал. Я, між іншым, столік у кавярні замовіў. А ты...— павярнуўся да Кастуся, не хаваючы раздражнення,— адчапіўся б ужо ад дзяўчыны.

Кастусь узняўся з вінаватым выглядам, ускідаючы джынсавы заплечнік за спіну.

— Прабач, Марк... Але я не ведаў, які ў вас дзень, пакуль Магдаліна не прызналася. Віншую вас.

— Кастусь! Вы на Кальварыю? — затрымала яго Магда і зірнула на Марка такімі зялёнымі вачыма, што пярэчыць было нельга.— Марк! Пойдзем з ім! Гэта апошні след!

У шатах дрэў сноўдалі вароны. Усе планы былі дарэмныя. Нябожчыкаў тут пачалі хаваць нашмат раней, чым месца сталася афіцыйнымі гарадскімі могілкамі. Гэта быў некропаль-лабірынт, дзе магілы былі над магіламі, а памяць жабравала на пагосце.

На Кастусёвым плане значыліся тры склепы справа ад касцёла. Ад аднаго застаўся падмурак, на месцы другога — паўзарослая яміна ад бомбы. Трэці, ацалелы, не меў блакітнага трохкутніка. На сметніцы ля цаглянай сцяны валяліся ржавыя крыжы, парудзелыя вянкі і расколатая мармуровая пліта з магілы былога мінскага губернатара. Карціну дапаўнялі свежыя яміны і баразны, быццам тут нядаўна гізавала сям’я дзікоў.

— Ну, што, будзем магілы Кастусёвай драцінай пароць? — з’едліва азваўся Марк.— Ар-рыгінальна я святкую заручыны.

Кастусь моўчкі садраў газеты са сталёвага шчупа — штыра метр даўжынёй, з разметкай і завостраным канцом. Магда ўявіла, як гэты завостраны канец уваходзіць у мяккую магільную зямлю і ў... Не, далей лепш не дадумваць.

— Давайце напачатку ў той, ацалелы, склеп!

— Прыкметы не супадаюць,— змрочна сказаў Кастусь.—Дый мінулы раз замок вісеў. У тым склепе трунары ды прыбіральшчыкі свае прылады звалілі.

— Склеп перабудоўвалі — увесь як у латках. Наверсе, ля даху, закладзена старымі цаглінамі. Нібыта і са слядамі фарбы ёсць...— Магдзе надта не хацелася пачынаць пошукі сярод магілаў.

На здзіўленне Кастусю замок вісеў на клямцы, зачапіўшыся зламаным рогам. Унутры кавалкі старога лінолеуму, скрынкі, цэгла, рыдлёўкі, гнілыя анучы, бляшанкі ўтваралі на земляной падлозе кратэры і рыфы. Але ў гэтым адчуваўся парадак — падабенства ложкаў, пасярэдзіне нібыта столік з кавалка фанеры і цаглін. Пад «сталом» тры некранутыя бляшанкі рыбных кансерваў.

— Бамжы начавалі,— грэбліва скрывіўся Марк, падфутбольваючы нагой пустую бутэльку.

— Ды не, бамжы калоцца не будуць. Вунь шпрыцы... І піва з бляшанак не п’юць,— запярэчыў Кастусь.— А вось і правы кут... Ну і яміна! Ды што тут рабілася, гранату ўзрывалі, ці што?

— Вось гэтую?— Магдаліна трымала ў руках дзве жоўтыя жалязякі.

Кастусь выхапіў знаходку:

— Паловы ад снарада! Яшчэ першай сусветнай!

Марк узяў адну з жалезак:

— І праўда. Стодваццацідвухміліметровы. Такімі з нямецкіх гаўбіц білі.

Магдаліна кінулася перабіраць смецце:

— Шукайце ж! Яны былі тут, паперы! У гэтым снарадзе!

Пошукі цягнуліся ўжо трэцюю гадзіну. Чэрвеньскі дзень доўгі, але ж і ён мусіў скончыцца. Вечарэла. Маладыя людзі нагадвалі ахвяр залатой ліхаманкі. Нават касцюмчык Марка, як гаспадар ні ашчаджаў яго, маляўніча прыўкрасілі брудныя пісягі.

— А-а-а! Га-га-га!

Гарлалі не вароны. Крык даносіўся з краю могілак. Вароны хмарай узляцелі над шатамі, але іх карканне не магло заглушыць галасоў прыхадняў.

Людскія постаці рухаліся між помнікаў, быццам гулялі ў дзіўную гульню. Спыняліся, падскоквалі, тузаліся, набліжаючыся да склепа...

— Яны крыжы на помніках ламаюць, гады! — Кастусь рынуўся напярэймы.

— Магда, дай мне руку! Сыходзім! — Марк пацягнуў дзяўчыну ў супрацьлеглы ад крыку бок.

Магда ўпіралася і крычала:

— Кастусь! Стой! Пачакай! Мы міліцыю паклічам!

— Ідыёт твой Кастусь! Ты не будзь ідыёткай! Бяжым!

Але постаці ў чорных скураных куртках з заклёпкамі абкружылі Магду і Марка. Яны не былі страшныя — падлеткі ў скуранках. Сімпатычныя твары, дагледжаныя, спартыўныя целы... Страшнымі былі вочы. Пустыя, як у аглушанай рыбіны.

— Вашыя дзяды тут таксама могуць ляжаць.— Кастусёў голас зрываўся ад гневу.

Магда зірнула з-за Маркавага пляча. Гісторык, неяк дзіўна выпрастаўшыся, ішоў між двух падлеткаў, якія быццам па-сяброўску да яго прыціскаліся. Раптам Магда зразумела, што яму заламалі рукі. Дзяўчына не паспела ні спалохацца, ні ўсвядоміць, што адбываецца: так імкліва ўсё здарылася.

Адзін з прыхадняў зароў:

— Яны ў нашым склепе капаліся!

Хутка са склепа данесліся лаянка і выццё. Няўжо з-за кансерваў хвалююцца?

— Ампулы дзе?!!— Вочы іх зрабіліся зусім белыя.

— Умазку нашу забралі!

— Ды яны мянты!

Магда нічога не разумела. Да Марка падышоў хлопец у скуранцы. Ён быў нашмат старэйшы за пуставокую дзятву. Смуглявы твар з жаўцізной. І вочы не шалёныя, як у тых. Разумныя, нават сумныя вочы. Як у добрага гаспадара, які ідзе калоць любімае свінчо.

— Адкуль ведалі пра ўмаз? Аддайце...

— Паслухайце, мы нічога не ведаем пра ваш умаз. Гэта непаразуменне.— Марк гаварыў важка, унушальна...

Смуглявы зіркнуў на яго раскосымі вачыма амаль весела.

— А якога ражна перапаролі склеп? Костачкі калекцыянуеце?

— Гэта я іх сюды прывёў! — Кастусь таксама гаварыў цвёрда і важка, і ўсе павярнуліся да яго.— Я гісторык! Зараз пакажу пасведчанне з інстытута. Я маю права на археалагічныя даследаванні.

Кастусь падняў свой джынсавы заплечнік, які валяўся ля ўвахода ў скляпенне, дастаў зялёную кніжачку.

— Вось...

Смуглявы ўзяў дакумент, няўважна пакруціў у руках і кінуў назад Кастусю.

— А ў гэтай гільзе былі дакументы, якія нас цікавяць.

— Праўду казаў Цяпа! Знайшоўся пакупнік на паперкі! — выгукнуў нехта за спіной у Магды.— А мы іх паліць хацелі!

Са склепа даляцела адчайнае:

— Цяпа! Яны бібулкі з кайфам патрушчылі! Усе пяць!

Смуглявы спыніў скавытанне сваёй зграі.

— Што рабіць будзем?

Марк па-ранейшаму гаварыў ветліва і спакойна, але Магда са здзіўленнем заўважыла, што ён спацеў.

— Мы, відаць, зрабілі вам нейкую шкоду. Гэта выпадкова. Мы кампенсуем.

— Сто рублёў,— змрочна кінуў смуглявы, якога чамусьці гэтак смешна і бяскрыўдна звалі Цяпам.

— Марк, не турбуйся,— вінавата прагаварыў Кастусь.— Гэта цалкам мая віна. Я знайду грошы. А вы,— звярнуўся Сташынскі да смуглявага,— як я зразумеў, маеце патрэбныя мне дакументы. Я гатовы іх таксама выкупіць.

Цяпа падумаў.

— За паперкі вашы цана спецыяльная. Нясі яшчэ сто — не памылішся. А можа, мне яшчэ што заманецца. Я фантазёр. Ну, шуруйце па грошы... Дзяўчынка пакуль з намі пасядзіць, мы яе вінцом пачастуем.

— Ды я з вамі пасяджу,— Кастусь гаварыў нязмушана весела.— У гэтых сёння свята, яны дакументы ў загс падалі. Марк, ты Янку Гарэламу патэлефануй. Ён усё зробіць. Пасля разлічымся.

— У мяне з сабой трыццаць рублёў... Вазьміце як залог,— з палёгкай прагаварыў Марк, сунуў грошы смугляваму і пацягнуў за сабой Магдаліну.— Сто семдзесят за намі... Я хутка...

Не паспелі адысці некалькі крокаў...

— Э, не... Адкуль нам ведаць, будзеце вы гэтага, з хвосцікам, выкупляць ці не? Дзяўчынка застанецца.

Магда адчула, што Маркава рука ўздрыгвае.

— Я з ёй застануся.

— Ты, дзядзька, па грошы пойдзеш, нявесту сваю выкупіш,— распарадзіўся Цяпа.— А раз паненка нашай кампаніяй грэбуе — з ёй гэты хіпі пасядзіць. А мы прыглядзім, каб ён табе рогі не наставіў.

Марк знікаў за дрэвамі, але страху не было. Чаго баяцца тут, у цэнтры горада, калі вунь за агароджай — аддзяленне міліцыі, вунь ходзяць людзі, ездзяць машыны... Да таго ж, яшчэ дастаткова светла...

— Кыця-кыця-кыця! — Між магілаў рухалася дзіўная постаць — старая ў капялюшыку, у доўгай цёмнай сукенцы, на якую было накінута нешта падобнае да рыбацкай сеткі.

— Зноў гэтая вар’ятка...— зашыпеў Цяпа.— Значыць, зараз бабулькі ад касцёла паваляць... Давайце гасцей сюды... Мы з лысым павартуем, а Сева па «траўку» збегае — грашыма ад дзядзькі разжыліся.

Кастуся і Магду штурханулі ў склеп. За імі зайшлі яшчэ чацвёра, зачынілі дзверы... Скрозь сляпое акенца святло прасявалася так ашчадна, як у краіне ценяў па той бераг Леты. Падлеткі ўселіся на кучы смецця. Засвяціўся агеньчык цыгарэты, варухнуўся, паплыў убок — быццам далёка-далёка блукаў нехта з чырвоным ліхтарыкам.

Магда зацiснулася ў кут — і таму, што месца было мала, і са страху. Пад нагамі нешта пахруствала... Цяпер, у цемры, усвядомілася, што яны не проста ў старым будынку, а ў склепе, за брамай на той свет, і страшна падумаць, што — пад нагамі... Кастусь стаў побач.

— Не бойся...

Раптам цемра выбухнула рогатам. І Магда інстынктыўна прыхінулася да Кастуся... Яны ўпершыню былі блізка адно да аднаго. Дзяўчына схавала твар у яго на грудзях. І страх знік.

Побач гучалі анекдоты пра «вучылак». Напэўна, беспрытульнікі, што збіраліся на гэтых могілках паўстагоддзя таму, былі больш шчаслівыя, чым гэтыя падлеткі ў скуранках,— яны не мелі, на каго крыўдаваць. А ў гэтых былі жывыя бацькі...

Агеньчык цыгарэты з дзіўным пахам пераплываў ад аднаго ценю да другога. Магда падумала, што і яны з Кастусём цяпер — цені... Плынь жыцця абцякала іх. Сэрца Кастуся білася моцна і хутка... І Магда адчула, што яе ўласнае сэрца зноў абрываецца і ляціць... Куды? Дзяўчына скаланулася...

Рука Кастуся асцярожна кранула яе валасы... Пагладзіла... Затрымалася... Ён туліў яе галаву да сябе. Але ягоная рука дрыжэла... І Магда раптам зразумела, што ён адчувае тое самае, што і яна!

...І зямля загайдалася пад яе нагамі — сапраўды бы донне Харонавага чоўна. І, каб не знікнуць назаўсёды ў краіне ценяў, Магда ўхапілася за таго, хто стаяў з ёй побач і чыё сэрца білася ўсё хутчэй, хутчэй — быццам ён даганяў сваё скрадзенае шчасце...

— Нешта госці нашы прыціхлі...— Промень ліхтарыка, як клінок, разануў па цемры.— Во, глянь, што робіцца! З кім жа тады дзяўчына заяву падавала? З гэтым хвастатым ці з тым дзядзькам?

Калі яны адышлі адно ад аднаго, за расчыненымі дзвярыма скляпення дрэвы велічна змыкалі цёмныя шаты, між лістоты міргала першая зорка, фізіяноміі падлеткаў у скуранках крывіліся ўсмешкамі, а Цяпа гаварыў:

— Та-ак... Недаглядзелі мы, хоць дзядзьку абяцалі. Трэба чырвонец саступіць.

**Агонь і жалеза**

Марк прынёс Магдзе белую куртачку і клапатліва дапамагаў зашпіліцца. Чырвоная сукенка хавалася пад белым, быццам правіна. Бялявы хлапчыска пералічваў грошы. Сто семдзесят рублёў. Падлеткі задаволена загулі.

— Ну што, у разліку?

Цяпа зрабіў рукой шырокі жэст.

— Арыведэрчы, Рома! Тупайце на ўсе чатыры.

— А паперы з гільзы? — азваўся Кастусь.

— А на паперы, я ж сказаў, цана спецыяльная.— Вочы Цяпы таксама ненатуральна блішчэлі. Відаць, «траўкі» Сева быў прынёс...

— Вы ж атрымалі за тыя паперы сто рублёў...

— А я фантазёр.

Магда адчула, што гэты чалавек на мяжы свядомасці. Марк цягнуў яе ў бок брамы, шэптам выказваючы ацэнку ейным разумовым здольнасцям, але яна марудзіла, прыслухоўваючыся да перамоў.

— Што вы хочаце яшчэ атрымаць? — Кастусь стараўся быць спакойным.

— А што трэба чалавеку для шчасця? Хлеба і відовішчаў! — Голас смуглявага гучаў лена.— На хлеб мы ад вас атрымалі... Цяпер нам патрэбныя відовішчы.

Падлеткі пачалі наперабой выказваць свае пажаданні, спрэс непрыстойныя.

Цяпа спыніў іх:

— Каханне і смерць... Што яшчэ можа разагнаць нуду жыцця? Выбірайце. Або дзяўчынка пакажа нам стрыптыз... Зараз сцямнее, мы падсвецім ліхтарыкамі — прыгажосць на фоне магіл! Узбуджае! Не, не, ніякага гвалту. Сеанс дзесяць хвілін — і паперы вашыя.

— Цяпа ў нас паэт! — горда прагаварыў налыса стрыжаны хлапчук.

— Гэта проста пераходзіць усе межы! — зароў Марк.— Ану, пайшлі адсюль!— і тузануў Магду за руку.

— Стрыптызу не будзе. А што за другім разам?— гэтак жа спакойна спытаў Кастусь.

— Або хто-небудзь з вас пайграе са мной у ножычкі.

— Па якіх правілах?

— Сам-насам, да першай крыві.

— Нецiка-ава. Давайце да трэцяй,— працягнуў хтосьці з падлеткаў.

— Да сёмай! Гэта крута!

— Добра, давайце да сёмай...

Святло ліхтара ля касцёла дазваляла разглядзець, як блішчаць вочы чалавекаў у скуранках.

— Ды ці маеш патрэбнае нам?

Адзін з хлапчукоў — яго зусім разабрала «траўка», так што хістаўся чарацінай,— дастаў з чорнага пакета пляскатую кардонную каробку і працягнуў смугляваму. Той няспешна зняў накрыўку.

— Вось... Падыдзі зірні...

Кастусь коратка ўздыхнуў:

— Яны...

— Вы сабе як хочаце, а я ў гэтым шоу не ўдзельнічаю.— Голас Марка грымеў на ўсе могілкі.— У мяне яшчэ дваццаць рублёў ёсць, бярыце, і разышліся.

Цяпа скрывіўся:

— Схавай грошы, дзядзька. Давай, Сева, падпалі паперкі. Відаць, пакупнікам яны без патрэбы.

На рагу першага аркушыка расцвіла чырвоная кветка...

— Марк, Магда, ідзіце дамоў,— цвёрда сказаў Кастусь.— Гэта ўжо мая справа.— І да смуглявага: — Давай пагуляемся ў ножычкі.

Смуглявы задаволена ўсміхнуўся і пацягнуў маланку на скуранцы.

— Распранайся да пояса...

— Не трэба! Лепш я...— Магда вырвалася ад Марка, адбеглася і дрыготкімі рукамі пачала расшпільваць куртку.

— У-у-у! — зацікаўлена загулі падлеткі.

Але Кастусь раўнуў:

— Калі ты зараз гэта зробіш, я буду гуляць у ножычкі з усімі імі! Марк, чаго чакаеш, забірай яе!

Магда адчула, як дужыя рукі Марка адрываюць яе ад зямлі і ён нясе яе да выхаду з могілак, нягледзячы на пратэсты. Ужо ля брамы іх дагнаў адзін з хлопчыкаў.

— Вы... гэта... міліцыю не клічце. Цяпа майстар. Насмерць не зарэжа. Падрапае толькі... А калі мянты падыдуць, гамон хвастатаму. Цяпа любіць, каб сумленна ўсё было.

Магдаліна плакала ля белай брамы і рвалася на могілкі. Марк затуляў яе ў абдоймы, штосьці супакаяльнае нашэптваў, спрабаваў адвесці далей... Дарэмна. Ну не будзеш жа ў цэнтры горада цягаць на плячы дзявулю! На іх і так азіраліся рэдкія прахожыя. Дзейнічала толькі пагроза, што, калі яна не перастане раўці, зацікавіцца міліцыя, і Цяпа вырашыць, што гэта несумленна. А з могілак даносіўся вясёлы хор: «Тры! Чатыры! Пяць!», нібыта там гулялі ў жмуркі.

Вароны зашумелі ў чорных нетрах шатаў, быццам паўз іх праляцела нечая душа.

— Се-ем!

Магда вырвалася з абдоймаў Марка і кінулася па цёмнай прыса-дзе, далёка ў канцы якой гарэў агеньчык над дзвярыма касцёла, як сумны анёл.

Цішыня палохала. Ад яе спынялася сэрца... Між магілаў павольна рухалася чыясьці постаць...

— Кастусь! Што з табой?

У святле ліхтара Магдзе падалося, што ён памірае,— спрэс заліты крывёю. Хлопец прыціскаў да грудзей свой заплечнік у цёмных плямах і ўсміхаўся.

— Усё нармальна... Толькі драпіны. Праўда, Цяпа перамог — чатыры — тры на яго карысць. Але нават паабяцаў прыйсці на краязнаўчы гурток.

— Прыдурак! — прашыпеў скрозь зубы Марк.— Паперы дзе?

— Тут...— Кастусь паказаў на заплечнік.

— Давай... Яны ж належаць Магдзе, ты сам казаў.

Кастусь паслухмяна адкрыў заплечнік. Марк выхапіў каробку, загорнутую ў чорны пакет, і паклаў у свой дыпламат.

— Магдаліна, пайшлі...

— А ён?

— О Госпадзе, калі ж гэта скончыцца!

Марк дастаў з партманета грошы і раздражнёна працягнуў Кастусю:

— На табе тры рублі на таксі.

Той адмоўна пакруціў галавою.

— Дзякуй, свае ёсць. І заўтра вярну дзвесце рублёў.

Ялецкі толькі фыркнуў:

— Янку свайму вернеш. Ягоныя грошы.

Магда вырвала руку з рукі жаніха.

— Якое таксі... З яго ж кроў капае!

— Перажыве...

На асветленай вуліцы Кастусь прагаварыў, гледзячы ў зямлю:

— Даруйце, калі ласка... Бывай, прынцэса.

І пайшоў...

І яны ўжо ніколі не...

Гэта сапраўды горш за смерць!

— Кастусь! Пачакай!

Магда расшпіліла куртку, сарвала з сябе, працягнула Марку.

— На... І аддай мне, калі ласка, паперы дзеда. Я іду з ім. З Кастусём.

Марк не зрэагаваў, толькі здзіўлена падняў бровы.

— Магдаленка, я ўжо прывык да тваіх выбрыкаў. Але мусіць жа быць мяжа? Не забывай, што мы пачалі сямейнае жыццё.

Але Магда наблізілася да Кастуся, і яе зялёныя вочы палалі.

— Ты кахаеш мяне?

Кастусь памаўчаў і сказаў вельмі проста:

— Я б памёр за цябе,— зірнуў на Ялецкага: — Прабач, Марк. Я праўда гэтага не хацеў.

— Ты проста нягоднік,— пагардліва азваўся той і звярнуўся да нявесты: — Магда, не дуры. Пасля сама будзеш вельмі шкадаваць.

— Прабач, Марк. Можа, я і пашкадую, але...

— Ты не пашкадуеш, прынцэса!!!

Кастусь схапіў дзяўчыну на рукі, падняў над сабой, закружыў:

— Я хачу тры сыны-каралевічы і тры дачушкі-прынцэсы!

— На сваю мэнээсаўскую зарплату карміць іх будзеш?— Сталёвы голас Марка вярнуў закаханых на зямлю.

Магда падбегла да жаніха — абразліва шчаслівая.

— Марк, міленькі, я нічога не магу змяніць. Ты мужны, добры... Аддай мне рукапіс і... даруй.

У прывідным святле ліхтара твар Марка здаваўся сапраўды высечаным з каменю.

— Гэта мая памылка. Трэба было зрабіць цябе жанчынай. Ты ж усё роўна вернешся да мяне! Хто яшчэ будзе з табою так нянькацца? А паперы, прабач, я пакіну сабе.

— Чаму? — разгубілася Магда.

— Таму што напачатку імі павінны заняцца адпаведныя органы. А то налятуць зараз усялякія энтузіясты з хвосцікамі...

Кастусь неўразумела паспрабаваў усміхнуцца:

— Марк, ты жартуеш?

— Мне не да жартаў, як ты мог бы здагадацца.

Кастусь збялеў.

— Гэта... гэта подла!

Магда маліла:

— Марк, дарагі... Я разумею, гэта тваё самалюбства... Але столькі жанчын марыць пра такога мужчыну, як ты! Ты для мяне проста занадта добры. Я не падманвала — я проста не ведала, што такое каханне. Прашу, не рабіся ворагам. Ты ж не хочаш сапраўды перадаць паперы майго дзеда гэтым...

— Не толькі хачу, але і павінен,— важка, нават насмешна сказаў Марк і рушыў да аўтобуснага прыпынку.

— Стой! — кінуўся ўслед Кастусь.— Аддай рукапіс!

— Забяры, падонак, як забраў маю нявесту! — Марк раптам зрабіў рэзкі рух рукой, і Кастусь сагнуўся напалам, хапаючы ротам паветра. Але зноў дагнаў Марка...

Яшчэ хвіля, і яны ўдвух пакаціліся па зямлі... Марк падмяў пад сябе хлопца і біў з такой злосцю, што Магда падумала — заб'е... Але вось наверсе — Кастусь...

— Магда! Дыпламат!

Дзяўчына кінулася да Маркавага чамаданчыка, паспрабавала ад-крыць...

Проста ля іх спынілася міліцэйская машына. Трое здаровых міліцыянтаў расцягнулі ваякаў.

— Супакоіцца! Вашы дакументы!

Марк дастаў з задняй кішэні нагавіцаў чырвоную кніжачку, разгарнуў... Міліцыянт, што трымаў Ялецкага за каршэнь, адышоўся і разам з двума саслужыўцамі ўзяў пад казырок.

— Якія будуць распараджэнні?

Марк змрочна абтрос безнадзейна сапсаваны касцюмчык.

— Забярыце ў дзяўчыны дыпламат. Давайце сюды...— Адчыніў, упэўніўся, што каробка на месцы.— Завязіце мяне на Валадарскага.

— А з гэтымі што рабіць?

Ялецкі азірнуўся на Магду і Кастуся. На хвілю яго вочы бліснулі нянавісцю і жорсткая ўсмешка перакрывіла вусны. Але змянілася стомай.

— Адпусціць...

Машына ад'ехала. Цікаўныя, што на разумнай адлегласці назіралі за сцэнай, расчаравана вярнуліся на прыпынак. А пацалункі, абдоймы — падумаеш, відовішча...

Яны пайшлі пешкі. Праз аксамітную цемру — дзве іскрынкі, якія свяціліся адна для адной. Час ад часу яны спыняліся і зліваліся ў адну.

— Я б цяпер пераплыў Дняпро! — мройна прагаварыў хлопец.

— А мне б цяпер хлеба з салам,— гэтак жа мройна прагаварыла дзяўчына, прыхінуўшыся галавой да пляча свайго спадарожніка, і рассмяялася: — А яшчэ кажуць, што каханне адбірае апетыт!

— Дык у мяне ж засталіся піражкі, што ты не даела! — узрадаваўся хлопец.— Адзін знойдзецца для прынцэсы напэўна...

Кастусь палез у свой заплечнік і раптам замёр.

— Што з табой? — спалохалася Магдаліна.

— Ты ведаеш... Цяжка паверыць, але... Марк, здаецца, забраў пакет з тваімі піражкамі!

— Ты хочаш сказаць...

— Вось ён, рукапіс!!!

У святле ліхтара Магда прачытала першыя радкі, напісаныя на пажаўцелай паперы цвёрдым круглым почыркам, і ледзь не выпусці-ла сшытак:

Толькі магілы ёсць у мяне.
Траву па-над імі вецер кране...

Можа, гэта сон? Гэта ж яе вершы?!!

Але далей ішло іншае:

Я да сваіх не ўздымуся нябёс.
Толькі магілы — шлях мой і лёс.
Бедны нашчадак, за спадчыну гэту
Не папракай небараку-паэта.
Разам з табой на пагост уздымусь.
Спіць у магілах мая Беларусь.

**Эпілог**

Хлопец гадоў дваццаці шасці, з сабранымі на патыліцы ў хвосцік валасамі і ўсмешлівымі вуснамі, і зеленавокая дзяўчына, гнуткая, як лазінка, схіліліся, абняўшыся, над вялікім пісьмовым сталом з чорнага дрэва. Перад імі ляжалі разгорнутыя часопісы. У маладых людзей быў аднолькавы выраз твараў — з адбіткам шчасця, не хвіліннага, бурлівага, а такога, што расце свойскім дрэўцам у садзе тваіх будняў і непрыкметна мацнее з году ў год.

— «Вернутыя вершы»... Усёткі неяк банальна назвалі...

— Нічога, галоўнае — публікацыя з’явілася! Водгукаў колькі! І добра, што дамагліся прыпіскі — «З асабістага архіва Магдаліны Дарбут-Сташынскай». Цяпер твае правы ніхто не аспрэчыць.

— Затое пачнуць казаць, што я дзедавы вершы выдаю за свае...

— Не бойся. Твая падборка даказала, што ты самастойны паэт, са сваім бачаннем свету. Гэтага не падробіш. І добра, што абедзве публікацыі з’явіліся аднначасова.

— Магчыма...— задумліва сказала дзяўчына.— А што ты даведаўся пра Хмеля?

— Ведаеш...— Хлопец адхінуўся ў крэсле, падбіраючы словы.— Нам цяжка іх судзіць. Невядома, якое пекла яны прайшлі, хто і чым кіраваўся.

Я магу толькі прыблізна аднавіць падзеі. Твайго дзеда, беларускага караля, сябры берaглі ад найменшых падазрэнняў. Калі пачалі арыштоўваць, ён быў апошні, каго маглі западозрыць. І на допытах ніхто са змоўшчыкаў яго не назваў. Але ў гэты ж час арыштавалі тваю бабулю. Не ў сувязі з гэтай справай. Напэўна, у цябе ейны характар. Іван Хмель выкупіў яе волю тым, што здаў яе мужа. Потым спрабаваў загладзіць віну, ладзіў каралю пабег. За што і быў зноў арыштаваны. Ну а падрабязнасці — «навечна канулі у Лету, і толькі бурбалкі пайшлі». Бог усім суддзя...

— І застаюцца нам адны магілы...— Дзяўчына засланіла твар тонкімі рукамі. І раптам адчула, што на палец, побач з заручальным пярсцёнкам, слізнула нешта халоднае і цяжкое...

Просты жалезны пярсцёнак з роўнаканцовым крыжам.

— Не, гэта не той самы...— прагаварыў Кастусь, цалуючы руку жонкі.— Я замовіў дакладную копію. Няхай пераходзіць далей, з пакалення ў пакаленне, так?

— Кр-р-рум! — пацвердзіў нехта за іх спінамі, узняўшы такі вецер сваім з'яўленнем, што старонкі часопісаў пачалі перагортвацца.

— Карлуша! — Хлопец і дзяўчына са смехам азірнуліся.

Крумкач тупатаў па падлозе, пазіраючы разумнымі чорнымі вочкамі. Ён ведаў, што ўсё мінае...

Але ёсць ніці, якія ўплятаюцца ў сувой часу рознакаляровымі сцяжынкамі, то знікаючы, то зноў выходзячы на шэрую паверхню.

Хто ведае, можа, мой ці ваш лёс — таксама працяг, частачка гэтай каляровай ніткі.

І хто мы такія, каб ірваць і зблытваць ніці ў тым, што саткана не намі?

— Слухай, а Цяпа прыйшоў у бібліятэку, на краязнаўчы гурток. І разам з гэткім лысым хлапчыскам прывалок два магільныя крыжы васемнаццатага стагоддзя — на звалцы адкапалі! Загадчыца бібліятэкі пералякалася. Цяпер у экспедыцыю да Янкі папрасіўся. І яшчэ двое з ягонай каманды. Жыве Беларусь!

Жыве.

*2001*

## ЗОЛАТА ЗАБЫТЫХ МАГІЛ

*Паралельны раман*

Род сыходзіць, і род прыходзіць, а зямля застаецца ў вяках.

*Эклезіяст, 1:4*

**Пралог**

вочы цемры смерць нянавісць

А што яшчэ ён спадзяваўся ўбачыць, углядаючыся праз мокрае акно ў ноч, у восень, у безнадзейнасць? Быць самотным — значыць трошкі памерці.

Нешта стукнула ў шыбу, нібыта адзінота прасілася ў пакой… Не, яна, халодная пані Адзінота, ужо даўно царуе тут. Сядзіць побач, перад полымем каміна. І што ёй да ценяў былога, да тлуму і адчаю дзён, калі не верылася, што так будзе — вальтэр’янскае крэсла, камін, цішыня…

Аднак што парушыла цішу? Гаспадар паднёс газоўку да акна. Вочы саслаблі, а калісьці мог пацэліць у цэшку на фуражцы… Нешта гайдаецца, падвешанае на вяроўцы да галіны старога каштана. Чалавек, спяшаючыся, расчыніў акно, і мокры вецер ударыў яго па шчацэ, быццам выпрабоўваў на хрысціянскую цярплівасць.

На вяроўцы вісела здохлая варона.

Чалавек моўчкі глядзеў у цемру, не зважаючы на ўдары ветру і спробы дажджуператварыць пакой у маленькую Венецыю.

Навошта ён сюды вярнуўся?

Што ў яго тут ёсць, акрамя магілаў?

Акрамя магілаў і нянавісці, што пазірала на яго цяпер.

Калі б ён мог сам адказаць нянавісцю! Але ён даўно забараніў сабе ненавідзець, толькі часам вуголле дарэмных шкадаванняў пякло душу знутры, не знаходзячы выйсця. Не, ён усё-ткі не шкадуе… У ім усё яшчэ жыве той даверлівы юнак, які вызнаваў сусветную справядлівасць.

Няхай каменне ў спіну, няхай здохлая птушка перад акном, няхай ад яго хаваюць дзяцей і абараняюцца ад яго пагляду крыжам… Нянавісць — дзіця болю, і боль той спароджаны і ягонымі продкамі… Грахі роду належыць сплочваць. Але трэба верыць, што калісьці гэта зменіцца і пакуты не стануцца дарэмнымі, як не бываюць дарэмнымі пакуты зерня, якое ператвараюць у хлеб. Не можа не быць працягу ў таго, што замешанае на любові і самаахвярнасці. Як у галаве ў самай пачварнай жабы хаваецца прыўкрасны камень, так у несправядлівым і жорсткім часе нашчадкі пасля знаходзяць іскрынкі цудоўных лёсаў і агмені чыстых памкненняў.

Гэта ён не пра сябе — пра тых, з кім меў гонар сябраваць.

Чалавек абрэзаў кітайскім нажом для папер вяроўчыну, на якой матлялася мёртвая птушка. Канец вяроўкі падхапіў вецер, разгайдаў так, што на хвілю здалося, быццам вяроўка зараз завяжацца пятлёю. Ад раптоўнага ўспаміну горла пераціснула нібыта ад тае пятлі, і чалавек зачыніў акно.

А ён толькі што разважаў пра набыты спакой… Няма і не будзе спакою, пакуль на гэтай зямлі пануе цень пятлі і цень неразумення паглынае самыя яркія агні…

Гаспадар зноў апусціўся ва ўтульнае крэсла. Праз шыбы ў пакой глядзела ноч, пані Адзінота варушыла вуголле ў каміне.

**1**

Гэта здарылася слотным сакавіцкім вечарам, паміж коскай і кропкай, на тым кавалачку сказа, дзе згадвалася пра вялікую пошасць у Паазер'і напрыканцы кіравання Жыгімонта Маладога. У дзверы званілі так настойліва, што кропка атрымалася больш падобная да працяжніка.

Вядома, гэтага не адбылося б (маем на ўвазе сапсаваную кропку), калі б Паліна пісала свой артыкул на кампутары, а не асадкай.

Але Паліна не любіла спавядацца жменьцы мікраэлементаў. І не любіла разглядаць няўчасных наведнікаў праз дзвярное вочка. Нават без асцярожлівага «Хто там?» расчыняла дзверы наросхрыст.

Артур стаяў на лесвічнай пляцоўцы, беражліва прыціскаючы да сябе нешта цяжкое, ухутанае ў зялёную саматканую посцілку. Па яго доўгіх валасах сцякала вада, а худы твар быў такі няшчасны, што Паліне адразу ж захацелася зачыніць дзверы. Не, яна не чэрствая. Проста надакучылі няшчасныя мужчыны. А яны ў нас амаль усе такія — пакрыўджаныя ды незразуметыя, і беларускія жанчыны мусяць пажыццёва ратаваць іх ды шанаваць іхнюю спароджаную высокай духоўнасцю тугу.

Вядома, падстава для тугі ў Артура была — зноў звольнілі з інстытута, дзе ён выкладаў гісторыю беларускай літаратуры. Тое, што студэнты дарэмна чакалі яго на лекцыях, — вядома, не клопат. Арцік у гэты час займаўся святой справай — шукаў духоўнай раўнавагі ў кавярні «Сем пятніц».

Што праўда, калі ён усё-ткі знаходзіў дарогу ў аўдыторыю, туды крадма прабіраліся нават з іншых факультэтаў. Літаратуразнаўца ад Бога — нават дзіўна, што сам мастацкіх твораў не піша.

Папярэджвала Паліна ягоную цяпер ужо былую жонку, колішнюю аднакурсніцу Аксану, наконт асаблівасцяў Артуравай творчай натуры…

Праўда, і сама ў свой час гэтак жа разумна праігнаравала сяброўскія папярэджанні. Таму цяпер і сядзіць адна, разумная і гордая «вучоная дама»… І знаёмыя пры сустрэчах перагаворваюцца: «А як там Палінка? Усё яшчэ адна? Бедная! Трэба ёй было ехаць са Стасікам».

«Адна» — значыць «бедная»? Недастатковая, няспраўджаная. Чароўная архідэя, непрысмактаная да дрэўца-кармільца, зялёная гірлянда плюшчу, абарваная з апірышча,— бяссілы прыгожы паразіт, які толькі і марыць ласкава аплесці новага гаспадара…

Так, Стась імкнуўся быць гаспадаром. І калі яму, таленавітаму праграмісту, удалося выйграць грант на стажыроўку ў Штатах, абвесціў адразу: назад — не вернецца, легалам ці нелегалам — застанецца там. І Паліна хоць бэбі-сітэрам, але прыладкуецца. Вядома, наўрад ці — гісторыкам.

Не, гэта не быў выбар між прафесійнай апантанасцю і сямейнасцю. Хутчэй — уцёкі ад лёсу плюшчу.

Воля — апошняе суцяшэнне няўдачніка. Пабач Паліна хоць водбліск уласнага кахання ў цёмных прыгожых вачах свайго ўладара — памкнулася б і за акіян, не разважаючы, як калісьці не разважаючы прыняла ягоную дзіўную прапанову: «Мне здаецца, з цябе магла б атрымацца някепская жонка».

Але акрамя любові да самога сябе, роднага, не бачылася ў Стасевых вачах анічога. Ён нават асабліва не ўгаворваў — хуценька арганізаваў развод, паабяцаў ліставацца…

А для яе проста скончылася жыццё.

Хацелася аднаго: спакою, самоты, як смяротна параненаму зверу. І каб ніхто ніколі больш не змог прыўлашчыць нават часцінку ейнае душы. Яны ж не бяруць, не просяць — кусаюць, як ваўкі, ды пакідаюць цябе з незагойнай ранай.

Паліна заколвала ў цяжкі вузел цёмныя валасы і апранала доўгія сукенкі. Белыя карункавыя каўняры да іх не вязала сама — не хапала цярплівасці. Купляла ў бабулек на Камароўцы. Ёй хацелася быць падобнай на віктарыянскую класную даму, якую-небудзь міс Тэмпль: годнасць, бездакорныя манеры — трымай дыстанцыю, мінак.

У зменлівых рысах яе гожага на манер візантыйскіх абразоў аблічча былі прыхаваныя цікаўнасць птушаняці і мройлівасць засцянковай паненкі… Хоць Паліна сама сабе не раз паўтарала, што яшчэ крыху — і яна назаўсёды ператворыцца ў нелюдзімку, зледзянее сэрцам, як скрадзены хлопчык Кай. Урэшце — дваццаць восем гадоў, развядзёнка.

Ці варта гаварыць, што мужчыны аблашчвалі яе позіркамі, але знаёміцца баяліся: штучка!

Дысертацыю Паліна таксама не абараніла з-за сваёй «недатыкальнасці». Проста ў пэўны момант зрабілася брыдка: арганізатарская беганіна, бясконцыя перамовы, намёкі на тое, што Кастусь Каліноўскі — асоба супярэчлівая…

А ў гімназіі выкладаць добра. І гучыць амбітна. Пару гадоў таму называлася школай, а сёння — гімназія…

Але мы адхіліліся ўбок ад падзей. Дык вось, стаіць няшчасны Артур, мокры, як вадзянік, на лесвічнай пляцоўцы і працягвае нешта, ухутанае ў саматканую посцілку.

— Палінка, купі!

Ведае, хітраванец, што яна ўсё роўна яго пашкадуе. Сказала была, што апошні раз пазычае. Дык вось табе сёння — «купі»… Відаць, вазу Аксанчыну прывалок, геній непрызнаны…

Вада з Артура капала ўжо на дыванок у вітальні. Пад зялёнай посцілкай хавалася зусім не ваза. Жаба. Каменная жаба велічынёй са шчанючка. Бугрыстая, шэрая, але зусім не монстр — утульна кругленькая, лапкі ўмольна складзеныя, велізарныя вочы глядзяць так кранальна… Не раўнуючы, як цяпер Арцікавы. Праца прафесійнага скульптара, і не з нашага стагоддзя…

— Адкуль гэта ў цябе?

Артур задуменна пагладзіў жабу па каменнай спіне. А пальцы дрыжаць… Дапіўся.

— Не хвалюйся, не крадзеная. Ад майго таты засталася. Гэта з надмагілля Вінцэся Рашчынскага. Ну таго, паўстанцкага філосафа. Ты лепш за мяне мусіш ведаць.

Паліна недаверліва зірнула на каменную зачараваную царэўну. Вядома, Артураў тата быў важны чыноўнік за Саветамі, ездзіў па свеце… Сыночка-«бітніка», дарэчы, лічыў страчаным, нават неяк прымусова засадзіў у прывілеяваную псіхушку.

— Калі не памыляюся, Рашчынскі пахаваны ў Парыжы.

— А вось і памыляешся.— Артур раптам перастаў быць няшчасным, і Паліна вельмі любіла такія ў ім перамены, якія адбываліся, калі справа тычылася таго, чым ён цікавіўся, магчыма, больш за жыццё, але, на жаль, менш за сваю сусветную тугу. Вочы госця заззялі, голас загучаў спеўна, як на лекцыі.— Так, Рашчынскі пасля разгрому паўстання дзесьці з 1867-га жыў у Парыжы, нават браў удзел у рэвалюцыйных падзеях, але на пачатку дзевяностых вярнуўся сюды. Людзі тых часоў цяжэй перажывалі расстанне з роднымі мясцінамі. Гэта для нас настальгія — амаль што жарт, а для іх — куля ў жывым сэрцы. Ад гэтага паміралі. Дарэчы, Рашчынскі памёр неяк дзіўна, усяго год пражыўшы на радзіме. Падобна, што яго забілі. Нават працавала камісія па расследаванні смерці. І пахавалі яго ў касцёле ў Гарнушках, у магіле, якую ён сам сабе падрыхтаваў,— там была цэлая скульптурная галерэя, мармур, граніт, малахіт… Грошай ляснуў у сваё надмагілле… Як ведаў, што хутка спатрэбіцца.

— Першы раз чую пра такое…

— Не дзіўна.— Артур зноў пагладзіў каменную жабу, нібы пакінутага гаспадаром сабаку.—Адразу пасля пахавання надмагілле зганьбавалі, нехта разбіў цэнтральную скульптуру, алегорыю смерці. І на працягу года невядомыя зламыснікі разбівалі фігуры адну за адной. Нібыта нехта так ненавідзеў былога інсургента, што хацеў знішчыць нават памяць аб ім. А калі мой бацька ўзначаліў барацьбу з помнікамі рэлігіі ў раёне, там ужо амаль не было чаго руйнаваць. У прыдзеле касцёла, дзе радавая ўсыпальніца Рашчынскіх, засталося толькі некалькі пашкоджаных дзіўных

фігурак, і ўсё. Адну бацька загадаў адбіць для сябе. Сказаў, што надта нагадвае маю маці. Маўляў, паставіць у хаце, каб глядзела на сваю выяву і сядзела моўчкі.

Арцік прыглушыў голас і з нянавісцю сціснуў зубы — Паліна ведала, ён дасюль не дараваў бацьку стаўлення да маці, хоць абаіх ужо няма на свеце. Тым жа здушаным голасам госць скончыў аповед:

— Касцёл узарвалі. Цяпер на тым месцы Дом культуры. Вось табе і ўся гісторыя маёй жабкі… Чырвонец не дорага?

Апошнія словы Арцік прагаварыў са звыклай няўпэўненасцю няшчаснага беларускага мужчыны. Але Паліна не магла адмовіць і са скрухай глядзела, як ён хавае атрыманую паперчыну ў кішэню і рукі яшчэ больш трасуцца, а вочы загараюцца непрыемным хваравітым бляскам…

Божа мой, Паліне б тады ўзяць гэтую жабу ды абрынуць са свайго пятага паверха, каб разляцеліся ейныя шэрыя друзачкі па мокрым асфальце…

Але яна гэтага не зрабіла. Таму далей адбылося тое, што адбылося.

**2**

Вінцэсь ледзь прычакаў вечара, калі ў пакоях маёнтка запалілі святло і цені неахвотна распаўзліся па кутах, каб пільнаваць момант свайго начнога панавання. У адным з такіх кутоў Вінцэсь схаваў захутаную ў посцілку стрэльбу, знятую крадма з дывана ў бацькавым кабінеце.

Вядома, такое ўчыняць было нядобра. Але што зробіш, калі дарос да шаснаццаці, скончыў Шляхецкі інстытут[1], а табе ўсё яшчэ не давяраюць зброі. А між тым у Маскалёвым лесе пасяліўся сапраўдны ваўкалак! Яго бачылі конюх Тодар і дзеці вясковага каваля, а паненка Рагманава, смуглявенькая Вальжына з насмешнымі цёмнымі вачыма, пры ўсіх гаварыла, што толькі сапраўдны мужчына не збаіцца выйсці супраць ваўкалака. А паколькі такіх у наваколлі няма, дык яна лепш з двара выходзіць не будзе. Ваўкалакі, кажуць, дзяўчат крадуць.

Ваўчыную шкуру табе пад ногі, ганарліўка! Ды каб свежым звярыным духам працяло твой лялечны пакой з белымі фіранкамі! Рашчынскія не баяцца ні людзей, ні ваўкалакаў.

Шкада, бацька ўнатурыўся не ў слаўных ваяўнічых продкаў. Сам ніколі ў рукі зброі не браў і яму, Вінцэсю, не дае… Нібыта шаблі ды пістолі — адно для аздобы пакояў!

Нічога, Вінцэсь дакажа ўсім, што ваярскі дух не пакінуў іх сям’ю! Цэліць ён трапна — навучыўся і без бацькавага дазволу.

Густы начны туман плыў па-над самай зямлёй. Так што здавалася, быццам Вінцэсь ідзе па аблоках. Але высокая трава са здрадніцкім шоргатам балюча сцябала і калолася нават скрозь вопратку, мокрую ад расы. Тры срэбныя кулі: адна ў ствале, дзве — у кішэні. Ваўкалака можна

забіць толькі срэбнай куляй, пазначанай крыжам,— і Вінцэсь патраціў дзень на тое, каб ператварыць тры старажытныя манеты з бацькавае калекцыі ў больш-менш ахайныя круглячкі.

Сёння поўня… Час ваўкалакаў. Старажытныя грэкі лічылі, што людзі тутэйшых плямёнаў штогод на адзін дзень ператвараюцца ў ваўкоў. Можа быць, гэта праўда? І ў Вінцэсю ёсць кропля ваўчынае крыві? І зараз поўня змусіць яго кінуць стрэльбу і забыцца на тое, хто ён ёсць, і…

Ну і глупствы лезуць у галаву. Шаргоча трава, быццам нехта шэпча праклёны. Ускрыкнула начная птушка, нібыта беспрытульная душа… Не, Вінцэсь не паддасца дзіцячаму постраху. Урэшце, ён — узброены мужчына… Маскалёў лес вунь ужо, цямнее, як зубчастыя сцены цмокавага замка. Усё пралічана: хлопец падбіраецца паплавамі да ўскрайку лесу, дзе пачынаецца адхон, зарослы вольхай, а менавіта там і з’яўляўся некалькі разоў ваўкалак,— і чакае… Пачвара абавязкова выберацца на асветленае поўняй месца, каб правыць свой жудасны гімн цемры…

Вінцэсь пачаў мерзнуць — пачатак чэрвеня не быў цёплы. Раптам па целе прайшла гарачая хваля, застукала ўвушшу. З лесу выходзіла страшыдла… Яшчэ жахлівейшае, чым хлопец чакаў, бо падобнае да чалавека — на дзвюх нагах, калматае, прыгорбленае… Як і ўяўлялася, ваўкалак застыў на месцы і ўзняў абраслае поўсцю аблічча да поўні…

Прыцэл скакаў перад вачыма — ну, націскай жа! Палец не слухаўся. Мусіць, перашкаджала гэтае падабенства з чалавекам — і Вінцэсю неадольна хацелася, перш чым стрэліць, неяк аб’явіцца, даць таму стварэнню магчымасць супраціву — каб атрымаўся двубой, а не забойства з кустоў… Паказацца… Гукнуць… Няхай кінецца, зараве, а тады ўжо…

— Гэй…— вокліч застраў у горле. На галаву хлапца абрынулася нешта цяжкое, неадольная сіла выдзерла з рук стрэльбу, і ён упаў на зямлю.

— Бач, паганец, падпільнаваў! Зладзім табе паляванне начное.

Вінцэсь зразумеў толькі адно: вакол яго — людзі… Ён з цяжкасцю перавярнуўся на спіну, усё-ткі баючыся ўбачыць пысы, што прамаўляюць чалавечымі галасамі. Не, гэта былі не пярэваратні — трое ўзброеных мужчын. У цемры Вінцэсь разгледзеў толькі вусы і насцярожаны бляск вачэй. Адзін, у мужыцкай шапцы-магерцы, цэліўся ў хлапца з ягонай жа стрэльбы. Другі нагнуўся і спрактыкаванымі рухамі абшукаў Вінцэся, з асаблівай увагай падкінуўшы на далоні мяшэчак з кулямі.

Раптам сэрца сціснуў цёмны жах — справа падыходзіў ваўкалак. Вінцэсь пазіраў на яго з зямлі, і таму ваўкалак здаваўся волатам — бо і сапраўды быў вышэйшы за астатніх.

— А што, казаў я вам, асочаць…

З пашчы ваўкалака даносіўся чалавечы голас. Вінцэсь угледзеўся — тое, што ён прымаў за поўсць, было вывернутым кажухом і гэткай жа шапкай. Вядома, барада і валасы, чорныя, доўгія, густыя, надавалі абліччу дзікі выгляд, але самае страшнае было, што праз увесь твар чалавека — так,

цяпер Вінцэсь быў упэўнены, што гэта чалавек,— ішоў глыбокі цёмны шнар, відаць, ад шаблі. Нос, правая шчака, левае брыво рассечаныя, і левае вока, здаецца, пашкоджанае… Затое погляд правага, нават у цьмяным святле поўні гэта адчувалася,— быў незвычайна цвёрды.

Ад усведамлення, што ён мог забіць чалавека, Вінцэся пачало трэсці.

— Падымайся, гадзёнак. Раскажаш усё — памрэш лёгка. Не бойся.

У голасе чалавека ў магерцы гучала лёгкая пагарда, і Вінцэсь пастараўся ўзняцца як мага больш спрытна і стаць у незалежную паставу.

— Дзе іншыя?

— Я адзін,— хлопец сказаў гэта амаль раўнадушна.

— Адкуль ведаў, дзе нас чакаць?

Вінцэсь пачырванеў, радуючыся, што ў цемры гэтага не відаць,— давялося расказваць пра авантуру з паляваннем на ваўкалака. Хлопец не спадзяваўся, што яму паверацць. Хто яны? Разбойнікі? Уцёклыя жаўнеры? Катаржане?

— Ілжэ,— скрозь зубы працадзіў той, што трымаў Вінцэсеву стрэльбу.— Забіць зараз жа — і ў дрыгву.

А ён уяўляў сваю смерць у бойцы, пад слаўным штандарам, на чале пераможнага войска! Але нават цяпер належала сустрэць непазбежнае так, як прыстойна шляхціцу.

— Чакай, Марцэл…— уладна прамовіў ваўкалак, наблізіўся да Вінцэся і жалезнай рукой змусіў юнака павярнуць твар проста пад промні царыцы ночы. Вінцэсь абражана адхінуўся, гатовы кінуцца ў бойку. Але ваўкалак здзіўлена запытаў:

— Ты не сын Антося Рашчынскага?

Вінцэсь не зразумеў, чаму пасля ягонага пацверджання настрой захопнікаў перамяніўся — яны нібыта разгубіліся. А Марцэл у магерцы нават расчаравана прастагнаў.

Чалавек са шнарам чамусьці ўсміхнуўся і звярнуўся да таго, хто абшукваў Вінцэся:

— Пакажы, што ў яго забраў…

Развязаў мяшэчак… І працягнуў супольным даланю, на якой блішчэлі два нязграбныя круглячкі — самаробныя срэбныя кулі.

— Нават крыжам пазначаныя... Што, і ў стрэльбе такая ж?

Вінцэсь моўчкі кіўнуў. Вакол выбухнуў рогат.

Ваўкалак першы перастаў смяяцца і звярнуўся да хлопца сур’ёзна, нават з павагай:

— І ты пайшоў адзін на пярэваратня?

— Ды, відаць, перад дзеўкай пахваліцца захацеў,— насмешна вымавіў вусаты дзядзька з пістолем за поясам і, заўважыўшы засмучэнне Вінцэся, зарагатаў зноў.

— Не сярдуй, хлопча,— сумна прамовіў чалавек са шнарам.— Выгнаннікі маюць няшмат вясёлых хвілінаў. Зараз ты пойдзеш. Стрэльбу,

раз яна трапіла ў лес, мы пакінем у сябе. Перадай бацьку вось гэта… — Ваўкалак дастаў з кішэні нейкі мяшэчак. Навобмацак там было нешта дробнае і цяжкое.

— І запомні: твой бацька — першы, каму ты пра нас раскажаш.

Гэта прагучала як просьба, і Вінцэсь прамовіў:

— Абяцаю.

— Ну што ж, шчасліва заставацца, Вінцэсь Рашчынскі.

Хлопец ашаломлена глядзеў, як постаці адна за адной знікаюць у лесе.

— Гэй, паляўнічы, падары сваёй красуні замест ваўкалацкай шкуру вось гэтага звера… А то без здабычы вернешся.

Словы чалавека ў магерцы праціналі злоснай насмешкай. Вінцэсь ледзь паспеў падхапіць нешта слізкае і халоднае, шпурнутае яму проста ў твар. Жаба… Юнак ледзь стрымаў гнеў, але ўдалося прагаварыць спакойна:

— Дзякую за падарунак. Абавязкова перадам.

Поўня залівала прывідным святлом паплавы, і туман павольна спаўзаў да рэчкі, быццам паранены вужыны кароль у свой бурштынавы палац.

**3**

Мышкі плылі ў вялізным чорным парасоне, звесіўшы ваўняныя хвосцікі на мокры асфальт. Вакол віраваў Казюкас — святочны кірмаш. Дзень святога Казіміра ў Вільні — як Паліна магла прамінуць! Нават калі даводзіцца заплаціць ладную частку ейнай выкладчыцкай зарплаты за візу, праезд, выцерпець некалькі гадзінаў у чарзе на мытні ды яшчэ пільнаваць сваіх гімназістаў — гаманлівую зграйку будучых філолагаў, ці гісторыкаў, ці… Ат, галоўнае — каб сумленнымі выраслі.

Вязаных мышэй прадавала кабета ў вязаным жа капялюшыку, брылы якога абвіслі ад веснавой імжы, і ў пальчатках з абрэзанымі пальчыкамі. Паліну ўзрушыла, што кабета не высаджвае хвастатыя цацкі на якую кардонку ці скрынку, каб самой пакарыстацца караблём-парасонам у ягоным прамым прызначэнні, захінуцца ад дробных халодных кропляў. І мінская госця набыла адну з мышак, з чорнымі вочкамі-гузікамі і чырвоным бантам. Пасунулася далей — і было нечакана прыемна гэтак бязвольна і бяздумна плысці ў людскіх хвалях, аздобленых вярбоўкамі — адмыслова ўпрыгожанымі галінкамі вярбы, гаварыць на беларускай мове — і не сустракаць пагардлівых паглядаў. Праўда, найчасцей Паліну прымалі за польку. Але часам у адказ чулася і беларуская мова.

Паліна слізгала позіркам па раскладзеным тавары…

Гэтага не можа быць!

На прылаўку сядзела каменная жаба.

Не, не падалося — дакладная копія Артуравай. Дурнаватая ўсмешка, жаласныя вочы… Фарбаваны пад камень гіпс, няйначай. Гэтак жа, як і іншыя скульптуркі, перад якімі прысела жабка. Цікава… Не кіч. Роблена з густам. Са стылізацыяй пад старажытнасць. Сумныя анёлы хаўрусавалі з

істотамі зусім нечаканымі: гэта, напэўна, адзінарог… а там — вужыная каралева.

Паліна пашукала вачыма прадаўца. Павільён быў багацейшы за іншыя, дыхтоўны, з драўляных шчытоў, аформленых пад сцены сялянскай хаты. Дзяўчына ў чорнай скуранцы і скандынаўскай шапачцы, з-пад якой звешваліся дзве светлыя пругкія касы, пакінула купку суразмоўнікаў і заахвочвальна ўсміхнулася патэнцыйнай пакупніцы. На роспыты пра паходжанне жабы дзяўчына пагардліва паціснула плячыма, і яе прыгожы твар з правільнымі рысамі, страціўшы непатрэбную ўсмешку, набыў выраз, відаць, звыклай уладарнасці — дзяўчына-вікінг.

— Ну, калі вас так цікавіць… Трэба спытаць у аўтара. Ён там, пад аркай… Бландзін у зялёнай куртцы — не памыліцеся.

У арцы, што вяла ў адзін са шматлікіх цудоўных старых дворыкаў, сапраўды нехта сядзеў. Што ж, гімназісты Палініны яшчэ гадзіну могуць вольна блукаць па кірмашы, потым — сустрэча ля Вострай Брамы… Не зблудзяць, вялікія. Пакуль Паліна, падабраўшы доўгі падол спадніцы і не менш доўгае «віктарыянскае» паліто, прабіралася між плеценых кашоў і рэкламных шчытоў, бачыла толькі цёмны нерухомы скурчаны сілуэт — нібыта таксама скульптура. Стваральнік гіпсавай жабы сядзеў на перавернутай скрынцы, прыхінуўшыся спіной да вільготнай сцяны. Непакрытая галава з доўгімі светлымі валасамі нізка апушчаная, а рукі неяк вельмі сіратліва грэюцца ў рукавах курткі, як у муфце. Не хапала толькі шапкі пад нагамі.

Яшчэ адзін няшчасны мужчына. Гэтым разам — літоўскі.

Але калі Паліна стала проста перад «фігурай засмучонага» і няшчасны рэзка ўзняў галаву, яна не пабачыла на яго твары прыкмет «сусветнае тугі». Праўда, аблічча сумнае, але зусім не жаласнае. Хутчэй смешнаватае — твар худы, а нос велікаваты, з гарбінкай, светлыя вусы і бародка, а вочы надзіва цёмныя, дакладней — цёмна-зялёныя, як нефрыт, і крыху наіўныя… Гадоў, як і Паліне, можа, трохі старэйшы.

Між тым светлавалосы, усвядоміўшы, што госця — да яго, нязграбна ўзняўся і ветліва схіліўся да Паліны. Але роспыты пра жабу пацвердзілі — дзівак і няўклюда.

— Перш чым адказаць, я мушу даведацца падставы вашага інтарэсу.

Паліна здзівілася, пачуўшы чысцюткую беларускую мову. Але ж бач, таямніцы ў яго…

— Я Паліна Ведрыч, гісторык, з Мінска. Выкладаю ў тамтэйшай гімназіі. Не так даўно мне падарылі каменную жабу, дакладную блізнючку вашае.

— Ну і што? Ці мала ў свеце копій?

Паліна зазлавала.

— Не разумею, чаму вы не хочаце расказаць. Я ведаю, што арыгінал — з надмагілля Вінцэнта Рашчынскага, беларускага філосафа, удзельніка

паўстання 1863 года. Ён быў пахаваны ў Гарнушках, у Наўскім павеце. Як бачыце, мой інтарэс — прафесійны.

Скульптар па-хлапечы кіўнуў галавой, вытрымаў паўзу і кінуў:

— Я — з Гарнушак.

— Вось як? Дык вы павінны ведаць пра вашага славутага земляка!

Паліна адчула знаёмы паляўнічы азарт даследчыка. Яна, праўда, за справамі яшчэ так і не пачала росшукі звестак пра Рашчынскага — а цікава ж, з кім сутыкнула цябе старая рэч.

Скульптар стрымана пацвердзіў:

— Так, я чуў пра Рашчынскага. Праўда, касцёл з ягоным надмагіллем зруйнавалі, калі я быў яшчэ зусім маленькі. Але нашы сяляне не дадуць прапасці карысным рэчам. Ведаеце, што стаяла ў каморы маёй бабулі? Спавядальня. Пакрытае чорным лакам дрэва, разьба… Я, вядома, не ведаў, што гэта за шафа дзіўная. Толькі як вырас і ў касцёле падобную неяк пабачыў, здагадаўся. А для чаго яе выкарыстоўвала мая бабуля — прабачце, не скажу.

— Ну а жаба? — прыспешыла Паліна.

— Была і жаба… Бабулі яна прыдалася замест гнёту: класці паўзверх дошкі, калі трэба нешта прыціснуць — тварог там ці капусту.

— А пра Рашчынскага што вам бабуля расказвала?

— Ведаеце, дзіўная рэч…— Скульптар задуменна ўтаропіўся ў скляпенне аркі.— Я ўвогуле нейкі час надта ж цікавіўся айчыннай гісторыяй. Але нічога ўцямнага ніхто мне не расказаў. «Пан быў бандытам», «Вар’ят нейкі», «Багаты быў» — і ўсе звесткі.

— Чакайце,— не паверыла Паліна.— У кожным раёне ёсць музей, энтузіясты-краязнаўцы.

Скульптар паківаў галавой.

— Думаеце, я пра гэта забыўся? У музеі — толькі ксеракопія энцыклапедычнага артыкула. А там усяго некалькі радкоў. Вось пра героя-партызана з нашага лесу ў энцыклапедыі амаль старонка, ды яшчэ з фотаздымкам. Таму і некалькі стэндаў яму прысвечана. А пра Рашчынскага… Пачытайце, што вашы калегі ў энцыклапедыі напісалі.

— Валянцін! Што ты там прыляпіўся да аркі? — рэзкі голас належаў дзяўчыне-вікінгу.— Ідзі да людзей! Вітаўт кавы на ўсіх прынёс.

Гандлярка падышла і пахмурна зірнула на Паліну. Той стала няёмка — сапраўды, сам-насам з чужым мужчынам… Бо дзяўчына падкрэслена паказвала — гэты належыць ёй… Прытулілася, паправіла пасмачку яго доўгіх светлых валасоў… А твар у самой нібыта свеціцца знутры, і нібыта яна ўжо замкнулася з ім сам-насам... На Паліну быццам пацягнула цяплом з чужых прыадчыненых дзвярэй.

— Добра, мне час ісці… Але ўсё ж…— Паліна дастала з сумкі візітоўку, працягнула скульптару.— Раптам штосьці даведаецеся пра нашага героя.

Скульптар беражліва ўзяў картку доўгімі, нязграбнымі, як і ўвесь ён, пальцамі — аж не верылася, што імі вылепленыя тыя вытанчаныя скульптуры. І дзяўчына пацягнулася зірнуць. А пасля яшчэ ў спіну Паліне гукнула з ледзь прыхаванай насмешкай:

— Дык набыць нічога не жадаеце?

— Жадаю,— нечакана адказала Паліна.

І ў абдымку з гіпсавай жабай рушыла да Вострай Брамы.

А гэты… дзівак… так і застаўся сядзець у арцы. Нібыта саромеецца, што ягонымі вырабамі гандлююць.

Хутчэй за ўсё так і ёсць!

Ля ўвахода ў капліцу Маці Божай Вастрабрамскай чарнявы хлопчык-жабрак назваў Паліну панечкай, і тая — нешта сёння надта чуллівая — аддала яму нерастрачаныя літы. Тым больш колькі іх там было… Толькі пакінула на хлеб — як гэта прыехаць з Вільні без мясцовага хлеба, чорнага, як урадлівая зямля, цяжкога… А цяпер яго пякуць і з семкамі — хочаш, з гарбузовымі, хочаш — са сланечнікавымі. Паліна ўзяла цэлы каравай — падзеліцца з маці, занясе па акрайцу сяброўкам… Хто б з продкаў мог падумаць, што хлеб зробіцца некалі сувенірам, забаўкай, як паштоўка!

А вось і вучні — гаманкою зграйкай хваляцца купленым. Вярбоўкі з сухімі кветкамі, пазалочаныя і пасярэбраныя сцяблiны льну; доўгія, як вясновая песня, цукеркі ў бліскучых абгортках, гліняныя званочкі… І, вядома, кубкі, упрыгожаныя «міленіумнай» сімволікай — «2000». А яшчэ бурштын, і цудоўныя партманеты з кавалкаў скуры, і падсвечнікі з рознакаляровага шкла, якія ператвараюць самы будзённы пакой у казачны шацёр. І Паліна радавалася разам з усімі і паказвала сваё набытае — асабліва спадабалася жаба, пра якую сказалі, што падобная да смайліка — смешнага значка ў кампутарных тэкстах. Паліна не надта ўяўляла, але ж не спрачалася. Яна ўвогуле вольна адчувала сябе толькі са сваімі выхаванцамі. Яе нават папракалі, што не ўмее трымаць дыстанцыі з вучнямі. Але быць самавітай, з пачуццём уласнай важнасці — гэта ж так сумна, так нецікава! Гэта значыць прызнаць сябе завершанай, адмовіцца ад права шукаць, блытацца, радавацца жыццю…

Не, яна не самавітая і самавітай ніколі не будзе. Нягледзячы на апранахі віктарыянскай класнай дамы.

І ўжо ў аўтобусе, калі яны збіраліся ад’язджаць ад вакзала, Паліна спахапілася, што ў сумачцы няма пашпарта.

Вядома, ніхто не мусіў пакутаваць з-за ейнага нядбайства. Паліна, як магла, супакоіла спадарожных і нават усміхнулася на развітанне. Аўтобус з гімназістамі, вярбоўкамі і адмысловымі кошыкамі адправіўся ў Мінск.

Паліна стаяла ля дзвярэй, за якімі ахоўвалі закон і вырашалі лёс такіх разявакаў, як яна, і не наважвалася ўвайсці. З’явілася здрадлівая думка — уцячы, заблукаць у горадзе, і няхай будзе што будзе…

— Нарэшце вас адшукаў! — Няўклюдны скульптар схіляўся над Палінай, працягваючы ёй сінюю кніжачку.— Аўтобусы абышоў, што з Беларусі прыехалі, тады думаю — ці ў міліцыі вы, ці ў амбасадзе... Дзіна казала — вы жабу ў сумку спрабавалі ўціснуць, потым ледзь досталі... Відаць, тады пашпарт ваш і выпаў.

Свет расплыўся ў вачах у Паліны вясёлкай, і яна раптам разраўлася-разрумзалася на ўвесь калідор. Нешта цяжкое выслізнула з рук, грукнула…

— Нічога, нічога, я вам новую зляплю, прывязу… Яшчэ прыгажэйшую, вось пабачыце… — побач гучаў голас. Скульптар узяў у залітай слязьмі Паліны сумку, падхапіў пад руку, як малое дзіця, павёў на вакзал, усадзіў у крэсла, даў насоўку — выціраць слёзы, потым прынёс кавы, потым уклаў у руку білет… Паліна пакорліва прымала ўсё...

Ужо з тамбура цягніка паспрабавала вымавіць нейкае слова ўдзячнасці — светлавалосы няўклюда толькі памахаў рукой з платформы, шырока ўсміхаючыся. Ды яшчэ Паліне запомніліся ягоныя словы — ён, здаецца, увесь час расказваў нешта цікавае, спрабуючы супакоіць:

— Ведаеце, як ляпіў гэтую жабу, шмат чаго паўспамінаў з міфалогіі… Дарэчы, гэта, напэўна, не жаба, а рапуха — лапы іншыя і пыса не пляскатая… А пра рапух ёсць павер’е — чалавек, які не выканаў пры жыцці тое, у чым пакляўся, прысягнуў, павінен пасля смерці ў абліччы гэтай істоты абяцанае выканаць. І патрапляе на нябёсы толькі ў выпадку, калі яму, напрыклад, удасца дапаўзці да алтара царквы. Можа, Рашчынскі думаў пра гэтую прымху? Памятаеце, як у жабы лапкі малітоўна складзеныя?

За акном цягніка мільгалі далёкія агеньчыкі. Паліна зняможана прыхінулася галавой да акна, паклаўшы капялюш на калені. Гэты Казюкас запомніцца надоўга. Такая «рамантыка»…

Але ж яна нічога пра светлавалосага дзівака з аркі не ведае! Толькі імя запомніла — Валянцін. А ён жа білет ёй за свае грошы купіў!

Вось няёмкасць…

І жабы разбітае шкада…

## 4

Бацька моўчкі стаяў, адвярнуўшыся да акна, і Вінцэсь баяўся парушыць цяжкое маўчанне. На сцяне, на фоне вясёлкавага кіліма, паблісквала, быццам суровыя вочы старых вояў, зброя — шаблі, корды, ружжы, мушкеты, абушкі, скрыжаваныя дзіды, нават буздыган — шастапёр, страшная зброя, якой раструшчвалі галаву. Але Вінцэсеў пагляд мімаволі цягнуўся да таго месца, дзе мусіла вісець стрэльба, страчаная ім падчас начнога здарэння. Ды яшчэ на стале — мяшэчак, перададзены

лясным знаёмцам. І жадаў бы — не пераканаеш сябе, што ўсё было толькі страшным сном.

— Я не хацеў, каб гэта адбылося цяпер і такім чынам…

Бацька гаварыў вельмі сур’ёзна і важка — гэтак з Вінцэсем ён яшчэ ніколі не размаўляў.

— Так, напэўна, я вінаваты, што лічыў цябе за дзіця, забыўшыся, што давялося зведаць самому ледзь не ў тваім узросце.— Бацька павярнуўся і зусім не сярдзіта зірнуў на сына. (Шкада, Вінцэсь не ўспадчыніў гэтыя вочы колеру сталі з пранізлівым паглядам — давядзецца пазіраць на ворагаў сваімі сінімі ды яшчэ вялікімі, як у паненкі.) — Разумееш, у дзяцінстве мне давялося перажыць шмат. Твой дзед Лявонцій быў чалавек... не вельмі лёгкі па натуры. Ты неяк пытаўся, чаму нашыя сяляне не адрабляюць паншчыну, а толькі плацяць чынш. Гэта і таму, што я хачу хоць нейкім чынам выкупіць зло, якое яны мелі ад майго бацькі. Гісторыя роду — не толькі ваенныя трафеі ды фамільныя партрэты. Гэта — цяжар, які сумленнага змушае схіліцца перад праўдай, а чэрствага — кінуць праўду пад ногі свайму гонару. Памятаеш, на ўзгорку за Гарнушкамі — вялікі пень, а каля яго — крыж з абразом Маці Божае Суцяшальніцы?

Вінцэсь моўчкі кіўнуў галавою. Менавіта туды Вальжына Рагманава час ад часу насіла кветкі — букецікі рамонкаў і валошкаў, перавязаныя карункавымі стужкамі, а Вінцэсь ішоў за ёю, як паж, і ніяк не мог навучыцца адказваць на жарты. Як усё лёгка было ў дзяцінстве, калі яны разам гулялі ў хованкі і слухалі ў Весніцах страшныя казкі ахмістрыні Казіміры! А мінулым летам вярнуўся на вакацыі з Віленскага шляхецкага інстытута, убачыў знаёмыя чорныя вочы… І незнаёмая прыгажосць і незнаёмы боль назаўсёды знішчылі нязмушанасць. Падумаеш, на чатыры гады старэйшая! Эх, каб ваўкалак існаваў папраўдзе!

— Дык вось, сыне,— голас бацькі змусіў Вінцэся адарвацца ад мрояў.— На тым узгорку расла сасна, якую выкарыстоўвалі дзеля пакарання прыгонных,— пан Рашчынскі гаварыў зусім ціха.— Гэта старажытнае пакаранне, яно нарадзілася, калі панавалі дзікія норавы і жыццё чалавечае каштавала не больш за разбітую чарку. Ды не, чарка была большай каштоўнасцю — адзін з нашых продкаў змяняў сям’ю гарнушкаўскіх сялян з дзесяці чалавек на італьянскі сервіз — крышталь, аздоблены срэбнымі птушкамі і вінаграднымі лозамі. Шэсць чарак і графін з коркам у выглядзе срэбнай вінаграднай гронкі, на якой сядзіць матылёк.

— Памятаю той сервіз…— гэтак жа ціха адазваўся Вінцэсь, і нейкі холад апаноўваў яго знутры, нібыта ў шкле паміж хатнім цяплом і знадворным сіверам з’явілася першая трэшчына. Ён амаль не хацеў чуць, што далей скажа бацька.

— Дык вось… Пакаранне было такім — вінаватаму разразалі жывот і прыбівалі канец кішкі да дрэва. А потым няшчаснага бізунамі ганялі па крузе, пакуль усе вантробы не наматаюцца на ствол. Самае страшнае, што

пасля гэтага чалавек яшчэ нейкі час жыў. Я сам гэта бачыў. Бацька лічыў, што такое відовішча паспрыяе выхаванню ўва мне мужнасці.

Вочы пана Рашчынскага палыхнулі гневам, і Вінцэсь раптам зразумеў, што зусім не ведае свайго бацькі,— гэты чалавек са спакутаваным тварам меў мала падабенства з тым ласкавым, вясёлым *papa*, які заходзіў у дзіцячы пакой, заўсёды нешта напяваючы, які займаўся з Вінцэсем гімнастыкай па нямецкай сістэме. А калі сын быў на вакацыях, яны штораніцы разам пераплывалі сажалку. Нават калі ўтваралася тонкая скарынка лёду, яго разбівалі, каб вызвалілася з дзесятак метраў, і прыслуга збягалася падглядзець, як шалёны пан купаецца ў палонцы і нават няшчаснага паніча за сабой цягне. А Вінцэсева любімая нянька Агата дык проста плакала ды галасіла, стоячы на беразе. Затое, насуперак звычаям, бацька з сынам заўсёды былі на ты, і ў доме не мелася звычкі цалаваць старэйшага ў руку і, як у строгіх прыхільнікаў «сармацкага ладу», падаць у ногі.

Пан Рашчынскі глядзеў на старажытную зброю на сцяне.

— Гонар роду… Нашы продкі часам дзіўна трактавалі гэтае паняцце. Калі я стаў уладаром маёнтка, загадаў спілаваць сасну і паставіць на тым месцы крыж. Але памяць пра ўчыненае зло не знішчыш так лёгка, як дрэва,— карані ад яго цягнуцца на шмат пакаленняў наперад. Я зрабіў, што мог,— спадзяюся, ты прадоўжыш маю справу. Падобна, я не змог стаць добрым бацькам. Я рана страціў маці, ты таксама. Жаль і любоў часам адпрэчваюць розум. Я нічога табе не расказваў, ні ў што не пасвячаў. Здавалася — яшчэ прыйдзе час… Мне хацелася бачыць, як маё дзіця бесклапотна гадуецца, радуецца жыццю… І вось — мой сын мог загінуць, і гэтак па-дурному…

— Тата, прабач...—Вінцэсь па звычцы хацеў дадаць дзіцячае — «я больш так не буду», але ўсвядоміў, што не можа і не хоча гэтага вымаўляць. І бацька сказаў дзіўнае:

— Гэта не той учынак, за які трэба прасіць прабачэння.

Сеў за стол, не спяшаючыся, развязаў мяшэчак з лесу, высыпаў з яго нешта… Вінцэсь прагна нахіліўся… Рознакаляровыя каменьчыкі, некалькі зярнятак, нават мінулагодні, счарнелы арэх… Вінцэсь ледзь не засмяяўся — а ён жа, пакуль нёс бацьку пасланне, чаго толькі ні перадумаў — вядома, падглядзець самому, што ўнутры, было нядобра.

Але бацька зусім не здзівіўся. Гэтак жа няспешна расклаў каменьчыкі па колерах, задумаўся… Потым пільна зірнуў на сына.

— Ім патрэбны тры фунты пораху і набоі для пісталетаў. І ў іх скончыўся хлеб.

Вінцэсь яшчэ не разумеў.

— Тата, хіба ты іх ведаеш? Хто яны такія?

Пан Рашчынскі памаўчаў.

— Брацтва Ваўка.

Вінцэсь разгубіўся.

— Хіба гэта не казкі? Пярэваратні, якія з'яўляюцца па начах і з'ядаюць таго, хто забіў бязвіннага чалавека?

— Кожная казка калісьці была праўдай, сыне,— усміхнуўся пан Антось.— Брацтва Ваўка існуе на нашай зямлі вельмі даўно. Адразу, я думаю, яго ўтварылі нашы продкі-паганцы, якія не хацелі прымаць новую веру і хавалі свае паселішчы ў гушчарах. Потым — уцёклыя прыгонныя і жаўнеры, пакрыўджаныя людзі. Цяпер Брацтва захоўвае памяць апошняга паўстання. Тое, што даручылі табе,— вялікі давер. Сёння занясеш патрэбнае, куды я скажу. Чалавек са шнарам, з якім ты пазнаёміўся ў лесе, належыць да слаўнага роду, Вінцэсь. І продкаў варты. Дваццаць гадоў таму мы разам з ім былі вязнямі Бабруйскай крэпасці.

— Вязнямі?— а Вінцэсю здавалася, што яго больш нічога так не здзівіць.

Бацька ўстаў, павольна прайшоўся па пакоі, склаўшы рукі за спіной, быццам збіраўся чытаць лекцыю.

— Паўстанне пачалося ў Варшаве. Але гэта быў шанс і для нас. Мне хапіла б і таго, што Аляксандр I забараніў жыхарам Беларусі і Літвы накіроўваць сваіх дзяцей на вучобу ў замежныя універсітэты. А я так марыў пра Гейдэльберг, пра Падую, дзе вучыўся Скарына! А на далучаных да імперыі землях тварылася так шмат несправядлівасцяў, што не бачыў толькі сляпы. У Віленскім шляхецкім інстытуце, я вучыўся там, як і ты, многія падзялялі ідэалы паўстання — і вучні, і настаўнікі.

— Але цяпер там пра гэта не чуваць! — зазначыў Вінцэсь, які не надта шанаваў сваю навучальную ўстанову.

— А хто табе мог расказаць? — уздыхнуў пан Рашчынскі.— Сёння права выкладаць вам маюць адно «вернападданыя». А ў той час мы перапісвалі вершы Міцкевіча і Чачота, чыталі Дыдэрота і Шылера… Паўстанне ўжо было амаль разбітае, калі я разам з сябрамі па інстытуце далучыўся да аднаго з атрадаў генерала Дэмбінскага, апошняга з абаронцаў. Мяне схапілі, калі я прыйшоў дадому ў спадзеве здабыць зброю і хлеб.

Вінцэсю стала страшна.

— Гэта зрабіў… мой дзед?

— Не, дарагі. Не пераймайся. Ён жа быў шляхціц. Але ён выгнаў мяне ні з чым — бо я пайшоў у атрад інсургентаў супраць ягонае волі. Мяне выдалі жандарам сяляне, якія так ненавідзелі пана, што нават пострах ягонага гневу не перашкодзіў ім адпомсціцца на сыне. Дарэмна, што сын змагаўся і за іхнюю будучыню. Царскія ўлады не толькі касавалі вольнасці літоўскае шляхты, але і зводзілі ўсіх, хто не мог пацвердзіць шляхецтва, да стану прыгонных, як і сёння, душылі падаткамі. Вядома, той жах, у якім сяляне жылі з ласкі твайго дзеда, не даваў ім усвядоміць, што чакае іх у абдоймах новых законаў. Калі ўжо варышся ў кіпні — якая розніца, у якім

гаршку? Тым больш новыя ўлады не раз дапамагалі бацьку змушаць дзёрзкіх хлопаў да пакоры. Ссылка ў Сібір — гэта жахлівей, чым бізуны. Не, твой дзед не быў нейкім людажэрам — ён у маладосці шмат ваяваў, нават быў у войску Серакоўскага, калі яго разбіў Сувораў пад Крупчыцамі. Потым паехаў на Балканы, паспытаў турэцкага палону, мусіць, там і развучыўся цаніць чалавечае жыццё. Напалеон спрабаваў стварыць у нас саюзнае войска Вялікага княства Літоўскага — многія шляхціцы пайшлі туды. А твой дзед пасмяяўся. Сказаў — не верыць больш у годнасць роду чалавечага. Ні за кога не варта паміраць. Тым больш за хамскую волю. Хлопы для яго былі не больш чым карысныя або шкодныя жывёлы. І каб не твая бабуля, я мог бы вырасці такім самым… І ты б цяпер адсылаў свайго слугу Янку на стайню, калі той падае табе не зусім гарачую каву. Не крывіся — выхаваць у чалавеку пагарду да блізкага няцяжка. Паглядзі на партрэт у куце.

З карціны сурова пазіраў сівы чалавек, гладка паголены, у берэце і круглым карункавым каўняры, са шпагай. Але танклявая рука пакладзена не на ўпрыгожаны каштоўнымі камянямі эфес шпагі, а на глобус.

Пан Антось патлумачыў:

— Я табе гаварыў некалі, што гэта твой прадзед Ганорый. З яго ў нашым родзе пачаліся каталікі — перахрысціўся з праваслаўя. Пасля таго як пабыў прыхільнікам Кальвіна… Вальнадумец, карацей. Разумны чалавек, вучыўся ў Чэхіі, Італіі, Нямеччыне. А вярнуўся сюды — у першы ж дзень прыгоннага на стайні бізуном забіў. Насмерць. Уласнай рукой.

— За што? — прашаптаў Вінцэсь.

Бацька толькі горка ўсміхнуўся:

— Можа, падаў недастаткова гарачую каву... Ці што там продкі нашыя пілі? Медавуху? Дык вось, дзед Ганорый… Пра яго дасюль у Гарнушках расказваюць, што быў чарнакніжнікам і нават выгадаваў цмока пад уласнай пахай. І як падчас навальніцы бліскала маланка, усе навакольныя сяляне былі пэўныя — цмок нясе пану золата. А калі ў вёсцы знікала дзіця… Ну, не буду пераказваць усяе забабоннай лухты — вядомае адно: дзед твой памёр самай нядобрай смерцю. Засіліўся. Святар адмовіўся хаваць самагубцу на асвечанай зямлі. Тады яшчэ сустракаліся прынцыповыя святары. Ты бачыў каля дарогі, на ўскрайку Маскалёва лесу, капліцу?

Вінцэсь кіўнуў галавой:

— Толькі яна зусім занядбаная.

— Там — магіла твайго прадзеда, Ганорыя Аляксандра Рашчынскага. Жонка вырашыла — там лепш, чым пад царкоўнай агароджай, пасярод іншых вісельнікаў. І колькі ўжо баек вакол таго месца! Жорсткасць не памірае разам з акрутнікам. Але заўсёды з’яўляюцца людзі, якія могуць аддаць жыццё за перавагу дабра. Мы былі на гэта гатовыя. Мартына

Саколку, так завуць твайго новага знаёмага, схапілі падчас бойкі — яго паранілі… Бачыў, які ў яго твар?

— Так…

— З атрада засталіся ён і я. Мне — васемнаццаць, яму, як табе,— шаснаццаць. Следчыя хацелі, каб ён пацвердзіў, што я таксама — з атрада. За гэта абяцалі вельмі шмат — жыццё. Наша сям’я ў сваяцтве з многімі — Рагманавымі, Ляшчынскімі, Каліноўскімі. За мною пацягнулі б іншых — усе следчыя ўсіх краін і часоў мараць не схапіць асобнага злачынцу, а выйсці на змову, раскрыць закалот і чым болей шаноўных людзей у ім заблытаць. Мартын не сказаў ім нічога. Чаго гэта каштавала яму — ведае толькі ён. Але мяне адпусцілі.

— А яго?

— Як бачыш, ён жывы… І мы ўсё яшчэ чакаем свайго часу.

Апошнія словы бацька сказаў вельмі ціха, але Вінцэсь зразумеў сэнс пачутага і скалануўся ад радаснай трывогі. Зусім як у вершы забытага паэта пра Чорнага Война:

…Куля ніколі не ведае сцежкі ў абход,
Война самотны не ведае сцежкі спакою.
Маніш, чужынец, што мой не са мною народ,
Ён — гэта я, ён ніколі не будзе з табою.
Вежы маёнтка майго параслі палыном,
Тых, што кахалі мяне,— суд зямны не ўваскрэсіць.
Покуль жывы, Беларусь мая — родны мой дом,
Так, Беларусь, не губерня, не «ўсходнія крэсы».
Нават асуджанасць зброяю стала маёй.
І безвыходнасць — крыніца змагання для смелых.
Верас палае над беднай сцямнелай зямлёй,
Быццам у попеле іскры пажару саспелі.

— Не, гэта не будзе хутка,— прагаварыў пан Рашчынскі, заўважыўшы, як заблішчэлі вочы сына.— І ты заўтра ж паедзеш у Вільню, да дзядзькі Андрэя. Ён дапаможа табе падрыхтавацца ва універсітэт, а я думаю, гэта не будзе цяжка. Мы — не самыя багатыя, але я зрабіў усё, што мог, каб даць табе добрую адукацыю. Сюды вернешся толькі праз год.

Апошняе гучала загадам. Не, Вінцэсь не выкажа засмучэння.

На развітанне Вінцэсь не мог не спытаць:

— А маці ведала?..

— Яна чакала мяне са зняволення,— сумна казаў бацька.— Ты ніколі не пытаўся, якая спадчына засталася табе ад маці. Дык вось цяпер магу сказаць — яе сям’і належалі Саматыі за Маскалёвым лесам. Сёння яны належаць палкоўніку Варанецкаму, які ўціхамірваў паўстанне.

— А сваякі?

— Спытай у сібірскіх крумкачоў, сыне… І памятай — ад маці табе засталася найлепшая спадчына: мужнае сэрца і чуйная душа. Ці прынясе табе гэта шчасце — не ведаю…

Вінцэсь нават трохі сумеўся: бацька ніколі не казаў яму гэткіх высокіх слоў…

Пакунак з порахам і хлебам належала пакінуць пад крыжам ля ссечанай сасны — унізе крыжа была зладжаная адмысловая хованка, прыкрытая дошкамі. Цяпер Вінцэсь ведаў, што каменьчыкі і зярняты звычайна раскладаліся на пні — хто мог западозрыць у звычайным смецці сакрэтнае пасланне?

Зрабіўшы што належала, Вінцэсь марудзіў у прыцемку — яму хацелася яшчэ раз пабачыць лясных людзей. Спаткацца з імі па-іншаму, на роўных, магчыма, неяк выправіць іх меркаванне пра сябе… Але цені згушчаліся, чарнелі, быццам кроў памерлага дня, і стаяць у чаканні было непрыстойна і небяспечна… Тым больш рупіла яшчэ адна справа… Вінцэсь не мог паехаць адсюль на цэлы год — гэта ж бясконцасць! — не пабачыўшы Яе… Хаця б не пабыўшы каля яе… Вядома, ён мог сёння проста з’явіцца ў госці ў Весніцы — пан Вакула Рагманаў, бацькаў сардэчны сябра, заўжды радуецца ягонаму прыезду… Вінцэсь маленькім, асірацеўшы, столькі часу бавіў у гэтым доме, пад апекай цёткі Ліны, маці Вальжыны і Маркі Рагманавых. Напэўна, каб цётка Ліна была жывая — усё было б прасцей… А цяпер — як паказацца на вочы чароўнай насмешніцы? Вінцэсю здавалася, што ўсе на свеце ведаюць пра ягонае няўдалае паляванне на пачвару.

Не, ён проста прыйдзе пад вокны Вальжыны, а потым пакіне ёй свой падарунак…

Да таго ж паабяцаў перадаць — жабу замест ваўчынае шкуры.

Што ж, ён даражыць сваім словам, нават дадзеным у адказ на грубы жарт. Вядома, прынясе не сапраўдную жабу. А вось гэтую — з зялёнага пералівістага шкла, а ў роце-гарлавіне — тры белыя ружы. Цудоўная вазачка з Саксоніі. Ён пералезе цераз агароджу і паставіць падарунак на стол у альтанцы, у таемным сховішчы, дзе Вальжына праводзіць з улюбёнымі кніжкамі па некалькі гадзінаў у дзень. І нікому не дазваляецца турбаваць там мройную паненку.

Вядома, Вінцэсь напісаў і ліст… Дужа паэтычны і разумны, на ягоны погляд.

Салаўі шчодра сыпалі дробнае срэбра спеваў на цёмнае лісце, на вільготную траву… Багацце, якое належыць толькі закаханым. Вінцэсь успомніў, што сёння — Васіліск, Салаўіны чацвер. Добры час для сардэчнай справы.

Хлопец асцярожна прабіраўся па сцяжынцы між кустоў бэзу, калі раптам пачуў шэпат... Месца пад акном паненкі Рагманавай было занятае. У цьмяным святле поўні бачылася нечая высокая постаць. Злодзей?

— Што з вамі, Раланд?

Ціхі голас належаў Вальжыне. І Вінцэсю раптам стала страшна — не ад таго, што заўважаць, а ад прадчування болю, ад якога, вядома ж, няма лекаў, акрым кулі ў сэрца, як сцвердзіў бедны Вертэр.

— Там нехта ёсць,— голас мужчыны падаўся Вінцэсю знаёмым.

— Я нічога не чую. Вы сталі палахлівым, рыцар Раланд.

Мужчына памаўчаў.

— Магчыма… Памыляюцца нават старыя салдаты. Можа, гэта шаргатала птушка.

— Ці котка! Спалохалася вас — вырашыла, што сапраўдны ваўкалак прыйшоў.

Яна яшчэ жартавала! Вінцэсь з усяе сілы сціснуў кулакі, каб спыніць дрыжыкі. Цяпер засталося адно — сцішыцца… Выцерпець ганебнае становішча віжа. Ці — пабегчы прэч, ломячы кустоўе? Абвесціць пра сваю прысутнасць? Горш за смерць… Думкі юнака блыталіся ад адчаю і безнадзейнасці.

— Вазьміце мяне з сабой, Раланд,— цяпер голас дзяўчыны трымцеў хваляваннем.— Мы маглі б сустрэцца ў Кракаве. Мяне туды пусцяць — да цёткі, у яе якраз імяніны. Мне ўсё роўна, што будуць пляткарыць. І я ніколі не буду перашкодай вашай справе.

— Вальжына, што вы кажаце? — разгублена азваўся мужчына.— Я не разумею вашае легкадумнасці.

— Вы што, сляпы? — Яна нават узвысіла голас.— Я кахаю вас і хачу быць з вамі! Толькі не кажыце, што вы гэтага не ведалі!

— Вальжына…— у голасе гучала сапраўдная пакута.— Я ведаю вас лепей, чым вы самі. Вы — рамантычная дзяўчынка. Вам патрэбны герой. Вы ж нават мянушку мне прыдумалі — Раланд… Рыцар… Паверце, вы кахаеце не мяне, а той вобраз, які стварыўся ў вашай разумнай, але мройлівай галоўцы. Гэта не сапраўднае пачуццё. Калі-небудзь вы абавязкова сустрэнеце прыгожага юнака, які зробіць вас шчаслівай. А я — старая пачвара. Вы толькі нарадзіліся, калі я канаў у каменных лёхах. Успомніце — на Каляды гадоў дзесяць таму, калі я прынёс вам жывую вавёрку, вы, убачыўшы мяне першы раз, закрычалі ад страху. І бацька, каб супакоіць, нават нешта прыдумаў вам пра мяне — быццам я зачараваны прынц у звярыным аблічччы.

— Я была зусім маленькая…

— Прабачце, але сляпы не я — вы.

Чаму гэты голас такі знаёмы? Вінцэсь трохі пасунуўся, каб лепш разгледзець мужчыну… А той якраз адвярнуўся ад акна, дзе была смуглявая спакуса, і закінуў твар да поўні — нібыта жадаў правыць тужлівую ваўчыную песню… Жахлівае аблічча… Вінцэсь ужо бачыў яго — учора ноччу, і таксама ў святле поўні. Глыбокі шнар, доўгія цёмныя валасы…

Не ў змозе трываць, Вінцэсь апусціўся на зямлю і схаваў твар у траве… Ён больш не хацеў ні бачыць, ні чуць… Але шэпт з акна ўсё роўна працінаў слых:

— Я кахаю вас… Я ўжо доўгія тры гады кахаю вас. Вашы пакутлівыя гады, вашы раны, вашы цудоўныя вочы, вашы дужыя рукі… Усё, усё, што ваша,— міла мне, люба. Я ніколі не буду ні з кім іншым, чуеце? І скажыце, што вы не кахаеце мяне! Паспрабуйце зманіць — перад вачыма анёлаў, якія зараз глядзяць на нас!

— Не магу зманіць… Кахаю вас… Не буду з вамі…

Калі акно зачынілася і постаць Ваўкалака знікла ў начы, Вінцэсь паспрабаваў устаць… Руку чамусьці апякло болем — хлопец зразумеў, што раструшчыў шкляную жабку. Што ж, вазачка — не самае важнае з таго, што разбілася гэтай ноччу.

Поўня шчодра сеяла святло на сцежку, і Вінцэсь прыпомніў яшчэ адну яе назву — ведзьміна сонца. У адчаі людзі звяртаюцца і да ведзьміных сродкаў. Калі пакласці язык жабы на сэрца жанчыне, якая спіць, тая праўдзіва адкажа на ўсе пытанні.

Цяпер ён не мае патрэбы ў дапамозе жабкі.

Застаецца толькі адно — як казаў бацька, чакаць. Можа быць, яшчэ ўдасца памерці за каханне або за радзіму.

І бацька дазволіць яму мець уласную стрэльбу.

Урэшце, Вінцэсю ўжо шаснаццаць.

**5**

Хто даўмеўся пакласці ў труну цюльпаны? Кветкі абуральна жывыя, пяшчотныя і яркія, быццам дзіцячы малюнак. Здавалася, Артур зараз устане, адчуўшы дотык халодных сцяблінаў да сваіх рук. Ён жа быў такі нервовы, чуйны…

«Быў…» Гаварыць пра яго ў мінулым часе — яшчэ трэба прывыкнуць. Паліна адвяла позірк. Бабулька ў чорнай хустцы сядзела на табурэтцы ля труны і чытала малітоўнік. Словы малітвы, здавалася, не ўзляталі, а апускаліся, як сухія пялёсткі, на падлогу, туды, дзе ўкленчыла Аксана. Былая жонка — яна заставалася адзіным блізкім Артуру чалавекам. І адзіным, хто мог сказаць, што па-сапраўднаму любіў памерлага. Паліна не вытрымала, падышла да сяброўкі, сілком прымусіла ўстаць, завяла на кухню — яшчэ шлях да могілак, а ў беднай і макавінкі ў роце не было, відаць, ад учарашняга дня. І не спала, мусіць, ад таго часу, як патэлефанавалі з міліцыі. Колькі іх, неапазнаных трупаў алкаголікаў ды наркотаў, знойдзеных на вулічных лаўках, у пад’ездах, у гарадскіх парках, знікае ў безыменных магілах. Гэтаму — пашанцавала. Над ім плачуць, не ўспамінаючы пра благое, і, вядома, вінавацяць сябе… Не дагледзелі, не ўбераглі, не дапільнавалі…

— Кінь, Аксана! — Паліна сама ледзь стрымлівала слёзы.— Ну чым ты магла ўжо дапамагчы? Ты ж і так зрабіла ўсё магчымае і немагчымае. Алкагалізм — хвароба невылечная, і калі Артур сам не хацеў цягнуць сябе за валасы з дрыгвы…

— Ён быў такі таленавіты! Такі высакародны! Такі самотны! — плакала Аксана, выціраючы рогам чорнай карункавай хусткі слёзы. Разумніца, шыкоўная брунетка, кахала, дзіця нарадзіла… Чаго Арціку не хапала, каб пераадолець стан няшчаснасці?

— Ён жа прыходзіў да мяне перад… перад смерцю,— спавядалася Аксана.— Грошай прасіў… Казаў — не на пітво, а заказаць ксеракопіі нейкіх дакументаў. Казаў, расследаваннем цікавым займаецца. Нават папку прынёс… Папрасіў прыхаваць. І Вадзіку цацачную машынку прынёс… А я…

Словы патанулі ў слязах. Паліна заспяшалася накапаць валяр’янкі ў кубак, але Аксана нецярпліва адпіла проста з бутэлечкі. І зноў залілася слязьмі, тлумачачы, што зараз успомніла,— гэтак жа апошнія месяцы рабіў Артур.

— Два тыдні ў моргу праляжаў… Падабралі на сметніцы. Уяўляеш — на сметніцы! Такі розум, такі талент... Нават кніжкі не выдаў. Слухай, я хоць ягоную папку табе перадам, можа, надрукуеш што…

— Аўтобус прыйшоў,— на кухню зазірнула Аксаніна маці. Вусны яе былі строга падціснутыя — Антаніна Васільеўна не збіралася маніць, праліваць слёзы перад гледачамі. Вядома, зробяць усё, як належыць, вядома, шкада чалавека, але колькі напакуталіся ад яго... Хай Бог яму даруе.

Могілкі, звычайныя, гарадскія, з шэрымі бетоннымі помнікамі, падобнымі на недабудаваныя трансфарматарныя будкі, з таненькімі кволымі дрэўцамі; аблічча святара — засяроджанае і прасветленае, як і належыць на вялікай урачыстасці — адданні душы небу; яркае веснавое сонца — душа не зблудзіць; парасткі травы ў чорнай урадлівай зямлі — быццам вітаюць новага пасяленца...

Паліна не запомніла ні прачулых прамоў, ні памінак, што былі зладжаныя ў апусцелай Артуравай кватэры… Запала толькі ў памяць: на выцвілых шпалерах — яркія прастакутнікі, там, дзе віселі карціны. Быццам магільныя пліты. Вунь там быў партрэт Барбары Радзівіл, там — Уладзіміра Дубоўкі… А там, здаецца, самога Артура — ён сябраваў з многімі мастакамі. На пахаванне прыйшлі двое.

Паліна прымусіла сябе выпіць некалькі кілішкаў гарэлкі. Таму толькі пад вечар наступнага дня ўспомніла пра сінюю папку, аддадзеную Аксанай.

Артур усё-ткі заставаўся да апошняга навукоўцам. Толькі крыху дрыготкі почырк паказваў, што пісаў чалавек… ну, скажам, стамлёны жыццём. Запісы былі акуратныя, абведзеныя каляровымі алоўкамі, са

спасылкамі на крыніцы… Нават з малюнкамі. Але які сэнс гэтых запісаў? Паліна гублялася ў здагадках. Вочы слізгалі па зацемках, спрэс пакрэсленых.

«Lupus metallorum. Воўк металаў. Паглядзець у «Rosarium philosofum». Або Апалон Лікіас? Воўк як сімвал ранішняга сонца, бо можа бачыць ноччу. Звер бога вайны Марса. Параўнаць выявы».

Рашучая рыса чырвоным атрамантам — і надпіс: «Усё-ткі воўк металаў. Сімволіка працэсу ачышчэння золата з дапамогай антымону: воўк глытае льва, каб яго вызваліць. Антымон — шэры воўк. Што такое антымон?!!» І выпіска на бачыне: «Познелацінскае antimonium — сурма».

Што да чаго? Артур захапіўся міфалогіяй? Гісторыяй алхіміі? Далей — яшчэ больш незразумелае. «Паўночны спяваючы лебедзь — cugnus musicus. Ва ўмовах экстрэмальнага паніжэння тэмпературы цела (г. зн. калі замярзае) — крычыць незвычайным голасам: моцны высокі гук і больш слабы глыбокі трубны. Адсюль — лебядзіная песня. Запавет?» Яшчэ адна загадкавая зацемка: «Чаму ў руках у смерці — крыж?»

Адгарнуўшы наступную старонку, Паліна ледзь не ўскрыкнула ад узрушэння: алоўкам была схематычна, але цалкам пазнавальна намаляваная… яе жабка. А калі Паліна прачытала напісанае пад малюнкам, узрушылася яшчэ больш: «У народных паданнях «грэшная рапуха» — увасабленне выратаваных «бедных душаў». Калі чалавек не выканаў пры жыцці тое, у чым пакляўся, ён мусіў пасля смерці ў аблічча рапухі выканаць абяцанае».

Тыя самыя словы, якія сказаў ёй на развітанне скульптар з Вільні!

Паліна, не чытаючы, прагартала астатнія лісткі ў папцы — таямніца вызірала з кожнай літары, вілася белай сцяжынкай між словаў, уплятаючы яе ў сіло непераадольнай цікаўнасці. На апошнім лісце не мелася тэксту. Там быў малюнак скульптурнай групы — старанна перамаляваны чорнай гелевай ручкай. Фігуры размяшчаліся на прастакутным узвышэнні. У цэнтры, над усімі — захутаны ў манаскую расу шкілет, кашчавы палец ягонай правай рукі паказвае на заціснуты ў левай крыж. У нагах у смерці воўк з ашчэранай пашчай навіс над параненым ільвом, які бяссіла прыпаў долу, прыўзняўшы галаву ў акуратных кудзерах, каб сустрэць сваю пагібель годна, вочы ў вочы. Далей можна было разабраць у спляценні фігур лебедзя, што рваўся ў апошні палёт. А вось жабкі сядзелі па баках пастамента… Як зразумела Паліна, жабак (або рапух — не хацелася іх называць гэтым словам) было чатыры, па адной у кожным куце.

Паліна ўжо здагадалася, што разглядае малюнак надмагілля Вінцэся Рашчынскага. Цікава, адкуль Артур перамалёўваў? Надмагілле ж пачало руйнавацца неўзабаве пасля збудавання.

Адказ знайшоўся на самім лістку: «Нац. архіў, фонд Станіслава Ксаверыя Людвісара, дак. 131». Вядомае прозвішча! Магнаты, старажытны беларускі род. Мелі шыкоўны палац не так далёка ад Гарнушак. Якая

сувязь у Станіслава Людвісара з Рашчынскім? Чакай, ці не згадвалася гэтае імя сярод паўстанцаў? Магчыма… Трэба будзе ўдакладніць.

Але ж дзіўнае месца супакаення. Для чаго тут згрувашчана столькі фігур? Злавесная скульптура смерці — зразумела, а чаму — воўк, леў, лебедзь, жабкі? Дзіва што Артур зацікавіўся. Наўрад ці столькі старання і грошай было ўкладзена, каб увасобіць капрыз хворага ўяўлення: з мастацкага погляду ўвесь гэты каменны карагод быў безгустоўны, бязладны. Аднак у размяшчэнні выяў, у іх саміх адчувалася прадуманасць…

Паліна зноў узялася за паперы, на гэты раз узважваючы кожнае слова. Артур відавочна лічыў, што ў фігурах надмагілля было схавана нейкае пасланне — «лебядзіная песня». Менавіта гэтым ён тлумачыў, што надмагілле бязлітасна руйнавалі. З фігурай лебедзя і смерці больш-менш зразумела — сімвал пасмяротнага запавету, а як наконт ваўка і льва? Паліна яшчэ раз перачытала: «Сімволіка... ачышчэння золата… воўк глытае льва, каб яго вызваліць…»

Акрамя скульптур, надмагілле прыкрашалі і надпісы. На самім пастаменце кароткі надпіс-пытанне: «Qvis amas Amo». Прыблізна «Каго любіш, люблю». Або «Люблю, каго любіш ты». Дзіўнае сцвярджэнне падабенства густаў на магіле!

Дзяўчына ўзяла з падваконня каменную жабку, пакруціла, перавярнула... Знізу ў скульптурцы круглая адтуліна — відаць, фігурка насаджвалася на адмысловае мацаванне. Зняў — і ўсё.

І там жа, знізу, на жабцы змяіліся ледзь заўважныя літары: «ТЕ». Можа, подпіс скульптара?

Паліна яшчэ раз абгледзела жабку, водзячы пальцамі па халоднай спіне ў пухірках і выёмінках,— гэтак жа лашчылі гэты камень пальцы скульптара з дзевятнаццатага стагоддзя. Работа тонкая, старанная. На спінцы ўзор падзелены акуратнай лініяй, значкі нагадваюць руны... Дзіўны арнамент! І тут у калідоры нешта зашаргатала...

О не, толькі не гэта! Вешалка для адзення, толькі ўчора чарговы раз прымацаваная Палінай, зноў збіралася абрынуцца на падлогу. Глухі ўдар пацвердзіў, што зламысны намер здзейсніўся.

А Паліна яшчэ радавалася, калі набыла гэтую стылізаваную пад карчажыну рагульку! Абы не так, як ва ўсіх.

Добра, што маці на працы, а то зноў пачала б наракаць, што ў доме няма мужчыны.

Паліна кінулася прыладжваць вешалку на месца. Яшчэ можна паспець да прыходу маці — ранішні спектакль у ейным тэатры закончыцца ў два, пакуль пryме касцюмы (Марыя Апанасаўна працавала касцюмеркай), яшчэ гадзіна...

Тэлефонны званок заспеў дзяўчыну, калі яна спрабавала начапіць непаслухмяную рагульку на толькі што замацаваны шруб. Нічога, каму

трэба —ператэлефануюць. Аднак тэлефон званіў і званіў. Так што першай не вытрымала Паліна.

— Алё… Я слухаю…

Аксанчын голас гучаў так незвычайна, што Паліна імгненна забылася на вешалку, якая зноў уляглася на падлогу.

— Артурава сіняя папка ў цябе? Ты яе чытала?

— Так, вось толькі што гэтым займалася. Вельмі цікава, дарэчы…

Аксана ледзь не зрывалася на крык:

— Неадкладна вярні! Запакуй яе ў канверт… У цябе ж ёсць вялікі канверт, так?

— Ну… А чаму?..

— Не перабівай! — Аксана сапраўды крычала, як у істэрыцы.— Запакуй… Адрас не пішы… Ведаеш, дзе мая пошта? На рагу Камуністычнай і Кісялёва. Скрыня нумар сорак пяць. Укінь папку ў скрыню — і ідзі. І помні: ты яе не чытала, не бачыла. І ўвогуле нічога пра яе не чула. Ні ў якім разе не здымай копіі! Забараняю! Сорак пятая скрыня! Не пераблытаеш? Ідзі зараз жа!

Паліна слухала сяброўку і халадзела: як лёгка страціць розум! Дапераживалася, небарака… На ўсе спробы супакоіць — крык:

— Так трэба! Не пярэч! Пакляніся памяццю Артура, што зробіш, як кажу! Кляніся. Ну! Калі яшчэ і ты будзеш на маім сумленні…

Што заставалася рабіць? Аксана не ў тым стане, каб з ёю спрачацца. Урэшце, і папка належыць ёй. Паліна апранулася так хутка, як магла,— нервовасць сяброўкі перадалася. Узялася за папку… І задумалася. Копіі не здымай! Што за глупства? Але не — ва ўсім Аксанчыным маналогу тут чуўся адзіны пробліск логікі. Сяброўка не хоча, каб Паліна працягвала даследаванне Артура. Чаму? Аксана ніколі не лезла ў навуковыя справы. Павыкладаўшы гісторыю ў школе, «наеўшыся» настаўніцкага жыцця, скончыла курсы візажыстаў і цяпер някепска пачуваецца ў прыватным салоне прыгажосці. Што ёй Гекуба, дакладней, Вінцэсь Рашчынскі?

Урэшце, хто ведае дакладна, што ляжала ў папцы? Прачытанае засталося ў памяці, пасля занатуе, а вось малюнак надмагілля… Паліна, павагаўшыся, выцягнула з сіняй папкі аркушык і схавала ў шуфляду свайго пісьмовага стала. Нічога, прызнаецца ў злачынстве, як толькі Аксана прыйдзе да розуму.

Ліў веснавы дождж, па-восеньску няўтульны і халодны. Паліна вярталася дадому з прыкрым адчуваннем пераможанай. А ў калідоры ляжыць непрыбітая вешалка… І маці, напэўна, ужо дома…

Паліна зірнула на сваё акно — так, свеціцца. Стаяць бы вось так пад дажджом і ветрам і глядзець на асветленае акно… І ўяўляць, што табе няма куды ісці… Прыемная гульня, калі ведаеш, што цябе чакаюць у вітальні пухнатыя чырвоныя пантофлі.

— Слухай, тут да цябе нейкі тып прыходзіў,— голас маці гучаў няўхвальна, што азначала — госць выглядаў зусім несамавіта і на ролю мужчыны ў доме ніяк не мог прэтэндаваць.

— Які тып? — няўважна перапытала Паліна, страсаючы дождж з капелюша.

— Ну што ты робіш? Зусім здзічэла,— уздыхнула Марыя Апанасаўна.— Чаму без парасона пайшла? Зараз гарбаты пастаўлю… А тып быў таксама без парасона. Мокры, як пацук, барадаты, патлы доўгія, сам даўжэзны — бітнік нейкі, відаць. Казаў, пазней яшчэ заявіцца.

— Мама, бітнікаў даўно няма,— стомлена заўважыла Паліна, пераабуваючыся ў чырвоныя пантофлі.— Рокеры ёсць. Панкі... Рэперы… Гэтыя… скінхэды. Толькі скінхэды не валасатыя, а лысыя.

— А як бы яны ні называліся, лысыя ці валасатыя — сутнасць адна. Збіцца ў зграю, адваяваць жыццёвую прастору, пазначыць месца вакол сябе — шалупіннем ад семачак, проста пляўкамі, лаянкай, гучнай музыкай, крамзолямі на сценах… Што хлапцы, што маладыя малпы, што пеўнікі… Адны курлыкаюць, другія ў грудзі сябе б'юць валасатымі кулакамі, трэція гітары аб калена ломяць…

Маці працягвала гаварыць ужо на кухні. У дзверы пазванілі. І Паліна — дзверы наросхрыст…

У прыцемку лесвічнай пляцоўкі — зноў лямпачку нехта выкруціў! — стаяў высокі прыгорблены мужчына і прыціскаў да грудзей нейкі скрутак… З доўгіх валасоў сцякала вада...

На імгненне Паліна паверыла — Артур з каменнай жабкай... Не можа быць… Блёкат… Што яму трэба?

— Я, мусіць, не ў час? — вінаваты голас не належаў прывіду. Паліна змусіла сябе зірнуць на госця... Віленскі скульптар! Ну так, яна ж пакідала яму візітоўку…

Ад дурнога спалоху Паліна раптам пачала ўсхліпваць. І зноў — на вачах у гэтага няўклюды! Што ён пра яе падумае? Істэрычка!

— Прабачце… Не звяртайце ўвагі…

Госць пачаў нешта суцяшальнае мармытаць і працягваў ёй свой скрутак, як калісьці Артур. І Паліна ведала, што ў скрутку, пад чорнай цыратай, і зноў не ўтрымала дрыготкімі рукамі цяжкага каменя…

**6**

У дарозе ўсе робяцца філосафамі.

Што, несумненна, трохі крыўдна для філосафаў сапраўдных, якія маюць у кішэні сурдута пасведчанне аб выдатнай датэрміновай здачы іспытаў на званне кандыдата па кафедры філасофіі Санкт-Пецярбургскага універсітэта.

Вінцэсь паблажліва зірнуў на пана Вакулу Рагманава, які, адкінуўшыся на мяккае сядзенне экіпажа, працягваў натхнёна разважаць пра жывёльны магнетызм на прыкладах з местачковага жыцця і варушыў чорнымі задзірыстымі вусамі, не раўнуючы як хрушч...

Такі, як гэты, што з мяккім зумканнем даверліва сеў на Вінцэсеў рукаў, нібыта ведаў — гэты чалавек ужо не будзе, як калісьці, лавіць, навязваць на нітку, каб потым пускаць лётаць пакутлівым кругам. Вінцэсь — даўно не дзіця і не падлетак.

Шкада, што бацька не прыехаў на станцыю сам. Пан Вакула кажа — трохі прыхварэў… Вінцэсю цяжка было ўявіць бацьку хворым, нямоглым. Але за пяць гадоў невядома што магло тут змяніцца…

Пяць гадоў не быць на радзіме! Бацька слаў грошы, лісты, пасылкі. Вінцэсь увесь час адчуваў ягоную апеку — і тады, калі жыў у Вільні, у дзядзькі Андрэя Каліноўскага, дырэктара Шляхецкага інстытута. І ў Санкт-Пецярбурзе, пасля паступлення ва універсітэт, дзе прытулак даў бацькаў сябра Пятро Шчамлінскі, выкладчык Інжынернай акадэміі.

Але дадому пан Антось сына не клікаў. Хлопец здагадваўся, чаму бацька пад рознымі падставамі адцягваў ягонае вяртанне. Аберагаў… Баяўся, каб Вінцэсь не пацярпеў ад сваіх небяспечных знаёмстваў. Каб сам не ўвязаўся ў якую авантуру. Горкая крыўда варухнулася ў душы. Якое права мае бацька трымаць яго дасюль у дзіцячым пакоі!

Ну нічога. Вінцэсь вяртаецца дадому мужчынам, самастойным, дарослым чалавекам.

Колькі разоў за гэтыя гады юнак уяўляў спатканне з бацькам! І падрыхтаваўся як след. Чорны капялюш з шырокімі брыламі, дастаткова абвіслымі, плед у чырвона-чорныя шашачкі, таксама, як належыць, патрапаны.

А ў кішэні нават набытая перад ад'ездам люлька: чорная, бліскучая. Вінцэсю так і хацелася заціснуць яе ў зубах… Але неяк было ўсё-ткі няёмка. І, папраўдзе, страшнавата, што заперхаецца, выявіць, што яшчэ не навучыўся курыць як след.

Такія капелюшы і пледы, як у Вінцэся, насілі бяднейшыя студэнты. Вінцэсь мог дазволіць сабе і форменны мундзір. Але форму, якая нібыта лічылася абавязковай, апраналі на заняткі толькі «белападшэўнікі», сынкі з багатых сем'яў, заклапочаныя будучай кар'ерай і цяперашнім станам сваіх пазногцяў. Вінцэсь ад усяе душы такімі пагарджаў. І нават спецыяльнасць абраў сабе такую, што выклікала падазрэнні,— філасофію. У Маскоўскім універсітэце дык увогуле кафедру філасофіі адкрыць так і не наважыліся, хоць захады рабіліся. І ў Санкт-Пецярбурзе найбольш была ў пашане ў афіцыйнікаў славянафільская «філасофія» Хамяковых, Аксакавых ды іншых. Няхай адукаваная большасць смяялася, а гарадавыя цягнулі ў кутузку «за демонстративное ношение русской одежды». Галоўнае — тры кіты, на якіх стаіць імперыя. Праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць.

Прыгонныя — дзеці, паны — бацькі іхнія. А ў Пісанні ж сказана, хто пашкадуе розгаў для дзіцяці свайго, той не любіць дзіця сваё.

Вось і не шкадавалі.

А для тых, хто хацеў вальнадумстваваць, цытавалі пасланне Паўла аб тым, што філасофія спакушае.

Са спакушэннямі змагаліся.

Прафесар Пецярбургскага універсітэта Аляксандр Галіч, разумнік, эстэт, які Пушкіна ў ліцэі вучыў, яшчэ да паступлення Вінцэся адхілены ад выкладання «за пренебрежение к властям и безбожие». А цяпер на ягоным месцы Гіляроў-Платонаў даводзіў, што філасофія Гегеля супярэчыць здароваму сэнсу.

А студэнты перадавалі адзін аднаму «Лісты аб вывучэнні прыроды» Герцэна, «Фенаменалогію духу» Гегеля і «Тэорыю сусветнага адзінства» Шарля Фур’е. Той, хто хацеў навучыцца,— мог гэта зрабіць. У іх, ліцвінаў, было моцнае зямляцтва — і песня, якую яны спявалі на сваіх сходках, старая блюзнерская песня вандроўных шкаляроў, была на мове іх зямлі.

Пойдзем па свеце, брат мой бяскрыдлы.
Хай беражэ нас Дзева Марыя.
Хай нам даруе, што не малітвы
Нас падтрымалі ў час нешчаслівы.
І за плячыма ў торбе няважкай
Біблія, томік Вальтэра і пляшка.
На Беларусі трактаў багата.
А каля трактаў — карчомкі і хаты.
Ёсць у карчомцы пітво і дзічына,
Ёсцека ў хаце красуня дзяўчына.
Пойдзем па свеце, брат мой вясёлы.
Поўня па небе коціцца колам.
Сонца між хмар, як дзяўчына ў кляштары,
Тварык хавае, бледны ад мараў.
Вецер — наш брат, а падпіхвае ў спіну.
Бог, ты зляпіў нас — чорт плюнуў у гліну.
Вось мы, дурныя і маладыя.
Хай беражэ нас Дзева Марыя.

Няхай царскі ўказ адмяніў студэнцкія суды — паняцце гонару заставалася непарушным. Ніякія інспектарскія прывілеі не маглі змусіць бурлівую студэнцкую грамаду паважаць даносчыка ці пакорліва слухаць ненавіснага прафесара.

Вінцэся таварышы паважалі. Урэшце, цяпер у яго ёсць уласная таямніца — тыя хлопцы, з якімі ён пасябраваў у Санкт-Пецярбурзе, не дадуць, каб іх ператварылі ў зацкаваных звяроў. Сын віленскага дзядзькі, стрыечны брат

Юзаф Каліноўскі, ціхмяны хваравіты юнак, дужа рэлігійны, звёў, аднак, Вінцэся з такімі асобамі, перад якімі ўсе лясныя ваўкалакі — няздары і няўдачнікі.

А вось і Маскалёў лес. І крыж на пагорку, абвязаны рушніком.

Хрушч прыўзняў матава-рудыя надкрыллі, паважна і павольна, быццам дама — шорсткія крыналіны, і зляцеў з Вінцэсевага рукава ў напоенае сонцам паветра.

— У Вільню прыехаў нейкі пан Кашмарэўскі ў суправаджэнні мадам у парыжскіх туалетах, пашытых у Варшаве,— усё гэтак жа аптымістычна ракатаў побач бас пана Рагманава.— Абвясціў сябе вучнем доктара Месмера і майстрам гіпнозу. Цудадзейнае вылячэнне ад усіх хваробаў з дапамогай жывёльнага магнетызму, правадніком якога нібыта з’яўляецца тая мадам. І што ты думаеш — паваліў народ! Арыстакраты духу, адукаваныя, соль няшчаснае гэтае зямлі. Пасядуць вакол стала, возьмуцца за рукі і прымаюць на сябе ваганні сусветнага эфіру. А ў Хорашчах брыда якая… Да пана Высокінскага сябра прыехаў, варшаўскі купец. Недалічыўся пятнаццаці рублёў. Падумалі на маладзенькага садоўніка. Дык небараку тыдзень катавалі. Калі ўжо не было як па спіне біць, хвасталі па жываце і грудзях. А па жывым мясе — крапівой напякалі. Дзве тысячы бізуноў дадуць — і ў хлеў, у гной. Піць прасіў — пан загадаў над вадой трымаць у паветры. Чуткі пайшлі па ўсёй акрузе. Нават земскі спраўнік змушаны быў умяшацца. А грошы пасля знайшліся — купец у іншым доме, аж у Беластоку, п’яны забыўся. Вось так мы і жывем, любенькі. У ваганнях сусветнага эфіру.

Нешта ў голасе дзядзькі Вакулы змусіла Вінцэся пільней угледзецца ў знаёмы з маленства твар. Сустрэў пагляд чорных вачэй, звычайна вясёлых, з гарэзнымі чарцянятамі, а ў гэтае імгненне глыбокіх і халодных, як дзве студні, і здрыгануўся... Як мала ён ведае людзей!

Дарога збочыла ў невялікі гай — апошні бастыён лесу перад палямі, адваяванымі чалавекам у векавой бязлітаснай барацьбе. Сонца прасявалася скрозь зялёныя шаты вясёлым дажджом — хоць перасыпай промнікі з далані ў даланю, здаецца, зазвіняць, як манеты. Вунь капліца, дзе пахаваны прадзед-чарнакніжнік, праглядвае між ствалоў маладзенькіх соснаў… Вунь — дарога на Весніцы…

І гэтакі недарэчны боль, які Вінцэсь лічыў пераадоленым, зноў раскроіў сэрца. Бо чорныя вочы дзядзькі Вакулы нагадалі яму іншыя, падобныя — гэткія ж яркія і звычайна гарэзныя. Бровы над тымі вачыма выгіналіся тонкімі лукамі, ліўся чорны шоўк валасоў, сабраных у непаслухмяны вузел… «А што сёння ўпаляваў нам пан Вінцэсь? Няўжо цмока ў залатой кароне?» — нібыта прагучаў наяве звонкі голас.

Не, гэта немагчыма. Вінцэсь жа ўсё для сябе вырашыў. У кожнага ёсць дзіцячае каханне — першае, няспраўджанае, недатыкальнае. Як пасмачку

валасоў, састрыжаных у аднагадовага дзіцяці, яго належыць захоўваць у самай дальняй шуфлядзе памяці.

І раптам — такая туга і нясцерпнае жаданне ўбачыць… Вінцэсь ведаў, што Вальжына так і не выйшла замуж. І ведаў чаму.

Не, ён не пойдзе да яе.

А можа, наадварот — варта зірнуць цяперашнімі вачыма на колішняга куміра. Пабачыць засцянковую паненку, не надта юную — дваццаць пяць гадоў, на погляд Вінцэся, узрост самавіты. І, напэўна ж, яна ніколі не чытала Герцэна і не бачыла на сцэне імператарскага тэатра Прова Садоўскага.

Як несправядліва — памяць пра тое, чаго не было, што прымроілася, жадалася, куды больш яскравая, чымсьці пра рэальныя падзеі.

Вазок перастаў падскокваць на каранях соснаў, светлыя абрусы палеткаў слаліся пад ногі траўня, а паабапал скурчыліся ў пакорлівым паклоне хацінкі — век ім не выпрастацца, толькі ў зямлю ўрастаць, хаваючыся ад панскіх паглядаў.

Гарнушкі… Ласкавая назва — нібыта ад слова прыгарнуць, абараніць, захінуць…

І так захацелася гэтай абароненасці, утульнасці — як у дзяцінстве…

Вядома, перш чым зайсці ў кабінет, можна было і зняць капялюш. Але Вінцэсь паддаўся юначаму жаданню паказацца ва ўсёй студэнцкай красе.

Сустрэўшыся позіркам са знаёмымі вачыма колеру сталі, убачыўшы знаёмую ласкавую ўсмешку, зразумеў: не было патрэбы ў красаванні. Не мела сэнсу і крыўдаваць.

— Сын… Прыехаў…

Бацька і сын абняліся. І толькі тады Вінцэсь з жахам усвядоміў, як цяжка ўзняўся бацька з фатэля, якое выснажанае ў яго аблічча і ўвесь ён нібыта высах,— якія вятры дзьмулі на гэтым скрыжаванні, каб высушыць дужае цела бацькі?

Усё гэтак жа на кіліме вісела зброя, паглядалі з партрэтаў паважныя продкі, на карціне «Суд Мінервы» курчыўся на прыступках мармуровай лесвіцы злачынца. Нічога не змянілася. І розум пана Рашчынскага заставаўся ясным і па-ранейшаму іранічным.

— Чытаў Гогаля, пра казакаў? Так і хочацца сказаць услед за Тарасам Бульбай: «А поворотиська, сын!» Не, не, можаш заставацца ў капелюшы. Я заўсёды быў прыхільнікам тых мысляроў, што аддавалі перавагу зместу перад формаю. Ну, чаму ж цябе навучылі ў тым універсітэце, дванаццацідахавым, доўгакалідорным ды двухпавярховым, пад рукою Пятра-рэфарматара збудаваным?

Бацька зноў апусціўся ў крэсла, шчыльней захінуўся ў барвовы аксаміт шлафрока, нібыта яму было холадна, і нечакана перайшоў на нямецкую мову: ну, хацеў пахваліцца ведамі — давай!

Ды як ні стараўся кандыдат філасофіі бліснуць — пераконваўся: суразмоўца ведае не менш. А спрэчка пра гегелеўскі «дух эпохі» ўвогуле здзівіла Вінцэся. А ён лічыў, што спазнаў так многа…

— Але хопіць з нас філасофіі на сняданак,— нечакана рассмяяўся пан Антось, нагадаўшы ранейшага вясёлага *papa*.— Вернемся да нашых зямных спраў. І найперш — хадзем у сталоўню.

І Вінцэсь зноў жахнуўся: бацька ўстаў з цяжкасцю, нават твар у яго пакрыўся дробнымі кропелькамі поту. Хлопец падхапіў яго пад руку.

— Што з табой, тата? Ты доктару паказваўся?

Пан Антось, аднак, толькі ўсміхнуўся збялелымі вуснамі.

— Пра маё здароўе мы яшчэ пагаворым. Не самая цікавая тэма.

Адхінуў сынаву руку і рушыў сам — павольна, але роўнай хадой.

А на стале красаваўся крышталёвы сервіз — чаркі, упрыгожаныя срэбнымі птушкамі, графін з коркам у выглядзе вінаграднай гронкі…

Вінцэсь неўразумела зірнуў на бацьку і сустрэўся з пільным поглядам шэрых вачэй. І зразумеў — гэта недарэмна. Сервіз, які калісьці выменялі за сям’ю гарнушкаўскіх сялянаў, ніколі на Вінцэсевай памяці не пакідаў буфета.

Калі яны выпілі па чарцы мадэры — першы раз Вінцэсь піў з бацькам на роўных, як дарослы,— пан Рашчынскі адклаў сурвэтку, памаўчаў, падаючы знак, што скажа нешта важнае.

— Я прапанаваў нашым сялянам волю. Кожная сям’я мае права на дзве трэці зямлі, якую абрабляе. І яшчэ трэць — выкуп. Вядома, зусім невялікі. І ў крэдыт. Я не магу аддаць ім адразу ўсё — ведаючы норавы нашага павета, баюся вялікага шуму. Ты не застанешся ні з чым — будзе ладны кавалак добрай зямлі, якую можна аддаваць у арэнду, паплавы, маёнтак, цукраварня, лес… Ты можаш абскардзіць маё рашэнне як спадчыннік.

— Тата…— Вінцэсь нават пачырванеў ад узрушэння.— Як ты мог так думаць! Абскардзіць! Я рады!

— Ну вось… — усміхнуўся пан Антось,— недарэмна наведваў чытанні ў літаратурным гуртку.

Вінцэся зноў кінула ў чырвань. Іх сходкі, на якіх абмяркоўвалася будучае паўстанне, праходзілі «пад шыльдай» літаратурнага гуртка. Няўжо бацька ведае і пра гэта? Усміхаецца сабе ў вусы. Вочы колеру сталі глядзяць і выпрабавальна, і неяк сумна, са шкадобай.

Ведае…

— І яшчэ адно, сын. Нельга даць волю чалавеку, прабач за каламбур, насуперак яго волі. Як ты ставішся да гегелеўскага прынцыпу «дзвюх натуральных істотаў» — пана і раба, якія ўрэшце мусяць прызнаць адзін аднаго раўнапраўнымі?

— Я лічу гэта справядлівым.

— Але ці заўважыў ты, што прызнанне павінна сыходзіць не толькі з боку пана? Раб мусіць прызнаць пана роўным сабе! І калі ты думаеш, што

нас успрымаюць толькі як вышэйшых істотаў, ты моцна памыляешся, сыне…

Пан Антось паднёс да перасохлых вуснаў крышталёвую чарку з вадою, адпіў. Вінцэсь зноў заўважыў на бацькавым ілбе дробныя кропелькі. Ён сапраўды моцна хворы… Неадкладна трэба наладзіць лячэнне, якім бацька, відаць, пагарджае. Але пан Антось працягваў далей — нібыта хацеў паспець выказацца:

— Я не ведаю, што выйдзе з маёй задумы. Магчыма, будзе яшчэ больш гора.

— Як гэта можа стацца?—шчыра здзівіўся Вінцэсь.

— Самыя добрыя намеры выяўляюцца жахам або… анекдотам. Ці чуў ты — у 1767 годзе далёкі сваяк тваёй маці Павел Ксаверы Бжастоўскі абвесціў у сваім маёнтку Мерач, што на Ашмяншчыне, рэспубліку.

— Ніколі не чуў…

— Вось бачыш. А шляхта як была перапужалася! Паўлаўская сялянская рэспубліка, на чале з панам-прэзідэнтам, са сваёй канстытуцыяй, з роўнасцю ўсіх грамадзянаў. Двухпалатны сойм абралі — уяўляеш, у вёсцы! Міністэрствы былі. Рэферэндумы праводзіліся па важных пытаннях.

— Несур’ёзна неяк гучыць. Нагадвае «марскія баталіі» радзівілаўскага «флоту» на выкапаных у Нясвіжы каналах,— не вытрымаў Вінцэсь.

— Усё на свеце — гульня. А ў Паўлаўскай рэспубліцы зладзілі школу для сялянскіх дзяцей, бальніцу. Нават банк. Вядома, нельга самавітай дзяржаве і без сімвалаў — сцяг меўся, герб, нават манеты чаканіліся. І войска межы ахоўвала. Бацька тваёй маці расказваў — вояў апраналі ў белыя жупаны са свойскага сукна і чорныя аўчынныя папахі з чырвоным верхам.

— І што цяпер засталося ад гэтай… казкі?

— А нічога. Усё расцягнулі спадчыннікі, і нават магіла прэзідэнта Паўлаўскай рэспублікі занядбаная. На ўдзячнасць разлічваць нам нельга, сыне. Што б ні прыйшло ад нас, нават калі аддаць апошняе, само жыццё — усё наша для мужыкоў падман, абкраданне, гвалт… Цару вераць. Ён — далёка. Ён — з казкі. А той указ, што рыхтуецца ў Пецярбурзе, якога так нашы сяляне чакаюць… Залатымі літарамі на срэбнай паперы… Гэта ж ганьба. Імперыя... Трэці Рым… Земляў нахапалі пад сваю руку. А краінай кіруе вузкае кола «кальяншчыкаў» — палацавых лізунцоў, што дамагліся вялікай прывілеі — прысутнічаць пры тым, як гасудар спраўляе вялікую патрэбу. У яго з гэтым, разумееш, здаўна праблемы, а дапамагае курэнне кальяна. І пакуль памазанік курыць свой кальян і патроху с…, за шырмачкай дзяжураць асабліва давераныя і забаўляюць уладара, як могуць. І, вядома, уводзяць у вушы тое, што ім трэба. Вось у якіх эфірах нараджаецца воля для народа, сыне. І можна ўявіць, якой яна будзе. Воля — без зямлі, з паншчынай, з вар’яцкімі выкупамі… А гэты сервіз… Я хачу,

каб ты заўсёды захоўваў яго. І калі табе раптам падасца, што ты зрабіў для свайго народа ўсё, што мог,— пастаў яго на свой стол.

Потым, у кабінеце, бацька адкінуўся ў мяккім фатэлі, заплюшчыўшы вочы і ніяк не рэагуючы на роспыты Вінцэся і ўгаворы паклікаць хоць доктара Краўцова, старога іх знаёмца.

Нарэшце пан Антось загаварыў, ціха і стамлёна:

— Думаў прамаўчаць. Але я і так зашмат аберагаў цябе ад праўды. Веру, што цяпер ты здольны прыняць усё. Усю праўду… і ўсякую. І табе давядзецца гэта зрабіць, сыне…

Пан Антось павольна адхінуў крысо шлафрока, падняў кашулю — і Вінцэсь жахнуўся: на левы бок была накладзеная павязка, на якой праступала чырвоная пляма, іржавая па краях.

— Ты... паранены?!!

— Гэта здарылася ўжо год таму.— Пан Антось захінуў шлафрок, няспешна завязаў шырокі пас з залатымі кутасамі.

Вінцэся трэсла ад трывогі і шкадобы.

— Чаму ты не паведаміў мне? Хто гэта зрабіў? Як?

— Супакойся,— у голасе ў бацькі гучала сталь.— Думкі пра ролю мсціўцы Радрыга пакінь адразу. Гэта зрабіў… адзін з нашых сялянаў. Гарнушкавец.

— Як гэта атрымалася?

— Я ехаў конна праз Маскалёў лес, вяртаўся ад Рагманавых. Праязджаў паўз капліцу, дзе магіла дзеда Ганорыя… Раптам з-за яе муроў — страла. Драўляная, з самастрэлу.

— Чаму ты думаеш, што страляў селянін?

— Я бачыў, як ён уцякаў,— пан Антось гаварыў зноў зусім ціха.— Ён някепскі хлопец, добры гаспадар.

— Яго злавілі?

Пан Антось памаўчаў, апусціўшы вочы.

— Разумееш, сынок… Пачаць дазнанне, ловы, падняць шум… Пасля гэтага чаго будуць вартыя мае новаўвядзенні? Хлопец, што ў мяне страляў, выконваў волю тых гарнушкаўцаў, што лічаць, быццам я хачу сваім указам падмяніць царскі. І замест «сапраўднай волі» даць сваю «несапраўдную». І… я дваццаць гадоў таму глядзеў, як ля праклятае сасны каралі ягонага бацьку.

Вінцэсь кіпеў ад роспачы.

— Але ж так нельга пакідаць!

— А чаго ты хочаш? Замах на пана — справа дзяржаўная. Гарнушкаўцы не на востраве жывуць. Сябруюць з іншымі вёскамі, разам на сходкі збіраюцца. Я магу дараваць сваім, колькі мне заўгодна. Але калі даведаюцца ў наваколлі — колькі халопаў ляжа пад бізуны на дазнанні, колькі за змову патрапіць на катаргу! Так не будзе.

— Але доктар…

Пан Антось сумна паківаў галавою.

— Я раіўся з надзейным доктарам. За год звычайная рана зацягнулася б.

Вінцэсь пахаладзеў ад страшнай здагадкі.

— Атрута…

Бацька моўчкі нахіліў галаву. Маўчанне было такім невыносным, што Вінцэсь ледзь не закрычаў:

— Ёсць іншыя дактары! У Вільні, у Гародні! Урэшце, дазволь, я завязу цябе ў Пецярбург. Найлепшыя прафесары…

— Ад нянавісці няма лекаў,— мякка прамовіў пан Рашчынскі.— Ты мусіш змірыцца, сынок. Паабяцай толькі адно — ты не будзеш помсціць за мяне. Урэшце, адно жыццё каштуе другога. І ў тым віры, які я прадчуваю — а я сапраўды ведаю больш, чым ты думаеш,— загіне столькі высакародных і добрых, што маё жыццё нават на макавінку не скране перапоўненыя вагі смерці…

А потым, нібыта яму яшчэ мала было гора, Вінцэсь паехаў у Весніцы, да Рагманавых. Можа, яму хацелася хоць трохі заглушыць свой боль новым узрушэннем.

І Яна аказалася ўсё такой жа прыўкраснай, і ззялі чорныя вочы, і ўзляталі гарэзна і трохі здзіўлёна бровы… І толькі незнаёмая тонкая зморшчынка, яшчэ ледзь заўважная, працягнулася між броваў ды смех стаў усмешкай. І ад гэтага здавалася Вальжына яшчэ больш мілай. І крыўдна было, што ён, Вінцэсь, для яе — ранейшы забаўны хлапчыска. Так, яна шчыра яму ўзрадавалася і ўважліва слухала. Але… Вінцэсь усведамляў, што ў яе не абрываецца ў грудзях, як у яго,— ад нязначнага выпадковага дотыку. Ад сустрэчы позіркаў. Ну і што з таго, што ён распавядае пра самыя найсучасныя і ўражлівыя філасофскія тэорыі, што гэтак рамантычна закідвае на плячо плед у кратку…

А госць яшчэ і выявіўся дурнем — на самым пачатку спытаў, чаго паненка ў жалобе. І атрымаў паблажлівае:

— Усе жанчыны гэтага краю, якія неабыякавыя да лёсу радзімы, носяць жалобу па расстраляных у Кракаве дэманстрантах.

Ну чуў жа ён пра гэта ў Пецярбурзе ад Зыгмунта… І вось — забыўся. І каб не дзядзька Вакула ды Марка — малодшы брат Вальжыны, які за гэты час вырас у гожага чарнавокага юнака, абое жартаўнікі і гаваруны,— хоць ідзі зараз жа і тапіся ў Баламутавым віры.

І толькі на развітанне Вальжына звярнулася да госця сур’ёзна:

— Ведаеце, Вінцэсь, які цуд… Якраз як вы паехалі, пяць гадоў таму, я знайшла ў садзе разбітую вазачку. Мне здаецца, я бачыла неяк такую ж у вашым доме — яна вельмі адметная, наўрад я магла памыліцца. Пачакайце, зараз прынясу…

Сэрца Вінцэся ледзь не выскоквала з грудзей, калі Вальжына працягнула яму на далоні разбітую шкляную жабку.

— Ваша?

Вінцэсь годна вытрымаў дапытлівы позірк. Павольна ўзяў аскалёпкі, пакруціў, разглядаючы.

— Наўрад ці гэта з нашага дому. Але я праверу. Выявіцца, што не наша,— я склею і аддам вам.

Калі Вінцэсь ехаў дадому праз Маскалёў лес, мімаволі падалося — прыцемак сочыць сотнямі нядобрых воч і атрутная страла прымерваецца да сэрца… Ганебныя дрыжыкі прабегліся па целе. Але хлопец прымусіў сябе не прыспешваць крок каня. І нават — хоць гэта было зусім хлапецтва — расхінуў на грудзях цёмны сурдут, каб была відна белая кашуля. Няхай бачаць — ён не баіцца быць мішэнню.

Але толькі пабачыўшы на адхоне сілуэт крыжа і ўдалечыні — агеньчыкі маёнтка, змог вольна ўздыхнуць.

Які ж ён баязлівец!

У Вінцэсевым пакоі ўсё гэтак жа на сцяне вісела копія леанардаўскай «Мадонны з гарнастаем» — калісьці Вінцэсь верыў у глыбіні душы, што гэта аблічча маці. А ў куце па-ранейшаму стаяла чароўнае цукерачнае дрэва — выразанае з залацістай драўніны ліпы, з мноствам маленькіх галінак, на якіх калісьці з'яўляліся — вядома, самі па сабе — цукеркі, пернікі або раптам — маленькая шабля, зусім як сапраўдная, ці вершнік з пагрозным намаляваным тварам. І Вінцэсь адчуў нарэшце — ён дома. Вярнуўся…

Хлопец падышоў да расчыненага акна… На каштане гайдаюцца белыя анёлкі-гронкі. А як буяе бэз! Цэлае мора — і дзесьці ў пене духмяных ружова-блакітных хваляў высноўвае свае срэбныя карункі салавей…

А на падваконніку… Што гэта? З мяшэчка на далонь выпала срэбная куля, нязграбная, самаробная, пазначаная крыжам. І маленькі аркушык з трыма словамі: «пятніца апоўначы крыж».

**7**

Госця, які прыходзіць у дождж, сустракаюць больш ветла.

Нават калі яго ніхто не клікаў і ўвогуле выглядае ён, як апошні паляўнічы на кентаўраў.

Жабка ад падзення ў вітальні амаль не пацярпела — толькі адкалоўся кавалачак лапкі — і цяпер сядзела побач з сястрой-блізнючкай на часопісным століку і радасна ўзіралася ў свой новы дом пукатымі вачыма.

Паліна прыдзірліва аглядала жывёлінак — і гіпсавая, прывезеная віленскім госцем, і каменная былі зусім аднолькавыя. Прыемна і тое, што гіпсавая зроблена куды больш старанна, падрабязна, чым ейная копія, разбітая ў віленскай паліцыі. Падарунак рыхтаваўся адмыслова!

Скульптар — Паліна прыгадала, што завуць яго Валянцін,— сядзеў на зэдліку, прынесеным Палінінай маці з кухні для прамоклага госця (няма чаго фатэлі псаваць). Прыгорбіўся, быццам бусел, паглядае цікаўна вакол.

Вядома, ёсць на што паглядзець: Паліна загрувасціла хату карцінамі невядомых мастакоў, што не ўяўляюць мастацкай каштоўнасці і таму не запатрабаваныя музеямі, «выкапнёвай» керамікай ды, вядома, кнігамі — шафа адмаўлялася змяшчаць іх у сваё перапоўненае чэрава, і кнігі складваліся, да абурэння маці, у стосы ля сцен — нібыта часова, а насамрэч, як яно і бывае ў такіх выпадках, на гады.

А госць сапраўды выглядае несамавіта. Светлыя пасмы валасоў перахопленыя плеценым скураным матузком, як у хіпі. Вусы і кароткая бародка таксама стасуюцца з хіпоўскім іміджам. Швэдар самавязаны, з тоўстых бэжавых нітак — відаць, гандлярка ў скандынаўскай шапачцы звязала, няйначай жонка.

Паліна нахілілася над жабкамі…

— А вось тут вы памыліліся. Узор на спінцы не такі, як у арыгінала.

Валянцін патрос галавой.

— Гэтага не можа быць. Вядома, бабуліна жабка была пашкоджаная, але ўзор на спінцы захаваўся. У мяне з дзяцінства — абсалютная зрокавая памяць.

— Гэта як абсалютны музычны слых? — няўважна перапытала Паліна, пераварочваючы жабак дагары.

На падоранай жабцы, вядома, не было адтуліны для мацавання, але надпіс меўся — прыгожымі гатычнымі літарамі, па коле: «Вільня, 2003, ВНЧ».

— ВНЧ — ваш подпіс? — здагадалася Паліна.— Як расшыфроўваецца?

— Ну…— сумеўся скульптар,— напрыклад, «вам незнаёмы чалавек».

Паліна перасмыкнула плячыма: не хочаш называцца — не трэба, вось дурное какецтва.

— Вядома, на арыгінале быў іншы надпіс,— заспяшаўся патлумачыць Валянцін.— Тры лацінскія літары.

— Вы памятаеце іх? — загарэлася Паліна.

— Памятаю... Я ж іх бачыў. «ALB».

— Дык гэта ж… выдатна! Тут ужо можна рабіць нейкія высновы. Гэта не подпіс аўтара. Магчыма, частка слова альбус — белы або яшчэ нейкага… На маёй напісана «TE». Калі перакласці з латыні — «цябе», «табой»… Чакайце! А жабак было чатыры! Можа, і на астатніх нешта напісана? І мусіць складацца ў нейкую фразу альбо слова? І малюнкі на спінах… Не можа быць, каб яны нічога не значылі. Тут павінна хавацца таямніца!

Пры апошніх словах Паліны Валянцін змяніўся з твару. І раптам — узняўся з зэдліка, схапіў са стала сваю жабку, быццам гарачае вуголле, і пасунуўся да дзвярэй.

— Ведаеце, я вам лепш нейкую другую скульптуру прынясу. Нашмат лепшую. Магу і з дрэва. Ці з натуральнага каменю. Хочаце вужыную каралеву? Ці льва?

Паліна апамяталася і невымоўна абурылася:

— Ану пастаўце на месца! Урэшце, я яе купіла! Вы забыліся? Ай, не! Гэта я забылася! — Раптоўная здагадка змусіла яе пачырванець. Можна падумаць, госць мок пад дажджом толькі для таго, каб мець шчасце падарыць ёй жабку і пасля выслухоўваць жаночыя фантазіі! Што ён падумае — столькі важдаўся з ёю ў Вільні, а яна аддаваць доўг і не збіраецца! Паліна кінулася ў вітальню, дастала з кішэні плашча кашалёк. Мала… Дый трэба не рублямі — Валянцін жа ёй білет да Мінска не за рублі купляў! «Зялёная заначка» захоўвалася ў надзейным месцы — у скрыні са шкарпэткамі. Урэшце Паліна вінавата працягнула скульптару належную, па яе падліках, суму.

— Прабачце, калі ласка. Я вам вельмі ўдзячная за дапамогу.

Госць сярдзіта пазіраў на гаспадыню, трымаючы жабку ў руках, як перахоплены ў вырашальны момант гульні мяч.

— Схавайце свае грошы. Вы мне нічога не павінны.

Вось такіх паваротаў Паліна не цярпела. Яна не мае патрэбы ў міласціне выпадковых знаёмых!

Валянцін трохі разгубіўся ад ейнага абурэння, але падумаў і пакорліва ўзяў грошы.

— Добра. Не хвалюйцеся. Я не ведаў, што гэта вас абразіць. Але скульптуру я хачу забраць не таму, што пашкадаваў. Проста я зразумеў, што вы пачынаеце займацца гістарычным фэнтэзі на гістарычнай дрыгве, прабачце за таўталогію. Не трэба тлуміць галаву. Гэта ўсяго толькі скульптуры з надмагілля, камяні з пячаткай смерці. Зноў мяне падвяла мая абсалютная зрокавая памяць. Зрабіў бы стылізавана… І Дзіна ўсё настойвала — рабі жабак на продаж, рабі…

У словах скульптара гучала шчырае шкадаванне.

Паліна не вытрымала:

— Ды што вас, урэшце, засмучае?

Скульптар панурыўся, чамусьці спыніўшы позірк на Паліниных чырвоных пантофліках, і памаўчаў добрую хвіліну.

— Аднойчы я сустракаўся з чалавекам, які таксама цікавіўся магілай Рашчынскага.

— Дзе? Калі?

— Даўно, яшчэ ў бабулінай вёсцы. Пасяліўся нейкі дачнік. Распытваў усіх пра ўзарваны касцёл, пра надмагілле Рашчынскага. Кожны дзень блукаў па Доме культуры, што на месцы касцёла збудавалі. Нешта вымяраў, запісваў. Яго лічылі вар'ятам, а дзеці, вядома, за ім бегалі. Смешны такі дзядзька, у белым капелюшы, у акулярах. Мне гадоў дзесяць было, але я на ўсё жыццё запомніў, як ён паўтараў: «Тут павінна хавацца таямніца! Тут павінна хавацца таямніца!»

— І што, знайшоў той дзядзька нешта цікавае?

— Не ён, а яго знайшлі. Аднойчы раніцай, каля Дома культуры, з прабітай галавой.

Паліна разгубілася.

— А чаму вы вырашылі, што гэтая смерць звязаная з роспытамі пра надмагілле?

Скульптар паціснуў плячыма.

— Я проста чуў, што гаварылі дарослыя. Усе асуджалі цікаўніка. Вядома, вінаватых не знайшлося.

Паліне нават стала смешна. Баіцца! Вось дзівак!

— Запэўніваю, што мне ніхто галаву не праломіць. І пастаўце жабку на столік. Калі баяцца нават уласных дзіцячых фантазій… Глупства якое!

У гэты момант з кухні паказалася маці з кубкамі гарбаты на антыкварным медным падносе. Марыя Апанасаўна незадаволена паглядала на госця.

— Што ў вас тут за спрэчкі?

Валянцін сумеўся, і Паліна скарысталася гэтым, каб забраць у яго жабку. Скульптура была пераможна ўсталяваная на столік, і госцю давялося зноў усесціся на зэдлік. Тым больш і Марыя Апанасаўна апусцілася на канапу з кубачкам у руках — госць не адносіўся да тых, хто мог прэтэндаваць на тэт-а-тэт з ейнай дачкой.

Маці ўсё-ткі падабрэла, даведаўшыся, што няўклюда — менавіта той рыцар, які дапамог Паліне ў Вільні, і ў выніку гэтага «пацяплення» на стале з'явіліся нават печыва і нарэзаны лімон.

— Дык гэта ваша работа? — перапытала Марыя Апанасаўна, разглядаючы жабку.— Прыгожанька…

— Гэта не проста прыгожанька,— важна зазначыла Паліна.— У гэтых жабках хаваецца нейкая таямніца.

Паліна знарок падкрэслена прагаварыла апошнія словы, каб убачыць, як госць зноў тузануўся і ўстрывожыўся — вунь як амаль з нянавісцю пазірае на бедных жабак.

— Таямніца? Як цікава! — ажывілася маці.— Раскажы!

— Ды я і сама не ведаю, у чым соль. Але на гэтых жабках — кавалкі нейкага надпісу. І бачыш — на спінках таксама нешта накрэслена.

— Нічога не разбяру. Барадаўкі нейкія, звіліны… Чакай…

Марыя Апанасаўна схадзіла па акуляры і зноў нахілілася над жабкамі.

— Ты лічыш, гэтыя ўзоры маюць сэнс? Бачу крыжык… Ад крыжыка ўніз і трохі ўбок лінія. Па баках нібыта рымскія лічбы. А вось і літары — NNW, здаецца… І стрэлачка…

Валянцін нават не пасунуўся паглядзець.

— Правільна, NNW. У мяне быў час падумаць, што яны значаць.

— Ну і? — зацікавілася Паліна.

— Магчыма, норд-норд-вест. Накірунак свету.

— Выходзіць, тут частка карты?

Паліна была ў захапленні.

— Паглядзіце, на другой жабцы — іншыя літары і іншыя значкі. Вось калі б сабраць усіх чатырох жабак! Вы не ведаеце, Валянцін, дзе могуць быць астатнія дзве?

— Ды яны напэўна ў касцёле загінулі,— змрочна адказаў Валянцін.

— Не, не можа быць! — абурылася Паліна.— Гэта было б несправядліва ў адносінах да мяне!

Валянцін з неўразуменнем зірнуў на суразмоўніцу.

— Вядома, несправядліва!— паўтарыла Паліна.— Я толькі зацікавілася — і ўсё перапыніцца. Як фільм, на самым захапляльным эпізодзе. Жабкі аддзяляліся ад пастамента параўнаўча лёгка. Самі бачыце, якія яны сімпатычныя. Упэўнена — іх забралі з касцёла. Мой сябра, што прынёс мне жабу,— ён нядаўна памёр — гаварыў, што калі касцёл узрывалі, то на надмагіллі ўжо не заставалася фігур.

Скульптар ізноў устрывожыўся:

— А што, ваш сябра таксама цікавіўся гісторыяй Рашчынскага? І як ён памёр? Даўно?

Паліна ледзь не зазлавала.

— Адкуль у вас такая падазронасць? Смерць Артура навуковых росшукаў не тычыцца. Лепей пра гэтыя значкі падумаем.

— А што тут думаць? — азвалася Палініна маці.— Трэба да Сымона Пятровіча з нашага тэатра звярнуцца! Ёсць у нас такі рабочы сцэны. Дэкарацыі перасоўвае, апаратуру. Сам — ваенны ў адстаўцы. На падлодцы служыў штурманам — значыць, у картах мусіць разбірацца, як бусел у жабах!

— Што за Сымон Пятровіч? — здзівілася Паліна.— Нешта не памятаю ў вас такога…

— А калі ты ў нашым тэатры апошні раз была? — накінулася на дачку Марыя Апанасаўна.— Здзічэла зусім. Гімназія — дом, дом — гімназія… Ну яшчэ архіў, бібліятэка ды музей. Бабскае царства. Усё роўна ж дысертацыю кінула, нашто мазгі сушыць! Прайшлася б калі па горадзе, у кавярні пасядзела…

— Мама, у кавярні зараз не з дзяржаўнай зарплаты сядзець! —Паліне было непрыемна — зноў маці перайшла на ўлюбёную тэму.— І нашаму госцю зусім нецікава слухаць пра акалічнасці майго асабістага жыцця.

— Ну чаму ж…— нясмела запярэчыў скульптар.— Якраз асабістае і ёсць самае цікавае. Усё сапраўднае мастацтва вырастае са штодзённага, вельмі інтымнага.

— А як жа наконт грамадзянскага гучання? — з’едліва кінула Паліна.— І ўвогуле — побыт толькі перашкаджае творчаму выяўленню. Я думаю, што мастак уцякае ў сваю творчасць ад асабістага жыцця і яго будзённых турботаў.

Валянцін не згаджаўся.

— Вы памыляецеся. Мастак — як куст бэзу: карані яго натхнення — побыт — схаваныя, занятыя нецікавай справай сілкавання, выжывання. А кветкі-творы буяюць нібыта самі па сабе. І здаецца, нібыта ўсё мастакоўскае грэшнае жыццё, увесь бэзавы куст складаецца з кветак — ні каранёў, што прабівалі шлях у цёмнай зямлі, адбіраючы жыццёвую прастору ў іншых, ні галінак, якія ламалі ўсе мінакі ў ахвоту.

Марыі Апанасаўне маналог віленскага госця спадабаўся.

— А вы філосаф! — з павагай прамовіла яна.— І, відаць, майстра добры. А вось Паліну маю маглі б вылепіць?

— Мама! — ледзь не закрычала Паліна.— Ну як табе не сорамна!

Валянцін, прымружыўшы вочы, глядзеў на Паліну.

— Думаю, скульптурны партрэт атрымаўся б. Хаця мушу сказаць, вельмі часта адбываецца, што прыгожыя твары, калі іх вылепіш, страчваюць усю прыгажосць, і наадварот — у непрыгожых выяўляюцца прывабнасць, арыгінальнасць. Скульптура адбірае колеры, ззянне вачэй, няўлоўныя рухі рысаў — вельмі мала каму са скульптараў удаецца перадаць унутранае жыццё мадэлі. Звычайна лепяць адну форму. Нават калі зняць з вас гіпсавую маску, вы наўрад ці пазнаеце ў ёй сябе…— Валянцін вінавата ўсміхнуўся Паліне.— Вы нагадваеце партрэты Смірновай-Расэт. Была такая прыгажуня ў пушкінскую эпоху, гаспадыня свецкага інтэлектуальнага салона. Сябравала з Гогалем, Вяземскім, тым жа Пушкіным… Рысы дакладныя, характэрныя. І абрыс вуснаў такі самы. Тады лічылася эталонам жаночай прыгажосці, калі вусны маленькія, «сардэчкам», яркія… І складка вуснаў — як у дзіцяці, гарэзная і наіўная. Але я не вазьмуся перадаць, скажам, ваш пагляд. Ён у вас так дзіўна мяняецца — то пазіраеце, прабачце, як класная дама, то як жыццярадаснае дзіця. Паставу, праўда, перадаць лягчэй…

Позірк скульптара неяк вельмі ўчэпіста-прафесійна абмерыў Паліну, усё роўна як правёў рукамі па целе.

— А пра Палініну фігуру гаворка не заходзіла,— у голасе маці гучаў такі метал, што Валянцін адразу спалохана перавёў вочы на свой кубак гарбаты. Паліна схавала ўсмешку. Госць адпіў яшчэ раз, паставіў кубак на стол, трывожна зірнуў на гадзіннік і ўзняўся.

— Ну, усё… Дзякуй за гарбату, за гасціннасць. Мне пара. Дзіна чакае.

Вось табе і пернік. Чужы мужчына пад прыглядам. І сказаў — нібыта прабачэння просіць, нібыта ў нечым сорамным прызнаўся.

— Дзіна — тая дзяўчына, што вашы вырабы прадавала? Жонка?

Валянцін вінавата ўсміхнуўся:

— Калі дакладней — яна мая ўладальніца.

Марыя Апанасаўна ўхваліла:

— Правільна, жонак трэба шанаваць, слухацца.

Але Валянцін ніяк не падтрымаў тэму, выйшаў у вітальню, за ім пасунулася падабрэлая Марыя Апанасаўна… Паліна зусім забылася, што

там — непрыбітая вешалка і інструменты побач! І хутка з калідора данеслася бадзёрае пастукванне малатка і гэткія ж бадзёрыя каментары маці.

— Што ж, можа, лепш такі, чым ніякага! — зазначыла маці, калі за госцем зачыніліся дзверы.— Непатрабавальны, паслухмяны, уважлівы… Вядома, з мухамі ў носе, але дзе ты бачыла іншых!

— Мама, ён жанаты,— сярдзіта прагаварыла Паліна, прыбіраючы посуд са стала.— Ягоныя вартасці мне без патрэбы.

— Я ж табе яго і не сватаю,— таксама зазлавала маці.— А толькі і ты прынца на белым кані не чакай. Яны сёння калі і ездзяць на белых конях, дык хіба падчас запою. Ды хапае ж і нармальных, добрых хлопцаў. Вось у нашай артысткі, Лялечкі Малецкай, сын… Менеджэр, нежанаты…

Паліна ўцякла ў свой пакой, ляснуўшы дзвярыма, праз якія даляцела апошняя матчына рэпліка:

— І ўрэшце, віншую цябе — за апошнія тры гады гэты недарэка быў першы мужчына, які меў гонар выпіць з намі сам-насам гарбаты.

Сапраўды… Прайшло ўжо тры гады, як з’ехаў Стась. Неверагодна! Нібыта час для Паліны спыніўся. Выходзіла замуж не на пару гадоў — да канца жыцця размерыла шлях. І, саштурхнутая пад адхон на самым пачатку, там і засталася.

З кім параўнаў яе госць — са Смірновай-Расэт? Цікава, можна пашукаць у бібліятэцы нешта пра гэтую свецкую даму.

А да Сымона Пятровіча, былога штурмана, абавязкова трэба наведацца. І скульптар, дарэчы, прасіў яго з сабой паклікаць. Нібыта яшчэ тыдзень яны з «уладальніцай» будуць у Мінску.

## 8

Прах аддаецца праху…

Чаму ад гэтага так баліць жывым?

Вінцэсь глядзеў праз акно кабінета на касцёл, падобны да старога воя ў медных латах,— там бацька два тыдні як сустрэўся з продкамі. У адным з прыдзелаў храма магільны склеп роду Рашчынскіх. Заслужылі калісьці — грашыма ці дабрадзейным жыццём? Хто скажа праўду…

Туды ляжа і ён, Вінцэсь. І, можа быць, не так доўга давядзецца чакаць яго памерлым сваякам.

— Ласка Пана Бога з ім,— суцяшальна прагаварыў Юзаф, здагадаўшыся, пра што думае сябра.— Ты не саромся слёз — паплач. У нашым асяродку прынята, што мужчынам плакаць ганебна, шкадаванне — прыніжае. І любое гора належыць сустракаць з каменным тварам… Сэрцы ж у нас не каменныя, Вінцэсь! Калі падчас пакаяння ці малітвы ў чалавека няма слёз, значыць, не спаслаў яму Гасподзь і раскаяння ці замілавання. Не саромся пачуццяў, дружа.

Вінцэсь з удзячнасцю зірнуў на Юзафа. Той, як толькі даведаўся пра бяду сябра,— выпрасіў адпачынак у сваім гарнізоне і прыехаў. Рахманы, худзенькі, з вялізнымі наіўнымі вачыма. З абліччам так не стасаваўся ваенны мундзір, у які Юзаф быў апрануты.

Стрыечныя браты, Юзаф і Вінцэсь, пасябравалі, яшчэ калі вучыліся ў Шляхецкім інстытуце, дырэктарам якога быў бацька Юзафа, пан Андрэй Каліноўскі. Колькі разам блукалі па старых звілістых вулках, уздымаліся на вежу Гедыміна… Прыхіналіся да калонаў у касцёле святога Пятра, каб пачуць цурчэнне падземных крыніц і галасы-скаргі пахаваных у сутарэннях каралёў — і сапраўды чулі!

Здавалася б, Юзаф больш схільны да развагаў пра сэнс быцця, але філосафам зрабіўся Вінцэсь, а яго сябар скончыў Мікалаеўскую ваенна-інжынерную акадэмію, паспеў папрацаваць на будаўніцтве чыгункі. Ды родныя мясціны цягнулі — і ён знайшоў пасаду ў Берасцейскай крэпасці.

Што ж, свае людзі патрэбныя паўсюль. На кожнай пасадзе можна служыць свайму народу… І рыхтаваць паўстанне. Зыгмунт Серакоўскі, кіраўнік іх гуртка,— капітан расейскага генеральнага штаба. Людвік Звяждоўскі таксама працуе ў штабе і нават вучыць дачок генерал-губернатара Назімава польскай мове. Дзюлеран, якога Вінцэсь ведаў нашмат менш,— начальнік Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі.

Толькі ад Вінцэся мала карысці. Ну, мае сувязі са жменькай «лясных братоў». Пасля прызначанай ля крыжа сустрэчы Вінцэсь бачыўся з Ваўкалакам шматкроць — дапамагаў Брацтву, як калісьці бацька. Зброяй, ежай, калі-нікалі прытулкам. Мартын безаглядна давяраў сыну старога сябра, і Вінцэсь не мог не захапляцца лясным правадыром, яго самаахвярнай і адкрытай натурай. Між імі ўзнікала ўсё больш шчырых гаворак, Вінцэсь бачыў, што Мартын усёй душой прыхінуўся да яго… І так было брыдка, што не мог быць шчырым да канца сам — з-за Вальжыны…. З-за таго, што не мог адмовіцца ад надзеі — каб яна сказала яму, Вінцэсю, словы, падобныя да падслуханых у салаўіным садзе.

Так, «лясныя браты» будуць біцца страшна, як скандынаўскія берсеркеры, і вартыя тысячы вояў. Але яны далучацца да бойкі і без ягонага пасрэдніцтва. А хто пойдзе за ім, Вінцэсем, з ягоных сялянаў? Тыя, хто плакаў над магілай бацькі? Іх было нямала — пан Антось недарэмна пражыў сваё жыццё. Рабы шчыра плачуць і па смерці тырана — чалавек, ратуючы сябе ад невыноснага штодзённага страху, пачынае шчыра любіць ката і бачыць справядлівасць у ягоных здзеках. Але пан Антось не хацеў, каб яго баяліся.

Так, на пару дзесяткаў чалавек Вінцэсь можа разлічваць. Але іншых, тых, для каго пан — нават не вораг, а істота іншае пароды, большасць…

Вінцэсь апусціўся ў фатэль, у якім любіў апошнія дні сядзець пан Антось,— нібыта зліўся з ценем памерлага. Цяпер Вінцэсь упэўнены, што падобны да бацькі. Такія ж светлыя валасы, хударлявае аблічча, прамыя

бровы сыходзяцца на пераноссі… Толькі вочы ў пана Антося былі сталёвага колеру, а ў яго — сінія…

Ён не будзе помсціць — ён даў слова. Але як забыць?..

— Бацька хацеў, каб Гарнушкі сталі востравам вольнасці і заможнасці для сялянаў,— горка прагаварыў Вінцэсь.— А ты ведаеш, як старажытнагрэцкі філосаф Кратэт Афінскі назваў прыдуманы ім востраў, на якім усе сябруюць, філасофствуюць і ядуць часнык? Востраў Кайстра. Жабрацкая торба. Шчасце магчымае толькі там, дзе няма чаго дзяліць — адно на ўсіх неба, адна зямля, адно мора…

— Але Бог паставіў адных над другімі,— запярэчыў Юзаф.—Усе роўныя ў яго вачах, але кожны служыць яму па-свойму. Мой цёзка па прозвішчы, Кастусь, занадта захоплены праблемай улады і маёмасці. Нельга, каб усё скончылася поўнымі страўнікамі. Даць зямлю тым, хто яе ўрабляе. Але найперш — будаваць школы! І вучыць неаддзельна ад хрысціянства. Адукаваны чалавек без рэлігіі больш небяспечны для грамадства, чым барбар. Гэта воля, якая перарасце ў рабства яшчэ горшае!

— З барбараў зрабілі пачвар гісторыкі.— Вінцэсь нават знайшоў у сабе сілы ўсміхнуцца, бо Юзаф заўсёды смешна гарачыўся, калі гаворка тычылася падобных матэрый.— Рымляне адбіралі іх волю, замянялі іх культуру сваёй, нібыта літасць давалі… Народ, здольны жыць, гэтага не даруе. І ўвогуле… Народы здаюцца мне жывымі істотамі. Разумееш — кожны з іх нараджаецца, праходзіць пару дзяцінства. Пасля — юнацтва, сталасць. Потым — старэе… І — памірае, знікае. Нават калі захоўваецца яго назва — гэта ўжо іншы народ, кроў змяшана з крывёй іншых, больш маладых. Паглядзі на італьянцаў — хіба гэта тыя старажытныя рымляне, уладальнікі ўсёмагутнай імперыі? Ці кожны з іх зразумее старажытную латынь? А грэкі — нашчадкі Аляксандра Македонскага? Памятаеш, мы чыталі ў інстытуце апісанне афінскіх матрон — яны былі беласкурыя, ружовашчокія, з залацістымі, трохі рудаватымі валасамі…

— Не вельмі доказна,— запярэчыў Юзаф.— І тады сярод грэкаў напэўна былі чарнявыя. І мовы ўсе мяняюцца з часам.

Вінцэсь упарта пакруціў галавою.

— Нам толькі здаецца, што наш час — самы важны. І што заўсёды існавалі толькі тыя дзяржавы і нацыі, якія мы ведаем. У хетаў яшчэ да таго, як егіпцяне пабудавалі піраміды, быў водаправод і каналізацыя... А цяпер ад іхніх гарадоў не засталося нічога — толькі камяні ў пустэльні, праходзячы паўз якія, вандроўны купец нават не падумае, што гэта — рэшткі велічнага палаца або крапасной вежы.

— На тым пабудавана хрысціянская мараль,— паціснуў плячыма Юзаф.— Усё зямное, матэрыяльнае — пыл. І ў пыл вернецца. Вечная — душа.

— Але і ў народа ёсць душа! — ледзь не пракрычаў Вінцэсь.— Калі народ юны, ён асвойвае новыя землі, рассяляецца, памнажаецца. Дужаецца

і адваёўвае сваё месца на зямлі. У сталасці — будуе гарады і стварае імперыі.

— А калі састарэе? — зацікавіўся Юзаф.

— А старасць — гэта філасофія і мастацтва… Не такія, як раней. Мастацтва народа, які перажывае свой заняпад, заўсёды можна адрозніць — асаблівы бляск, вычварныя формы. Як фрэскі ў лабірынтах Крыта, намаляваныя перад тым, як востраў быў захоплены. Старасць этнасу… Мноства філасофскіх плыняў, мноства жанраў і відаў творчасці і мала геніяў. Калі народ малады — у яго пераважае адна філасофія і ўсё мастацтва мае адны, характэрныя, рысы. І вайскаводца яшчэ важнейшы за акцёра.

— Народы ўзнікаюць і гінуць па волі Божай,— дакорліва заўважыў Юзаф.

— Не буду спрачацца,— аднымі вуснамі ўсміхнуўся Вінцэсь.— Я пра іншае… Які наш народ? Ён зусім юны? Можа быць, яшчэ дзіця, якое не ўсведамляе сябе, і пакорліва слухаецца іншых, і не запомніў нават сваё імя? А можа, старэча, які саслаб у шматлікіх бойках? У такім разе, дзе быў наш росквіт? У часы Скарыны і Буднага? Пакуль мы жылі па Статуце, напісаным нашай мовай? Прафесар Шымкевіч знаходзіў у беларускай мове шмат індаеўрапейскіх слоў… Дрыгва, азярод… Можа, нашы продкі прыйшлі ў гэтыя балаты і пушчы з Егіпта ці Міжземнамор’я, каб ўратаваць рэшткі былога магутнага племя? І мы ўсе носім у сабе памяць пра былую веліч і стому ад страшэннай паразы і выгнання?

— Твае пытанні застануцца без адказу,— ціха прагаварыў Юзаф.

— Але мы — маладыя,— зазначыў Вінцэсь, на імгненне скінуўшы журбу.— Мы — маладосць, жыццё свайго народа. Ты сказаў слушна — кожны мусіць служыць. Нават калі ты — не найлепшы служка. Я дастану зброю, пра якую просіць Кастусь. Думаю, сотню штуцэраў можна без асаблівых падазрэнняў набыць у розных крамах… Заўтра ж і займуся.

Гадзіннік на каміне гучна прабіў поўдзень, і з акенца над цыферблатам высунулася невялічкая пляцоўка — цяпер на ёй было аж дванаццаць фігурак з мезенец ростам. Пасярэдзіне — Смерць з касой, яна смешна нахілялася ў розныя бакі пры кожным удары маятніка. А вакол, узяўшыся за рукі, тузаліся ў недарэчным танцы Кароль, Блазан, Жабрак, Дама, Рыцар, Селянін, Купец, Святар ды іншыя асобы. Іх драўляныя твары былі цёмныя, аднолькавыя, нібыта ўжо забраныя Смерцю…

І лісты на дрэвах за акном ужо афарбавала іх залатая смерць — восень. Толькі неба стала яшчэ больш сінім, глыбокім. Як вір… З апошнім ударам гадзінніка пачуўся далёкі крык:

— Пан Вінцэ-эсь!

Па дарозе ад Маскалёвага лесу імчаў вершнік. Цёмныя, як воранава крыло, валасы, белая кашуля расхінутая на грудзях…

Няўжо Марка Рагманаў?

Брат Вальжыны выглядаў вельмі заклапочана, але не мог здушыць таемнага хлапечага задавальнення ад удзелу ў значнай падзеі, нават калі ў гэтым шмат няшчасця. Бач, як вочы блішчаць… Марка кінуў запытальны позірк у бок Юзафа.

— Можаш гаварыць пры ім усё,— запэўніў Вінцэсь.— Гэта мой сябра.

— Ваўкалака схапілі,— выпаліў Марка.— Людзі палкоўніка Варанецкага… Непадалёк ад нашага дома, там, дзе бэзавыя зарасці. Падстрэлілі ў нагу… Ён нічога не мог зрабіць. Павезлі на калёсах у мястэчка. І бацьку забралі — пакуль як сведку. Вальжына ў горы... Сказала — да вас ехаць...

Сапраўды гора… Вінцэсь глядзеў у вочы юнака, гэткія ж вялікія, чорныя, як і ў сястры… Што мусіць адчуваць Вальжына? Ведаючы яе, Вінцэсь не сумняваўся, што дзяўчына абвінаваціць ва ўсім сябе. Мартын-Ваўкалак, безумоўна, прыходзіў, каб пабачыцца з ёю, а іх спатканні, відаць, ужо нехта звіжаваў. Але вось дзіўна — Вінцэсь не мог уявіць, што Ваўкалак здаўся жывым. Паранілі ў нагу… Гэта не магло б перашкодзіць адстрэльвацца. Мартын ніколі не хадзіў без зброі. І — Вінцэсь дакладна ведаў — апошні набой бярог для сябе. І куля была срэбная, самаробная, пазначаная крыжам, з трох, што калісьці зрабіў Вінцэсь, каб упаляваць ваўкалака. Гумар вісельніка, якога апошні Рашчынскі не ўхваляў, аднак Мартын смяяўся і паўтараў, што загіне не як шараговы няўдачнік, а як сапраўдны сын ночы.

— Трэба сабраць людзей і напасці на пастарунак! — для Марка ўсё было зразумелым, як для маладога харта на першым паляванні.

— Адумайцеся! — захваляваўся Юзаф.— Гэта рокаш… Паўстанне… Усё роўна што выстраліць у бочку з порахам. Мы не гатовыя ісці супраць войскаў! Заўчасны пачатак — пагібель.

Вінцэсь задумліва круціў у руках узятую з каміннае паліцы вазачку-жабку, зеленаватую, нібы вада ў ручаіне пасля летняй залевы. Тонкі пасак — шнар на шкле, месца склейвання. Ён ніколі не знікне, як не знікаюць шнары на сэрцы. Хлопец нібыта зноў чуў аднойчы падслуханы гарачы шэпт: «Я кахаю вас… Я ніколі не буду з іншым…»

Што ж, калі не можаш даць шчасце дзяўчыне ў выглядзе сваёй каштоўнай асобы,— май гонар не рабіць яе няшчаснай, адбіраючы надзею быць шчаслівай з іншым.

Ад уладаў Мартыну літасці чакаць не выпадае ніяк — не больш, чым зацкаванаму ваўку ад паляўнічых. Але пра гэта Вінцэсь падумае пасля. А вось бацьку Вальжыны і Марка належыць ратаваць неадкладна.

— Трэба звярнуцца да Станіслава,— прапанаваў-сцвердзіў Юзаф, і карункавы цень ад яблыневай галінкі, што гайдалася проста перад шыбай, варухнуўся на сцяне, нібыта бязгучна паліўся залаты дождж…

— Я паеду да Людвісараў сам,— змрочна зазначыў Вінцэсь.— Вядома, гэта непрыстойна — ездзіць па гасцях падчас жалобы. Але затое мне не давядзецца думаць пра касцюм для візіту.

— Да Людвісараў?!! — ледзь не падскочыў Марка.— Вы звар'яцелі, панове? Да гэтых магнатаў! Вы б яшчэ да самога рускага гасудара на прыём папрасіліся!

— Ты проста не ведаеш…— няўважна патлумачыў Вінцэсь, ужо гатовы сыходзіць.— Стась Людвісар — мой аднакурснік па універсітэце… І… наш таварыш.

Апошнія словы Вінцэсь вымавіў з некаторым намаганнем. Ён усё яшчэ не вырашыў для сябе, якой ступені даверу заслугоўвае Стась. Калі першы раз убачыў яго ў дартуары універсітэта, унутрана ўсміхнуўся, як і на адрас усіх «белападшэўнікаў»: прышчавы спешчаны юнак з адпаліраванымі пазногцямі, з валасамі, відавочна ўкладзенымі куафёрам. Адзінае, што непадобнае да звыклага вобраза «багатага сынка»,— вінаватая ўсмешка на тоўстых бледных вуснах ды баязліва-цікаўны пагляд спадылба — як птушаня наважваецца вылецець з гнязда. Ну а калі прагучалі імя і прозвішча — Станіслаў Людвісар,— усё стала нібыта зразумела. Сынок Сігізмунда Людвісара, магната, да якога губернатар лічыць гонарам з'ездзіць у госці. Па солі на мядзведзях Людвісар, вядома, не ездзіць — дзікунства. Але Венецыю сабе зладзіў — тысячы прыгонных мужыкоў каналы капалі ды гарбатыя масты выштукоўвалі, каб пасля да ўласных хатаў падрульваць на чоўнах з падоўжанымі насамі, выводзячы «Санта-Лючыю». А выпадковыя праезджыя дзівуюцца, адкуль з мужычых вуснаў не-не дый прарвецца слоўца з мармурова-аліўкавай краіны.

І, вядома, для ўсяго універсітэта была неспадзяванка, калі Стані-слаў пацягнуўся не да арыстакратаў, а да іх, студэнцкай вольніцы ў пледах. Не зважаючы на насмешкі і недавер, смела браў удзел у абструкцыях нелюбімых прафесароў, ладзіў абеды для згаладалых калегаў. Ды яшчэ гэтак пачуваўся пры гэтым вінавата, што не было няёмкасці,— госці пераконваліся, што яны робяць ласку гаспадару. Вінцэсь, праўда, не лічыў сябе блізкім сябрам Стася — хлопец, вядома, добры, і столькі разоў даводзіў сваю вернасць і прыстойнасць, і выяўляе да самога Вінцэся нейкую сабачую адданасць, але… Можа, Вінцэся раздражнялі ягоныя паліраваныя пазногці? Стась так і не кінуў гэтае аздобы, згадваючы, што Аляксандр Пушкін увогуле адрошчваў такія пазуры, што насіў на мезенцы напарстак-футарал. Далучылі Стася і да гуртка — вядома, не да самых апошніх таямніцаў. На перасцярогі Ёсафат Агрызка, адзін з кіраўнікоў, заявіў адно: для справы карысна мець сярод сваіх чалавека грашавітага і ўплывовага.

Грошы ў Станіслава былі нямераныя, бацька на адзінага сына не шкадаваў нічога. Вінцэсь ведаў, што Стась узрадуецца магчымасці паўдзельнічаць у змаганні,— але гэтая ягоная радасць, гатоўнасць

«робінгудстваваць» здаваліся Вінцэсю падлеткавай гульнёй. Ён падазраваў, што Станіслаў і заставаўся падлеткам, цікаўным і сарамяжным, якому ўсё роўна: або да індзейцаў у амерыканскія прэрыі збегчы, або з ліцвінскімі касінерамі — у пушчу.

З сястрой Стася размаўляць было куды прасцей. Хрысціна часам прыязджала да брата са свайго пансіёна. Вядома, у суправаджэнні высахлай «дуэньі», мадам Лецьен. Дачка магната… Вось каму варта было нарадзіцца хлапцом! Імклівая, рэзкая — ніякай табе лёгкай феінай хады. Валасы як залаты пажар, і заўсёды выбіваюцца асобныя пасмачкі нават з самай акуратнай прычоскі, нібыта заўсёды вакол паненкі вецер. Зялёныя вочы смяюцца, куточак велікаватага рота прыўзняты, і ані згадкі пра мілыя жаночыя хітрыкі — зірнуць так, каб у мужчыны засталося пытанне... І патрэба знайсці адказ. А як яна першы раз з’явілася ў іх кампаніі: «Якога вы меркавання пра антрапалагічныя стыгматы Ламброза?»

А сама ў крыналінах. Яны ледзь не зарагаталі. Вынік дрэннага выхавання: на дачку ні пан Людвісар, ні пані Людвісарава амаль не зважалі, маўляў, адзіная з яе карысць — парадніцца праз ейны шлюб з добрым домам.

Не дзіва, што ніхто з іх гурту ў паненку не закахаўся, хоць куртуазныя настроі рэалізоўваліся часам на асобах самых неверагодных.

Была яшчэ адна таямніца, пра якую ніхто, акрамя Вінцэся, не ведаў. Пяць гадоў таму ва універсітэцкім холе пачуўся страшэнны грукат. Вінцэсь павярнуўся і ўбачыў худзенькае золатавалосае дзяўчо з вачыма, як зялёныя сподачкі, напоўненыя жахам і слязьмі. На мармуровай падлозе ў лужыне ляжала пабітае шкло і нешта незразумелае, цёмнае… Усё ясна — дурнічка залезла ў шафу з калекцыяй заспіртаваных яшчарак. Да месца здарэння ўжо збягаліся… І тады Вінцэсь ступіў наперад, як праўдзівы рамантычны герой:

— Прабачце, гэта мая віна. Хацеў паказаць паненцы экспанат… Спадзяюся, вы не напалохаліся, мадэмуазель?

Пасля таго і пачалося дзіўнае сяброўства з Людвісарамі.

Гадзіны за тры да іх маёнтка можна даехаць. Галоўнае, каб Стась быў дома… Юзаф на развітанне сказаў, што памоліцца за гэта.

І малітвы, відаць, былі пачутыя.

Людвісарава будавалася яшчэ тады, калі нават князі не ведалі, што такое шкарпэткі, і спецыяльна прызначаныя хлопы перацíралі салому, каб насыпаць яе ў панскія боты. Але высакародны камень сценаў, вышчарблены падчас шматлікіх аблогаў, падаўся цяперашнім гаспадарам нямодным, і замак перарабілі ў нейкае падабенства рымскага палаца — светлая тынкоўка, белыя калоны з дзябёлымі карыятыдамі, цёмныя піраміды тапаляў…

Сцены гасцёўні былі абабітыя сапраўдным парыжскім муарам — залатыя лілеі і гладыёлусы на сінім, у дакладнай сіметрыі. Вінцэсь кінуў

вокам у кут, на вялікі партрэт, і ўздрыгнуў — Напалеон Банапарт! Без подпісу, у адзенні старажытнага рымляніна, але цалкам пазнавальны. А між тым у Расійскай імперыі яго можна было называць толькі «узурпатар» або «карсіканская пачвара». Вінцэсь ведаў, што дзед Стася ў свой час быў прыхільнікам гэтай «карсіканскай пачвары» і нават узброіў полк узурпатарскага войска на свае грошы. За што пасля нейкі час і пабыў у выгнанні. І ўсё роўна цяпер расійскія ўлады лічыліся з Людвісарамі. Партрэт Напалеона сведчыў: тут не баяцца нікога. Уладары гэтага дома не падлягаюць асуджэнню. Яны толькі з паблажлівасці мірацца з законамі дзікунскай імперыі.

І, каб не было гэтага партрэта, не прымалі б, можа, тут і Вінцэся — сярэдняй рукі шляхціца.

Станіслаў, як заўсёды, шумна радаваўся прыезду таварыша па таемным братэрстве і паабяцаў, што зробіць усё магчымае. Бацька звычайна не адмаўляе ў падобных просьбах. Увечары вернецца — і пытанне вырашым. Праўда, на гэты раз давядзецца цяжэй — дзяржаўнае злачынства…

— Пан Вакула Рагманаў — зусім бязвінны чалавек,— Вінцэсь лічыў за лепшае, каб Станіслаў сам быў у гэтым пераканаы.— Сваяк наш. Я яго з дзяцінства ведаю — вясёлы, добры, мухі не пакрыўдзіць. Інсургент апынуўся ля іх маёнтка выпадкова.

— Вінцэсь! Прыміце мае спачуванні! — у гасцёўню нібыта заляцеў залаціста-белы віхор з зялёнымі вачыма. Хрысціна працягнула госцю рашучую далоньку.— Я загадала падаць абед у кітайскай альтанцы. Вы любіце жульены?

Стась паблажліва кіўнуў — што, маўляў, узяць з кабеты, думае толькі пра груба матэрыяльнае. Вінцэсь усміхнуўся, згадаўшы чамусьці прыпавесць пра Марфу, якая мітусілася, каб пачаставаць здарожанага Хрыста, і Марыю, што ў гэты час сядзела і слухала госця, чым і заслужыла ягоную ўхвалу ў адрозненне ад «матэрыяльнай» Марфы.

Але ж Вінцэсь сапраўды стаміўся і быў галодны. І стол падрыхтаваны дасканала. А Хрысціна зноў выявіла сваю непасрэднасць, зашаптаўшы:

— У вас вялікае гора, Вінцэсь. Але ж, напэўна, здарылася яшчэ нешта жахлівае, што змусіла вас прыехаць. Чым я магу вам дапамагчы?

Аж непамысна ад ейнага адданага пагляду. Напэўна, ніяк не забудзе той выпадак са слоікам.

Чым яна дапаможа, карункавае дзяўчо? Пераказам чарговай сенсацыйнай ксёнжкі? Відэлец у руце ў дзяўчыны дробна дрыжэў, так і не скарыстаны па прызначэнні. Так што нязменная мадам Лецьен зрабіла падапечнай не адну заўвагу наконт добрых манераў. Вінцэсь угледзеўся ў твар мадам, падобны на васковы… Гладка зачасаныя сівыя валасы, вузкі прамы рот, высока прыўзнятыя тонкія бровы, нібыта намаляваныя… Ніяк не мог вызначыць, ці была мадам у маладосці прыгожай, і тым больш не мог уявіць, якім быў яе муж, пан Лецьен? Ні адцення пачуццяў у сухіх

рысах. Толькі калі сустракаецца вачыма са сваёй выхаванкай, усё аблічча нібыта цяплее.

Нешта яны сёння зачаста па-змоўніцку пераглядаюцца, Хрысціна і мадам Лецьен...

Лёкаі ў вышытых срэбрам белых сурдутах і белых панчохах бязгучна слізгалі па падлозе з падносамі. Вераснёўскае сонца, перш чым знікнуць за краем далёкага лесу, шчодра ліло сваё чырвонае золата праз вітражы альтанкі, больш падобнай да мініяцюрнага палаца. Вінцэсь на нейкі момант змрочна задумаўся. Вальжына, можа быць, таксама сядзіць у альтанцы. Той самай, запаветнай, але наўрад ці сёння яна там чытае... І наўрад ці плача — хутчэй сціснула да болю далоні і глядзіць у нікуды чорнымі вачыма, поўнымі да краёў адчаю. А можа, паехала ў павет, не ў змозе заставацца бяздзейнай?

Раптам Вінцэсю ўсё, што вакол, падалося нерэальным — белы абрус з дасканалай кітайскай парцэлянай, букеты экзатычных кветак, старанна састаўленыя нейчымі таленавітымі рукамі, звонкае пастукванне лыжачак. Хрысціна і Стась у белых касцюмах. Ён, Вінцэсь, і мадам Лецьен — у чорным. Нібыта парцэлянавыя лялькі. Круглая альтанка. Круглы столік… Быццам унутры музычнага куфэрка. Вінцэсю нават здалося, што ён чуе срэбныя званочкі, якія назвоньваюць немудрагелістую механічную мелодыю, а альтанка патроху пакручваецца — у адзін бок, у другі... Рашчынскі кінуў погляд наверх, на зашклёнае акенца-ружу ў даху альтанкі,— нібыта чакаў сустрэцца з паблажліва-цікаўным позіркам агромністага назіральніка.

І тут пад вітражным акном, дзе пачыналіся славутыя людвісараўскія каналы а-ля Венецыя, нехта зацягнуў «Санта-Лючыю», з характэрным беларускім «ч». Мужычы голас надрываўся, стараючыся справіцца з замежнымі руладамі,— відаць, звычайны рытуал падчас панскага абеду. Песня наплыла здалёку, цяпер аддалялася, чуўся плёскат вады — выканаўца, ясная справа, плыў у гандоле з беларускага дубу па вызначаным тым жа рытуалам маршруце.

Гэта было такое адчужэнне ад месца — быццам пазногцем правялі па сухім пыльным шкле. Прэч з гэтага лялечнага царства… Паранены Мартын на гнілой саломе… Дзядзька Вакула — на допыце. Напэўна, не страціў жартоўнага тону, толькі ў голасе загучала сталь.

Час спыніўся, прыліп смаўжом да аўгсбургскага срэбнага падноса, і неадольна хацелася падагнаць яго...

Вінцэсь кінуў на стол накрухмаленую сурвэтку з вышытымі па куточках галінкамі квітучай вішні і ўзняўся, мармытнуўшы нешта наконт тэрміновасці ад’езду.

Засталіся яшчэ ў памяці спалоханыя зялёныя вочы. Быццам зноў разбіўся слоік з заспіртаванай пачварай.

Калі Вінцэсь пастукаўся ў дом Рагманавых, было ўжо зусім цёмна. Але Вінцэсь ведаў, што ў доме не спяць.

Вальжына глядзела вялікімі чорнымі вачыма, абведзенымі ценямі, кудысьці скрозь госця.

— Дзякуй вам… Будзем спадзявацца, што бацьку хутка адпусцяць. А другому дапамога ўжо не патрэбная.

Вінцэсь не разумеў.

Яна паўтарыла:

— Мартына няма. Ён загінуў.

— Адкуль вы ведаеце?

Вальжына дастала з-за карсажа дрыготкімі пальцамі нейкі вузельчык, развязала…

Срэбная куля… Нешта цёмнае на ёй — кроў?

Марка, які ўвесь гэты час трывожна пазіраў на сястру, не вытрымаў:

— Адкуль гэта ў цябе?

Вальжына павольна, як у сне, зноў загарнула металёвы круглячок.

— Засеў у ствале вішні. Там, дзе была перастрэлка. Я ведаю, што ён… Мартын… і збіраўся так зрабіць,— у яго была такая куля. Значыць — навылёт… Мусіць, цэліў сюды…— Вальжына паказала рукой на шыю. І голас яе быў такі дзіўны, тонкі-тонкі, як павуцінка, што Вінцэся мімаволі ахапіў жах. Марка абняў сястру за плечы і нешта прашаптаў.

— Думаеце, я звар’яцела? Сапраўды, дзіўны сувенір… Паверце, я не належу да ліку тых экзальтаваных асобаў, што выпрошваюць кавалачак вяроўкі павешанага або пасму валасоў з галавы, адсечанай на гільяціне. Гэта куля для мяне нешта іншае… Прабачце, я не ў стане зараз тлумачыць…

Яна сышла, не развітаўшыся, у свой пакой, але спіна, абцягнутая чорнай сукенкай, была такой выпрастанай, што гэта было горш за плач...

А там, дзе дарога зварочвала да Гарнушак, ад цёмнага камля таполі аддзяліліся тры постаці.

— Загінуў наш атаман… Ад кулі тваёй, панічок, загінуў… як і хацеў. Ведаем, што сваёй рукой ён вызваліўся. Але глядзі ж, каб не было граху на табе, панічок. Ведаем, да якога акенца вы абодва хадзілі. Дазнаемся, што ты нячысты…

Цені расталі ў начы, а Вінцэсь усё яшчэ ўзіраўся ў цемру, у якой, бы стары цмок, звіваўся восеньскі туман.

## 9

У кожным прыстойным тэатры мусіць быць свой прывід.

Нават калі тэатральная трупа займае найсучасны будынак, у сценах якога не замуравана нічога, акрамя арматуры, прывід сіламі працоўнага

калектыву будзе створаны, надзелены страшнай і кранальнай гісторыяй жыцця і смерці і расквечаны красамоўнымі рысамі паводле аповедаў напалоханых і шчаслівых відавочцаў.

Тэатр «Капялюшык» меў законнае права на прывіда, бо месціўся ў сутарэннях старога-старога гарадскога храма… Дакладней, былога храма, лёс якога пакуль яшчэ вырашаўся. Справа ў тым, што «перахрышчваўся» гэты будынак за сваё немалое жыццё ва ўсе магчымыя канфесіі — гэта ж быў тыповы беларускі храм. Палілі і паганілі яго і казакі, і напалеонаўскія французы, і польскія гусары. Спрычыніліся да яго цяперашняга несамавітага аблічча і савецкія барацьбіты з рэлігіяй, і бамбёжкі апошняй вайны…

А ён моўчкі стаяў і захоўваў у магутных, як спіна зубра, сценах дыханне часоў і прададзеную памяць.

Так, гэты храм быў сапраўдным беларусам.

А людцы ўсё спрачаліся, каму ён мусіць належаць — каталікам, праваслаўным, уніятам? Тым больш цяжка гэта вызначалася, што ад колішняга будынка засталіся толькі тры паверхі, накрытыя пляскатым дахам, і што калісьці гэта быў велічны храм, мала хто з мінакоў і здагадваўся.

Добра, што ў спрэчку не ўмешваліся псіхіятры — у надзейных сценах знаходзіла прытулак і адпаведная лячэбніца.

«А між тым псіхіятр тут не лішні»,— з прыкрасцю падумала Паліна, прабіраючыся па вузкіх калідорах за сцэнай, дзе месціліся грымёркі. За дзяўчынай ішоў жабкавы скульптар Валянцін, увесьчасна чапляючыся сваім швэдарам за старыя дэкарацыі, і Паліна не ведала, як ён ставіцца да дзікіх выкрыкаў і мітусяніны побач:

— Дзяўчаты, далібог, скрозь мяне прайшла! Шэрая, як дым! І холад па целе, холад!

— А ты, Люсечка, паслала б яе туды, куды мяне пасылала сёння на рэпетыцыі. І твая манашка развеялася б, як маё да цябе каханне.

— Дурань!..

Паліна ўздыхнула: тэатр «Капялюшык» засяліўся ў гэтыя муры не так даўно, відаць, таму аблічча прывіда яшчэ не набыло пэўнасці: адны казалі пра белую манашку, другія — пра чорнага мніха… А вось сёння — нейкі гібрыд: манашка, але шэрая... Паліна ўсё-ткі палічыла патрэбным нешта патлумачыць, кінула спадарожніку цераз плячо:

— Не звяртайце ўвагі… Гэта артысты.

І самой стала няёмка: так паблажліва прагучала.

— Сюды хадзіце! Не наступіце на ружавы куст…— Марыя Апанасаўна махала рукой там, дзе адгаліноўваўся невялікі калідорчык, і ў сваёй белай хустцы, накінутай паўзверх чорнай доўгай сукенкі, таксама магла цалкам сысці за прывід — хіба калі б не ўзбітыя ў самавітую піраміду выбеленыя валасы. Паліна і Валянцін асцярожна абышлі бутафорскі куст з пап’е-машэ

з намаляванымі ружамі, падобнымі да сіняй капусты, і ўрэшце апынуліся ў доўгім, як пенал, пакоі без вокнаў.

У пакоі панаваў дзіўны пах зёлак. Ля адной сцяны стаяла шырма, груба размаляваная пад антычныя разваліны, на другой — развешаная бутафорская зброя, відаць, сабраная з розных спектакляў. Алюмініевыя кінжалы, шпага з тоўстага дроту, кардонны меч… Прытулак Арлекіна. Пад паліцай з кніжкамі стаяла выцвілая канапа, а з канапы пры набліжэнні гасцей узняўся сам Арлекін… Як Паліна зразумела, той самы Сымон Пятровіч, былы штурман падлодкі.

Штурман быў мала падобны да сівагаловага паважнага марскога ваўка. Па-першае, ён аказаўся зусім не стары, гадоў мо трыццаць шэсць. Па-другое, невысокі. Папраўдзе, дык ненашмат вышэйшы за Паліну, а віленскаму скульптару — дык увогуле па плячо. Але не шчуплы — проста падцягнуты, жылаваты, а пад чорнай майкай перакочваюцца цяглiцы. І твар смуглявы, таксама падцягнуты, як у легіянера…

«Але ж правільна,— толькі цяпер дадумалася расчараваная Паліна,— ён жа не на караблі служыў, а на падлодцы, туды вось такіх і адбіраюць — невысокіх і трывушчых».

— Гэта часткі нейкага маршруту,— упэўнена сказаў Сымон Пятровіч, уважліва разгледзеўшы Паліціны аркушыкі з перамаляванымі са спінаў жабак малюнкамі.— Усё пазначана — і азімут, і накірункі. І адлегласці — як я разумею, у сажнях. Калі перавесці ў нашы меры, на кожным малюнку шлях дзесьці метраў сто.

— І вы маглі б вызначыць, дзе гэта знаходзіцца?—усхвалявалася Паліна.

Картазнаўца паблажліва ўсміхнуўся.

— Ніхто вам гэтага не вызначыць без ведання мясцовасці. Схемы трэба прывязаць да карты. Хаця б адну кропку знайсці. Што абазначае, напрыклад, гэты крыжык: камень? Дрэва? Будынак?

Валянцін падаў голас:

— Ну, можа, мы б змаглі вылічыць мясцовасць... Што тады?

Штурман пацiснуў плячыма.

— Гэтыя два малюнкі — усё, што вы маеце?

Паліна ўздыхнула:

— Мы думаем, што такіх жабак было чатыры.

Сымон Пятровіч развёў рукамі.

— Ну, спадарове, справа безнадзейная. Калі гэта павінна скласціся ў адзін шлях, нават калі б вы знайшлі ўсе чатыры яго кавалкі,— трэба ведаць чарговасць. Разумееце? Апошняя кропка кожнага адрэзка — пачатак іншага.

— А хіба нельга будзе вызначыць, перастаўляючы, прымерваючыся?

Штурман незалежна скрыжаваў на грудзях рукі і адкінуўся на спінку сваёй старой зялёнай канапы.

— Нешта вы ўсе горача дыхаеце над гэтымі аркушыкамі. Можа, патлумачыце?

Паліна нерашуча зірнула на маці і Валянціна.

Марыя Апанасаўна дапамагла дачцэ наважыцца:

— Ну чаго гуляць у таямніцы? Распавядзі чалавеку, як ёсць. Можа, што і падкажа, а ты яго потым на абарону дысертацыі запросіш.

Маці відавочна звязвала Палініны вышукі з ейнай кар’ерай.

І Паліна распавяла пра ўсё… Акрамя, вядома, таго, як Аксана забрала ў яе папку і пасля не хацела нават згадваць пра гэта. Не расказала, і як пайшла ў архіў, паглядзець фонд Станіслава Ксаверыя Людвісара, дзе Артур знайшоў малюнак намагілля Рашчынскага, а ліста з малюнкам, дакумента №131, у тэчках не аказалася. І калі Паліна стала распытваць, архівісткі ўсчалі гвалт і абвінавацілі ў прапажы памерлага Арціка, які, вядома, ужо ніяк не меў магчымасці апраўдацца. Але Паліна дакладна ведала — Артур, які заўсёды так горача адстойваў прынцып навуковай этыкі, не мог гэтага зрабіць.

Над бутафорскімі антычнымі развалінамі луналі купідончыкі, ружовыя, з круглымі азадкамі і гэткімі ж круглымі шчочкамі. Прысутныя перадавалі з рук у рукі партрэт Вінцэся Рашчынскага, адзіны, які змагла знайсці Паліна. Партрэт быў намаляваны ў Парыжы мастаком невядомым, але прагрэсіўных імпрэсіяністычных паглядаў, які б ніколі не даў згоды распісваць шырмы ружовымі купідончыкамі. Аблічча вымалёўвалася з каляровых пісягаў. Але імпрэсіяністу ўдалося перадаць асаблівы выраз твару: быццам чалавек нешта пакутліва ўспамінае і боль успамінаў для яго — адзіная рэальнасць. І было нешта трагічнае ў несупадзенні яркіх колеравых спалучэнняў і сумотнага аблічча чалавека.

— Гэта Вінцэсь Рашчынскі пасля паразы паўстання,— патлумачыла Паліна.— Мала каму ўдалося тады ўцячы — яму пашанцавала. Вядома, вясёлага мала — сябры забітыя, павешаныя, сасланыя… Маёнтак патрапіў пад апеку казны. Толькі праз трыццаць гадоў Рашчынскі атрымае дараванне ад уладаў і зможа вярнуцца дадому.

— Паўстанне Каліноўскага…— задумліва прамовіў Сымон Пятровіч, круцячы ў руках рэпрадукцыю.— Калісьці я зачытваўся раманам «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча, у рэйды з сабой браў. І вельмі засмучаўся, што няма працягу — усё перарываецца на падыходзе да паўстання.

— А я чуў, што працяг нібыта быў,— сумна прагаварыў Валянцін.— Нібыта скралі працяг...

А Паліна на ўсе вочы глядзела на былога падводніка, які раптам выявіўся прыхільнікам Караткевіча і «гатовым беларускім мужчынам». Гэта ж трэба! Нават маці сваю Паліна не магла пераканаць, каб гаварыла па-беларуску. «Позна мне перавучвацца»,— казала тая, ды і ўсё. Сустрэць

у іхнім горадзе чалавека, які валодае роднай мовай,— усё роўна што земляка на чужыне.

— Наконт скрадзенага працягу, можа, і праўда... Але мне інакш уяўляецца,— працягваў Сымон Пятровіч. — Мінулым летам я сваіх скаўтаў у паход вадзіў па Віленшчыне, якраз наведалі па дарозе музей у Кушлянах… Дык там расказваў нам адзін дзядзька, што падчас паўстання на Беларусі было рэпрэсавана сто тысяч шляхецкіх сем’яў. Гэта ж цэлая праслойка грамадства! Самая лепшая, адукаваная... Яшчэ колькі гадоў — і з’явілася б пакаленне, якое магло збудаваць нацыянальную дзяржаву. І ніхто б яе ўжо не знішчыў. А так — нават памяці няма. Можа, і мае продкі мелі дачыненне да таго паўстання? Не ведаю. Быў жа прадзед лапцюжным, але шляхцюком. І Караткевіч сам прызнаецца, як цяжка яму пісаць працяг, бо яго героі не могуць перамагчы.

— Ты скаўтаў у паход водзіш? — здзівілася Марыя Апанасаўна, вычуўшы тое, што самой было цікава.— Вось не ведала…

— Ну, не толькі скаўтаў… — патлумачыў былы падводнік.— Экстрэмалаў розных таксама.

— Напэўна, на байдарках? Ці на плытах? — здагадалася Паліна.

Але ў штурмана толькі неяк дзіўна змяніўся смуглявы твар.

— Не, спадарыня. Водны турызм мяне не вабіць.

Марыя Апанасаўна зноў завалодала выявай Рашчынскага.

— А ён прыгожы быў, калі б яшчэ нармальна намалявалі… Напэўна, карыстаўся поспехам у жанчын.

Паліна задумалася.

— Ды нешта не памятаю пра яго рамантычных гісторый… Ён і жанаты не быў.

— Значыць, рамантычная гісторыя мелася,— нечакана змрочна прагаварыў Сымон Пятровіч.— Пераможаны мужчына — якая жанчына падзеліць з такім лёс? Ды яшчэ маёнтак забралі… Вядома, нейкая красуня дадала горычы ў жыццё вашага… Рашчынскага. Прабачце, вядома, шаноўныя спадарыні, за нягжэчнасць, але жанчыны не любяць тых, каго яны лічаць няўдачнікамі.

— Чаму вы такога меркавання пра жанчын? — не змаўчала Паліна.— Многія шляхцянкі ішлі за сваімі мужамі на катаргу, многія выходзілі замуж за зняволеных.

— За героем на катаргу — гэта рамантычна… — не здаваўся штурман.— А вось з няўдачнікам — нецікава.— Прагучала так сумна, што Паліна здагадалася: асабістае, няйначай. Сымон Пятровіч пацвердзіў:

— Не прымайце мяне за старога звягу. Лічыць сябе няўдачнікам — дыягназ. Для гэтага неабавязкова сапраўды пацярпець вялікія страты. Я на такую хваробу, між іншым, не хварэю. А вось калі мяне звольнілі з флоту, а на Беларусі, зразумела, такіх спецыялістаў, як я, не патрэбна, жонка ад мяне адразу адвярнулася. Я яе не вінавачу — сапраўды, які з мяне муж.

Яна натура тонкая, перакладчыца. А я вечна ў рэйдах, ды яшчэ і трантаў дамоў не прывозіў, як звычайныя маракі загранкі,— у нас жа сакрэтныя заданні, ваенная таямніца. А на марскім дне супермаркетаў не будуюць.

— Калі жанчыне не хапае рэчаў — гэта толькі наступства,— павучальна прагаварыла Марыя Апанасаўна.— Гэта значыць, што насамрэч жанчыне не хапае кахання!

— Ну так, кахання…— Сымон Пятровіч засмяяўся дзіўным хрыплым смехам.— Каханне яна атрымала. Ад таленавітага і грашавітага. Праўда, калі я сышоў з поўнай торбай непрамоўленых крыўдаў і пажаданнем шчасця,— той… таленавіты… знік.

Сымон Пятровіч расказваў нават з іроніяй. Але тут усхваляваўся Валянцін:

— І няўдачніку можа пашанцаваць на каханне! Я таксама... З уласнага вопыту...— Валянцін трохі павагаўся, але ў кожнага настае час выгаварыцца.— Я ж тут вучыўся, скончыў тэатральна-мастацкі інстытут. Зладзілі мы першую выставу нашай суполкі — сабраліся маладыя скульптары, мастакі… Ды яшчэ дзе зладзілі — аж у «чарніліцы», на другім паверсе Палаца мастацтваў. Гонар! Гасцей насклікалі на прэзентацыю. Прыйшоў я з гэтай выставы, пахадзіўшы дзень сярод выпадковых наведнікаў, наслухаўшыся іхніх каментараў… І як даў кулаком па глінянай балванцы, якую паўгода спрабаваў ператварыць у сусветны шэдэўр… І што вы думаеце — разбіў! Хоць ужо амаль зацвярдзела. Вось што значыць сапраўдная злосць!

— Ну і навошта? — іранічна прамовіў штурман.— Чым гліна правінавацілася?

— Гэта я не гліну. Гэта я свае спадзяванні — кулаком…— жорстка прагаварыў скульптар.— Не ўсім быць Радэнамі ці Азгурамі… Я забараніў сабе думаць пра вялікае мастацтва. А тут якраз пачаўся прыватны бізнес. І мы з адным знаёмым зладзілі фірму... Ведаеце, якую? — Валянцін з горкай насмешкай абвёў прысутных вачыма.— Па вырабе надмагільных помнікаў. На любы густ. Гэта быў найвялікшы здзек, які я мог тады над сабой учыніць за бяздарнасць. Бачылі, можа, анёлкаў, што плачуць, захінаючы твар крыламі? «Память о тебе вечна, как наша любовь». І назву для фірмы прыдумалі адпаведна «кічавую» — «Асфадэль».

Сымон Пятровіч чамусьці ўсхваляваўся.

— Як, як твая фірма называлася?

— «Асфадэль»...— з прыкрасцю паўтарыў Валянцін.— Гэта лілеі такія. Лічацца кветкамі мёртвых. Я і сам тады быў… як мёртвы.

— Ну і нармальны бізнес,— прабурчэла Марыя Апанасаўна.—Напэўна, зараблялі някепска.

Валянцін няёмка паціснуў плячыма.

— Так… Заказаў давалі шмат. Добра хоць, за працай не ставала часу надта задумвацца над сэнсам жыцця. Кватэру набыў, пасля яшчэ адну —

пад майстэрню. Усё жыццё па інтэрнатах, дык тут адцягнуўся. Ну і скончылася вядома чым. Фірма прагарэла, як сухая лапушына. Які з мяне бізнесмен — я мог толькі ляпіць ды высякаць. А напарнік, аказваецца, пачаў пашыраць бізнес — перапрадаваў кватэры, яшчэ нешта там… Карацей, паставілі нас на лічыльнік. Ды не нас, а мяне — сябрук мой уцёк, а ўсе дакументы аказаліся на маё імя. Прадаў кватэру адну... Тады другую… Збыў машыну, урэшце, усё, што меў… І ўсё адно доўгу заставалася — дваццаць пяць «кавалкаў». Мяне везлі забіваць. І тут з’явілася яна… Дзяўчына, на якую я асаблівай увагі не звяртаў. Нават пакрыўдзіў, адпрэчыўшы ейную ўвагу да маёй каштоўнай персоны. І вось яна выкупіла мяне, няўдачніка, аддаўшы ў заклад сваю маёмасць і самую сябе… І мяне ёй прадалі ў пажыццёвае карыстанне.

— Як гэта? — здзівілася Паліна.

— А так…— з весялосцю адчаю патлумачыў Валянцін.— У прамым сэнсе. Дзіна паступова выплочвае мой доўг з працэнтамі. Я дапамагаю зарабіць грошы, працую ў ейнай фірме. Умова такая: калі я сыду — Дзіна адкажа сваім жыццём.

Нейкі час усе прыгаломшана маўчалі. Сымон Пятровіч, аднак, не выявіў асаблівага ўзрушэння.

— Чаму ты лічыш сябе няўдачнікам, не разумею? У цябе ёсць жанчына, якая цябе кахае і якую ты, прынамсі, паважаеш. Кім ты працуеш у ейнай фірме? Вартаўнікам? Прыбіральшчыкам?

Валянцін зацята ўскінуў галаву — пытанне прагучала жорстка.

— Я ўмею ляпіць.

— …І займаешся любімай працай,— падсумаваў падводнік.— Ты — шчаслівы чалавек.

Паліна падазрона разглядала суразмоўцаў. Высокі няўклюдны скульптар са светлымі валасамі, перацягнутымі матузком, і смуглявы жылаваты штурман з абліччам, як у каскадзёра ці воя — вунь колькі старых шнараў на твары, на руках,— такія розныя! І пры тым абодва — тыповыя няшчасныя беларускія мужчыны. Відаць, Марыя Апанасаўна падумала тое самае, паколькі скептычна паглядзела на аднаго, на другога і моўчкі пахітала галавой у адказ нейкім сваім думкам.

Паліна здагадалася — канчаткова збракавала ў якасці магчымых зяцёў. Не, у маці гэта ўжо нейкая манія... Хутка пачне прыглядацца да грузчыкаў у хлебнай краме, да ахоўнікаў суседняй з іхнім домам базы агародніны.

Трэба было вяртаць размову да гістарычнай тэмы.

— І ўсё ж такі — пра што хацеў пакінуць звесткі Вінцэсь Рашчынскі?

— Можа, нейкае патаемнае сховішча паўстанцаў? — спытаў Сымон Пятровіч.

— Ды не,— запярэчыла Паліна.— Надмагілле будавалася ў дзевяностыя гады, калі Рашчынскі вярнуўся на радзіму. Ды якая розніца! Не ведаю, што схаваў Рашчынскі — каштоўнасці, дакументы, або там, у апошняй кропцы,

забытая магіла нейкага героя — мне ўсё роўна. Мы проста абавязаны гэта знайсці! Гэта наша гісторыя! Ліст да нашчадкаў, які з-за нашай няўвагі можа не дайсці больш ніколі ні да кога! Вы як хочаце, а я гэтую справу не пакіну.

— І дысертацыя атрымаецца сенсацыйная! — задаволена падтрымала на свой капыл Марыя Апанасаўна.— І ў газетах напішуць!

Паліна ўперлася строгім паглядам у Валянціна:

— І не ўздумайце мяне адгаворваць — я ўсё роўна прайду гэты шлях да канца!

Валянцін з дакорам зірнуў на Паліну:

— Вас адгаворыш… Добра, магу з’ездзіць у Гарнушкі… У хаце бабулінай чужыя людзі цяперака. Але да дзядзькі майго можна завітаць. Ён і так зазлаваў на мяне, мусіць, што даўно не прыязджаю. Толькі не ведаю, як Дзіна да гэтага паставіцца.

Сапраўды, «уладальніца»… Паліне зрабілася чамусьці вельмі прыкра. І страшэнна шкада гэтага няўклюду — ён не выглядаў шчаслівым у статусе маёмасці. Успомніла, як сіратліва сядзеў ён у арцы віленскай вулкі, пакуль закаханая жанчына прадавала ягоныя творы… Але ж хіба не вартая здзіўлення і тая Дзіна! А ці змагла б яна, Паліна, так вось ахвяраваць усім дзеля чалавека, які нічым з ёю не звязаны? Паставіць сваё жыццё ў залежнасць ад яго? Гэта ж як трэба кахаць…

Але Паліне аніяк не ўдавалася выклікаць у сабе добрыя пачуцці да гандляркі са светлымі косамі.

За дзвярыма пакойчыка між тым сціхлі галасы, затое пачуўся «трубны глас» — па мегафоне артыстаў запрашалі на рэпетыцыю. Гэта азначала, што ўсе работнікі тэатра «Капялюшык» мелі зараз свой клопат.

Калі госці былі ўжо ў дзвярах, Сымон Пятровіч ветліва прамовіў:

— Прабачце, Валянцін, вы не маглі б затрымацца? Мне трэба вам тое-сёе сказаць.

Паліна і Марыя Апанасаўна разгублена глядзелі на зачыненыя перад імі дзверы, у якіх паварочваўся ключ.

— Ну і Бог з імі, пайшлі… Няхай паразмаўляюць,— зазначыла Палініна маці.

Аднак не паспелі яны адысціся ў канец калідора, як у пакойчыку штурмана пачуўся страшэнны грукат, нешта падала, разбівалася…

— Ды што яны, звар’яцелі, ці што?!!

Марыя Апанасаўна стукала ў дзверы, за якімі не сціхала баталія.

— Сымон, ты здурнеў? Што ты там робіш?

З усіх дзвярэй паказваліся цікаўныя твары. Нарэшце шум у пакойчыку сціх, яго дзверы расчыніліся, упусціўшы пераляканых кабет.

Дэкарацыя з антычнымі развалінамі, пашкуматаная, быццам пабывала ў зубах у цмока, ляжала на падлозе, а пад ёй, накрыты размаляваным палатнішчам, нехта адчайна варушыўся, як хрушч пад насоўкай. Пакольні

Сымон Пятровіч у ваяўнічай паставе стаяў ля сценкі з бутафорскай зброяй, варушыўся няйнакш небарака скульптар.

— Я тры гады чакаў, каб гэта зрабіць,— штурман цадзіў словы скрозь сціснутыя зубы, і Паліне чамусьці захацелася апынуцца як мага далей адсюль.

З дзіркі ў дэкарацыі паказалася рука, потым прасунулася галава. Вока Валянціна патроху заплывала сінім.

— Паслухайце… Гэта памылка. У мяне з вашай жонкай нічога не было.

— Гэта ў цябе з ёй нічога не было,— прагаварыў Сымон Пятровіч.— А ў яе з табой — было ўсё. Вядома, ты ноч правёў — і забыўся. Табе што, самадаек не хапала?

Паліна схаладнела… Не можа быць! Няўжо ён, няўклюда і летуценнік, такі?..

— Ды кажу вам: не ведаю ніякай Святланы… І ў рэстаране «Папарацькветка» адзіны раз у жыцці быў — калі адзначалі абарону дыпломаў.

Новы майстэрскі ўдар у скіўіцу змусіў Валянціна, які толькі што няўпэўнена ўзняўся на ногі, зноў паляцець на падлогу.

— Сымон, прыйдзі да розуму!— Марыя Апанасаўна гатовая была таксама даць волі рукам.— За што ты так яго?

— А вы ў гэтага генія магілкавага спытайце… Ты хоць ведаеш, што яна кожны дзень цябе чакала? — зноў звярнуўся штурман да скульптара.— Запальнічку тваю, у выглядзе пісталета, да сэрца туліла… Таксама мне каўбой! Ды я сам быў гатовы цябе расшукаць і за ручку да яе прывесці! І я ніколі не бачыў яе такой шчаслівай, як у тыя моманты, калі яна верыла, што ты вось-вось прыедзеш. Асабліва ў псіхушцы, у апошнія дні.

— У мяне ніколі не было запальнічак. Я не куру! — гнеўна прагаварыў Валянцін, больш-менш цвёрда ўстаўшы на ногі.—Хаця… У сябрука майго, з якім мы фірму зладзілі, мелася такая запальнічка, памятаю.

Сымон Пятровіч крыху разгубіўся:

— У Святланы візітка была — Валянцін з фірмы «Асфадэль». Выходзіць — ты. Я цябе шукаў, але фірма ваша ўжо знікла, і дзе ты, ніхто не ведаў.

Валянцін сумна ўсміхнуўся:

— Ну, зразумела… Сябрука майго таксама Валянцінам звалі. Можаце праверыць. Ён — Валянцін Сцяпко, я — Валянцін Чарапавіцкі. Здаралася, ён называўся маім прозвішчам — у непрыемных сітуацыях.

Сымон Пятровіч недаверліва глядзеў на ворага.

Валянцін выцер кроў з носа Палінінай насоўкай і прамовіў ціха і сур’ёзна:

— Слова гонару, я не ведаў вашай жонкі.

Сымон Пятровіч нейкі час памаўчаў, потым панурыўся і прамовіў:

— Веру… Прабач. Твой сябра зноў цябе падставіў. Ён які, дарэчы, з выгляду?

— Ну… Ніжэйшы за мяне. Кароткая стрыжка. Цёмны…

— Вось-вось… І Святлана гаварыла пра чарнявага. Падобны, маўляў, да Адрыяна Чэлентана. А ты, гляджу,— бялявы… Думаў, пафарбаваўся, гад.

— Збіў чалавека ні за што! — абуралася Марыя Апанасаўна.

Штурман стамлёна сеў на канапу, загаварыў нібыта сам сабе:

— Яна не мела фліртаў… У яе заўсёды ўсё было вельмі сур'ёзна. Яе мужчына мусіць быць героем. Я яе расчараваў — замест таго каб стаць якім адміралам, апынуўся беспрацоўным, ды яшчэ ўпарта адхіляў прапановы з іншых краін. Ну не хачу я з'язджаць адсюль! Нават дзеля залатых палацаў. А тут гэты… геній з рэстарана… Ах, Мікеланджэла, ах, Эрнст Неізвесны… Ад бяссоння ўсё жыццё пакутавала. Такая прыгожая… мройлівая… Сабе не магла дараваць, што яе першая і апошняя здрада была… так, пошлым фліртам. І я ёй усё расказваў казкі — што ейны Валянцін з'ехаў з выставай у Амерыку, што яго выклікалі ў Індыю… Яна ўжо не магла праверыць,— голас Сымона Пятровіча задрыжэў.— І я аднаму радаваўся — што над ейнай магілай не стаіць помнік вашай фірмы.

Сымон Пятровіч кінуў пагляд на збіты твар скульптара і пачырванеў.

— Што ж, я цяпер твой даўжнік. Калі хочаш, можаш даць здачы… Не? Ну, тады хіба дапамагу ў вашых вар'яцкіх росшуках. Не ведаю, што вы там збіраецеся знайсці — золата, дыяменты або матэрыял для дысертацыі,— я ў вашай волі. Толькі загадзя дамовімся — у дзялёжцы не ўдзельнічаю. Не хачу, калі што, увязвацца ў быдлячую справу шкуматання тлустага кавалка.

На сцэне ішло сваё жыццё. Нехта адбіваў нястомнымі нагамі рытм пад вясёлую мелодыю — тэатр «Капялюшык» спецыялізаваўся на аперэтках ды мюзіклах, любімых жанрах міжчасся. Прывіды будынка затаіліся па кутах, адпускаючы жывое на волю. Валянцін і Паліна, якія ад прыкрага інцыдэнту не перамовіліся ні словам, выйшлі за цяжкія дзверы — нібыта з-за цемры кулісаў патрапілі на ярка асветленую сцэну. Амаль летняе сонца ўдарыла ў вочы, як сафіты.

— Што яна з табой зрабіла? — дзікі крык злева змусіў і без таго знерваваную Паліну літаральна падскочыць. Да скульптара падбягала Дзіна, на гэты раз — у беленькім джынсавым касцюмчыку. Пагляд, кінуты ёю на Паліну, быў вастрэйшы ад касінерскага ляза. Гэтага Паліна ўжо не магла вытрываць і шпаркім крокам рушыла прэч, пакінуўшы за спіной апраўданні Валянціна пра тое, што не варта перажываць, што ён проста ўпаў на дэкарацыі…

**10**

Жаўнер зрабіў крок, спатыкнуўся і ўпаў, нязграбна падкурчыўшы пад сябе руку,— быццам нехта нацягнуў перад ім нябачны дрот.

Сіняя фуражка з прабітай цэшкай упала побач, на чорную адліжную зямлю, нібыта таксама жывая істота, пазбаўленая чужой злой воляй жыцця.

Вінцэсь агаломшана глядзеў паўзверх стрэльбы, страціўшы на нейкі час здольнасць успрымаць гукі, дотыкі, вобразы…

Калі Варшава пачала паўстанне — гэта было як зімовыя грымоты. Польскі камітэт апраўдваўся — не выпадала чакаць, выйшаў загад рускага цара забіраць у рэкруты студэнтаў, гэта значыць — лепшую моладзь. Хіба пакінуць маладых гінуць па лясах у безнадзейным змаганні?

Але неабходнасць не робіць цудаў. Вінцэсь ведаў, што яны на Беларусі яшчэ не падрыхтаваныя як след, каб ісці супраць магутнай імперыі. Але немагчыма пачынаць бойку без веры ў перамогу — і ён верыў… Былі ж у гісторыі прыклады, калі невялікая купка апантаных мяняла лёсы краін. Гарыбальдзі вёў за сабой тысячу чырвонакашульнікаў — і сёння Італія паўстае з друзу, стаптанага ботамі аўстрыякаў.

Атрад Вінцэся — сотня чалавек. Шляхціцы, мяшчане, сяляне… У дваццаць два гады ўзяць на сябе адказнасць за жыццё сотні чалавек…

Што ж, ён малады. Але са смерцю бацькі стаў старэйшым і адзіным у родзе. І да апошняга часу па-ранейшаму кожную раніцу плаваў у палонцы — як калісьці прывучыў пан Антось. Вінцэсь ведаў, што здолее зрабіць з сабой усё, чаго будзе вымагаць гонар. Цела і душа не здрадзяць, як не здраджвае добра падрыхтаваная, пристраляная зброя.

Можа, таму Вінцэсю верылі. У яго атрадзе чатыры дзесяткі гарнушкаўцаў. Сярод іх — тыя, хто вучыўся ў гарнушкаўскай школе, каго пасылалі ў вучэльні і інстытуты на грошы Рашчынскіх. Фельчар, вясковы настаўнік, ляснічы, каваль…

Як заўсёды, наперад усіх сустрэць смяротную небяспеку выходзяць самыя лепшыя, разумныя, сумленныя… І гінуць.

Калі з пакалення ў пакаленне адбываецца такі пачварны адбор — хіба дзіва, што беларусы ўсё больш заслугоўваюць славу пакорлівага, цярплівага, зацятага, як балота, народа?

Першая бойка… Пакуль яшчэ няма горычы стратаў, няма сапраўднай нянавісці. Сцяг, вышываны любымі дзявочымі рукамі, зззяе барвай, золатам і беллю.

І першы забіты Вінцэсем чалавек ляжыць на чужой яму, чорнай зямлі.

Вінцэся прывёў да прытомнасці стогн побач — Марка Рагманаў! Гэта ж яго ледзь не застрэліў чалавек у сіняй фуражцы. Вінцэсь дапамог Марку прыўзняцца… Дзякуй Богу, жывы — куля толькі драпанула па галаве. А каб забіла... Як тады глядзець у вочы Вальжыне? Да Вінцэся падбягалі інсургенты — вясёлыя, нібы пасля ўдалага палявання. Атрад жаўнераў быў невялікі, і, відаць, чужынцы не чакалі ўзброенага супраціву.

— Разбегліся, як кураняты…— Стась Людвісар расплываўся ва ўсмешцы, аддана гледзячы на камандзіра. І гэты можа загінуць…

Вінцэсю раптам стала страшна. Як тады, калі ехаў праз Маскалёў лес і чакаў атручанай стралы ў грудзі. Яго вусны шапталі:

— Гэта яшчэ не перамога… Не перамога… Першы крок на сцяжыну смерці.

Але належала прагнаць ганебную слабасць, пакуль ніхто не заўважыў.

У маёнтку Рагманавых зладзілі лазарэт для параненых. З аднаго боку — лес, з другога — поле. Прыслугі — тры чалавекі: ахмістрыня Казіміра ды конюх з жонкай-пакаёўкай. Усе — амаль што сямейнікі. Месца спакойнае, аддаленае. Пан Рагманаў быў дзесьці пад Гародняй, там, дзе і Юзаф,— а Юзафу як ваеннаму інжынеру даручылі камандаваць штабам паўстанцаў. Вінцэсь ведаў, што сябра згаджаўся на гэта не без ваганняў,— але так палка любіў сваю Айчыну!

Стась Людвісар падбег да Вінцэся.

— Хрысціна паведаміла, што будзе чакаць мяне на паштовай станцыі. Прывязе грошы. Заўтра на досвітку мушу ехаць.

Вінцэсь спахмурнеў.

— Не варта было б ублытваць паненку. Як пан Людвісар?

Станіслаў упарта закусіў губу.

— Вядома, угневаны. Хоча, каб я вярнуўся дадому. Ніколі!

Вінцэсь уздыхнуў. Спадзевы на тое, што, дзякуючы сынаваму энтузіязму, магнат Людвісар адкрыта стане на бок паўстання, не спраўджваліся. Венецыянскія каналы пад беларускімі соснамі страцілі б дасканаласць без песень прыгонных мужычкоў. А мужык, узброены штуцэрам, наўрад ці стане ламаць язык «Санта-Лючыяй», а запяе роднае «У нядзельку параненьку» дый пераблытае свайго і чужога пана. Але Людвісар не жадаў і станавіцца на бок імперыі, што пазбавіла яго продкаў і яго самога былой улады. Людвісараўскія грошы сілкавалі змаганне. Вінцэсь не любіў выслоўя пра тое, што грошы — цягліцы вайны, але ведаў, што без іх паўстанне захлынецца. Косамі супраць штуцэраў нядоўга павалюеш.

У гасцёўні віравалі людзі. Грукатала зброя, якую належала падрыхтаваць да наступнай бойкі. З спачывальні чуўся стогн параненага ў нагу каваля. Вінцэсь адшукаў вачыма знаёмую постаць у чорнай сукенцы. Вальжына, якая сядзела ў фатэлі ля акна і нешта хутка шыла, прыўзняла галаву з акуратна ўкладзенымі каронай чорнымі косамі і ўсміхнулася госцю. За гэтую ўсмешку Вінцэсь гатовы быў памерці... А забіць?..

Уваччу ізноў паўстаў жаўнер, які валіцца на зямлю… Зусім малады… Не старэйшы за Вінцэся…

Вальжына асцярожна зняла з каленяў працу — гэта быў паўстанцкі мундзір, шэры, з чорнымі галунамі, узнялася, падышла, клапатліва зазірнула ў твар.

— Што з вамі? Вы падумалі зараз пра нешта страшнае…

Вінцэсь удзячна ўсміхнуўся.

— Гэта ўсяго толькі мае мроі… Прабачце.

Вальжына глядзела вельмі сур'ёзна, з увагай. І Вінцэсь ад гэтага быў такі шчаслівы, што мімаволі паддаўся спакусе прадоўжыць гаворку і, можа, скінуць з душы хоць частку цяжару.

Яны сядзелі на верандзе, адзіным месцы ў доме, дзе можна было адасобіцца. Вінцэсь накінуў на плечы дзяўчыне, каб не змерзла, ваўчынае футра. Неба шарэла, нібыта набрынялая вадой воўна, і першыя вечаровыя цені ўжо заплятвлі шчыльнай павутой куты.

— У Санкт-Пецярбурзе я шмат думаў і разважаў пра смерць. Разумееце, у кожнага філосафа свая канцэпцыя гэтае з'явы. Я хрысціянін і, вядома, успрымаю смерць пераходам з аднаго стану ў другі, вызваленнем душы ад цялеснае абалонкі і гэтак далей. Але наколькі ўладны чалавек над жыццём і смерцю сябе самога і іншых? Калі вайскаводца пасылае на гібель тысячы жаўнераў, і ўсё дзеля таго, каб падарыць сваёй краіне кавалачак чужой неўрадлівай зямлі,— хіба вайскаводца не забойца? А між тым яго ўслаўляюць як героя. Арыстоцель казаў, што калі нехта ўчыніць несправядлівасць, не ўсведамляючы гэтага, ён не парушальнік справядлівасці, а няшчасны. Вальжына, мне зараз здаецца, што мы ўсе — такія няшчасныя. Якое права маем я ці нехта іншы перараэаць нітку чужога лёсу? Хіба мы ведаем, што знікае разам з кожнай заўчаснай смерцю? Якія мэты Творцы не будуць дасягнутыя з-за таго, што нехта не пражыў столькі, колькі яму належала?

— Вам не здаецца, што вашы разважанні блюзнерскія? — мякка запярэчыла Вальжына.— Хіба не ўсё ў руцэ Божай? Без Ягонае волі волас не ўпадзе з галавы.

— Чалавек парушае волю свайго Стваральніка. Ён забівае.

Вальжына ласкава паклала далонь на руку Вінцэся. Гэта было так нечакана і цудоўна, што ён увесь задрыжэў… А для яе… для яе гэта быў проста жэст спачування.

— Вінцэсь, што здарылася? Што змусіла вас да вашых сумных разважанняў?

Ад яе ціхага голасу хацелася плакаць.

— Я... забіў чалавека.

Вальжына памаўчала.

— Я магу здагадвацца, як гэта цяжка. Але…

— Але так не павінна быць для мяне! — раптам горача загаварыў Вінцэсь, адкінуўшы асцярожлівасць.— Я лічыў сябе падрыхтаваным. Бацька не хацеў, але я ўпотайкі вучыўся страляць. І ездзіў на паляванне з нашым леснікам, і забіваў сам-насам медзвядзёў і ваўкоў. Я перажыў страх уласнай блізкай смерці. Перажыў смерць бацькі. І… тое, што горш за смерць. Але пра гэта згадваць не варта. І вось — мяне трасе, і я гатовы быць забітым — абы больш не забіваць. Скажыце, што я баязлівец, Вальжына! Я — нікчэмнасць. І будзе праўда, калі вы гэта скажаце!

Дзяўчына ўзнялася і прайшлася па верандзе. Белыя фіранкі зрабіліся сінімі ў прыцемку. Але Вінцэсю здавалася, што ён выслізнуў з часу, быццам кубак з няспрытных дзіцячых рук, і зараз давядзецца падбіраць аскалёпкі.

Вальжына зноў прысела каля яго, і хлопец не пабачыў насмешкі ў вялікіх цёмных вачах.

— Вы проста чалавек з чуйнай душой, добры і сумленны. Не трэба думаць, што забіваць — лёгка і што вялікія ваяры нават у самай першай бойцы асуджалі на смерць сабе падобных, нібы свечкі ламалі. Мужчыны любяць выхваляцца сваёй жорсткасцю. Насамрэч вы — такія ж датклівыя істоты, як і кабеты. Гэта нармальна — тое, што вы цяпер адчуваеце. І я ўпэўнена, што калі будзе неабходна — вы зробіце ўсё, як належыць вою і мужчыну. Адзін мой знаёмы… вялікі вой… расказваў, што свайго… першага… перажываў гэтак жа, як вы.

Вінцэся перапаўнялі ўдзячнасць і шкадоба. І ён схапіў вузенькую далоньку дзяўчыны і прыпаў да яе вуснамі, гарачымі, як апошняя надзея... Пацалаваў вышэй, запясце… І адчуў, што Вальжына адхіснулася. Яна глядзела са здзіўленнем і дакорам.

— Вінцэсь! Вы заўсёды былі вельмі далікатным, выхаваным хлопчыкам. Не варта цяпер…

Ён перабіў:

— Я не ранейшы хлопчык, Вальжына! Я даўно вырас. Прайшло шмат гадоў ад тых часоў, калі мы гулялі ў яшчара і скакалі ў адрыне ў сена. І цяпер, калі смерць узяла нас у свой карагод, я хачу вам сказаць…

Вальжына ўзнялася, нібыта спалоханая птушка.

— Мне час ісці. Марку, магчыма, пагоршала…

Але Вінцэсю было ўжо ўсё роўна — наколькі ён далёка пяройдзе за мяжу згаданай выхаванасці. Ён затрымаў Вальжыну за руку.

— Выслухайце мяне… Хто ведае, можа, гэта апошняя магчымасць? Тая шкляная жабка… Вы, напэўна, здагадаліся — яе прынёс я. Я прынёс бы вам і сэрца цмока, калі б вы таго зажадалі. І дастаў бы ўласнае сэрца, калі б гэта дало вам задавальненне. Паслухайце... Я скажу вам сваю ганьбу. Я прыходзіў з той няшчаснай жабкай уночы на Васіліска, у салаўіны чацвер. Я быў у садзе, калі… калі вы былі не адна. Прабачце мне — гэта атрымалася выпадкова.

Дзяўчына рэзка адхіснулася ад Вінцэся і закрыла твар рукамі. У шкло веранды ўдарылі цяжкія кроплі адліжнага дажджу.

Вінцэсь стаяў, апусціўшы галаву. Ён разумеў, што ўсё для яго скончана, і адчуваў дзіўную пустэчу ўнутры — і нават палёгку ад гэтай пустэчы.

— Так, даравання прасіць бескарысна. Проста ведайце — я не менш, чым вы, пагарджаю сваім учынкам, няхай і ненаўмысным. Але я ніколі не адмоўлюся ад… ад таго, што вы падарылі мне.

Дзяўчына неўразумела зірнула на Вінцэся. Той цвёрда сустрэў яе пагляд.

— Вы падарылі мне, не ведаючы самі і, вядома, не жадаючы, найвялікшае шчасце, якое можа быць дадзена на зямлі...— і раптам невясёла ўсміхнуўся.— Ну трэба ж… У самыя важныя моманты жыцця чалавеку ўласціва выказвацца патэтычнымі мёртвымі словамі. Ці гэта я адзін такі недарэка?

Відаць, яму не ўдалося схаваць сваю пакуту. Вальжына ўважліва паглядзела на яго, раптам куточкі яе вуснаў уздрыгнулі, і яна прытулілася лбом да пляча Вінцэся.

— Бедны...

Хлопец, баючыся варухнуцца і спудзіць раптоўную ласку, нават дыханне стаіў, асцярожна, лёгка-лёгка крануў рукой чорныя валасы… Якая яна маленькая… Яму да падбароддзя. А ён жа так доўга быў ніжэй і глядзеў на яе знізу ўверх — як на каралеўну!

Дзесьці чуліся ўстрывожаныя галасы, стук капытоў аб скаваную начным марозам зямлю. Грукала брама, брахалі сабакі… Вінцэсь не заўважаў нічога.

Потым цені кінуліся некуды ўгару, у расчыненыя дзверы веранды ўварвалася з пакоя святло. У праёме вырасла дзіўная застрашлівая постаць — ростам пад бэльку, вывернуты кажух, чорныя калматыя валасы і барада, і — глыбокі шнар праз увесь твар.

Вальжына павярнула галаву…

Вінцэсь ледзь не паваліўся — так моцна яна яго адштурхнула, каб з крыкам упасці ў абдоймы госця.

Вінцэсь нязграбна прыціскаў да сябе ваўчынае футра, скінутае з плеч Вальжыны. Хлопец зноў чуў тое, што не прызначалася для чужых вушэй. Але цяпер гэта не магло прайсці для яго беспакарана. Вочы Ваўкалака глядзелі паўзверх галавы дзяўчыны, што плакала на яго грудзях, халодным гневам. А з-за пляча Ваўкалака выглядаў чалавек у магерцы, і ўсмешка ягоная была грэблівай і ненавіснай.

Зоры не маглі вызірнуць з-за чорных, цяжкіх, як зямля, хмараў, таму не відаць было нават, дзе канчаецца лес і пачынаецца неба.

Мужчыны стаялі ля весніцаў, і іх маўчанне было такім жа цяжкім, як адліжныя хмары.

— Мартын, клянуся, калі б я ведаў, што ты жывы,— зрабіў бы ўсё, каб вызваліць. Нават калі б для гэтага спатрэбілася напасці на пастарунак.

— Гэта зрабілі за цябе іншыя,— голас Ваўкалака гучаў спакойна, але ў ім было столькі ж цеплыні, як у начным паветры.

— Але Вальжына паказвала кулю…

— Прайшла навылёт, праз шыю. Я жывучы.

Вінцэсь ледзь не плакаў ад гэтай несправядлівай халоднасці. А Мартын тым часам кінуў пытанне, як пальчатку:

— Ты кахаеш яе?

Вінцэсь горда ўскінуў галаву.

— Кахаю.

— Вось як…— Ваўкалак варочаў словы, нібыта камяні.— Я заўсёды казаў, што яна мусіць сустрэць сваё шчасце. Не думаў толькі, што — вось такі хлапчыска… Калі ты падманеш яе, будзеш мець справу са мною.

— Ёй патрэбны не я,— голас Вінцэся быў цвёрды.— Яна ніколі не кахала мяне. Я для яе толькі, як ты кажаш, хлапчыска. І калі ты думаеш, што я з гэтае нагоды здольны ўтварыць гнюснасць, прыбраць шчаслівага суперніка, дык нам застаецца толькі схапіцца за шаблі. Будзе вельмі разумна. Калі ўлічыць, што збіраемся ісці ў смяротную бойку.

Мартын памаўчаў, потым загаварыў інакш, амаль як раней, падчас іхняга нядоўгага сяброўства:

— Я адчуваю сябе нягоднікам — што я магу ёй даць. Можа, найлепш для мяне было б сапраўды памерці.

— Можаш не верыць, але я рады, што ты жывы. І рады, што яна шчаслівая…

Мокры снег ударыў Вінцэся ў твар, нібыта гнаў прэч, у бяспечнае месца. Ваўкалак шчыльней захутаўся ў калматы кажух.

— Я веру табе. Ты — сын Антона Рашчынскага. Але ведай, што не ўсе да цябе добрыя. Прозвішча ваша — гэта як кляйно, хлопец. Антось з-за гэтага напакутаваўся. І табе давядзецца. Бо без мужыкоў мы гэтую вайну не выйграем. Паны з Нацыянальнага камітэта, нават калі гэта і разумеюць, абяруць лепш паразу, чым мужыцкі бунт. Да таго ж ім мрояцца тут крэсы Польшчы, а не вольная Беларусь. Па тры маргі зямлі за падтрымку інсургентаў — лепш, чым нічога. Але ці чуў ты, што ўлады збіраюцца заахвочваць сялянаў за дзеянні супраць паўстання? І павер, гэта будзе страшна — бо ўзнагарода возьмецца з маёмасці схопленага бунтаўшчыка. І больш, чым па тыя няшчасныя тры маргі!

Вінцэсь пахаладзеў. Так, гэта было б страшным ударам. Ягоныя сяляне вольныя, але ён усё яшчэ пан.

— Мартын! — з дома да іх бегла Вальжына.

Ваўкалак памкнуўся насустрач, і Вінцэсь палічыў за лепшае застацца на самоце. Але гэта не ўдалося. Проста з цемры выплыў цёмны сілуэт. «Лясныя браты» ўмелі ператварацца ў прывідаў.

— Думаеш, выкруціўся? — Чалавек у магерцы ўсміхаўся сабе ў вусы — нібы звер паказваў іклы.— І тады, хлапчанём, хацеў Ваўкалака забіць. І цяпер — толькі прыкідваешся бязвінным. Але Брацтва Ваўка не падманеш!

Вецер зусім ашалеў і сыпаў халодныя кроплі, нібы сейбіт зерне.

Вінцэсь сціснуў зубы.

— Такімі словамі не кідаюцца.

— А я не кідаюся словамі! — Вочы суразмоўцы аж бліснулі ў цемры.— Думаеш, калі я — у кажусе, дык ніхто? Я — шляхціц! Я — Марцэл Алейшчык з Бароўні! Няхай падчас апошняга перапісу нас абылгалі, перавялі ў аднадворцы — Алейшчыкі радавод вядуць ад Алелькавічаў. Я

гэта разумнікам з камісіі зброяй давёў. Каб не запазычыліся — мы б у маёнтку жылі, а не ў хаце на тры акны!

— Спачуваю, але я вас шляхецтва не пазбаўляў.

— Ты здраднік! З-за чорных вочак на душагубства пайшоў.

Кроў кінулася ў галаву хлопцу.

— Я не збіраюся выслухоўваць вашы паклёпы. Калі б мне не трэба было ў хуткім часе весці сваіх людзей у бойку, я змусіў бы вас адказаць за гэтыя словы. Але цяпер каштоўны кожны чалавек.

Марцэл здзекліва разрагатаўся.

— Каштоўны! Ты, вядома, каштоўны. Усіх загубіш. Узяць хаця б — што ў тваім атрадзе робіць малы Людвісар са сваімі блішчастымі пазурамі? Думаеш, мы паверым, што яблычак гэтак далёка адкаціўся ад яблынькі, што і галінку сваю не пазнае?

Сапраўды, трэба было пераканаць Стася хоць на час кінуць даглядаць пазногці. Ну каму дакажаш, што гэта проста бяскрыўднае дзівацтва, а не магнацкая фанабэрыя?

Вінцэсь прыгледзеўся — з цемры з'яўляліся іншыя постаці. Яшчэ двое… З атрада Ваўкалака ці не? Брацтва Ваўка — гэта не адзін атрад, гэта магутная старажытная сіла, да якой звярталіся па справядлівасць, як да апошняга суда, якая паліла маёнткі, змушала вяртаць пазыкі і адмяняць акрутныя загады.

Людзі Брацтва проста стаялі і моўчкі глядзелі, але Вінцэсь адчуваў, як ад іх сыходзіць нянавісць, нібыта жар ад распаленага каменя.

І раптам яго шчаку апёк удар.

З пабітай фізіяноміяй атрадам не камандуюць.

Вінцэсь ведаў, што гэта — найвялікшае і, магчыма, апошняе глупства ў яго жыцці. Але двубой прызначылі на заўтра, як дастаткова развіднее. Яны пойдуць у лес, нібыта на вывед, і калі адзін з іх не вернецца, можна будзе сказаць пра сустрэчу з раз'ездам казакаў. Вусаты Марцэл з усяе моцы намагаўся захоўваць рытуал — ну як жа, ён быў высакароднай асобай. Права выбіраць зброю — у таго, хто абражаны. Вінцэсь скарыстаўся з гэтага, каб прапанаваць шаблі: усёткі куля — гэта выпадковасць. Але, убачыўшы пераможную ўсмешку Марцэла, падумаў — ці не памыліўся.

— І глядзі, паніч, каб ніхто з твайго атрада не ўведаў пра нашы справы. А скажаш Мартыну — ганьба табе. Ён бацьку твайго любіў, і ты ў давер яму ўлез. Але мы табе не верым.

Мокрая цемрадзь паглынула постаці — яны не пайшлі ў маёнтак, да агменю, нібыта холад, цемра і макрыня былі іх сапраўдным домам.

Божа літасцівы, якое дурноцце! Ён, камандзір атрада, камандзір людзей, якія даверыліся яму, рызыкуе сваім жыццём з прычыны асабістай абразы! Хто заменіць яго ў атрадзе ў горшым — для Вінцэся — выраку? Напэўна, ляснік, Янук Вараўня — ён не шляхціц, але разважлівы і мужны і можа прымусіць слухаць сябе. А яшчэ ж трэба два секунданты… Да каго можна

звярнуцца? Тут мала, каб чалавек быў аддany паўстанню,— патрабуецца асабістая прыхільнасць да яго, Вінцэся.

Хлопец панура сядзеў у куце гасцёўні, прыхінуўшыся да сцяны. Вакол спалі на разасланых проста на падлозе пярынах і коўдрах інсургенты — ложкаў і пакояў у маёнтку было няшмат. Полымя каміна адкідвала чырвонае дрыготкае святло на сонных. На хвілю Вінцэсю зрабілася страшна — падалося, што ён бачыць поле пасля бойкі — з мёртвымі целамі. Іх прышласць?..

І хутчэй прагнаў здрадлівую мрою.

Бадай што, можна даверыцца Міхасю Валевічу. Сын гарнушкаўскага дзяка, вучыўся ў Вільні на грошы пана Антося. Цяпер — настаўнік у гарнушкаўскай школе. Ён, вядома, не будзе ўхваляць, але зробіць, што Вінцэсь папросіць. І нічога, што ён не дваранін,— Вінцэсь адпачатку сказаў сваім, што ў іх няма дваранаў і мужыкоў, ёсць паўстанцы і грамадзяне будучай вольнай Беларусі. А вось хто другі? Марка Рагманаў, вядома, не. Зміцер Шчамлінскі з упраўлення чыгункі? Разам вучыліся ў Пецярбургскім універсітэце, сын бацькавага сябра, шчыры, адважны… Таксама не, усхвалюецца, разгарачыцца, абудзіць у іншых падазрэнні… Выходзіла, што, акрым Стася Людвісара, няма да каго звярнуцца. Стасю, вядома, таксама не вераць. Яго ўдзел будзе выглядаць для тых падазрона… Але Вінцэсь пакажа, што чужыя падазрэнні не прымусяць яго адвярнуцца ад чалавека. Няхай будзе Стась… Той пойдзе за Вінцэсем, напэўна, нават у пекла. І дакараць не падумае, калі пачнуць пяты гарэць. Трэба паспець перагаварыць з ім, пакуль не паехаў на сустрэчу з Хрысцінай.

Агонь дарыў пакою сваё дрыготкае святло — усё, што мог аддаць, набліжаючы сваю халодную смерць. Як ціха… Толькі дыханне тых, што спяць. Вінцэсь падняў далонь і паглядзеў скрозь пальцы на полымя — у зменлівым прыцемку падалося, быццам скрозь скуру прасвечваюць косці, і паверылася, што гэта — рука мерцвяка, з якой спаўзае чорная плоць… Так гэта будзе калісьці і насамрэч. А ў таго, забітага ім, жаўнера рукі, напэўна, сашчэпленыя на грудзях, халодныя, васковыя рукі, і невідочнае войска тла ўжо трушчыць часцінкі плоці адну за адной, пакуль не ператворыцца цялесны футарал у нешта непазнавальнае. І лягуць косці забітага і забойцы, ахвяры і ката ў адну зямлю, і адна трава вырасце на іх. А душы? Ці сустрэнецца яго, Вінцэся, бесцялесная сутнасць з гэткай жа субстанцыяй забітага ім хлопца? Ці будзе між імі нянавісць, як і на зямлі? Але тады, з нязжытым злом,— **д з е** яны сустрэнуцца?

Не, у Вінцэся і зараз не было нянавісці. Толькі смяротная туга. А заўтра ён мусіць зноў адабраць жыццё — або кінуць пад ногі гонару сваё. Вінцэсь зірнуў у той кут, дзе віселі абразы,— у цемры відаць быў толькі маленькі агеньчык лампадкі, чырвоная кропка святла, што паказвала шлях, адзіны магчымы для выратавання, але цяпер гэткі далёкі і стромы для яго, што Вінцэсь ледзь не заплакаў ад самоты і ўласнай недасканаласці.

…Вусаты Марцэл падае на зямлю, і жыццё вокамгненна пакідае яго, нібы цяпло — дом, чые вокны адным сваім ільдзяным подыхам расчыніла бура…

Невыносна!

Юзаф зараз працытаваў бы нешта з Блажэннага Аўгусціна. …Людзі адчуваюць пакуты настолькі, наколькі паддаюцца ім. …Смерць — зло толькі ў залежнасці ад таго, што будзе пасля яе. …Чалавек пачынае паміраць з моманту нараджэння… дакладней, ён жыве і памірае адначасова.

Чаму словы мудрасці бяссілыя менавіта тады, калі перастаеш спадзявацца на ўласны недасканалы розум?

Нечая постаць бязгучна праслізнула ў пакой, на хвілю замерла, узіраючыся ў цемру, і скіравалася да Вінцэся, што сядзеў, асветлены агнём каміна.

— Вальжына! Вы — тут?!!

— Я ўмею пагарджаць звычаямі, калі камусьці з вартых дрэнна,— прашаптала яна і прысела побач, таксама прыхінуўшыся да сцяны.

Вінцэсю здавалася, што яго сэрца б’ецца так гучна, што зараз пабудзіць усіх.

— Я не хачу, каб вы пакутавалі,— прашаптала дзяўчына.— Вы выратавалі майго брата. Майго бацьку. А я нічым не магу за гэта аддзячыць.

Дзіўна — але яе твар у прывідным святле здаваўся не злавесным, як усё іншае, а прыўкрасным.

— Вы? Аддзячыць мне? — Вінцэсь пастараўся стрымаць хваляванне.— Вы нічога мне не вінны. Гэта я бясконца ўдзячны вам… За тое, што вы ёсць. Ну вось, зноў прагучала пафасна. Давайце так: мы — сябры, і ніякія рахункі між намі нядзейсныя. Я рады, калі вы шчаслівая,— і ўсё.

Вальжына маўчала, але Вінцэсь чуў яе ўсхваляванае дыханне — нібыта бегла пад гару. Нарэшце яна лёгка і хутка — ён нават не паспеў асэнсаваць — дакранулася цёплымі вуснамі да яго лба.

— Вы добры…

І знікла — гэтак жа раптоўна, як і з’явілася.

І толькі пасля прыйшла здрадлівая думка — пацалавала ў лоб, як нябожчыка.

Што за пошасць у галаву лезе — ну чаму чалавек не ўладны над сваімі думкамі!

І Вінцэсь прымусіў сябе заснуць, дакладней, упасці ў кароткае забыццё, як у палонку.

А дзень быў здзекліва сонечны. Але ад чыстае сонечнае ўсмешкі снег ператвараўся ў брудную, непаглядную калатушу, і цёмны твар зямлі вызіраў праз дзіркі ў белым саване зусім не ветла, і не хацелася быць пакладзеным у гэтае чорнае, вільготнае рэчыва.

Месца для двубою прызначылі загадзя. Тут сапраўды было сушэй, магутныя ліпы паўсталі вакол паляны на варце. Побач — маленькая напаўразбураная капліца, магіла Вінцэсевага прадзеда-чарнакніжніка. Добрае месца, каб памерці.

Стась перарывістым ад хвалявання голасам згодна звычаю прапанаваў ворагам памірыцца.

Вінцэсь, стараючыся, каб гэта не прагучала слабасцю, прамовіў:

— Я згодны забыць учарашнюю недарэчнасць. Або — пачакаць да канца ваенных дзеянняў. Наша жыццё належыць Айчыне.

Марцэл злосна ўсміхнуўся ў вусы:

— Я не магу пакідаць здрадніка жывым. Я дзесяць гадоў гуляю са смерцю і жывы толькі таму, што ведаю, каму верыць, а каго адразу знішчаць.

Міхась Валевіч, другі Вінцэсеў секундант, невысокі, хударлявы, з непрыгожым інтэлігентным тварам, абвёў усіх разумнымі цёмнымі вачыма, звужанымі, нібыта ад пагарды да гэтага відовішча.

— Ну што, у такім разе пачынайце, панове, сваю «высакародную» справу.

Марцэл адсалютаваў шабляй — так, ён сапраўды выдатна валодаў халоднай зброяй. Лязо мільгала маланкай. Вінцэсь скрыжаваў сваю шаблю са зброяй праціўніка. І сустрэў пагляд чорных, як сама нянавісць, вачэй.

— Ты яшчэ за свайго дзеда Лявонція адкажаш, гадзёнак. Твой дзед бедную шляхту ў мужыкоў запісваў.

Лёзы кідаліся адно на аднаго, як змеі. На белых кашулях ворагаў усё больш распаўзалася чырвоных плямаў. А брудная каша пад нагамі хлюпала зусім не рамантычна, Вінцэсь ужо некалькі разоў ледзь не ўпаў, паслізнуўшыся. Смешна атрымаць смяротны ўдар, прычынай якому — бруд пад нагамі.

— Спыніцеся! Неадкладна! Гэта загад! — Нехта бег да месца двубою, падаючы, падымаючыся, і крык быў такі адчайны, нібыта той чалавек расставаўся з жыццём. Марцэл расчаравана застагнаў і з падвойнай ятрасцю кінуўся на Вінцэся.

— Спыніцеся! Загад ваеннага паўстанцкага камітэта! Вы арыштаваныя за парушэнне дысцыпліны!

Некалькі чалавек выбегла на паляну. Наперадзе — дзяўчына, з растрапанымі залатымі валасамі, у пясцовым футрачку і калісьці светлым раброне, ушчэнт заляпаным унізе гразёю,— відаць, уладальніца не раз падала на калені ў гэтае разводдзе. Хрысціна?

За дзяўчынай рухаліся змрочны волат у вывернутым кажуху і каржакаваты невысокі малады чалавек з нервовым разумным тварам, які гарэў ад гневу і стомы.

— Кастусь! Адкуль ты тут? — вырвалася ў Рашчынскага.

— Заехаўся праверыць, як вы гатовыя да бойкі,— скрозь зубы прагаварыў Кастусь.— І бачу, што на ўсе застаўкі ідзе падрыхтоўка.

Марцэл з сілай уторкнуў шаблю ў зямлю і закрычаў на Вінцэся:

— Ганьба! Ты ж слова даваў, панічок, што нікому не скажаш! Але што чакаць ад здрайцы…

— Гэта я вінаватая! — задыхана прамовіла Хрысціна, спалохана кідаючы позірк на чырвоныя плямы на Вінцэсевай кашулі.— Стась сёння раніцай прызнаўся мне, што вы тут задумалі.

— Я даваў слова, што не скажу нікому з атрада! А мая сястра — не з атрада! — нечакана цвёрда патлумачыў Стась.— І я не прасіў яе ўмешвацца!

— Дык што, трэба было чакаць, каб загінуў цудоўны чалавек з-за дурнога вашага гонару? — Хрысціна рэзала голасам паветра, як лязом шаблі.— Я не шкадую, што так зрабіла!

І нават ножкай тупнула ў пацверджанне, падняўшы брудныя пырскі.

Кастусь сурова глядзеў на Вінцэся.

— Я думаў, ты сур’ёзны чалавек. Табе атрад даверылі… Як вярхоўны камісар загадваю — аддай мне шаблю.

Вінцэсь паслухмяна працягнуў сваю зброю. Кастусь перавёў позірк на Марцэла — той, аднак, толькі пругка адскочыў, як сапраўдны лясны звер ад пасткі, і ашчэрыў зубы.

— А я табе шаблю не аддам, камісар. Брацтва Ваўка не пад тваёй рукой. Мы паноў і паночкаў рэзалі і рэзаць будзем. Вы, чысценькія, у лес прыйшлі, ахвяраваліся… А мы ў ім жывем!

Ваўкалак цяжка паклаў руку на плячо Кастусю, які ўжо гатовы быў выбухнуць гневам.

— Я сам разбяруся. Гэта мая справа.

«Лясныя браты» пад суровым позіркам атамана панурыліся, ды Вінцэсь разумеў — яны скарацца, але не зменяцца. А вось што было непрадказальным — дык гэта Хрысціна. Дзяўчына незалежна вы-прасталася пад цікаўнымі позіркамі.

Вінцэсь падышоў:

— Навошта вы гэта зрабілі?

Яна толькі зірнула, і ў яго сціснулася сэрца: хіба заслугоўвае ён, каб на яго так глядзелі? Нібыта выпадкова злавіў у рукі кволае птушанё: выпусціш — загіне, і гадаваць няма як... А Хрысціна, чырванеючы, парывалася перавязваць яго раны (Ну што за глупства? Звычайныя драпіны…), нешта тлумачыла наконт падзей апошняга часу. Але ж як яна, далікатная паненка, не збаялася, здолела пераканаць суровых мужчын, прывесці іх да месца двубою?

Вінцэсь з удзячнасцю ўзяў яе за руку.

— Хрысціна, вы — цуд.

— Я не цуд, я аматарка цудаў. Напрыклад, у слоіках са спірытусам.

І засмяялася — як промні з неба пасыпаліся. Каб у Вінцэся было хоць трохі клёку, ён закахаўся б у гэтую светлавалосую фею… Але ён змог толькі яшчэ раз у думках назваць сябе апошнім дурнем.

І тут яна з крыкам штурханула яго ўбок…

Драўляная страла, кароткая, нібы апошні ўздых, уторкнулася ў чорную зямлю.

— Якой халеры?..— зароў Ваўкалак.

Адзін з яго людзей, секундант Марцэла, пануры светлавалосы хлопец, высокі і няўклюдны, хаваў лук-самастрэл, што на хвілю паказаўся з-пад крыса. Марцэл падляцеў да стралка і адвесіў яму поўху.

— Ты! Гаўрык няшчасны! Гэта не па правілах! Дурны лапаць! Тут не вясковая тузаніна — двубой, шляхецкая справа!

А Вінцэсь, як скамянелы, глядзеў на таго, хто страляў,— той упарта адводзіў светлыя, нібы выцвілыя, вочы без аніякага выразу… І не трэба было пытацца, удакладняць — падсвядома ведаў: ад стралы з гэтага самага лука загінуў бацька.

Вінцэсь прысягаў не помсціць… Але таго, што адбывалася, было ўжо занадта — у галаве круцілася неразумнае: «За што? За што?» Нібыта хоць калі-небудзь для нянавісці і забойства абавязкова мусілі быць падставы.

І хлопец з лукам раптоўна кінуўся бегчы ў гушчар, расплёхваючы ботамі мокры снег і мокрую зямлю.

Прынамсі, сёння ўсе засталіся жывымі. Каб ісці далей па дарозе любові, нянавісці і — смерці.

…У дзень нараджэння дарогі дрыжаць нябачныя зоры,
Адной давядзецца згаснуць, другую возьмуць з сабой
Заместа лампады людзі, што мовай звяроў гавораць,
Што мовай дажджоў гавораць і зброі мовай нямой…
У дзень нараджэння дарогі ніхто прадказаць не можа
Дабра і зла суадносіны, што ў час народзіць яна.
А людзі стамлёна тупаюць, бяздомныя ў доме Божым,
І топчуць траву высокую, і лёс вырашаюць наш.

**11**

З чорна-белай рэпрадукцыі не вельмі добрай якасці на Паліну паглядала вялізнымі цёмнымі вачыма Аляксандра Смірнова-Расэт, былая імператарская фрэйліна. Адпаведна густам часу твар быў вытанчана-мілы, па-анёльску рахманы. Доўгая шыя, белыя плечы — як парцэлянавая ваза. Маленькія, бы ў дзіцяняткі, рукі складзеныя адна паўзверх другой стамлёнымі крыламі.

А ва ўспамінах пра гэтую музу расійскай літаратуры кажуць, нібыта была яна страшэнна нервовай, ледзь не істэрычкай. І пад старасць ссохла і зжаўцела.

Паліна прыдзірліва паглядзела на сябе ў люстэрка. Што Валянцін знайшоў падобнага? Ну, вочы цёмныя… Але ж Паліна не смуглявая — наадварот. Скура белая, як у праўдзівай шляхцянкі, ніякі загар не бярэцца. Ці скульптар меў на ўвазе нервовасць? Паліна нават пачырванела, згадаўшы, колькі разоў выявіла ў прысутнасці віленскага знаёмца гэтую якасць. Што ж, цяпер невядома, калі яшчэ надарыцца такая магчымасць. Светлакосая «ўладальніца» звезла сваю «маёмасць» да Вострай Брамы, а скульптар, вядома, самавольна ніколі нікуды не адлучыцца. Божа, скрушліва каторы раз падумала Паліна, яна ж нават нумара тэлефона яго не ведае!

Хіба і без таго мала, па чым сумаваць? Дзяўчына загарнула важкую пыльную кнігу мемуараў Смірновай-Расэт, купленую выпадкам у букіністычнай краме. Аксана пасля таго здарэння з Артуравай папкай нібыта вырашыла паставіць крыж на знаёмстве з Палінай. Патэлефануеш — адзіны адказ: «Прабач, няма часу…» Чым Паліна гэтак яе пакрыўдзіла? Атрымалася — засталася без сардэчных сябровак. Як з’ехаў Стась — і пачалося… Адна перастала запрашаць на сямейныя імпрэзы, неяк нават патлумачыла: «Прабач, у нас усе — парамі, а ты адна. Няёмка…» Другая, наадварот, выявіла да Паліны палкі інтарэс. Таксама з неўладкаваным лёсам, але нашмат старэйшая, гэткая рафінаваная пані-навукоўка. Пачала апекавацца беднай развядзёнкай. Вось ёй Паліна выгаворвала сябе, як на споведзі! Што ж, наша шчасце — у нашых уласных руках! Паводле пераканання апякункі, Паліне не хапала наступнага: заставацца сціплай дзяўчынкай, але пры гэтым навучыцца падаваць сябе. Ну нельга ж гэтак не цаніць уласную прыгажосць! Як ты апранаешся, як ходзіш, як глядзіш на мужчын! Ніякай сексапільнасці.

Якім чынам гэтыя патрабаванні спалучыць — Паліна не ведала. І не спрабавала. А пачула аднойчы выпадкова, як апякунка абмяркоўвае ейныя праблемы са знаёмымі, і не надта каб добрымі: «Бедная Поля, столькі часу без сексу. Я хвалююся — яна, відаць, фрыгідная». Падапечнай зрабілася так брыдка, што сяброўства растала, як цукар у кіпні.

Так што патэлефанаваць і паплакацца не было каму. А тут яшчэ зноў пайшлі чуткі, што гімназію зачыняюць. Ці там рэфармуюць, рэарганізуюць — што ў прынцыпе адно і тое. Вальнадумства ў навучальных установах на гэтай тэрыторыі не віталася пачынаючы ад скасавання Вялікага княства Літоўскага, у якім яшчэ зрэдзь даравалася адраджэнцкае віраванне думак...

Праўда, Паліна асабліва не давала веры прыкрым чуткам — не першы раз, абыдзецца. Што галаву тлуміць сабе на вакацыях?

Вось тое, што пра жабак больш нічога не даведалася,— кепска. Нешта надта зацямніў Вінцэсь Рашчынскі. Мо проста быў такі па характары — асцярожлівы, падазроны?

Паліна дастала партрэт Рашчынскага, угледзелася ў рашучыя рысы твару… Бровы сыходзяцца на пераноссі, пагляд вачэй прамы, мужная

складка вуснаў… Такі чалавек хутчэй пойдзе на смяротны двубой, чым стане вычэкваць бяспечнай помсты. Чамусьці Паліна ўзяла кнігу Смірновай-Расэт і таксама разгарнула на партрэце… Вось цікава, як бы ён паставіўся да гэтай прыгажуні? Ці падабаліся яму такія — чарнавокія, худзенькія, з маленькім горкім ротам?

Паліна правяла кончыкамі пальцаў па партрэце Рашчынскага. Якая мужная прыгажосць… Як бы яна сама з ім сустрэлася? Паліна пачала разважаць, нібыта сапраўды збіралася на прызначанае праз якую гадзіну спатканне. Можна было б надзець доўгую сукенку з цёмна-зялёнага лёну, з белым вязаным каўняром… Напэўна, чалавеку 19 стагоддзя яна падалася б цалкам прыстойнай. Валасы сабраць у вузел… Вось так… Не, трэба напачатку заплесці ў косы. І чорныя туфлі на шнуроўцы. І пальчаткі... Не, не дапаможа. Адразу пазнаюць плебейку. «Літоўская гаспадыня», кніга, якой карысталіся ўсе дамавітыя шляхцянкі 19 стагоддзя, сцвярджае: каб рукі былі далікатныя і белыя, пальчаткі трэба насіць з маленства, увесьчасна, нават спаць у іх. А дзяўчаткам пальчаткі надзяваць цеснаватыя, каб не даваць рукам надта расці. І абутак мусіць быць цесны, трохі задоўгі ў насах — каб ножка расла вузенькая. А яшчэ гарсэты ўспомніць, на шнуроўцы, з кітовым вусам… Пакутніцкае жыццё было ў прабабуль! Затое ні ў кога няма сёння такіх далікатных ручак…

А на якой мове загаварыць да пана Рашчынскага? Па-французску, каб адразу вызначыць прыналежнасць да пэўнага кола? Дык французскай Паліна не ведае. Па-руску? Наўрад ці гэта найлепшы зварот да інсургента, які змагаецца супраць Расійскай імперыі за незалежнасць, у тым ліку і культурніцкую. Па-польску? З гэтым лягчэй, але з вычытанага вынікала, што Рашчынскі быў сярод тых нешматлікіх, хто абараняў ідэю Беларусі, незалежнай і ад Масквы, і ад Варшавы.

Значыць, па-беларуску? Як яны віталіся? Проста — «Добры дзень»? Не, як яна магла забыць! У паўстанцаў было сваё прывітанне, па якім пазнавалі аднадумца: «Каго любіш?» — «Люблю Беларусь!» — «Дык узаемна!»

Нешта знаёмае… Дзесьці Паліна нядаўна чытала гэтую фразу… У дакуменце? На помніку?

Вось няздара! Чаму ёй адразу не прыйшло ў галаву? «Qvis amas Amo». «Каго любіш? Люблю…» Гэта ж надпіс на надмагіллі Вінцэся Рашчынскага! І цяпер зразумела, які мусіць быць адказ: «Беларусь». Як гэта прагучыць на лаціне? «Albarutenia».

Разгадка ўвесь час знаходзілася перад вачыма! Паліна ліхаманкава вывернула шуфляду пісьмовага стала. Вось! Аркушык з надпісамі на жабках, з якіх Паліна спрабавала нешта скласці. «Alb» і «te». Часткі слова «Albarutenia». Цяпер зразумела, што на астатніх дзвюх жабках мусіць быць напісана «aru» і «nia». Арцікава жабка — першая, а віленская — трэцяя. Таямніцу мусіў адкрыць той, хто ведае адказ! Той, хто любіць Беларусь!

Задума прыгожая. Паліна ледзь не расцалавала каменных жабак ва ўсмешлівыя пыскі.

Пра адкрыццё абавязкова належыць камусь распавесці! Паліна хуценька скінула зробленыя са старых джынсаў шорты і ўлезла ў спадніцу, доўгую, бы катрыначная кадрыля. На галаву — карункавы капялюшык… І, вядома,— у «Капялюшык»! Якраз рэпетыцыя, маці там і Сымон Пятровіч.

Лесвічная пляцоўка, дзе месціліся паштовыя скрыні, была ў замеці парваных агітак за кандыдатаў у нейкі орган і аркушыкаў з прапановамі купіць цукар, муку, пахудзець або набыць цудадзейную касметыку. Паліна ледзь не ўпала, паслізнуўшыся на ўлётцы з нечай глянцавай фізіяноміяй. Позірк мімаволі слізнуў па іхняй паштовай скрынцы… У шчыліне нешта бялела. Канверт! Вось табе навіна…

Паліну ўсё яшчэ хвалявала такое — нехта даслаў ліст! Хіба не ў гэтым прыцягальнасць ліставання: кожны раз — падарунак і таямніца. Сёння замест гэтага — «мабільнікі» і Інтэрнет. А між тым, атрымліваючы сапраўдны ліст, ты ведаў, што нехта прысвяціў табе, прынамсі, паўгадзіны свайго часу. Неверагодная шчодрасць для сучаснага чалавека.

Канвертаў аказалася ажно два. Выгляд аднаго з іх, падоўжанага, з дзесяткам каляровых марак, змусіў сэрца на імгненне замерці, быццам ад падзення з вышыні. Паліне Генадзьеўне Ведрыч… Зваротны адрас — Каліфорнія, ЗША. Почырк Стася…

Паліна дрыготкімі пальцамі раздзерла канверт, нібы галодны чалавек — абгортку, у якой выратавальная ежа. Ажно ашмёткі закружыліся матылямі.

Ліст гэтак трымцеў перад вачыма, што адразу Паліна не магла прачытаць ні слова. Потым з мітусяніны пачалі праступаць абрысы Стасевага почырку. Стась у сваёй звычайнай дзелавой манеры паведамляў, што ўладкаваўся някепска, ёсць перспектывы на сталую працу. Зняў невялікі, але прыстойны дамок на шэсць пакояў, набыў машыну… І не хапае ў гэтым раі толькі Евы. Вядома, яе, Паліны. Стась выказваў стрыманае шкадаванне, што гэтак паспяшаўся скасаваць адносіны, але зараз гатовы гэта выправіць. Хутка прыедзе, яны з Палінай зноў возьмуць шлюб, і цемнавокая беларусачка ўрэшце апынецца ў сонечным штаце Каліфорнія.

Відаць, знайсці сярод амерыканак дурніцу, якая будзе, па-першае, шчыра ім захапляцца, па-другое, падтрымліваць філасофскія размовы і яшчэ штодзень гатаваць улюбёныя галубцы, Стасю не ўдалося.

Што рабіць? Парваць гэты «крык незадаволенае мужчынскае душы»? Усё роўна нічога шляхотнага не атрымаецца. Або… Кінуць усё і — да спрадвечнага жаночага шчасця?

Паліна, як у сне, выйшла з пад’езда, на хаду нязграбна расшпільваючы сумачку і запіхваючы ў яе канверт…

Ды іх жа было два! Хіба згубіла ў пад’ездзе?

Другі канверт ляжаў паўзверх россыпу рэкламнага смецця. Таксама нібыта з-за мяжы… Цікава, ніякага зваротнага адраса. І ўнутры — толькі аркушык з нумарам сотавага тэлефона. Ды ініцыялы: В. Н. Ч. «Вам невядомы чалавек», як велягурыста ён аднойчы прадстаўляўся.

Усё-ткі Валянцін не хоча знікаць з яе жыцця!

У «Капялюшыку» спрабавалі выкраіць з чэхаўскага сурдута пляжнае бікіні. Чэхаў змрочна супраціўляўся. Пакутлівыя фразы герояў ламаліся з сухім трэскам блазенскага смеху. Паліна паназірала ў прасвет кулісаў, як маленькі артыст з аблiччам пакрыўджанага спаніэля ўскарасквaецца на вялізнае крэсла, што мусіла сімвалізаваць устаялы пракляты побыт.

— Энергичней, Митя! Влезай на него с ненавистью!

Паліна мімаволі ўспомніла, што ў Вялікім княстве Літоўскім артыстаў называлі глумцамі.

— Вы да мяне? — пачуўся голас за спіной. Сымон Пятровіч быў, як і раней, у чорнай майцы і джынсах, мускулісты, падцягнуты, нібы персанаж амерыканскага «баевіка», чужародны ў легкадумным «капялюшыкавым» царстве.— Пойдземце ў мой пакой.

Былы падводнік доўга круціў у руках аркушы з Палінінымі запісамі, а Паліна, як зачараваная, назірала за змейкай дыму, што вырастала з трэсачкі з нейкімі ўсходнімі зёлкамі. Змейка танцавала ў паветры, рассяваючы нетутэйшы п’янкі водар.

— Усё яшчэ далёка ад разгадкі.— Сымон Пятровіч дастаў з паліцы стос геаграфічных картаў, зашмальцаваных, са шматлікімі лініямі, праведзенымі алоўкам.— Гэта тычыцца Гарнушак, што каля Наўя?

— Так…

Штурман задумліва вадзіў тупым канцом алоўка па паперы.

— Фактычна, маршрут можа пачынацца дзе заўгодна… Дапусцім, вось ад гэтае каплічкі… Значыць, канчацца адрэзак мусіць тут, дзе дамы. Далей — прапушчаны кавалак, і трэці вядомы нам адрэзак можа размяшчацца вось у гэтай частцы… А яшчэ ж мусіць быць чацвёрты! Не, без іншых дзвюх жабак і ведання, адкуль пачынаць вымярэнне, нічога ў нас не атрымаецца. Тут бы яшчэ карту дзевятнаццатага стагоддзя…

— Магчыма, я знайду ў архіве.

Сымон Пятровіч пільна зірнуў у цёмныя вочы дзяўчыны.

— Колькі вам гадоў?

Паліна сумелася, але пытанне гучала сур’ёзна.

— Дваццаць восем.

— Вы не замужам, так? І дзяцей няма?

Паліна пачала злавацца, адчуваючы, што намаганнямі маці яе асабістыя праблемы ведае ўвесь «Капялюшык». Штурман адмераў скупую белазубую мужчынскую ўсмешку ў якасці прабачэння.

— Не злуйцеся, проста вы гэтак апантана заняліся скарбашукальніцтвам, як могуць толькі самотныя жанчыны. У нашым турклубе я такіх бачу

кожную суботу. Выходзяць прыкладныя бабулькі на пенсію — і давай у паходы, прычым суперцяжкія, што й здаровыя мужыкі не наважваюцца. Вязанне ды кампоты — убок, хатуль за плечы — і шукайце кабету, што ўцякае ад цішыні ў доме.

Нічога сабе параўнанне!

— Самота — натуральны стан чалавечае душы,— холадна прагаварыла Паліна.

— Гэта ненатуральны стан.— Штурман крануў бясплоцевую змейку дыму, і яна распалася на дробныя павуцінкі, што ўсё гэтак жа ўпарта імкнуліся наверх. Паліна са здзіўленнем заўважыла, што ашмёткі дымнага павуціння павіслі па ўсім пакоі, нібыта часткі дэкарацыі невядомага спектакля. Вочы Сымона Пятровіча ўзіраліся праз іх, як у марскую далеч.— Каб чалавек беспакарана быў самотны, ён мусіць мець трывалую сувязь з нечым, вышэйшым ад людскога бытавання. У мяне такой сувязі няма. На жаль. Як я ні стараўся.

Паліна насцярожана зірнула на суразмоўцу. Пэўна, аматар медытацый ды ўсялякае ўсходняе лухты. Вунь і зёлкі паліць, ад злых духаў, відаць. І дыванок у куце пакоя дзіўны. Не дыванок — хутчэй скураны матрац. Для практыкаванняў, ці што?

— Трэба проста рабіць сваю справу,— прагаварыла Паліна фразу, якой гіпнатызавала сябе ўжо колькі гадоў.

— Выходзьце за мяне замуж.

Гэта што, жарт такі? Падводнік, аднак, пазіраў вельмі сур’ёзна. І вельмі спакойна.

— Прапанову такую раблю другі раз у жыцці, словамі не гуляю. Не сумнявайцеся.

Паліна не знайшла нічога лепшага, як па-дурному рагатнуць і зараз жа збянтэжыцца. Штурман скрыжаваў рукі на грудзях і адкінуўся на спінку крэсла, як прафесар, што скончыў прымаць іспыты.

— Мне трыццаць сем. Дзевяць гадоў розніцы між намі, я лічу, самы раз. Абяцаю, што жыць са мной вам будзе цікава. Я зразумеў вашы густы і прыхільнасці… Калі вас непакоіць матэрыяльны бок — у мяне трохпакаёўка-«сталінка». Спатрэбіцца — і грошы зарабіць магу. Проста кіруюся ў побыце прынцыпам мінімалізму.

— І я адпавядаю гэтым вашым мінімальным запатрабаванням? — да агаломшанай Паліны нарэшце вярнулася пачуццё гумару.

— Вы — вяршыня майго жыцця,— сур’ёзна прамовіў Сымон Пятровіч.

Адзін прызнаецца, што ў Амерыцы няма ёй замены, другі ўважае за вяршыню… І ўсё ў адзін дзень. Пасля трох гадоў адзіноты. Адмысловы іспыт з усходняй прыпавесці. Толькі і не хапае трэцяга прэтэндэнта на сэрца прынцэсы!

— Прабачце, Сымон Пятровіч, але…

— Мне было б прыемна, калі б вы называлі мяне проста Сымонам.

— Добра... Сымон… Вы ж разумееце, што пасля адной-дзвюх сустрэч лёс не вырашаецца.

— Чаму ж не? — нявесела ўсміхнуўся штурман.— І адна-адзіная сустрэча можа цалкам перамяніць жыццё. Я ведаю. Для сябе я ўсё вырашыў адразу, як вас убачыў. Рашэнне маё нязменнае. Колькі трэба будзе чакаць, каб наважыліся вы,— не мае значэння. Я ўмею чакаць. Вырас у паляшуцкім мястэчку, дзе сланечнікі — як дрэвы і нават рэчкі няма, а марыў — пра мора. Патанаў у свеце аповедаў Грына… Ён — Грынеўскі, сын сасланага з Беларусі паўстанца… І я — Грынеўскі.

— Сваякі?

— Магчыма, далёкія. Туга па Зурбагане і белых ветразях перадаецца генетычна. Чатыры разы паступаў у мурманскую мараходку. З мяне смяяліся. Гаварылі, што я малы і слабы… Я трэніраваў цела, як непаслухмянага сабаку, я загартаваўся да неверагоднага... І мора атрымаў.

— Цяпер хочаце атрымаць мяне? — Паліна ўсё старалася перавесці размову на жарт.

Штурман правёў рукой па кароткіх валасах.

— Мора мелася стаць маёй магілай — а гэта найлепшая магіла, яе ніхто не зганьбіць. Але я, дзівак, хацеў жыць — і выжыў. Мы з ім рассталіся назаўжды, як былыя дуэлянты, загойваючы раны… А потым мяне амаль смяротна параніла зямля… Вы — іншая. Фрэзі Грант, дзяўчынка, якая ідзе па хвалях праз цемру, проста таму, што не верыць у прорву пад нагамі. Я буду чакаць. І пакуль вы не прыйдзеце да мяне, на гэтую тэму больш размаўляць не будзем. Дык вось, што тычыцца Гарнушак… Пастарайцеся знайсці старую карту тае мясцовасці. Добра было б, каб скульптар далучыўся, і з’ездзім, параспытваем на месцы.

Трэба ж! Спакойны і дзелавы, нібыта і не рабіў вар’яцкай прапановы. Паліне нават зрабілася трохі прыкра, што ў гэтага легіянера не назіраецца прыкметаў сардэчнай пакуты. Затое не засталося і няёмкасці. Дагарэла і трэсачка з зёлкамі…

Сымон Пятровіч, ад сённяшняга дня — Сымон, праводзіў Паліну да выхаду з тэатра. Не хапаецца за локцік падтрымаць, не зазірае ў вочы…

На сцэне чуваць быў размераны грукат — зноў канкан! У п’есе Чэхава?

Хаця колькі можна дзівіцца з падобнага… Паліна горка ўсміхнулася. Яшчэ спытала б, чаму артысты, адыграўшы сцэну на беларускай мове, тут жа за кулісамі пераходзяць на расійскую. Відаць, не ведаюць гісторыі з першымі гастролямі тэатра Станіслаўскага за мяжой. Прыехалі наватары ў Варшаву, па іх разуменні — у расійскую правінцыю. А ім і кажуць: «Прабачце, тэатр ваш геніяльны, мы вас паважаем, але на спектаклі не прыйдзем. Чаму? А таму, што калі публіка пойдзе на рускамоўныя спектаклі, то польскія зараз жа выпхнуць са сцэны».

Сваё мусіць заўсёды быць даражэйшае за чужое, нават калі яно, чужое, лепшае — звычайная праграма захавання і жывёльнага віду, і чалавечае

нацыі. Хіба беларусы страцілі свой прыродны ахоўны код? Не, паступаюць жа ў іхнюю гімназію кожны год гарадскія дзеткі, не чуўшы ў бацькоўскай хаце роднай мовы. І пачынаюць гаварыць па-беларуску, і так натуральна, нібыта не вывучылі, а ўспомнілі!

А дома Паліна адразу набрала дасланы нумар тэлефона...

Валянцін з'явіўся назаўтра ўвечары. Як і папярэджваў, не адзін. У кавярні на плошчы Перамогі пад новенькай шыльдай «Бістро», што нагадвала пра ламаную мову напалеонаўскіх жаўнераў, за зялёным столікам узвышаўся скульптар, яшчэ больш засяроджаны, чым заўсёды, а побач з ім — светлакосая «ўладальніца» ў стракатым сарафане. «Уладальніца», на імгненне адарваўшыся ад вазачкі з узбітымі вяршкамі, холадна кіўнула Паліне. Затое Валянцін адразу нервова ўскінуўся, адсунуў для госці крэсла, запрапанаваў кавы… Паліна са здзіўленнем заўважыла ў ягоным позірку, які ён адразу ж адвёў, пакуту і нібыта нейкую просьбу… Баіцца, каб Паліна не выявіла перад Дзінай, што ведае пра яго далікатнае становішча? Доўгія светлыя валасы, перавязаныя матузком, і белая льняная кашуля, а асабліва задуменны твар сапраўды надавалі Валянціну падабенства з палонным воем. Не хапала Паліне яшчэ ўмешвацца ў чужыя сямейныя стасункі…

Няёмкую паўзу перарвала Дзіна:

— Валік расказаў мне пра вашы гістарычныя фантазіі.

Валянцін выціснуў няёмкае:

— Прабачце, Паліна, але… Але ў мяне не можа быць сакрэтаў ад Дзіны.

І аж збялеў — нібы ад застарэлага болю. Дзіна, аднак, толькі задаволена ўсміхнулася, не ўчуўшы нічога для сябе непрыемнага.

— Дык вось, я вашых спраў навуковых не разумею, але Валік надта цягнецца да радзімы продкаў. Апошнім часам яму давялося выконваць шмат заказаў. Замарыўся, бедны… — Гандлярка пяшчотна пагладзіла мужчыну па плячы.— Так што, пакуль у нас вольны час — паездзім па мясцінах ягонага дзяцінства… Тым больш мы на джыпе. Ну і пагуляеце там у следапытаў, калі ёсць ахвота.

Валянцін яшчэ раз кінуў на Паліну вінаваты позірк і пацалаваў руку сваёй «уладальніцы», як з прыкрасцю адзначыла Паліна, са шчырай удзячнасцю.

І чым скончыцца гэтая авантура, было гэтак жа невядома, як і тое, куды падзеліся падчас узвядзення фрагменты абеліска Перамогі, што ўзвышаўся перад вокнамі «Бістро».

У архіве ўдалося знайсці не толькі карту Наўеўскага павета ажно 1846 года, але і тагачасныя «Рэвізскія сказкі», перапіс насельніцтва. У Гарнушках налічвалася сто пяцьдзесят чатыры «дымы» — гэта значыць сялянскія хаты. А таксама касцёл з плябаніяй і школкай, цукраварня і кузня. Вёскай валодаў Антоні Рашчынскі, бацька Вінцэся. Не магнаты, але й не лапцюжная шляхта. Сярэдняй рукі паны. Паліну ўразіла адна дэталь:

прозвішча Чарапавіцкі сярод жыхароў. Значыць, Валянцін — прамы нашчадак гарнушкаўцаў, якія ведалі Вінцэся Рашчынскага? Цікава…

Вінцэсь Рашчынскі, паўстанцкі філосаф… Яны, навукоўцы, лёгка ўжывалі гэтае азначэнне, не задумваючыся, што — за ім. Так, Вінцэсь скончыў Пецярбургскі універсітэт як кандыдат філасофіі. Але што ён думаў пра гэты Сусвет? Якім ён быў мысляром?

Давялося пераадольваць нелюбоў да камп'ютэраў. Паліна сумленна праседзела тры дні ў бібліятэцы, асвойваючы паганскую моц сусветнага сеціва. І выцягнула нарэшце з акіяна інфармацыі здабычу — невялікі артыкул Вінцэся Рашчынскага, надрукаваны ва «Універсітэцкім весніку» ў 1860 годзе. «Некалькі развагаў наконт панлагічнай сістэмы і суб'ектыўнага духу».

Паліна сумленна прызнавала сваю недасведчанасць. Усё, што яна зразумела,— Рашчынскі спрачаецца з Гегелем, сімпатызуе Сёрэну К'еркегору і ў некаторых здагадках, як падалося, сугучны з даследаваннямі Льва Гумілёва. «Чым ёсць жыватворны дух народа? — пісаў Рашчынскі.— Ці гэта ўсяго толькі міф, створаны, каб апраўдаць існаванне дзяржавы і пашырэнне яе межаў за кошт суседзяў? Ці гэта ёсць прыродная энергія, якая змушае кожны жывы арганізм нараджацца, развівацца за кошт навакольнага асяроддзя і згасаць, вычарпаўшы дадзены Богам і прыродай запас жыццёвай сілы? Безумоўна, вялікую ролю ў фармаванні гэтага духу адыгрывае геаграфічнае месца. Урадлівая ці неўрадлівая глеба, блізкасць да мора або горная мясцовасць, ваяўнічыя суседзі — усё адбіваецца на характары народа, як на немаўляці — жыццё сям'і. Але ёсць яшчэ адно — Найвышэйшая воля, згодна з якой усё жывое мае індывідуальнасць. Як ад кожнага чалавека цнота патрабуе абсалютна і безумоўна быць сабой, таго ж патрабуецца і ад народа. Як існаванне чалавека — самакаштоўнасць, так і існаванне кожнага народа. І гэтую адметнасць, гэтую самасць спасылае народу Гасподзь. І таму адмаўляцца ад яе — найвялікшы грэх, як грэх наракаць чалавеку на тое, што ён нарадзіўся тым, кім ёсць. І грэх — патрабаваць універсалізацыі, уніфікацыі».

Паліна нібыта пачула голас, які гэта гаворыць, усхваляваны і сумны. Твар воіна, вочы паэта… Уражанне, быццам гэты чалавек мог бы ёй усё патлумачыць, падказаць, што рабіць з сабой, са сваім жыццём… І як шкада, што сустрэча гэтая немагчымая… Як ён пражыў свой апошні год на радзіме? Паліна ўспомніла іранічна-сумныя радкі пра старога паўстанца, які дажывае век ва ўтульнасці маёнтка:

Стары крышталь, ад часу цьмяны,
Сяйвом блакітным шафу поўніць.
Віжамі дзверы не ўзламаны,
І зоры ўцягваюцца ў комін.
Засохлым лісцем пахнуць кнігі.

Чытанне пры агні — як воля.
І ў наваколлі ціха-ціха.
Таемна-ціха — як ніколі.
Дрымота дыхае за крэслам
Ці смерць? Прыпынак ці дарога?
А сэрца стукае, як цесля,
Збівае лесвіцу да Бога.
На разуменне спадзявацца
У гэтым свеце — проста слабасць.
І мы выходзілі на пляцы,
Вучыліся дзвярыма ляпаць.
І вось — па склепах, па маёнтках
Паразбрылося пакаленне.
А варта высунуцца вонкі —
Гразёй запэцкаеш каленькі.
Напалеоны і Касцюшкі
Сядзяць у вальтэр’янскіх крэслах.
Хай сцены і прыдбаюць вушы —
Душу маўчанне зробіць смелай.
Занадта ўтульна ў гэтым крэсле,
Каб сцюжу выклікаць праз слова.
Няхай крышталь у шафе свеціць —
Звычайны посуд засцянковы.

Не, з аблiччам на партрэце гэтыя словы не стасуюцца. Філосаф стаміўся, але не згас.

Маці, вядома, паўшчувала дачку, што зноў пачала жыць між кніжных старонак, як шашаль. І да гэтага… штурмана… не варта было адной хадзіць — у чалавека прусакі ў галаве, некалькі разоў заспявалі яго на дыванку ў становішчы дагары нагамі. Не, не ёга — ён неяк іначай называў, складана. Хоць і добры. Вось перадаў два слоікі з шыпшынавым варэннем — спецыяльна для Паліны. Ды яшчэ пра Артура, нябожчыка беднага, распытваў. Навошта — не сказаў, аджартаваўся.

Паліна, як магла, супакоіла маці. Добра яшчэ, што тая не ведае пра ліст ад Стася.

І можна, зачыніўшыся ў сваім пакоі, яшчэ раз гэты ліст перачытаць і паплакаць. А ўявіўшы, як скульптар сядзіць дзесьці побач са сваёй «уладальніцай» і не можа без дазволу той нават патэлефанаваць, звязаны ўдзячнасцю, як смерцю,— заплакала яшчэ мацней.

Урэшце, і фрэйліна імператарскага двара Аляксандра Смірнова-Расэт лічыла вартым сваёй годнасці праліць слязу над атрыманым лістом.

А тут яшчэ патэлефанавала ўлюбёная Палініна вучаніца, наконт якой неаднойчы марылася — вырасце добрая беларуская паэтка. Усё-ткі ўжо ёсць некалькі першых — і ўдалых — публікацый. Патэлефанавала, каб

пачытаць новыя вершы… Аказалася, на рускай мове. Чаму? А душа так запатрабавала. Паэт — птушка вольная, на якой мове хоча, на такой шчабеча. І Паліна дарэмна раіла не збочваць з аднойчы абранае сцежкі, гаварыла, што мова — жывое, мае сваю душу. Што паэт мусіць быць у сугуччы з аўрай роднай зямлі, інакш застанецца вечным маргіналам, нецікавым і ва універсуме… Пані, што за кансерватызм у постмадэрновай прасторы! Творца ўвогуле мусіць з мовай змагацца, трушчыць яе і выходзіць за ейныя межы.

Паліна паклала трубку, ледзь утрымаўшыся, каб не абрынуць на здольнае семнаццацігадовае дзіця сусветны гнеў. Няўжо яшчэ адзін пустацвет на тваёй ніве, бедная Беларусь?

«…Разумных больш, чым добрых, тут, ты не дакажаш ім нічога… Твая гравюра «Страшны суд» ад мастака, а не ад Бога…»

**12**

Захад палымнеў, нібыта зямля адмаўлялася больш усмоктваць пралітую кроў і аддавала яе небу.

Цела было адным вялікім сэрцам, якое білася болем. Нешта халоднае, чужое слізганула пад кашулю… Дотык быў такі гідкі, што крывавы туман распаўся на асобныя хмаркі і вар'яцкая пульсацыя суцішылася. Вінцэсь варухнуў непаслухмянай рукой. Жывы! І, яшчэ да канца не апрытомнеўшы, схапіўся за тое, што варушылася на грудзях… Нечая рука… Скрозь чырвань Вінцэсь убачыў перакрыўлены спалохам твар. Потым мільганула нешта бліскучае… Натрэніраванае цела воя спрацавала амаль механічна, і вось незнаёмец ужо сам ляжыць, прыціснуты смерцю да раллі, і сталь цалуе яго сэрца.

Як лёгка ён стаў забіваць…

Вінцэсь бяссіла апусціўся побач, памацаў сваю галаву, што ўсё яшчэ пульсавала болем,— нічога страшнага, рана неглыбокая, проста быў аглушаны. Але што хацеў ад яго няўдалы забойца? Не падобны да жаўнера. Вінцэсь нахіліўся над забітым і скалануўся ад агіды: на нямытай шыі ў таго вісела ўжо са дваццаць нацельных крыжоў, залатых, срэбраных, з каштоўнымі камянямі і са старажытнай эмаллю, з часцінкамі святых сакрамэнтаў… Марадзёр!

Вінцэсь пакратаў свой крыж: на месцы, мярзотнік не паспеў яго зняць. Затое забраў залаты гадзіннік-брэгет, падарунак бацькі. Хлопец, пераадольваючы грэблівасць, вывернуў кішэні грабежніка. Потым старанна абцёр знойдзены гадзіннік крысом чамаркі, паўстанцкай шэрай світкі, нібыта спадзяваўся адцерці нячысты дотык… І толькі цяпер, калі туман канчаткова рассеяўся, змог агледзецца вакол. У траве — белыя

мундзіры ворагаў, заплямленыя чырвоным… Гэтым жа чырвоным пазначаныя шэрыя світкі і мундзіры паўстанцаў.

Чым гэтыя людзі адрозніваюцца цяпер? Толькі вопраткай…

Як іх многа… Нібыта спраўдзілася колішняя страшная відзежа.

Вінцэсь хутчэй адчуў, чым пачуў, тупат капытоў. Усё яшчэ нязграбна рухаючыся, спрабуючы атрэсці з сябе рэшткі туману, адшукаў шаблю, рэвальвер…

— Пан Вінцэ-эсь!

Струменьчыкі крыві сцякалі па лбе, перашкаджаючы глядзець. Здаецца, голас Марка?

Вершнік ужо саскочыў з каня і абдымаў Вінцэся.

— Як я рады, што вы жывыя! А ў нас усе пэўныя, што вас забілі. Хадземце, там Вальжына і дзяўчаты. Вас перавяжуць…

На полі бойкі рухаліся постаці. Людзі з Вінцэсевага атрада ніколі не кідалі сваіх параненых і забітых. Вярнуліся і цяпер. На гэты раз удалося пагнаць ворага, але далейшая пагоня была б згубай.

— Колькі мы страцілі?

Марка памаўчаў, потым выціснуў:

— Пятнаццаць… І столькі ж паранена.

Гэта значыць, кожны трэці… Так, далёка тыя часы, калі яны рваліся ў бітву з усмешкай на вуснах. Сёння хутчэй са сцятымі сківіцамі. Бойка пад Мілавідамі нібыта завяршылася ўдала… Але ваенная перамога — кабета капрызлівая, і скарыстацца з яе прыхільнасці могуць нямногія, багатыя лёсам. І цяпер пераможцы хаваюцца па лясах, як зацкаваныя ваўкі, і іх усё меней і меней.

— Пан Вінцэсь! Трэба сыходзіць — можа з’явіцца новы атрад карнікаў.

— Чакай… Ты ведаеш гэтага? — Вінцэсь ткнуў нагой цела марадзёра.

Марка прыгледзеўся.

— Новы ў нас чалавек. Нібыта бачыў яго з Мартынавымі воямі.

Вінцэсь дасадліва ўздыхнуў. Прыкра… Мартын вельмі бярэ да сэрца такія выпадкі. А апошнім часам давялося далучаць да парадзелых атрадаў самых сумнеўных асобаў.

— Давядзецца сказаць Ваўкалаку… Гэты чалавек рабаваў забітых.

— Не атрымаецца сказаць.— Марка хаваў вочы.— Схапілі Ваўкалака. І пана Рагманава таксама. Янук Вараўня забіты…

— Як жа вы дапусцілі? — схаладнеў Вінцэсь.

— Не тут… На дарозе ў Гарнушкі. Атрад самааховы. Мартын не хацеў страляць.

Гэта сапраўды была жахлівая вестка. Новы губернатар, прызначаны замест Назімава, стары бульдог Мураўёў, не абцяжарваў сябе развагамі пра высакароднасць сродкаў. Што такое катаванні і шыбеніцы, калі імперыя можа страціць сілкаванне для аднаго са сваіх прагных шчупальцаў, якія бясконца растуць?

Але найбольшая подласць была — стварэнне атрадаў самаахowы. Сялянам раздавалі зброю, каб яны бараніліся супраць паўстанцаў. Ім казалі, што гэта гонар, гэта давер цара, які робіць іх роўнымі з панамі, нават вышэйшымі за бязбожных паноў. Давалі тры дзесяціны зямлі на сям'ю, за схопленага паўстанца — узнагарода. Прыгонныя інсургента вызваляліся ад паншчыны, панская маёмасць магла стаць іхняй…

Вінцэсь ведаў пра выпадкі, калі сяляне даносілі на сваіх уладальнікаў, якія не мелі дачынення да паўстання.

Край гарэў у агні, але гэты агонь выпальваў толькі шаты.

…Каля Ёселевай карчмы, апошняга прытулку інсургентаў, раслі ліпы і клёны, светлыя, прыветныя дрэвы. Нікому не патрэбная карчма ля памерлай дарогі, бо дарогі паміраюць гэтак жа, як і людзі. Вінцэсь працягнуў руку праз расчыненае акно і павітаўся з маладым клёнам, патрымаўшыся за зялёны прахалодны ліст-даланю.

— Распачынаць сутычку ў горадзе, сярод варожага натоўпу, у прысутнасці тысячы жаўнераў? Вар'яцтва! — гэта ўмяшаўся ў спрэчку, якая вялася ад раніцы, Юзаф.

Вінцэсь адвярнуўся ад акна. Юзаф узрушана хадзіў па пакоі, яшчэ нядаўна застаўленым важкімі дубовымі сталамі ды лавамі. На сценах яшчэ віселі галандскія парцэлянавыя талеркі з сінім малюнкам па белым — паважныя матроны ў вялізных каптурах, з горамі пірагоў, падобных да падушак, на сподах; барадатыя мужчыны ў паласатых панчохах і драўляных чаравіках, з нязменнымі трубкамі ў зубах і куфлямі піва… Як гэты сіне-белы свет не стасаваўся з ружжамі, састаўленымі ў куце ля каміна!

Вінцэсь ведаў, што за дзвярыма чакаюць рашэння людзі з Брацтва Ваўка. Іх заставалася занадта мала, таму яны і чакалі.

— І ўсё-ткі я пайду з імі,— Рашчынскі быў рашучы.— Мартын заслугоўвае, каб дзеля яго рызыкавалі. Як і іншыя, асуджаныя на страту.

— Ты зноў змешваеш асабістае і агульнае,— ваяводскі камісар Кастусь быў ледзь не ў гневе.— І Мартын, калі б захацеў, мог бы адбіцца. Чаму не стаў страляць у нягоднікаў?

— Сяляне не вінаватыя, іх падманулі,— ціха прагаварыў Вінцэсь.

— Падманулі! Гэтак усё можна апраўдаць,— нервова рухаўся па пакоі Кастусь.— Ты ж чуў мой «Прыказ да народу зямлі літоўскай і беларускай»? «Міліцыі і караулаў па сёлах каб ніякіх нідзе не было, бо калі зловяць каго ў караўле або ў міліцыі, то калі не цяпер, то пазней без агаворкі павесяць».

— Запозна было выдаваць такія загады,— горка сказаў Вінцэсь.— Мы і так у іх вачах — ворагі…

— Прынамсі, ты ведаеш, што не я прычынай таго, што мужыкі не зацікаўленыя ў паўстанні.— У голасе Кастуся Вінцэсю пачулася нязвыклая стома.— Ды што было ўзяць з нашых кіраўнікоў, «белага жонду», якім

больш за чужаземнае ўладаранне страшна страціць рабоў або тую зямлю, якая і так ім не належыць.

— Беларусь — спрадвечная Польшча,— з крыўдай заўважыў Юзаф, зразумеўшы, куды ляціць камень.

— Пачытай пра гэта ў Статуце Вялікага княства Літоўскага, напісаным на нашай мове. Сядзім на адной патэльні, ды яшчэ высвятляем, пад каго алею больш налілі. Дурні… — Кастусёў нервовы твар ажно тузануўся ад гневу.— Ведаеш, адкуль пайшло вызначэнне «белыя» для прыхільнікаў арыстакратыі? Падчас французскай рэвалюцыі перасталі насіць парыкі. Бо іх належала пасыпаць мукой, а дэмакраты ўважалі гэта за грэх, калі ў людзей няма хлеба. Ну а ворагі рэвалюцыі дэманстратыўна ўпрыгожвалі сябе напудранымі штучнымі каўтунамі. Вось і нашы… Лепей галаву мукой пасыплюць, чым мужыку галоднаму аддадуць.

Камісар уздзеў на каротка стрыжаныя валасы лёгкую ваўняную магерку.

— Не будзем рэзаць і вешаць ворагаў і здрайцаў мы — павесяць нас.

— Справядлівасць не прыплывае рэкамі крыві! — выкрыкнуў Юзаф.

— Справядлівасць? — ноздры Кастуся трапяталі, твар пайшоў чырвонымі плямамі. Вінцэсь нават спалохаўся, што з камісарам здарыцца чарговы нервовы прыступ.— Вось ты шчыры вернік, Юзаф… Тыдзень таму ў Вільні загадалі святкаваць дзень нараджэння рускай царыцы і ва ўсіх касцёлах правесці імшу за цара. А хто з касцёла выходзіў — штраф дзесяць рублёў срэбрам. І служылі, і слухалі… А ўвечары па загадзе ілюмінавалі кожны дом, кожную кватэру… Асабліва сачылі, каб у святочных агнях былі дамы сем’яў павешаных ды зняволеных інсургентаў. Як ты думаеш, што горш — шыбеніцы або такое свята? Як на маю думку, дык не варта нам мігдалы разводзіць. Як яны з намі — так і мы з імі! Ну, добра… Паеду ў лагер Кабылінскага. Удачы!

А потым, калі ўсё было вырашана, маленькі калматы Хатнік, якога былыя гаспадары карчмы забыліся вывезці з сабой, паклаўшы пад печку лапаць, пачаў асцярожлівы абыход сваіх уладанняў. Насмецілі незнаёмцы, нашумелі — шум Хатнік бачыў таксама ў выглядзе смяцця, неахайнага, раскіданага па падлозе, сценах, столі, як густое павуцінне… Злосць, боль, нянавісць — усяго было ў тым смецці. Вось, зноў балбочуць! Схаваліся ўдвох у прыцемку залы… Хатнік ператварыўся ў маленькую шэрую павуцінку пад самай столлю. Але ў словах гэтых людзей не было нянавісці — толькі стома і боль.

— Я разумею — вайна… Але ці можна пагадзіцца з заклікамі Кастуся нікога не шкадаваць? Я — дрэнны жаўнер, так, але ці чуў ты, Вінцэсь, плёткі пра атрад Міладоўскага?

— Думаю, Юзаф, пра нас усіх расказваецца шмат крывавых і брудных гісторый…

— Не, я ведаю ад чалавека, вартага даверу. Прыйшлі прасіцца ў атрад некалькі маладых хлопцаў. І Кастусь, каб «загартаваць» іх у справе,

даручыў ім павесіць селяніна і яго малога сынка. Добра хоць, малому ўдалося ўцячы…

— Не веру.

Суразмоўцы памаўчалі. Павуцінка ў куце калыхнулася ад пакуты, што трапятала ў іх думках.

— Ты расчараваўся ў нашай справе, Юзаф?

— Я пайду з вамі да канца.

Пакой апусцеў, і Хатнік змог прадоўжыць сваё падарожжа… І калі б ён мог адчуваць, як чалавек, было б яму вельмі сумна. Старэе будынак, мышы зладзілі ў сценах цэлы горад, і ніхто не прынёс сюды котку…

А ўвечары ўсхваляваны Стась Людвісар папрасіў Вінцэся ад’ехацца да капліцы, што стаяла на скрыжаванні. І золатавалосая фея, захутаная ў зялёны плашч, зазірала ў вочы мужчыны, нібыта ў вочы свайго лёсу.

— Бацька адсылае мяне за мяжу, у Швейцарыю. Я сказала, што адна не паеду. І ён дастаў яшчэ два пашпарты. Адзін — Станіславу. Другі — для чалавека, які стане маім мужам. Я хачу, каб гэта былі вы. На жаль, іначай не атрымаецца вас вывезці.

Станіслаў, сведка гаворкі, вымавіў толькі адно:

— Я — з Вінцэсем. Як ён вырашыць.

І Вінцэсь хаваў свой пагляд і не ведаў, як адказаць, каб не абразіць. І нязменная мадам Лецьен пагардліва падціскала вусны, відаць, лічачы яго нягоднікам.

А Хрысціна з усяе сілы намагалася гаварыць так, каб не гучала просьбай, каб не страціць вясёлага тону,— і ад гэтага было яе невымоўна шкада, бо голас зрываўся ад пакуты:

— Паўстанне хутка задушаць. Вы не можаце гэтага не ўсведамляць. Бацька добра ў такіх справах разбіраецца. А ён адмовіўся надалей даваць вам грошы. Значыць, упэўнены, што — параза. Лепей часова адступіць, каб пасля пачаць усё наноў! Я ніколі не стану вам перашкодай у вашым змаганні! Мы можам абвянчацца сёння ж у Наўеўскім касцёле. Падумайце, якая рамантычная гісторыя! Проста як у кніжцы.

Хрысціна цераз сілу засмяялася, і Вінцэсь са шкадобай пацалаваў яе дрыготкую руку. Са шкадобай, а яна ж прасіла не гэтага пачуцця! Ну чаму, чаму ён павінен слугаваць сэрцам і душою іншай, з вялікімі цёмнымі вачыма і строгімі вуснамі, якая ніколі не будзе ягонай! Чаму пры адным успаміне пра яе спыняецца сэрца, пры думцы, што яна сядзіць дзесьці каля акна і ўжо слёз не мае, каб плакаць — па бацьку і па тым, іншым, што заслужыў яе каханне?

Ды хіба бывае каханне без надзеі, без літасці?

Бывае… І ў яго, і ў беднай Хрысціны, прыгожай, разумнай, багатай і добрай…

Мадам Лецьен, сыходзячы за прыгнечанай падапечнай, прамовіла:

— Месье, я павінна сказаць. Я перажыла рэвалюцыю, і муж мой загінуў на гільяціне. І я бачыла многіх падобных да вас натхнёных юнакоў і бачыла, як каціліся іх галовы ў кошыкі. Ці вы думаеце, што яны, тыя юнакі, былі менш за вас вартыя шчасця і перамогі? Сёння вы зрабілі найвялікшае глупства ў сваім жыцці, юнача. І вы, месье Станіслаў, таксама.

Што лепш — гільяціна або шыбеніца, «мураўёўскі гальштук»?

Пытанне, вартае блазенскага тэатра.

Шыбеніцы ўсталявалі на Саборнай плошчы. У гэты час не разважалі пра тое, ці добра караць смерцю перад храмамі. Галоўнае — застрашыць найбольш народу. Загадана было ўсім хадзіць глядзець. Самае горкае — пра гэта неаднойчы з прыкрасцю казаў Юзаф, які асабліва пераймаўся пытаннямі маралі,— народ збіраўся б і без загаду. Проста таму, што на падобныя відовішчы людзі прыходзяць заўсёды. Чалавека цягне глядзець на чужую смерць, на чужыя пакуты — нават калі ён спачувае ахвярам. Цяжка пераадолець спакусу адчуць сябе ў бяспецы на тле нечай пагібелі.

Мешчукі і жаўнеры, кабеты і дзеці — плошча віравала. Нават купка сляпых лірнікаў у шэрых світках, з абліччамі, на якіх, як на дне высахлага калодзежа, не адбівалася нічога, стаяла ля эшафота. Небаракі, відаць, патрапілі сюды выпадкова, зацягнутыя людскім вірам.

Сыпануў барабанны пошчак, і натоўп уздыхнуў нібыта на адны грудзі. На гулкія дошкі першым выйшаў высокі шыракаплечы мужчына з доўгімі чорнымі валасамі, густа перавітымі сівізной. Нейкая кабета віскнула, пабачыўшы страшнае аблічча асуджанага,— глыбокі шнар цягнуўся праз увесь твар. Другі асуджаны выглядаў старэйшым і больш змучаным. Яго вусы, калісьці, відаць, бадзёра скіраваныя ў бакі, бяссіла абвіслі, толькі чорныя вочы з-пад сівых брывоў пазіралі цвёрда і ясна. Прысуд быў вядомы — дзяржаўныя злачынцы… Дваранін Мартын Саколка і дваранін Вакула Рагманаў… Канфіскацыя маёмасці… Страта цераз павешанне…

Асуджаныя не слухалі словы прысуду. Яны, толькі з’явілася магчымасць, абняліся. Потым высокі, схіліўшы галаву, нібыта папрасіў у старэйшага за нешта прабачэння. Цікаўнікі, што стаялі бліз эшафота, прагна ловячы словы і пагляды смяротнікаў, улавілі, што гаворка ішла пра нейкую дзяўчыну.

Што адказаў другі, было незразумела, бо да асуджаных падышлі жаўнеры і пацягнулі туды, дзе гайдаліся тры вяровачныя пятлі. Людзі на плошчы гадалі, каму дастанецца трэцяя? Няўжо на гэты раз шыбеніцы не хопіць здабычы?

Калі на памост вывелі трэцяга, пачуўся ці то абураны, ці то расчараваны гуд. Зразумела, чаму прыпазніліся,— гэты трэці, светлавалосы доўгі хлопец, быў такі хворы, што сам не мог ісці. Яго валаклі пад рукі двое жаўнераў, і ногі злачынцы, абутыя ў скураныя лапці, нязграбна цягнуліся

па дошках, час ад часу намагаючыся зрабіць крок. А расправа над зацкаваным зверам нецікавая.

Прысуд быў таксама кароткі. Селяніна Гаўрылу Чарапавіцкага з вёскі Гарнушкі за ўдзел у бунце пакараць смерцю праз павешанне.

Зноў загулі барабаны. Залатыя крыжы на царкве і на касцёле люстравалі сонечныя промні. А кат узяўся за пятлю…

Сведкі пасля па-рознаму апісвалі падзеі. Адны казалі, што ўсё пачалося, калі нехта выстраліў у ката і той сагнуўся, схапіўшыся за параненую руку. Другія казалі, што бойку распачалі сляпыя лірнікі, якія раптоўна зрабіліся відушчымі і ўскочылі на памост, спрытна арудуючы сваімі кіямі ў якасці зброі. Нехта з іх, уцякаючы, на развітанне правыў па-ваўчынаму — і пайшлі чуткі, што гэта былі людзі з Брацтва Ваўка, у існаванне якога мала хто верыў, але ўсе баяліся.

Каму падалося, што наляцела цэлая тысяча інсургентаў, хтосьці казаў пра дзесяць адчайных…

Бунтаўшчыкі разам з вызваленымі паплечнікамі, адстрэльваючыся, адступалі да былога кляштара бернардзінцаў. Некалькі службоўцаў архіва, якія месціўся цяпер у гэтых сценах, ледзь паспелі выскачыць-выпаўзці на вуліцу, і масіўныя дзверы, абабітыя бляхай, зробленыя дзвесце гадоў таму ў разліку на аблогу, зачыніліся з глухім грукатам, як вечка труны.

На верхняй пляцоўцы вежы можна было крыху спыніцца. Марка Рагманаў нарэшце абняў бацьку. Вінцэсь знясілена апусціў на падлогу Гаўрылу Чарапавіцкага. Той стаіў стогн, але ўпарта не глядзеў у вочы свайму выратаваўцу. І Вінцэсь ведаў чаму. Яшчэ падчас уцёкаў, пазнаўшы пана, светлавалосы Гаўрыла інстынктыўна рвануўся ўбок, прэч… Але быў занадта слабы.

— Вінцэсь, яны цягнуць гармату! — пракрычаў ад акна Стась Людвісар. Вінцэсь не хацеў, каб хлопец ішоў на гэтую смяротную авантуру, а Стась упёрся: і так яго занадта берагуць! Пойдзе хоць самавольна…

Відаць, у магнацкага сына, гэтак жа, як у Вінцэся, была непера-адольная патрэба ўвесь час даказваць сваю вартасць сабе самому і іншым. Апошні месяц ён нават абстрыг дагледжаныя пазногці!

Ваўкалак пацёр самлелыя ад вяровак запясці:

— Дайце штуцэр!

Вінцэсь, аднак, распарадзіўся:

— Не. Страляць ёсць каму. Ты з нас самы дужы, нават пасля вязніцы. Дапамагай вызваляць выхад…

На ніжэйшай пляцоўцы чуўся грукат. Калісьці з гэтай вежы можна было перайсці на іншую лесвіцу, унізе якой пачынаўся падземны ход, што з'ядноўваў мужчынскі і жаночы кляштары бернардзінцаў. Каб не сур'ёзнасць становішча, можна было б удосталь паразважаць у духу «Дэкамерона»… Але цяпер жыццё дзесятка чалавек залежала ад таго, як хутка яны змогуць разабраць мур, якім яшчэ гадоў сто таму быў

закладзены ўваход на лесвіцу. Другі канец ходу, у развалінах былой гаспадарчай пабудовы кляштара, вызвалілі загадзя. А з боку будынка давялося пакінуць, каб не выклікаць падазрэнняў.

Заставалася спадзявацца, што карнікі не ведаюць пра таямніцу бернардзінцаў і вераць, што загналі дзёрзкіх нападнікаў у пастку.

Вінцэсь прыцэліўся ў жаўнера, які схіліўся над пагрозным целам гарматы… Стрэл… Трапны. Няўжо ён, Вінцэсь, набыў ужо гэтую паскудную абыякавасць да чужога жыцця і смерці, якая кідае войска на войска?

Рашчынскі быў добры стралок, пан Вакула Рагманаў — таксама не з горшых, і жаўнеры да ўваходных дзвярэй падыходзіць баяліся. Але ўсё роўна ў кляштар вось-вось маглі ўварвацца.

Між камянёў муроўкі, на вузкім выступе пад акном, расла кволенькая бярозка. Але ад яе тонкіх каранёў, што ніколі не знаходзілі сабе добрага сілкавання, у магутным муры распаўзаліся трэшчыны.

Марка прагаварыў, перазараджаючы штуцэр:

— Ці ўяўлялі дойліды, што тут будуць служыць падобныя абедні?

— Знайшоў з чаго дзівіцца… — горка ўсміхнуўся Вінцэсь.— У гэтым кляштары французы коней ставілі. А як манахаў выганялі яшчэ пры Мікалаю, дык скульптуры проста ў будынку палілі. Кажуць, адна манашка кінулася ў агонь, абняла драўляную выяву Багародзіцы і разам з ёй згарэла. І ўжо расказваюць легенду, нібыта прывід манашкі цяпер тут блукае.

— Цікава, ці будуць расказваць легенды пра нас? — азваўся Стась Людвісар ад суседняга акна.

— Вядома! Мы ж будзем героямі ў новай, вольнай краіне! — аптымістычна заявіў Марка.

— Хлопчыкі!..— сумна зазначыў пан Вакула.— Рыхтуйцеся да таго, што праз сто гадоў ніхто не ўспомніць вашага сённяшняга геройства ў гэтай вежы. Магчыма, і вежы самой не будзе.

— Ну, вы яшчэ скажыце, што нашыя нашчадкі ў гэтым будынку зробяць тэатр ды будуць паказваць аперэткі,— запярэчыў Вінцэсь.— Не можа ж такога быць, каб тыя, хто будзе жыць пасля нас, пера-сталі цаніць сваю волю! Колькі народу за яе загінула, колькі розныя суворавы бязвінных тут панішчылі! Не, я не магу паверыць, што гэта забудзецца.

Глухі грукат скалануў вежу. Гарматны стрэл прабіў вароты. Цяпер заставалася адно — уцякаць.

На шчасце, мур удалося разабраць настолькі, каб мог пралезці чалавек.

Адзін за адным паўстанцы знікалі ў чорным правале, але тупат пагоні ўжо падымаўся па вінтавой лесвіцы. Вінцэсь, Стась, Марка і пан Вакула абрынулі ўніз град куляў, змусіўшы карнікаў адступіць.

Настала зацішша. Ворагі былі пэўныя, што ўцекачы нікуды не падзенуцца. Навошта ж рызыкаваць ды лезці пад кулі?

Рашчынскі заўсёды адступаў апошнім.

На гэты раз атрымалася не так.

Гаўрыла Чарапавіцкі ўжо зусім знясілеў, і Вінцэсь зноў кінуўся дапамагаць яго несці. Чаму? Ці хацеў, ратуючы забойцу бацькі, пераадолець у сабе нянавісць, выканаць бацькаў запавет? Ці спадзяваўся, што ў гэтым зацятым мужыку прачнуцца павага і ўдзячнасць да ягоных паноў, што ён усвядоміць, якую чорную справу ўчыніў?

Апошняе, што Вінцэсь бачыў, калі азірнуўся назад,— Стась Людвісар перагнуўся ўніз, страляючы ў некага… І ўпаў сам, пакаціўся ўніз па лесвіцы, па якой ужо ўзбягалі ворагі.

А потым, у лесе, пасля шалёнага галопу коней, пасля віншаванняў і горычы ад усведамлення страт была Яна… І гарачы шэпат:

— Я ведаю, што вы зрабілі дзеля мяне. Бедны мой хлопчык… Вы трохі спазніліся нарадзіцца. А Мартын упэўнены, што нарадзіўся зарана… І што рабіць мне? Можа, дзесьці вас чакае маладзенькая дзяўчынка, падобная да мяне, прызначаная вам? Калі б я мела два сэрцы…

У вечаровым прыцемку ён адчуў дотык да свае шчакі яе вуснаў — і захацеў памерці, каб гэта засталося апошнім у памяці.

І з усяе моцы намагаўся вычуць нешта большае за ўдзячнасць.

І мімаволі ўспамінаў Хрысціну і яе брата, такога даверлівага, чыстага, смешнавата-нязграбнага, якому так і не стаў цалкам давяраць. І ў галаве круціліся страшныя словы — «прынёс у ахвяру»...

**13**

— А, дарагі пляменнічак завітаў! — гарнушкаўскі дзядзька Валянціна, шыракаплечы волат з пшанічнымі вусамі, спяшаючыся, адчыніў веснічкі.— Які гонар для нас, бедных вяскоўцаў!

І магутным ударам у сківіцу адправіў дарагога пляменнічка на здзяўбаную курамі траўку.

— Падлаед няшчасны! Добра, што брат мой, Нічыпар, не дажыў, каб пабачыць, як сынок магілы продкаў рабуе!

Наступны ўдар па пляменнічку прадухіліў штурман Сымон, маланкава затрымаўшы дзядзькаву руку.

— Спакойна, спакойна… За што вы яго?

— Ды такога забіць мала! — Дзядзька сярдзіта тузануўся.— Пусці... Рукі ў цябе як абцугі… Гэта ж якое паскудства ўчыніў! — не зважаючы на лаянку абуранай віленскай «уладаркі», дзядзька звярнуўся да Паліны, якая, відаць, з усяе кампаніі выклікала ў яго найбольшы давер: — У мінулым годзе прыслаў гэты… свайго напарніка па фірме. Той дакументы паказаў — пляменнік ваш, кажа, даручыў могілкі абследаваць. Можа, каму з сваякоў трэба магілку паднавіць. У сябе яго пасялілі ды яшчэ трох апойкаў, прынялі як належыць… Паўсюль павадзілі… А ён з камандай,

пакуль людзі ў полі былі, надмагільныя пліты, што з касцёла ацалелі, павыцягваў са скляпення, загрузіў у фуру ды звёз. Ды яшчэ з магілы маці нашай, гэтага нягодніка, Валянціна, бабулі, што гадавала яго, помнік прыхапіў, прыгожую такую пліту чорную. Нараніцу, як пабачылі, не было куды ад сораму падзецца. Табе што, матэрыялу на вашыя вырабы не хапала, каб табе зямля калом стала?

Валянцін, які ўсё яшчэ сядзеў на зямлі, раптам пачаў неяк дзіўна рагатаць.

Дзядзька разгублена зірнуў на Сымона і Паліну.

— Можа, я яго замоцна стукнуў?..

Сымон пакруціў галавой.

— Здагадваюся, у чым справа. Думаю, дзядзька, што дарэмна вы свайго пляменніка вінаваціце…

Ужо ў хаце, за накрытым сталом, дзядзька Міхась няёмка кракtануў:

— Ну, ты ўжо прабач мне, Валік. Але ж і сам вінаваты, што з дзярмом усялякім звязваўся.

— Чалавек не нараджаецца дзярмом…— ціха прагаварыў Валянцін, гледзячы ў чарку, нібыта ў калодзеж.— Мы ж з дзяцінства сябравалі. Пазнаёміліся, калі мяне з пятага класа забралі ў Рэспубліканскую школу-інтэрнат для адораных дзяцей. Валянцін Сцяпко сеў са мной за адну парту. Таксама сірата, з Вушаччыны… Але вясёлы, дасціпны.

— Што, і праўда гэты паскуднік — мастак? — змрочна пацікавіўся Сымон.

— Хацеў, ды не выйшла…— уздыхнуў Валянцін.— Я паступіў у інстытут на скульптуру. А яго нават у вучэльню не прынялі. Перажываў… Падаўся ў наргас, на бухгалтара, як і Дзіна, дарэчы. Яны аднакурснікі…

Дзіна незадаволена ўсміхнулася:

— Што, нерамантычная ў нас прафесія?

— Ну чаго ты? — разгубіўся Валянцін.— Я зусім не ў крыўду. Вось і Сцяпко нібыта саромеўся, што ён бухгалтар, а не мастак.

— А чаго тут саромецца? — не ўразумеў дзядзька Міхась.— Самая лепшая праца! У нас калі хто на бухгалтара вывучыцца — ого! Разумнік! Я б сам лепш не заатэхнікам, а бухгалтарам быў. А мастак — цьху… Прыязджалі вунь былі ў вёску практыканты з вучэльні. Жыла адна ў нас на кватэры. Блытаецца са сваёй дошкай па палях, сядзе пры дарозе, малюе пад дажджом, прыйдзе мокрая, як варона… От работа!

А Паліна змагла толькі аднойчы крадма ад спадарожнікаў усміхнуцца скульптару, якога ёй зноў было невымоўна шкада,— што ж гэта за злы геній такі ў яго, нейкі злавесны двайнік? І Валянцін усміхнуўся ў адказ куточкам рота. Паліну трохі ўсцешыла, што пасля ён не кінуў трывожнага або вінаватага позірку на сваю «ўладальніцу». Ну і гульні! Не хапае толькі веера, якім іспанкі падавалі таемныя знакі палкім ідальга.

Праўда, на жаль, на палкага ідальга Валянцін аніяк не падобны.

Вёска Гарнушкі калісьці бачыла лепшыя часы. Меліся школка, амбулаторыя, крама, у якую час ад часу можна было зайсці… Але палова хатаў пазірала на свет сляпымі вачыма забітых вокнаў. За вёскай святлеў самотны двухпавярховы дом з белай цэглы — чорныя прагалы на месцы выбітых шыбаў надавалі яму падабенства з чэрапам волата. Гадоў пяць таму тут паспрабаваў адзін узяцца за фермерства. Ага, як жа… Гарнушкаўцы, ад старшыні да пастуха, ведалі, як належыць ставіцца да «паноў». То сена ў новаспечанага фермера згарыць, то авечкі здыхаюць адна за адной немаведама чаго… А як падатковая інспекцыя ўзялася!.. Так і кінуў небарака гаспадарку.

…Рэчка з вясёлай назвай Лялёўка бегла па чорных камянях у абдоймы далёкіх салёных хваляў, буслы з году ў год сяліліся на воданапорнай вежы, а на Купалле з пакручастага берага скочваліся падпаленыя аўтамабільныя пакрышкі з хвастамі чорнага смярдзючага дыму… Вёска была як вёска, учэпістая і працавітая, і паміраць пакуль не збіралася.

Дзверы ў дзядзькаву адрыну, прыстасаваную пад сховішча непа-трэбных рэчаў, адчайна рыпелі, абараняючы вільготную цемру схо-вішча ад бессаромных промняў. Вядома, відовішча не надта выкшталцонае — старыя начоўкі суседзяць з дзіцячым вазком, люстэрка, падобнае на саслеплае вока,— са скруткамі руберойду… І ўсё прыкрашае пыл і павута.

Дзядзька Міхась кіўнуў у той бок, дзе ў прыцемку грувасцілася нешта дзіўнае, прыкрытае рыззём:

— Вось усё, што ўдалося забраць з матчынай хаты…— і, павярнуўшыся да гасцей, патлумачыў: — Хату ж маці хацела вось на яго, унука, адпісаць, але ёсць у нас адзін… сваяк… Дык і прысабечыў, выпрасіўся ў маці. Нібыта братам трэба яго лічыць, але я не святы, не магу. Добра хоць, што не родны насамрэч — прыёмны.

— Адкуль жа ён узяўся? — зацікавілася Дзіна.

Дзядзька неахвотна патлумачыў:

— Працавала з маці на ферме адна кабета, па п’янцы загінула, ды як страшна — увалілася ў гнаярню. Ні мужыка, ані радні… Родам з Саматыяў, Варанецкая прозвішча. А Варанецкія ўсе — п’янь ды валацугі. Ды яшчэ казалі, ад паліцая дзіця прыжыла. Можа, і ад партызана, як сама сцвярджала,— не ведаю. Але Саматыі ў вайну палілі, трыццаць жыхароў сагналі ў адрыну і… Дзеці, жанчыны, старыя… Ды яшчэ што страшна — свае палілі, паліцаі. Быў такі Піліп Лухверчык, камандаваў, звяруга. Так што ў нас памяць яшчэ балючая, і калі на каго хоць падазрэнне, што з паліцаямі звязаўся, не даруюць. Вось і з’ехала Варанецкая ў суседнюю вёску. Ніхто з той бабай ды яе адроддзем знацца не жадаў. Наша маці і ўсынавіла сірату… На сваю галаву. Ад гнілога дрэва не чакай добрага плода.

— Дзядзька Міхась, не трэба…— паспрабаваў спыніць гаворку Валянцін.

— Вось і пяць гадоў таму ты гэтак: «Не трэба, хай жыве»… Падаў бы ў суд — адсудзіў бы ў турэмшчыка хату. А то ўся вёска пакутуе. Утварыў клуб для п’янюгаў. Так што туды лепш не хадзіце.

Дзіна зацікавілася была магчымасцю адхапіць нерухомасць, але Валянцін вельмі цвёрда папрасіў яе не ўмешвацца, аж збялеў, нібыта чарговы раз атрымаў поўху. Віленская бухгалтарка злосна ўсміхнулася і падкрэслена абыякава пайшла да свайго бліскучага, як чорны марскі каменьчык, джыпа, вакол якога ўжо круціліся цікаўныя малалетнія гарнушкаўцы. Вось і добра… Паліна кінулася да скарбаў скляпення. Валянцін і Сымон рушылі за ёй.

Калі прывыкалі вочы, цемра аказвалася пераможанай: яе праціналі частыя тонкія лёзы промняў са шчылін у сценах. У пыльным святле паўставалі дзіўныя відарысы: крыж з чорнага мармуру, пры-хілены да сцяны, а на ім развешаны рыбацкі нерат… Каменны слупок з паглыбленнем наверсе — відаць, чаша для святой вады, што калісьці стаяла ля дзвярэй касцёла… Сымон прыпыніўся ля яе, задумна пагладжваючы гладкую паверхню, што памятала, можа, мільёны багавейлівых дотыкаў.

— Святыя рэчы… Як было пакідаць на здзек? — чамусьці вінавата патлумачыў ад увахода дзядзька.— Можа, калі яшчэ прыдадуцца… Аднаўляюцца ж храмы. Так што пашукайце, як маеце інтэрас. Там камяні нейкія цікавыя — сыны мае папрыносілі, як былі малыя, замест цацак. Як касцёл узарвалі, дык усялякага ў друзе было.

— А вось і спавядальня з бабулінай каморы! — узрушана прамовіў Валянцін, прабіраючыся паўз Паліну ў глыб памяшкання. Спатыкнуўся і ледзь не паваліўся на дзяўчыну, паспеўшы абаперціся рукамі аб сцяну. На імгненне Паліна апынулася ў ягоных абдоймах.

…Імгненне, як храм са светлымі купаламі, з якога не хацелася вяртацца ў неабаронены трывожны свет…

Што за глупства! Хіба гэты няшчасны няўклюда, прададзены, як на нявольніцкім рынку, уладнай прыгажуні, здольны кагосьці абараніць?

Валянцін мармытнуў: «Прабачце…» і адышоўся, як паранены,— цікава, Паліне толькі падалося, ці і насамрэч ён зачырванеўся?

Урэшце, навошта падманваць сябе — нібыта яна не адчувае асаблівых адносінаў да сябе Валянціна…

І калі ім, адносінам, не дадзена перарасці ў нешта адчувальнае (а гэта менавіта так), дык ці варта мэнчыцца?

— Вось яна, бабуліна жабка!

Валянцін трымаў у руках шэрую цяжкую пачварынку. Сапраўды, у скульптара была фатаграфічная памяць: тая жабка, што ён падарыў Паліне, была дакладнай копіяй гэтай. Нават яшчэ лепшай. Бо арыгінал выявіўся пашкоджаным так, нібыта бедную жабку шкуматалі паўтара стагоддзя каменныя буслы. Паліна перавярнула фігурку: літары «te».

Сымон таксама зірнуў:

— Ну вось, дзе былі, там і застаемся. Шукайце, шаноўная паненка, новую тэму для дысертацыі… І ўвогуле — нашто вам тая дысертацыя? Дзетак лепей за ўсё нараджаць да трыццаці…

Скульптар няёмка кашлянуў і адышоўся. Паліна злосна зірнула на антыфеміністычна настроенага штурмана, шукаючы годнага адказу, але не паспела яго прамовіць.

— Зірніце, гэта, падобна, таксама з надмагілля Рашчынскага! Той самы стыль,— скульптар працягваў спадарожнікам нейкі абломак.

— Ваўчыная лапа! — узрадавалася Паліна.— Вядома, адтуль. Але нейкая дзіўная… Слухайце, на ёй чалавечыя пальцы! Што гэта, пярэварацень быў? Ваўкалак? Трэба яшчэ пашукаць… А вось гэта што?

У руках у яе апынуўся круглы аскалёпак з лупатым вокам… Яшчэ адна жабка!

Праз гадзіну настойлівых пошукаў знайшліся яшчэ чатыры фрагменты ад жабкі, кавалак ваўчынай морды, яшчэ адна лапа...

Вядома, аднавіць фігурку жабкі было немагчыма, але галоўнае, што на сподзе разглядалася літара «u», відаць, «aru», ад «Alb-aru-te-nia».

Калі ў сярэднявечнай Германіі паміраў гаспадар дома, бліжэйшы сваяк хадзіў па доме і злёгку штурхаў кожную рэч, кожны мех з жытам — каб і яны ведалі, што гаспадара больш няма.

Рэчы памятаюць сваіх былых гаспадароў і захоўваюць іх дотыкі.

Паліна гладзіла шурпаты камень, і ёй здавалася, нібы яна дакранаецца да нечае рукі. Рукі вельмі засмучонага чалавека, якую хочацца затрымаць у сваёй, выказаць спачуванне…

Чым валодае чалавек? Мінулага — ужо няма… Будучыня — не настала. А той эфемерны адрэзак цяперашняга, над якім ён уладны, дзе ён можа рабіць свой выбар між злом і дабром,— які ён? Імгненне? Доля імгнення? Ці яго… зусім няма, а мы заціснутыя, як паддо-следныя мікраарганізмы, між двума шкельцамі — мінулага і будучыні, і наперадзе — вясёлкавы туман, а ззаду — бясконцая перспектыва карцін, што чым далей, тым больш цьмяныя, скажоныя, непазнавальныя… І нават тое, што вось-вось было, здаецца, можаш дакрануцца,— ужо аддзеленае непрабівальнай паверхняй… Ніхто ў Гарнушках не памятаў Рашчынскіх.

І Паліне яшчэ больш захацелася вярнуць памяць пра сумнага філосафа з сінімі вачыма.

У дзядзькавай хаце зумкала самотная муха, упарта пазбягаючы бліскучай ліпкай стужкі, падвешанай дзеля яе, мушынай, пагібелі на лямпе. Людзі, патэнцыйныя забойцы мухі, сядзелі пад лямпай укруг стала, засланага абрусам нахабна жоўтага колеру.

— А як памерлі твае бацькі, Валянцін? — Штурман Сымон адарваўся ад чарадзейства над картай, раскладзенай на жоўтым абрусе,— здавалася, быццам усё, на стол пакладзенае, плавіцца на патэльні з яешняй. Штурман,

як і абяцаў, спрабаваў накрэсліць таемны маршрут, узяўшы за пачатковую кропку, па агульным рашэнні скарбашукальнікаў, надмагілле Рашчынскага. Пакуль што ўсе разлікі завяршаліся пасярод поля, дзе расла бульба.

Валянцін, які прыткнуўся на канапе побач з Дзінай, зноў уладарна-пяшчотнай, коратка ўздыхнуў:

— Як бацькі загінулі? Недарэчнасць… Бацька рабіў паліцы для кніг — ён быў выкладчыкам літаратуры, і загнаў сабе трэску некуды ў бок. Лета, горача, ён без кашулі… Драпіна і драпіна… Нічога небяспечнага. Але пачалося заражэнне крыві… Мне гады два было. Не памятаю нічога. Ну а маці яшчэ пяць гадоў пажыла. Адразу пасля смерці бацькі з’ехала са мною з вёскі ў горад, да сваякоў. Працавала на трох працах — нянечкай у садку, куды мяне ўладкавала, вечарам — там жа вартаўніком… Ды яшчэ лесвіцы мыла ў пад’ездзе… Усё спадзявалася мяне гараджанінам зрабіць. Дамаглася пакойчыка ў інтэрнаце… І не вытрывала. Інсульт. Ну а тады мяне забрала бабуля. А потым — мастацкая школа…

— Ну што ты, Валік, зноў кінуўся ва ўспаміны,— незадаволена падала голас Дзіна.— Кожны мусіць сам будаваць свой лёс і не лезці ў яміны мінулага, з якіх удалося выкараскацца. Давайце лепш, раз на прыроду выбраліся, дзе-небудзь пасядзім, шашлычкі пасмажым. Дарма, ці што, з сабою мангал цягнула і вядро з мясам?

Сымон варожа зірнуў на прыгажуню:

— На прыродзе трэба сузіраць прыроду, а не жэрці.

Дзіну, аднак, засмуціць было не так лёгка.

— Ой, толькі не кажыце мне пра вегетарыянства. Звераняты, птушаняты… Усё роўна вымрам як жывёльны від, таму трэба браць ад жыцця натуральныя прыемнасці. Валянцін, ідзі папрасі ў дзядзькі дроў. Паедзем на той пагорачак з сасной, што за вёскай. Цудоўная мясцінка! А потым, з новымі сіламі, зноў пашукаем вашага скарбу.

Валянцін кінуў вінаваты позірк на Паліну і, як належыць прыгоннаму, паслухмяна, хоць і панура, пайшоў выконваць загад.

Дзядзька Міхал чамусьці ўсхваляваўся, даведаўшыся, дзе менавіта збіраюцца ладзіць пікнік. Чаму заманулася маладзёнам на тую Крыжовую гару? Ёсць іншыя месцы. Вунь пад дубам за вёскай. Ці на ўваходзе ў Маскалёў лес, за шашой, нават альтанкі і сталы пабудавалі. І да рэчкі зручна спускацца…

Паліну нездарма лічылі добрым даследчыкам. Яна ўмела распазнаць, дзе хаваецца нешта цікавае. І дзядзьку Міхалу не ўдалося адчапіцца ад настырнай дзеўкі (а з выгляду такая выкшталцоная!), пакуль не распавёў усё, што ведаў.

У пагорка была кепская слава. Калі папраўдзе, дык лічыўся ён праклятым. І дрэва, што на ім, лічылася праклятым. Хочаш звесці каго са свету — вазьмі кавалак кашулі непрыяцеля і навяжы на сасну. На Дзяды

сядзь пад сасною на Крыжовай гары — убачыш, як той, хто мусіць хутка памерці, шарай гадзінай будзе кружыць вакол цябе і кружыць, пакуль не растане… І, вядома, менавіта там збіраюцца ваўкалакі з усяго Маскалёвага лесу.

Ваўкалакі, як зразумела Паліна з дзядзькавых аповедаў, у наваколлі Гарнушак былі адметныя — больш падобныя да людзей, чым да ваўкоў, высозазныя, з калматымі галовамі, і пашчы ў іх дзве — адна там, дзе ў чалавека рот, а другая — праз увесь твар, ад правага вока да падбароддзя. І калі ваўкалак чалавека ўкусіць другой пашчай — той сам ператворыцца ў ваўкалака і будзе разам з іншымі пачварынамі давеку золата вартаваць. Якое? А тое, што ў Крыжовай гары закапанае.

Як толькі прагучала слова «золата», віленская гандлярка падскочыла да суразмоўцаў. Але дзядзька толькі пасмяяўся. Якое там золата? Каб было, даўно выкапалі б. Ахвотнікаў хапала… Бачылі, колькі ямінаў? З боку рэчкі нават экскаватар падганялі, пясок браць. Палову гары былі знеслі, і нічога… Адно карэнне ў зямлі.

Аднак у легендзе пра ваўкалакаў нешта мелася… Паліна яшчэ раз паглядзела на каменную ваўчыную лапу з чалавечымі пальцамі. Цікава, што ці хто паслужыў прататыпам легендзе? Чаму ваўкалак — на надмагіллі? І чаму — Крыжовая гара?

— А бабуля казала, крыж калісьці на ёй стаяў. Стары-стары. Камсамольцы ў трыццатых газай аблілі ды спалілі,— патлумачыў дзядзька.

Крыж! Ці не той, які на першай жабцы пазначаў пачатак таям-ніцы? Паліна раптам успомніла і фразу-пытанне з Арцікавых запісаў: «Чаму ў руках у смерці — крыж?» Напэўна, вось разгадка!

На Крыжовую гару выправіліся ўсе. Сымон у нязменнай чорнай майцы і джынсах, даўгалыгі Валянцін у льняной кашулі, побач з ім, учапіўшыся за ягоную руку, джынсавая Дзіна, зграбная, нібыта шахматная фігурка… Апошняй караскалася на гару Паліна, адпрэчыўшы штурманавы памкненні дапамагчы слабой кабеце. Так і бачыла сябе збоку — у недарэчнай доўгай спадніцы, са скручанымі ў вузел валасамі… І з упэўненасцю, што выглядае — дурніца дурніцаю і паводзіцца адпаведна.

На вяршыні мелася ўтульная яміна, парослая белай дзяцелінай. Стары пень, хоць счарнелы, струхлелы, заслаўшы цыратай, можна было прыстасаваць пад столік. Што і зрабіла Дзіна ды пачала гаспадарліва раскладаць прывезеныя прысмакі.

— У мяне чамусьці ўражанне, што прынёс фарбаваныя яйкі на магілу продка,— змрочна прагаварыў Валянцін.— Нешта не падабаецца мне гэтая мясціна. Мы і малымі сюды ніколі не хадзілі.

— Чаму? — няўважна папыталася Паліна, азіраючыся па баках таксама з нейкім нядобрым пачуццём.

— Дарослыя страшылі — правалішся ў яміну.

Дзіна няўхвальна зірнула з-за спіны:

— Лепей шашлыкі рабіце.

Паліна глядзела праз карункавае вецце сасны на аблокі, і здавалася, што і сасна, і Крыжовая гара плывуць некуды ўдалеч, у бездань часу, і вось-вось з’явіцца з іншага берага, аддзеленага плынню часу, нечая постаць і чалавек у чорным сурдуце, з сумным суровым тварам схіліцца ў шляхотным паклоне:

— Вітаю паненку…

І вочы ў яго будуць сінія-сінія, як гэтае неба…

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь…

— Ну дык узаемна!

Паліціны мроі перарваў спакойны голас Сымона:

— Не думаю, што скарб закапалі тут. Гэта ўсё роўна што красці каравай з вясельнага стала, калі ўжо госці ўселіся. Але як кропка адліку — цалкам магчыма.

— Праўда? — зацікавілася Дзіна.

— Па ўсім відаць, што аўтар сваё пасланне разлічваў на далёкі час, каб не знікла. Каменнае надмагілле — гэта не аркушык… І як арыенцір чалавек мусіў выбраць нешта такое, што праіснуе сотні гадоў і не страціць свайго значэння, застанецца адметнасцю. Накрэслены на жабцы крыж мусіў у мясцовага чалавека адразу выклікаць пэўныя здагадкі.

— Як здорава! — Светлакосая гандлярка нават забылася на прыгатаванні да пікніка.— Значыць, мы хутка знойдзем запаветнае месца?

Сымон, скрыжаваўшы рукі на грудзях, глядзеў некуды ў палі.

— Пакуль што мы дайшлі ў разгадцы вунь да таго плота, што каля лесу.

— А далей? — не цярпелася Дзіне. Праўду кажуць, што азарт — заразная штука.

— Далей — магла б распавесці чацвёртая жабка… Калі яна існуе. Далей — гэта ў радыусе двухсот метраў… Можа, вунь пад тым дубам… Ці ў тым калодзежы… Або пад тым хутарам… А мо ажно вунь там, дзе нейкі слуп?

— Няўжо нельга вызначыць, абследаваць? — расчаравалася і Паліна.

— У вас ёсць пад рукой узвод-другі салдат з металашукальнікамі, паненкі? Не? Ну тады…

Камень прыляцеў аднекуль справа, з густога кустоўя. На шчасце, Сымон паспеў прыгнуцца і Паліну за сабой тузануў.

Шэры кавалак нянавісці быў шпурнуты з такой моцай, што ўмяў траву ў глебу, быццам абцас жаўнерскага бота.

Дзіна віскнула.

— Прэч адсюль! — Сымон бегма пусціўся з гары, цягнучы за сабой Паліну.— Маці маіх будучых дзяцей павінна застацца жывой і здаровай!

— Што?!! Я не збіраюся…— задыхана паспрабавала запярэчыць Паліна, але Сымон не даў ёй выказаць абурэнне:

— Спакойна, дзяўчынка… Я ж сказаў — буду чакаць, колькі трэба…

Унізе гары, на дарозе, якая праглядалася скрозь, яны аддыхаліся. Зверху спускаліся Валянцін, нагружаны пакункамі, і Дзіна, страшэнна абураная, калі меркаваць па жэстах. Паліна нарэшце асэнсавала, што адбылося... І здзівілася. Сымон раней не здаваўся ёй баязліўцам.

— Паслухайце, а чаго мы, уласна кажучы, уцяклі? Ну, шпурнуў камень нейкі блазнюк… Нас жа многа! Чаго баяцца?

— Усё, нашы росшукі скончаныя.— Сымон напружана паглядаў па баках, нібыта вычэкваў новага нападу.— Неадкладна дадому, а жабак — на сметніцу!

Паліна на гэты раз вырашыла выказаць усё, што думае, пра дэспатычны мужчынскі характар… Але штурман аніяк не ўразіўся.

— Спакойна. Вы проста не ведаеце. Ваш Артур, які таксама жабкамі займаўся, не сваёй смерцю памёр. Мне адзін палкоўнік сказаў. Нехта пачаставаў клафелінчыкам. А ў вашага знаёмага — сэрца хворае.

Паліна схаладнела, але паверыла адразу. Няўжо дзесьці ў падсвядомасці здагадвалася? Але змірыцца з пацверджаннем было цяжка.

— Не можа быць…

— Міліцыя проста важдацца не захацела. Падумаеш, алкаш…

— Але чаму? Хто?..

— Можа, на гэта мог бы адказаць той, хто кінуў у нас камень?

Над шэрымі дахамі гарнушкаўскіх хатаў ужо садзілася цяжкое і чырвонае, як певень, жнівеньскае сонца, так што здавалася, нязграбныя дахі прагнуцца, раструшчацца пад ягоным спякотным цяжарам.

Валянцін, устрывожаны, як і Сымон, умольна глядзеў на Паліну.

— Пакіньце гэтыя росшукі! Я ж расказваў вам пра дзядзьку ў белым капелюшы, які надмагіллем Рашчынскага цікавіўся, пакуль яму галаву не прабілі. Паехалі дадому…

Паліна незалежна абвяла вачыма няўдалых мужчын.

— Што ж, вялікі дзякуй за дапамогу. Чацвёртую жабку я знайду сама. Урэшце, можа, і без гэтага абыдзецца — мы ж яшчэ гэтак мала распыталі, перагледзелі архіваў.

— Правільна! Справу трэба даводзіць да канца! — нечакана падтрымала Дзіна.— Давайце сюды праз тыдзень зноў выберамся — у мяне якраз справы на Беларусі.

Валянцін нешта горача зашаптаў сваёй «уладальніцы». Відаць, адгаворваў, але тая толькі пагладзіла яго па плячы, як дурное несвядомае дзіця.

І ўжо калі яны збіраліся ад’язджаць, нагружаныя шчодрымі вясковымі дарункамі і няяснай трывогай, да джыпа наблізіўся няголены мужык, у запэцканай марынарцы, і правыў-працадзіў:

— А другога дзядзькі, значыцца, пляменнік ведаць не хоча… Круты ў мяне плямяш. На машынах ездзіць. Зямлю грызці гатовы за чужую капейчыну. Дык у зямлю і ляжаш, боўдзіла дурное.

Джып ужо ад’ехаў ад дзядзькавай хаты на адлегласць сабачага брэху, а Паліне ўсё чуліся няўцямныя змрочныя пагрозы. Відаць, чуліся і Валянціну — сядзеў такі сумны, нібыта зазірнуў ва ўласную магілу.

І Паліне чамусьці падумалася, што і для Вінцэся Рашчынскага Гарнушкі былі варожымі і няўтульнымі. Але чаму, чаму? Гэтае бяспамяцтва, ганьба надмагілля, пракляты ўзгорак, ваўкалакі з дзвюма пашчамі, камяні, што вылятаюць з гушчару… Кабета падумала, што давядзецца туды вяртацца, і яе мімаволі затрэсла ад раптоўнай тугі і страху.

**14**

Восень прыйшла без дазволу, як цыганка, і адразу раскінула свае стракатыя спадніцы на зжоўклай траве, расселася гаспадыняй, пазвоньваючы залатымі маністамі,— паспрабуй прагані… Варажыць у яе не выпадала — і так было вядома, што напракокуе: усё згіне, усё звяне і ападзе на цвёрдую ад маразоў зямлю, і смяротная беля пакрые свет…

Вінцэсь ненавідзеў сёлетнюю нахабную, крыкліва-яркую, сонечную восень. Якое права мела хоць нешта ў гэтым свеце быць святочным і прыгожым на тле крывавай, подлай калатэчы, што запанавала ў краі. Паўстанцаў хапалі сем’ямі. Увесь род, да немаўлятаў і нямоглых старых, падлягаў у лепшым выпадку высылцы. А высылка ў Расійскай імперыі — гэта не ў Інфлянты з’ездзіць. Галодныя казахскія стэпы і сібірскія снягі маглі ператравіць, вымарыць, пераўвасобіць у безыменную, бязмоўную масу насельніцтва некалькіх такіх краінаў, як Беларусь.

Чаму аднаго забівае першая дурная куля, а іншы праходзіць ацалелым праз пекла соцень сутычак? Вінцэсь аказаўся шчасліўчыкам. Яму не заходзіла ў галаву гэтаму радавацца. Часам віна за сваё шанцаванне рабілася нясцерпнай, быццам тыя, хто гінуў, былі яго асабістым выкупам ад смерці. З’яўлялася нават падступная думка, што смерць, годная, вартая шляхціца смерць, са скрываўленай шабляй у руцэ, наперарэз ворагу — лепей, чым ганебнае перахоўванне па лагчынах, зацягнутых вільготным, як спіна баязліўцы, туманам.

Калісьці Вінцэсь ледзь не з паблажлівым жалем думаў пра Ваўкалака, што абраў сабе на шмат гадоў жыццё зацкаванага звера. Што можа зрабіць дзесятак адрынутых? Падпаліць на Каляды маёнтак злога пана? Хлопец нават прыдумляў мноства варыянтаў, як бы ён сам распарадзіўся сваім гневам і сваёй сілай у падобным выпадку. Бачыліся карціны яркія і велічныя, уся Еўропа паўставала на дапамогу заняволеным ліцвінам, луналі сцягі, блішчэлі разагрэтыя целы гарматаў, і Гарнушкі сустракалі вызваліцеля-паніча ўхвальным харалам. І з белымі кветкамі ў руках стаяла самая прыўкрасная ў свеце дзяўчына, і ў яе вялізных цёмных вачах люстравалася слава юнага вайскаводцы…

Цяпер Вінцэсь мог толькі горка смяяцца, успамінаючы тыя напаўдзіцячыя мроі. Сёння ён сам — зацкаваны звер, і не больш за дзесятак такіх жа зацятых — побач. Еўропа на хвілю зацікаўлена скіравала ларнет на спробу невядомых тузануцца з кайданоў, але зараз жа перавяла позірк на больш пільныя заклапочанні. Кожны сам плоціць за сваю волю.

Ах, як дорага даводзіцца плаціць ім… Секвестраваныя маёнткі, куды немагчыма з'явіцца,— паўсюль атрады самааховы, паўсюль знойдуцца прыгонныя, якім — справа мужыцкага гонару схапіць пана-бунтаўшчыка. Дзяцей частуюць цукеркамі, каб расказалі, хто прыходзіў да бацькоў. Абшукваюць кляштары, мнішак прымушаюць распранацца дагала. Жанчын за нашэнне чорнага адзення ўбіраюць у арыштанцкія рызманы і пасылаюць месці рынак… Як самадаек. Дастаецца ўсім — і праваслаўным, «сапсаваным» заходнім уплывам, і каталікам, і уніятам, і габрэям… Былая памяркоўнасць — калі па адзін бок пляца стаяла царква, па другі бок — касцёл, і тут жа побач — сінагога, і прыхільнікі ўсіх канфесій сустракаліся тут жа на рынку, гандлявалі, куплялі, жартавалі, разам слухалі сляпых лірнікаў і глядзелі батлейку,— рабілася міфам. А англійскі карэспандэнт, аблашчаны Мураўёвым, піша пра «навядзенне парадку».

Цяпер Вінцэсь зразумеў, пра што казаў калісь бацька, што даводзіў Мартын. Паўстанне не пераможанае, пакуль ёсць хоць адзін нязлоўлены, няскораны паўстанец. Тады няма спакою ў душах акупантаў, і пад стрэхамі хатаў нараджаюцца новыя легенды, і той, хто жыве ў непралазных нетрах родных пушчаў, набывае моц гэтых нетраў. У народа мусяць быць таемныя ахоўнікі. Дзеля гэтага варта жыць і цярпець.

Але гэтай ноччу ім пашанцавала. Яны адпачнуць пад дахам, на сухой падлозе. Наракаць на адсутнасць шаўковай бялізны, напэўна ж, нікому не заманецца. Паляўнічы домік пана Вакулы Рагманава будаваўся ледзь не на скрыжаванні звярыных сцежак. Самае кепскае — амаль скончыліся кулі і порах... І ўжо няма грошай, каб не тое што набыць зброю, а прымусіць зацікаўленых захоўваць таямніцу. Тыя, хто падтрымаў бы паўстанне да апошняга,— схопленыя. Ну а іншым — навошта сілкаваць уласнымі сродкамі прайграную справу?

Можа, хоць Марку Рагманаву ўдасца сёння здабыць тое-сёе? Чалавек, да якога ён скіраваўся, не можа стацца здраднікам — хрышчоны бацька Маркі, Пятро Арэхна, былы аднапалчанін пана Вакулы Рагманава. І каб не страціў у вайне з туркамі нагу — сёння змагаўся б побач.

Толькі б хутчэй Марка вяртаўся… Вінцэсь пачаў заўважаць за сабой гэткае: калі хтосьці з сяброў сыходзіў нават недалёка, здавалася, ён знік назаўсёды. Як у дзяцінстве.

Бессаромна сіняе неба паніжэла, як вечка труны. Ну дзе ж Марка?..

Нехта зайшоў у пакой, у якім на хвілю здабыў самоту хлопец, і Вінцэсю не трэба было й азірацца, каб зразумець хто: пра гэта яму паведаміла сэрца, што затрымцела, як кінуты аб падлогу заручальны пярсцёнак.

— Прабач, Вінцэсь, што турбую… Але я хвалююся.

Вальжына нячаста дазваляла сабе праявы «жаноцкай слабасці». Вінцэсь усхапіўся, як мог упэўнена зірнуў на зблажэлы, бледны тварык з вялікімі чорнымі вачыма (толькі не паказваць шкадобы — Яна гэтага не любіць).

— Ну што вы, Вальжына… Як маленькая… Памятаеце, як вы суцяшалі мяне, калі бацька доўга не прыязджаў па мяне ў ваш дом? «Упадзе цень на пляцень, яблык на траву, камарык на печку, на патэльню яечка — і татка твой прыйдзе. А вунь ужо й ідзе». А мне было гадоў пяць, і мне здавалася, што бацька не прыйдзе ніколі.

— Так, і вы былі тоўсценькім, бялявенькім вісусам і зламалі маю ўлюбёную ляльку Анжаліку, якая ўмела гаварыць «ма-ма» і мела пругкія чорныя косы…

— Як у вас… І вы казалі, што маеце цёмныя колеры ночы таму, што вы — дачка лясной феі Мятлушкі. І калі я не буду слухацца, нашляце на мяне кажаноў, каб тыя выпілі маю кроў. Але я зусім не паверыў — бо вы ўвесь час, нават застрашваючы, усміхаліся.

Вальжына і Вінцэсь рассмяяліся, на імгненне адасобіўшыся ад звыклай трывогі. Потым Вальжына неяк дзіўна ўздыхнула, нібыта развітваючыся з некім.

— Вы заслугоўваеце добрай дзяўчыны, Вінцэсь.

Хлопец упарта прыўзняў галаву.

— Я прасіў вас пра гэта больш не згадваць. Мае асабістыя пачуцці тычацца толькі мяне. Я нікога не збіраюся імі абцяжарваць.

Вальжына раптам захінула твар рукамі і — неверагодна! — нібыта заплакала… Сапраўды плача! Вінцэсь несамавіта разгубіўся:

— Ну што вы… Мілая… Усё добра…

Яна нарэшце прыглушана прагаварыла:

— Мне дваццаць шэсць, Вінцэсь. Мая маці ў такім узросце мела дваіх дзяцей. А ўсё, што чакае мяне,— шлях у Сібір і, калі пашанцуе, вяртанне на Радзіму пасівелай, старой, без зубоў. І вечныя шкадаванні аб тым, што сапсавала жыццё двум вартым людзям.— Дзяўчына выпрасталася, выцерла слёзы па-дзіцячы, рукой.— Прабачце. Відаць, не-ервы… Ад бацькі даўно не было весткі. І… і ад Мартына… А тут і Марка прыпазніўся. Распусцілася.

Вінцэсь моўчкі глядзеў… Не быў бы ён гэтакім слінцяем, схапіў бы ў абдоймы, пацалаваў… Хіба сапраўды закаханы можа разважаць, ці будзе гэты ўчынак годным? Але як жа тады глядзець у вочы Мартыну…

Вальжына даверліва даткнулася да яго пляча, і Вінцэсь, напэўна, напляваў бы на гонар…

Але за акном пачулася ваўчынае выццё. Лясны звер аніяк не мог падысці так блізка ў гэтую пару.

Чалавек з Брацтва Ваўка выслізнуў з-за ствала сасны, нібыта ўзнік з паветра. Вінцэсь, хоць і ведаў такую здольнасць за людзьмі з Брацтва, не

пераставаў кожны раз здзіўляцца. Відаць, сапраўды ў беларусах цячэ кроў старажытных лясных плямёнаў, накшталт легендарных піктаў, і ў момант небяспекі абвастраюцца назапашаныя продкамі веды — якая зёлка выратуе, якой сцежкай уцякаць, пра што — крык невядомай птушкі…

Жорсткі пагляд вачэй, шляхецкія вусы… Марцэл Алейшчык з ранейшай, поўнай нянавісці ўсмешкай глядзеў на Рашчынскага.

— Вось і зноў убачыліся… Мяне паслалі сказаць — Рагманаў паніч у жаўнераў.

Вінцэсь схаладнеў.

— Не можа быць…

— Адзін чалавек хоча з табой пагаварыць пра гэта. Як сонца паніжэе да лесу, прыходзь да ліпы, што на скрыжаванні. І не бойся — Брацтва атрымала слова, што будзе бяспечна.

Пасланец ужо збіраўся знікнуць у паветры, напоеным халодным сонцам і пахам вогнішча…

— Пачакай! — Вінцэсь прымусіў сябе супакоіцца.— Хто цябе прыслаў? Ваўкалак? Чые словы перадаеш?

Марцэл блiснуў зубамі — цяжка было назваць гэта ўсмешкай.

— Птушкі нашчабяталі… Воўк правыў… Вужака насычэла… Сказана табе — як сонца сядзе на лес, ідзі да ліпы. І можаш нікога з сабой не браць. Слова ваўка.

Ліпа расла на скрыжаванні трох дарог. Адна, выбітая, выезджаная, вяла ў места. Другая, крывая, нібы след апойка, зварочвала да карчмы, а трэцяя, нават не заслугоўваючы на званне дарогі, гублялася ў гушчарах. Сам лёс прадвызначыў дрэву стацца месцам спатканняў. Пад магутным ствалом чарнела агнішча, а на галінках па-жабрацку трапяталіся абрыўкі тканін, што зусім страцілі першапачатковы колер. Вінцэсь не ведаў, чаму на ліпу навязвалі стужкі — ці падарожныя мусілі прыносіць ахвяру дзеля шчаслівага завяршэння шляху, ці гэта было сведчанне памяці пра нейкую сумную легенду.

Пад ліпай стаяла карэта. Гладкія, пародзістыя коні, адмысловая вупраж… Вінцэсь нейкі час назіраў, схаваўшыся за шурпаты ствол сасны. Здаецца, засады няма… Адзін немалады мужчына — відаць, кучар — праходжваецца па невялікім пляцы, гледзячы па баках. Фіранкі на акне карэты на імгненне адхінуліся. Нехта нецярпліва ўзіраўся ў лес… Чырвоны край сонца зраўняўся з дзідамі вершалінаў, і яны, замест таго каб запалаць, пачарнелі, абвугліліся… Час! Ра-шчынскі, трымаючыся за пісталет, ступіў крок наперад. Дзверы карэты павольна расчыніліся, запрашаючы госця. Служка, відаць, выконваючы загад, адышоўся ўбок, усім выглядам паказваючы, што ён будзе ў бліжэйшы час нямы, глухі і сляпы…

Твар гаспадара карэты не быў жорсткім — хутчэй трохі млявым. Высакародная сівізна, бакенбарды, тонкі пародзісты нос і — несупадзенне — пульхныя вусны, куточкі якіх грэбліва прыапушчаныя… Светлыя, аж

празрыстыя вочы, зморшчынкі вакол… Твар чалавека, які шмат бачыў, шмат ведае і можа сказаць толькі адно: «Што ёсць ісціна?» Мусіць, такое аблічча было ў Понція Пілата. Вінцэсь бачыў гэтага чалавека раней толькі на партрэтах… Але ад таго віна была яшчэ больш нясцерпнай.

— Вы ведаеце, хто я? — голас, звыкла ўладны.

Вінцэсь апусціў галаву.

— Так… Маю гонар размаўляць з князем Сігізмундам Людвісарам…

— Я бацька Хрысціны і Станіслава,— пан Людвісар гаварыў роўным голасам, як на свецкім прыёме.— Не падумайце, што я буду дакараць вас за страшны лёс майго сына. Я сам хацеў, каб ён быў выхаваны чалавекам смелым, адданым сваёй радзіме і не забываў пра славу продкаў. На жаль, Станіслаў вырас яшчэ і неспрактыкаваным рамантыкам… І занадта лёгка падпадаў пад чужы ўплыў.

Вінцэсь адчуў укол у сэрца. Так, уплыў быў… Ягоны…

— Вы ведаеце, што Станіслава чакае смяротны прысуд? — пан Людвісар і гэта прагаварыў нібыта спакойна, але Вінцэсь зірнуў у ягоныя светлыя вочы і здрыгануўся — знешнія млявасць і спакой уводзілі ў вялікі зман.

— Вам дзіўна, што я, з маімі сувязямі, з маімі грашыма, не магу выратаваць жыццё адзінаму сыну? Так, я мог бы купіць свайму сыну армію, мог бы засыпаць золатам ілжывыя раты ўсім суддзям і падсудкам гэтай гнюснай імперыі… Але не ўсё можна купіць за грошы, хлопча,— у голасе пана Людвісара раптам загучала страшэнная стома.— Як філасофская выснова — гэта для мяне не навіна. А тут — прыкры выпадак… У вежы кляштара Стась забіў сына вельмі важнага чалавека… Родзіча царскай сям’і. Бацька — пры двары, пры чынах, а сын — як і мой Стась, рамантык. Напрасіўся ў подзвігі — уціхамірваць праклятых бунтаўшчыкоў. Вось і атрымаў кулю… І ягоны бацька ніколі — нізавошта — не даруе. Ён прагне крыві — і разатрэ кожнага, хто перашкодзіць ягонай помсце.

— А калі… уцёкі? Ці — напад? — прапанаваў Вінцэсь.

Князь Сігізмунд пахітаў галавою.

— Вы думаеце, я не спрабаваў? Я сапраўды мог бы купіць армію… Але Станіслаў — у Шлісельбургу.

— Як? Не можа быць… Калі яго перавезлі? — з цяжкасцю асэнсаваў навіну Вінцэсь.

— Вось бачыце — нават я пра гэта не ведаў. Тут задзейнічаны сілы, якім я не магу супрацьстаяць. У мяне ёсць заступнікі пры двары. Але ёсць і ворагі…— Пан Сігізмунд памаўчаў, нібыта чакаў, пакуль прыкрыя словы зусім растануць у вечаровым прахалодным паветры. І загаварыў па-іншаму, важка і пранікнёна: — Цяжка быць пераможаным, хлопча?

Вінцэсь упарта ўскінуў галаву.

— Паўстанне не пераможанае, пакуль жывы хоць адзін паўстанец!

— Прыгожыя словы… — пан Людвісар паблажліва ўсміхнуўся.— Пераможца — той, хто мае сілу… Той, хто можа не толькі ўзняць на вежы свой сцяг, але і збудаваць вакол вежы школы, у якіх вучні будуць вучыць узнёслыя вершы пра гэты сцяг. Колькі вам яшчэ ісці крывавымі ляснымі сцежкамі да гэтага?

Вінцэсь хацеў нешта запярэчыць, але пан Людвісар жэстам рукі спыніў яго:

— Я не хачу спрачацца з вамі пра мэты змагання. Я пра іншае. Вось я сказаў вам, што ведаю: грошы могуць купіць не ўсё. Але, паверце, хлопча, яны могуць купіць вельмі многа! Вось як, напрыклад, я знайшоў вас? Чаму па вас пасланы чалавек з Брацтва Ваўка? Таму што часам я купляю іх паслугі, так-так, гэтых страшных, бязлітасных разбойнікаў, і яны, бывае, нават не здагадваюцца, хто імі кіруе. Ніводная вялікая, сапраўдная перамога не адбылася без залатой зброі. Не пярэчце, бо гэта так — не ўсё запісана ў летапісах, не ўсё выкладзена ў падручніках па вайсковай справе. Моцныя гэтага свету — я маю на ўвазе не ўладальнікаў карон ды тытулаў — выбіраюць сярод многіх адчайна смелага, славалюбнага чалавека, які здольны выклікаць любоў у натоўпу. Яму даюць грошы. Падбіраюць разумных дарадцаў. Яму купляюць адна за адной арміі — як скрыначкі жаўнерыкаў з волава… А пасля ўсе дзівяцца, чаму гэта перакройваецца чарговы раз карта свету? Гэх, юнача. Я мог бы расказаць вам пра сапраўдныя падбіўкі кампаній, што мелі самыя высакародныя лозунгі, але навошта адбіраць у вас веру? Проста ўявіце, што вы маглі б сёння зрабіць, каб у вас быў… мільён рублёў золатам.

У Рашчынскага перахапіла дыханне. Мільён рублёў золатам! Сума неверагодная. Так, сапраўды, паўстанне тады магло б ажыць… І не толькі ажыць, але ўспыхнуць з вар’яцкай моцай!

Пан Людвісар з паблажлівай усмешкай назіраў за субяседнікам:

— Уявілі? Што ж, тады вернемся да лёсу майго сына. Я пралічыў усе варыянты. Прысуд мог бы быць іншым толькі ў адным выпадку: калі б было даказана — заўважце, вельмі праўдзіва даказана,— што таго чалавека забіў не мой сын.

Вінцэсю падалося, што ён стаіць на краі стромы.

— Але гэта значыць назваць іншага забойцу…

— Так, юнача, вы нездарма скончылі філасофскі факультэт. Хоць элементарныя рэчы кеміце. Сапраўды. Для суда патрэбны іншы забойца. Але — хто? Вось у чым прычына. Вось у роздумах над якім пытаннем я зусім ссівеў за апошнія тры месяцы.

Вочы пана Людвісара загарэліся ліхаманкавым бляскам, як у загоншчыка, які пачуў набліжэнне звера.

— Вядома, я б мог знайсці няшчаснага, які б згадзіўся, скажам, дзеля забеспячэння сям’і ўзяць віну на сябе. Але — як быць з доказамі? Па меншай меры некалькі дзесяткаў сведкаў бачылі тых, хто забег у кляштар.

Потым дзесяткі два жаўнераў і афіцэраў маглі на працягу добрай чвэрці гадзіны назіраць, хто заставаўся на верхняй пляцоўцы, каб прыкрываць адыход іншых. Вас усіх было добра відаць, калі вы прыўзнімаліся для выстралу. Усе паказанні сабраныя і захоўваюцца ў следчай камісіі. Акрамя Станіслава, там былі вы, потым — адзін з вызваленых вамі асуджаных, пан Рагманаў, і яшчэ нейкі малады чалавек… Следства не ўстанавіла, хто ён, але я даведаўся — сын Вакулы Рагманава Марк. Вядома, сведкі адразу яго апазналі б.

Нейкае штучнае раўнадушша пачулася ў апошняй фразе. Вінцэсь адчуў халодны жах. Нібыта гэты чалавек перад ім быў самім князем цемры… Словы яго падалі, як кроплі вогненнага дажджу.

— Я разумею, што жыццё не мае цаны. Тым больш — прадаць яго добраахвотна? Але я даведзены да тае мяжы адчаю, калі няма іншых межаў. Цану я назваў. Мільён рублёў золатам — за тое, каб нехта з вас трох — вы, пан Вакула Рагманаў або яго сын Марка Рагманаў — пацвердзіў на судзе, што куля, якая забіла сына князя Далгарукава, вылецела з іншага ружжа. Толькі такому сведчанню — павераць.

Вінцэсь выцер рукой раптам спацелы лоб. Вар’яцтва! Пан Люд-вісар сціснуў кулакі.

— Не думайце, што я вар’ят, калі прашу кагосьці пайсці на вісельню. Я ўсё ўзважыў… Вы — людзі ідэі. Ваша справа вам даражэйшая за жыццё… Гэта адно. Па-другое — ці так вы далёка ад той вісельні? Калі, скажам, я не вярнуся сёння ў прызначаны час дадому, на паляўнічы дамок Рагманавых будзе абрынуты цэлы полк… Я не палохаю — проста паказваю вам, як лёгка вас знішчыць. Пан Рагманаў — немалады чалавек, ён мог бы лёгка ахвяраваць сабой… Асабліва калі б, скажам, я паабяцаў бы яму, што вызвалю ягонага сына. Так, мы перайшлі да майго апошняга аргумента — ваш юны сябра ў турме. І не выключана, што ён усё роўна апынецца ў пятлі, калі даведаюцца пра ягоны ўдзел у вызваленні бацькі. А так — ён яшчэ мог бы і выратаваць свайго сябра і, магчыма, увесь край.

Вінцэсь патрос галавой, адганяючы морак.

— А як сам Станіслаў, адмаўляе сваю віну?

Твар князя Сігізмунда на хвілю стаў жорсткім, як бізун.

— Мой сын можа даваць якія заўгодна паказанні. Усе ведаюць, што ён занадта эмацыйны, неўраўнаважаны чалавек… і нават недзеяздольны. Яго трэба лячыць. І я давяду гэта суддзям… Калі, вядома, галоўнае абвінавачванне з яго будзе знятае.

Сонца ўжо амаль схавалася за лесам. Трэба было спяшацца. І Вінцэсеў конь знудзіўся, пакінуты на палянцы.

А ў галаве круціліся апошнія словы князя Людвісара, кінутыя з акна карэты:

— І пра сябе падумайце, пан Рашчынскі. Уявіце, ці так даражылі б вы жыццём, калі б адна дарагая вам асоба была прыгавораная да катаргі.

Паненкам смяротныя прысуды не выносяць, але катарга можа быць надта суровай… Тыдзень маеце на роздум!

З восені патроху асыпалася пазалота, і паказваўся яе сапраўдны твар — кашчавы, са слядамі тлення… Яно было і лепей — не так шкада пакідаць свет.

Агонь паходні кідаў на твары дрыготкі няпэўны водбліск, і ўсё здавалася страшным сном. Вінцэсь, нібыта ўпершыню, разглядаў аблічны сваіх сяброў. Засяроджаны твар Мартына асветлены напалову, так што пачварнага шнара не відно — а Ваўкалак сапраўды гожы мужчына, і адна кабета бачыла гэта ўвесь час. Вось і яна… Цёмныя вочы апушчаныя, рэзкія цені робяць твар прыўкрасным не па-зямному — быццам скульптура ў гатычным саборы… Асабліва высокі чысты лоб у атачэнні цёмных валасоў, расчасаных на прабор,— зусім як любілі ляпіць старыя майстры... І пан Вакула Рагманаў нагадваў суровага рыцара — глыбокі пагляд, рэзкія рысы твару… Сам Вінцэсь лічыў, што ў пакутлівых роздумах няма патрэбы,— ён адразу пасля размовы з Людвісарам вырашыў, што толькі сам мусіць ахвяравацца. Умова — золата і воля (ці хаця б мяккі прысуд) для Марка. Трэба толькі як след падрыхтавацца… Магнат утварыў непатрэбныя складанасці, паведаміўшы пра сваю прапанову Маркаваму бацьку… І, вядома, Вінцэсь ніколі не стаў бы пасвячаць у гэтую сумную справу Вальжыну.

Ваўкалак парушыў трывожнае маўчанне:

— Я даведаўся — Марку не пагражае смерць… Яго толькі падазраюць, што звязаны з паўстаннем, бо знайшлі пры ім кулі і порах. Ён не паспеў нават узяцца за зброю падчас арышту. І пан Арэхна яго выгарадзіў як мог. Маўляў, хроснік жыў у яго ўсё лета, палявалі разам на качак… І дворня пацвердзіла. Ніхто ў гэта не паверыў, зразумела. Засудзяць усё роўна, але — не на смерць.

Вінцэсь з цяжкасцю прагаварыў:

— Князь Сігізмунд ведае, што Марка быў з намі ў вежы. Мне падалося, ён пагражаў гэтым… Князь даведзены да адчаю — і…

— Гэта ганьба для шляхціца — данос! — выгукнуў пан Вакула.

Ваўкалак толькі суха рассмяяўся.

— Чым вышэй шляхціц, тым больш нешляхецкіх учынкаў яму дазваляецца, дружа. Я не пэўны, што ў арышце Марка няма рукі яго светласці.

Вінцэсь не стаў працягваць непрыемную размову.

— Гэта ўсё не мае цяпер значэння… Вы павінны думаць пра іншае — як распарадзіцца грашыма… Дзе перахаваць, каму даверыцца… Не забывайце, золата — вялікая спакуса. Свае паўнамоцтвы перадаю вам, пан Вакула… Выведзіце маіх людзей з гэтых лясоў. З грашыма — вам адкрыецца мяжа. Я лічу, што збіраць новыя сілы трэба там, на захадзе.

— Глупства гаворыш, хлопча,— крыкнуў Рагманаў.— «Паўнамоцтвы»… «Распараджэнні»… Гэта наша сямейная справа — мая і майго сына. Ніхто не мае права ўмешвацца… Досыць, што ты ўжо адзін раз дастаў мяне з пятлі. Хай толькі гэты… людажэр дасць слова гонару — хаця ці можна такому верыць? — што дапаможа Марку. А золата раю браць у злітках.

— Стась і Марка — жаўнеры майго атрада,— цвёрда прагаварыў Вінцэсь.— Я — іх камандзір, і гэта ўсё роўна, што я — іх бацька. Яны абодва мне верылі, ішлі за мной… І я адказваю за тое, што з імі здарылася. Ніхто не перашкодзіць мне выратаваць маіх жаўнераў — у нашым атрадзе не кідаюць нават мёртвых. Я ўсё прадумаў… Неабходна трапіць у палон жывым і прытомным. Проста пайсці і здацца? Падазрона. Я паеду ў Гарнушкі… Нібыта па ежу. Сяляне ведаюць, што, здаўшы мяне, атрымаюць вялікую ўзнагароду. За жывога — удвая больш, чым за мёртвага. Яны не будуць мяне забіваць… А я такім чынам дапамагу яшчэ нейкай бядноце… І выкуплю яшчэ трохі грахоў свайго роду.

— Гэтак заўтра ж раніцой зраблю я! — ускінуўся пан Вакула.

— Спыніцеся! — Вальжына крычала, абхапіўшы галаву далонямі.— Я не магу гэтага больш слухаць. Вар’яцтва! Спрачаецеся, хто за золата прадасць душу д’яблу!

— Не душу, а толькі жыццё! — усміхнуўся аднымі вуснамі Вінцэсь.— І давайце на гэтым скончым. А то я адпраўлюся ў Гарнушкі проста зараз і пастукаюся ў хату Сцяпка Лухверчыка, прызначанага маскалямі старастам.

Дзяўчына схапіла Вінцэся за плячо, гнеўна страсянула.

— Я забараняю вам рабіць тое глупства, пра якое вы толькі што казалі!

— Вы хочаце страціць бацьку? Брата? Вальжына, падумайце самі. У мяне не засталося блізкіх сваякоў… Калі знікну я — гэта будзе самая меншая страта.

— Няпраўда! — Дзяўчына раптам кінулася да Рашчынскага, абхапіла далонямі яго галаву.— Каб вы ведалі, якая гэта няпраўда!

Вінцэсь, адчуваючы, што зямля сыходзіць з-пад ног, пагладзіў дзяўчыну па валасах, зазірнуў у яе заліты слязьмі твар… Вось такім атрымаўся іх першы (і, магчыма, апошні) пацалунак — у святле паходні, з прысмакам смерці, уласнай віны і чужога болю… Недзе побач хіснулася высокая постаць…

— Ну вось і ўсё вырашана,— спакойны голас пана Вакулы вярнуў Вінцэся на зямлю. Ваўкалак стаяў, павярнуўшыся бокам, і ягоная постаць здавалася прыгорбленай, як ад цяжкой стомы. Але Вінцэсь чамусьці не адчуваў сораму — як не адчувае чалавек, якога агаляюць перад катаваннем. Хлопец цвёрда адхінуў дзяўчыну — застаецца спадзявацца, што не пашкадуе яна,— і зрабіў крок наперад.

— Я не адступлюся ад права прадаць сваё жыццё так, як лічу патрэбным.

— Дурное хлапчо! Не змушай мяне да нешляхетных сродкаў.— Вінцэсь яшчэ ніколі не бачыў дзядзьку такім угневаным.— Як можна спыніць яго — хіба лёгка параніць? У нагу, напрыклад. Сапраўды вар’яцтва…

Ваўкалак глыбока ўздыхнуў, праганяючы млосць, і стаў між імі двума.

— Што ж, я з радасцю вырашыў бы вашую спрэчку на сваю карысць, каб не сышоў у неадпаведны час з вежы. Ад таго, што вы пазабіваеце тут адзін аднаго, нікому не стане лягчэй. Выйсце адно — жэрабя. І пакляніцеся, што прымеце вырак. Мы ўсе — жаўнеры. Усе — асуджаныя. Ці варта ўсчынаць такі гвалт з-за таго, каму раней станчыць на вяроўцы?

— Мартын, як ты можаш! — адчайна ўсклікнула Вальжына. Але Ваўкалак не зважаў. Ён дастаў з кішэні нешта невялікае, працягнуў на далоні. У цьмяным святле бліснуў метал: дзве кулі… Адна — звычайная, свінцовая, другая — срэбная. Пазначаная крыжам. Смерць…

Вінцэсь зірнуў на дзяўчыну, што, як заварожаная, не магла адарваць погляду ад куляў.

— Напэўна, Вальжыне лепш сысці...

— Я застануся,— цвёрда прагаварыла дзяўчына.— Калі самыя дарагія мае людзі вырашылі гуляць са смерцю, я таксама бяру ўдзел,— і рашуча працягнула Ваўкалаку раскрытыя далоні.— Памятаеце гульню ў залатога жука? Вельмі проста. Зусім для малых. Мартын, пакладзі кулі на мае далоні, калі я заплюшчу вочы. Тата, Вінцэсь, адвярніцеся…

У голасе Вальжыны звінела такая адчайная нота, што мужчыны моўчкі паслухаліся. Потым яна працягнула ім сціснутыя да болю кулачкі.

— Ну вось, у адной маёй руцэ — срэбная смерць… Я не ведаю, у якой… Аказваецца, смерць зусім невялікая і халодная, як лёд. Каму я яе сёння аддам — бацьку? Ці чалавеку, які… які мне таксама дарагі? Ну! Выбірайце!

Вінцэсь бачыў, што чаканне для дзяўчыны было невыносным, і, спяшаючыся, дакрануўся да правага кулачка… Змрочны пан Вакула стаў злева… Вальжына расціскала пальцы, нібы гэта прыносіла ёй страшэнны боль...

На правай далані ляжала срэбная куля. Самаробная, пазначаная крыжам.

У апошнюю ноч Вінцэсь не спаў. Ці ўсё прадугледжана? Ці не памыляюцца яны, даверыўшыся слову гонару магната? Сярод яго продкаў былі такія падступнікі, што нашчадкі наймалі старых людзей, каб тыя ў сваіх мемуарах хоць трохі абялялі памяць пра ўладных пачвараў. Нібыта гэта магчыма. А як лёгка паміраць, калі смерць пазбаўляе невыноснага адчування віны! Адзінае, што будзе не адмолена,— той пацалунак. Вальжына ўпарта пазбягала размоў, і Рашчынскі адчуваў сябе рабаўнікам.

У шыбу нешта стукнула — нібыта птушка дзюбкай. Вінцэсь ускочыў — за акном непраглядная цямрэча. Яшчэ стук… У іх цяперашнім жыцці нічога не бывае без прычыны. Рашчынскі схапіў пісталет, накінуў на

плечы кажух, стараючыся не пабудзіць іншых. Пакуль няма падстаў для трывогі. Сёння на варце пан Вакула — бывалага паляўнічага не падманеш.

На ганку Вінцэся чакалі.

— Я ведала, што вы не спіце…

Зоры былі такімі буйнымі, што ледзь не падалі на зямлю, усланую лісцем, крылцамі мятлушак і дарэмнымі спадзяваннямі. Вальжына ўзяла Вінцэся за руку, як маленькага,— якія ў яе гарачыя пальцы! Захварэла, ці што? — і павяла некуды ў лес… Вінцэсь ні аб чым не пытаўся. Толькі кроў стукалася ў скроні.

— Гэта недзе тут…

Хлопец ужо ведаў, што яна шукае,— ля сцежкі стаяў невялікі будан з гонты, накрыты лапкамі ялінаў. Ад холаду ён схаваць не мог, але як падабенства таемнага прытулку — чаму не? Хлопец і дзяўчына апусціліся на сена, наваленае ў будане,— яно яшчэ не дарэшты страціла водар лета. Абое маўчалі.

Нарэшце Вінцэсь парушыў цішу:

— Вальжына, вы не павінны…

Але яго словы перапынілі яе вусны… Гарачыя, як прысак чужога вогнішча.

Вінцэсь яшчэ знайшоў у сабе сілы адхінуцца і спытаць:

— А як жа Мартын?

Яна перарывіста ўздыхнула:

— Чаму ты ўвесь час думаеш толькі пра іншых? Мне патрэбны ты…

Яму прыйшла ў галаву ганебная думка — гэтак рымскія кабеты прыходзілі да гладыятараў… Moritore te salutant. Але дзяўчына зараз жа зашаптала:

— Узважваць пачуцці няма часу, Вінцэсь. Мы ведаем адно аднаго дастаткова, каб не памыліцца. Я не магу страціць цябе. Я не ведаю, што дасць мне сілы гэта перажыць. І… зразумей, такой ночы ў мяне не было… І больш не будзе.

— Я яшчэ магу выжыць… — прамармытаў Вінцэсь.— Мяне могуць памілаваць… Я магу ўцячы… І застацца ў тваім жыцці разам з гэтай ноччу не толькі ўспамінам.

— Дурань! — Дзіўна, але гэтае слова ў падобных выпадках часта замяняе самыя доўгія і выкшталцоныя прызнанні. А Вінцэсь быў толькі слабым, грэшным чалавекам. І яшчэ ён кахаў.

Ноч палала на вуснах, быццам ноч Рыма, падпаленага шалёным цэзарам. І Вінцэсь зноў і зноў патанаў у невымоўнай пяшчоце і амаль невыноснай жарсці, і зоры сыпаліся на іх праз галінкі ялінаў, з якіх склалі будан… Такое было іх каханне — цудоўнае, п’янкое, з прысмакам смерці…

Віна мужчыны ў тым, што ён у каханні заўсёды — пераможца. Вінцэсь не хацеў гэтага… Але ён не мог парушыць адвечных законаў. І гэта было лепей за ўсё, што ён зведаў дасюль.

І што магло прымусіць іх шкадаваць аб гэтым шчасці? Цьмяны вобраз пасівелага Мартына, які столькі гадоў, быццам уладальнік чароўнага вострава, аберагаў, ашчаджаў цудоўную кветку, што дасталася юнаму сябру-суперніку? Заўтрашні дзень вызваляў ад віны, бо касаваў прышласць. У іх адносінах не было будучыні, і таму так лёгка і безаглядна кахалася.

Гарнушкаўцы нават не сталі яго моцна збіваць. Усё-ткі ён быў пан, якога належала перадаць іншым панам, і хто ведае — ці спадабаецца тым іхняе мужыцкае абыходжанне з «белай косткай»? Гарнушкаўцы ведалі, што панам давяраць нельга. Таму дзесяць узброеных з атрада самааховы, пад кіраўніцтвам старасты Сцяпка Лухверчыка, вырашылі самі павезці бунтаўшчыка ў горад, здаць, як належыць, запісаць па справядлівасці, каму — узнагарода… Вінцэсь пазнаваў усіх: вось брат Міхася Валевіча… Адмольвае сямейныя грахі перад уладамі? Сын конюха Тодара, зусім маладзенькі і разгублены… Паперадзе ўсіх — стараста, Лухверчык, у новай світцы з крамніны, з новенькай стрэльбай цераз плячо. Стараецца, камандуе… А гэта? Светлавалосы няўклюдны хлопец абыякава дапамагаў звязваць бунтоўнага пана. Маскарад трывожнага часу… Учора — ахвяра, сёння — кат… Гаўрыле Чарапавіцкаму трэба было моцна пакаяцца, каб атрымаць дараванне. Як кажуць кітайцы, не дай табе Бог жыць у часы пераменаў.

Вінцэсь безуважна ляжаў на калёсах, звязаны гэтак старанна, што й не паварушыцца, і ўспамінаў мінулую ноч… Усмешка, якая блукала на ягоных вуснах, гэтак злавала мужыкоў, што адзін з іх, не вытрымаўшы, пачаў даволі-такі адчувальна тыцкаць Вінцэсю пад рэбры прыкладам ружжа (а чаго лыбіцца, зладзюга?).

У горадзе вуліцы аказаліся надзіва пустэльнымі. Затое бліжэй да цэнтральнага пляца трапляласся ўсё больш і больш народу, асабліва жаўнераў. Раптам сыпануў дробны пошчак барабанаў… Вінцэсь здагадаўся, што гэта азначае. На шчасце, яго ахоўнікі таксама выявілі цікавасць і пад’ехалі бліжэй, на ўзгорак, з якога добра бачыўся пляц. Знаёмае драўлянае ўзвышэнне, над ім гайдаецца пятля…

Сцяпок Лухверчык нават прыўзняў Вінцэся, каб таму лепш было відаць:

— Глядзі, як цябе самога вешаць будуць!

Вінцэсь напружана ўглядаўся: каго караюць? Вось вывелі на памост… Ідзе сам, горда… Белая кашуля, чорнавалосы… Далёка. Не пазнаць. Затое той, хто чытаў прысуд, меў такі грамавы голас, што нават там, дзе знаходзіўся Вінцэсь, разбіралася кожнае слова. За злачынствы супраць дзяржавы… За забойства паручніка лейб-гусарскага палка Аляксандра Пятровіча Далгарукава… прысудзіць дваранiна Н-скай губерні Рагманава Марка Вакулавіча да смерці цераз павешанне…

Зноў сыпануў барабанны пошчак. Вінцэсь з усяе сілы рвануўся… Не! Гэта падступна! Гэтага нельга дапусціць!

— Што, паночак, страшна? — здзеклівы голас побач.

Вінцэсь глядзеў — бо адвесці вочы было таксама здрадай. Але відовішча расплывалася ад пякучых слёз. Вось падыходзіць кат… Надзявае пятлю на шыю асуджанага… Б'юць барабаны, усё хутчэй, хутчэй… І страшны, недарэчны танец у паветры цела, якое памірае…

— Не-е-е!!!

Перастрахаваўся, падлюга Людвісар! Вось будзе неразбярыха, калі і ён, Вінцэсь, пачне настойваць на тым, што забіў таго радавітага лейб-гусара!

— Во пераймаецца наш пан! — побач ужо нават спачувалі.— Не хочацца паміраць, як таму, ясная справа…

Але смерць па-ранейшаму не хацела прымаць яго ў палацы вечнага спакою. Ці з любасці, ці з пагарды? Хто ведае. Калёсы трэсліся на брукаванцы, натоўп, што разыходзіўся, наталіўшыся жахлівым відовішчам, неміласэрна штурхаўся побач… Адзін з ахоў-нікаў нахіліўся над палонным. Вінцэсь адчуў, што вяроўкі на ім раптам саслабелі. Нехта ўклаў у яго знямелую руку пісталет:

— Страляй у старасту…

Ахоўнікі пападалі на зямлю, атуляючы галовы чорнымі рукамі, звыклымі да касы і рала. Хіба толькі двое ўспомнілі пра зброю. Там, у Гарнушках, Вінцэсь зусім не бараніўся, і яны яго не баяліся. Цяпер ім давялося зразумець сваю памылку, але — запозна.

— Бяжым! — Гаўрыла Чарапавіцкі цягнуў Рашчынскага за сабой, і натоўп паглынуў іх, як рачныя хвалі — заходняе сонца.

Ты выжыў — гэтае ўсведамленне напаўняе цела жывёльнай радасцю. Ты выжыў там, дзе немагчыма было выжыць. І так і хочацца звярнуцца да Госпада з блюзнерскай просьбай — адымі розум… Каб не збэсцілася простае, зразумелае свята невыноснымі пакутамі душы.

Вінцэсь не вінаваціў сяброў. Ён усё разумеў — з ім ужо развіталіся, кожны сказаў у думках добрыя і ўзнёслыя словы, падрахункаваў ягонае жыццё… А ён не загінуў. Вярнуўся, жывы і здаровы. Яго месца ў палацы вечнага спакою заняў іншы. І гэта было, як быццам кашулю вярнулі нямытай, і давядзецца яе апранаць і даношваць. Нібыта свая, але хацелася чыстай і адпрасаванай.

Ваўкалак хаваў вочы.

— Людвісар прыслаў скрыні… Дзве невялікія — там манеты. Астатнія са зліткамі. Думаю, пакуль пачнем карыстацца манетамі, а зліткі — перахаваць, куды дамаўляліся.

І была яна. Халодная, як восеньскае неба.

— Спадзяюся, жыццё майго брата прададзена не дарэмна, і ваш мільён зробіць гэтую зямлю вольнай і шчаслівай... Хоць трошкі.

Вальжына таксама разумела, што несправядліва дакараць чалавека за тое, што яму не ўдалося загінуць. Яна і спрабавала ўсміхнуцца, суцешыць — бачыла ж, як ён пераймаецца ад таго, што адбылося. Але між імі паўстала сцяна... Ці, можа, прывід? І Вінцэсю разрывала сэрца ўсведамленне таго, што ноч у будане была толькі развітальным падарункам герою. Няўжо — так?

— Мне цяжка вас бачыць,— спакойны тон раніў больш, чым крык.— Не думаю, што змагу быць з вамі. Можа, з часам, калі забудзецца многае… Калі мне перастане здавацца, што Марк вось-вось з'явіцца, пастукае ў дзверы, засмяецца… А пакуль што — ідзіце, хавайце свае скрыні.

Нібыта кінула ў твар халодную жабу.

І Вінцэсю было яшчэ горш ад таго, што ён ведаў — цяпер яна не зможа вярнуцца і да Мартына. І заставалася толькі адно — зрабіць сапраўды так, каб Маркава жыццё аказалася прададзеным недарэмна.

**15**

Далоў доўгую спадніцу і абцасы, сімвалы заняволенасці жанчын, апаэтызаваныя патрыярхатнымі паэтамі!

Паліна злосна глядзелася ў люстэрка. Пачвара! Да чаго давяла сябе за апошнія гады!

Адзінае, што суцяшае,— джынсы, якія схавала ў шафу тры гады таму, нават завялікія… Не растаўсцела! А што з валасамі рабіць? Можа, проста распусціць па плячах? І злева заплесці некалькі таненькіх косак — будзе арыгінальна… Чорную кофтачку са срэбным павуком таксама гады тры не надзявала… А пазногці?!! Яна ж нават лак перастала купляць!

Званок у дзверы спыніў усе хваляванні.

Што ж, прынамсі, Стась не ўлез бы ў старыя джынсы — на амерыканскіх прысмаках прыбавіў кілаграмчыкаў дзесяць. Гэта першая дурная думка, якая прыйшла ў галаву Паліне. А за ёй і другая, не разумнейшая: яна, Паліна, усё яшчэ яго кахае. Гэтага распаўнелага, упэўненага ў сабе «мача» ў белым пінжаку…

А далей яна ўвогуле перастала думаць. Таму што Стась заўсёды ведаў, як з ёй абыходзіцца: ён проста моцна пацалаваў яе, і… І адразу ж пачаў распараджацца. Гэта тэкіла. Гарэлка з кактусаў, гадасць, вядома, але прывёз для экзотыкі. Схавай у лядоўню. We'll drink best… Будзем піць вось гэта — кампары. Вяндліна нарэзаная, раскладзі толькі. А вось авакада трэба нарэзаць… Ты тут каштавала авакада, маленькая? Не? Я так і думаў… У загс можна заўтра падысці да дзесяці раніцы. За сто баксаў распішуць адразу. Don't worry, be happy. Ды не тыя чаркі дастала. Трэба для кактэйлю…

Паліна, як загіпнатызаваная, бегала між кухняй і гасцёўняй, адчуваючы сябе пухнатым цацачным зайчыкам, у якім пасля доўгага перапынку замянілі батарэйку.

— А гэта што за жаба?

Стоп! Паліна рашуча паклала чарговы пакунак на канапу. Ачмурэнне нейкае! Нібыта не было гэтых трох гадоў, нявыплаканых слёз, незабытай крыўды…

— Паслухай… Нам варта пагаварыць.

Пагаварыць Стась не адмаўляўся. Столькі за гэты час адбылося! Амерыка — добрая школа выжывання. Але хто працуе, не лайдак ды з мазгамі — будзе жыць, як тут і не снілася. Галоўнае — стабільнасць. Страхоўкі, полісы, прафсаюзы… Паліна слухала, углядалася ў спакойныя разумныя вочы, і — ні адцення там віны, ні сумневу ў тым, што ён робіць правільна. Заўсёды правільна.

— А ты ўсё гэтак жа займаешся сваёй беларушчынай? Не адказвай, сам бачу. Вунь нацягала бярвёнаў, шашалем паточаных. Няўжо не разумееш — гэта бесперспектыўна! Свет імкнецца да уніфікацыі, а ты — супроць плыні, ды яшчэ за сто баксаў у месяц. Не падвысілі ж моцна зарплату, так? І з дысертацыяй я таксама быў упэўнены — не абароніш, занадта далікатная натура. Да цябе менеджэра прымацаваць трэба.

— Гэта не бярвёны,— абурылася Паліна,— а беларуская скульптура пачатку васемнаццатага стагоддзя!

— І адкуль яна ў цябе? Са сметніка?

— Можна сказаць, так. Паехалі з сяброўкай глядзець касцёл у Касацінава. Побач з храмам — закінуты дом, ганак з драўлянымі калонамі, можа, калісь ксёндз жыў. Вось на ганку гэтага дома і знайшла… Касцёл рэстаўравалі, як цацачку. З-за мяжы прыслалі і начынне для інтэр’ера — гіпсавыя Дзевы Марыі і распяцці, пафарбаваныя алейнай фарбай. А гэтыя «вырабы народнага генія», як казаў Караткевіч,— прэч! Старыя, нехлямяжыя… Уяўляеш — яны пад дровамі ляжалі!

— І ты іх прыўлашчыла?

— Вядома! Транспарту свайго не было, а я — з гэтымі скульптурамі, як з немаўлятамі,— і рукі ўжо не трымаюць, і кінуць не магу. Людзі ў аўтобусе лаюцца, штурханіна… Затое вось — святая Барбара… Святы Майсей…

Дзяўчына падышла да скульптур і ласкава, як жывых, пагладзіла па шурпатай паверхні. Госць іранічна паківаў галавой.

— Ты не змянілася. Памятаю, як у Шэпетаве пацягнула мяне ў старую царкву, паглядзець на труну дойліда. Аказалася, тую труну — дыхтоўную, з чорнага дрэва, так? — яшчэ падчас вайны забралі немцы, каб пахаваць свайго кончанага партызанамі генерала. А мумію дойліда пакінулі ў скляпенні… Як яго звалі, таго дойліда?

— Адам…— ціха прамовіла Паліна, нібы баючыся легкадумным тонам пакрыўдзіць і без таго пакрыўджаны цень.— Такое імя на труне, кажуць, было напісана. А прозвішча згубілася.

Стась белазуба ўсміхнуўся і працягваў успаміны:

— І вось гэтага Адама, забальзамаванага, як фараон, некалькі пакаленняў мясцовых хлопцаў цягалі па вёсцы, каб палохаць дзяўчат. Во ўмелі бальзамаваць продкі! Не рассыпаўся, хоць чаго толькі жартаўнікі не выраблялі! І ты, як ненармальная, насілася па вёсцы, шукаючы бедную мумію, і вучыла вяскоўцаў маральнасці і павазе да гістарычнай спадчыны, а я ледзь абараніў цябе ад нейкага мясцовага Кінг-Конга.

Паліна горка ўсміхнулася, нібы наяве ўбачыўшы былую прыгоду, страшны чорны твар муміі, рогат бяспамятных дурняў…

Стась засмяяўся непрыемным бязгучным смехам і адкінуўся на спінку крэсла. Паліна з жахам заўважыла, што ў яе «мача» відочна абазначаны другі падбародак. І рукі змяніліся… Нейкія не такія пальцы, пазногці. І... блішчаць?

Стась перахапіў яе пагляд, пакруціў у паветры дагледжаную даланю.

— Манікюр, дзетка. Не дзівіся — там гэта норма жыцця. Адразу сам не мог прывыкнуць. Але ў нас у бюро ўсе так робяць. І ўсе ходзяць па пятніцах і аўторках з шасці да сямі ў трэнажорную залу, а кожны трэці уік-энд — пікнік, у спецыяльна выкупленым фірмай кемпінгу, усе са сваімі кошыкамі, жонкамі і безалкагольным півам… Сама пабачыш. Хочаш прыжыцца — будзь як усе. Ды не хвалюйся — там не толькі гэткі «мяшчанскі дабрабыт». Я пачаў разумець тваю страсць да мумій, можа, толькі там, калі мяне прывялі ў дом аднаго мільянера, суперпраграміста. І гаспадары як найвялікшую каштоўнасць паказвалі гасцям кавалак цаглянай сцяны ад стогадовай забудовы і счарнелую пашчапаную бэльку, прымацаваную пад столлю шыкоўнай залы. Бэлька засталася ад салуна, што калісь належаў дзеду гаспадара і згарэў, падпалены ці то індзейцамі, ці то каўбоямі. І мільянер цяпер за шалёныя грошы скупляе парэшткі ад таго салуна — нейкія памятыя жалезныя кубкі, мядзяныя місы для ўмывання, якімі карысталіся, напэўна, танныя самадайкі… Сямейны гонар!

Стась адпіў кампары, акуратна прамакнуў вусны сурвэткай, пацягнуўся да Паліны і зноў моцна пацалаваў, нібыта сцвердзіў свае правы. Вось так, не спадзявайся, што ўсё скончыцца размовамі.

— Дарэчы, не падумай, вядома, што я раўную, буду ў прэтэнзіі… Але многа ў цябе было мужчын за гэтыя гады, бэбі?

Стась паблажліва паглядаў на былую жонку, нібыта ведаў адказ. Ах ты, бедненькая, пакінутая… Паліна на хвілю адчула невымоўны боль. Яна сапраўды хоча пражыць рэшту жыцця з гэтым прыгожым, дужым, самаўпэўненым эгаістам? Паліна памаўчала, потым рашуча ўзнялася, узяла з паліцы заколку, падышла да люстра і закруціла валасы ў звыклы вузел.

Вось так… Цяпер можна пазнаць, вярнуць самую сябе. І ратавацца… Пакуль душа не зламалася дарэшты. Паліна павярнулася да госця.

— Я выходжу замуж за другога. Прабач, трэба было сказаць адразу.

— Вось як…— Стась паставіў на стол шклянку з кампары, яшчэ не ведаючы — абразіцца ці пасмяяцца.— І хто ён, калі не сакрэт?

Цяпер іншага выйсця не было — Паліна не верыла, што ў яе хопіць сілы выстаяць перад спакусаю без дапамогі звонку, няхай віртуальнай. Стась, напэўна, заўважыў яе ваганні, бо ўпэўненая ўсмешка зноў вярнулася на яго выразна акрэсленыя вусны. Пагуляй, пагуляй, дурнічка, у незачэпу.

Лагічней за ўсё было б назваць у якасці жаніха Сымона. Паліна ведала, што баявіты штурман абараніў бы яе ад уплыву і дзесяці Стасяў. Але сказалася чамусьці іншае:

— Ён скульптар… Родам з Беларусі, але жыве ў Вільні. Гэтую жабку зляпіў.

— А імя ў яго ёсць?

— Валянцін. Валянцін Чарапавіцкі.

— Такі ж «закручаны» на «беларускім пытанні», як і ты?

— Такі ж.

— І… ты яго кахаеш?

Паліна адвярнулася да акна, за якім сыпаўся дробны летні дождж, памаўчала і ціха прамовіла — не Стасю, а дажджу і сабе.

— Кахаю.

І сама здзівілася — што за фантазія?

А потым, калі Стась пайшоў і адзінота варухнулася ва ўсіх кутах, папаўзла ценямі да гаспадыні — хоць навошта ўладарыць над ценямі? — і было невыносна сумна слухаць шум дажджу і глядзець на амаль некранутыя стравы і недапітыя напоі ў шклянках, рука сама набрала нумар тэлефона. Хоць зноў жа — навошта? І далёкі голас трывожна пытаўся: «Я слухаю… Хто гэта? Паліна? Гэта вы? Што здарылася? Не маўчыце! Паліна!»

Але адказваць таксама не было сэнсу.

Маці, як і абяцала, вярнулася толькі раніцой. І адразу ўсё зразумела. Паліна ведала, яна ў душы радуецца — вядома, шчасце дачкі вышэй за ўсё, але застацца адной? І тым не менш пасыпаліся папрокі. Ну як можна адмаўляцца ад свайго шчасця? Іншыя шалёныя грошы плоцяць шлюбным агенцтвам, каб выскачыць хоць за якога нягеглага янкі.

Паліна не адказвала, і маці зусім зазлавала.

— Дурніца ўпроўная, ідэалістка, уся ў…

Марыя Апанасаўна абарвала сябе, і Паліна зразумела чаму.

— А дарэчы, ты ніколі не расказваеш мне пра майго бацьку. Прабач, я разумею, што, відаць, з гэтым у цябе звязаныя не самыя лепшыя ўспаміны жыцця, але я маю права ведаць! Хто б ён ні быў — гэта ж мой бацька!

Паліна не ўпершыню заводзіла такую гаворку, атрымліваючы заўсёды ў адказ нешта гнеўнае, нібыта ў самой яе зацікаўленасці мелася крыўда для маці.

— Паслухай, ну вось з'еду я са Стасем у Амерыку, і, можа, ніколі больш не ўдасца пра гэта пагаварыць. Твае ўнукі спытаюць у мяне пра дзеда, а я ім: не было ў вас дзеда, бэбі!

Пагроза падзейнічала. Маці, усё яшчэ раздражнёна прыбіраючы тыя рэчы, што, на яе погляд, засталіся не на сваіх месцах пасля ўчарашняга гасцявання, нарэшце вымавіла:

— Ты нічога пра яго, пра свайго бацьку, не ведаеш, а ён нічога — пра цябе. Так што ўсё ў раўнавазе.

Паліна не збіралася адступацца.

— Мама, хто ён? Хто мой бацька?

— Татарын.

— Што?!!

— А ты думала — чаму ты такая чарнявая? Не палохайся — і ён, і продкі ягоныя лічацца беларусамі, праваслаўныя, з нашае шляхты. Вёска яго неяк прыгожа называлася — Вяснянка ці Весніцы… Дзесьці пад Наўем. Ну, што табе тлумачыць — сама гісторык. Ведаеш, калі радавітыя татары на Беларусі пасяліліся — яшчэ падчас Грунвальда. І з твару ён — беласкуры, як ты… Толькі вочы і валасы чорныя, як вугаль, ды прозвішча — Рагманаў. А Татарынам мы яго празвалі ў інстытуце — за шалёны характар.

— Дык вы разам вучыліся? — здзівілася Паліна.

— Вучыліся…— уздыхнула маці.— Ён — на рэжысуры. Я — на акцёрскім. Але ж кажу — Татарын… Час які быў, а ён для курсавой працы выкапаў п'есу нейкага заходнебеларускага пісьменніка, ворага народа. І часопіс самаробны яны ў пакоі рабілі ўчацвярых… Зразумела, што з чацвярых хоць адзін стукач быў. Ну і пагналі яго з воўчым білетам… Ды каб толькі гэта! Ён яшчэ і поўху замдэкана адвесіў. А той — з органаў, усе ведалі… Карацей, столькі стацей на Татарына навешалі… Добра, не ў лагеры — але на прымусовае пасяленне ледзь не ў тундру.

— А ты?

— А што я? — Маці раздражнёна глядзела ў акно, нібыта дождж, які сыпаўся за шыбай, быў у нечым вінаваты.— Я была сакратаром камсамольскай арганізацыі інстытута. Марыла пра вялікую сцэну… Ты думаеш, я збіралася працаваць касцюмеркай? Гэта ж блізкае знаёмства з тваім татачкам перакрэсліла мой шлях. Таксама ледзь з інстытута не адлічылі… Ну а потым з'явілася ты, і, вядома, добразычліўцы паведамілі куды трэба, ад каго ў мяне дзіця. Але мне было ўсё роўна — ты маё адзінае шчасце.

— І бацька ніколі не аб'яўляўся?

— Ну чаму ж… Пісаў, прасіўся… Але я адразу яго адпрэчыла. Прапашчы чалавек. Давялося яшчэ і на камсамольскіх сходах каяцца, выкрываць антысаветчыка. Ну што ты так на мяне глядзіш? Кажу — час быў такі!

Паліна абхапіла галаву рукамі, паўтараючы, каб прывыкнуць да гучання:

— Рагманаў… Генадзь Рагманаў… Спадзяюся, імя па бацьку я праўдзівае маю?

Маці рэзка спынілася перад дзвярыма на кухню.

— Ты — Ведрыч! Паліна Ведрыч! І не ўздумай нешта ці некага расшукваць! Усё, што было, быллём парасло. Пачнеш шукаць яго — ты мне не дачка!

Паліна сядзела над картай… Вось ён, Наўеўскі раён, ёсць у ім вёска пад назвай Вясенняя, відаць, перайменаванне. Яшчэ добра, што не чарговая Сірэневая або Акцябрская. Ёсць Весялова, а вось — Весніцы… На рацэ з вясёлай назвай Лялёўка. Трэба ж, зусім недалёка ад Гарнушак. Выходзіць, яе, Паліны, продкі былі землякамі Ра-шчынскіх? Цікава… Паліна ўзялася за свае папкі. Жылі Рагманавы ў Весніцах… Вось нейкі Марк Рагманаў, васемнаццаці гадоў, дваранін — у спісе павешаных у 1863 годзе.

Як многа значыць у жыцці выпадак! Паліна кінула позірк на паперку — ксеракопію прашэння Кастуся Каліноўскага віленскаму генерал-губернатару Назімаву:

«Окончив курс наук в императорском С.-Петербургском университете со степенью Кандидата и желая поступить на службу, имею честь покорнейше просить Ваше высокопревосходительство доставить мне возможность служить под просвещенным начальством Вашего высокопревосходительства».

Цалкам добрапрыстойная, сціплая просьба… Але яна не была задаволеная. Юнакоў мясцовага паходжання, якім удалося атрымаць адукацыю, на пасады дапускалі неахвотна — перавага аддавалася прыезджым з Расіі. На гэта мелася адпаведнае распараджэнне. А калі б здольнага, але немаёмаснага маладога чалавека ўзялі на працу, далі добрую пасаду? Паліна задумалася. Наўрад гэта адпрэчыла б яго ад паўстання. Нават Гейштар, правадыр «белых», што не дужа любіў Каліноўскага, піша пра яго: «Гэта была натура гарачлівая, але сумленная, без малейшай крывадушнасці».

Вінцэсь Рашчынскі не быў надта блізкім сябрам Кастуся Каліноўскага, хоць, вядома, не мог з ім не сустракацца. І яе, Паліны, продкі маглі з імі абодвума бачыцца.

Паліна пачувалася вінаватай — нібыта парушыла нейкія абавязкі перад даўно памерлым філосафам сваёй сустрэчай са Стасем. Нова-спечаны амерыканец так і не паверыў, што страціў уладу над сціплай чарнавокай дзяўчынай. Значыць, адчуў, што ўлада яшчэ ёсць.

Паліна нават ціхенька ўсплакнула… І зачэрпнула поўную лыжку шыпшынавага варэння са слоіка, перададзенага Сымонам. Салодкае супакойвае кабету лепш за валяр'янку. Выйсці замуж за бравага штурмана, хадзіць з ім у вандроўкі…

У дзверы пазванілі, так што Паліна ледзь не ўтапіла лыжку ў слоіку. Маці павінна быць яшчэ ў тэатры…

На лесвічнай пляцоўцы стаяў Валянцін, зноў без парасона і зноў мокры, як пацук. І да таго ж — страшэнна ўстрывожаны.

— Што здарылася? Гэта ж вы мне тэлефанавалі, праўда? Усё з-за нашага дурнога расследавання…

— Нічога не здарылася, супакойцеся. Дождж пайшоў, лета канчаецца, вось і ўсё. Ну, але ж праходзьце.

Валянцін зняў мокрую наскрозь куртку і застаўся ў чорным швэдары. Нібыта яшчэ больш схуднеў — вунь як швэдар на ім вісіць, як на вешалцы. Дрэнна кормяць, ці што?

Паліна змрочна глядзела на чалавека, у каханні да якога зусім нядаўна прызналася былому мужу. І што цяпер рабіць? Сэрца ўсха-дзілася, ледзь не выскоквае. Вядома, толькі ад таго, што няёмка перад самой сабой. Не хапала яшчэ, каб гэты няўклюда нешта западозрыў. І ўвогуле — як ён пакінуў сваю светлакосую гераіню?

Валянцін таропка патлумачыў:

— Я, на жаль, без дазволу… Таму ненадоўга. Але… проста не мог не прыехаць. Ведаеце, мне ўсё трывожней робіцца. Дарэмна мы турбуем мінулае. Яно мае ўласцівасць ажываць і ўмешвацца ў нашае жыццё.

Паліна адвярнулася да акна. Зноў збіраецца адгаворваць… Валянцін, відаць, зразумеў, што на яго пачалі гневацца, і пачаў нешта цяжкое даставаць з сумкі, зашаргатаў цыратай, у якую тое нешта было загорнутае… Паліна зацікаўлена азірнулася.

Госць паставіў на стол бюст з гліны. Разумны спакутаваны твар, горкія складкі ля вуснаў… Вінцэсь Рашчынскі!

— Гэта толькі эскіз,— вінавата патлумачыў Валянцін.— Я думаю, у Гарнушках варта зрабіць добры помнік.

Паліна захоплена кранула рукой скульптуру.

— І вы хацелі сысці з мастацтва! Ведаеце, самаедства ўвогуле ўласціва беларусам. Але не да такой жа ступені!

— Вам падабаецца? — Валянцін расцвіў усмешкай, і яго няпра-вільныя рысы раптам нібыта асвяціліся знутры.

Паліна нават трохі спалохалася, што зараз ён скажа ці зробіць нешта такое, пасля чаго ўжо не будзе ранейшай нязмушанасці ў адносінах. А яна ж, Паліна, насамрэч нічога сур'ёзнага да яго не мае! Так, хіба пацешыць самалюбства чужой закаханасцю. Але Валянцін згасіў усмешку і апусціў вочы.

— Што ж, я рады, што вам спадабалася. Няхай гэты варыянт застанецца ў вас. І я быў бы яшчэ больш рады, каб гэта была апошняя кропка ў вашых росшуках.

— Не дачакаецеся! — пераможна ўсміхнулася Паліна.— У пятніцу я еду ў Гарнушкі — шукаць чацвёртую жабку, нават стэлефанавалася з дырэктарам мясцовай школы. Ён прысланы нядаўна, нічога не ведае пра гарнушкаўскія забабоны, але цікавіцца краязнаўствам і паабяцаў, што ўладкуе мяне на кватэру.

— Вы не можаце ехаць адна! — захваляваўся Валянцін.— У жыцці не сустракаў такой зацятай дзяўчыны. Няўжо вам так важна знайсці гэтую няшчасную жабку?

— Важней за ўсё на свеце! — з выклікам прамовіла Паліна.— Ды вы сядайце… — схамянулася. Наконт таго, каб быць добрай гаспадыняй, ужо не цешыла сябе. Але ж трэба сумленне мець — госць пасля доўгай дарогі, прамоклы, з-за яе ж, дурніцы, трывожыцца…

Валянцін асцярожна апусціўся на крэсла, нібыта яно было антыкварнай каштоўнасцю, а не вырабам фабрыкі «Гомельдрэў». Але замест пачастунку, як праўдзівая эмансіпэ, Паліна пляснула на стол тэчку з паперамі.

— Вось, глядзіце. Рашчынскі з’ехаў за мяжу пасля таго, як пакаралі смерцю Кастуся Каліноўскага,— гэта, фактычна, азначала, што паўстанне задушанае. Маёмасць яго секвестравана — пад арыштам, ён нічога асабліва каштоўнага не мог з сабой узяць. Жыве ў Парыжы ў нейкім катуху, як жабрак. А падчас франка-прускай вайны на ўласныя грошы ўзбройвае найноўшай мадэллю ружжаў сістэмы Шатона роту жаўнераў. Урад нацыянальнай абароны нават выказаў яму падзяку. А потым, калі пачалася рэвалюцыя, Рашчынскі купляе зброю атраду паўстанцаў. Яму пашанцавала, што падчас абароны Парыжа ад немцаў быў цяжка паранены,— бо няйначай узяў бы ўдзел у Камуне і, хутчэй за ўсё, загінуў бы. І ўвогуле, яго ў колах парыжскага паўсвету — ён любіў знацца з мастакамі і пісьменнікамі, з багемай, карацей,— звалі не інакш як літоўскі Монтэ-Крыста, лічылі дзіваком і аскетам. Хоць жыў да канца жыцця вельмі сціпла, толькі на невялікі заробак ад прыватных урокаў ды публічных лекцый, не надта папулярных. І пасля, у 1893-м, калі Рашчынскаму дазволілі вярнуцца,— маёнтак разрабаваны, заняпалы, яго выкарыстоўвалі для размяшчэння вайсковага гарнізона,— адкуль грошы на шыкоўнае надмагілле? На новую двухпавярховую бальніцу для сялянаў? А пасля раптоўнай смерці ў 1894-м — аніякіх размоў пра багатую спадчыну. Маёнтак канчаткова разбураецца, бальніцу ніхто не дабудоўвае, а надмагілле пачынаюць разбіваць. І паколькі ў ім было зашыфраванае нейкае пасланне, можна здагадацца, што нехта не хацеў, каб яно дайшло да нашчадкаў.

— Можа, і цяпер нехта гэтага не хоча? — ціха прагаварыў Валянцін.

— Хто, несмяротныя захавальнікі скарбу? — пасміхнулася Паліна.— І далей. Я даведалася пра Станіслава Людвісара, у лісце якога быў малюнак надмагілля. Сын магната, удзельнічаў у паўстанні. Нават быў пад судом — але апраўданы за нядоказнасцю віны і як недзеяздольны. Пасля вызвалення зусім звар'яцеў, жыў у бацькавым палацы. Нашчадкаў не пакінуў. А з Вінцэсем Рашчынскім перапісваўся! Шкада, адзіны ацалелы ліст кудысьці знік з архіва. Затое ў другім лісце, да сваёй сястры ў Жэневу, Людвісар паведамляе пра смерць Вінцэся Рашчынскага і піша: «Няхай цяпер сумленне ягонае супакоіцца і смерць ягоная распарадзіцца тым, чым не ўдалося распарадзіцца жыццю. Хаця — не асуджай мяне моцна — мне шкада не толькі нябожчыка, але і таго сена, пры якім ён стаўся сабакам». Не, усё вырашана. Я еду ў Гарнушкі. Да таго ж хачу заехаць у суседнюю вёску, Весніцы. Ведаеце такую?

Засмучоны Валянцін моўчкі кіўнуў галавою.

— А такое прозвішча — Рагманавы — чулі? — дрыготкім голасам запыталася Паліна.

— Рагманавы? — задумаўся Валянцін.— Не, не чуў. А што?

— Ды так, нічога…

Валянцін сіратліва сядзеў на крэсле, схаваўшы рукі ў задоўгіх рукавах швэдара, нібыта яму было вельмі холадна, мокрыя валасы звісалі жаласнымі пасмамі… А трэба было б прапанаваць госцю гарачай гарбаты! Паліна ўзнялася, не тое каб надта ахвотна… Але ейныя добрыя намеры парушыў званок у дзверы. Адзін, другі, трэці… Хто гэта так настойліва просіцца ў госці?

Дзіна была ў кароткім белым плашчы з перламутравым бляскам — быццам перліна ў ракавінцы. І лёгкія летнія боцікі на высачэзных абцасах — белыя і бліскуча-чысценькія, відаць, гаспадыня прыехала на машыне. А вочы — зненавідныя.

— Валянцін у цябе?

— Так…— Паліна разгубілася, быццам яе заспелі на нейкім ганебным учынку, нават у чырвань кінула.

Дзіна хуткім крокам, ледзь не зачапіўшы гаспадыню, прайшла ў залу, дзе з крэсла падымаўся ёй насустрач таксама збянтэжаны Валянцін.

— Паехалі дадому.

Гэтак спакойна сказала, упэўнена, без ценю сумніву.

Паліна не любіла, калі ў кагосьці няма ні ценю сумніву. Відаць, Валянцін таксама. Ён выпрастаўся ва ўвесь свой немаленькі рост і азваўся:

— Ну навошта было турбавацца? Прабач, што не дачакаўся, каб папярэдзіць асабіста,— але ж я пакінуў ліст.

— Так, дзякуй хоць за гэта…— Спакой патроху здраджваў «уладальніцы».— Але было б сумленней, каб ты найперш думаў не пра старонніх кабет, а пра тую, што дзеля цябе рызыкуе жыццём… Пра нас з

табой дваіх, урэшце! — Дзіна гнеўна павярнулася да Паліны.— У нас з Валянцінам сапраўды асаблівыя адносіны, каб вы ведалі.

— Дзіна, не трэба! — Валянцін зноў збялеў, як ад болю.— Я заўсёды памятаю пра тое, што ты для мяне зрабіла, і ніколі цябе не пакіну. Але ад таго, што я ад’ехаўся на некалькі гадзінаў, ты і твая фірма нічога не страцілі.

— «Ніколі цябе не пакіну!» — Дзіна патроху раз’юшвалася.—Хіба толькі таго мне трэба, каб ты сядзеў цэлымі днямі ў майстэрні, ляпіў, маўчаў і, самае большае, пaглядаў з пачуццём глыбокай удзячнасці, як Граждан на партыю?

Валянцін упарта сціснуў сківіцы.

— Я сумленна выконваю нашую дамову.

— І бегаеш за іншымі спадніцамі?

Валянцін кінуў хуткі позірк на Паліну, што зусім забілася ад няёмкасці ў кут, загрувашчаны стосамі кніг, не ведаючы, ці не выйсці з пакоя падчас сямейнай сцэны. Але Дзіна не збіралася адкладаць высвятленне адносін на потым, і скульптар ціха прагаварыў:

— Наша дамова не тычылася… інтымных спраў. Дзіна, ты цудоўная дзяўчына, я ведаю, што не варты цябе. Ты будзеш шчаслівай з іншым. Я выканаю ўсё, што ты скажаш, жыццё аддам, калі па-просіш,— яно і так тваё. Але зразумей — ніхто не ўладны над сваімі пачуццямі. Я абразіў бы цябе, калі б пачаў прыкідвацца закаханым… Я разумею, што страшэнна вінаваты… Мы тры гады былі разам…

— Ты проста дурань! —- пагардліва кінула Дзіна.— У кожным сямейным жыцці ёсць перыяды, калі двое стамляюцца адно ад аднаго. А ты ўжо ўявіў сабе нешта.

— Мы нежанатыя,— вінавата нагадаў Валянцін.

— Але ж збіраліся пажаніцца! — амаль крыкнула Дзіна. Яе твар так страшна перакрывіўся, нібыта ў яе адбіралася апошняя надзея.— Ты што, перадумаў?

Валянцін моўчкі стаяў, апусціўшы галаву. Пасля з цяжкасцю прагаварыў:

— Прабач…

Віленская гандлярка сціснула кулакі і кіўнула ў бок Паліны:

— Гэта з-за яе? Можаш не адказваць, ведаю. Чыстыя пачуцці, рамантычнае каханне. А гэтая дамачка раскашэліцца дзеля цябе на пятнаццаць тысяч баксаў?

Валянцін разгублена перапытаў:

— Чаму пятнаццаць? Мы ж столькі ўжо выплацілі…

— А лічыльнік накруціў! — з’едліва патлумачыла Дзіна.— Будзеце яго выкупляць? — гэта — на адрас Паліны.

Тая перарывістым ці ад хвалявання, ці ад абурэння голасам прагаварыла, адчуваючы сябе здрадніцай:

— Я на вашага сябра не прэтэндую.

— Ну вось! — пераможна падрахункавала Дзіна.— Нікому ты, Валік, акрамя мяне не патрэбны. Паехалі дадому. На мяжы якраз чаргі няма, і мытнік знаёмы. У восем будзем на Жыгімонтаса. Купім пляшку шампанскага, а хочаш — піва…

Валянцін упарта глядзеў на сваю «ўладальніцу».

— Я буду працаваць на цябе дзень і ноч. І калі выплаціцца доўг — таксама. Але не магу падманваць цябе ў асабістым. Няхай нашы стасункі застануцца сяброўскімі.

Дзіна памаўчала, узважваючы наступныя словы:

— Паслухай, тваёй даме патрэбная чацвёртая жабка?

Паліна ўсхапілася:

— Вы ведаеце, дзе яе знайсці?

Але Дзіна размаўляла толькі з Валянцінам:

— Ты — чалавек слова. Я магу здабыць жабку ў абмен на тваё слова гонару — паабяцай, што пасля таго, як скончым росшукі скарбу, ніколі больш не сустрэнешся з гэтай паненкай, не станеш ёй ні пісаць, ні тэлефанаваць. Я нават не прашу, каб ты са мною жаніўся — бо і так ведаю: выкінеш блазноту з галавы, нашы пачуцці вернуцца.— І павярнулася да Паліны: — Хочаш атрымаць чацвёртую жабку?

Паліна няўпэўнена зірнула на скульптара. Гэтак ламаць чалавека… Ці мае яна права? Але разгадка таямніцы!.. Ніколі не бачыцца… Сэрца раптам сціснуў боль. Запярэчыць? Падаць няўклюдзе надзею? Але ж Дзіна дзеля свайго скульптара жыццём рызыкуе! Ён усё роўна звязаны, прыкуты да сваёй «уладальніцы»!

Ваганні вырашыў Валянцін, цвёрда прамовіўшы:

— Паліна хоча мець чацвёртую скульптуру. Я ведаю, што для яе гэта вельмі важна.

Твар Дзіны прасвятлеў, яна зноў набыла ранейшую ўпэўненасць, як пасля ўдалага гешэфту.

— Значыць, дамовіліся. У суботу прывязу жабку, і ўсе разам, як тады, рушым у Гарнушкі. Знойдзем тое, што шукаем, падзелім па справядлівасці, і — бывайце.

Валянцін нават не зірнуў на развітанне на Паліну. Так і пайшоў з каменным тварам, як палонны. А Дзіна яшчэ весела кіўнула няўдалай суперніцы:

— Віншую, выгадная здзелка!

Паліна зачыніла дзверы за нечаканымі гасцямі. На душы было пагана. Прадала чалавека дзеля сваіх інтарэсаў. Прамаўчала… Вядома, так ці іначай — нічога добрага не выйшла б. Пятнаццаць тысяч… Цікава, Дзіна відавочна не бедная. Тое, што гандлявала на Казюкасе,— дык для тамтэйшых гэта ўсё роўна як для нас на Купалле праз вогнішча скакаць. Далучэнне да старадаўняга свята. Джып, фірма, кватэра… Чаму б не

прадаць, абы пазбавіцца раз і назаўсёды небяспекі? Паліна папракнула сябе за нядобрыя думкі.

Дзяўчына разгублена абвяла вачыма сваё жытло. Колькі можна было б за яго выручыць? Ніколі пра гэта не думалася. Ды анічога — кватэра непрыватызаваная. Што Паліна магла б прадаць? Чым валодае? Некалькі срэбных пярсцёнкаў, гара кніг ды відэаплэер «Соні», у якім час ад часу заядае кнопка. Ага, яшчэ карціны… Вось тая, з паляўнічым нацюрмортам, падабраная ледзь не на сметніку, даляраў за сто пайшла б цяпер, далібог.

Паліна заўсёды пагарджала грашыма. Навошта іх шмат? Ці ў цябе памер страўніка павялічыцца адпаведна памеру зберажэнняў? Чым асабліва адрозніваюцца туфлі ад Гучы ад туфляў вытворчасці фабрыкі «Прамень»? Ты ў фірмовых перастанеш спатыкацца і хадзіць не туды, куды трэба?

А цяпер Паліна адчувала сябе прыніжанай і бездапаможнай. Нават калі збыць усё да апошняга швэдара — ці назбіраецца хоць тысяча «зялёных»? Не, яна не змагла б падарыць волю Валянціну. А з дапамогай жабкі — раптам знойдзецца сапраўдны скарб? Залаты леў? Тады і Валянцін вызваліцца! Праўда, не ад слова гонару — з горыччу нагадала сабе дзяўчына. Расстанне назаўсёды… Ды яшчэ — з якімі ўражаннямі? Прадала няспраўджанае каханне…

На стале апынуліся побач літровы слоік з шыпшынавым варэннем ад Сымона і бюст Рашчынскага, злеплены Валянцінам. Цікавая інсталяцыя! Паліна прынесла з лядоўні Стасеву тэкілу — шыкоўная выгінастая бутэлька з залатымі налепкамі, і таксама паставіла на стол. Тры падарункі для прынцэсы… Чый лепшы? З кім быць прынцэсе?

І раптам адчайна заплакала, не збіраючыся сама сабе тлумачыць — чаму.

## 16

— Вінсэнт! Не забудзься — заўтра а пятай адкрыццё Салона! Прыходзь абавязкова. Накруцім бакенбарды акадэмікам!

— Вінсэнт! Паабяцай, што калі маю карціну купяць за сто франкаў — вып’еш бутэльку «Шато-марго»!

— Не спадзявайся, Анры, наш бравы Паляўнічы не вып’е нават на ўласных хаўтурах.

— Твая праўда, Шарль,— на ўласных хаўтурах нават ты выпіць не зможаш.

— Мой Бог, і сапраўды. Я не пераживу гэтай несправядлівасці!

Чарнявы, як грак, Шарль з вусамі, закручанымі ў тугія чорныя колцы, бесклапотна зарагатаў — нібыта ў яго не было пятнаццаці франкаў доўгу за кватэру і не прэтэндавалі на яшчэ два не заробленыя франкі зяленіўшчык і прачка, а ў дом на віа Тарэ-дзі-Нона, у Залаты дом з

чароўнай Зізі, яго проста больш у доўг не пусцяць. Гэтак жа бесклапотна засмяяўся і Анры, рудаваты мажны барадач у саламяным капелюшыканацье. Няхай у кішэні — ані сантыма, Бог любіць спеўных птушак і заўсёды спашле ім нешта на кавалак хлеба… і бакал абсенту.

Ля парыжскай кавярні Гербуа квітнелі яблыні, і ружова-белыя пялёсткі асыпаліся на брукаванку, на столікі, вынесеныя пад травеньскае сонца, на агромністыя капелюшы дам у ружовых і бэзавых сукенках, на чорныя цыліндры-«васьміблліскі» наведнікаў. Апошняя рэвалюцыя забылася, як страшны сон,— некаторыя з маладых мастакоў, што аблюбавалі кавярню, увогуле нарадзіліся пасля крывавых падзей. Таму дзівакаваты Вінсэнт, светлавалосы немалады замежнік, успрымаўся як жывая легенда. Расказвалі, што ён быў сярод камунараў на могілках Пер-Лашэз, што сама Чырвоная Цнатліўка Луіза Мішэль, школьная настаўніца, якая натхняла рэвалюцыю, пацалавала яго, бласлаўляючы на бойку. Што пасля паразы Камуны ён, каб не трапіць у страшную Каледонію, куды высылалі паўстанцаў, падарожнічаў па Сахары і Тыбеце, паляваў на тыграў, ільвоў ды іншых драпежнікаў — вось і празвалі Паляўнічым. А дзесьці ў сваёй дзікай паўночнай краіне ён учыніў калісьці страшнае злачынства або перажыў страшную трагедыю і мае патаемныя скарбы, і ўвогуле ён пазашлюбны прынц... Ды чаго толькі не нагавораць языкі парыжанаў! Галоўнае — месье Вінсэнт (прозвішча было настолькі цяжкое, што яго ніхто не мог вымавіць) вельмі разумны і цікавы сумоўца, заўжды спакойны, і за гэтым спакоем хаваецца незразумелая, але вялікая моц. Кожную раніцу пераплываць Сену — гэта трэба мець сілу! Асабліва калі вада пачынае замярзаць. Сведкі расказвалі, што Паляўнічы нават узімку дае нырца ў палонку — адразу відаць кроў паўночнага дзікуна. Але ж месье Вінсэнт — філосаф, час ад часу чытае публічныя лекцыі. Праўда, не сказаць, каб ягоныя тэорыі былі надта модныя. Сусветная міфалогія, паходжанне нацый… Цяпер у модзе іншае: мы ўсе — дзеці малпы, спадарства, віват Дарвіну. Затое ў мастацтве слова Паляўнічага — золата! Калі скажа — добра, значыць, заказвай вячэру з шампанскім, ты сапраўды нешта вартае стварыў. Але паспрабуй дачакацца ад нашага Паляўнічага ўхвалы! А галоўнае — ніякіх дзяўчатак. Ніякіх Зізі, Мімі, Марыучы… Усе нешматлікія любоўныя гісторыі, што расказваліся пра Паляўнічага, былі вельмі заблытаныя і недазваляльна сур’ёзныя.

Светлавалосы Вінсэнт (густая грыва з незаўважнай сівізною, яркія сінія вочы са зморшчынкамі ў куточках, суровы рот) ветла памахаў сябрам рукой на развітанне.

Што ж, яно так заўсёды — час гарматаў і час паэтаў змяняюць адзін аднаго ў вечнай каруселі. Ён сышоў з гэтае забаўкі яшчэ трыццаць гадоў таму.

«Паляўнічы»… Гучыць прыемней, чым зацкаваны звер.

Паляўнічы любіў Парыж. Апошнія гады горад пераўтвараўся на вачах, і многія абураліся. Забіваецца «дух Лютэцыі» (так калісьці называлася гэтае места). Прасторныя будынкі супермаркетаў, усе са шкла і металу, дзе маладзенькія прадаўшчыцы працуюць па пятнаццаць гадзін у дзень, не маючы права прысесці й на хвілю; сусветныя выставы з іх пампезнасцю, з афрыканскімі і кітайскімі вёскамі, збудаванымі на пару тыдняў… А Цэнтральны рынак — «парасон ад дожджыку», як называў яго Напалеона III? Хіба ён заменіць вясёлы гандаль на маленькіх пляцах? Ну а супраць Эйфелевай вежы нават праводзяцца мітынгі! Гі дэ Мапасан абвясціў гэтай жалезнай пачварыне вайну. Нарэшце «Гранд-Апера», збудаваная непадалёк ад ціхай ру Віньён, дзе атабарыўся Вінсэнт, агромністая, як скамянелая хмара… Безгустоўшчына, панове!

Але Паляўнічаму хутчэй падабаліся гэтыя перамены. Вызваляюцца архітэктурныя формы, вызваляюцца фарбы мастакоў, вызваляюцца народы… Толькі ягоны народ цярпліва чакае, пакуль шчасце неадчувальна апусціцца з неба, як гэтыя яблыневыя пялёсткі.

— Пардон, месье!

Дзяўчынка-разносчыца з вялікім кошыкам, накрытым бялюткай сурвэткаю,— падобна, там круасаны, духмяныя булкі-паўмесячыкі,— неўзнарок штурхнуўшы высокага важнага пана, белазуба ўсміхнулася. Позірк чорных, як масліны, вачэй не вінаваты, а хуткі і зацікаўлены. Хто асудзіць немаладога самотніка, які звядзе нядоўгае знаёмства з баявітай парыжаначкай?

Вінсэнт сумна ўсміхнуўся дзяўчыне, і тая, састроіўшы смешную грымаску — старэча ты, старэча! — знікла ў натоўпе, спрытна абмінаючы мінакоў, як лёгкі чоўнік — паважныя дымныя параходы.

Дамы на ру Віньён былі вельмі старыя, яшчэ з чорнымі драўлянымі накладкамі паўзверх муроў, паводле сярэднявечнай моды, і на кожным доме — выява-«візітоўка». Будынкі так і называліся: «Пад ласосем», «Пад мядзведзем», «Пад рыцарам». Паляўнічы жыў у доме «Пад казой». Дакладней, на мазаічным пано, што прыкрашаў франтон дома, мелася дзве выявы — пастушка ў чырвоным каптурыку дзьмула ў дудачку, а за ёй скакала няўклюдная даўганогая каза, і на казіных рагах гайдаўся залаты ветах. Мясцовыя тлумачылі — гэта таму, што дом калісь будаваў купец, які гандляваў воўнай і казіным сырам. А Паляўнічаму здавалася, дзяўчынка, каза і ветах — гэта пра тое, што ўсё мінае і бесклапотнае спеўнае юнацтва незаўважна вядзе за сабой смерць. Але пры адпаведным настроі смерць можна пабачыць ва ўсім, асабліва на вуліцы, названай у імя паэта, што напісаў вясёлую баладу пра танец вісельнікаў.

Кватэра Вінсэнта месцілася на самым версе — ён не мог дазволіць сабе лепшай. Кансьержка высунулася са свайго катуха з урачыста-таямнічым выглядам і, працягваючы ключ, прамовіла:

— У месье госці.

— Госці? — здзівіўся Паляўнічы.— Я нікога не чакаў.

— О, гэта сюрпрыз! — расцвіла звычайна суровая мадам Матыльда.— Ідзіце, самі ўбачыце!

Вінцэсь зразумеў, што невядомы госць добра заплаціў. Але не паскорыў кроку. Ён ужо даўно прывучыўся ўспрымаць усё як належнае. Чаго яму баяцца? Што яшчэ ён можа страціць?

Дзверы ў кватэру аказаліся незачыненымі. Перад акном мансарды вымалёўваўся цёмны сілуэт жанчыны ў моднай вузкай сукенцы, пашыранай у самым нізе, і капелюшы са страусавымі пёрамі памерам з невялікі востраў. У пакоі з надзвычай спартанскай абстаноўкай фігура глядзелася экзатычна.

— Чым абавязаны вашаму візіту, мадам?

Незнаёмка, крыху памарудзіўшы, павярнулася. Твар захінаў кароткі вэлюм, але было зразумела, што кабеце — за сорак, значыць, пра легкадумны візіт — падарунак ад сяброў мастакоў («А ці не паслаць новую натуршчыцу да нашага самотніка?») — гаварыць не выпадала. Жанчына моўчкі разглядала гаспадара, так што яму нават зрабілася няёмка. Рука госці ў страшэнна дарагой карункавай пальчатцы нерашуча паднялася і адкінула вэлюм.

— Дзень добры, пан Вінцэсь!

— Хрысціна! — Вінцэсь кінуўся да госці і прыпаў вуснамі да яе рукі.

Кабета ўсхвалявана ўсміхнулася.

— А я баялася, што вы мяне не пазнаеце. Я пастарэла, дарагі…

Вінцэсь радасна запярэчыў, не выпускаючы яе рукі са сваёй:

— Вы ўсё такая ж прыгажуня! Гэта я ператварыўся ў сумнага старэчу і нават забыўся на ветлівасць. Сядайце вось сюды, на гэтае крэсла — яно яшчэ трымаецца на ўсіх сваіх чатырох крывых лапах. А я звару кавы. Ці шакаладу? Вы любіце гарачы шакалад, Хрысціна?

Госця глядзела з лёгкім сумам, як гаспадар распальвае грубку, ставіць на жалезную рашотку кававарку... Адзіная раскоша пакоя — шкура льва, расцягнутая на сцяне, ды нейкія дзіўныя дзіды. Жалезны вузкі ложак засланы саматканай посцілкай. А над ложкам — абраз Маткі Боскай Вастрабрамскай і шляхецкі слуцкі пояс колераў звялай травы і золата.

— Напэўна, са ста мужчын толькі адзін вось гэтак не саромеўся б сваёй беднасці, калі да яго прыйшла графіня Мекленбургская. Цяпер мне яшчэ больш зразумела, чаму я вас пакахала, Вінцэсь. Так, так, сёння я магу гаварыць пра гэта вольна — усё сплыло, усё прамінула…

Вінцэсь паставіў на стол два кубкі з гарачым шакаладам (сапраўдная кітайская парцэляна з сінімі рыбкамі, падарунак аднаго мастака) — і сеў насупраць сваёй госці. Вядома, яна пастарэла. Твар пашырэў, вочы, усё гэткія ж блакітныя, паглядалі з-пад навіслых павек без ранейшай наіўнай захопленасці. Пастава, зразумела, страціла юначую гнуткасць… А

галоўнае, што змяніла аблічча,— уладарнасць, ветлівая, цвёрдая, якую немагчыма ўдаваць, калі не маеш сапраўднае ўлады.

— Як Станіслаў? — папытаўся Вінцэсь, перарываючы няёмкую паўзу, што ўсё-ткі ўзнікла.

Графіня толькі трохі прыўзняла бровы.

— Зусім апусціўся, ведаеце. Бацька да самай сваёй смерці спадзяваўся, што Стась будзе вартым роду нашчадкам. Спрабаваў зацікавіць яго гаспадаркай, ваеннай кар'ерай, свецкім жыццём… Дарэмна. Стась зламаўся, расчараваўся ва ўсім свеце. Жаніцца таксама адмовіўся. Знайшоў адзіны інтарэс — ежу. Так, так, яго адзіная забаўка — жэрці. Дзесяць кухараў, і кожны спецыялізуецца на нейкай нацыянальнай кухні — француз, іспанец, перс, нават, здаецца, кітаец. Вось Станіслава вы маглі б і не пазнаць, Вінцэсь. Ён цяпер ходзіць, толькі абапіраючыся на двух слугаў,— тоўсты, як бочка з півам. Калі здарыцца рэвалюцыя і ён застанецца без нічога — зможа падзарабляць у балагане. Урэшце бацька пакінуў яму толькі рэнту, а распараджаюся ўсім я. Нічога, у мяне выявілася да гэтага здольнасць.— Хрысціна падарыла Вінцэсю свецкую ўсмешку —аднымі вуснамі.— Я таксама ў многім расчаравалася. І на рамантычныя ўчынкі — накшталт ахвяраваць сваю маёмасць, ці хоць яе частку, на «высакародную грамадзянскую справу» — баюся, на такое глупства я ўжо не здольная. Усе высакародныя справы канчаюцца на віселькі або ў вар'ятні. Ведаеце, як гаворыцца: рэвалюцыю прыдумваюць рамантыкі, здзяйсняюць фанатыкі, а карыстаюцца яе перамогай нягоднікі. А ў мяне, дарэчы, чацвёра дзяцей, і ўсе — маленькія арыстакраты.

Графіня прыемна засмяялася — так, як прынята смяяцца падчас сяброўскай гаворкі. Вінцэсь сумна глядзеў на яе і бачыў іншае — золатавалосая дзяўчына бяжыць праз лясны гушчар, падае ў мокры снег, падымаецца, зноў, задыхаючыся, імкнецца наперад, ратаваць свайго героя…

— А вы, Вінцэсь? Як вы? Ці ўвесь час — адзін?

Вінцэсь апусціў пасівелую галаву.

— Я не святы. У мяне былі жанчыны, хоць сапраўднага пачуцця да іх не знайшлося ў маёй выгнанніцкай душы. На жаль, я занадта сур'ёзна стаўлюся да простых стасункаў. Пакутаваў сам і мучыў вартых любові кабетаў. І… я таксама шмат у чым расчараваўся, графіня. Ваяваў спачатку ў арміі Нацыянальнага ўрада Цьера, потым — на баку камунараў. Праўда, я быў моцна паранены падчас абароны Парыжа ад немцаў, і ўдзел мой у Камуне амаль толькі — даць грошы на зброю. Я спадзяваўся, што ўзброеныя мной людзі, вызваліўшы свой народ, пойдуць ратаваць мой, стануцца пачаткам вызвольнай арміі… Нібыта волю можна прынесці на іншаземных штыках!

— Калісьці мне здавалася, што вы не можаце рабіць памылак,— ціха прамовіла Хрысціна, ледзь дакранаючыся тонкімі пальцамі, абцягнутымі

карункамі пальчаткі, да гарачага кубка.— Вы і вашы сябры так і не скарысталі большую частку атрыманага ад бацькі?

Вінцэсь памаўчаў, пераадольваючы застарэлы боль.

— Я сам пачынаю думаць, што грошы тыя праклятыя. Мой сваяк, Юзаф Каліноўскі, так і сцвярджае і піша, што мы лепш зрабілі б, каб перадалі золата на патрэбы ордэна кармелітаў. Дарэчы, чулі пра Юзафа?

Хрысціна паціснула плячыма.

— Усё, што ведаю,— яго прысудзілі да смерці, але выручыў айчым, граф Путкамер, і скончылася высылкай у Сібір. Дзіўна, ваш сваяк заўсёды здаваўся мне такім далікатным, слабенькім… І раптам — заслужыў расстрэл!

Вінцэсь кіўнуў, згаджаючыся.

— Дабрэйшага за Юзафа я чалавека не сустракаў. Але Юзаф прабыў дзесяць гадоў у Сібіры, вярнуўся… І ўступіў у ордэн кармелітаў. Цяпер — прыёр кляштара! Не здзіўлюся, калі яго прызнаюць за святога. А я магу суцяшацца толькі тым, што ані шэлега не патраціў на сябе.

Хрысціна рашуча адставіла кубак, з якога так і не адпіла ні глытка.

— Што ж, кажуць, гордая беднасць заслугоўвае павагі. Хоць я, шчыра кажучы, з вышыні пражытых гадоў не ведаю, чым тут ганарыцца. Мне здаецца, вы ў Парыжы проста паціху высыхаеце, гібееце без справы. Я прыйшла паведаміць — вы можаце вярнуцца на радзіму.

— Што?!! — Вінцэсь ускочыў з крэсла, ледзь не перакуліўшы яго на падлогу. Галава кружылася, як пасля бакала абсэнту.

Графіня глядзела з лёгкай сумнай усмешкай.

— Скажыце, пан Рашчынскі, што яшчэ ў цэлым свеце магло б вас гэтак пазбавіць раўнавагі, вас, такога ўраўнаважанага? Мусіць, толькі не жанчына?

Вінцэсь змусіў сябе супакоіцца.

— Я сумую па сваіх краях. Дужа сумую.

— Вось і вяртайцеся.— Графіня няспешна ўзнялася.— Вы — сярод амніставаных, вам вернуць ваш маёнтак. Праўда, ніякай кампенсацыі за нанесеную яму шкоду не чакайце. І тыя землі, што адышлі сялянам,— не вернуцца.

Вінцэсь захінуў твар рукамі. Гарнушкі… Маскалёў лес… Сасна на стромым беразе ракі… Сівы туман, што паўзе, як паранены вужыны кароль, з паплавоў у празрыстыя хвалі…

— Хрысціна! Вы яшчэ раз вяртаеце мне жыццё!

На твары госці заставалася спакойная прыстойная ўсмешка, але голас дрыжэў:

— Тады, можа, вы мне нарэшце скажаце, Вінцэсь… Чаму вы не захацелі быць са мной? Якая прычына вашай халоднасці? Я вам не падабалася? Вас прыніжала маё багацце? Згадзіцеся, я заслужыла права ведаць!

Вінцэсь зноў апусціў галаву. Не адказаць было нельга.

— Я кахаў іншую.

— А яна? Вашая абранніца? Кахала вас?

— Не.

Графіня памаўчала, у яе ўсмешцы з’явілася хваравітая жорсткасць.

— У такім выпадку я рада, дарагі. Ну што вы так здзіўлена на мяне пазіраеце? Я не збіраюся гуляць у добрую самарыцянку. Каханне — гэта ўсяго толькі барацьба індывідуальнасцяў, прага валодання… І мне прыемна, што вы прайгралі гэтак жа, як і я.

Вінцэсь правёў госцю да яе экіпажа і доўга глядзеў услед. І яму здавалася, што разам з Хрысцінай ад яго аддаляецца ягоная маладосць, і ён сапраўды адчуў сябе старым. Нікому не патрэбным самотным старым, у якога засталіся адны магілы.

І ён вярнуўся да сваіх магілаў.

Гэта здарылася ўжо ўвосень, на Дзяды, калі на могілках свяціліся жоўтыя зоркі свечак, дрогкія, як спадзяванне на сустрэчу. Дрэвы стаялі чорныя, голыя, бы пакараныя грэшнікі, выцвілая сухая трава акрым як пра смерць не нагадвала ні аб чым. Але Вінцэсю ўсё здавалася прыўкрасным — і нізкае шэрае неба, і апошні залаты ліст на вершаліне старога каштана — прыветна ўзнятая даланя… І нізкія хаткі Гарнушак…

Сяляне выйшлі сустракаць яго з хлебам-соллю. Чалавек сем, з выгляду — заможныя… Так бы мовіць, вясковая арыстакратыя. Вінцэсь прагна ўглядаўся ў твары… Не, нікога не ведае. Тыя, што былі з ім побач у бойках,— даўно ў свеце, дзе толькі сумна дзівяцца з чалавечай зацятасці і ўзаемнай нянавісці.

А вёска як вымерла… Сем спалоханых, нізка схіленых мужыкоў — і больш нікога… Вінцэсь не спадзяваўся, што яму ўзрадуюцца,— апошні візіт у Гарнушкі амаль прывёў яго на шыбеніцу. Але ўсё-ткі прайшло трыццаць гадоў…

А калі ён пабачыў дом, дзе вырас,— ледзь стрымаў роспачны крык. Будынак прыняў на сябе ўсю нянавісць да адсутных гаспадароў. Вокны другога паверха пазабіваныя дошкамі, да сценаў прываліліся, бы п’яныя, неахайныя хмызнякі — такія растуць вельмі хутка, і іх будзе цяжка выкарчаваць. На калонах — сляды ад куль… Наўрад была аблога — хутчэй забаўляліся казакі, размешчаныя ў секвестраваным маёнтку. Вось і пацвярджэнне — каменная выява герба Рашчынскіх, з мядзведзем на задніх лапах, прымацаваная на фасадзе, відавочна служыла мішэнню для спаборніцтваў у трапнасці. Мядзведзь увесь патрушчаны ўдалымі стрэламі. Базыль, наняты Вінцэсем у Гародні за слугу і кучара, заклапочана пацокаў языком. Вінцэсь зразумеў — моцна расчараваўся ў сваім гаспадары. І як тут жыць? А сёння ж Дзяды, трэ вячэру ладзіць…

Вінцэсь, як у сне, хадзіў па забруджаных халодных калідорах, зазіраў у пакоі, нібыта ў труны… Толькі ў былым дзіцячым пакоі засталося ў куце «цукерачнае дрэва», на якое нейкі жартаўнік павесіў выедзеную шапку

сланечніку. Засталося тое-сёе з мэблі ды фамільныя партрэты, пасечаныя шаблямі. Рашчынскі непаслухмянымі рукамі зняў са сцяны павіслы на адным рагу партрэт бацькі… Пан Антон Рашчынскі пазіраў на сына, які стаў ужо старэйшым за яго, смелымі шэрымі вачыма, і яго твар наўскос перасякаў шнар-парэз… Амаль як у Ваўкалака…

Дзе цяпер Мартын? Ці жывы?

У сталоўні пахла вогнішчам. Рука Вінцэся пацягнулася да дзверцаў буфета, у якім калісьці захоўваўся сервіз з венецыянскага шкла — графін, прыкрашаны срэбнымі вінаграднымі гронкамі, і чаркі… Сервіз, які Вінцэсевы продкі выменялі за сялянскую сям'ю. Цяпер быў бы самы час паставіць яго на стол, як раіў бацька. Вінцэсь быццам пачуў голас пана Антося: «А гэты сервіз… Я хачу, каб ты заўсёды захоўваў яго. І калі табе раптам падасца, што ты зрабіў для свайго народа ўсё, што мог,— пастаў яго на свой стол».

Вядома, у буфеце было пуста. Толькі адна невялікая рэч не спатрэбілася рабаўнікам. Вінцэсь асцярожна зняў яе з паліцы… Вазачка-жабка, разбітая і акуратна склееная воскам… Госпадзе, а ён думаў, што боль па страчаным каханні з гадамі суцішыцца! Глухое рыданне падступіла да горла — Вінцэсь нават спалохаўся: няўжо гэтак здаў, саслабеў?

Не, ён не дазволіць сабе раскісаць. Яшчэ належыць зрабіць вельмі шмат. Усё-ткі гэта — яго дом, яго зямля. І хоць сяляне больш не ягоная маёмасць, але ён адказны і за тое, як яны жывуць!

А Гарнушкі пасылалі да яго сваіх выведнікаў. І тыя, сціпла камечачы ў руках шапкі, спрабавалі выпытаць з дурнаватай хітрасцю, ці не збіраецца пан адсуджваць назад зямлю, якую атрымалі мужыкі, што дапамагалі лавіць пана, былі ў атрадзе самаахові? Ці не затаіў пан крыўды, ці не збіраецца помсціць? І колькі яны будуць цяпер плаціць за арэнду той зямлі, што зноў належыць пану?

І Вінцэсь нешта тлумачыў, супакойваў, гаварыў, што трэба аднавіць працу школкі, абяцаў, што пабудуе бальніцу, што плаціць за арэнду трэба будзе менш, чым у казну, зусім мала… А можа, і нічога…

І з горыччу адчуваў, што яму не вераць.

Аднак бальніцу сапраўды варта пабудаваць. На гэта не шкада ўзяць ад схаваных грошай… І абавязкова дапамагчы сваякам тых, хто быў у Вінцэсевым атрадзе. Скрыні са зліткамі трыццаць гадоў таму былі закапаныя — не было як даць ім рады. А манеты з дзвюх маленькіх скрыняў, каб пачаць адраджэнне паўстання, падзялілі між сабой Вінцэсь і Ваўкалак, пакляўшыся — ані шэлега на сябе!

Вінцэсь патраціўся на зброю, якая не паслужыла ягонай зямлі, але ўсё-ткі здабыла глыток волі людзям. Заставалася яшчэ частка, вось і будзе — на лякарню! Але… трэба параіцца.

Усе гэтыя гады лёс скарбу паўстанцаў прыгнятаў Вінцэся. Хто застаўся жывы з пасвечаных у таямніцу? Пан Рагманаў памёр, не пажадаўшы

дакрануцца да праклятага золата, набытага за жыццё яго сына. Мартын знік. Тады Ваўкалак яшчэ прывёў Марцэла Алейшчыка, а Вінцэсь паручыўся за Міхася Валевіча. Міхася павесілі. Дзе Марцэл — зноў жа невядома. Яшчэ некалькі чалавек ведалі пра існаванне золата, але не ведалі, дзе яно схаванае,— Вальжына, Людвісары, цёзкі Каліноўскія — Юзаф і Кастусь. Кастусь, дарэчы, збіраўся сам распарадзіцца золатам — ды не паспеў. Юзаф сваё стаўленне выказаў — аддаць кармелітам. Вальжына? Пра Вальжыну лепш не думаць. Трыццаць гадоў таму Вінцэсь зрабіў усё, што мог, каб вырætаваць яе ад пераследу, і адзінае, што ведае,— Вальжына з’ехала. І вусны самі прашапталі радкі з сумнай балады пра мёртвага караля:

А як любіў кароль чароўны бляск
Яе вачэй і ціхую пяшчоту
Яе далоняў… Быццам першы раз,
Узрушваў кожны самы лёгкі дотык…
…Кахае — не яго… Навошта — суд,
Які не можа шчасця даць нікому?
Навошта жыць, калі яна — не тут
І нельга не аддаць яе другому?..

Што сёння адбываецца на Беларусі? Як можна дапамагчы вызваленню краіны? Ці ёсць сілы, здольныя біцца за волю? Вінцэсь дастаў з сакваяжа дарагія сэрцу рэчы — «Словарь белорусского наречия» Івана Насовіча і «Дудку беларускую» Мацея Бурачка. Разгарнуў апошнюю кнігу… «Божа ж мой, Божа! Што ж мы за такія бяздольныя? Якаясь маленькая Булгарыя — са жменя таго народу — якіясьці Харваты, Чэхі, Маларосы і другія пабратымцы нашыя… маюць па-свойму пісаныя і друкованыя ксёнжачкі і газэты, і набожныя, і смешныя, і слёзныя, і гісторыйкі, і баячкі; і дзеткі іх чытаюць так, як і гаворацъ, а ў нас як бы захацеў цыдулку ці да бацькі лісток напісаць па-свойму, дык, можа б, і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што «піша па-мужыцку», і як дурня абсмяялі б! А можа, і сапраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага ні сказаць, ні напісаць не можна? Ой, не! Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам, і гаворым жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек, не раўнуючы, як і паны вялікія ахвотней гавораць па-французску, як па-свойму. Нас жа не жменька, а з шэсць мільёнаў…»

Вінцэсь ведаў гэтыя словы на памяць, але кожны раз, як перачытваў, камяк падыходзіў да горла. Жыве Беларусь! Толькі жыве сваім жыццём, ад якога ён даўно адстаў.

Рашчынскі прытуліўся да напаленай грубкі. Хутка пачне цямнець… Вінцэсь углядаўся ў далёкія сілуэты гарнушкаўскіх хацінак без адзінага агеньчыка, і яму мімаволі здавалася, што гэта войска пачварных шэрых

карлаў, што падрыхтаваліся да нападу. І вось-вось яны адштурхнуцца ад мерзлай зямлі і кінуцца на маёнтак, папаўзуць на яго, рыхтуючыся сцерці з зямлі…

Што за глупства! Гэта — яго зямля, і не трэба забывацца, што з-пад дахаў тых шэрых хацінак з’явіўся і Міхась Валевіч, і Янук募Вараўня, і іншыя, з якімі ён дзяліў гора і славу змагання за волю. Дзесьці там жывуць унукі яго добрай нянькі Агаты і тая бялявенькая ўсмешлівая дзяўчынка, што з іншымі вясковымі дзеткамі прыходзіла ў іх маёнтак на Каляды, каб патанчыць ля панскай ёлкі і атрымаць дзівосныя падарункі. Як жа яе звалі? Марыська?

Неба навісла гэтак нізка, што здавалася — зараз яго праб’юць дзіды голага кустоўя. Да сядзібы павольна набліжалася нечая постаць. Святар! У гэтым не было нічога дзіўнага — мясцовая «эліта» патроху наведвала Вінцэся, спрабуючы зразумець, чаго чакаць ад новага суседа. Мала хто памятаў яго, і не ўсе, хто памятаў, хацелі аднавіць знаёмства.

Святар, відаць, быў зусім стары ці хворы, бо моцна абапіраўся на кульбачку. Ідзе, сагнуўшыся ледзь не ўдвая, чорная шапка з накідкай — значыць, мніх. Вінцэсь паспяшаўся адчыніць дзверы. Стары пера-ступіў парог і прыўзняў галаву…

Глыбокія зморшчыны, вядома, змянілі твар, вочы сталі празрыста-светлымі, нібы першы лёд, але шнар… Страшны шнар ад шаблі, праз усю правую шчаку, час разгладзіць не змог.

— Мартын!

Яны абняліся.

— Не магу паверыць, што гэта — ты…— Вінцэсь быў страшэнна ўзрушаны.— Як цябе цяпер называць?

— Я прыняў пострыг яшчэ дваццаць пяць гадоў таму, імя маё ў Хрысце — Андрэй.— Ваўкалак гаварыў ціха, але голас яго не страціў цвёрдасці.— А рукапалажылі ў святары толькі праз пятнаццаць гадоў. Я быў вялікім грэшнікам.

Вінцэсь глядзеў — і не пазнаваў… Рахманасць старога святара не была гульнёй. Ён сапраўды прымірыўся са светам і з самім сабою. Вінцэсь адчуў раптам страшэнную зайздрасць. Унутраны спакой! Няма каштоўнасці большай — гэта разумееш толькі пад канец жыцця.

Але як толькі зайшла гаворка пра золата, Вінцэсь пазнаў ранейшага непахіснага ваяра.

— Праклятае золата трэба пахаваць назаўсёды! — Вочы айца Андрэя бліснулі зацятым агнём.— Праз не заробленае сумленнай працай багацце намі кіруе Сатанііл! Нам здаецца, што мы ачысцім грошы, уклаўшы іх у добрую, боскую справу. Але гэта — спакуса. Мы не ведаем, колькі душаў загіне з-за нашай неасцярожнасці і прага-вітасці! Я пераканаўся ў гэтым…— Ваўкалак скрушліва ўдарыў сябе ў грудзі кулаком.— Я даў грошай на пабудову кляштара. А пасля даведаўся, што на тое ж золата

пабудавалі і манапольку, дзе цяпер спойваюць мужыкоў. Грошы раскрадаліся, адзін святар з-за іх стаў расстрыгам, уцёк. Пачаліся інтрыгі з-за таго, хто будзе настаяцелем… У мястэчку прыбавілася самадаек і кішэнных зладзеяў… А я сышоў адтуль назаўсёды.

Вінцэсь дарэмна спрабаваў спрачацца, нешта даводзіць. Ці варта вінаваціць сябе ў грахах усяго свету? У чым Мартын не змяніўся — дык гэта ў зацятасці наконт таго, што лічыў справядлівым. Праклятае золата, здабытае цаной крыві, чапаць нельга. Няхай яно назаўсёды застанецца там, дзе было.

— Урэшце, гэта мусім вырашаць не толькі мы ўдваіх,— сцвердзіў Вінцэсь.— Юзаф свае слова сказаў — ён хоча, каб золата адышло ордэну кармелітаў. Ты лічыш, на яго трэба забыць. Я ўсё яшчэ спадзяюся скарыстаць яго дзеля стварэння незалежнай беларускай дзяржавы. Але голас маюць і Вальжына, і Марцэл, і, урэшце, усе нашыя паплечнікі, хто застаўся жывы. Пакуль ёсць надзея спытаць у іх — мы не можам вырашаць самі.

Айцец Андрэй прыклаў руку да крыжа, што вісеў на яго грудзях, нібы прыводзячы ў сведкі сваёй праўдзівасці Госпада.

— Марцэл падзяляе маю думку. І… Вальжына таксама.

Кроў застукала ў вушах у Вінцэся. Як калісьці, калі ён ляжаў, аглушаны ўдарам варожай шаблі, на полі бойкі.

— Ты ведаеш, дзе яны? Дзе… Вальжына?

Святар паблажліва-сумна ўсміхнуўся.

— Марцэл — разам са мной. Прыслужвае ў царкве. Ён застаўся без рукі, калі мы біліся пад Маркаўцамі. А Вальжына — у Весніцах.

Зусім побач! Вінцэсь спрабаваў схаваць хваляванне.

— І… як яна?

Мартын глядзеў, як бацька на несвядомае дзіця.

— У Вальжыны ўсё добра. Яна не адна.

— Я рады, што яна выйшла замуж.— Вінцэсь гаварыў шчыра — у яго не ўзнікла й ценю дурной рэўнасці. Галоўнае — каб была шчаслівай. Каб хоць яе жыццё не сталася пустацветам.

— Я не сказаў, што яна выйшла замуж. Я сказаў, што яна не адна. У Вальжыны ёсць сын. А цяпер і ўнукі.

— Сын? — Вінцэсь разгубіўся.

— Так, сын. Яго імя — Марка. Марка Рагманаў.

Ваўкалак сказаў гэта так асабліва, што Вінцэсю стала горача ад раптоўнай здагадкі.

— І колькі яму… гадоў?

— Дваццатага ліпеня будзе трыццаць. Я — яго хросны бацька.

Калі Вінцэсь і Вальжына бачыліся апошні раз, яна ўжо ведала, што чакае дзіця. І нічога не сказала!

На развітанне Вінцэсь ціха спытаўся ў старога сябра:

— Ты дараваў мне?

Айцец Андрэй адказаў гэтак жа ціха.

— Гэта быў яе выбар. І воля Гасподняя. Нам усім трэба выпіваць да донца чару, якую нам даюць на зямным застоллі. Віно там, ці воцат, ці адзіная жывая кропля, якая не спатоліць смагі, а толькі змусіць прагнуць усё жыццё. Бывай, Вінцэсь. Блаславуляю цябе на душэўны спакой і разумныя рашэнні.

Дом у Весніцах стаў зусім непаглядны — на сценах пісягі, аканіцы пафарбаваныя ў белае і ад таго здаюцца бруднымі, а ля ганка з драўлянымі калонамі, таксама пафарбаванымі ў бель,— звычайныя сялянскія калёсы з навесам з радна, як у цыганоў.

А можа, усё ўспрымалася так сумна ад таго, што дождж прышываў шэрае неба да чорнай зямлі дробнымі шыўкамі і дрэвы роспачна працягвалі ўверх голыя галіны, выпрошваючы пухнатага зімовага адзення…

Але вось дзіця засмяялася там, у доме з белымі аканіцамі,— і адразу нібыта стала святлей. Божа мой, гэта ж тое самае акно, перад якім аднойчы былі перажытыя, як здавалася, самыя страшныя ў жыцці хвіліны! Пасля ён пераканаўся, што могуць быць яшчэ горшыя.

Вінцэсь наважыўся ўзысці на такі знаёмы ганак. Сівая кабета ў простай чорнай сукенцы, у белым старасвецкім каптуры адчыніла дзверы.

І Вінцэсь усвядоміў розніцу — калі глядзіш звычайна і калі пазіраеш закаханымі вачыма. Падчас сустрэчы з Хрысцінай ён бачыў перад сабой яе ранейшае аблічча, мог супастаўляць з цяперашнім, свядомасць адзначыла ўсе зморшчынкі, няхай і далікатна замаскаваныя касметыкай, большую самавітасць паставы…

Вядома, Вальжына таксама пастарэла. І пастарэла куды заўважней — бо па яе спрацаваных руках, сівых валасах і маршчынах разумелася: была і чорная праца, і душэўныя пакуты. Беднасць глядзела з усіх кутоў, не прыкрашаная нават звычайнымі шляхецкімі аздобамі — прадзедаўскім кілімам ці фатэлем, у якім, паводле сямейнага падання, сядзеў калісь які князь ці кароль.

Але Вінцэсю было ўсё роўна, як выглядае жанчына яго сэрца. Ён проста не здольны быў параўноўваць, расчароўвацца, спачуваць, што час забраў прыгажосць. Уся ягоная істота пазнала Яе — і закалацілася сэрца, і адняло мову. І зноў падаўся сам сабе няўклюдным, нязграбным і — нялюбым.

Вальжына разгублена кранула рукой валасы — інстынктыўнае жаданне жанчыны пры з'яўленні нечаканага госця паправіць прычоску, страх, што непрыбраная… І тут жа адвярнулася і захінула твар рукамі. Вінцэсь падумаў быў, што яна плача,— але жанчына стаяла нерухома… Потым павольна павярнулася да яго, відаць, супакоіўшыся ад раптоўнага ўзрушэння.

І замест звычайнага прывітання Вінцэсь прагаварыў тыя словы, якімі паўстанцы віталі адзін аднаго, па якіх пазнавалі аднадумцаў.

— Каго любіш?

Вальжына, не вагаючыся, прамовіла:

— Люблю Беларусь…

— Дык узаемна!

Яны абое памаўчалі, захлынаючыся ад успамінаў. Вінцэсь спрабаваў вызначыць, як яна да яго ставіцца,— ці дазволена абняць, пацалаваць, ці холадна адштурхне — як трыццаць гадоў таму… А ёй, відаць, проста было няёмка.

— Што ж я так нязветла цябе сустракаю… Праходзь, Вінцэсь. Вось сюды… Памятаеш гэты пакой? Калі мы гулялі ў хованкі, ты хаваўся заўсёды вунь за той камодай. І цябе было лёгка знайсці. Прысаджвайся… Зараз зраблю гарбаты. Прыслугі ў нас няма — толькі кухарку часам наймаем. А ты добра выглядаеш, Вінцэсь,— нават цікавей, чым у юнацтве.

У яго ледзь не сарвалася з языка крыўднае «Табе заўсёды падабаліся сівагаловыя ваяры». Але ён нават пачырванеў за такую думку. Ды й не надта тымі думкамі ён ад хвалявання валодаў. І больш не мог выцерпець няведання.

— Я чуў, што ў цябе ёсць сын…

Вальжына на хвілю супынілася з філіжанкай у руцэ.

— Так. Я назвала яго Маркам — у гонар брата. Марка — маё жыццё, мой гонар. На жаль, не ўдалося даць яму добрую адукацыю, хоць ён вельмі разумны хлопчык. Ён ляснічы. Нядаўна ажаніўся, нявеста не багатая — унучка пана Арэхны, таго самага, у маёнтку якога арыштавалі майго брата. Але дзяўчына добрая, працавітая. Двое дзетак гадуюць — Любачку і Максіма.

Вінцэсь нарэшце задаў пытанне, якое яго мучыла, і задаў як мага больш цвёрда, каб яна не магла ўхіліцца ад адказу:

— Марка — мой сын?

Вальжына моўчкі паставіла на стол дзве філіжанкі, паклала сурвэткі, потым прыйшла чарга вазачкі з печывам…

— Вальжына!!!

Яна глыбока ўздыхнула:

— Ты хочаш ведаць, ці не ты — ягоны бацька? Паколькі ты адзіны мужчына, з якім я была за сваё жыццё, то адказ вядомы. Не вінаваць сябе ні ў чым, Вінцэсь. Я вырашыла сама — стаць тваёй у тую ноч. Я не дапускаю думкі, што памылілася, бо сёння са мною Марка. Але прашу аб адным — не спрабуй зыначыць жыццё. Не трэба варушыць мінулае.

Дзесьці на званіцы храма ўдарыў звон, яшчэ раз, яшчэ… Вальжына перахрысцілася, гледзячы ў акно. Вінцэсь таксама паклаў на сябе крыж — нібыта развітваючыся з некім дарагім. Не, так нельга!

— Вальжына, дарагая! Я нічым не мог памагчы вам увесь гэты час. Дазволь хоць цяпер зрабіць гэта. Дазволь даць сыну маё прозвішча! Згадзіся абвянчацца са мной. І няхай уся мая невялікая маёмасць стане вашай! Я нават магу зноў з’ехаць, калі табе брыдка на мяне глядзець. Толькі прымі для майго сына і маіх унукаў тое, што я магу ім даць.

Вальжына неяк дзіўна засмяялася, як заплакала.

— Мілы, бедны Вінцэсь! Куды мне пад вянец — сівой старэчы. Увесь павет рагатаць будзе. І сыну ўжо позна мяняць прозвішча. Ён — Рагманаў, Рагманавым і памрэ. Навошта яго трывожыць? Марка ведае, што ён сын героя, які загінуў за волю Айчыны. Прабач, але я доўгі час была пэўная, што ты загінуў. Так што — пакіньма ўсё, як ёсць.

— Тады — проста прымі ад мяне дапамогу!

Вальжына сумна пахітала галавой.

— Дзякуй, але нам дапамагае, чым можа, айцец Андрэй. Мы не галадалі, хоць і не раскашавалі. А калі Марка пачаў атрымліваць жалаванне, стала і ўвогуле добра.

— І ты зусім мяне не кахала? — пытанне вылецела мімаволі.

У кабеты задрыжэлі вусны, і яна адказала ціха:

— Не ведаю, дарагі… Напэўна, быў час, калі да гэтага ставалася вельмі блізка. Наша адзіная ноч — не падман. Хутчэй — сон, мроя… Калі б не клятае золата…

І просьба-прысуд:

— Не чапай тыя зліткі! Колькі чалавек з-за іх загіне, колькі лёсаў яшчэ з-за іх зламаецца! Не чапай…

А пасля ён глядзеў у цёмныя вочы свайго сына, бачыў гэткую знаёмую ўсмешку — як у пана Антося, як у яго самога, усмешку Рашчынскіх. Марка глядзеў на госця з павагай і цікавасцю: стары сябра маці і дзядзькі-героя, пэўна ж, і сам герой. Дзеткі таксама ўдаліся цемнавокія — хоць галоўкі пакуль светлыя, русявыя… І Вінцэсь мог бясконца расказваць ім дзівосныя гісторыі пра вужыную каралеву і бурштынавы палац і паабяцаў падарыць сапраўднае цукерачнае дрэва і шкуру афрыканскага льва…

Але не мог там заставацца. І, ідучы дадому праз Маскалёў лес, усё азіраўся назад, і ветах на раптоўна ачышчаным ад хмараў небе нагадаў фрэску на доме ру Віньён, вясёлы гоман кавярні, філасофскія дыспуты… Як гэта бясконца далёка! І — больш не патрэбна.

**17**

Апошнія дні лета выдаліся сухімі, як прысак пакінутага вогнішча. Трава пад нагамі не шапацела, а ламалася і калолася неміласэрна. У сухмені спявалі свае адчайныя сэрэнады цвыркуны. Калісьці ў падобную казюрку ператварыўся прынц Тытон, якому закаханая багіня золку Эас выпрасіла бессмяротнасць, ды забылася даць вечную маладосць.

Што можа бяссілая старасць? Толькі цвырчэць, стракатаць, наракаць на жыццё… І толькі маладосць можа так весела крочыць насустрач сваёй смерці.

А вось жабкі не сустрэлася па дарозе да лесу ніводнай.

Старажытныя кітайцы лічылі, што ў чалавека дзве душы, і адна палавіна — у выглядзе жабы.

Паліне здавалася, што тая, жабіная, палавіна перамагла — і ў грудзях цяпер варочаецца нешта халоднае і цяжкое. Асабліва пры поглядзе на Валянціна, які моўчкі ішоў наперадзе, несучы рыдлёўкі, шчыльна загорнутыя ў цырату (няма чаго спакушаць тутэйшы народ «залатой ліхаманкай»). За ўвесь час, што ехалі ў Гарнушкі, Валянцін не прамовіў ні слова, не кінуў на Паліну аніводнага, хоць крадма, пагляду — сядзеў наперадзе спакойны, з каменным тварам. Толькі стрымана ўсміхаўся час ад часу радаснай, як чэрвеньскі рамонак, Дзіне, што вяла машыну. А можа, і праўда ён не пакутуе — чаму Паліна вырашыла, што Валянцін абавязкова мусіць быць закаханы ў яе? Але ад гэтай думкі, што павінна была б супакойваць сумленне, рабілася яшчэ горш. І там, у машыне, хацелася скінуць з каленяў гэткую жаданую, акуратна ўгорнутую ў хустку чацвёртую жабку-брамніцу і змусіць сумнага чалавека на пярэднім сядзенні джыпа зноў усміхнуцца так па-дзіцячы шчыра, як умеў толькі ён.

Позна.

— Гэта тут,— змрочна прамовіў Сымон, які нарэшце замест чорнай майкі з’явіўся сёння раніцай у чырвонай кашулі з кароткімі рукавамі і нязменных джынсах, ад чаго нагадваў аперэтачнага каўбоя.

Паліна агледзелася. Звычайная палянка на ўскрайку лесу, зарослая верасам і зверабоем. Непадалёк — крушні з камянёў, што паскідвалі з калгаснага поля. Ну а заадно мясцовы люд пазносіў туды й адкіды нашай вартай жалю цывілізацыі — пластыкавыя бутэлькі, парваныя шыны, паржавелы каркас газавай пліты, жалязякі незразумелага прызначэння, анучы, косткі жывёлаў… Вядома, не выкапнёвыя. Жоўты каровін чэрап усміхаўся прыхадням, як хэлоўінскі гарбуз.

— Вы не памыляецеся? — з сумнівам перапытала Дзіна.

Сымон паціснуў плячыма.

— Паўтара стагоддзя мінула, мадам. Перапытаць няма ў каго,— і агледзеўся па баках з цалкам зразумелай грэблівасцю.— Паганае месца… У мяне чамусьці адчуванне — быццам я вярнуўся ў тыя не лепшыя хвіліны, калі ў рубку прасочваецца гідраўлічная вадкасць і стаіць атрутны белы туман, так што ніводнай кнопкі на пульце не відаць, а над галавой — паўкіламетра рамантычнай салёнай стыхіі, і ты быццам жабка пад абцасам.

Дзіна капрызліва варухнула вуснамі.

— Што вы страхі тут вынаходзіце! Лепей пачынайце капаць.

Валянцін некалькі разоў з сілай усадзіў у сухі мох рыдлёўку.

— Зямля як каменная. Нечапаны дзірван. Я думаю, мы ўсё-ткі памыляемся. Месца сапраўды нядобрае.

— Чаму? — насмелілася задаць пытанне Паліна, надаўшы голасу як мага болей абыякавасці.

Валянцін адказаў гэтак жа абыякава, гледзячы некуды ўбок:

— Ні грыбоў ніколі, ні ягад… Ды яшчэ пад канец вайны партызаны тут некалькі паліцаяў расстралялі, і Лухверчыка, здаецца, таксама. Бабуля называла гэтае месца Падла. Сюды, на ўскраек лесу, спакон веку зносілі з вёскі смяццё ды падлу — усялякую здыхляціну.

— «Спакон веку»… Ды хіба памяць чалавечая на спакон веку разлічаная? — скептычна фыркнула Паліна.— Па ўласным досведзе скажу — яшчэ што бабуля апавядала, трохі памятаюць, а далей — «легендарная эпоха». Тры пакаленні, лічыце, гадоў шэсцьдзесят пра падзеі расказваецца хаця б пазнавальна. А далей факты і асобы ператвараюцца ў прывідаў. Ну вось хоць дзіцячыя прыпеўкі… Ці гульні… У Англіі дасюль ёсць такая гульня — перадаваць адзін аднаму падпалены скрутак паперы са словамі «Жывы, курылка». У чыіх руках дагарыць, хто выпусціць «курылку» — прайграў. А насамрэч за гэтым — ведаеце, што? — забабонныя сярэднявечныя расповеды пра жахлівыя норавы секты маніхейцаў, якія падчас сваіх абрадаў нібыта перакідвалі адзін аднаму ў рукі параненае іншавернае дзіця — у чыіх руках памрэ.

— Фу! — скрывіліся Дзіна.— Я заўсёды казала — трэба жыць прасцей. А то можна ва ўсім разгледзець старажытныя жахі. Нават у гэтай сметніцы. Ты яшчэ скажы, што «ідзе каза рагатая» — ад рытуальных забойстваў.

— Вельмі падобна, што так,— сур’ёзна адказала Паліна.

— Цьху! — віленская гандлярка шчыра зарагатала.— У мяне бабуля была, дачка пастара. Нават улетку хадзіла ў капялюшыку, у пальчатках і з парасонам. Дык дасюль памятаю, як мяне вучыла — калі глядзіш у люстэрка, за сваім прыгожанькім тварам умей уявіць чэрап, пустыя вачніцы, аголеныя зубы… Тое, што насамрэч ад цябе застанецца. А то гардыня ў пекла завядзе. Вось і ты такая чокнутая! А бабуля, дарэчы, памерла ад таго, што адмовілася даць агледзець сябе ўрачу-мужчыну. Ганьба! А самой — восемдзесят, і ўстаўная сківаца плавае ў шклянцы на тумбачцы побач з ложкам. Камедыя! Так што не расказвайце страшылкі — капайце.

Валянцін пакорліва ўсадзіў рыдлёўку ў дзірван… Але праз паўгадзіны нават Дзіна прызнала — нешта не тое… Не падобна, каб тут штосьці маглі схаваць. Сымон падумаў, пералічыў нешта… І пошукі перасунуліся метры на тры ў глыб лесу. «Ну, калі не тут — можаце закапаць мяне»,— сумніўна пажартаваў штурман.

Паліна сядзела проста на сухім верасе, страсала з сябе мурашоў і чарговы раз дакаралася, што не надзела джынсы. Ну каму ў лесе трэба яе

шляхецкая сукенка ў дробныя карычневыя кветачкі? Хіба мурашам і камарам — зручна кусаць за ногі. Дурніца ты, дурніца… Па кім сумуеш, чаго? Нядаўна па Стасю сохла.. Сёння ж?.. Сама сябе не разумееш — а хочаш спазнаць увесь свет.

Паспрабавала сесці зручней і выцялася аб камень. Кавалак цэглы, урослы ў зямлю… А вось яшчэ з моху выглядвае чырвоны вугал цагліны, ступлены часам… Няўжо тут калісьці было збудаванне? Відаць, было — бо хутка рыдлёўкі застукалі аб камень.

— Падмурак нейкі… — задыхана прагаварыў Сымон, абвесціўшы перапынак.

Дзіна напружана ўглядалася ў выкапаную яміну, нібыта ўжо спадзявалася ўбачыць там залатыя манеты.

— Падобна на рэшткі капліцы,— зазначыла Паліна.

«Уладарка» захвалявалася.

— Вось што, хлопчыкі, у мяне ў машыне яшчэ дзве рыдлёўкі… Дакладней, адна невялікая лапата і савок. Зараз прынясу. І мы з Палінай вам дапаможам. Праўда, Паліначка?

І пабегла, толькі светлыя косы матляліся ў паветры. Як лісіны хвост.

Вось табе і «залатая ліхаманка»…

Дзесьці ў глыбіні лесу пракувала зязюля. Паліна нават не паспела загадаць — колькі будзе жыць, як вяшчуння змоўкла. Нібыта некаму засталося зусім нядоўга пакутаваць у гэтым не найлепшым са светаў. Між тым праца распачалася з падвойнай сілай… Хаця не, гэта перавелічэнне, наконт іх з Дзінай высілкаў, але ўсё-ткі хутчэй. Паступова паказаліся рэшткі цагляных сценаў, пліты падлогі… Каплічка (ці нешта іншае) была зусім невялікая — можа, два на два метры. І не з каменю — з крохкай цэглы. Дзіва што нічога ад яе не засталося на паверхні зямлі. Паліна падазравала, што цаглінам тутэйшыя сяляне яшчэ стагоддзе таму знайшлі лепшае скарыстанне.

— Ды тут пасярэдзіне магільная пліта! — расчаравана працягнуў Сымон.— Трывожыць чужыя косці — не мая справа.

Скульптар падтрымаў:

— Давайце на гэтым скончым.

Ага, так вам эмансіпаваныя кабеты і здадуцца!

Пакуль іншыя адпачывалі, перакусваючы прыхопленымі гаспадарлівай гандляркай прыпасамі, Паліна агледзела пліту. Літары, забітыя зямлёй, чыталіся з цяжкасцю:

— «Ганоры… Аляксандр… Раш-чынскі…» Рашчынскі! Тут магіла аднаго з продкаў Рашчынскага! Памёр у 1796 годзе ад Нараджэння Хрыстовага. Васемнаццатае стагоддзе! Дзвесце гадоў каплічцы. Цікава, чаму ён пахаваны тут, ля дарогі? Не ў радавым склепе?

Паліна ліхаманкава дастала з сумкі, закінутай у кусты, запаветную папку. Так, вось радавод Рашчынскіх… Вікенцій Рашчынскі… 1841—

1894… Апошні з роду. Яго бацька, Антоні Рашчынскі — 1813—1862. Дзед, Лявонцій — 1780—1841. Пра дзеда Лявонція пазнака — удзельнік вайны на Балканах. Ага, вось ён, Ганорый Аляксандр — 1757—1796. Пра яго нічога не вядома.

На нагрэты сонцам камень выскачыла шэрая маленькая яшчарка. Замерла на хвілю — і тут жа знікла ў траве. Паліна ўспомніла, што яшчарку старажытныя хрысціяне атаясамлялі з душой. Яна магла выслізнуць з рота соннага чалавека, падарожнічаць, потым — вярнуцца…

Чыя душа падарожнічала па свеце ў выглядзе гэтай яшчаркі? А можа… таго, хто спіць у гэтай магіле?

— Ну што, дзе будзем капаць? — змрочна прагаварыў Сымон.

— Вядома, дзе — трэба паглядзець пад плітою.— Дзіна была вясёлая і ўпэўненая.— Скарбы часта хавалі пад магільнымі плітамі!

— Гэта грэх,— азваўся Валянцін.— Рабаваць магілы!

Паліна трохі разгубілася. Вядома, грэх… Вядома, нядобра… Але вяртацца ні з чым!..

Дзіна выказала гэта ўслых.

…І ўрэшце — пахаванню дзвесце гадоў! У горадзе могілкі зараўноўваюць куды раней. Ды ў нас зямля такая — куды ні ступі, ходзіш па чыёйсьці магіле.

Сымон дастаў нож і расчысціў краі пліты. Цяпер трэба было падважыць… Ну хаця б вунь той жалязякай, падобнай да кавалка рэйкі.

З чорнае адтуліны пацягнула — ці падалося, што пацягнула? — халодным цвілым паветрам, мёртвым, якім толькі і магло быць паветра магілы. Ліхтарыка, вядома, ні ў кога не аказалася — хто мог падумаць, што яркім сонечным днём спатрэбіцца ліхтарык? Нават запальнічак не мелася — сучасныя скарбашукальнікі вызнавалі здаровы лад жыцця. Добра, у Дзіны былі запалкі — у спадзеве на тое, што ўсё-ткі ўдасца прыгатаваць шашлычкі. Сымон скруціў з нейкага рыззя падабенства паходні і асцярожна спусціўся ўніз па стромых прыступках. За ім, вядома, скочыла Паліна. Дрогкае полымя асвятліла невялікае памяшканне, дзе можна было стаяць толькі сагнуўшыся. Ля сцяны — каменны саркафаг.

— Ну, што там? — крыкнула зверху Дзіна.

— Труна тут, і ўсё,— спакойна крыкнуў Сымон.

— А што ў труне?

Сымон ледзь не вылаяўся, і невядома, што яго ад гэтага больш устрымала — прысутнасць пекнай жывой паненкі або сатлелага нябожчыка. Паліна прагна аглядала ўсё навокал. На падлозе, чорнай ад вільгаці, нейкае ўзвышэнне. Дзяўчына папрасіла Сымона ніжэй апусціць паходню, якая, дарэчы, невыносна смярдзела…

На падлозе сядзела каменная жабка! Яе пукатыя вочы ўмольна пазіралі на прыхадняў, лапкі малітоўна складзеныя…

Паходня апошні раз успыхнула, і Сымон кінуў яе на зямлю, затоптваючы іскры.

Цяпер была пэўнасць, што яны не памыліліся. Дзіна, ламаючы кустоўе, падагнала бліжэй джып, і Сымон з Валянцінам умудрыліся зладзіць асвятленне. Паліна анічога ў гэтым не разумела — але лямпачка на канцы провада, апушчанага ў скляпенне, загарэлася.

Жабку не прымацоўвалі да каменнае падлогі, але яна нібыта прырасла да яе за столькі гадоў — ледзьададралі. Паліна пачысціла нажом каменную спінку. Там быў высечаны вялікі крыж. А на сподзе, вядома, літары…

Ad nomine Albarutenia

У імя Беларусі…

— Тут таксама пліта ў падлозе! — крыкнуў Сымон.— Якраз дзе жабка сядзела.

Пліта, на якой сядзела жабка, была не зусім плітой — расколатым напалам валуном. Здавалася, гэтую глыбу немагчыма вывернуць… Аднак уражанне аказалася падманлівым — скол каменя быў дастаткова тонкі, каб маглі падняць два дужыя мужчыны…

…Пад плітой — насланыя гнілыя дошкі. А пад дошкамі — скрыні. З адмысловага дрэва. Прасмоленага, абабітага металічнымі палосамі — дзеля доўгага захоўвання. І страшэнна цяжкія. Сымон і Валянцін ледзь выцягнулі адну… Ададраць накрыўку таксама аказалася няпрос-та. Нарэшце ў вузкай шчыліне бліснула спакуса.

Вось яно, золата паўстання. Дзесяць скрыняў.

Дзіна кінулася на шыю Валянціну са шчаслівым крыкам:

— Цяпер зажывем! Будзеш скульптуры ліць з бронзы! Усю Вільню скуплю!

— Чакайце! — запярэчыла Паліна.— Гэта трэба, мусіць, аддаць дзяржаве. А нам — чацвёртая частка…

Дзіна зазлавала:

— Ну ты дурная! Начыталася «Дванаццаці крэслаў», маўляў, знайшоў вартаўнік дыяменты, а на іх Палац культуры пабудавалі. Ачомайся. Дзе жывеш? Раскрадуць і дзякуй не скажуць, а табе сто баксаў за клопаты. Давайце зносіць у машыну. І не хвалюйцеся — у мяне надзейныя сувязі, з намі расплоцяцца, як належыць, падзелімся па справядлівасці.

Сымон пагардліва плюнуў.

— Пачынаецца… Я цябе папярэджваў, Поля,— будзе паскудства. Мяне можаце не ўлічваць. Дармовага багацця не бяру.

Скрыні адна за адной з’яўляліся на паверхні зямлі.

— Пачакайце…— Паліна адчувала, што свет яе рушыцца.— Гэта ж грошы не нашыя! Гэта грошы паўстанцаў, змагароў за волю народа. І ў нас ёсць іх запавет. Скарыстаць у імя Беларусі! Мы — нашчадкі, нам і выконваць!

— Ага. Зараз закуплю зброі і пайду вызваляць вашу Беларусь… Толькі падкажы, ад каго,— раз’юшылася Дзіна.— Вы ж ад уласнай дурасці вызваліцца не можаце. Колькі разоў спрабавала наладзіць сумесную фірму — аблом. На хабар чыноўнікам трэба столькі, што можна яшчэ адну фірму заснаваць. І не трэба спіхваць на «сістэму». Усе баяцца новага, усім лянота думаць пра заўтра — толькі б ухапіць кавалак сёння і ўначы пад коўдрай зжэрці. Каб не дзяліцца і ніхто не пазайздросціў. Ты хоць раз бачыла тут у пад’ездах кветкі? Не? І не ўбачыш. Мая сяброўка пагасцявала ў мяне на Жыгімонтаса, вярнулася — і ў сваім пад’ездзе паслала дыванок, паставіла гаршчэчкі з расадай… Як ты думаеш, што яна назаўтра знайшла? Правільна, толькі трошкі бруду ад нечых чаравікаў. Зладзіць добрае прыватнае прадпрыемства — хіба не будзе на карысць краіне?

— Дзіна, мы самі ведаем недахопы свайго народа,— спыніў «уладальніцу» Валянцін.— У нас усялякага хапае… І ляноты, і жлобства… Але мы яшчэ здольныя і на ідэалізм. Іначай і гэтае золата не засталося б нескарыстаным. І калі я маю права на долю… Няхай маё дастанецца Паліне. Вы ж паклапоціцеся пра помнік Рашчынскаму, праўда, Паліна?

— Ніякага права на долю ты не маеш! — «уладальніца» злосна звузіла светлыя вочы.— Ты забыўся — у цябе няма і не можа быць нічога без мяне! Усё — наша. Ты слова даваў.

— Я трымаю слова. Не хвалюйся.— Валянцін рушыў па апошнюю скрыню…

І Паліне стала так балюча, што наступнае прамовілася само, і дурны гонар быў недарэчы гэтак жа, як доўгая сукенка ў лясных зарасцях.

— Паслухайце, Дзіна… Вы казалі, што ў Валянціна доўг — пятнаццаць тысяч…

— Заплаціць за яго хочаш? — пагардліва спытала Дзіна.— Позна, даражэнькая. Тое, чым я дзеля яго ахвяравала, даражэй каштуе.

— Ну, у такім выпадку забірайце ўсё! На ягоны рахунак… Валянцін! Чуеце? І… бывайце. Я паеду на аўтобусе.

Паліна, стрымліваючы слёзы, дастала з кустоў сумку.

— Вось гэта па-нашаму! — узрадаваўся штурман Сымон.— А на сваіх дзяцей мы заробім!

— Паліна, пачакайце! — Валянцін, кусаючы вусны, павярнуўся да «ўладальніцы».— Здаецца, раб мае права хоць раз на год падаць голас? Нават свята такое адмысловае было ў Старажытным Рыме — Луперкаліі. Ты атрымала столькі, як я ніколі табе не зараблю. Навошта я табе цяпер? Можа, прадала б мяне?

— Што ты пляцеш! «Раб», «прадала»… Нібы ў клубе садамазахіс-таў. Ты — мой каханы! — Дзіна ўчапілася за свайго скульптара, як тапелец за выратавальную дошку.— Я — твая гэтак жа, як і ты — мой. Толькі я магу даць табе каханне, клопат, пяшчоту! Валянцін! Успомні ўсё, што нас звязвае! Я кахаю цябе, Валянцін!

— Мілая, добрая, ну зразумей жа — нельга прымусіць чалавека быць шчаслівым.— Скульптар пакутаваў горш за «ўладальніцу».— Я не кахаю цябе. Давай разлічымся з маімі крэдыторамі, скінем з сябе цяжар пагрозы і перастанем мучыць адно аднаго.

— Сволач!

Звонкая поўха была не горшай за тую, якой узнагароджвалі сваіх няверных каханкаў усе тэмпераментныя дамы ўсіх эпох. Валянцін, нібы не заўважыўшы ўдару, паглядзеў на Паліну…

І яе нібыта пацягнула да яго неадольная сіла…

Такім атрымаўся іх першы пацалунак — з прысмакам жнівень-скай спёкі, з горыччу ўласнай віны.

Побач хіснулася нечая постаць — Сымон адвярнуўся ў бок вёскі…

Дзіна не збіралася здавацца.

— Ты забыўся, што цябе адпусцілі з той умовай, каб працаваў у маёй фірме? Калі я дваццаць пятага чысла не заплачу чарговую тысячу даляраў і не пацверджу, што гэта зарабіў ты і жывеш пад маім наглядам,— мяне заб’юць. І, ведаеш, мне нешта расхацелася плаціць…

Валянцін адарваўся ад вуснаў Паліны — і нейкі час адчувалася, што ён не ўспрымае рэчаіснасць, ап’янелы ад раптоўнага шчасця. Але паступова сэнс пагрозы ўсвядоміўся.

— Дзіна, гэта проста дурноцце. Цяпер тысяча даляраў для цябе — не праблема.

— Калі ты так лёгка адкінуў мяне дзеля нейкай чокнутай развя-дзёнкі, дык чаму цябе непакоіць, што станецца са мной?

Цвыркуны адчайна стракаталі-галасілі, нібы на цвыркуновым пахаванні.

Валянцін пакруціў галавою, быццам спрабаваў скінуць ачмурэнне.

— Чаго ты дамагаешся, Дзіна?

— Сядай у машыну. Паедзем.

Упэўненага тону «ўладальніцы» не вытрымаў нават штурман.

— Не кабета — стыхія,— і звярнуўся з парадай да Валянціна: — Яны часта любяць палохаць, маўляў, разлюбіш — атручуся, з балкона скінуся… Чым болей ім паддаешся — тым цяжэй вызваліцца.

— Ну дык што, будзеш правяраць, ці я наважуся не плаціць? Думаеш, усё так проста — узяў і сышоў? Твае крэдыторы могуць на першы раз цябе, між іншым, проста загрузіць у багажнік і прывезці да мяне, калі даведаюцца, што ўцёк. Ці адразу мяне прыкончаць — я ж абяцала, што нікуды цябе не адпушчу. Ну! Думай хутчэй! Клянуся — не сядзеш зараз у машыну, плаціць не буду! Без цябе не хачу жыць! Магу зараз жа аддаць ёй яе долю! Выкідвай дзве скрынкі з машыны! На, забірай! І трэцюю магу аддаць! І чацвёртую!

Дзіна выглядала, як скандынаўская валькірыя — «апошняя з норнаў, што прыносіць смерць». Яна раз’юшана тузала скрыню са зліткамі, спрабуючы выкінуць з машыны. Паліне нават стала страшна — вось што

значыць выраз «чалавек, здатны на ўсё». Валянцін пагладзіў Паліну па валасах дрыготкай рукой, пацалаваў у лоб… Адышоўся, не зводзячы з дзяўчыны вачэй.

— Любая, гэта — часова… Ёй проста цяпер крыўдна. Яна супакоіцца. Пачакаем да дваццаць пятага. Ты разумееш, я не змагу жыць, ведаючы, што з-за мяне нехта загіне… Я не магу так абысціся з чалавекам, які выратаваў мяне самай дарагой цаной. І без цябе я таксама не змагу жыць. Я вярнуся, любая.

Паліна моўчкіківала галавой, пагаджаючыся. І глытала слёзы. Валянцін, больш нічога не гаворачы, пайшоў і сеў у машыну.

Штурман лёгенька крануў Паліну за плячо:

— Не перажывай, усё да лепшага. Ануча ён. У каханні няма кампрамісаў. Яна ніколі яго не адпусціць, ён ніколі не сыдзе… А ты будзеш мучыцца. Навошта?

«Уладальніца» між тым чамусьці не спяшалася ад'язджаць — можа, сапраўды хацела супакоіцца. Узялася праціраць лабавое шкло…

Справа, нібы чакала дзесьці побач, на шалёнай хуткасці пад'ехала машына. Таксама джып. Толькі большы, з зацемненымі вокнамі, амаль як ваенны…

І выскачылі з яго сапраўды ваенныя… Спецназаўцы ў плямістых камбінезонах, высокіх зашнураваных чаравіках, з аўтаматамі…

— Усім стаяць! Рукі за галаву!

Адзін з нападнікаў, з шырокім абветраным тварам і класічна перабітым носам, махнуў чырвонай кніжачкай.

— Капітан Фёдараў! Група «Альфа»! Што ў машыне?

Другі ваяка паспеў паглядзець.

— Скрыні, падобна, што з залатымі зліткамі, таварыш капітан!

— Так-так, прысвойванне скарбу… Захацелі дзяржаву падмануць? Перагружайце ў нашу машыну, хлопцы. А вы, усе — стаяць!

Трое хлопцаў-малойцаў пачалі подбегам, згінаючыся ледзь не да зямлі, пераносіць скрыні, быццам жукі-скарабеі камячкі гною. Чацвёрты, у цёмнай шапцы-шлеме з прарэзамі для вачэй, высунуўся са спецназаўскага джыпа, каб прасачыць за пагрузкай. Усё было ціха, па-дзелавому. Нават Дзіна не верашчала абурана, як можна было чакаць.

Паліне падалося, што яна трапіла ў адзін з тых кепскіх крымінальных серыялаў, якія любіла глядзець маці. Адна надзея — зараз пойдзе рэклама і замест амбалаў у камуфляжы пакажацца прылізаны нахабны клоун з парашком «Тайд», які адмывае нават застарэлыя плямы ад крыві, і ўсе змогуць апрануцца ў белае. Асабліва нябожчыкі.

— Таварыш Фёдараў! — вельмі спакойна звярнуўся да камандзіра Сымон.— Я — капітан другога рангу Грынеўскі. Ці магу яшчэ раз зірнуць на вашае пасведчанне?

Мардасты капітан паблажліва дастаў сваю кніжачку, паказаў здаля, схаваў…

— Ну што, упэўніўся, капітан?

— Упэўніўся,— гэтак жа спакойна сказаў Сымон.— Памылачка выйшла, калега. На такое пасведчанне трэба здымацца ў форме.

І, як адпушчаная спружына, з сілай ударыў камандзіра абедзвюма нагамі ў жывот, перакаціўся па траве…

— Бяжы ў лес, Паліна! Гэта бандзюгі, ім сведкі без патрэбы! Не бойся, у іх не аўтаматы — муляжы.

Далейшыя падзеі да Паліны даходзілі, як праз сон. Вядома, яна нікуды не пабегла, толькі, штурханутая адным з камуфляжных, апынулася на зямлі. Сымона малацілі ўтрох… Ці Сымон малаціў траіх, круцячыся, як фокстэр’ер сярод медзвядзёў? Валянцін рынуўся на дапамогу, вырваўшыся ад Дзіны, якая злосна гарлала:

— Не лезь! Няхай гэты прыдурак атрымае сваё! Не ўвязвайся, і ўсё абыдзецца!

Паліна нарэшце ўсвядоміла жах, які тварыўся каля яе.

— Перастаньце! Няхай забіраюць гэтае клятае золата!

Але мужчыны размаўлялі на сваёй мужчынскай мове, лупячы адзін аднаго гэтак жа, як лупілі адзін аднаго мільёны гадоў падобныя да іх гома сапіенсы. Памылка прыроды! У кожнага жывёльнага віду ёсць мяжа, закладзена — не забіваць свайго насмерць! Калі звяры мераюцца сілай між сабой, то рогі, іклы, кіпцюры не ўжываюць так, як з ворагам або здабычай. Адзін чалавек не мае ані рагоў, ані іклаў, ані кіпцюроў, а на штучную зброю прырода абароны не паставіла…

— А гэты аўтамат — сапраўдны! — Мужчына ў чорнай шапцы-шлеме выйшаў з джыпа, скіраваўшы страшную цацку на скарбашукальнікаў. Не гаворыць — сіпіць, як застуджаны…

Адзіночны стрэл суха шчоўкнуў, нібыта зламалася галінка. Узвілася змейка пяску.

— Рукі за галаву! Легчы на зямлю, падлы!

Сымон неахвотна падняў рукі і ўпаў, падкошаны ўдарам аднаго з раззлаваных «мядзведзяў». А Валянцін і так ужо ляжаў, збіты на горкі яблык. Над ім галасіла Дзіна, прыкладаючы насоўку да скрываўленага носа сваёй «маёмасці».

— Нясіце астатнія скрыні, і паехалі! — прасіпеў чалавек у шапцы, які, падобна, і быў тут галоўным.

Валянцін рашуча адхінуў рукой Дзіну, прыўзняўся і звярнуўся зусім спакойна да таямнічага камандзіра:

— Прывітанне, Валянцін. Табе варта было б яшчэ надзець і пальчаткі. Татуіровачка твая піжонская здалёк відаць.

Кісць левай рукі галоўнага абвівала каляровая вытанчаная змейка. Камандзір сцягнуў шапку, з асалодай абцёр спацелы твар, скептычна

паглядзеў на сваю руку і прамовіў нармальным, нават прыемным барытонам:

— Трэба ж… Пагарэзнічалі ў маладосці, а цяпер на ўсё жыццё — праблема. Ну, прывітанне, напарнік.

Сымон тузануўся, але бяссіла замёр пад скіраваным на яго дулам аўтамата.

Паліна на ўсе вочы глядзела на злавеснага двайніка віленскага скульптара. Калі папраўдзе — дык нічога злавеснага ў ім не было. Каржакаваты, кароткія цёмныя валасы, вочы, як чорны алей, грыбастыя вусны… Сапраўды, трохі падобны да Адрыяна Чэлентана… Пабітага беларускай бульбай у калгасным клубе. Хоць глядзеў такім ужо пераможцам — як смык над скрыпачкай.

— Дык вось адкуль у Дзіны аказалася чацвёртая жабка…— змрочна зазначыў Чарапавіцкі.— Ты перадаў?

— Здагадлівы! — усміхнуўся напарнік.— Дзе — дурань дурнем, а дзе здагадлівы. Аднаго не ведаеш — я тады ў Гарнушках не адзін быў, а з прыпыленым навукоўцам Артурам. Студэнт былы ягоны ў мяне падпрацоўваў, вось і парэкамендаваў. Ваш Артур сядзеў якраз без працы, і жонка сышла. Гатовы быў хоць вартаўніком, хоць грузчыкам. Я яму сказаў — трэба на рэстаўрацыю магільныя пліты забраць. Пашкадаваў «біча», былога інтэлігентнага чалавека… А ён запіў, падла, як толькі да сельмага дайшоў. Павезлі назад, паклаўшы паўзверх тых плітаў. Відовішча… Затое на падпітку расказаў нешта. Ён увогуле, як пачне гаварыць пра гісторыю — хоць выключальнік да яго прымацоўвай. Але тут я прасёк — справа цікавая. Шыфры, скарбы… Жабку я сам знайшоў, выменяў у адной бабулькі за батон.

— Гэта вы забілі Артура? — выгукнула Паліна.

Напарнік толькі незадаволена скрывіўся.

— Ды каму трэба было яго забіваць! Проста пасля вяртання з Гарнушак ён стаў хавацца і асцерагацца. Ад усяго адмаўляўся. Але паспеў распавесці мне пра ліст… Як яго… Людвісара.

— Той ліст, які вы скралі з архіва? — удакладніла Паліна.

— А як жа было яго пакідаць? Я адно дзіўлюся з вас, навукоўцаў. Гэта ж колькі дабра ў вас пад носам прападае — шукайце толькі, супастаўляйце, аналізуйце… Той ліст акрамя п’яніцы Артура за ўвесь час існавання архіва нікому не спатрэбіўся. А Людвісар у ім наракае, што мільён рублёў золатам недзе марнуецца, а золата належала калісьці Людвісарам, і што Рашчынскі скнапнік і недарэка і мог бы падзяліцца, раз сам не здольны скарыстаць… Ну і іншае. Мы хацелі толькі разгаварыць вашага Артура, паглядзець ягоныя паперкі — паўсюль жа з сабою цягаў… А тут на табе — аблом. Выпіў — і адключыўся. І пачарнеў, як баклажан. І паперак няма — пасля ў жонкі выкупілі, і то прыстрашыўшы. І жабка ягоная знікла. Так што дзякуй табе,— напарнік насмешна пакланіўся Валянціну.— Думаеш,

Дзіна дарэмна падказала жабак ляпіць на продаж? Жабак сваіх ляпіў, на жабку дзяўчыну злавіў. На дзяўчыну сам запаў… Вось і ўсё знайшлося.

— А навошта вы ў нас каменне шпурлялі, калі мы былі на Крыжовай гары? — пацікавілася Паліна.

Напарнік толькі плячамі паціснуў.

— Гэта не да мяне прэтэнзіі. Нічога не ведаю.

— Дык вы ад пачатку з Дзінай хаўрусаваліся… — задумліва прагаварыў Валянцін.— А я думаю — чаго гэта яна на ўсе авантуры так ахвотна пагаджаецца… Адпускае мяне ў Мінск… І вось золата адбіраеце, дзяліцца ні з кім не трэба, і Дзіна зноў бедная, і мне трэба далей гарбаціцца на ейных кліентаў. Ведаеш, колькі я анёлкаў за гэтыя тры гады «наваяў» для прыкрасы маёнткаў? Мармуровае неба засяліць можна!

Дзіна нешта гаварыла, абяцала, нагадвала, але Валянцін не слухаў, упарта адварочваючыся.

Напарнік насмешна зірнуў на былога сябра.

— Каханне, мой дружа! Дзеля кахання жанчына гатовая на ўсё.

Сымон ірвануўся наперад, як чырвоная пантэра. Двое амбалаў ледзь стрымлівалі яго.

— Каханне!.. А помніш Святлану з «Папараць-кветкі»? Перакладчыцу, якой мазгі пудрыў пра сваю геніяльнасць? Калі ты мужык — выходзь біцца сам-насам! Я — ейны муж!

— Толькі мне й спраў, што памятаць усялякіх дурніц! — пагард-ліва кінуў напарнік.— Яшчэ біцца з-за нейкай самадайкі… Не перажывай, мужык,— я доўга ні з воднай не быў.

Пасля гэтага ніякія сілы не маглі стрымаць штурмана. Ён раскідаў камуфляжнікаў і…

Напарнік выстраліў проста з перапуду. Гэта было відаць па тым, як ён сам спалохаўся выніку. Вусны, трасучыся, паўтаралі:

— Блі-ін… Чаго ён палез… Халера…

Паліна кінулася да Сымона, які ўпаў тварам у спякотнае неба,— на вуснах з’явіліся чырвоныя пухіры. Кроў… І плямы на грудзях… Чырвонае на чырвонай кашулі… Гарыбальдзійцы спецыяльна апраналі кашулі такога колеру, каб ніхто не заўважаў ран. Відаць, лёгкія прабітыя. Паліна паспрабавала прыўзняць галаву параненага, з другога боку намагаўся неяк даць рады Валянцін… Дыханне вырывалася з грудзей штурмана сутаргава, са страшным хрыпам… Ілжэкапітан Фёдараў таксама схіліўся над параненым, выпрастаўся, з прыкрасцю зазначыў:

— Усё, гамон… Маем трупец.

— Ты ж мне абяцаў, што будзе ціха! — з Дзінай зрабілася сапраўдная істэрыка. Яна раз’ятрана кідалася на забойцу і трэсла, як дарагое футра, якое, як выявілася, за зіму пабіла моль.— Што цяпер рабіць! У мяне бізнес! Мне ліцэнзію трэба пераафармляць! Ідыёт! — і раптам амаль спакойна, па-дзелавому: — Усё, я нічога не ведала пра твае намеры, ты

падступна напаў на нас, каб адабраць скарб, які мы везлі здаваць дзяржаве. Разбірайся з трупам сам. Валянцін, паехалі. І ты, разумніца… Робім ногі.

Напарнік злосна раздзьмуў ноздры.

— Вось як? Нічога не ведала! Сама ўсё прыдумала, а цяпер — на мяне зваліць? Ну, раз так, дык так. Сумленніца! Гераіня! — і звярнуўся да Валянціна: — Хочаш ведаць, хто твой сапраўдны крэдытор? Каму належалі грошы па тых накладных? Ды вось ёй, Дзіне!

— Не слухай яго! — віскнула Дзіна, але напарнік толькі злосна зарагатаў.

— Ну і павесяліў ты мяне, дружа! Гэта ж трэба быць такім дурнем! Ну хіба табе ў чэрапаўку не прыйшло — якая справа рэкецірам, хто ім грошы заплоціць? Нашто дамова, каб ты стаў прыгонным гэтай сцярвозы? Мы ж з ёй разам справы праварочвалі. Прыдумана тонка! Яна бачыла, які ты сумленны, сабой мог рызыкнуць — але не чужым жыццём. Ты ж нават не ведаеш, які попыт на твае скульптуры! За пару месяцаў вунь на такі джып зарабляеш. Праўда, Дзіначка? А на піва яна табе хоць выдзяляла час ад часу?

— Што ты плявузгаеш? — раўнула Дзіна.— Ён меў усё, што хацеў!

— Відаць, не ўсё.

Валянцін адштурхнуў Дзіну, якая прыліпла да яго з апраўданнямі, і, з цяжкасцю вымаўляючы словы, звярнуўся да былога напарніка:

— Слухай, я ўсе гэтыя гады хацеў папытацца… Чаму ты так са мной абышоўся? Я ж нічым цябе не пакрыўдзіў…

Твар напарніка нібы абсунуўся, застарэлая нянавісць бліснула ў масляністых вачах.

— Ты сам з сабою «абышоўся»! Раней ты быў — усё, а я нішто. Цяпер — абмяняліся. А якія амбіцыі ты меў! Выкладчыкі карагодам хадзілі: «Надзея, надзея…» А чаго ты насамрэч варты? Нават Богам дадзены талент, за дзесятую долю якога іншы б жыцця не пашкадаваў,— спляжыў! «Ах, не ўсім быць Мікеланджэла». Як я пагарджаў табою, калі ты згадзіўся на маю прапанову рабіць помнікі! І я назіраў, як ты апускаешся, з радасцю… Так, але і з болем. Табе гэтага не зразумець. Ты — проста няўдачнік. Ніхто. Наложнік багатай дамы, які жыве з ейнай літасці. Ніжэй апусціць цябе было цяжка.

Напарнік амаль крычаў, яго трэсла, як ад болю, і яго зласлівая радасць сапраўды была з прымешкам пакуты.

— Я не вінаваты, што ты не застаўся ў мастацтве…— ціха прагаварыў Валянцін.

— Шэф, ад новапрастаўленага пазбавіцца б… Можа, у той склеп яго й засунуць? — умяшаўся ў гаворку ілжэкапітан.— І гэтым раты б пазакрываць…

Валянцін ускінуў галаву і жорстка зірнуў на напарніка.

— Я не дазволю табе так абысціся з целам чалавека, чыйго пазногця ты не варты! Можаш забіць мяне таксама — маўчання ад мяне не дачакаешся.

Сонца хілілася пад цяжарам сваёй спёкі да далёкай вёскі. Напарнік пачаў нервова перагаворвацца са сваёй камандай. Дзіна час ад часу нешта дадавала ад уласнай істэрыі…

Паліна гэтага не чула — яна стаяла на каленях каля Сымона, трымаючы яго цяжкую халодную руку ў сваёй, і сутаргава ўсхліпвала… Няўжо сапраўды — памёр? Раптам штурман захрыпеў…

— Ён яшчэ жывы! — ускочыла Паліна.— Ён жывы!

Напарнік падбег да параненага, нахіліўся…

— Сапраўды, жывы! Мацак! Ну, вось што… Грузіце яго ў машыну! Хутка! Завязу ў адну бальніцу… Там у мяне ўсё куплена, урачы — акадэмікі. З таго свету выцягнуць і пытанняў задаваць не будуць. Месца ціхае, адасобленае. Пад аховай… Ды не бойцеся — я жулік, а не забойца. Вядома, языкі будзеце трымаць на прывязі і праз колькі часу атрымаеце назад свайго сябра зацыраваным.

Сымона асцярожна паклалі ў ваенны джып.

Дзіна закрычала:

— Пачакай! Я перадумала! Аддавай маю долю цяпер жа!

Напарнік раздражнёна крыкнуў:

— Ды скіньце вы ёй пару скрынак! Няхай задушыцца.

— Не пару, а пяць!

Першая скрынка, прыадчыненая, з грукатам ударылася аб зямлю. Накрыўка адкінулася, і на сухую траву ўпаў залаты злітак… Пераламаны напалам.

Першым заўважыў гэта ілжэкапітан і аслупянеў.

— Што за халера…

Напарнік выскачыў з машыны, падняў два асколкі… Унутры была нейкая цёмная маса.

— Чыгунная балванка!

Усчаўся гвалт. Зліткі даставаліся, іх стукалі адзін аб адзін… І паўсюль з-пад бліскучай абалонкі выглядала чорнае плебейства.

— Паслухайце, там жа чалавек памірае! — адчайна крыкнула Паліна.

Напарнік спыніў лаянку:

— Усё. Паехалі. А то і праўда наш супермен памрэ… Што тады рабіць? Бывай, Чарапавіцкі! Ты халерна таленавіты, паскуда.

Джыпы раз’ехаліся ў розныя бакі, і пыл паімчаў па сухой траве, нібы ведзьміна вяселле. Паліна і Валянцін засталіся стаяць на ўскрайку лесу, пасярод раскіданых брускоў падманнага золата і крывавых плямаў. У крыві была і ўся адзежа… А Валянцін яшчэ і выглядаў, як пасля допыту «с пристрастием».

І што ім заставалася рабіць?

Толькі абняцца… Ухапіцца адно за аднаго — каб больш не згубіцца ў гэтым свеце лжы і падману, высакародства і болю.

Такім было іх каханне — з прысмакам горычы і болю, з цудоўным, бясконцым жыццём наперадзе…

Бо ў такія хвілі, вядома, жыццё здаецца бясконцым.

І толькі паэт ведае, што пясок бяссіла ссыплецца з рукі таго, хто на сустрэчу спадзяецца, ды спіць змяя там, дзе палала сэрца.

## 18

— Вельмішаноўны пан Вікенці Рашчынскі з маёнтка Гарнушкі! — слуга ў зялёным аксамітным сурдуце з залатымі гузікамі (два, на круглым жываце, расшпіленыя, і відаць не надта белая кашуля) крычаў так, што напружваліся жылы на тоўстай шыі і твар чырванеў, як рэвалюцыйны сцяг.

Вінцэсь азіраўся з прыкрым пачуццём чалавека, які трапіў у свет крывога люстэрка. Нібыта ўсё пазнавальнае, але пачварна скажонае, расплывістае. Палац усё гэтак жа ганарыста ўзвышаўся над наваколлем, але гэта быў гонар банкрута. Калоны страцілі колішнюю белізну, як і нямытая кашуля лёкая. У былых венецыянскіх каналах гайдалася на восеньскім ветры сухое бадыллё, і таемная расліна луннік дражнілася-трапятала бліскучымі круглымі манетамі, за якія не купіш анічога, акрамя подыху гэтага восеньскага ветру. Усё было спавіта санлівасцю, на ўсім меўся адбітак руйнавання. Затое ля ўваходнай лесвіцы з'явіліся дзве новыя скульптуры — мармуровыя рымскія героі ў лаўравых вянках і латах. Вінцэсь прыгледзеўся і з жахам усвядоміў, што фанабэрыстыя фізіяноміі патрыцыяў нагадваюць твар Стася! Аднекуль з бакавога флігеля даносіўся бадзёры стук. Паколькі побач пуставалі яшчэ два пастаменты, можна было здагадацца, што й там апынуцца ўрачыстыя каменныя балваны з абліччам гаспадара. Гэтая дурная раскоша яшчэ больш падкрэслівала агульны заняпад, які цараваў не толькі вакол палаца, але і ў пакоях. Растаўсцелыя лёкаі, нявымытая чарка на століку, апошняя восеньская муха, якая цяжка кружляла над ёй; карціны, састаўленыя ля сценаў і накрытыя пыльным радном,— відаць, у чаканні рэстаўрацыі, якая невядома калі высвеціць іх фарбы…

— Няхай літасцівы пан пройдзе як найхутчэй — высакародны пан Станіслаў Людвісар з нецярплівасцю чакае найпрыемнейшага візіту літасцівага пана, і ўсе вашыя пакорлівыя слугі рыхтаваліся да найпрыемнейшага візіту найяснейшага пана, і наш найяснейшы пан найшчырэйша просіць выбачэння за свае хворыя ногі, хворасць якіх перашкодзіла яму ўласнай персонай з прыемнасцю сустрэць вельмішаноўнага госця…— лёкай старанна звіваў велягурыстыя фразы ў клубок з фальшывага золата, блытаючыся ў слоўных звівах.

Вінцэсь нецярпліва адсунуў гаваруна ўбок і хуткім крокам увайшоў у гасцёўню.

— Прывітанне, Станіслаў! Вельмі рады быў атрымаць твой ліст...

Астатнія словы засталіся непрамоўленымі. Вінцэсь прыблізна ўсведамляў, якое відовішча яго чакае… Але паміж «прыблізна» і «насамрэч» адлегласць куды большая, чым ад Масквы да Варшавы. Ніякае крывое люстэрка не змагло б ператварыць колішняга танклявага, даверлівага Стася з вялікімі блакітнымі вачыма, з вечнай вінаватай усмешкай у гэтага самазадаволенага таўстуна, падобнага да карыкатуры на імператара Луі Філіпа, папулярнай у Францыі. Чырвань твару была яшчэ больш заўважная на фоне светлых кудзераў — лысіну на макаўцы кампенсавалі пышныя бакенбарды. Вочы, праўда, не зусім заплылі тлушчам — але якімі яны сталі пустымі! Як мутны вясновы лёд…

— О, Вінцэсь! Зусім не змяніўся! Прабач, не ўстаю — хварэю ўсё… А ты, відаць, гэтак жа ў палонцы штодзень плёхаешся? Волат, герой! Сядай во сюды… Бліжэй… Сы-ыдар! — грамавы вокліч змусіў Вінцэся ўздрыгнуць.— Сы-дар!

Таямнічы «Сыдар», надзіва танклявы, як бізун, з чорнымі, як прыклеенымі, вусікамі забег у гасцёўню і схіліўся ў паклоне.

— Чаму шампанскае на стол не паставілі? Сківіцу звярну набок, цалавацца развучышся! Нясі!

Перад вялізным выгодным фатэлем, у якім разваліўся Стась, захінуты ў заліты на грудзях вінам персідскі халат, грувасціўся стол, што ледзь не прысядаў на тонкіх нагах пад цяжарам страў. Лёкай спрытна наліў Вінцэсю віна…

— Ну, за сустрэчу, стары сябра!

Вінцэсь адчуў, што просьба замяніць віно якім ліманадам скончыцца вадаспадам непатрэбных угавораў і папрокаў, таму прыгубіў чырвонага напою (сапраўды добрага) і зачапіў відэльцам нешта экзатычнае… Падобна да амара, але прыгатаванага вельмі асабліва.

Размова атрымлівалася нейкая дзіўная… Як рэчка ў афрыканскай саване, якая то перасыхае, то зноў выблісквае на паверхню. Стась неяк пазбягаў успамінаць мінулае. Вінцэсь думаў — гэта ад таго, што няёмка за свой цяперашні стан. Скардзіўся на сястру: такая жорсткая, такая сквапніца! Але адчувалася, што галоўнае, дзеля чаго і запрошаны госць, не прамоўлена. Нарэшце праз шматлікія намёкі, расплывістыя скаргі зрабілася зразумела: Стась спрабуе звярнуць гаворку на грошы паўстанцаў, якімі стары Людвісар выкупіў жыццё сына. Паступова, з кожнай новай бутэлькай віна, выказванні гаспадара рабіліся больш акрэсленымі. Чаму золата так і ляжыць без справы? Хіба нельга знайсці яму карыснае ўжыванне? Вядома, Вінцэсь толькі вярнуўся, блага ведае, што сёння адбываецца на Беларусі. А вось Людвісар мае на прыкмеце людзей, якіх

толькі падтрымай грашыма — і такую рэвалюцыю ўчыняць, што маскалі адсюль шугануць, як восеньскае лісце з ветрам!

Вінцэсь слухаў і маўчаў. «Рэвалюцыя!» Цікава, які сэнс укладае сённяшні Стась у гэтае слова? Бачыць сябе новым Напалеонам? Адабраць у «чужых» паноў і перадаць «сваім»? І тыя, і тыя гавораць з беларускім народам на розных мовах. Хто і як скарыстае ахвяраваныя грошы? Людвісар, дакладна,— на рэдкія віны і мармуровае ўвекавечанне ўласнага аблічча. А можа, марыць аднавіць венецыянскія каналы?

Бедны Стась… Вінцэсь не адчуваў да яго пагарды — толькі ўласную віну. Марка загінуў з-за праклятага золата… Але — Вінцэсь цяпер бачыў гэта ясна — загінуў і Стась.

Толькі падчас развітання былы рамантычны юнак прагляную праз азызлую чырвоную маску. Рыданне раптам перакрывіла твар Людвісара, ён, нязграбна чапляючыся рукамі за парэнчы фатэля, устаў, падняў непад'ёмнае, нібыта чужое, цела, абняў Вінцэся, павіс на ім — той ледзь не паваліўся… І плакаў, плакаў, прыгаворваючы нешта няўцямнае: «Вось бачыш, мілы… Няма мяне… Няма… Як ты казаў — экзістэнцыйная адсутнасць? Хадзіць не магу… У люстэркі не гляджуся. А мы ж верылі! Мы ж змагаліся! Каб рэспубліка, і прыгожыя дамы, і шчаслівыя людзі, і песні пяюць у садах пад вокнамі! А ў мяне пад вокнамі ўчора пейзане нашыя ўлюбёныя жанчыну камянямі пабілі. За тое, што малако ў кароў адбірае. Ды я нават у Шлісельбургу шчаслівейшы быў! У мяне аж у грудзях шчымела ад гонару — што паміраю за радзіму. Як жа так сталася? Што з намі сталася, Вінцэсю?»

На чорную зямлю падаў снег, яшчэ вільготны, слабы. Ён не мог справіцца з пануючай чарнатой, нават коштам уласнае смерці. Наадварот — каб захаваць бель, ён мусіў быць моцным і жорсткім. Але для гэтага павінен быў прыйсці час.

Пакуль яшчэ не настаў час снегу і чысціні.

Ночы рабіліся ўсё даўжэйшымі, сустрэчы з былымі знаёмымі — усё больш пакутнымі. Адна радасць — глядзець на сына, на ўнукаў… Гэтага Вальжына не забараняла. Але прымусіла паклясціся — яны ніколі не даведаюцца пра скарб. Залаты праклён не пяройдзе наступным пакаленням.

Вінцэсь часам адчуваў сябе зусім бездапаможным. Ён памрэ. Памрэ Вальжына, Мартын… І грошы, здабытыя такой дарагой цаной, прападуць! Ён аніяк не мог пагадзіцца з тым, што вырашылі сябры. Так, ён не бачыў пакуль сілы, якой можна перадаць золата. Але, урэшце, яшчэ Русо даў параду народам: не можаце пера-шкодзіць таму, каб вас праглынулі,— пастарайцеся хаця б, каб вас не маглі пераварыць. На захаванне самасці, адраджэнне нацыянальнай культуры таксама патрабаваліся сродкі! Але Вінцэсь не мог распарадзіцца сам.

І ён пайшоў да адзінага чалавека, які б мог даць яму параду… І які ўжо не мог яе даць. На магілу бацькі.

Надмагілле пана Антона Рашчынскага было вельмі простым, як ён і хацеў. Чорны мармур, крыж, перавернутая паходня...

У іх колах у Парыжы вальнадумства сталася ледзь не законам. Рашчынскі не падзяляў скептыцызму сваіх сяброў наконт рэлігіі, але не збіраўся адпрэчваць і прагрэс і наракаць, што кожнае вынаходніцтва — ад Сатаны. Быў пераканаты: навука, якая цяпер нібыта знаходзіць пацвярджэнні атэістычнай тэорыі, калісьці прос-та дасягне такога ўзроўню, што пачне атрымліваць доказы існавання Вышэйшай Сілы. Цяпер жа чалавецтва цешыцца са сваім прагрэсам, як з новай, самай лепшай у свеце, цацкай, і драўляны конік падае голас і звонка б’е капытамі. Бескарысна даводзіць дзіцяці, што драўлянаму коніку не патрэбнае сена, а абарыгену Берага Слановай Косці — што кінуты ў хвалі драўляны ідал не спыніць буры. Ды ці варта шукаць недзе доказаў — калі чалавек прыслухаецца да самога сябе, ён адчуе прысутнасць Бога ва ўласным сэрцы.

…Як спалучыць сябе з жыццём, разбіць вакол шкляныя сцены? Не намі збудаваны дом, які яднае нашы цені… Спадар! Што розуму сіло Таму, Хто — усяму прычына? Кляйна няма — «дабро» ці «зло», узважваць лёсы немагчыма. Усё — ва ўсім, і меж няма. Ты — гэта я, і ўсё — брыдота. Усе адрозненні — падман, сусвет — трызненне ідыёта для лялькі, што парвала ніць, якой яе вадзілі зверху. Так, лялька вольная… Ляжыць, не вартая ні слёз, ні смеху. Няма адгадкі. Ёсць — адказ, даўно вядомы — і забыты. І нехта прыўзнімае нас убачыць раю краявіды. А нас цікавіць той агонь, што ў спратах плавіць хвілі-кулі… Мы — безнадзейныя, і скронь не сівізна, а кроў кранула…

Вінцэсь не цешыў сябе надзеяй, што нават па самай шчырай ягонай малітве да яго спусцяцца ў відочным вобразе анёлы ці з’явіцца з таго свету бацька. Проста ў гэтым месцы можна было засяродзіцца, усвядоміць свае патаемныя сумнівы і спадзяванні і, можа, адчуць, на якіх — блаславенне, на якіх — праклён.

Вінцэсь моўчкі ўкленчыў перад надмагіллем. Побач, у асобнай капліцы ўнутры касцёла — магільныя пліты іншых Рашчынскіх. Толькі прадзеда Ганорыя няма — але ён нават сваёй адрынутасцю дапамагае нашчадку знайсці правільнае рашэнне… Бо застаюцца адны магілы. Застаюцца заўсёды… І да магіл продкаў заўсёды будуць прыходзіць нашчадкі. Да ягонай, Вінцэся, магілы таксама нехта прыйдзе. Можа, у тыя часы, калі пракляцце, што нібыта ляжыць на схаваным золаце, страціць моц?

Цяпер Вінцэсь ведаў, што яму рабіць. Ягоным запаветам стане ўласнае надмагілле. Ён падкажа далёкім нашчадкам шлях да золата. Трэба прыдумаць шлях, які можа прайсці толькі чалавек, надзелены розумам і

абазнаны ў гісторыі сваёй краіны. Толькі той, хто любіць Беларусь гэтак жа, як любілі яны.

…Лебедзь прапяе вам сваю апошнюю песню.

Смерць пакажа пачатак шляху.

Воўк і леў — скажуць пра золата, якое нараджаецца ў смерці. Воўк стане Ваўкалакам — так мяняліся іх лёсы дзеля Радзімы, і ў звярынай абалонцы хавалася высакароднае сэрца.

А галоўнае ён даверыць распавесці нявартым, бедным істотам. Можа, у вобразе адной з тых істотаў калісьці ён сам, паводле нямецкай прымхі, будзе выконваць тое, што паабяцаў — і не выканаў пры жыцці?

Час у яго яшчэ ёсць. І засталіся залатыя манеты. Няхай думаюць — звар’яцеў, дзівак… І варта запрасіць скульптара з Людвісарава. Працуе, кажуць, хутка…

А людзі сапраўды лічылі, што пан звар’яцеў. Маёнтак занядбаны, разрабаваны, а гаспадар траціць шалёныя грошы на ўласнае надмагілле, хоць яшчэ жывы і не такі ўжо стары, каб лічыць апошнія гадзіны. Скульптар працаваў сапраўды хутка, тым больш заказчык дакладна ведаў, чаго ён хоча. Нават асобныя дэталі пажадаў выканаць сам, калі папраўдзе — дык толькі псаваў фігуры дзікунскімі арнаментамі. Мармур, граніт, нават малахіт не давялося везці здалёк — у Людвісараве хапала нявыкарыстанага для аздобы палаца. Адлютавала зіма, адплакала адлігамі вясна, адспявала птушкамі лета. У цьмяны лістападаўскі дзень Вінцэсь са складаным пачуццём глядзеў на месца свайго будучага супакаення і пагладжваў спіну каменнай жабкі, што сядзела на краі пастамента.

— І што ж ты задумаў, панок?

Гэты голас немагчыма было забыць. І нянавісць, якая ў ім гучала, таксама. Марцэл Алейшчык зрабіўся зусім сівы, толькі вусы захавалі крыху колішняга чорнага колеру. Замест магеркі — чорная шапачка дыякана. Паўзверх простай расы накінутая шэрая бравэрка… Адзін рукаў — пусты, засунуты ў кішэню. А вочы — гэткія ж пранізлівыя.

Не, нянавісці, напэўна, больш не было — хутчэй падазронасць. Але любові не чулася таксама.

Першае памкненне Вінцэся было — прывітацца, выказаць радасць ад сустрэчы — мала што меліся непаразуменні трыццаць гадоў таму. Але Марцэл пагрозна ўсміхнуўся, як і тады.

— Не змяніўся ты, панок. Зноў нешта хітруеш. Навошта грувасціш гэтыя стоды? На той свет спяшаешся? Ці з магілы спадзяешся парадавацца, як багата пахаваны? Кляўся, што ані шэлега — на сябе. Значыць, нештачкі задумаў.

— Гэта мая справа, Марцэл.

— Не, гэта нашая справа! Усіх, хто захоўвае таямніцу. Прашу ад імя тых, хто загінуў і хто яшчэ жывы,— не руш мінулае! Не ведаю, навошта ты

ўсё задумаў, што за гэтым хаваецца,— Марцэл абвёў рукой надмагілле,— але табе ж будзе лепей, калі ты сам гэта зруйнуеш.

Вінцэсь упарта глядзеў на Марцэла.

— Хіба чалавек не вольны хаця б падрыхтаваць сабе магілу на свой густ?

— Мая справа — папярэдзіць,— Марцэл нядобра ўсміхнуўся.— Ты ведаеш, што ў Гарнушках неспакойна, людзі расказваюць немаведама што пра твае патаемныя скарбы — іначай на якія сродкі шыкоўнае надмагілле? Дарэмна, ой, дарэмна паказаў ты ім хвост залатога цяльца. І на фундатарства лякарні айцец Андрэй не бласлаўляе.

— Ну а гэта яшчэ чаму? — абурыўся Вінцэсь.— Гэта ж для сялянаў! Для бедняты!

— На падмурку зла нельга збудаваць дабро. Адумайся, панок.

А потым былі доўгія лістападаўскія ночы. Такія самотныя, што агонь у каміне здаваўся самым лепшым сябрам на свеце. Філасофія перамагае мінулае і будучыню, але цяперашняе перамагае філасофію. Ад адзіноты не было ратунку. Вінцэсь так і не займеў сталай прыслугі. Базыль адразу з’ехаў у Гародню. Прыходзіла гатаваць есці кухарка, ды яшчэ адна кабета прыбірала ў пакоях. Гэта цяжка было назваць кампаніяй. Вядома, Вінцэсь стараўся бавіць як мага больш часу ў Весніцах. Але Вальжына проста падкасіла яго, параіўшы ажаніцца з маладой суседкай.

— Ты ж мужчына самавіты, дужы, прыгожы, у цябе закахацца не цяжка. Завядзі нарэшце сям’ю…

І дарэмна ён даводзіў, што яго сям’я — тут, у Весніцах, і іншай яму не трэба.

Занадта шмат дарог прайшлі яны паасобку. Фактычна — усё жыццё.

А праз вёску хадзіць было проста страшна, хоць Вінцэсь у гэтым сабе не прызнаваўся. Людзі пры ягоным з’яўленні разбягаліся, як ад «струпляватага», пракажонага. А аднойчы за ягоным акном павесілі на дрэве здохлую варону. Пагроза была зразумелай. Праўда, Вінцэсь ведаў, што вароны ў сусветнай міфалогіі маюць не толькі значэнне «птушкі вісельнікаў». Ён бачыў старажытную нямецкую ікону, на якой вароны баранілі труп святога Вінсэнта ад драпежных звяроў. І пагібель, і выратаванне можа прыйсці ад аднаго і таго. Дык ці варта самому вырашаць на благое?

Але ў тую ноч, калі снег выпаў, каб застацца, адзіноту гарнушкаўскага пана парушылі. Іх было сямёра маладых дужых мужыкоў, у дваіх — вінтоўкі. Вінцэсь не спалохаўся — пастараўся ўсміхнуцца як мага больш спакойна. Калісьці гэтак жа ў ягоную афрыканскую халупу ўварваліся зулусы. Тады Вінцэсь змог сваёй усмешкай, спакоем, упэўненасцю пазбегнуць сутычкі. Зулусы нават пачалі вельмі шанаваць белага пана.

Але гэтых усмешка толькі злавала.

— Паслухай, пане, мы не зробім табе нічога благога. Аддай золата.

У Вінцэся пахаладзела ў грудзях. У чырвоным святле каміна госці здаваліся падобнымі да лясных духаў.

— У мяне няма золата, сябры. Усё, што меў,— аддаў на пабудову лякарні і на касцёл.

Прыхадні нават не ўсміхнуліся, і Вінцэсь зразумеў — не верацъ… І не паверацъ. Гаворка нагадвала страшныя сны.

…Табе цмок золата носіць. Ты ў магіле прадзеда Чорную Кнігу адкапаў. Цмок вылупляецца з яйка пеўня… Вынасіў яго пад пахай… Ён табе яшчэ прынясе… Дабром просім — аддай золата! А то абыдземся, як з ведзьмаком і чарнакніжнікам належыць!…

Вінцэсь усё больш адчуваў безнадзейнасць. Госці, відавочна, умелі абыходзіцца са зброяй і мала падобныя да тых прыгонных мужыкоў, што маглі разбегчыся ад аднаго бляску шляхецкай шаблі. Прыхадні былі дужымі і ўпэўненымі ў сваёй праваце. І, відаць, хтосьці з іх ужо паспытаў вайсковае справы, бо спрытна паваліў старога пана на падлогу, калі той варухнуўся ў бок сакрэтніка, у якім захоўваўся пісталет, і ўмела выкруціў чараўніку руку.

— Ну што ты сквапнічаеш! Жыццё даражэй!

Госці выварочвалі шуфляды, адчынялі шафы… Але без асаблівага імпэту. Яны ведалі, што скарб схаваны адмыслова,— іначай які ж гэта чарнакніжнік?

— Скажы, дзе схаванае золата! Вось, крыж даю — жывым пакінем.

Вінцэсь ужо перастаў пераконваць і адмаўляцца. Ён проста маўчаў, з тугою гледзячы ў цёмнае акно, за якім не было выратавання гэтак жа, як і зорак.

— Не хочаш дабром — прымусім разгаварыцца! Мы хлопцы вясёлыя, размовы любім. Можаш і паспяваць. На ўсё горла спявай — ніхто не пачуе!

Вінцэсь зразумеў, што належыць рыхтавацца да найгоршага. Вось дзе дагнаў яго лёс! Выйсці цэлым са столькіх сутычак, абысці вязніцу і шыбеніцу… І загінуць гэтак страшна і недарэчна ва ўласным доме, ад рукі сваіх жа людзей…

З упартага пана садралі адзежу, паваліліі на падлогу. Рукі прывязалі да камiннай рашоткі, ногі проста скруцілі, каб не надта брыкаўся…

Вінцэсь ляжаў, раскінуўшы рукі, як быццам адпачываў на цёплай ад летняга сонца траве. З фамільных партрэтаў паглядалі продкі. Іх погляды здаваліся зняволенаму нашчадку не спачувальнымі, а нават трохі грэблівымі… Даў схапіць сябе мужыкам! Продкі… Гордыя Ра-шчынскія… Бацька часта паўтараў выслоўе Вальтэра: хто добра служыць радзіме, не мае патрэбы ў продках. Столькі стагоддзяў іх прыгонныя благалі і курчыліся падчас пакаранняў. Столькі сродкаў прыдумвалі людзі гэтай зямлі, каб здзекавацца адзін з аднаго! Хіба не ад іх, сваіх паноў, пераанялі мужыкі майстэрства катавання, выпрабаваўшы ўсё на ўласнай плебейскай

скуры? І, можа, сёння яму, Вінцэсю, удасца сплаціць грахі свайго роду, увесь боль, які спарадзіў яго род? Але горкая насмешка перакрывіла вусны Рашчынскага: не блюзнер, чалавеча. Не прымай на сябе месіянства. Нікога не выратуюць твае пакуты, нічога не выкупіць твая смерць. Хіба толькі твае ўласныя памылкі. Адзіная просьба да Госпада — каб на ім гэты ланцуг болю перарваўся. Праклятае золата! Праклятае золата!

Гадзіннік у куце захрыпеў, пачуўся першы ўдар… Поўнач. У акенцы гадзінніка паказалася фігура смерці, як тамбурмажор на бале, урачыста падала знак касой… І пусціліся на маленькай пляцовачцы ў вычварны карагод фігуркі — блазан, кароль, дама, мніх, рыцар, жабрак… Тузаліся, трымаючыся за рукі, аднолькава бездапаможныя і смешныя.

Нікому не дадзена адмовіцца ад гэтых скокаў.

Адзінае, што падуладна чалавеку,— не страціць годнасці ад жаху перад імі.

Калісьці, у вёсцы масаяў, Вінцэсю даводзілася назіраць, як юнакоў пасвячаюць у дарослыя. Хлапцы мусяць давесці, што сталі сапраўднымі воямі, і акрым паляўнічых поспехаў выявіць вытрымку да болю. Іспыт адбываецца пры дапамозе… мурашоў. Не такіх, як нашы, а вялізных, са сківіцамі, большымі за цела,— кусаюць да крыві. Юны масай мусіць цярпець укусы і пры гэтым весела размаўляць, ветліва адказваць на пытанні старэйшых… Вінцэся тады зацікавіла — наколькі балючы ўкус? Беламу пану адразу дапамаглі здаволіць цікавасць. Як яму ўдалося захаваць спакойны выраз твару і ўсмешку — сам не ведае, хіба толькі самалюбства дапамагло. Ці мог ён выявіцца слабейшым за паўголых хлапчыскаў з валасамі, абмазанымі чырвонай глінай?

А потым ён распытваў — як яны вучацца цярпець боль? Адзін масай, сівы, як прысыпаны попелам,— толькі такім дазвалялася жаніцца — патлумачыў, што боль трэба ўяўляць як асобны ад цела шарык і вучыцца змяшчаць яго, сціскаць да кропкі… Гэта была цэлая навука, і Вінцэсь трохі пераняў яе.

Прынамсі, не будзе ганебных крыкаў.

Над тварам пранеслася гарачая хваля. Перад вачыма загайдаўся распалены ў каміне да чырвані пожаг.

— Дзе схаванае золата?

— Дзе схаванае золата?

— Дзе схаванае золата?

Знявечанае цела Вінцэся Рашчынскага знайшлі назаўтра, раніцой. З увагі на асаблівую жорсткасць злачынства была прызначана спецыяльная камісія па расследаванні. Паколькі забіты не быў багаты, следчы прыйшоў да высновы — звядзенне старых рахункаў. Трыццаць гадоў таму забіты быў важнай асобай у бунце, відаць, камусьці добра даўся ў знакі. Падобна, што цэлую ноч небараку катавалі. Звычайныя зладзеі такога не ўчыняюць.

Але ж пан як ведаў, што хутка памрэ,— такое надмагілле сабе адбудаваў! І навошта? Лепей бы — добрую памяць па сабе пакінуў! А то нават магілу ў спакоі не пакідаюць невядомыя ворагі. Тэорыю следчага наконт старой помсты пацвярджала, што ўжо на другі дзень пасля пахавання надмагілле пачалі руйнаваць. Разбілі шкілет, які красаваўся наверсе… Горла лебедзю перабілі… І нашто тут столькі звяр'я? Леў, воўк, лебедзь, жабы… Дзівак быў нябожчык! Адно слова — філосаф. У гербе Рашчынскіх — мядзведзь, дык мядзведзя якраз і няма сярод скульптур.

І герб гэты, з мядзведзем, належала разбіць на магіле памерлага. Ён быў апошнім з Рашчынскіх. Шкада, калі знікае старажытны род, нават калі ў ім два апошнія пакаленні — бунтаўшчыкі.

І герб быў разбіты. І не засталося нікога з роду.

А маёмасць сваю нябожчык адпісаў суседзям — здаецца, далёкім сваякам, з маёнтка Весніцы. Тыя, жабракі, павінны радавацца нават такой небагатай спадчыне.

Справа пра акрутнае забойства двараніна Вінцэнта Рашчынскага так і засталася нераскрытай.

**19**

— Я пакахаў цябе яшчэ тады, у Вільні… Сядзеў у сырой цёмнай падваротні, і раптам — ты… Загаварыла на маёй мове, выцягнула на святло... А потым я глядзеў, як ты плачаш, якая ты насамрэч безабаронная і даверлівая. Не злуйся — гэта не самыя горшыя якасці ў жыцці… Да якога ты мяне вярнула.

— Я вярнула цябе да жыцця! — ціха засмяялася Паліна.— Дурненькі! Гэта ты выцягнуў мяне са шкарлупіны, змусіў паверыць, што яшчэ не ўсё ў жыцці скончана і вакол не адны «карыстальнікі». Чакай, не тузайся — у цябе на грудзях яшчэ адна драпіна. Зараз змажу… А тут сіняк… Здаравучы, на скабах. Слухай, а пераламу няма? Ану ўздыхні моцна… Баліць?

Валянцін, без кашулі, увесь перамазаны ёдам, паслухмяна набраў у грудзі паветра, выдыхнуў…

— Нічога, я трывушчы.

Самадзейная медсястра прыдзірліва агледзела свайго падапечнага. Та-ак, ёй дастаўся мужчына са шматлікімі доказамі сваёй мужнасці, якімі, як вядома, з'яўляюцца разнастайныя шнары і сінякі рознай даўніны. У адной казцы афрыканская прынцэса абвесціла, што ў яе будучага мужа не павінна быць на целе ніводнага шнара. І калі нарэшце такі знайшоўся, то аказаўся пярэваратнем-ільвом.

Не, няхай лепей будзе нармальны пабіты беларускі мужчына. Валянцін усміхаўся так шчасліва, што здавалася, нават у сне захавае гэтую ўсмешку.

— Ведаеш, што мне хочацца цяпер зрабіць?

— Давай паспрабую адгадаць…

Валянцін імкліва прыцягнуў дзяўчыну да сябе і прагна пацалаваў…

— Асцярожна, шалёны!

Паліна ледзь паспела навобмацак паставіць на стол бутэлечку з ёдам. Рыпнулі дзверы. У праёме на імгненне паказаўся твар цёткі Ніны, жонкі Валянцінавага дзядзькі. Выраз твару быў няўхвальны.

Дзядзька Міхась таксама пачуваўся трохі ніякавата. Толькі што да пляменніка лашчылася адна дзеўка, нібыта як жонка, а ўвечары ён вяртаецца з іншай у абдымку. Ды яшчэ ўвесь скрываўлены.

Пра фальшывае золата дзядзька выслухаў з увагай (лепей было распавесці самім — бо плёткі ператварылі б падзеі ў немаведама што).

— Значыць, недарэмна людзі языкамі мянцілі,— задумліва прагаварыў Валянцінаў сваяк.— Цяпер супакояцца — а то ўсё ямы капалі. Але мне няўцям — навошта было гэтыя балванкі хаваць? Жарт такі, ці што?

Паліна задумліва размешвала ў кубку з кіпнем малінавае варэнне. На кубку красаваўся ўжо абрыдлы лагатып «2000». І зорачкі ад яго ў бакі разлятаюцца… Нібыта пачнецца новы свет пасля чарговай даты еўрапейскага часу... Ці ўвогуле свет скончыцца.

— Я ўпэўнена, Рашчынскі не ведаў, што хавае фальшывае золата. Не стаў бы ён адсылаць нашчадкам такую складаную задачу, столькі сіл траціць на яе ўвекавечанне. Падобна, што падманулі яго самога. І я нават здагадваюся хто.

Валянцін кіўнуў галавой.

— Напарнік казаў пра ліст багацея Людвісара, быццам золата належала ягонаму бацьку. Няйначай, без Людвісараў не абышлося. Цікава, якая гісторыя хаваецца за ўсім гэтым?

— Напэўна, мы ніколі ўжо не даведаемся,— сумна зазначыла Паліна.— Але гісторыя, адчуваю, трагічная — Рашчынскі быў жорстка забіты адразу пасля таго, як пабудаваў надмагілле.

— Эх, а каб тое золата — ды сапраўднае! — дзядзька Міхась пачаў разважаць пра свае тэрміновыя гаспадарчыя патрэбы: ды купіць бы пару трактароў, грузавічок, ды прыбудаваць бы яшчэ пару цагляных дамкоў — дзецям, а то павырасталі, раз’ехаліся, гаруюць па інтэрнатах…

Цётка Ніна спыніла мужавы мары выразным:

— Каб не плеш, дык і лысы не быў бы. Сціхні, балаболка. Казаць е што, а слухаць няма чаго.

…І зоры павыходзілі вадзіць свае бліскучыя карагоды над Гарнушкамі, нібыта ў вечным ладзе. Але час ад часу адну з іх выштурхоўвалі з кола і яна бегла схаваць сваю ганьбу за краем неба, разгараючыся апошнім зыркім святлом і губляючы яго назаўсёды.

Няўжо і зоры гэткія ж бязлітасныя, як і людзі? Піфагор вучыў, што небасхіл складаецца з празрыстых бліскучых сфераў, якія павольна

рухаюцца, кожная на сваёй ноце, і ўтвараюць прыўкрасную мелодыю — музыку сфер, і кожная зорка, кожная планета дадае ў агульны аркестр сваё. Піфагор валодаў уменнем чуць тую музыку, можа, адзіны з усіх людзей. Хоць для гэтага трэба так няшмат — стацца часткай гармоніі Сусвету.

Паліна стаяла на ганку, пазірала ў зорнае неба, і ёй здавалася, што чуе, як спяваюць зоры і пяшчотна звініць поўня, нібы крышталёвы бакал, які стукнулі краем аб іншы… Толькі туга аб бедным Сымоне, такім высакародным і адважным, перашкаджала адчуванню шчасця. Галоўнае — каб ён выжыў! Папраўдзе, Паліна так і не пачала прымаць усур'ёз ягонае жаніхоўства, і цяпер дадаваліся пакуты сумлення і з гэтае прычыны.

Музыку сфер парушылі прыглушаныя галасы, аднекуль з-за адрыны. Здаецца, голас Валянціна? Паліне чамусьці зрабілася трывожна. Можа, варта асцярожна падысці?

Выявілася — варта. Валянцін стаяў, прыціснуты спіной да сцяны адрыны, нехта трымаў яго за горла… Бліснула лязо… Нож!

Паліна мімаволі ўскрыкнула. Нападнік павярнуў свой твар у промні поўні. Валянцінаў няродны дзядзька, турэмшчык! Твар дзядзькі, зарослы чорнай шчэццю, нагадваў аблічча ваўкалака.

— Дзевачка твая прыйшла? Можа, яна больш кемнай акажацца? Аддавай тое, што сёння выкапалі! А то сябрука твайго зарэжу. Мне губляць няма чаго!

Паліна, запінаючыся, пачала тлумачыць пра фальшывыя зліткі… Дзядзька зарагатаў. Паліне стала яшчэ больш страшна, калі зразумела, што турэмшчык — зусім не п'яны. Яго нянавісць была натуральным станам.

— Золата! Скарб! Чыгун! Вы гэта дзецям раскажыце, якія ў Крыжовай гары капаюцца. Дакументы аддавайце!

— Якія дакументы? — разгубілася Паліна.

Ёй спакойна патлумачыў Валянцін:

— Ён думае, мы ўвесь гэты час шукалі доказаў, што ён сын паліцая, таго самага Лухверчыка, які вёску Саматыі спаліў. Каб хату адсудзіць.

— А што, скажаш, не так? — з нянавісцю выгукнуў дзядзька, прыціснуўшы лязо нажа яшчэ шчыльней да горла скульптара, так што паказалася кроў.— Колькі жыву ў вашых Гарнушках, усе пра гэта плявузгаюць, касавурацца, дражняць. Усе да мяне падбіраюцца, са свету зжыць хочуць. Прыязджаюць, шукаюць нешта. Мінулае вам спаць не дае! Мая хата! Спалю — не аддам. Нясі паперы, сука!

Валянцін выціснуў усмешку.

— Не бойся, Паліна,— і звярнуўся да турэмшчыка:— Дзядзька Панас, ну чаго ты перажываеш? Якое значэнне сёння мае, чый ты сын? Хто ў цябе хату адбярэ, калі ў спадчыну засталася?

Дзядзьку калаціла, як у ліхаманцы.

— А як мне тут далей, калі пра майго бацьку даведаюцца? Хто мне будзе пазычаць, сыну ката? Мяне маці яшчэ малога навучыла: нікому не вер, а

хто будзе капацца ў тваім паходжанні — раты затыкай. Колькі я лычоў паразбіваў усялякім цікаўнікам! Баяцца, змоўклі.

— Дзядзьку ў белым капелюшы, які клуб абмяраў, таксама вы?.. — жахнулася Паліна.

— А ты дакажы, любачка, што я! Той гад мне ўвогуле ў вочы заявіў: тут павінна хавацца таямніца, трэба разблытаць тайну радаводу, ёсць невядомыя нашчадкі…

— Ды ён зусім не пра вас гаварыў! — адчайна запярэчыла Паліна.— Гэта ён пра Вінцэся Рашчынскага, які жыў у дзевятнаццатым стагоддзі!

Дзядзька Панас здзекліва засмяяўся і раўнуў на пляменніка:

— Скажы дзеўцы, каб прынесла, што знайшлі! Ды не мані! Мяне не падманеш. Я няпраўду чую, як сабака — кілбасы.

Паліна не ведала, што рабіць. Зоры свяцілі так святочна, пяшчотна найграваў на маленькай срэбнай скрыпачцы цвыркун, недзе ў хаце стукаў посуд і дачытваліся па тэлевізары апошнія навіны… А тут час не існаваў. Лязо ля горла скульптара было самым страшным, што Паліна бачыла ў жыцці. Хоць зусім нядаўна яна глядзела на скрываўленае цела Сымона…

Валянцін быў спакойны.

— Што ж, як хочаш, дзядзька Панас.

І схапіў таго за рукі. Паліна, як у сне, назірала, як рука, што трымала нож, адводзіцца ўбок. Турэмшчык тузаўся, лаяўся, брыкаўся… Нарэшце завыў ад болю ў запясцях. А Валянцін прыгаворваў:

— Ціха, ціха… Не рвіся. Я ж — скульптар. Кожны дзень камяні ўтаймоўваю.

Нож выпаў з саслабелай рукі нападніка…

І тут Паліна закрычала! Цывілізацыя не здольная знішчыць дарэшты нашыя інстынкты, і ў кожнай жанчыны дасюль ёсць патаемная зброя: ведзьмін крык. Ад якога коні з перапуду шалеюць. Толькі не кожная сучасная кабета можа скінуць ланцугі выхаванасці і загарлаць, як гарлала яе прапрабабка падчас наезду татараў або казакаў.

Паліне, аказваецца, гэта ўдалося.

Пасля некаторай паўзы ў хаце ляснулі дзверы, нехта бег на запозненую дапамогу…

А потым была раніца, светлая, як акно, працертае паводле парады «Літоўскай гаспадыні» суконкай з дробным мелам. І дарога ў Весніцы — у яе сухім пыле так прыемна патаналі ногі, і не варта было шкадаваць, што пыл асядае на адзежу, нібыта пазначаючы еднасць падарожных з іх дарогай.

Весніцы… Зусім маленькая вёсачка, хат дзесяць — і тое палова закінутыя, счарнелыя… Нават некалькі дамкоў яшчэ крытыя дранкай. Бабуля ў стракатай хустцы і выцертай плюшавай жакетцы (гэта ў такую гарачыню!) углядалася ў прыхадняў з-пад вузлаватай далані, нібыта яны

стаялі не перад ёй, а недзе вельмі-вельмі далёка, на другім краі ейнага жыцця.

— Рагманавы? Жыла сям'я. Вунь іхны дом, на тым канцы. Не, цяпер ніхто не жыве. З'ехалі яшчэ за Брэжневым. Куды? А хто іх ведае, дзеткі, куды… Ды вы ў чалавека спытайце. Ён на выхадныя прыязджае, лецішча сабе ладзіць. Наташкі Рагманавай, фельчарыцы, сынок. Добры такі дзядзька, машыну мае. Зноў стукае, чуеце? Хлеба мне прывозіць, смачны такі, з семкамі.

Паліна і Валянцін пайшлі на стук.

Сапраўды, апошні дом, таксама з пачарнелага бярвення, мяняўся — дах упрыгожыўся новым шыферам, гарышча перабудоўвалася пад мансарду. Немалады мужчына ў джынсавай кашулі з падкасанымі рукавамі, на галаве — завязаная па-пірацку чырвоная хустка, з-пад якой відаць чорныя, з сівізной скроні, нешта майстраваў на двары. Вароты былі адчыненыя, і Паліна насмелілася папытацца:

— Прабачце, калі ласка, магу я даведацца пра Генадзя Рагманава?

Голас яе здрадліва дрыжэў, і Валянцін узяў дзяўчыну за руку, каб падбадзёрыць. Але тут жа выпусціў — госці нават інстынктыўна пасунуліся назад. Да іх падыходзіў з ветлівай усмешкай на суровым твары Вінцэсь Рашчынскі.

Праўда, вочы ў яго былі цёмныя, а не сінія, і пірацкая хустка і джынсавая кашуля відавочна належалі нашаму часу. Але — тое самае аблічча, якое вылепіў Валянцін, якое было на партрэце, намаляваным парыжскім мастаком напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя!

— Я — Генадзь Рагманаў, добры дзень. Чым магу?..

Зямля вояў і майстроў, герояў і здраднікаў, паэтаў і блазнаў — а паспрабуй адрозніць, дзе хто — плыла, нібы зялёная ладдзя, упрыгожаная сінімі дыяментамі азёраў і стужкамі рэк, туды, куды кіраваў Найвышэйшы Стырнавы. Людзі разгойдвалі свой карабель, спрачаючыся за гонар пастаяць ля стырна, саштурхоўвалі адно аднаго ў сусветныя хвалі і бясконца вырашалі, куды плыць, уяўляючы сябе гаспадарамі. «Вунь магутная каравела з фарбаванымі ветразямі! Ці не варта прыстроіцца за ёю?» — «Ды мы ўвогуле тонем — аддавайце мне мой човен!» — «Ат, плывем паціху — чаго яшчэ? Пакіруюць, куды належыць, і без нас…»

Беларусь плыла праз хвалі часу, і размываліся курганы, і разбураліся замкі, быццам пірамідкі, збудаваныя дзецьмі з пяску. Што заставалася пэўным у гэтым плыткім свеце?..

Маладая жанчына з вялікімі цёмнымі вачыма і процьмай гістарычных дат у галаве, упрыгожанай каронай з цёмных косаў, не ведала дакладнага адказу. Але верыла, што ён ёсць.

Дарэмна спадзявацца і на тое, што навечна застанецца на гранітным пастаменце перад Домам культуры вёскі Гарнушкі Наўеўскага раёна скульптура паўстанцкага філосафа Вінцэся Рашчынскага.

Але, можа, прастаіць яна больш-менш доўга — і мясцовыя дзеці змогуць даваць уцямны адказ на пытанне прыезджых: «А каму гэты помнік?»

— Нешта не хочацца мне ісці на іхнюю прэзентацыю ў сталоўку,— скептычна прагаварыў Сымон, «зацыраваны» дастаткова добра, каб змог вытрымаць шлях у Гарнушкі, нават па дарозе, размытай вясновымі ручаінамі.— Пачнуць мясцовыя кіраўнікі на трасянцы прамовы прамаўляць, тады алаверды па крузе — зноў хваласпевы пад гарэлку. Пад канец большая палова ўжо не будзе памятаць, з якой нагоды застолле. Задуха, штурханіна…

— А давайце адзначым па-свойму! Пайшлі на Крыжовую гару,— весела прапанавала Паліна, захутаная ў белы плашчык.— Надвор’е якое! Там, відаць, пралескі цвітуць.

— Пакрыўдзяцца землякі…— засумняваўся Валянцін.

— Няхай крыўдзяцца! Ты ж стол з сабой не забіраеш. А забыўся, якіх намаганняў каштавала атрымаць дазвол на адкрыццё помніка? Колькі давялося пахадзіць, колькі паважаных людзей падключыць? Пазнаю цябе, радзіма. Дасюль баяцца слова «паўстанец». Нават калі таго паўстанца сто гадоў як сярод жывых няма!

З вяршыні Крыжовай гары Гарнушкі выглядалі маленькімі, мірнымі, здавалася, што ў гэтых хацінках не можа здарацца вялікіх трагедый і нараджацца вялікіх людзей.

Але гэта быў усяго толькі кавалак сусвету, такі самы, як і іншыя, з тымі самымі суадносінамі дабра і зла.

— Слухай… Валянцін… Аднаго… не магу зразумець…— Сымон яшчэ не зусім вярнуўся да ранейшай суперменскай формы — пакуль узышоў на гару, дык задыхаўся.— Ты сустрэўся з чалавекам, які зламаў табе жыццё, і нават не з’ездзіў яму па пысе! І на дзядзьку свайго, што ледзь цябе не зарэзаў, не заявіў. Ты што, такі ўсёдаравальны?

Валянцін не збіраўся апраўдвацца.

— Я заўсёды лічыў, што душэўныя пакуты — горш за цялесныя. Ну выцяў бы я напарніка — шмат ён ад гэтага пацярпеў бы? А ён жа ўсё жыццё пакутуе ад таго, што не даў Бог таленту, ад зайздрасці канае. А дзядзька Панас усё жыццё ў страху жыве. Ды ў іх жа пекла на зямлі! Іх шкадаваць трэба.

Маленькая аблачынка над гарой ляцела, быццам пяро, згубленае легендарнай птушкай Сімург, якую шукаюць усе птушкі на свеце, каб зразумець, што яе няма.

— А чаму Марыя Апанасаўна не прыехала? — пацікавіўся Сымон.

Паліна паківала галавой.

— Маці так і не даравала мне, што я адшукала бацьку.

— Так, крутая ў цябе цешча, Валянцін,— пасміхнуўся Сымон.— Я б з ёй лепей упраўляўся.

Валянцін збянтэжана кашлянуў.

— І спадар Генадзь кудысьці знік…— працягваў штурман.

Паліна ціха засмяялася.

— Ды людзі пачалі заўважаць падабенства яго з помнікам. Пальцамі паказваць. Ён і не вытрымаў. Да таго ж заўтра ў ягонай студыі спектакль, паехаў на прагон у Вільню.

— Дык вы дакапаліся, адкуль такое падабенства? — зноў пацікавіўся Сымон.

— Не,— уздыхнула Паліна.— Ніякіх слядоў. Зразумела толькі, што выпадковым такое супадзенне аблічча быць не можа. Хоць на магіле Рашчынскага разбілі герб — значыць, прызналі, што апошні ў родзе. Братоў і сясцёр ён не меў. Хіба што ёсць зачэпка — невядомы бацька аднаго з Рагманавых. Па ўзросце бязбацькавіч мог быць сынам Вінцэся Рашчынскага — але нарадзіўся, калі той жыў у Парыжы. Так што — цемра часу. Ды каго з нас ні ўзяць — колькі ў нас крыві намяшана! Колькі людзей, пра якіх мы ніколі не чулі, перадалі асабіста нам свае вартасці і заганы, цяжар сваіх грахоў і веліч добрых учынкаў. Нават у Бібліі шмат разоў паўтараецца пра адказнасць да сёмага калена.

— Гэта ты пра карму? — удакладніў Сымон.

— Ды кінь свае ўсходнія вышукі! — пакрывілася Паліна.— У нас хапае свайго — і філасофіі, і містыкі. Ведаю адно — Гасподзь заўсёды дае магчымасць выбару. Ёсць прадвызначанасць — і ёсць наша воля. Усё ўраўнаважана ў гэтым не найлепшым, але падораным нам свеце. Нават самы страшны праклён можа страціць моц ад аднаго подыху дабра. Тое, што ўчынялі продкі, адбіваецца на нас, але й тое, што мы ўчыняем,— ведаюць продкі.

— Гэта ў кітайцаў… — пачаў быў Сымон, але Паліна і Валянцін перашкодзілі распачацца чарговай лекцыі па ўсходняй філасофіі.

Любі сваё, спадар!

Вецер ударыў у твары, і быў ён вільготны, як зрэзаныя на золку кветкі. Ды яшчэ з сасны пасыпаліся дробныя кроплі-слёзы, і ўсмешка сусвету стала трохі сумнай. Сымон разліў у падрыхтаваныя чарачкі-напарсткі нейкі цёмны настой.

— Гэта можна… На тыбецкіх травах… Жартую, жартую — настоена на нашым, беларускім, дзівасіле. Ну, за Вінцэся Рашчынскага!

Маладая трава зашумела, нібыта па ёй прайшоў нехта нябачны, стаў побач.

— За вечную памяць! За Беларусь!

— За Беларусь!

I нас забудуць непапраўна рана.

Як мы забылі — так забудуць нас.
Наш след зямны загасіцца, як рана,
Як гасне слуцкі залаты паяс.
Не затрымацца ні радком, ні вершам.
Парсуна страціць колер і імя.
Хто быў апошнім — той не стане першым,
І першага таксама з’есць зямля.
І я таму над пыльнай кнігай слепну,
Каменне падымаю на кладах
І разбіраю тонкі почырк неба
Па лісцем зацярушаных слядах.
Я памяці служу, як служаць храму.
Між мною і мінуўшчынай — не шкло,
А лёгкі дождж і агароджа Брамы —
Архангела празрыстае крыло.
І, можа, я — таксама толькі кніга
З лістамі, недаступнымі дажджу.
Няхай маё імя забудуць звыкла —
Я буду жыць у тым, што запішу!

*2003*

**ЗМЕСТ**